Леанід Дайнека

# Людзі і маланкі

*Раман*

Мінск
“Мастацкая літаратура”
1973

Дайнека Л.

Людзі і маланкі: Раман. Мн.: Маст. літ., 1978.— 368 с. з іл.

Дзеянне рамана разгортваецца ў рэвалюцыйныя дні 1917-1918 гадоў на Беларусі. У цэнтры рамана — лёс родных братоў, Кузьмы і Антона Радзімовічаў, якія ідуць нялёгкай дарогай да ўсведамлення таго, што шчасце працоўнага чалавека — гэта шчасце ўсяго народа.

*Памяці маці маёй,*
*Тэклі Іванаўны*

I

Старога Ігната Радзімовіча клалі ў печ. Нявестка Аўдоля падтрымлівала свёкравы ногі, сын Прахор, узяўшы бацьку пад пахі, штурхаў яго ў худыя вузкія плечы.

— Не падкурчвайце ногі, тата,— казала Аўдоля, чырвоная ад гарачыні, што веяла з печы.— Я там саломкі аўсянай пацерусіла, халоднай вадой яе папырскала. Палежыце там, папарыцеся, косці вашы размякнуць... Можа, дасць бог, і хвароба выйдзе.

Ігнат нічога не адказваў ёй, маўчаў, здавалася, усміхаўся сам сабе. Быў ён зусім голы: тырчаць рэбры, зморшчаная васковая скура, як шэранем, абсыпана рэдкімі сівымі валасамі. Ён маўчаў, толькі сухой рукою ўсё стараўся схаваць ад вачэй нявесткі свой мужчынскі гонар.

А яна пазірала на старэчае цэла спакойна, будзённа.

Нарэшце старога ўвапхнулі ў печ. Толькі ягоная галава з вялікай лысінай тырчала адтуль, ды вочы блішчалі сіне-сіне, як васількі пасля дажджу. Прахор, такі ж лысы, як бацька, стаяў, адсопваючыся, каля печы. Аўдоля мачала бярозавы венік у вядро з вадою і пырскала ваду ў печ, каб свёкру лягчэй было цярпець гарачыню.

І яшчэ чацвёрты чалавек быў у хаце. Прахораў сын, васемнаццацігадовы Антон, завёў каня на луг і цяпер стаяў ля парога з аброццю ў руцэ. Быў ён высокі, худы, вузкі ў касці. Сінія вочы глядзелі трошкі разгублена. Ягоныя валасы кучаравіліся; ззаду былі цёмныя, спераду — колеру бурага восеньскага лісця. Абуты ён быў у стаптаныя лазовыя лапці, якія замачыў у лузе.

— Выцеры ногі! — крыкнула яму маці.

Антон, быццам не пачуў яе, стаяў, глядзеў у печ, з якой віднелася дзедава лысіна, пакрытая буйнымі кроплямі поту. Усе маўчалі. І ўсе думалі — кожны сваё. «Хутчэй бы ўжо...— думаў Прахор,— гаспадарка зусім развалілася. Збіраўся да Баўтрука наняцца лес пілаваць, ды дзе там... Хлеба толькі да калядаў хопіць, а там хоць салому са страхі еш...»

Аўдоля ж разважала так: «Хату трэба перасыпаць, згніла... Дзіну замуж аддаваць — сохне дзеўка. На адну падушку наскубла пер'я, і ўсё... Ці ж гэта можна, каб дзеўка з пустымі рукамі ў чужую хату ішла? А грошай ні капейкі няма. Няўжо ён,— яна глядзела на свёкра, што абліваўся потам,— не схаваў дзе-небудзь хоць які рубель?..»

І толькі Антон думаў зусім пра іншае. Яго маладая душа яшчэ не скамянела ад гэтага бруднага, галоднага, няўтульнага жыцця. Ён мог яшчэ плакаць і смяяцца, не хаваючыся ні ад сябе, ні ад людзей, шчы-

ра і непасрэдна, як робяць гэта ў юнацтве. Ён сціскаў рукой мокрую аброць, з якой капала вада, і думаў: «Учора дождж ліў, а сёння мокры снег ідзе... Як памрэ дзед, закапаем яго ў магілу, а ў ёй халоднай вады да краёў...» Ад такой думкі яго самога аж да касцей праціналў холад, хоць у хаце было горача.

— Памажыце мне вылезці,— папрасіўся раптам стары. Голас яго дрыжаў.

— Можа, бацька, яшчэ трохі паляжыш?.. Пацярпі...— Прахор падышоў да самай печы, схіліўшы галаву, глянуў у яе.

— Ой, нявестачка, золатка, дастань мяне адсюль... Дыхаць няма чым...— Заенчыў стары на ўсю хату.

— Вы, тата, як малое дзіця,— нахмурыўшы светлыя бровы, нездаволена сказала Аўдоля.— Людзі хварэюць, і хоць бы што... А вы крычыце немаведама чаго...

Яны выцягнулі Ігната з печы, ужо і Антон памагаў, паклалі яго на драўляны, паточаны шашалем ложак. Аўдоля закідала старога розным зрэб'ем, толькі віднеўся яго чырвоны, зморшчаны худы твар.

— То я пайду лучыны накалю, бо скора цёмна будзе.— Прахор борздзенька ўзляпіў на галаву кучомку і выслізнуў з хаты.

— Каб ты спарахнела такое жыццё.— Аўдоля аж плюнула ад злосці і крыўды. Сказала ў чорныя, закопчаныя дзверы, якімі толькі што ляпнуў Прахор: — Пабег гіцаль, а тут хоць вяроўку на шыю накідвай.— Цяжка ўздыхнуўшы, яна ўзяла кошык і палезла ў пограб — дастаць бульбы на вячэру.

— Антонка, падай мне вады,— сказаў Ігнат. Ён сіпла, з ціхім прысвістам, дыхаў: быццам ледзьве гарэла, датлявала сырая лучына. Потым піў з конаўкі цёплую нясмачную ваду, і чутно было, як дробненька ляскаюць ягоныя зубы.

— Памру я, Антонка,— сказаў, выпіўшы ваду, стары, і сівая лысая галава затрэслася, вочы заплюшчыліся. Потым ён знерухомеў, быццам прыслухоўваўся да нечага далёкага, выпрастаў рукі паверх дзіравай зашмальцаванай коўдры.

І Антону на хвіліну здалося, што дзед ужо сапраўды памёр, так запалі шчокі ў старога, вытыркнуўся, як курынае яйка, кадык. Толькі над ілбом яшчэ вілася лёгкая пара.

— Не заплюшчвай, дзед, вочы,— папрасіў Антон, бо яму зрабілася страшна.

Стары паслухмяна расплюшчыў вочы, вінавата ўсміхнуўшыся, сказаў пра сваю хваробу:

— Пячэ, праклятая, унутры... Як агнём...— Потым спытаўся: — Можа, Кузьма прыехаў?

Кузьму, старэйшага Антонавага брата, яшчэ ў пліпаўку забралі ў абознікі, і ён разам з вайсковай камандай паехаў на руска-германскі фронт, некуды пад Баранавічы. З таго дня нічога не чуваць было ні пра Кузьму, ні пра Сіўца, беленькага зграбненькага канька, якога рэквізавалі ў Радзімовічаў і на якім паехаў Кузьма.

— Не прыехаў Кузьма,— сказаў Антон.— Начальства, відаць, не пускае.

— І не прыедзе,— раптам ціха выдыхнуў стары, быццам зрабіўся прарокам і ўбачыў тое, што ў цемрадзі дзён яшчэ не відно звычайным людзям.— Х я памру без яго...

Ён хліпнуў носам, як дзіця, нібы хацеў заплакаць.

— Супакойцеся, дзед,— папрасіў Антон,— дацярпіце толькі да лета, а я там вас чарніцамі, грыбамі і арэхамі адкармлю.

— Эх ты, Антоне,— дакрануўся да яго локця Ігнат сваёй лёгкаю рукою,— малады ты яшчэ. Такім, як ты, толькі і жыць. А я хіба жыў? Хіба быў сабе хадзяінам? Камароў на балоце пасвіў. Звіваўся на сваёй палосцы, як той чарвяк. Як чарвяк, і паміраю. І нават дошак на труну няма...

Ён не даў Антону ні слоўца ўставіць, перадыхнуўшы, зноў загаварыў:

— А жыццё будзе добрае... Птушкі зялезныя ў небе будуць лётаць... Ягады розныя зімою будуць спець. Хочаш сунічку — бяры з-пад снегу, еш, чалавеча. Хочаш брусніцу — і яе рві...

Антон слухаў яго, маўчаў і думаў сам сабе:

«Ёсць ужо такія птушкі. У германцаў. Ераплан называецца. Казалі, пазаўчора ляцеў адзін над Запольцамі. Дык вывалілася з яго нейкая круглая чорная штука. Як ірванула! На лузе карову забіла...»

А ўголас сказаў дзеду:

— Настаўнік прыязджаў учора з Бабруйска. Гаварыў, што скора вайне канец. Бальшавікі зямлю сялянам дадуць.

— Не вер нікому, Антонка.— Стары крутнуўся, і ложак пад ім зарыпеў.— Ён хоць і вучоны, настаўнік той, а ў нашай жызні нічога не петрыць... Хто калі мужыку што даваў? Толькі кухталёў мужыку давалі ды лазы па казённым месцы...— Стары закашляўся: — Усё гэты Мікалай вінаваты. Узяў сабе бабу германку і генералаў германцаў, і загубілі яны Расею. І Мікалая самога спіхнулі... Трэба было яму за мужыка стаяць, клапаціцца... Мужык ніколі не падвядзе...

Ён зноў закашляўся і змоўк. Відаць, сам не вельмі зерыў сваім словам. У хаце ўсталявалася цішыня. Вечаровы змрок ліўся ў маленькія падслепаватыя вокны.

Увайшоў Прахор з пукам хваёвай лучыны ў руцэ. Насцярожана глянуў на жонку, што завіхалася ля печы. Аўдоля быццам і не заўважала яго. Тады ён запаліў свяцец. Гэта была звычайная палка з расшчэпленым канцом, устаўленая ў калоду. З лучыны, што гарэла сінявым полымем, зрываліся буйныя іскры і падалі ў гліняны гаршчок з вадою. Газы не было, і Радзімовічы, як і ўсе ў Чмялях, доўгімі асеннімі вечарамі палілі лучыну.

Прахор патупаў па хаце, спытаўся ў Антонам

— Ты каня спутаў?

Спытаўся дзеля прыліку, бо ведаў — сыну не трэба напамінаць пра гэта. З самых ранніх гадоў хлопец у рабоце: арэ і сее, малоціць, баранує, косіць, топча стагі, сячэ дровы... Ды хіба злічыш усе цяжкія абавязкі, якія з самага нараджэння ўзвальвае жыццё на плечы тых, каго бог пусціў у свет з-пад саламянай страхі? І нікога не папросіш памагчы ці паспачуваць. Сыты галоднаму не таварыш — кажуць у чорных хатах.

І яшчэ кажуць: не прасі ў багатых. Іх вушы завешаны золатам — і яны не пачуюць цябе.

Прахор, не дачакаўшыся адказу, трохі пасноўдаўся па хаце і зноў вышмыгнуў на двор. Да бацькі ж так і не падышоў.

Антон сядзеў на краі ложка, прыслухоўваўся да сіплага дзедавага дыхання. Балелі рукі і спіна. Учора цэлы дзень капаў яму на пограб, а зямля ўжо халодная, цвёрдая. Ён не баяўся працы. У ягоных Чмялях усе працавалі на зямлі. Хіба толькі што калекі не працавалі: Сямён, аднаногі і аднарукі артылерыст, знявечаны пад Порт-Артурам, сляпы Васіль, якому выпаліла вочы, калі гарэла манаполька. Але гэта божыя людзі, як кажа бацюшка Буракоўскі. Бог ахоўвае іх сваімі клопатамі, дае хлеб надзённы.

— Чаго ты сядзіш, Антон? — сказала Аўдоля.— Хіба няма работы? Нанасі каровам вады ў цэбар.

Ён выйшаў на двор. Ужо зусім змерклася. Дзьмуў моцны вецер. З чорнага неба косымі струменямі ляцеў снег. Быццам нехта даіў вялізную карову, цыркаў малако ў даёнку.

Падышоў бацька. Твар мокры, заклапочаны. Спытаўся, чамусьці азіраючыся па баках:

— Табе дзед нічога не казаў?

— Не. А што? — Антон выцягваў з калодзежа драўлянае вядро з вадою. Вада боўталася ў вядры і аблівала яму калені.

— Нічога. Памрэ наш дзед скора.— Бацька, уцягнуўшы галаву ў плечы, пайшоў пад паветку, загрукаў там сякерай. Сказаў жа ён

гэтыя словы роўным будзённым голасам, быццам паведаміў, што хутка павінна ацяліцца карова.

Антон напаіў карову і цялушку, трохі пастаяў на двары, прыслухоўваючыся. Пачалі мерзнуць мокрыя калені. Тады ён пайшоў на луг, каб прывесці каня. Шчыльная цемра абступіла яго з усіх бакоў. Наўкол не было ні агеньчыка; на небе — ні зорачкі. Халодны вецер гуў над восеньскай зямлёй, навяваў у душу трывогу.

Нешта незразумелае тварылася на свеце. Гінулі на фронце людзі. Зімою ў Петраградзе скінулі цара. А ён жа для ўсіх чмялёўцаў, у тым ліку і для Антона, быў як бог — сядзеў сабе ў залатых палацах, піў і еў на золаце, грозныя генералы служылі яму. І вось — на табе! Далі цару, як кажа каваль Бацюта, каленам пад мяккае месца.

Ніколі б не паверыў гэтаму, каб не прыязджаў з чырвоным бантам на грудзях Аркадзь Гайкевіч, аканомаў сын, што вучыўся аж у самым Петраградзе.

Антон лёгка пераскочыў ручай, у якім глуха булькатала вада. Ногі праваліліся ў нешта слізкае, мяккае, і адразу назе ў правым лапці стала холадна. Ён ціха вылаяўся, хутчэй выбраўся на сухое месца і за некалькі крокаў ад сябе ўбачыў вялікую белую пляму.

— Чумак,— ціха паклікаў Антон.— Кось-кось! — Конь, цяжкі, спутаны, адразу прыскакаў да гаспадара, цёплай вільготнай пысай ткнуўся ў плячо і ў шчаку. Ён пах снегам, лугавым ветрам. Распутваючы каня, Антон усё гаварыў: — Чумак... Чумак...— гладзіў каня па шыі і радаваўся, што сярод гэтай цемры і халадэчы стрэлася яму родная душа, што любіць і разумее яго.

Дадому ён павёў каня на повадзе.

Калі ён увайшоў у хату, там ужо была сястра Дзіна. Паказваючы маці паламаную прасніцу, яна хліпала носам:

— Васіль Гаранок паламаў. Зачапіўся нагою, як мядзведзь...

— А ты куды глядзела? На хлопцаў, у каго карак круглейшы? — Прахор, што сядзеў за сталом і крышыў тытунь, вылаяўся. Але Аўдоля заступілася за дачку і накінулася на мужа, якога лічыла няўмекам і абібокам.

— Нічога... Новую зробіш. Ці ты толькі лучыну ўмееш шчапаць?

Прахор сярдзіта глянуў на яе і засоп носам. А Дзіна, ужо вясёлая, расказвала, колькі яны напралі, хто быў у Перуноўскіх, пра што гаварылі.

Антон любіў сястру. Была яна высокая, русявая, з чорнымі, быццам намаляванымі, бровамі. Праўда, нос і шчокі ў яе былі густа засыпаны вяснушкамі, і хлопцы, ды і дзяўчаты, пасварыўшыся, калі-нікалі звалі яе «рабою». Але яна не дужа крыўдзілася, весела смяялася, бегала

на вечарынкі, танцавала там, спявала, і не адзін чмялёўскі кавалер уздыхаў па ёй. Імя ёй даў не поп, а прыдумаў дзед Ігнат. Не прыдумаў, праўда, а вычытаў у кніжцы графа Талстога. У той кніжцы татарская дзяўчына Дзіна памагала палонным рускім афіцэрам Жыліну і Кастыліну, калі яны сядзелі ў яме з калодкамі на нагах. Кніжка дзеду дужа спадабалася — вось чаму, калі нарадзілася ўнучка, ён дамогся, каб яе назвалі Дзінаю.

Дзіна ўсё шчабятала, шчабятала з маці, потым павярнулася раптам да Антона і сказала, гледзячы яму ў вочы:

— А пра цябе Яніна Міхейчыкава пыталася...

— Навошта я ёй? — не міргнуўшы вокам, спытаўся Антон, а сам адчуў, як на сэрцы зрабілася горача і млосна.

З Янінай яны неяк ездзілі ў павет, у Ігумен — праводзілі ў войска Кузьму і Янінінага брата Рыгора. З тых часоў і запалі Антону ў душу ціхі голас і смяшлівыя чорныя вочы. І вось яна ім таксама цікавіцца. Ад гэтага зрабілася радасна і трывожна.

— Ды Яніна казала, што нейкі дужа цікавы хлопец ваш Антон. Усю дарогу да Ігумна маўчаў, а калі і гаварыў, дык нешта заікаўся...— Дзіна хітра паглядвала на брата.

Антон пачырванеў, але адразу ж справіўся з сабою, строга сказаў:

— Пайшла ты са сваёй Янінай... Ты лепш скажы свайму Гаранку, хай табе прасніцу новую зробіць.

— Ён мне свой, як чорт папу,— адрэзала Дзіна. Абое яны надзьмуліся — вось-вось усчанецца сварка, але маці памірыла іх:

— Сядайце ўжо за стол. Нечага адно аднаму вантробы шкуматаць...

Памаліліся на абразы і селі вячэраць. Дзіна хацела
занесці чаго-небудзь гарачага дзеду Ігнату, але ён не азваўся — ці спаў, ці, можа, прыкінуўся, што не чуе. Прахор першы ўзяў драўляную патрэсканую лыжку, строга глянуў на ўсіх і пачаў сёрбаць ячменную крупеню, у якой дзе-нідзе трапляліся сушаныя грыбы. Дымілася лучына. Кроплі агню падалі з яе ў гаршчок з вадою. Тады чулася шыпенне, нібы ў цемры поўзалі пад нагамі ў людзей гадзюкі. Цені варушыліся на стале, чорнай ад сажы, на абразах. Багі глядзелі з абразоў загадкава і таемна. А за абразамі, за спінамі багоў, ведаў Антон, жылі павукі.

Пасля вячэры Прахор пакурыў і палез на печ. Ляжаў там і кашляў. Аўдоля распусціла валасы, ужо срэбныя на скронях, папрасіла дачку:

— Дзінка, пашукай у мяне ў галаве...

Антон жа не ведаў, што і рабіць. На вуліцу ісці не выпадала — цемра, макрэча. Паспрабаваў быў плесці бізун з новай сырыцы, якую

выменяў у Росці Перуноўскага, але вельмі хутка абрыдла. Падышоў да акна, дакрануўся лбом да цёмнага халоднага шкла. Так і застыў у нейкім здранцвенні. Сумна было ў яго на душы, сумна і няўтульна, як у начным восеньскім полі.

І ніхто не ведаў, што на старым паточаным шашалем ложку дажывае апошнюю сваю ноч стары Ігнат. Ляжаў ён, адзінокі, ужо непатрэбны нікому, як ляжыць на ўзмежку поля выараны з зямлі камень.

Стары памёр неўзабаве пасля трэціх пеўняў. Аўдоля пачула, як ён ускрыкнуў, нібы праз сон. Яна злезла з печы і асцярожна, на пальчыках, падышла да яго. Ён глядзеў некуды ў столь ашклянелымі вачыма. Рука, якую кранула Аўдоля, была ўжо спруцянелая, цяжкая. Халодны страх працяў жанчыну. Яна кінулася да печы, на якой хроп Прахор, тузанула яго за нагу:

— Уставай хутчэй! Бацька памёр...

Той са сну нічога не зразумеў, сядзеў, лыпаў маленькімі вачыма.

— А божачка ж мой,— заплакала Аўдоля,— што гэта на чалавека найшло? Бацька памёр... Чуеш?

Прахор нарэшце ачомаўся, увесь уздрыгнуў, як быў у споднім — у зрэбнай кашулі і нагавіцах,— скокнуў з печы на халодную падлогу. Падышоў да бацькі, пагладзіў ягоны лоб і бязгучна заплакаў, затросся. І ўспомнілася яму далёкае-далёкае... Поле, аж залатое ад жытнёвых калоссяў і сонечных промняў. Ён, Прахор, сямігадовы, з бялявымі, як кужаль, валасамі, сядзіць на возе снапоў. Воз высокі, здаецца, пад самае неба. Саломінкі казычуць босыя ногі. «Лаві, Прахорка!» — весела крычыць бацька і шпурляе яму знізу сноп.

Усё гэта ўспомнілася Прахору на якое імгненне, і захацелася яму заскуголіць, завыць не па-чалавечы, па-воўчы, каб увесь свет пачуў пра яго вялікае гора. Але ён выцер вочы далонню, ціха сказаў жонцы:

— Будзі дзяцей...

Дзіна адразу загаласіла. Антон першы раз чуў, як галосіць сястра. Было нязвыкла і страшна. Ён сядзеў ля дзеда, глядзеў на яго жоўты зморшчаны твар. «Няма ў мяне болей дзеда,— цьмяна і спустошана думалася яму.— Дужа харошы быў дзед, і няма яго...»

І здаецца, зноў гучаў у Антонавых вушах верш, які дзед чытаў калісьці ім, Кузьме, Дзіне і Антону, са старой кніжкі:

Ладно, ладно, детки,
Дайте только срок:
Будет вам и белка,
Будет и свисток...

Аўдоля запаліла свечку, уставіла яе ў мёртвыя пальцы старога.

У паўзмроку хаты агеньчык на свечцы затрапятаў, як залаты матылёк.

— Трэба па бацюшку схадзіць,— сказаў Прахор.

Голас у яго быў ужо роўны, спакойны.

— Я пайду,— усхліпваючы, накінула на плечы кажушок Дзіна.

— Парсюка трэба закалоць,— уздыхнула Аўдоля, і Антон зразумеў, што яна ўздыхае і па дзеду, і па парсюку.

Пад саламяныя стрэхі смерць прыходзіць, як збавенне ад вечнай пакуты, але ж смерць — гэта яшчэ і выдаткі: на труну, на хаўтуры, на папа. Бо як яно ні ішло, як ні жылося, а чалавека трэба хаваць па-чалавечы.

— Антон! — паклікаў бацька.— Пойдзем у хлеў...

На двары ён зноў спытаўся:

— Дык табе дзед нічога не казаў?

— Нічога,— пацісну́ў плячыма Антон.— Шкадаваў, што Кузьму не пабачыў...

— А пра грошы ён табе не казаў? Ён жа грошы хаваў. Я ведаю...— Прахор глядзеў проста ў вочы сыну, і яго калматае брыво ўздрыгвала.

«Вось яно што,— падумалася Антону,— вось чаго ён увесь час у мяне распытвае, што казаў дзед». І яму зрабілася крыўдна: памёр чалавек, яшчэ не паспелі астыць у яго ногі, а ўжо толькі пра грошы гаворка наўме. Грошы ім даражэй за чалавека...

Ён нічога не сказаў, сярдзіта глянуў на бацьку. І зноў падумаў: «Нездарма ўсе ў Чмялях кажуць пра цябе: Жадзён... Скуру з зубоў злупіць...»

— Дык нічога не казаў? — дапытваўся між тым бацька.

— Нічога... Адчапіцеся вы ад мяне са сваімі грашыма.— Антон амаль па-дзіцячы ўсхліпнуў і ледзь но пабег да хлява.

Прахор узяў пад паветкай драбіны, палез на гарышча хаты. Нечым там грымеў, нешта бубніў сабе ў вусы і нарэшце выкінуў адтуль на двор некалькі дошак, брудных, шэрых. Вінавата сказаў Антону:

— Гэта ж ляжалі дзедавы дошкі, чакалі дзедавай смерці, дык, дурань, пазычыў Людвіку-шляхціцу, як у тога старая памерла... А ў Людвіка пытаўся — ні трэсачкі сёння пад рукой няма.— Ён злез з гары, абтрос ад пылу і павуціння штаны, падышоў да перагародкі, за якой у хляве стаяла цялушка, няўпэўнена стукнуў па перагародцы абухам сякеры.

— Што гэта вы робіце? — не зразумеў Антон.

— Не бачыш? Дошкі адбіваю. Труну дзеду рабіць будзем.— Прахор мацней ударыў абухам. Дошка жалобна рыпнула і раскалолася.

— Вы што — думаеце хаваць дзеда ў гэтых свінячых дошках? — Антон згаладнела каўтнуў паветра.

— А што? Не паны. І так у зямельку можам легчы. І нават у чым маці нарадзіла можам легчы.— Прахор выпростаўся. На ягоным ілбе блішчаў пот.— Маці ў цёплай вадзе адпарыць іх, памые... Я гэблікам падраўняю. Як свелсыя будуць...

Ён казаў гэтыя словы ўсё менш упэўнена, быццам угаворваў і Антона і самога сябе.

— І гэта ўсё, што дзед заслужыў на гэтым свеце? Кінеце яго ў зямлю, як жабрака, як свінню...— здавалася, Антон вось-вось ударыць бацьку.

— А мы і ёсць жабракі. Хіба ты не ведаў? — Прахор гаварыў спакойна, жалобна.— Дзе ж я вазьму новыя дошкі? У мяне лесу няма. І пільні няма. Я — Радзімовіч, чорная костка, а не пан Незабітоўскі. Пана Незабітоўскага, як здохне, у залатой труне пахаваюць. А нам і так добра...

Ён памкнуўся быў зноў адбіваць брудныя дошкі, але Антон рашуча ўзяў яго за плячо:

— Не трэба. Дайце мне сякеру. Мы дзеду дубовую труну зробім. Тысячу гадоў будзе ў ёй ляжаць...

— Што ты надумаў, сынок?— пабялеў у твары, спалохаўся Прахор.

— Звалю дубок каля Чорнага ляда. Я яго даўно нагледзеў. Труну за ноч зраблю — сякерай і долатам выдзеўбаю. І дзеда заўтра пахаваем. Дзед наш чалавек быў, і пахаваем яго па-людску.

Антон казаў гэта цвёрда, моцным голасам. І ўжо браў з бацькавых рук сякеру, затыкаў яе за пояс.

— Што ты?— Прахоравы вочы заблішчэлі.— Стражнікі ў маёнтку... Баўтрук па лесе ходзіць... Не дай бог, Антон, як зловяць... Заб'юць.

— Звалю дубок,— яшчэ больш рашуча гаварыў Антон.— Скулу ім у бок — не зловяць... Я з Іванам Міхейчыкам паеду.

Крыўда за дзеда, злосць на бацьку былі ў яго голасе. Ён ні разу яшчэ так, па-мужчынску строга, не гаварыў з бацькам і адначасова здзіўляўся сваёй смеласці і палохаўся яе, але не мог справіцца з сабою: быццам нехта, сярдзіты і рашучы, сядзеў унутры і выпіхваў словы, ад якіх бялеў бацькаў твар.

Прахор калупнуў доўгім чорным пальцам вылінялае брыво, толькі сказаў:

— Ну глядзі... Як зловяць...

А самому падумалася: «Звар'яцеў свет... Каб я ды гэтак са сваім бацькам гаварыў калі... Слоўца, бывала, не пікнеш...» Антон запрог Чумака ў калёсы, кінуў на дошкі ахапак аўсянай саломы.

Выязджаючы з двара, убачыў праз акно, як у хаце цьмяна блішчыць агеньчык свечкі. У душы была туга, як чорная сажа ў коміне.

Над скамянелай ад начнога марозу вуліцай пырхалі рэдкія сняжынкі. Было яшчэ вельмі рана, і вёска здавалася нежывой. Толькі над вялікай — чатыры акны на вуліцу — хатай Кандрата Гаранка ўжо ляніва поўз у неба густы сіні дым.

Сам Гаранок, высокі жылісты мужчына з худым жоўтым тварам, у споднім белай кашулі, у калматай авечай шапцы на галаве, чэрпаў ваду са студні. Кіўнуў галавою на Антонава прывітанне, падазрона паглядзеў яму ўслед.

«Бач ты, не спіцца яму,— падумалася Антону,— як ні багацее чалавек, а ўсё яму мала... Хутка грошы будзе квасіць, як капусту».

Ён прагрукатаў па мёрзлай вуліцы, спыніўся каля хаты Міхейчыкаў. Васьмёра душ жыло ў гэтай хатцы, старой, пахіленай да зямлі, з брылём брудна-шэрай саломы на страсе. Усе — дробныя, невялічкія, чарнавокія: бацькі — Цімох і Матруна — сівыя, дзеці — чорнагаловыя. Са старэйшым, Іванам, Антон сябраваў і спадзяваўся, што той паможа спілаваць і прывезці з лесу дубка.

Міхейчыкі ўжо таксама не спалі. У сенцах, цёмных, з бруднай гнілой падлогай, з адзіным, затканым павуціннем акенцам, стаялі жорны. Іван, заспаны, ускудлачаны, накінуўшы на плечы світку, разам са сваім малодшым братам — Антон нават не ведаў ягонае імя — малоў жыта. Натужна гуў вялікі шэры камень. Зерне пад ім аж трашчала. Тоненькая нітка цёплай жоўтай мукі лілася ў драўлянае вядро.

Антон паздароўкаўся і колькі хвілін глядзеў, як круцяць жорны Міхейчыкі. Малодшы брат ужо стаміўся, хутка дыхаў і таму вельмі абрадаваўся Антонаваму прыходу — зразумеў: будзе перадышка. І, сапраўды, Іван, спацелы, чырвоны, сказаў яму:

— Юзік, вымеці муку з-пад каменя. Трохі аддыхаемся...

Юзік радасна схапіў гусінае крыло і пачаў завіхацца каля жорнаў, аж узнялося белае воблачка.

— Чаго ты так рана? — падышоў да Антона Іван. Быў ён круглатвары, прыгожы, з чорнымі вусікамі, што ўжо выразна прабіваліся над губою. Адзінае толькі псавала ягоны твар: вялікі чырвоны пісяг у форме капыта над левым брывом. Калісьці, малы, надумаўся падаіць карову, і яна трахнула яго капытом. З таго часу і называлі яго Капыток.

— Дзед памёр,— адказаў Антон,— памажы мне, Капыток...

І ён расказаў сябру аб сваёй задуме.

— Добра,— адразу згадзіўся Іван,— гэта мы змантулім. Юзік, ідзі ў хату, скажы — хай хто з дзевак пасобіць табе дакруціць, а я з Антонам скокну ў лес...

Было відно, што ён узрадаваўся прапанове і яму не церпіцца вырвацца з цёмных сенцаў на вольнае паветра.

Іван пачаў апранацца, грымець у каморы — шукаць пілу, а Антон стаяў і адчуваў, як моцна тахкае ў грудзях сэрца. Зараз з-за чорных, карабатых ад вільгаці дзвярэй павінна была выйсці адна з Міхейчыкавых дзяўчат. Яму чамусьці падумалася, што гэта будзе Яніна. І, сапраўды, выйшла яна. Хустка на чорных валасах завязана шаламком, шчокі свежыя, пунсовыя, губы смяшлівыя. Убачыўшы Антона, здзівілася, трошкі — ці, можа, гэта падалося Антону? — пачырванела, сказала:

— Здароў, Антон.

Потым, ужо ўзяўшыся за млён — шост, якім круцяць цяжкі камень жорнаў, хуценька глянула на яго цераз плячук і — от шаляніцадзеўка! — паказала язык. Антону трэба было пачаць гаворку, сказаць нешта ці смешнае, ці сур'ёзнае, а ён стаяў, як той шост, і ў душы кляў сябе за нясмеласць самымі крыўднымі словамі.

— Ці позна ваша Дзіна прала ўчора ў Перуноўскіх? — пыталася між тым Яніна, круцячы разам з братам жорны.

— Позна,— пераступаючы з нагі на нагу, адказаў Антон.

— А хто там з хлопцаў быў — яна не казала?

— Не казала.— Антон пачынаў злаваць на сябе, што адказвае ёй, як вучні настаўніку ў вучылішчы. Хадзіў у двухкласнае народнае, дык там якраз так было — настаўнік пытаецца, а яму адказваюць усе хорам, стараюцца патрапіць пад ягоныя словы.— Наш дзед памёр,— буркнуў ён, каб перапыніць непрыемную для сябе гаворку.

— Дзед Ігнат памёр? — Яніна перастала круціць жорны, адвяла з ілба белай ад мукі рукой пасму валасоў, — Дык чаго ж ты тут стаіш, Антонка? Дома ж трэба памагчы і маці, і Дзіне...

— Я ў лес еду,— ужо выходзячы з сенцаў на вуліцу, глянуў на яе апошні раз Антон. Гэтае яе «Антонка» на нейкае імгненне горача пераняло яму дыханне і закружыла галаву.

Яны выехалі за вёску. Густа паваліў снег. Луг і поле рабіліся чорнабелыя, пярэстыя. Чумак жвава бег па дарозе да сіняй сцяны лесу, што ледзь-ледзь віднелася на небасхіле. Вецер раздзімаў конскі хвост, і былі відны калматыя, у сухіх каўцюках, ногі.

— Скора на санях паедзем,— гаварыў Іван.

Ён сядзеў, як дзягай, падперазаўшыся пілою, і жмурыўся ад снегу.

— А ты не баішся ў лес ехаць? — спытаўся ў яго Антон.

— Каб баяўся, не паехаў бы. Абрыдла ўвесь час баяцца. І зямля, і лес, усё — павінна належаць мужыкам, сялянам. Так Бацюта ў кузні казаў. Хто ў зямлі корпаецца, гібее на ёй, таго і зямля.

— А што твой Бацюта — такі разумнік? — Антон злавіў вуснамі сняжынку, коса глянуў на сябра.

— Ёсць і за Вацюту разумнейшыя. Чуў пра Леніна?

— Чуў. Ну і што? Ён жа ў нас не быў, не бачыў, як мы на палосах косці свае трудзім, гной капаем. Што яму, гарадскому, да нас?

— Не быў у нас, дык у іншых быў.— Іван хітра ўсміхнуўся.— Усюды зрэб'е і лапці аднолькава пахнуць, і мужык усюды аднолькавы, як вол, сляпы: працуе ад цямна да цямна. А мае што? Кукіш пад нос.

— Ты, Капыток, паліцік.— Антон вымавіў апошняе слова паважна, і ўвесь яго выгляд казаў — і мы тое-сёе кумекаем, і мы не абы-чым робленыя,— табе не мужыком быць, а ў горадзе ў краме каля дзвярэй стаяць, бабам доўгія спадніцы паднімаць, каб аб пясок не забрудзіліся. І ў каго толькі ты такі разумнік удаўся?

— А навошта чалавеку галава? Цвікі ёю забіваць? — Іван весела зарагатаў.— Дык няма ж нідзе цвікоў. Хіба толькі ў Гаранка пашукаць. У гэтага жывадзёра ўсё знойдзеш.

— Чаго ты так на Гаранка ўз'еўся? Ён хоць і хапуга, а ўсё сваім гарбом цягне. Сёння еду — а ён ужо не спіць, ваду носіць.

— Сваім гарбом, кажаш, цягне? — Іван аж узвіўся ў калёсах.— Жывадзёр ён. Вашага Кузьму і нашага Рыгора і шчэ мужыкоў і хлопцаў пабралі ў армію? Пабралі. Ужо не за цара, дык за веру і ацечаства вошай у акопах кормяць. А Васіль Гаранкоў дома сядзіць. За дзеўкамі, як марцовы кот, бегае. А чаму? У бацькі ў воласці рука. Там такія ж, як ён сам, жывадзёры сядзяць.

— Цішэй ты,— папрасіў яго Антон, бо расхацелася спрачацца з-за Васіля Гаранка, якога ён і сам цярпець не мог, і яшчэ таму, што яны ўжо ўехалі ў лес. У лесе снегу не было. Быў ён чорны і голы, глуха шумеў пад ветрам. І ўпершыню за сённяшні дзень недзе ў глыбіні душы Антон пакаяўся, што паехаў сюды. Здавалася, з-за кожнага дрэва цікуюць пільныя халодныя вочы. Можна было дошак у суседзяў пазычыць,— падумалася яму. Але адступаць было позна — побач быў Іван, смелы, гарачы, а горшым за іншых Антону ніколі не хацелася быць.

— Ты б калёсы змазаў, а то рыпяць, як рэбры грэшнікаў у пекле,— пераходзячы на ціхі голас, сказаў Іван.

— Дзёгцю няма...— Антон углядаўся наперад, моцна трымаў у руках лейцы.

Яны ехалі не па дарозе, а проста па лесе. Чумак палахліва стрыг вушамі, касіў вокам на дрэвы і кусты.

— Ты не баішся, Капыток? — зноў загаварыў Антон, бо карцела хоць нечым адагнаць ад сябе трывожныя думкі.

— Слухай, братка, не заві ты мяне Капытком,— раптам папрасіў Іван.

Твар яго выцягнуўся, чорныя бровы сышліся на пераноссі. Антона ягоная просьба дужа ўразіла, і ён не знайшоў што адказаць.

Так, моўчкі, яны і даехалі да Чорнага ляда. Разы са два натрапілі на глухія лясныя дарогі, спудзілі ў асінніку, што яшчэ дзе-нідзе палымнеў лістотай, зайца.

Лес быў казённы, але гады за два да вайны чатырыста дзесяцін перакупіў у казны пан Незабітоўскі. Навакольныя сяляне, у тым ліку і чмялёўцы, парабкавалі ў Незабітоўскага: былі смалакурамі, пілавалі лес і на конях вазілі бярвенні на бліжэйшы паўстанак Лібава-Роменскай чыгункі. Адтуль ён, казалі, ехаў у далёкія шахты Данбаса і аж за мора. За морам ім карысталіся, а вось тут, у Чмялях і Запольцах, ніхто не меў права ні галінку ў лесе падабраць, ні ягадку сашчыкнуць.

— Вось гэты дубок,— сказаў Антон, калі яны ўжо трохі былі паблудзілі каля ляда. Прыкінулі — у які бок валіць, каб дуб ні за што не зачапіўся, і Антон выцягнуў з-за пояса сякеру. Яна лёгка ўпівалася ў дрэва. Шэрая кара пырскала ва ўсе бакі. Потым пачалі пілаваць, стараючыся рабіць гэта як мага цішэй.

— Абсячом голле, а вершалінку возьмем. Не прападаць жа дабру.— Іван хутка стаміўся і цяжка дыхаў. Вінавата ўсміхаючыся, растлумачыў: — Цэлую раніцу жорны круціў...

Антон пакрысе пачаў супакойвацца. Натужліва цягаў да сябе ручку пілы, думаў: «Не ўсё ж ім... Трэба ж і дзеду майму... Хоць дрэўца... Хоць мёртваму... Дзед заслужыў...»

Зноў узняўся вецер. Прыляцеў аднекуль зверху, прынёс пах восеньскага поля, халоднай зямлі. Усё наўкола зашумела, захвалявалася, залапатала апошнім лісцем. З хмаркі, што вісела якраз над лядам, пасыпаўся мокры снег. І ў гэты час з лесу, з-за дрэў, з-за косых струменьчыкаў снегу, выскачылі верхавыя. Чацвёра. У калматых казацкіх шапках, з бізунамі ў руках. Холадна блішчала сталь вінтовак за плячыма.

Антон з Іванам ад нечаканасці выпусцілі з рук пілу. Яна слаба дзынкнула, забілася, затрапяталася, як вялікая бліскучая рыбіна. Антон дрыжачай рукой пачаў змахваць пілавінне з анучаў і лапцяў.

— Не прыхарошвайся, сівалапы,— пачулася за спінаю. Яны азірнуліся. Баўтрук ішоў проста на іх. Сухое галлё трашчала пад яго нагамі. Быў ён высокі, шыракаплечы, з пукатымі грудзьмі, з русымі

завіткамі густых валасоў. Ішоў, прыставіўшы стрэльбу да пляча, і цэліўся ў іх.

«Заб'е...»— халадзеючы нутром, падумаў Антон. А ляснік, якога баяліся, як агню, і праклiналі, і не раз падпальвалі ягоны хутар, падышоў зусім блізка. Шырокі твар раскалоўся напалам халоднай усмешкай. Быў ён прыгожы, гэты твар, але, аказваецца, на свеце можа быць непрыемная прыгажосць, могуць быць прыгожыя вочы, у якія не хочацца глядзець.

— Што, сівалапыя, дубка захацелася? Зараз вы ў мяне пілавінне будзеце жэрці.

Ён нетаропка сагнуўся, шырокай, як рыдлёўка, далонню пачаў зачэрпваць з зямлі пілавінне. Верхавыя, казакі з паўсотні, што была расквартаравана ў маёнтку Незабітоўскага, пад'ехалі бліжэй і з цікаўнасцю назіралі за тым, што адбываецца. Іхнія твары былі сытыя і вясёлыя.

«Божачка...— думаў Антон, гледзячы, як птушанё на ўдава, на вялізную руку Баўтрука, што павольна ўзнімалася ад зямлі і праз пальцы якой сыпалася пілавінне.— Ён жа, і праўда, будзе прымушаць нас есці гэту брыдоту. Што ж рабіць?»

Ён бездапаможна азірнуўся наўкола. Казакі пасміхаліся. Іхнія коні, здавалася, пагардліва фыркалі на худога сумнага Чумака.

«Што ж рабіць? — Да Антонавага сэрца падкочвалася млявасць: — Не паслухаў бацьку... Нейкая гарачка найшла... Дзе ж нам з імі дужацца? Іхняя сіла... Іхні лес...»

— Ну, сівалапыя, ешце.— Баўтрук тыкаў ім у твары жменю.

— Ах ты, дзік балотны! Сучка! — Іван пачарнеў, сагнуўся, галавой ударыў Баўтрука ў жывот.

Баўтрук, як пераламаўся, упаў на спіну.

— Уцякай, Антон! — Іван скокнуў ад дубка.

Баўтрук, схапіўшыся за жывот, качаўся па зямлі.

Казакі выдзіралі з-за спінаў вінтоўкі. Куды дзелася іхняя весялосць! Т-тах! Стрэл разарваў лясную цішыню. Тах! Тах! Коні ўзвіліся на дыбкі. Антон убачыў, як Іван спатыкнуўся, асеў каля бярозы. Сам жа ён кінуў на зямлю сякеру, якую ў першыя хвіліны схапіў, відаць, інстынктыўна, стаяў усё на тым жа месцы і гаварыў :

— У мяне дзед памёр... Ігнат... Мы заплоцім за дубок...

Баўтрук ужо вязаў яму рукі лейцамі, крывіўся ад болю, пагрозліва выкочваў вочы:

— Усе паздыхаеце, сівалапыя. Я в-вам...

Ад яго патыхала гарэлкай. Антона пасадзілі ў калёсы. Потым прывялі Івана, параненага ў плячук. Баўтрук звязваў Івану рукі, націскаў на параненае месца.

Ужо калі ехалі ў маёнтак, калі калёсы калаціліся па каранях дрэў і побач мацюкаўся і войкаў ад болю Іван, Антону неяк млява падумалася:

«Гэта ж ён, Баўтрук, нас маімі лейцамі звязаў. Такія добрыя лейцы парэзаў...»

II

— Колькі ўжо разоў перашкаджалі Расіі асэнсаваць і зразумець сябе вось гэткія, я б сказаў, частушачныя адносіны да жыцця. Русы чуб з-пад брыля, скрыпучыя боты, пеўнева паходка, усмешка Іванкі-блазнюка на ўвесь рот. З такога можна пісаць лубок, але з ім нельга сесці за еўрапейскі стол, дзе вырашаецца лёс свету. Усё-ткі пакуль што ў Еўропе мы стаім адной нагой. Другая наша нага ў азіяцкіх стэпах...

Так казаў бледнатвары, чорнавалосы малады чалавек гадоў дваццаці пяці ў прыгожай форме земгусара. Ён трымаў у руках бярозавую галінку, зрываў з яе жоўтае лісце. Толькі што малады чалавек і яго спадарожнікі — грузнаваты, задышлівы, пажылы мужчына ў паляўнічым касцюме і вельмі юная дзяўчына, цёмная шатэнка з далікатным тварам і сумнымі вачыма — былі ў флігелі, дзе жылі парабкі, на вяселлі. Шум і крыкі вяселля, п'янаватыя разагрэтыя твары, рэзкі пах самагонкі і грубага мужыцкага хлеба, танцы пад гармонік, цымбалы і балалайку ўсё яшчэ ўладна жылі ў іхніх вушах і вачах.

Усе трое, не спяшаючыся, ішлі па старадаўняй алеі, што была густа абсаджана пачарнелымі дуплаватымі ліпамі. Вузкая палоска бледнага восеньскага неба цьмяна блішчала над алеяй. Збіўшыся ў чароды, у небе крычалі сумныя галодныя вароны.

Мужчына ў паляўнічым касцюме — гэта быў аканом маёнтка графа Незабітоўскага Андрэй Гайкевіч цмокнуў поўнымі губамі, хітра глянуў на маладога земгусара:

— А вас, паважаны Ігар Аляксеевіч, наслухаўшыся вашых слоў, можна і за германафіла палічыць. А Германія — наш сённяшні праціўнік. Самі разумееце: ваеннае становішча, данскі казак-герой Кузьма Кручкоў наколвае на піку немцаў дзесяткамі, як шашлыкі, а вы...

Земгусар Дамажыраў успыхнуў:

— Вы няправільна мяне зразумелі. Мы ў стане вайны з Германіяй, гэта так. Але ж, калі мы ўварвёмся ў сэрца Германіі, мы, я спадзяюся, не станем усё крышыць і знішчаць, як вандалы. Хай ваюе грубая

плоць. Але дух, дух цывілізаванай Германіі, яе Гумбальт, Бах, Ніцшэ, Кант — хай жывуць. Яны патрэбны ўсім. У тым ліку, і, можа, у першую чаргу, з-за нашай азіяцкай адсталасці, Расіі. Вы не згодны са мной?

Ён хуценька глянуў на Гайкевіча і краем вока — па дзяўчыну, бо іменна ёй, сумнай і загадкавай, адрасаваліся ўсе яго такія разумныя і палкія словы. Зінаіда Гайкевіч, гімназістка з Мінска, якая па хваробе ўжо тыдзень гасцявала ў бацькі, уважліва прыслухоўвалася да гаворкі мужчын, але ўдзелу ў ёй не прымала.

Толькі шчыльней захінался ў прыгожую, чорнай каўказскай воўны бурку — падарунак бацькі.

«Што хаваецца пад гэтым спакойным, мармуровым, антычным тварыкам вясковай багіні? — ламаў галаву земгусар Дамажыраў.— Тупалобасць хамулы-бацькі ці незямная страсць?»

Гайкевіч між тым хітравата ўсміхаўся і гаварыў:

— Што вы, я згодны з вамі, Ігар Аляксеевіч. Навошта крышыць і ламаць? Як кажуць тутэйшыя парабкі, у гаспадарцы і ржавы цвік спатрэбіцца. І Кант, хоць я асабіста не чытаў яго, спатрэбіцца. Вось толькі, дазволю сабе засумнявацца, наконт сэрца Германіі вы трошкі перагнулі. Ці дастане да яго той жа Кручкоў сваёй пікай?

Дамажыраў кісла зморшчыўся:

— Пра вашага Кручкова ўжо даўно ні слова не чуваць — адышоў у нябыт разам з Мікалаем Раманавым. Тапорна, трэба прызнацца, быў зроблены герой. Цяпер у Расіі — новыя героі і новыя правадыры.

— Вы маеце на ўвазе Аляксандра Фёдаравіча? — Гайкевіч акуратна змахнуў з рукава беленькі круглячок — нейкая птушка спалохана рванулася над іхнімі галовамі.— Што ж — энергічны, малады. Правадыр. Але ж нават вялікаму правадыру заўсёды патрэбна войска.

— Вы сумняваецеся ў Керанскім?

— Ніколькі. Але ж гляньце навокал. Ніхто не хоча ваяваць. Мужыкі здыхаюць без хлеба. У вёсках — непралазны бруд, галеча. Усюды разводзяць сваю балбатню анархісты, эсэры, бальшавікі.— Пульхныя шчокі Гайкевіча пачырванелі.— Патрэбна цвёрдая рука, рука, сціснутая ў кулак.

— Ага, злавіў на слове: значыць, вы — манархіст.— Дамажыраў задаволена засмяяўся, адкінуў убок бярозавы дубчык. Аканом засоп носам. Наступіла цішыня. Чутно было, як у флігелі плыве песня, п'яная, надтрэснутая:

Ска-ка-аў казак цераз да-а-ліну,
Цераз маньчжурскія края-я-я...

Мужчынскія і жаночыя галасы выводзілі песню аястройна, але гучна і весела.

— Усё гіне, а яны жэняцца... Скарынкі хлеба на стале няма, а яны заводзяць кучу дзяцей, брудных, галодных, нямытых, такіх, як самі...— Дамажыраў быў упэўнены, што ў слоўным паядынку перамог гэтага мужлана-аканома, з асалодай піў нектар сваёй перамогі і літасціва рашыўшы не дабіваць праціўніка — у аканома ж сімпатычная дачка! Яна, трэба спадзявацца, ацэніць ягоную, Дамажырава, гуманнасць,— змяніў размову.

Ён спружыніста і лёгка крочыў па алеі і казаў, усё часцей паварочваючыся ў бок гімназісткі:

— Паўночна-заходні край... Дзіўны край. Я ў вас, панове, упершыню. Вайна закінула. У нас памесце пад Разанню, а вучыўся я ў Петраградзе, у тэхналагічным. І вось гляджу я наўкол, на гэты самы Паўночна-заходні край, і такія думкі, такія, як кажуць, эмоцыі ён у мяне выклікае... Драўляная, саламяная, гліняная краіна. Жалеза такое ж рэдкае, як золата. Ускраіна геаграфічная і духоўная.

— А мы тут жывём,— ці то ўздыхнула, ці то пахвалілася Зінаіда.

Дамажыраў уважліва, па-дэманічнаму, як яму думалася, глянуў на яе, сказаў, галантна пакланіўшыся:

— Разумею ваш патрыятызм, мадмуазель, і цалкам яго падзяляю... Пытаюся ў флігелі ў аднаго п'яненькага мужыка: як тваё прозвішча, брацец? А ён мне: Казёл. Здорава гучыць? Нейкая першароднасць. Нейкае язычніцтва. Усё ідзе ад зямлі, ад травы, ад першай вясновай вады. Людзі і прозвішчы не змяніліся тут за тысячагоддзі.

— Гэтым людзям палец у рот не кладзі — адгрызуць да локця і не зморшчацца,— буркнуў Гайкевіч.

Яму пачынала не падабацца красамоўства гэтага жаўтаротага земгусара. «Смятаннічак,— думаў ён,— цыцку яшчэ матчыну смактаць трэба, а туды ж пнецца — у прарокі, у напалеоны...»

— А гэта ўжо іншая справа,— гаварыў між тым Дамажыраў,— ёсць парадак, законнасць, ёсць, нарэшце, воінскія начальнікі, павятовыя і валасныя ўлады. Самадзяржаўе, можна сказаць, само па сабе рухнула ў лютым. Але гэта не значыць, што павінны загінуць і прыватная ўласнасць, і вера, чаго дабіваюцца бальшавікі і жыды. Я, прызнаюся вам, панове, знаходзячыся ў тыле дзеючай арміі, меў час і меў жаданне чытаць мноства самых розных кніг. І вось я зацікавіўся, вы, вядома, разумееце чаму, Вялікай рэвалюцыяй французаў. Дык адзін з гэтых французаў, Брысо, вельмі правільна сказаў: «Народ створаны для таго, каб служыць рэвалюцыі, але калі яна закончылася, ён па-

вінен вярнуцца да сябе і дазволіць тым, у каго болей розуму, кіраваць сабою».

— А вы чулі што-небудзь пра чырвонага пеўня? — не даў Дамажыраву вытрымаць патрэбную паўзу глыбакадумцы і пераможцы Гайкевіч.— Гэты народ кожную ноч можа падсунуць гарачую галавешку пад дах вось гэтага прыгожага дома, дзе мы маем гонар мець вас за госця.

Дамажыраў хацеў быў зноў уступіць у дыскусію, але хітры аканом зрабіў выгляд, што яму трэба неадкладна пагаварыць з казацкім сотнікам — учора казакі напіліся і ўсю ноч спявалі песні, не давалі нікому спаць. Сказаўшы Дамажыраву: «Ігар Аляксеевіч, у дзве гадзіны чакаю вас абедаць»,— аканом шмыгнуў У дзверы нізенькага дома, дзе кватаравалі казакі.

«Ну і чорт з табой,— падумаў Дамажыраў,— невялікая прыемнасць бачыць тваю тоўстую фізіяномію...»

Ён быў злы на аканома: прыехаў ад імя губернскага земскага саюза, каб паспрабаваць арганізаваць у маёнтку часовы тылавы шпіталь для параненых афіцэраў, але гэты таўстун і слухаць не хоча: маўляў, гаспадар маёнтка за мяжой, а без яго я не маю права ні аб чым дамаўляцца. Патрыёт, называецца, маць тваю так!

Разам з Зінаідай Дамажыраў стаяў перад домам, правільней будзе сказаць, палацам, графа Незабітоўскага. Граф яшчэ ў трынаццатым годзе паехаў у Карлсбадэн на воды, ды так там і застаўся — рашыў перасядзець вайну. А дом у яго быў слаўнецкі! Старадаўні, відаць, будаваўся яшчэ ў васемнаццатым стагоддзі, у часы прыгону. Першы паверх зроблены з дзікіх валуноў. Валуны рознага колеру: белыя, шэрыя, сінія, чырванаватыя. І ўсе — неабчасаныя. Як прыцягнуў калісьці іх ледавік у тутэйшы край, у такім выглядзе і леглі яны ў сцены. Моцна леглі, на вякі. Другі паверх быў драўляны. Змяшаліся ў ім готыка і барока, і яшчэ Дамажыраву адразу кінулася ў вочы, у тым, як спляталіся ў вугал бярвенні, як былі прарэзаны вокны, было нешта ад сялянскіх чорных хат. Відаць, адны і тыя ж сякеры рабілі і палац, і хаты. Верандай, прасторнай і светлай, дом быў павернуты да ракі. Голле магутных дубоў цягнулася да веранды, прыкрывала яе ад ветру.

— Аазіс цішыні,— сказаў Дамажыраў.— Умеюць жыць нашы рускія баяры. Што войны і рэвалюцыі, якімі нас палохаюць, перад гэтымі валунамі!

— Ігар Аляксеевіч, вы даўно былі ў Мінску? — спыталася Зінаіда, спадылба бліснуўшы сваімі чорнымі вачыма, калі па крутым пясчаным схіле яны пачалі спускацца ад дома да ракі.

— Чатыры, не, пяць дзён, як адтуль. Па справах,— Дамажыраў шматзначна кашлянуў,— быў у артылерыйскіх майстэрнях.

— Як там наша гімназія? — Зінаіда ўздыхнула.— Здаецца, вечнасць там не была. Хаджу каля гэтай ракі, слухаю песні п'яных мужыкоў, гляджу, як гуляюць у карты казакі, а сама ў думках там. У нас класная дама, Маргарыта Францаўна, золата, а не жанчына. Мы яе аднойчы ноччу напалохалі — абкруціліся прасцінамі і выйшлі на калідор. Што было! Адлівалі вадой бедную Маргарыту.

Яна засмяялася, паслізнулася на крутым схіле, і Дамажыраў падхапіў яе пад руку.

— А то, бывала, збярэмся ў спальні, зачынімся, запалім свечкі і ўсю ноч молімся за нашых воінаў, каб даў ім бог перамогу над германцамі. Цішыня, аж у вушах звініць. Саб'ёмся ў кучу, сядзім, молімся, плачам, і, здаецца, бог нас чуе — вось-вось святлом незямным усё азорыцца і спусціцца ён да нас з нябёсаў. А нядаўна ў нас афіцэрык паранены быў. Такі прыгожанькі, чорненькі. Вусікі чорненькія, мяккія, аж рукой пакратаць хочацца...

— Я таксама заўтра еду на фронт.— Дамажыраву не хацелася, каб прыгожая гімназістка так доўга і з такім запалам гаварыла пра нейкага чорненькага афіцэрых.

— Ой, Ігар Аляксеевіч, вас жа таксама могуць там параніць.— Зінаіда шырока расплюшчыла вочы, заміргала доўгімі вейкамі.

— Мяне могуць там забіць.— Ён горда ўзняў галаву, расправіў плечы і на імгненне нават паверыў, што яму ў сэрца ўжо ўпіўся кавалак гарачага свінца. Яму падумалася: «Я ляжаў бы на спіне, раскінуўшы рукі, над зямлёй бы поўз парахавы дым, а гэтыя тонкія рукі, гэтыя далікатныя пальцы гладзілі б мой лоб...»

— Не трэба так жартаваць... Я вас прашу.— Зінаіда спынілася і глядзела яму проста ў вочы.

— А я не жартую, Зінаідачка... Абавязак мужчын, калі яны сапраўдныя мужчыны, з мячом у руцэ бараніць родныя мірныя хаты. Толькі б чакаў хто-небудзь мужчын з бітвы...— Ён галантна пакланіўся і далікатна пацалаваў тонкія пальцы гімназісткі. Яна зачырванелася, але па ўсім было відно, што ёй прыемна. «Яблычак падае ў руку»,— самазадаволена падумаў Дамажыраў.

Яны стаялі над самай ракой. Каля ног усхліпвала вада, па-восеньску цёмная і цяжкая. Быў у гэтай вады нейкі сталёвы і алюмініевы водсвет, як прыкмета часу, што вёрстаў за сто адсюль па захад грукатаў гарматамі і бомбамі, палымнеў крывавай лініяй фронту. Да ракі спускаўся казак, расхрыстаны, без шапкі. Вёў паіць каня. Вецер гуляў чорнай барадою і русым чубам. З-пад ног казака і каня сы-

паліся дробныя каменьчыкі, плёхаліся ў ваду. Казак паглядзеў на Дамажырава з Зінаідай, шматзначна хмыкнуў. Дамажыраў пабляднеў, сказаў як плюнуў:

— П'янае рыла! Усіх трэба гнаць на фронт. Пад кулі! Зажэрліся ў тыле...

Але казак не чуў ягоных слоў, спакойна паіў каня, расчэсваў далонню рыжую конскую грыву.

— Як яны песні спяваюць! — сказала Зінаіда, гледзячы ў бок казака.— Самі грубыя, валасатыя, мядзведзі на конях, а галасы такія звонкія, чыстыя, як анёльскія. Слухаеш, і плакаць хочацца. Так, здаецца б, у неба і паляцела б разам з песняй...

Дамажыраў паблажліва ўсміхнуўся:

— Так-то яно так, Зінаіда Андрэеўна, але ж песнямі, прабачце, вайну не выйграеш. Закуём сэрцы ў жалеза. Хай нашымі песнямі будуць толькі малітвы аб перамозе над ворагам.

Ён адчуў, што словамі супроць казака трошкі збянтэжыў чуллівую гімназістку і з усіх сіл стараўся жартамі і напускной бадзёрасцю выправіцца. Зрабіць гэта яму ўдалося даволі лёгка.

У дзве гадзіны абедалі на другім паверсе дома, на верандзе, якая ўжо была зашклёная на зіму. Акрамя Дамажырава, Гайкевіча і Зінаіды за сталом сядзеў казацкі сотнік Панкратаў, стомлены лысаваты чалавек, з сінім шрамам цераз усю шчаку, з трохі сіплаватым гучным басам, які так не стасаваўся да яго дробненькай фігуры. Сотнік выпіў, расчырванеўся, махаў, як шабляй, відэльцам, палохаючы гэтым Зінаіду. Відаць было, што ён вельмі ганарыцца сваім басам.

— Мы данцы,— у такт словам узмахваў відэльцам Панкратаў.— Данцы — малайцы... Кубанцы і церскія — гэта не казакі... Зброд... Хахлы... Ім бы спаць на сене і сала з салам есці... Я з трох гадкоў у сядле. Як сябе помню, ужо шабляй лазу сек. Вось так — г-г-гы-ых!— Ён рэзка махнуў відэльцам і, страціўшы раўнавагу, паваліўся грудзьмі на стол. Зазвінелі, захісталіся чаркі.

— Брава, есаул,— хаваючы насмешку, запляскаў у далоні Дамажыраў.— Вашаму майстэрству апладзіруюць нават чаркі.

— Дык напоўнім іх яшчэ раз, панове.— Гайкевіч узяў пузаты, з сіняга шкла графінчык, спрытна наліў усім, акрамя Зінаіды.

Дамажыраў ахвотна выпіў яшчэ раз, пасаладзіў душу. Захацелася гаварыць прыгожыя словы, захацелася жаночай увагі. Ён узняўся над сталом:

— У гэтым цудоўным пустынным доме, панове, у гэтым доме, дзе трыста і чатырыста гадоў да нас жылі адважныя мужчыны і прыгожыя жанчыны, дзе, я спадзяюся, у светлыя месячныя ночы ходзяць

па цёмных ціхіх залах прывіды, нас усіх звяла вайна. Не было б вайны, і пан сотнік жыў бы на сваім слаўным Доне, аб'язджаў бы дзікіх непакорных коней, а яго шабля пакрывалася б пылам мірных дзён...

— Ну, гэта дудкі,— шумна запярэчыў сотнік.— Маёй шаблі і да вайны работы хапала. Помню, студэнтаў-валасацікаў разганялі. Як даў аднаму...

— Не перашкаджайце Ігару Аляксеевічу,— гнеўна бліснула на сотніка чорнымі вачыма Зінаіда.

— А я,— працягваў Дамажыраў, не звяртаючы ні на што ўвагі, бо ім ужо авалодаў экстаз гучных слоў,— жыў бы ў сваім Пецярбурзе, паўночнай Пальміры. Барацьба за месца на зямным балі, віно, жанчыны, карты. Жыццё, што заманьвае ў свае залатыя сеткі, адурманьвае, як морфій. І я ніколі б не ўбачыў гэты дом, гэты лес...

— Дазвольце, дазвольце,— раптам зноў пачаў гаварыць, нібы прачнуўся, сотнік,— як гэта — «не перашкаджайце Ігару Аляксеевічу»... Я пры выкананні службовых абавязкаў. Я...

— Сціхніце, вы... салдафон,— выдыхнуў Дамажыраў.

— Што? — На маленькім тварыку сотніка з'явіліся чырвоныя плямы. Ён павольна ўзнімаўся з-за стала.

— Панове, панове,— замітусіўся Гайкевіч.— Ды кіньце вы гэтыя спрэчкі. Няёмка. Людзі пачуюць.

— Хто ты такі? — аж працінаў Дамажырава вузенькімі вачыма Пашматаў.— Земгусар? Тылавы пацук...— Ён нечакана прадэкламаваў: «Земгусар, земгусар. Пыхціць, як медны самавар...» — З-за такіх, як вы, доўгаязыкіх балбатуноў, разумнікаў, мы чацвёрты год здыхаем у акопах. Такіх, як ты, разумнікаў, я яшчэ ў дзесятым годзе ў Маскве нагайкай сек. Парткі спушчу і нагайкай, нагайкай па казённым месцы. Аж пакуль кроў не свісне...— Ён з сілай усадзіў відэлец у стол.

Дамажыраў не чакаў такога гневу, што, нібы з вулкана, вырваўся з маленькай шчупленькай фігуры казацкага сотніка і стаяў бледны, разгублены.

Зінаіда накінулася на бацьку:

— Чаго вы стаіце? Папрасіце ж, нарэшце, хай п'юць міравую...

Яна сціснула пальцамі скроні — вось-вось страціць прытомнасць.

Але ні біцца, ні піць міравую не давялося. Расчыніліся дзверы, і на парозе веранды вырас здаравенны чубаты казак, гаркнуў, звяртаючыся да сотніка:

— Ваша благароддзе, там прывезлі двух мужыкоў з лесу...

— Якіх мужыкоў? — Панкратаў узрадаваўся, што гнеў не прападзе дарэмна, што зараз можна будзе на некім адвесці душу. У прадчуванні гэтай хвіліны ягоныя ноздры затрапяталі.

З веранды ўсе выйшлі на двор. Там стаялі ляснік, казакі, два зусім маладыя мужыкі.

— Развяжыце ім рукі,— сказаў сотнік, ужо прымерваючыся вокам, выбіраючы ахвяру. Ён падышоў да аднаго — бач, як спадылба пазірае, вочы, як вуглі.

— Ты што зрабіў, мярзотнік?

Ляснік кашлянуў у прыгожыя вусы, прыціснутыя кулаком.

— Дуб пілавалі. Аказалі супраціўленне...

— Супраціўленне? — здзівіўся сотнік.— Ды па законах ваеннага часу я іх магу расстраляць. Казлоў,— звярнуўся ён да рыжабародага казака,— дай мне нагайку.

Дамажыраву, чэсна кажучы, не вельмі хацелася прысутнічаць пры сцэне, якая павінна была адбыцца. Аднаго мужыка, маленькага, чорнагаловага, з параненым плячом, прывязвалі да бярозы, што расла на двары. Другі, высокі, худы, яркавалосы, стаяў непадалёку, чакаў. У ягоных вачах была смяротная туга. І Дамажыраў раптам успомніў: пад Нясвіжам іхні абоз, у якім яны везлі на фронт медыкаменты, абстраляла нямецкая цяжкая артылерыя. Узляталі ўгору колы фурманак, чалавечыя знявечаныя целы, руды пясок, а ён, Дамажыраў, ляжаў аглушаны і думаў, што памірае. І побач з ім у апошняй агоніі круціў галавой, дзёр зямлю пысай конь. У конскіх вачах былі туга і слёзы. Яны падобныя вачамі: той конь і гэты малады мужык, якога зараз будуць лупцаваць,— падумалася Дамажыраву. Ён адышоўся трошкі ўбок.

Між тым Іван Міхейчык уздрыгваў усім целам пад ударамі нагайкі, грыз бярозавую кару, але не стагнаў, крычаў:

— Не маеш права біць! Сучка ў лампасах!

Панкратаў ад ягоных слоў звярэў, біў з усяе моцы, з прыдыхам, з асалодай. Яго маленькі твар пакрыўся потам.

— Садыст,— не вытрымала Зінаіда.— Перастаньце... Ну хаця б не тут...— Яна нервова ўсхліпнула, але не адводзіла вачэй ад белага чалавечага цела, якое, нібы кветкамі, расцвітала свежымі чырвонымі пісягамі.

— Хопіць ужо з яго, пан сотнік,— папрасіў нарэшце Гайкевіч.

— Не вучыце мяне,— вызверыўся Панкратаў.— Ён у мяне сам папросіцца...

Але Іван не папрасіўся, абмяк, страціў прытомнасць.

— Давай наступнага,— цяжка дыхаючы, сотнік стукаў па халяве бота бізуном.

Усе зразумелі, што другому мужыку давядзецца яшчэ горш, таму што сотніку хочацца, чаго б гэта ні каштавала, пачуць словы мальбы і прыніжэння.

Антон стаяў як аглушаны. Свіст бізуна, кроў, што тонкімі струменьчыкамі цякла па Іванавай спіне, спацелы, бледны, як у мерцвяка, твар сотніка, яго незразумелая жорсткасць — усё здавалася страшным сном. «За што ён так б'е? За дубка?» — халадзеючы ўсім целам, думаў Антон.

— Мы заплоцім за дубок...У мяне дзед памёр...— паўтараў ён адны і тыя ж словы, калі яго пачалі прывязваць да бярозы. Усе маўчалі. Сотнік нецярпліва круціў у руках нагайку.

Кожная клетачка Антонавага цела ўздрыгвала і крычала: не трэба!

Раптам ён падкаціў вочы, галава хіснулася, адкінулася ўбок.

— Цьфу! — Сотнік аж тупнуў нагой,— Казлоў, цягні вядро вады. Трэба асвяжыць гэтага малайца...

Рыжабароды Казлоў пабег па ваду, і ў гэты час на двор маёнтка ўехалі простыя сялянскія калёсы, у якія быў запрэжаны вялізны конь нязвыклай масці, рабы, увесь у чорных і белых плямах. З калёсаў жвава скокнуў малады чалавек, танклявы, з попельна-русай барodkай. Твар чысты, смуглы, з сонечным пылам загару, што захаваўся ад летніх дзён. Шыя абкручана тоўстым пярэстым шалікам, на плячах — салдацкі шынель, на нагах — жоўтыя амерыканскія чаравікі. Ён абабіў з шыняля саламяную пацяруху, ускудлаціў далонню русявы чуб на галаве, падбег да Гайкевіча і цмокнуў яго ў шчаку. Спытаўся, здзіўлена агледзеўшыся наўкола:

— Што тут адбываецца?

— Хто гэта? — шапнуў Дамажыраў на вуха Зінаідзе.

— Гэта мой брат Аркадзь.

Твар яе засвяціўся, яна падбегла да брата, абвіла яму шыю рукамі. Ён пагладзіў яе чорныя валасы. Зноў спытаўся ў бацькі:

— Што тут робяць усе гэтыя людзі?

Глянуў на Антона, прывязанага да бярозы, на Івана, што стагнаў, лежачы на зямлі, усё зразумеў, падышоў да сотніка, вырваў з ягоных рук бізун.

— Не смейце іх біць! Як вам не сорамна!

Панкратаў кальнуў яго вострымі вачыма, у якіх яшчэ гарэла злосць.

— Вось як? А хто ці што забароніць мне здзерці шкуру з гэтых рабаўнікоў?

— Хаця б тое, што ў Петраградзе — пераварот. Уладу ўзялі бальшавікі.

Гэтая навіна ўразіла ўсіх, нават Панкратава, які забыўся пра свой бізун. Быццам рассунуліся далягляды, расступіліся змрочныя хмары, і ўсе трывогі і турботы неабдымнай стомленай краіны ўварваліся на гэты брудны цёмны двор нечаканым промнем сонца, што апякаў сэрцы: каму страхам, каму надзеяй.

— Не можа быць,— хвалюючыся, загаварыў Дамажыраў.— Вы нешта наблыталі. А як жа Аляксандр Фёдаравіч і князь Львоў? Не можа быць...— Ён раптам засмяяўся дробненькім дрыготкім смехам.

— Я не жартую,— спакойна сказаў Аркадзь Гайкевіч.— Я толькі што з Бабруйска. Учора там атрымалі радыё з Петраграда. Керанскі ўцёк. Міністры арыштаваны і сядзяць у Петрапаўлаўцы. Урад узначаліў Ленін...— Ён павярнуўся да бацькі: — Мне трэба з табой неадкладна пагаварыць. А гэтых хлопцаў, якім пан сотнік так старанна размалёўваў спіны, зараз жа трэба адпусціць. Аднаго я ведаю...

Аркадзь падышоў да Антона, пачаў развязваць вяроўку. Антон павольна расплюшчваў вочы. Са страхам чакаў, што зноў убачыць перад сабой перакошаны гневам твар сотніка. Але добрыя вочы са спачуваннем глядзелі на яго. Хто ж гэта? Нешта дужа знаёмае было ў гэтым твары і ў гэтым голасе. «Аркадзь Гайкевіч,— успомніў Антон.— Сын аканома...» Гады два назад яны пазнаёміліся, калі Антон летам хадзіў у маёнтак касіць сена. Потым Аркадзь даваў яму чытаць кніжкі.

— Дужа баліць? — пытаўся Аркадзь, спрытна распутваючы вяроўку.

— Мяне яшчэ не білі.— Антону пасля ўсіх хваляванняў захацелася раптам заплакаць, уткнуўшыся галавой у плячо гэтаму хлопцу, якога быццам неба паслала ў такую страшную часіну.

— Што ж ты такое зрабіў?

— Хацеў дубка спілаваць каля Чорнага ляда. Дзед наш памёр, і няма яго ў чым хаваць...

— Гэта мы ўладзім. Бяры свайго каня і едзь дамоў. А пад вечар зноў прыедзеш сюды ў маёнтак. Знойдзем дошак... У бацькі ёсць добрыя дошкі.— Аркадзь глянуў на Івана, што ляжаў пластом на зямлі.— А гэта хто? Твой сябар?

— Гэта Іван Міхейчыкаў. Падсабляў мне ў лесе. Яго вось гэты,— Антон кіўнуў галавой у бок Панкратава, што, стоячы непадалёку ў коле казакоў, нешта з імпэтам даказваў,— збіў да паўсмерці...

Аркадзь падышоў да Івана:

— Жывога месца на спіне не знойдзеш... Трэба яго тут пакінуць. Раны няхай трошкі загояцца.

Антон адразу згадзіўся. Так, няхай Іван пабудзе ў маёнтку, тут добры догляд, тут ён акрыяе. Сам жа хуценька пачаў збірацца дадому, далей ад усіх гэтых людзей. Стаялі, чакалі, як ён, Антон, пачне курчыцца і енчыць пад бізуном. І толькі адзін знайшоўся сярод іх, хто ўступіўся, пашкадаваў, зразумеў.

— Ну і даў лататы гэты мужычок,— засмяяўся Дамажыраў, калі сціхла ляскатанне Антонавых калёсаў.— Цяпер дзесятаму закажа ў чужы лес хадзіць...

Яны ішлі ў дом — Зінаіда, Дамажыраў і Аркадзь. Старэйшы Гайкевіч застаўся на двары, гаварыў з казакамі. Адтуль даляталі ўзбуджаныя галасы.

— Прабачце, я вас не пазнаёміла,— спахапілася Зінаіда.— Гэта, я ўжо казала, мой брат Аркадзь, а гэта,— яна лёгка дакранулася да рукі Дамажырава,— Ігар Аляксеевіч Дамажыраў. Гасцюе ў нас перад ад'ездам на фронт.

Аркадзь і Дамарыжаў глянулі адзін аднаму ў вочы і зразумелі, што сябрамі не будуць. Але, як робіцца ў такіх выпадках, усміхнуліся, пакланіліся, моцна пацiснулі рукі.

— Дык, кажаце, бальшавікі верхаводзяць у Петраградзе? — Дамажыраў, відаць, усё яшчэ не верыў навіне.— І колькі ж часу яны думаюць пратрымацца на белым кані?

— Гэта трэба ў іх спытацца,— спакойна адказаў Аркадзь.— Ленін за неадкладны мір. Значыць, усе франтавікі і ўсе сяляне будуць за Леніна.

— А вы, прабачце, якой партыі? — Дамажыраў хуценька глянуў на Аркадзя.

— А я, і не пытаючыся, ведаю: вы земец — значыць, кадзет. Так? Праўда, вашаму Львову не пашанцавала. Не вельмі прыемна з Зімняга палаца трапіць проста ў Петрапаўлаўскую крэпасць.

— Вы што ж — радуецеся гэтаму?

Гайкевіч-малодшы не адказаў, не дужа ветліва перарваўшы размову, звярнуўся да сястры:

— Калі думаеш ехаць у Мінск?

Зінаіда, незадаволеная тым тонам, якім брат размаўляе з прыгожым дасціпным госцем, надзьмула губы:

— Я хоць сёння гатова ехаць. Але Мамон не пускае, просіць кожную раніцу, каб яшчэ на дзянёк засталася...

Аркадзь усміхнуўся. Мамон, бог грошай,— так, начытаўшыся кніжак па палітэканоміі, называў ён калісьці свайго бацьку. Бач ты яе, страказу,— запомніла.

Яму захацелася зрабіць для сястры нешта прыемнае. Ну, вядома, трэба, відаць, памірыцца з гэтым земгусарам, бо ён ужо закружыў галаву наіўнай гімназістцы.

— Зінаіда,— сказаў Аркадзь.— Мне трэба пагаварыць з бацькам, а потым мы ўсе пакатаемся на лодцы.

Зінаіда запляскала ў далоні, заскакала ад радасці:, _ — Ой, Аркадзік, ты — проста цуд.

Яна схапіла Дамажырава за руку, пацягнула на бераг ракі, а Аркадзь пайшоў на двор шукаць бацьку. Той усё яшчэ гаварыў з казакамі. Убачыў сына, скончыў гаворку і заспяшаўся насустрач.

«Не хоча, каб я чуў, аб чым ён гаворыць»,— здагадаўся Аркадзь.

Ад такой здагадкі зрабілася не па сябе — і тут, як па ўсёй зямлі, людзі нешта хаваюць адзін ад аднаго, нават ад сваіх родных.

Бацька звёў у адну лінію шырокія жоўтыя бровы, узяў сына пад руку:

— Якім ветрам занесла ў нашы Палесціны?

— Ветрам рэвалюцыі,— усміхнуўся Аркадзь.

— Кінь жартачкі. Я сур'ёзна пытаюся.— Бацька пастарэў, пацяжэў, крыху згорбіўся. Нялёгка, відаць, даецца аканомаў хлеб.

Яны павольна пайшлі па двары, гледзячы пад ногі, думаючы кожны пра сваё. Збоку магло здацца, што ідуць зусім чужыя людзі, такія яны былі непадобныя знешне: Аркадзь — высокі, русы; бацька — нізкі, тоўсты, жоўтавалосы.

З флігеля, дзе жылі парабкі, раптам быццам сыпнулі гарохам — адтуль звонка вырвалася вясёлая прыпеўка:

Барыня, барыня,
За што мяне ўдарыла?
Ці за бульбу, ці за сала,
Ці за тое, што плясала?

— Што гэта там? — здзівіўся Аркадзь.

— У парабкаў вяселле. Я дазволіў пагуляць — потым адпрацуюць у свята.

— І добра яны працуюць?

— Голад — самы лепшы паганяты. Дрэнна працуеш — будзеш з пустым жыватом. Прытым, у мяне ёсць выбар: незадаволеных і крыкуноў я заўсёды магу замяніць ціхмянымі.

Аркадзь глянуў на бацьку, падумаў: «А з цябе, Мамон, нядрэнны крывасмок атрымаўся, а калісьці лібералам быў, Глеба Успенскага і Талстога чытаў. Хутка ж ты заплыў тлушчам...» Уголас сказаў:

— Пазыч рублёў сто. Пасля Новага года аддам.

Бацька быццам не пачуў, паскардзіўся:

— Казакі не хочуць болей заставацца. Сёння пакрычалі-пакрычалі і рашылі ў Ігумен ехаць. Скардзяцца — фуражу мала, кармлю іх дрэнна. Але ўсё гэта — глупства. Баяцца, чэрці, вось што...

— Вядома, будуць баяцца, калі так бізунамі спраўна працавалі,— Аркадзь крыва ўсміхнуўся, ледзь не сказаў бацьку: ты і сам баішся...

Але той прапусціў міма вушэй іронію ў сынавых словах, ішоў, бялеў тварам, горбіўся. Потым глыбока ўздыхнуў, нібы чакаў, каб яму паспачувалі, пашкадавалі яго.

— Што ж гэта будзе, сынок? Зноў рэвалюцыя. У сакавіку са свірнаў дзверы паздзіралі, збожжа ўзялі. Усе вокны пабілі. Сельскі камітэт у іх тут арганізаваўся. Каваль Бацюта завадатар. Але, дзякуй богу, павятовы камісар Казакаў падаслаў. Паспакайнела трохі. А цяпер што? Зноў разбой?

Па алеі яны падышлі да старой бярозы, якая амаль да камля была расшчэплена маланкай. Калісьці яшчэ ў гімназіі Аркадзь начытаўся пра доследы амерыканца Франкліна з электрычнасцю і сам рашыў іх правесці. Залез аднойчы на бярозу і амаль у самую яе макаўку забіў доўгі металічны стрыжань — хацеў лавіць маланку. У першую ж навальнічную ноч маланка ўдарыла ў дрэва. Знесла ўсю верхавіну, а ствол пашчапала і скруціла так, што здавалася, быццам бяроза паказвае небу кукіш. Ля бярозы яны і спыніліся.

— Заставайся дома,— папрасіў бацька,— чаго ў такую калатню па свеце бадзяцца? Грошы ў мяне ёсць, але з грашыма цяпер лепей дома сядзець. Ты ж у Шмерлінга ў канторы працуеш?

— Шмерлінга я ўжо кінуў. Занудлівы яўрэйчык. Над кожнай капейкай калоціцца. Я цяпер вольная птушка. Перакладаю. У «Мінскім голасе» фельетончыкі друкую.

— Палітыку сваю яшчэ не кінуў?

— Не кінуў. Мы, як і ўсе, да Устаноўчага сходу цяпер рыхтуемся. Ездзіў па Бабруйскім павеце, агітаваў, каб за нас галасавалі. Але там Бунд і палякі ўсім галовы задурылі.

Аркадзь глядзеў на бярозу, на страшную хвалістую шчыліну, што вяла да самага карэння.

— Каму патрэбен гэты Устаноўчы сход? — зазлаваў бацька, і шчокі яго запалымнелі.— Мужыку, ды і нам з табой, добры кій трэба. Сукаваты, ды па спіне. Яшчэ, здаецца, толькі ўчора прыгон адмянілі,

а ўжо крычаць — свабоды ім мала, ужо цара некуды ў Сібір завезлі. Забыліся, як на стайні ляжалі — носам у гной.

— Адстаеш ад жыцця,— сказаў Аркадзь,— нікому гэта не гавары, а то гразёю закідаюць. А гэтаму мужычку, з якога па твайму дазволу хацелі скуру злупіць, дошак дасі. Яму на труну трэба. Свой чалавек будзе...

Ён павярнуўся спінай да бацькі, даў зразумець, што размова скончана.

Між тым на рацэ, у лодцы, Дамажыраў працінаў сэрца гімназісткі амурнымі стрэламі.

— Зінаіда,— соладка прыдыхаў ён у чорныя вусікі,— вы вельмі падобны на Веру Халодную. Дальбог, не маню. Ёсць у вас нейкая загадкавасць, антычнасць, нейкі гіпноз. А што за дзяўчына без гіпнозу? Перад такой мужчыны становяцца на калені, за яе паміраюць. Ведаеце што? Вы былі б цудоўнай сястрой міласэрдзя. У белай касынцы з чырвоным крыжам, у чорным строгім плацці. Адзін ваш погляд — і, смяротна паранены, зноў бы ішоў у бой...

Зінаідзе падабалася гэтае мурлыканне, гэтая гульня ў страсць. Жаночай інтуіцыяй, сваім, невялікім яшчэ, вопытам, а болей вопытам гераінь з прачытаных раманаў яна разумела, што гэтыя прыгожыя словы ўсяго толькі азартны кавалерыйскі наскок вопытнага донжуана. Але ж у свеце было так няўтульна і адзінока, столькі незразумелых спраў тварылася наўкола, столькі бруду і злосці было ў душах людзей, што, як яна ўнутрана ні супраціўлялася, яе, нібы папяровы караблік, усё мацней зацягвала ў гэты салодкі зманлівы вір. «Ён вельмі добры, ён цудоўны, мне здаецца, я кахаю яго ўжо тысячу гадоў»,— гледзячы на няўлоўныя прамяністыя агеньчыкі ў чорных вачах земгусара, думала яна. І забывалася ў гэтыя хвіліны пра Мінск, які ноччу сніўся ёй, пра сяброўак і пра Ігара Куркоўскага, прыгожага хлопчыка з мужчынскай гімназіі, што лепш за ўсіх танцаваў мазурку і пісаў сумныя, як у Надсана, вершы.

Яны круціліся ў лодцы каля берага — чакалі Аркадзя. Аркадзь прыйшоў сярдзіты, моўчкі ўзяў вёслы, пачаў веславаць. За бартамі закалыхалася сцюдзёная, шэра-сталёвая вада, што вось-вось павінна была пакрыцца скарынкай лёду. Па вадзе плыло мёртвае жоўтае лісце. Усе глядзелі на гэтае лісце і маўчалі, быццам да нечага прыслухоўваліся, быццам здагадваліся, што наперадзе іх чакаюць такія страты, у параўнанні з якімі восеньскае лісце ўсяго толькі прыгожая, хоць і сумнаватая, дэкарацыя прыроды. Але Дамажыраў не мог доўга маўчаць. Ён зручней выцягнуў ногі ў доўгіх бліскучых

ботах, эфектна прыўзняў каўнер шыняля, загаварыў, адварочваючы твар ад халоднага ветру:

— Яшчэ дзень, два, і тут, дзе мы плывём, будзе лёд. А Расія ўсё не супакоіцца, усё ломіць крыгі, усё бушуе. Вясна зацягнулася... А мне, панове, хочацца цішыні, такой, каб аж звінела ў вушах. Хочацца цёплага лета. Забрацца, як рабінзон, куды-небудзь на востраў у Фінскім заліве. Каб толькі хвалі і неба. І чайкі...— Ён уздыхнуў, дрыготка варухнуў плячамі: — Але гэта, вядома, фантазія. Усе мы, панове, жывём пад шкляным каўпаком часу: ні назад, ні ўперад не вырвацца з-пад гэтага каўпака...

Аркадзь слухаў Дамажырава, ледзь прыкметна ўсміхаючыся. І не зразумець было, як ён ставіцца да красамоўства земгусара. Дамажыраў заўважыў гэта, насцярожыўся, але, як усе самаўпэўненыя людзі, не мог дапусціць, каб ім не захапляліся. І таму спытаўся ў Аркадзя халаднавата, нават рэзка:

— А можа, я не так і не тое гавару?

Гайкевіч налягаў на вёслы, хацеў не адказваць, але не вытрымаў — махнуўшы русай чупрынай, схіліўся ў здзеклівым паклоне:

— Што вы? Мы ловім кожнае ваша слова. Вы — Цыцэрон.

Дамажыраў паблядне́ў, сцяўся, быццам лінулі за каўнер халоднай вады. Потым пагардліва ўсміхнуўся:

— Жартуеце. А Расія ляціць у бездань. І мы разам з ёю. Ды вам, відаць, усё роўна. Скажыце, якой вы партыі?

Аркадзь глянуў на яго:

— Што вам гэта дасць, калі будзеце ведаць? Ну, добра. Я з Беларускай сацыялістычнай грамады.

— Не чуў,— чэсна прызнаўся Дамажыраў.— А якая, калі не сакрэт, у вас праграма?

— Адраджэнне нацыі. Культурна-нацыянальная аўтаномія ў межах Расіі, ці, калі пажадае сойм краю, аддзяленне.

— Вось яно што,— аж прысвіснуў Дамажыраў.— Зразумела... Значыць, ірвяце на часткі шкуру яшчэ не забітага мядзведзя. А я думаў, толькі бальшавікі ваду муцяць... Але мядзведзь яшчэ прачнецца...

Ён рэзка прыўзняўся, аж лодка пахіснулася.

Цяпер Гайкевіч паблядне́ў. Вочы яго з сініх зрабіліся шэрымі. Ён прытармазіў у вадзе вёсламі.

— Слухай ты, Пурышкевіч новаяўлены. Калі б ты не быў госцем, табе б давялося зараз пакупацца.

Абодва яны прыўзняліся, вось-вось счубяцца. Здавалася, дай ім шпагі ці рэвальверы ў рукі, і такая пачнецца дуэль, такі бой, аж рака скаланецца.

Зінаіда кінулася іх мірыць, пусціўшы ў ход надзейную жаночую зброю — слёзы. Больш ушчувала яна, вядома, брата.

— Як табе не сорамна? Ігар Аляксеевіч наш госць, толькі што з фронту прыехаў, а ты... а ты...

Аркадзь зморшчыўся:

— Што — ужо і табе пусціў пыл у вочы гэты Цыцэрон? Можа, на фронт з ім паедзеш? Ды ў яго такіх дурніц хапае...

Ён гаварыў гэтыя словы з помслівай асалодай, быццам біў імі сястру па шчоках.

Раней за ўсіх супакоіўся Дамажыраў. Глыбей нацягнуў на галаву шапку, звёў тонкія губы ў іранічную лінію. Сядзеў, глядзеў, як гатовы выдзерці адно аднаму вочы родненькія брат з сястрою. І ў душы быў задаволены, што Зінаіда стала на яго бок.

Значыць, яшчэ ёсць порах у яго, Дамажырава, парахоўніцах.

Нарэшце Аркадзь як не сшалеў — крутнуў лодку да берага так, што тая зачарпнула вады. Выскачыў на бераг, грымнуў аб зямлю вёсламі і ледзь не подбегам скіраваў у бок маёнтка. З-пад ягоных ног плюхнуліся ў ваду камякі цяжкой рудой гліны.

Ля маёнтка ўжо ляскацелі калёсы — Антон Радзімовіч на сваім Чумаку ехаў браць дошкі.

— Пачакай! — махнуў яму рукой Аркадзь і пайшоў да калёсаў.

А ў лодцы Зінаіда беленькай насоўкай выцірала з вачэй слёзы.

— А брацік у вас нервовы,— зноў пераходзячы на шэпт, гаварыў ёй Дамажыраў, і вусы яго былі такія чорныя і мяккія.

III

Усю ноч Лаўрэн Лапыцька не мог заснуць. І не сказаць, каб мулка было паслана ці прусы завяліся. Усё было добра, але не спалася — думкі не давалі спаць.

Аб шыбіну з панадворку церлася галіна старой ліпы. Гук ад гэтага атрымліваўся чэрствы, хліпучы. «Адсяку заўтра»,— думаў Лаўрэн і зноў, лежачы на палацях, каторы ўжо раз, расслабленым паглядам абводзіў усю сваю невялікую хатку. Нічога не было відаць, толькі цьмяна выплывала з густой цемры акенца ды свяціўся ражок абраза, што быў абкручаны сярэбранай паперкай.

Гэта была ўжо не першая яго бяссонная ноч. З той пары, як памерла жонка Ганна, а здарылася гэта мінулай восенню, на пакровы, нешта не давала яму спаць. Ён пачаў баяцца ночы, клаўся звечара рана, думаў — засне, але галава заставалася ясная, а начная цішыня была звонкая, і ён паступова прывык: за доўгія ночы ўжо некалькі разоў перадумаў сваё жыццё з самага пачатку.

Ганну яму было вельмі шкода. Жылі дружна, наладзілі такую-сякую гаспадарку, займелі чацвёра дзяцей, і на табе — усё, як карова языком злізала. Пачалося з таго, што раптоўна, у адну ноч, памерлі трое дзяцей — учадзелі. Было гэта пад восень. Звечара Лаўрэн добра напаліў у печы, а юшку ў коміне зачыніў рана. Усе паснулі, моцна спалі, і дзеці ўжо не прачнуліся. Толькі большанькі, дванаццацігадовы Грышка, раптам страшна крыкнуў праз сон, усхапіўся з ложка, дабег да дзвярэй і ўпаў ля парога, перакуліўшы вёдры з вадою. Неўзабаве памёр чацвёрты сын — ад тыфусу, які занеслі ў вёску бежанцы. А праз колькі месяцаў і Ганны не стала: узяла сабе ў галаву смерць дзяцей, уся ссохла, змарнела, толькі вочы свяціліся. Перад самай яе смерцю Лаўрэн хліпаў носам, гаварыў ёй:

— Дзякуй табе за гэта жыццё... Можа, там сустрэнемся.

Ганна ўткнулася яму тварам у плячо, заплакала:

— Ой не сустрэнемся, Лаўрэнка. Закапаюць у зямлю, чэрві з'ядуць — і ўсё...

Ён справіў добрыя хаўтуры па жонцы і па дзецях, наняў у Бабруйску яўрэяў-каменячосаў, якія з дзікіх палявых валуноў высеклі прыгожыя помнікі. Пяць помнікаў паставіў ён. Дзеля ўсіх гэтых выдаткаў прадаў сваю палосу — дзве дзесяціны зямлі — Кандрату Гаранку. І засталася ў яго хатка, сабачка Мурзік і тры курыцы, што сядзелі пад печчу і кожную ноч лопалі там крыламі, сонна варушыліся ў пяску.

Лаўрэн устаў з палацяў, падышоў да лавы, пачаў вадзіць па ёй рукой — шукаць конаўку, каб напіцца вады. Трацiць запалкі не хацелася, і ўсё гэта ён рабіў у поцемку. Рука наткнулася на нешта мяккае, цёплае — ён аж уздрыгнуў. Потым успомніў: Цьфу! Гэта ж Мішка Сырамалот, кватарант, прыйшоў учора позна з вяселля ў маёнтку, быў выпіўшы і заваліўся спаць на лаву. Мішка гэты быў далёкі Ганнін родзіч з Арэхаўкі, служыў конюхам у маёнтку. І ягоныя бацькі ўпрасілі Лаўрэна, каб хлопец кватараваў у яго. Лаўрэн згадзіўся, жывая душа ў хаце, дый трохі бульбы і сала плоціць за начлег.

— Мішка,— прасіпеў Лаўрэн,— чаго ты тут разлёгся, чортаў хлопец? Хіба няма ложка? Застудзішся ж. Куды ты вядро з вадой дзеў?

Але Мішка толькі нешта мармытаў і перавярнуўся на другі бок. Лаўрэн не стаў будзіць хлопца, сам знайшоў вядро, напіўся вады. П'ючы, успомніў, што Мішка ўчора слаба стаяў на нагах, быў дужа вясёлы і крычаў: усім царам і падцаркам наступіў канец, у Петраградзе за галоўнага цяпер Ленін і ён усіх парабкоў і яго, Мішку, не дасць у крыўду.

Лаўрэн вельмі ўзрадаваўся, што ўспомніў гэтыя Мішкавы словы.

Многія ў вёсцы чакаюць не дачакаюцца перамены ў жыцці: чакаюць канца вайны, голаду, галечы. Сам Лаўрэн даўно гэтага чакае, хоць ён і няўдаліца, прапашчы чалавек, хоць яму часам жыць не хочацца, як успомніць пра дзяцей і Ганну, што ляжаць у зямлі.

«Каму першаму сказаць пра гэта? — падумаў Лаўрэн.— Ну, вядома ж, Бацюту, кавалю. Ён усё гаворыць, што толькі Ленін дасць сялянам зямлю і волю.

Ну і ўзрадуецца ж Бацюта!»

Ледзь развіднела, Лаўрэн абуў буркі са старымі галёшамі, прывязаў галёшы дротам, каб не звальваліся, накінуў на плечы кажух і хуценька выйшаў на вуліцу, не разбудзіўшы Мішку.

Зямля, як соллю, была абсыпана шэранем. З некаторых комінаў віўся ў неба дым. Але Чмялі яшчэ спалі, бо работы ў полі і на лузе ўжо не было, а снег, каб паехаць у дровы, яшчэ не лёг. Над хатамі, у бледным світальным небе, калыхаліся чорныя ліпы. Яшчэ відны былі слабыя зоркі, але іх ужо змывала з неба, як памялом змятала, халоднае вішнёвае світанне. Недзе ўдалечы маўклівых палёў нараджалася сонечнае ззянне, і ад гэтага на душы было спакойна і прасветлена, быццам ранішняй чыстай расой нехта дужы і вясёлы абпырскаў душу.

Лаўрэн прайшоў па ціхай вуліцы, звярнуў у выгараджаны жэрдкамі завулак, спусціўся ў лагчыну, што зарасла альхоўнікам. Тут, над неглыбокім балоцістым ручаём, які ў вёсцы называлі Гразёўкай, стаяла кузня. Належала яна кульгаваму яўрэю Хаіму Шэрману, але ён хварэў на галаву, жыў у Бабруйску і толькі раз у два ці тры месяцы прыязджаў у Чмялі, каб забраць грошы за арэнду ў Андрэя Бацюты, што працаваў у кузні. Казалі, Хаім раней жыў недзе ў Кішынёве, і там яму ў час пагрому перабілі нагу, спалілі ягоны дом. Калі пры ім нехта раптам крычаў: «Агонь!» — ён бялеў, закрываў твар рукамі і адразу адыходзіўся ад людзей убок.

Кузня была невялікая, з пачарнелай ад часу і дыму гонтай на даху, з вузкім акенцам. Да яе быў прыбудаваны станок — каваць коней.

Яшчэ з завулка Лаўрэн убачыў — свеціцца ў акне кузні чырвоны агеньчык, быццам вока нейкага звера бліскае з цемры. Значыць, Бацюта ўжо там.

Ён адчыніў дзверы кузні, і адразу ў твар яму ўдарыла гарачым паветрам, дымам, пахам гарэлага драўнянага вугалю, звонам жалеза. Белыя воблакі пары

плавалі ўсюды.

— Здароў, Андрэй! — весела гукнуў Лаўрэн, асцярожна ступаючы, каб за што не зачапіцца. Толькі праз колькі хвілін ён зразумеў, што не самая ранняя птушка сёння: у кузні акрамя Бацюты і яго памагатага,

сына Шэрмана Лёўкі, ужо былі Яўхім Сцепанюга і Людвік Перуноўскі. «Чаго яны так рана прывалакліся? — з нейкай рэўнасцю падумаў Лаўрэн.— Можа, Мішка, п'яная галава, паспеў ужо і ім пахваліцца навіной?»

Але ў кузні, відаць, яшчэ нічога не ведалі, бо твары ва ўсіх былі звычайныя, будзённыя. Гэта падбадзёрыла Лаўрэна.

— Здароў, Лаўрэн,— моцна сціснуў яму руку сваёй мядзведзевай лапай Бацюта.

Быў ён запэцканы, гарачы, з мокрымі грудзьмі, што бялеліся праз расхрыстаную кашулю. Нават на жоўтых вусах успыхвалі кропелькі поту.

— Як твае куры маюцца? — тыцнуў Лаўрэну сухенькую руку Перуноўскі, дробненька засмяяўся.

— Чакаюць, калі твой певень у госці прыйдзе,— адказаў Лаўрэн.

Перуноўскага ў вёсцы звалі «шляхціц». Можа, і былі яго продкі са шляхты, але сам ён быў звычайным чорным мужыком, што многа рабіў, мала еў і меў шасцёра дзяцей. Гэта не перашкаджала яму, аднак, быць ганарыстым, хоць перад самім д'яблам трымаць рукі ў бокі.

Яўхім Сцепанюга, худы, ваўкаваты, глянуў на Лаўрэна спадылба, моўчкі паціснуў руку.

«Вось чалавек: абцугамі слова не выцягнеш»,— падумаў Лаўрэн.

Відаць, сваім прыходам ён перарваў гаворку, бо праз некалькі хвілін, калі скончылі здароўкацца, яна ўсчалася зноў.

— Дык пайшоў я да гэтага самага Гаранка,— расказваў Перу Ноўскі, збіўшы на патыліцу пакамечаную шапку,— а яны ядуць. Усё сямейства, значыцца. Сёрбаюць зацірку, аж за вушамі трашчыць. Яда, я вам скалеў, небагатая, хоць яны і багацеі. Мая Агата такую самую зацірку дзецям варыць. Куды ён, Гаранок, гэтыя грошы дзяе? У Сяргеевічах, дзе я раней жыў, быў такі пан Сякерскі. Дык ён перад смерцю ўсе грошы з мёдам паеў, каб нікому не засталіся. Можа, і

Кандрат так зробіць...

— Гаранок хітрэйшы, чым ты думаеш,— звузіўшы ад гарачыні вочы, сказаў Бацюта.

Ён трымаў у горне жалезны брус, правай рукой вагаў рычаг ад мяха. З горна вогненным роем выляталі іскры, асвятлялі ягоны твар. Потым Бацюта схапіў малаток, сказаў падручнаму:

— Давай, Лёва, кладзі жалеза на кавадла...— і праз якую хвіліну крэкнуў: з усяго пляча ўдарыў молатам па чырвоным метале. Шуганулі ў бакі іскры. Жалеза паддавалася моцным ударам мякка, як воск, сплюшчвалася. Лёва, рабы, гарбаносы, круціў вішнёвы брус

абцугамі, а Бацюта біў і біў молатам, быццам перад ім, на кавадле, ляжаў закляты вораг, якога трэба знішчыць.

— Ну і люцыпары,— задаволена прыцмокваў языком Перуноўскі, засланяючыся рукамі ад іскраў. Нават маўклівы Сцепанюга не вытрымаў, сказаў пра Бацюту:

— Добра б'е...

А Бацюта, памахаўшы молатам, стаяў, цяжка дыхаў, грыз жоўты вус. Потым выцер далонню пот з ілба — на лбе засталіся чорныя плямы,— зноў загаварыў пра Гаранка:

— Хітрэйшы ён, мужыкі... Ён зямлю купляе. Кавалак у пана Незабітоўскага, кавалак у таго, у сяго. Вось і ў цябе, Лаўрэн, купіў. Яго грошы, яго багацце — зямля. А потым будзе ў арэнду гэтую зямлю здаваць, скуру здзіраць з арандатараў. І зноў свой капітал павялічыць.

— Бач ты,— шмаргануў рукой па рэдкіх сіваватых валасах Перуноўскі.— Дык ядуць яны, а тут у хату старцы зайшлі: сляпая Дзюндзіха з унучкай. Думаеце, ім Гаранок хлеба даў ці сала? Трасцу! Нос адвярнуў і сваю зацірку малоціць. А яго Васіль, гэты жарабок, ціхенька яйка разбіў, выпіў, вады хутчэй у шкарлупіну ўліў і падае малой. Тая дурніца і п'е. А Васіль аж калоціцца, смяецца...

— Гэты смех ім яшчэ бокам вылезе,— раптам павольна, з нечаканай злосцю ў голасе, сказаў Сцепанюга.

Усе глянулі на яго. Тут і хацеў Лаўрэн паведаміць усім сваю навіну, але знадворку раптам бухнулі ў дзверы, і ў кузню як не ўваліўся Сямён-артылерыст, пакалечаны пад Порт-Артурам. Быў ён, як заўсёды, без шапкі, густыя, глiністага колеру валасы кучаравіліся. Ён паздароўкаўся, сеў проста на парог і весела паскардзіўся:

— Зрабіў бы ты мне жалезную нагу, Андрэй. А то нешта мая дзеравяная мяне не трымае. Руку не трэба, ліха з ёй — адной трымаць лыжку хопіць, а нагу зрабі, бо мужыку трэба па зямлі цвёрда хадзіць.

Ён гаварыў і спрытна круціў адной рукой цыгарку, шырокім чырвоным языком змочваў газетную паперу. Не дачакаўшыся адказу, зноў загаварыў:

— Што будзе з вайной, Андрэй? Немцы ж нашых б'юць, як камароў! Паддаліся германцу, ах вы, ваякі, мурашак вам у штаны...

— Табе, Сямён, японцы ў каршэнь натаўклі, а ты хочаш Вільгельма скруціць у бараноў рог,— падкалоў яго Перуноўскі.

Сямён ні кропелькі не пакрыўдзіўся, пыхнуў тытунёвым сінім дымам:

— Не хачу я нікога круціць, Людвічак... Мне самому нагу і руку адкруцілі. А японцы, я скажу, хоць і дробныя з выгляду, а дужа

баявыя... Хоць што рабі, лезуць, і ўсё. Помню, форма ў нас белая была, прыгожая. Дык яны шпок і шпок нашых. Іх нідзе не відаць, а нашы хлопцы, як снапы, падаюць. Вахмістр і кажа: форма наша белая, дужа прыкметная. І мы ўсе тады — плёх! — у лужыну, дзе ўбачым, каб чорнымі зрабіцца. Як свінні, гразь шукалі...

— Вайну трэба канчаць, Сямён,— строга звёў бровы на пераноссі Бацюта,— каму яна што добрае зрабіла? Бачыш — і цябе пашкуматала. І тысячы такіх, як ты. Толькі багацеям яна падабаецца, бо яны не ведаюць, што такое акоп, што такое, як куля па жывой косці стукне. Ім грошы трэба, чужая зямля. А народ хай лье кроў, народу многа. Ленін кажа: далоў вайну! Мір і хлеб беднаму люду! І таварыш Ленін пераможа.

Тут Лаўрэн не вытрымаў. Адчуваючы, як калоціцца ад узбуджэння сэрца, ступіў крок да Бацюты:

— Андрэй, твой Ленін перамог. У Петраградзе, як гэта яе?.. рэла... рэвалюцыя. Мне Мішка Сырамалот сказаў.

Ён ажно ўспацеў, і не ад гарачыні, ад хвалявання душой чуў, што гаворыць вельмі важныя для Бацюты і для ўсіх словы.

Бацюта ледзь не выпусціў з рук малаток, схапіў Лаўрэна за рукаў кажуха:

— Што ты сказаў? Дзе ты чуў гэта?

— Мне Мішка, Ганнін сваяк з Арэхаўкі, сказаў. Ён у маёнтку служыць і там учора чуў... Ды не цягні ты так за рукаў, Андрэй, адарвеш, а прышыць няма каму будзе...

Усе паўставалі з месцаў, глядзелі на Бацюту, чакалі, што ён будзе казаць. Бацюта стаяў, святлеў тварам, быццам узыходзіла ў ягонай душы сонца. Потым садраў з галавы кепку, шпурнуў яе на брудную земляную падлогу:

— Пачалося, хлопчыкі вы мае... Ах, як добра!

І ўсе заўсміхаліся разам з ім, зрабіліся вясёлыя, бо ведалі — Бацюта такі чалавек, што не будзе дарэмна радавацца і смяяцца, і калі ён радуецца, значыць, прыйшла сапраўдная, вялікая радасць, радасць для ўсіх.

— Лёза, тушы агонь! — крыкнуў Бацюта.— Усе пойдзем на вёску. Пойдзем да Мішкі Сырамалота.

Узбуджанай гурбой выйшлі яны з кузні, толькі Лёва застаўся, глянуўшы на ўсіх сумнымі вачыма. Неба ўжо было зусім светлае. З-за недалёкага лесу выкочвалася сонца, яркае, прыгожае, нібы чырвонае яйка на вялікдзень. Яны ішлі па балоцістай лугавіне да вёскі. Уперадзе шырока і размашыста крочыў Бацюта. За ім ледзь не подбегам спяшаліся Лаўрэн Лапыцька, Людвік Перуноўскі і Яўхім Сцепанюга.

Сямён-артылерыст адстаў, чыкільгаў далёка ззаду, весела махаў мыліцай, нібы шабляй.

Лаўрэн глядзеў на шырокую спіну Бацюты, на ягоную патыліцу, дзе ў русых спатнелых валасах быў відзён вузкі светлы паясок, выціснуты кепкай — кепку Бацюта так і не падняў з падлогі ў кузні,— і радаваўся, што сябруе з гэтым смелым моцным чалавекам, што першы паведаміў яму навіну, ад якой, здаецца, зрабілася вышэйшае неба.

— Не твой Ленін, як ты сказаў, Лаўрэн, а наш, наш Ленін,— гаварыў Бацюта, лёгка пераскокваючы лужыны, зацягнутыя зыркім блішчастым лёдам. Ён чакаў гэты дзень, верыў у яго і ўсё-ткі трошкі разгубіўся ад навіны, трошкі пайшла кругам галава, быццам выпіў нечага моцнага. За свае сорак гадоў, пражытых на зямлі, многае давялося яму перажыць і ўбачыць. Нарадзіўся ў гэтых мясцінах, трохі далей адсюль па Бярэзіне, у лясной вёсачцы. У дваццаць гадоў разам з бацькамі, з братамі і сёстрамі паехаў у далёкую Сібір, дзе, як казалі, перасяленцаў чакаюць малочныя рэкі, дзе, колькі хочаш, можаш араць зямлі, толькі вызвалі яе ад тайгі. У той тайзе, казалі, расце дзіўная ягада — вінаград, саладзей якой нічога няма на свеце. Па дарозе ён згубіўся, галадаў, спаў у канавах і ў скірдах саломы. Ён забыў смак хлеба, але ў цёмныя восеньскія ночы сніў у кампаніі такіх жа галодных бадзяг залатую ягаду-вінаград, якую ў дрымучых лясах вартуюць мядзведзі. Потым трапіў у Маскву, працаваў на тэкстыльнай фабрыцы, на заводзе, уступіў у бальшавіцкую партыю, быў паранены на Прэсні. Была сібірская ссылка, закаваны льдом і засыпаны снегам Енісей, кедры над ім, чорныя і вострыя, падобныя на штыкі салдат, што вялі яго па вуліцах Краснаярска ад вакзала да перасыльнага пункта. У пятнаццатым годзе яго параніла на фронце ў Галіцыі. Валяўся ў шпіталях, трохі падлячыўся і быў як добры слесар накіраваны ў Маскву ў ваенны поездмайстэрні. Тут былі свае. Шмат бальшавікоў. Асабліва спадабаўся яму Серабракоў, спагадлівы, сардэчны чалавек. Разам з поездам трапіў у родныя мясціны, у Бабруйск. А адтуль, як параіў той жа Серабракоў, летам перабраўся ў Чмялі, бо па стану здароўя ўрачы прызналі непрыгодным для вайсковай службы. На другі ж дзень узяў у рукі касу і пайшоў касіць сена на панскім лузе. Чмялёўцы падзівіліся, пастаялі і таксама пабеглі дадому па косы. Тая касьба, тая ліпеньская раса зрабіла яго для мужыкоў сваім чалавекам.

Усяго, як кажуць, хапала ў жыцці, і солі, і гарчыцы, і вось зараз ён сустрэў дзень, аб якім марыў з сябрамі яшчэ ў студзёных сібірскіх снягах.

Яны ўвайшлі ў Лаўрэнаву хату, толькі Сямён-артылерыст цягнуўся яшчэ недзе ззаду. Мішка спаў. На яго поўных, крыху адтапыраных губах уздрыгвала ўсмешка.

— Уставай, кот марцовы,— нецярпліва тузануў яго за плячо Лаўрэн.

Мішка ўсхапіўся з лавы, спалохаўся, не разабраўся, што за людзі будзяць. Відаць было — яшчэ туманіць яго ўчарашні хмель.

— Скажы, Міхал,— звярнуўся да яго Бацюта,— хто табе сказаў, што ў Петраградзе рэвалюцыя? — Голас Бацюты перарываўся ад хвалявання.

— Вунь яно што,— павесялеў Мішка,— а мне здалося — гэта я ў канюшні сплю і парсюк Гайкевіч мяне за каўнер бярэ, будзіць. Лявон Цмыг сказаў. Ён у Бабруйск ездзіў — мыла і цвікоў купіць. А там яго швагер на фарштадзе робіць. Ды ты не сумлявайся, Бацюта, точна — гэта самая яна і ёсць, як яе...

— Рэвалюцыя,— падказаў Людвік Перуноўскі.

— Ага...— Мішку падабалася, што ўсе мужыкі і сам Бацюта так прыслухоўваюцца да ягоных слоў.— І яшчэ Гайкевічаў Аркадзь гаварыў па дарозе, калі яго Лявон у маёнтак вёз...

— А гэты шпачок навошта сюды прыехаў? — здзівіўся Бацюта.

— Відаць, на бацькавы харчы,— услых падумаў Лаўрэн,— згаладнеў у горадзе, па дзеўках бегаючы,..

— Даліся табе, Лаўрэн, гэтыя дзеўкі,— хмыкнуў Перуноўскі,— пільнуй лепш сваіх курэй...

— От чалавек,— Лаўрэн аж ляпнуў сябе рукамі па сцёгнах,— усюды свой язык, як шыла, уточыць...

— Дзевак у яго, вядома, хапае,— гаварыў між тым Мішка Сырамалот, і голас яго прарэзваўся, дужэў,— толькі ён усюды ездзіць і сюды прыехаў, каб за яго галасавалі на выбарах, што будуць...

— Не за яго, а за ягоную партыю,— паправіў Мішку Бацюта,— за беларускіх эсэраў. І яны, бач ты, заварушыліся... Нацыянальныя павадыры,— вочы ягоныя пастражэлі, ён кашлянуў у кулак.

— А яшчэ — ведаеце што? — Мішкавым навінам, здавалася, не будзе канца.— Там у маёнтку, у флігелі, Іван Міхейчык ляжыць збіты, як горкі яблык. І з ім Радзімовічаў Антон. Лес яны хацелі секчы, ды Баўтрук, ваўчыная морда, вынюхаў. Білі іх, аж мяса ў бакі ляцела...

— Хто біў? — пацямнелымі вачыма глянуў на яго Бацюта.

— Казакі. І Гайкевіч, аканом наш, круціўся там, радаваўся.

— Радаваўся, кажаш? — Бацюта павярнуўся да Сцепанюгі.— Яўхім, бяры сваіх старэйшых хлопцаў. А ты, Людвік, пакліч з таго канца Рыгора Крываноса і Пятра Зайца. Хто ў нас яшчэ ў камітэце?

Павел Макароў? Зойдзем і па яго.— Ён шырокімі белымі зубамі грыз вусы.— Мужыкі, гайда ў маёнтак! Будзем бальшавіцкую сялянскую ўладу ў Чмялях аб'яўляць.

— Вось гэта дзела! — зазззяў Мішка.— Гэта па-нашаму...

Нахіліўшыся над цэбрам, ён выліў сабе на галаву ледзь не вядро вады. Страсянуў мокрымі валасамі, што адразу пацямнелі, усміхнуўся:

— Давай каманду, Бацюта.

— Там жа казакі,— асцярожна пачухаў патыліцу Лаўрэн.

— Ну і што? — ужо ішоў да дзвярэй Бацюта.— Ім вайна з германцам і з мужыком даўно ўжо абрыдла, як горкая рэдзька. Пойдзем, хлопцы.

Усе выйшлі з хаты, акрамя Лаўрэна, што схапіў раптам нейкую анучыну і пачаў, старанна і злосна, выціраць на падлозе ваду, якую разліў Мішка.

— Бач ты, наплёхаў, як свіння,— мармытаў ён, поўзаючы на каленцах.— Ведама ж, не свая хата... Хай падлога гніе...— І хацелася яму, каб хутчэй аціхлі цвёрдыя размашыстыя крокі за акном, на вуліцы. Так яму хацелася гэтага, што здавалася, вось-вось ён заткне вушы. Да Лаўрэнавай хаты між тым жвава чыкільгікаў Сямён-артылерыст. Убачыўшы, што ўсе выходзяць на двор, спытаўся, цяжка дыхаючы:

— Куды вы, народ?

— У маёнтак. Пойдзем Гайкевічу пяткі паказычам,— весела трасянуў мокрай галавой Мішка,— зараджай, артылерыя, сваю марціру,— ён кіўнуў на Сямёнаву мыліцу.

Сямён узрадаваўся, закруціў мыліцай над галавой, аж паветра засвістала, сказаў Мішку:

— Гэта, брат ты мой, драўляная карцеч. Па спіне як перацягне, забудзешся, дзе матчына магілка.

А да іх ужо пад'язджаў на калёсах Яўхім Сцепанюга. Ён стаяў на ўвесь рост, шлёгаў каня пугай. Сыны, іх было трое, маўклівыя і сур'ёзныя, як бацька,

сядзелі, падкурчыўшы ногі.

— Гэй, Сцепанюжачкі,— крыкнуў ім Мішка.— Куды кіруеце? Можа, у Запольцы, на вечарынку?

Сцепанюгі заўсміхаліся.

— Сядай сюды,— сказаў старэйшы, Мікіта,— тут салома мяккая.

— Сядайце і вы,— глянуў Яўхім на Бацюту і Сямёна-артылерыста,— усім месца хопіць. Там Людвік таксама каня запрагае...

Калёсы заляскаталі па мёрзлай вуліцы.

— Стары Ігнат памёр,— уладкоўваючы сваю драўляную нагу ў калёсах, сказаў Сямён-артылерыст.— Сёння хаваць будуць.

Усе замоўклі. Толькі Мішка, вясёлая душа, і тут не вытрымаў:

— Паспяшаў дзед. Новае жыццё пачынаецца, а ён памёр.

— Ціха ты,— строга абарваў яго Яўхім Сцепанюга,— чалавек памёр, а ты зубы скаліш.

Калі калёсы ад'ехаліся ад хаты, Лаўрэн Лапыцька шпурнуў у кут мокрую анучу, колькі хвілін пастаяў моўчкі, заплюшчыўшы вочы. Чаму ён не паехаў разам з усімі? Хіба ён палахлівец, смерці баіцца? Не. Ягоныя дзеці малыя памерлі ўжо, чаго яму, старому, сівому, баяцца сырой зямелькі? Усе там будзем. Але ён не мог узняць руку на закон, на людзей, казакоў, лесніка, аканома, якія ахоўвалі гэты закон. Закон быў, вядома, глухі да яго, Лаўрэнавага, гора, закон быў сляпы, бо не бачыў Лаўрэнавых слёз, але гэта быў закон, нешта ўсеўладнае і непераможнае, як смерць.

Ён павольна выйшаў з хаты, пастаяў на двары. Ён думаў: «Якую добрую навіну прынёс я сёння Бацюту і ўсім. Як усе ажылі, узрадаваліся. І ўсе паехалі ў маёнтак, хоць у казакоў вострыя шаблі. А я застаўся. Я застаўся, хоць у мяне гора большае за іхняе і яго ніхто нічым не змерыць...» Такія думкі нарадзілі ў душы нейкае шчымлівае шкадаванне да самога сябе, слабога, безабароннага, здавалася, хвіліна-другая — і ён заплача. Але ён не заплакаў, бо слёз пасля Ганнінай смерці ўжо не было. Ён ціха выйшаў з двара, пайшоў па вуліцы. З цёмнага неба ляцелі рэдкія белыя сняжынкі. Быццам недзе патухла вогнішча, і вецер раздзімаў сівы попел. За ім з двара выбег Мурзік, весела гаўкнуў.

— Мурзік, ідзі дамоў,— тупнуў нагою Лаўрэн.

Але сабачка стаў на заднія лапы, віляў хвастом.

— От я табе дам,— Лаўрэн сагнуўся, падняў з зямлі трэску, кінуў ёй у Мурзіка.

Той трохі адбегся, сеў, глядзеў на гаспадара, і вочы ягоныя былі, як чалавечыя.

Лаўрэн пайшоў далей па вуліцы, потым агляну ўся — Мурзік бег следам. І ад гэтай сабачай вернасці і любві пацяплела раптам сэрца, сціснулася ў мяккі камяк, заныла даўно страчанай пяшчотай.

— Ідзі сюды,— пазваў ён Мурзіка,— ідзі, мой беленькі, харошанькі...

І калі сабака падбег, Лаўрэн узяў яго на рукі, пачаў гладзіць.

Так ён ішоў па вуліцы і праз колькі хат убачыў, як на двары стаіць Антон Радзімовіч, сякерай няўмела вычэсвае крыж.

«Гэта ж Ігнат памёр,— успомніў Лаўрэн.— Быў чалавек і патух, як свечка...»

Ён зайшоў на Радзімовічаў двор, убачыў, што рукі ў хлопца дрыжаць.

— Дай памагу,— сказаў Лаўрэн.

Ён узяў сякеру, тапарышча было цёплае ад Антонавых рук, лёгенька цюкнуў па крыжы. Белая трэска ўпала на зямлю. Падбег Мурзік, панюхаў.

«І чалавек, як гэтая трэска,— думалася Лаўрэну.— Крычым: хлеба, зямлі. А прыйдзе дзень — самі ў гэту зямлю ляжам...»

— Ты ж, здаецца, учора ў маёнтку быў,— падняў ён вочы на Антона.

— Ат, і не пытайцеся, дзядзька,— Антон уздрыгнуў, згорбіўся і адышоўся ўбок.

Між тым калёсы, якімі кіраваў Яўхім Сцепанюга, весела грукацелі ўжо на ўскраіне Чмялёў. Трохі ззаду ехаў Перуноўскі. Каля самай крайняй хаткі, нізенькай, небагатай, Бацюта сказаў Сцепанюгу: «Пачакай трошкі, Яўхім»,—і саскочыў з калёсаў. Тут ён жыў, быў, як казалі вяскоўцы, у прымах у Тэклі Гарбунковай, адзінокай салдаткі. Гэта яе твар бялеў у акне, гэта яна сядзела ля акна, глядзела на вуліцу і, ён ведаў, чакала яго. Нялёгка заваяваў ён горкае і салодкае шчасце кахаць гэту жанчыну. Чалавек у гадах, суровы, нават грубаваты, ён у глыбіні душы з нейкай трапяткой юначай сарамлівасцю марыў сустрэць на сваім нялёгкім шляху тую, якая змагла б падзяліць з ім радасць і гора, болей гора, бо мала пакуль што радасці выдзеліў яму лёс. Муж яе загінуў у першыя месяцы вайны. Бацюта ведаў: яна кахала свайго мужа, вочы па ім выплакала, як прызнавалася сама. Прыйшла неяк у кузню, ціхая, сумная, папрасіла вілкі паправіць — паламаліся, і нечым чыгуны ў печ ставіць.

«Колькі ж у цябе, Тэкля, Чыгуноў?» —пацікавіўся Бацюта.

Ціха адказала, глянуўшы яму ў вочы:

«Адзін чыгунок...»

«А што, калі я свой чыгунок прынясу... Два будзе»,— ён і цяпер, і, відаць, усё жыццё будзе помніць, як сказаў тады гэтыя словы, як, халадзеючы сэрцам, чакаў, што яна адкажа.

Бацюта ўвайшоў у хату, і Тэкля адразу ўстала яму насустрач:

— Можа, паясі?..

— Не, Тэкля, паем пазней.— Ён паклаў руку ёй на плячо.— У маёнтак зараз еду...

— Чаго? — спачатку не зразумела яна. Потым, па Бацютавых вачах, яшчэ па нечым, што было відно толькі ёй, здагадалася, папрасіла:

— Андрэечка, ты ж глядзі — беражы сябе...

— Добра, Тэкля,— адказаў Бацюта.

Ён увайшоў у камору, у куце разгроб старое рыззё, рознае ламачча. Дакапаўшыся да самага ніжняга бервяна каля падлогі, знайшоў белую дошчачку, павярнуў яе ўбок. З выдзеўбленай у сцяне схованкі дастаў загорнуты ў палатно рэвальвер, жменьку патронаў. Патроны высыпаў у кішэню, рэвальвер працёр ад змазкі, схаваў за пазуху.

— Ты ж прыходзь вячэраць, Андрэй,— сказала Тэкля.

Ён нічога не адказаў, толькі кіўнуў галавой, выйшаў на вуліцу.

Калі яны ўехалі ў лес, Сямён-артылерыст спытаўся:

— Скажы, Андрэй, а што з зямлёю бальшавікі зробяць?

— Як што? Зямлю аддадзім тым, хто на ёй працуе, сялянам. Без выкупу.

Бацюта глядзеў уперад, і яго валасы струменіліся пад ветрам.

— А ўсе ж гавораць, што трэба чакаць Устаноўчага сходу, што толькі ён, значыцца, гаспадар зямлі. А калі той сход, бог ведае.

— Не ўсе так гавораць, Сямён, а эсэры, сацыялісты-рэвалюцыянеры. Іхні Несцераў у Савеце сялянскіх дэпутатаў у Мінску за начальніка. Але я думаю, нядоўга яму цяпер сядзець там засталося.

Калёсы падскоквалі на каранях, вузкая блакітная палоска неба ззяла ўгары, вецер шумеў у верхавінах дрэў, матлялася на ветры сівая грыва каня, а яны ўсё ехалі, і з кожнай хвілінай набліжаўся маёнтак. Яны не ведалі, што іх чакае там. Але яны ведалі — надышоў іхні дзень, на іхнюю вуліцу, забытую людзьмі і богам, прыйшло свята.

Прыехалі на двор маёнтка, выскачылі з калёсаў, агледзеліся. Усё наўкола быццам вымерла. Вокны на ніжнім паверсе панскага дома былі глуха зачынены аканіцамі. З верхняга паверха, з крайняга акна, палахліва выглядваў нечы твар — белы, маленькі кружочак прыляпіўся да шкла. Мішка пагразіў кулаком — той адразу знік — тузануў Бацюту за рукаў:

— Пойдзем да парабкоў у флігель. Там Іван ляжыць. Здорава яму са спіны крывянку пусцілі...

Пад'ехаў Людвік Перуноўскі. З ягоных калёсаў вываліўся стары Міхейчык, слёзна глянуў чорнымі вачыма:

— Дзе мой сын?

Яму ніхто не адказаў. Усе моўчкі ішлі да флігеля, міжволі азіраючыся, бо з-за кожнага вугла ў спіну маглі ўляпіць кулю. Міхейчык борздзенька бег збоку, як худы малы хлапчук, у якога чамусьці маршчыністы лоб і снежныя ад сівізны валасы.

Мішка бухнуў нагою ў нізенькія чорныя дзверы, усе гуртам увайшлі ў флігель, і на імгненне халадок пабег між лапатак — на лаве

каля прасторнай няўклюднай печы, у якой віднеліся закураныя чыгуны і вёдры, сядзелі казакі, чатыры ці пяць чалавек.

«Ну і ўліплі»,— падумалася Мішку, але ён нічым не выдаў сваёй разгубленасці, бо заўважыў, што твары ў Казакаў дужа дабрадушныя, мірныя, нават вінаватыя.

Усяго нейкую хвіліну працягвалася маўчанне. Потым самы пажылы з Казакаў, плячысты, са смуглым тварам, на якім сінеў доўгі рубец, узняўся з лавы, чамусьці зняў шапку, падышоў да Бацюты, відаць, здагадаўся, што сярод усіх гэтых людзей ён самы галоўны.

— Грамадзянін начальнік,— сказаў казак, і голас у яго быў мяккі,— адваяваліся мы. Той, каму пралітай крыві мала, падаўся ў бок Бабруйска. Сотнік Панкратаў іх павёў. А мы вось,— ён паказаў рукой на сваіх таварышаў,— рашылі шаблі ў зямлю ўваткнуць. Да сваіх станіц, да жонак і дзетак будзем дабірацца.

— Ну і правільна,— адразу ажыў, павесялеў Мішка,— няма ўжо з кім ваяваць, станіца. Супроць народнай рэвалюцыі не папрэш.

Усе загаманілі, заўсміхаліся, замахалі рукамі, быццам некалькі хвілін да гэтага былі сонным мёртвым лесам, ды падзьмуў вецер, наляцеў віхор і разбудзіў лес.

— Дзе мой сын? — як не закрычаў раптам Міхейчык і, адзіны з усіх, з нянавісцю глянуў на Казакаў.

Пажылы казак увабраў галаву ў плечы, паказаў рукой на яшчэ адны дзверы, што былі прарэзаны каля самай печы:

— Там, за сцяной на саломе, нейкі хлопец ляжыць. Панкратаў з рыжым Казловым яго білі.

Міхейчык, як маленькі злы певень, рынуўся ў гушчу Казакаў, распіхаў іх, плечуком ударыў у дзверы.

Проста на падлозе, уткнуўшы галаву ў салому, ляжаў Іван, голы па пояс. Над ім завіхалася маладзенькая кухарка з маёнтка Матруна Сазанавец, светлавалосая, невысокая, смяшлівая. Яна прыкладвала да чырвонай Іванавай спіны нейкія кампрэсы ці прымочкі. Ёй памагаў казак, таксама малады, з чорным кучаравым чубам.

— Іванька,— укленчыў каля сына Міхейчык, і ягоныя плечы затрэсліся,— чаго ты тут ляжыш, сынок? Што ж яны з табою зрабілі?

Іван рыўком узняў галаву, убачыў аднавяскоўцаў, і пацямнелыя ад болю вочы ажылі. Ён нават спрабаваў устаць, але Матруна не дала.

— Ляжы ты ўжо, герой...

Але Іван усё-такі прыўзняўся, скрывіўся ад болю, аслабела стаў на калені, сказаў, звяртаючыся да ўсіх і ў першую чаргу да Бацюты:

— Новая скура вырасце... Чорт з ёй... Косці, здаецца, цэлыя... Ну і білі, гады.

Ён быў у гэтыя хвіліны такі прыгожы: бледны, асветлены радасцю твар, узнятая ўверх галава з чорнай шапкай кароткіх валасоў, голыя, смуглыя, пакрытыя чорным пушком грудзі.

— Ты, Іван, як Сценька Разін,— глянуўшы на сябра, успомніў нядаўна пачутую песню Мішка Сырамалот.

Яму захацелася зараз — хай сабе баліць! — таксама стаяць на каленях на гэтай калючай жоўтай саломе, і каб плечы ў пісягах былі голыя, і каб усе бачылі: і Бацюта, і Перуноўскі, і, вядома, Матруна.

— Лячыся, Іван,— сказаў Бацюта,— болей цябе ніхто пальцам не кране. Улада цяпер наша.

— Праўду кажаш? — усім сваім знявечаным целам хіснуўся да яго Іван.

— Праўду,— важна сказаў Мішка.— Шуганулі ў Петраградзе міністраў. Разам з крэсламі і партфелямі...— Ён сказаў гэта так, быццам сам асабіста зрабіў такую справу.

— Бацюта, мужчыны,— гучна загаварыў Іван,— злавіце Баўтрука. Ён, сабака, недзе тут блізка хаваецца. Так біў...— Ён у нейкае імгненне ледзь не ўсхліпнуў, але авалодаў сабой.— І Гайкевіч ліса добрая. Стаяў збоку, рукі цёр...

— Лажыся! — строга сказала яму Матруна.— Без цябе ведаюць, што рабіць...

— Цішэй, Моця. Яму ж баліць,— папрасіў яе чарнявы казак.

Тут стары Міхейчык быццам прачнуўся, воўкам глянуў на казака, схапіў яго за грудзі:

— І ты біў, гіцаль... Гавары!

Моця адразу ўся зачырванелася, накінулася на Міхейчыка, вось-вось вочы выдзера.

— Не давайце волю рукам. Тады трэба было бараніць свайго сынка...

Чарнявы казак, разгублена ўсміхаючыся, трымаючы ў руках мокрую анучку, ступіў крок да Бацюты:

— Таварышы, каб я, Гаршкоў, біў яго, я паехаў бы разам з Панкратавым. А я застаўся ў вас. Не ўсе ж казакі жывадзёры. Можа, чулі? Быў казачы Урупскі полк, які супроць цара выступіў.

— Веру, братка, веру,— паклаў яму руку на плячо Бацюта.

Але Гаршкоў не скончыў на гэтым. Пакланіўшыся ўсёй грамадзе, сказаў:

— Хачу прасіць у вас, добрыя людзі, дазволу застацца ў вашых мясцінах. На Доне ў мяне нават іржавай падковы не засталося. Маці з бацькам даўно ў зямельцы. Адзін я, як вецер. Дык прашу ўважыць...

Ён яшчэ раз нізка пакланіўся, трасянуўшы чорным чубам. А Матруна раптам зачырванелася, закрыла твар рукою.

— Вось яно што,— здагадаўся маўклівы Сцепанюга,— казачая кроў добрая, густая — хай з нашай кроўю родніцца...

Усе згодна заківалі галовамі. Твар у Бацюты пасвятлеў, памякчэў. І не вытрымала Бацютава сэрца, пашкадаваў чалавека:

— Няхай так і будзе! А цяпер пойдзем старога аканома, як цара з трона, скідаць.

Усе рушылі ў панскі дом. Але Гайкевіч, разгублены, з малочна-белым тварам, ужо стаяў на парозе дома з вялікай вязкаю ключоў у руцэ. Ключы спалохана звінелі.

— Чаго вы прыйшлі, грамадзяне? — раскрыў нарэшце рот Гайкевіч. Потым глянуў чырвонымі пеўневымі вочкамі на Бацюту: — Хто вы такі?

— Я? — усміхнуўся Бацюта.— Каваль..t

— А што робіце?

— Што кавалі робяць? Куюць.— Голас Бацюты пазванчэў.— Шчасце кую, народнае і сваё. І не падстаўляйце пальчыкі, пан аканом, бо малаток цяжкі.

— Апомніцеся, пакуль не позна, грамадзяне! — узняў вочы ў неба, па якім плылі шэрыя хмары, Гайкевіч.— Гэта ж разбой! Ленін, калі яго яшчэ не скінулі, не пратрымаецца ў Петраградзе і тыдня. А тады за ўсё прыйдзецца адказваць законнай уладзе.

— Аддавай ключы, падла,— узмахнуў мыліцай Сямён-артылерыст. — А то галаву растаўку. Увесь ваш род панскі-памешчыцкі пракляты да сёмага калена...— Ён шмаргануў у Гайкевіча з рукі вязку, аддаў Бацюту.

Гайкевіч яшчэ болей збялеў, стаяў, хукаў на пальцы, з якіх была садрана скура. Кропелька крыві расла, круглела, як журавінка.

— Я ж казаў: не падстаўляйце пальчыкі.— Бацюта павярнуўся да Гаршкова.— Як цябе велічаюць?

— Сцяпан я...— Гаршкоў перамінаўся з нагі на нагу.

— Прымай, Сцяпан Гаршкоў, гаспадарку. Помні: за кожны цвік адказваеш.— І перадаў вязку ключоў.— А вам, пан аканом, я параіў бы разам з сямейкай выбірацца адсюль...

Гайкевіч глянуў на яго спадылба, унурыўшы галаву ў плечы, паплёўся ў дом. На двары між тым рабілася шумна. Прыехалі на конях з пільні парабкі, падваліла народу з суседніх хутароў і вёсак. Нехта пасярод двара запаліў вялікі касцёр. Людзі мітусіліся вакол агню, нешта кідалі ў вострае языкастае полымя. Да Бацюты падбеглі Сцепанюгавы хлопцы, прынеслі чатыры вінтоўкі, бярэма шабляў.

— Казакі аддалі,— пахваліўся старэйшы.

Падышоў той самы казак з сінім шрамам на твары, сказаў:

— Пакідаем вам гэтыя жалязякі. А самі на Асіповічы, а там будзе відаць... Эх і пап'ю я вады з Дона...

Ён засмяяўся, як малы, і пайшоў з двара, высокі і шчаслівы.

А людзі быццам ап'янелі. Ужо завялі песню каля флігеля, ужо з дому бег Перуноўскі, хаваючы нешта пад крысом світкі.

— Людвік, пастой,— спыніў яго Бацюта,— што ў цябе там?

Перуноўскі зморшчыўся, як ад зубнога болю, але спыніўся, неахвотна выцягнуў з-пад крыса дзве круглыя закопчаныя жалезіны.

— Што гэта?

— Юшкі з коміна. Ім, панам, навошта яны? Панам за граніцай на гэтых, як іх... курохтах горача. А ў мяне дзеці мерзнуць.

Перуноўскі шмыгнуў носам, глядзеў на Бацюту васількавымі вачыма.

— Ладна, нясі,— спахмурнеў Бацюта,— глядзі, каб ніхто не ўбачыў. Толькі другі раз, Людвік, за гэта па руках стукнем...

А ў гэты час на другім паверсе дома, на верандзе, Дамажыраў ліхаманкава запіхваў у дарожны баул свае рэчы: брудныя кашулі і насоўкі, вязаныя напульснікі, пальчаткі, каробкі з цыгарамі, засаленыя французскія кнігі. Ён халадзеў спінай, чакаў: вось-вось забарабаняць у дзверы, і краем вока, праз мутную шыбіну, глядзеў на двор, дзе кіпеў людскі мурашнік. Як хацелася яму, каб можна было шпурнуць туды бомбу, дзве, тры — хай ляцяць кавалкі гарачага крывавага мяса і расцякаюцца па пяску мазгі. «Рым гіне... Варвары... Варвары...» — як непрытомны, паўтараў ён.

— Мне страшна,— прыхіліўшыся спінай да сцяны, глядзела на яго Зінаіда.— Ігар Аляксеевіч, забярыце мяне з сабой.

Выехалі з двара, развітаўшыся з усімі, казакі; парабкі ладкавалі свае няхітрыя пажыткі і па адным, па двое разыходзіліся ў свае вёскі. Прыбеглі аднекуль Мішка Сырамалот з Рыгорам Зайцам, ужо са стрэльбамі, задыханыя.

— Уцёк,— выціраючы рукавом з ілба пот, злосна сказаў Мішка.

— Хто? — не зразумеў Бацюта, які ў гэты час дамаўляўся з Лявонам Цмыгам, каб заўтра ж з'ездзіць у Бабруйск, разведаць, што робіцца там.

— Баўтрук уцёк,— ледзь не плакаў Мішка,— схаваўся ў пуні, а калі мы сталі ламаць вароты, праз дзірку ў страсе ўцёк у лес.

— У лесе яго не знойдзеш,— упэўнена сказаў Рыгор Заяц, невысокі, худы, з пабітым воспай тварам хлопец.— Ён там, як вужака, кожную шчыліну ведае.

— Нічога, зімой і вужакі пруцянеюць. Мароз прыцісне — прыбяжыць у вёску грэцца,— гэта ўжо Мішка супакойваў сам сябе.

Толькі пасля абеду чмялёўцы выехалі з маёнтка, пакінуўшы там ахову: Гаршкова, Мішку Сырамалота, Рыгора Зайца і яшчэ некалькі маладых хлопцаў-парабкаў. Калі ад'ехаліся ўжо ладнавата, азірнуліся і ўбачылі: высока, на самым вільчыку панскага дома, палымнее сцяг, а каля яго сядзіць чалавек са стрэльбай у руках. Вось чалавек узняў угору стрэльбу, стрэліў, толькі пошчак пайшоў па лесе.

— Ну і Мішка,— задаволена крактануў Сямён-артылерыст,— не хлопец, а віхор — мурашак яму ў штаны.

— А мы таксама можам такое зрабіць,— сказаў раптам старэйшы сын Сцепанюгі Мікіта. З-за пазухі ён дастаў дужа прыгожы залацістачырвоны абрус.

— Дзе ты гэта ўзяў? — строга спытаўся ў сына Сцепанюга і краем вока глянуў на Бацюту.

— Знайшоў у маёнтку,— лёгка схлусіў Мікіта.

Ён з трэскам адарваў ад абруса шырокую стужку, саскочыў з калёсаў і прывязаў яе да дугі.

— Мікіта, дай і нам! — закрычаў з задніх калёсаў Іван Міхейчык, што ляжаў на жываце і моршчыўся, калі падкідвала на каляінах.

Бацюта глядзеў, як трапечуць пад ветрам агністыя стужкі, як асвятляюць яны твары людзей, і думаў, што за ўсё сваё жыццё не сустракаў нічога больш прыгажэйшага, чым гэтыя самаробныя сцягі, якія палымнеюць не над барыкадай, не над вежай, а над конскай дугой.

Уз'ехалі на высокі пясчаны курган і ўбачылі свае Чмялі. Непадалёку ад вёскі могілкі, чародка старых бяроз і хвой пасярод поля. Там варушыліся людзі.

— Старога Радзімовіча хаваюць,— сказаў Сямён-артылерыст.— Давайце, хлопцы, і мы туды сходзім. Ігнат усё-такі добры чалавек быў...

Спынілі коней, знялі шапкі і пайшлі на могілкі. Толькі Іван Міхейчык застаўся ляжаць.

Журботна і аднастайна шумелі хвоі. На драўляных, пазелянелых ад часу крыжах матляліся выцвілыя ручнікі. Некаторыя магілы былі без крыжоў, і ніхто ўжо не ведаў, што за людзі ляжаць у іх, такія яны былі занядбаныя, недагледжаныя, як мохавыя купінкі сярод лугу. Вечным сном спала тут вечная галеча. Бацюта ішоў і ўвесь час глядзеў пад ногі, каб не наступіць выпадкова на адну з такіх магіл.

Ігнатаву труну ўжо спускалі на вяроўках у магілу. Людзі стаялі наўкола, каля невысокіх грудкоў жаўтапёсу, і глядзелі ўніз, у яміну,

дзе назаўсёды развітваўся з сонцам іхні аднавясковец. Было тут некалькі Ігнатавых аднагодкаў. Сівыя, згорбленыя, з жоўтымі сухімі тварамі, змучаныя доўгім цяжкім жыццём, яны самі здаваліся мерцвякамі, якіх выпадкова адкапалі сёння. Здавалася: вось-вось яны пастаяць, трохі пагрэюцца, трохі паглядзяць на белы свет і зноў пойдуць у зямлю, каб стаць пяском.

Бацюшка Буракоўскі ўвесь час махаў крыжам над магілай: адпяваў зямное жыццё нябожчыка, рыхтаваў да вечнага. Глуха стукнулі аб труну камякі зямлі. І тут раптам загаварыў чалавек. Гэта было так нечакана сярод журботнай цішыні, што ўсе, у тым ліку і Бацюта, уздрыгнулі. Гаварыў Аркадзь Гайкевіч. Бледны, прыгожы, у чорнай світцы, стаяў ён сярод натоўпу і быццам сціскаў і адначасна гладзіў людскія сэрцы сваімі словамі.

— Бывай, дзядзька Ігнат. Ты чэсна пражыў: араў сваё поле, сеяў жыта, гадаваў унукаў. Ніхто і ні ў чым цябе не папракне. Ты еў свой чорны хлеб, здабыты ўласнымі рукамі. Ты пайшоў ад нас у вечнасць, а мы, твае землякі, твае суседзі па жыццю, застаёмся тут, на гэтай зямлі, на нашай зямлі...

«Куды ён гне?» — ніяк не мог уцяміць Бацюта.

Ён бачыў, як здзіўлена слухаюць людзі нечаканага прамоўцу, бо заўсёды толькі адны малітвы і галашэнні гучалі на могілках. Але сэрцы людзей, збалелыя і мяккія, гатовы былі прыняць гэтыя словы, як вясновая зямля прынімае зерне.

— Бач ты, па-нашаму гаворыць,— шапнула побач кабеціна ў чорнай хустцы.

— Вучоны,— адказала другая.

— Недарма кажуць: лепей вучоны, чым залачоны.

— Адна ў нас зямля, адна ў нас бедная маці — Беларусь,— працягваў Гайкевіч.— Бедна родзіць яна, слаба грэе. Але не трэба ніякага нам сонца, апрача нашага...

«Вось яно што,— здагадаўся Бацюта.— Падпанак лье слёзы над труной хлопа і называе яго сваім братам. Значыць, моцна прыпякло, калі ён так загаварыў».

— Усе мы роўныя, як камяні на гэтых палетках,— узняў руку Гайкевіч.— І ў час, калі надыходзіць дзень вольнасці, згуртуемся, браты, у адну сям'ю, дакажам, што і мы можам жыць у сваёй хаце не горш, чым іншыя...

— Ты са сваім бацькам у палацы жыў,— крутнуўся на драўлянай назе Сямён-артылерыст.

— Цішэй ты! Зноў, можа, выпіў,— замахалі на яго рукамі жанчыны.

— Не асквярняйце прах,— грозна глянуў на яго Буракоўскі.

— Хай ён не асквярняе. Ігнат з голаду памёр, а яны...— Сямён-артылерыст мыліцай паказаў у бок маёнтка,— абжыраліся і абпіваліся.

Усе загаманілі, заспрачаліся. Ніколі яшчэ не было такога на чмялёўскіх могілках. Адны старыя, Ігнатавы аднагодкі, стаялі моўчкі, і лёгкі вецер калыхаў іхнія сівыя бароды.

Бацюта нічога не гаварыў, толькі слухаў і глядзеў на людзей.

Убачыў, як, згорбіўшыся, закопвае рыдлёўкай магілу Лаўрэн Лапыцька. Позіркі іх сустрэліся, і Лаўрэн адвёў убок вочы. Каля магілы стаяў і Антон Радзімовіч,— абедзвюма рукамі падтрымліваў крыж. Вецер шкуматаў ручнічок, завязаны на крыжы, біў ім па Антонавым твары. Але хлопец хоць бы міргнуў, быццам быў каменны.

Гайкевіч усё-ткі дагаварыў. Відно было, што не чакаў ён такога павароту справы, нервова палез у кішэню, дастаў папяросу, закурыў.

«Апёкся ты, братка,— падумаў Бацюта,— не тыя песенькі пяеш, галодных і сытых хочаш зрабіць раднёй».

Пачалі разыходзіцца з могілкаў людзі. Ішлі спяшаючыся — кожнаму карцела з-пад цяністых шумлівых хвой, пад якімі гаспадарыла смерць, хутчэй выйсці на сонца. За плотам, што абгароджваў могілкі, старанна аббівалі з абутку пясок, не хацелі несці яго ў вёску, да свайго жылля.

Бацюта ўлучыў хвіліну, падышоў да Антона.

— Як жывеш, Антон?

Антон нічога не адказаў, моўчкі глядзеў сабе пад ногі.

— А чаму ты Івана Міхейчыка аднаго кінуў? Вы ж разам у лес ездзілі? — не супакойваўся Бацюта.

Тады Антон узняў галаву: вочы ў яго былі халодныя і далёкія, як зоркі за хмарамі. Быў у іх боль і нейкая зласлівая ўпартасць.

— Мне трэба было хутчэй ехаць дамоў,— ціха сказаў ён.

— Але ж ты кінуў таварыша, які табе памагаў...

— У мяне дзед памёр.— Гэтыя словы Антон апошнімі днямі паўтараў вельмі часта. І цяпер ён абараніўся імі. І Бацюта зразумеў: не хоча хлопец гаварыць з ім, свае ў яго думкі.

Яны разышліся. Антон пайшоў у вёску: здаецца, сярод натоўпу жанчын і дзяўчат мільганула сіняя Янініна хустка.

Бацюта разам з Сямёнам-артылерыстам, Перуноўскім, Спепанюгам і яго сынамі накіраваўся да калёсаў. Неспакойна ў яго было на душы — адчуваў, што самае цяжкае і складанае яшчэ наперадзе. Не пакідала думка, што ён нешта не так зрабіў, нешта недагледзеў, і зноў бачыліся яму Антонавы вочы.

IV

Лена ціўкалі кулі. Здавалася, дробныя шэрыя птушкі, што ўвесь дзень лёгкай чародкай кружыліся ў снежным полі непадалёку ад акопаў, пакарміліся нарэшце — можа, зернем з копаў мёрзлай саломы, можа, сеннай пацярухай, якая была рассыпана там, дзе стаялі батарэйныя коні — і зараз зрэдку падаюць свой ціхі сыты голас.

Кузьма Радзімовіч, з крамянымі ад холаду шчокамі, узняўшы адубелы каўнер шыняля, сядзеў у траншэі на мулкім смаляным карчы, які выпрасіў у кашавараў, і глядзеў на германскія пазіцыі. Бруствер быў замецены снегам, і таму ён, каб лішне не выторкваць галавы, руляй вінтоўкі пракруціў у снезе невялічкую дзірку. Хапала глядзець толькі адным вокам. Сажняў за сто перад сабой ён бачыў рэдкія купкі кустоў, чорную звілістую палоску ручая, якая разломвала непарушную бель снегу на дзве палавіны — рускую і нямецкую. Ручай не замерз, і ўсе дзівіліся, чаму такое здарылася, бо маразы былі пякучыя. Разведчыкі казалі, быццам уверх па ручаі вёрстаў за сем адсюль немцы льюць у ручай газу і падпальваюць яе. Кузьма, як і большасць салдат, не верыў гэтаму.

Правы нямецкі бераг ручая быў высокі, пагоркавы; снег злізала ветрам. Вужакамі спляталіся там траншэі першай лініі абароны. Кузьма бачыў густую непраходную сцяну калючага дроту, не дужа замаскіраваныя воўчыя ямы, бетонныя каўпакі кулямётных гнёздаў. Немцы ўчапіліся ў пагорак надзейна, мёртвай хваткай, як воўк у мяса, і таму адчувалі сябе там па-гаспадарску. Упэўнена плылі ў шэрае зімовае неба тонкія дымкі іхніх паходных кухняў.

Кузьма паварушыўся на сваім карчы, памахаў рукамі, каб разагрэцца. Лепш, вядома, было б прабегчы па траншэі трушком туды-сюды, паскакаць, але траншэя была неглыбокая, а немцы стралялі трапна. І таму ён, адчуваючы, як пруцянее ад холаду, баліць спіна, увабраў галаву ў каляны каўнер, на імгненне заплюшчыў вочы. І адразу ж, здрыгануўшыся, зноў спалохана і паспешліва іх расплюшчыў, бо недзе зусім блізка, як не над самым вухам, грымнула кулямётная чарга. Снег праменным белым струменьчыкам пацёк з бруствера ў траншэю. Кузьма, каб лепей бачыць, трохі прыўзняўся са свайго схovішча.

Кулямёт біў з нямецкага боку. Кулі ўспорвалі снежны цалік, і снег узвіваўся ўгору малюсенькімі мяккімі воблачкамі, якраз так, як бывае, калі ў лузе наступіш нагою на грыб-пухаўку.

З трэцяй роты да іх, у другую роту, проста па полі подбегам ішоў салдат. Быў ён без вінтоўкі — абедзве рукі былі заняты бачкамі з кашай. Як горб, тырчала на спіне зялёная торба, у якой звычайна

носяць хлеб. Утуліўшы галаву ў плечы, глядзеў салдат толькі ў адну кропку — сабе пад ногі, быццам у гэтым быў яго паратунак, быццам — узнімі ён галаву, паглядзі наўкол, і адразу наскрозь прашыюць нямецкія кулі.

«Дурань нейкі»,— адчуваючы, як страх і разам з тым востры салодкі адчай запаўняюць сэрца, падумаў Кузьма. Уся другая рота, затаіўшы дыханне, глядзела на салдата са сваёй траншэі. А ён раптам спатыкнуўся і, выставіўшы ўперад локці — бачкі не выпусціў з рук,— цяжка паваліўся потырч носам у снег.

— Гатоў,— сам сабе сказаў Кузьма, але салдат трошкі паляжаў, відаць, аддыхаўся і зноў узняўся на ногі. Было відно, што ён хістаецца ад стомы і страшнага нечалавечага напружання. З галавы ў яго звалілася шапка, і жоўта-белыя, як смятана, валасы шкуматнуў вецер.

— Дык гэта ж Сцяпан Шчэннікаў, наш кашавар,— загаманіла другая рота.— Чаму ж ён, сабачы сын, з трэцяй роты нам полудзень нясе?

Усе з яшчэ большай цікаўнасцю — свой жа чалавек ішоў пад кулямі! — пачалі глядзець, што будзе далей. Немцы ці то разгубіліся, ці, хутчэй за ўсё, пашкадавалі героя-вар'ята, толькі іхнія кулі не кранулі Шчэннікава, і неўзабаве ён, як рыба, шырока хапаючы паветра сінягубым ротам, уваліўся ў пярэднюю траншэю. Усе кінуліся да яго. Але фельдфебель Мыльнікаў наліўся гнеўнай цяжкой чырванню, тузануў свісток, што на скураным шнурку заўсёды боўтаўся ў яго на грудзях, крыкнуў:

— Назад!

І першы падышоў да Шчэннікава. Той, прагна, захліпіста сапучы, ірвануў да сваёй непакрытай, белавалосай галавы шырокую сінюю ад холада далонь, адрапартаваў:

— Гаспадзін фельдфебель! Абед у размяшчэнне роты дастаўлены!

На лбе, шчоках і нават на вушах у яго густа ззяў халодны пот.

— Малайчына, Шчэннікаў! Герой! — паляпаў кашавара па плячы фельдфебель.— Будзеш мець георгіеўскі крыж 4-й ступені.

— Рад старацца! — аж узвіўся Шчэннікаў. Мыльнікаў грозна агледзеў сваіх салдат, што стоўпіліся ў вузкім праходзе траншэі, гучна хмыкнуў, сказаў:

— Вось як трэба ваяваць, краты акопныя. Зямлю цалуеце, пузам яе вылушчваеце, а Шчэннікаў пад кулямі ў поўны рост ходзіць.

І, выцершы чорныя вусы насоўкай, свіснуў у свісток:

— На малітву — станавісь!

Прагаварылі-праспявалі «Спасі, госпадзі, людзі твая». Потым хуценька дасталі з-за халяваў ботаў лыжкі, пачалі сёрбаць кашу з

салам. Селі, хто дзе мог. Хто на парожнюю зарадную скрынку, хто проста на снег; Кузьма, як уюн, круціўся на сваім карчы. Стараслужачы Сава Лапшын, лепшы сябра фельдфебеля Мыльнікава, паважна дастаў са свайго белага палатнянага ранца — дзе толькі знайшоў такую? — прыгожую пярэстую коўдру, прылёг на яе, смачна крактануў:

— Эх, каб гэта коўдра ды бабай была...

Ніхто не засмяяўся. Лапшыну гэта не спадабалася. Ён лічыў сябе самым дасціпным, самым смелым чалавекам у роце, разам з Мыльнікавым пачынаў службу ў дзесятым годзе, і таму, на яго думку, гэтыя зялёныя навабранцы павінны былі лічыць за шчасце, што ён есць разам з імі, глядзіць на іхнія брудныя фізіяноміі. Лапшын пакруціўся на сваёй коўдры і, каб зноў нешта сказаць, павярнуўся да Шчэннікава, які са шчасліва-блазнаватым выразам на твары сядзеў побач.

— Чаму так мала кашы прынёс?

— У мяне бачок прастрэлілі,— пахваліўся Шчэннікаў.

І сапраўды, усе ўбачылі ў бачку невялікую рваную дзірку.

— Табе твой разанскі гаршчок трэба было прастрэліць,— лапнуў рукой Лапшын кашавара па галаве.— Чаго папёрся па полі? Не было іншай дарогі?

Але тут, нечакана для ўсіх, за Шчэннікава заступіўся сам фельдфебель Мыльнікаў.

— Размовы! Хто там? Зноў Юшкоў выскаляецца?! — крыкнуў фельдфебель, хоць добра чуў, што ўсе маўчалі, а гаварыў адзін Лапшын. Фельдфебель сядзеў непадалёку ад салдат, на металічным нямецкім ложку, засланым нямецкай пярынай. Усё гэта такое непрывычнае для передавой багацце адбілі ў немцаў у час начной атакі.

Лапшын змоўк, злосна каўтнуў гарачую кашу. Не чакаў, відаць, ад старога сябра такой строгасці. Але ён быў не з тых, хто апошняе слова аддае суседу. Ён пакруціў сваёй кароткай шыяй, адкашляўся і накінуўся на вальнапісанага Яфіма Агародніка, які ціхенька сёрбаў сваю порцыю, зашыўшыся ў самы цёмны куток:

— Эй, чорненькі, чаго ад людзей хаваешся? Хадзі — салам накармлю.

Зараз ужо некаторыя засмяяліся ў рукаў: ведалі — пачнецца цікавае. Фельдфебель Мыльнікаў таксама навастрыў вушы, паблажліва-іранічна ўсміхаўся са сваёй пярыны.

— Хочаш сала? Смачнае,— не адставаў ад Яфіма Агародніка Лапшын.

Агароднік, маленькі, карычнявокі, з шырокім ротам і вялікімі жоўтымі зубамі, спалохана ўздрыгнуў, згорбіўся, моцна прыціснуў да грудзей свой кацялок, нібы баяўся, што адбяруць. Ён, як і ўсе іудзеі і

магаметане, еў асобна, сала не ўжываў наогул. Зараз ён нагадваў маленькую безабаронную мыш, якая павінна была трапіць у загадзя падрыхтаваную пастку.

— Які ж ты ваяка, калі сала не ясі?

Лапшын смачна ікнуў, паляпаў сябе па жываце.

— Я такі ж рускі воін, як і ты,— ціхім дрыготкім голасам сказаў Агароднік, і вушы ў яго пачырванелі.

— Такі, ды не такі,— весела засмяяўся Лапшын.— Не набівайся, Фіма, у радню.

— У нас адно ацечаства — Расія,— яшчэ больш прыгнуўся Агароднік над сваім кацялком.

Здавалася, каб мог, ён зашыўся б у гэты кацялок — толькі б не чуць слоў Лапшына, не бачыць ягоных халодных сытых вачэй.

— Дай, Лапшын, чалавеку паесці,— крутнуўся на сваім карчы Кузьма.

Лапшын, нібы апёкся, густа, аж да сінізны, пачырванеў, сказаў, як плюнуў:

— А ты чего лезешь, лапоть? Молчи! А то дам гразнай трапкай па бруху!

Гэта была абраза. Лапшын здзекаваўся з Кузьмовага вымаўлення. У Кузьмы перацяла дыханне, затрымцела брыво. Захацелася схапіць кацялок і плюхнуць гарачай кашай у ненавісныя вочы. Але адразу ж нейкі холад разліўся па целе. Холад і млявасць. Быццам нехта шапнуў на вуха: «Не лезь на ражно... Усё роўна будзеш вінаваты...»

Яфім Агароднік раптам скрывіўся, нібы праглынуў горкае, хліпнуў носам, апусціў галаву на грудзі. Нагадваў ён птушку з перабітым крылом. Плечы ў яго здрыгануліся, затросся снежны пыл на іх.

— Канчай абед! — крыкнуў Мыльнікаў.— Пчалаводаў, Радзімовіч і Агароднік — у сакрэт!

Як толькі змерклася, асцярожна выбраліся на бруствер пярэдняй траншэі, прыслухаліся, папаўзлі па снезе ў бок немцаў. Неба над зямлёй было сіне-залатое. Вецер ляпіў з хмар нейкія дзівосныя палацы, дрэвы, вогненныя горы. Але ўсё гэта ў імгненне вока разбуралася, тухла, чарнела. Толькі вялікае зарыва, як вострае чырвонае крыло, трапятала на захадзе.

Пэўна, недзе гарэла вёска.

Уваліліся ў цесны, вузкі, як павярнуцца, акопчык, затаілі дыханне. У Кузьмовых грудзях аж бухала сэрца. У цемры, што ўсё цяжэй навальвалася на зямлю, ледзь відны былі пярэднія колікі нямецкай драцяной агароджы. Кузьма міжволі ўздрыгнуў, успомніў, як казалі

стараслужачыя: «Германец палонных не бярэ. Зловіць Івана — адразу на кол садзіць...»

— Я ведаю, чаму сёння Шчэннікаў па полі ішоў, пад кулямётамі,— зашаптаў над самым вухам Яфім Агароднік.— Учора ў афіцэрскай зямлянцы ў карты гулялі. І штабс-капітан Кукавераў пайшоў на заклад, што яго кашавар самы смялейшы...

Кузьма, аж па самыя плечы ўціснуўшыся ў снег, глядзеў на нямецкія пазіцыі, на далёкае зарыва, упіраўся левым каленам у нейкі востры мёрзлы глыж і зноў, які ўжо раз, успамінаў, як забралі яго ў войска. Пяцёра чмялёўцаў трапілі ў вогненны вір: Рыгор Кавалёў, Язэп Сазанавец, Іван Кіпцюрчык, Рыгор Міхейчык і Кузьма. Пагналі іх у войска ў канцы шаснаццатага года, а недзе ўжо праз месяц засталіся жывыя толькі Кузьма з Іванам Кіпцюрчыкам. На Кузьмовых вачах забіла Язэпа Сазанаўца. Ішлі ў атаку, і Язэп бег крокаў за дзесяць ад Кузьмы. Раптам там, дзе толькі што ён быў, шуганула ўверх чорны пясок і жоўтае полымя. Калі развеяўся дым, нікога там ужо не было. З глыбокай яміны вілася лёгкая белая пара. Кузьма сцёр з твару нешта цёплае і ліпкае і зноў пабег. Толькі ноччу, пасля бою, калі ляжалі як забітыя у нейкім рэдзенькім лясочку і зверху паліваў дождж, ён раптам скалануўся скрозь сон, здагадаўся: гэта ж Язэпава кроў пырснула яму тады на шчокі.

Паступова ён пачаў прывыкаць да таго, да чаго, здавалася б, нельга прывыкнуць — да смерці. Яна была ўсюды. Яна лопалася ў небе шрапнеллю, быццам расцвіталі нейкія дужа прыгожыя кветкі, якіх ён раней не бачыў. Яна ўздымала малюсенькія фантанчыкі вады ці гразі, быццам дождж ішоў,— гэта калі ён, як і ўсе, ляжаў, уткнуўшыся тварам у зямлю, а спераду, з агню і курадыму, білі варожыя кулямёты. І ўсюды былі трупы, трупы... З чорна-сінімі тварамі, з уздутымі жыватамі. Потым, калі пачалося марадзёрства, ён бачыў мёртвых салдат, сваіх і германскіх, у споднім адзенні ці нават зусім голых. На закуранай чорнай зямлі ляжалі яны, як абкораныя бярвенні ў лесе ў Незабітоўскага.

Чмялі здаваліся яму цяпер светлым сном, які прысніўся аднойчы, каб болей ніколі не паўтарыцца. Не верылася, што недзе крычаць пеўні, ёсць зялёная трава, ёсць рэчка Гразёўка, над якой шумяць вольхі і лётаюць срабрыстыя стракозы. Не верылася нават, што ёсць маці з бацькам, брат Антон, сястра Дзіна. Праўда, у першыя дні вайсковай службы, сярод усіх жахаў і смерцяў, быў у яго верны сябар — Сівец, іхні конь. Ён вазіў на Сіўцу параненых у прыфрантавы лазарэт, а ў рэдкія хвіліны перадыху расчэсваў каню грыву, чысціў яго, гладзіў і аднойчы ноччу нават паплакаў, уткнуўшыся ў цёплы конскі

бок. Але параненага Сіўца прыстрэлілі, і Кузьму накіравалі на перадавую.

І вось ён тут, у гэтым цесным халодным акопе, які ў любую хвіліну можа зрабіцца магілай і для яго, і для Пчалаводава з Агароднікам.

Кузьма сцяўся ў камяк, успомніў, што ці сёння, ці заўтра зноў давядзецца сустрэцца з Іванам Кіпцюрчыкам. У вялікія паны-начальнікі выбіўся Іван. А не хацеў жа ісці ў войска. Як толькі ні выкручваўся. Хацеў, каб белы білет яму далі. Піў лясны грыб-трут, каб лёгкія пачарнелі. Піў сажу. Вошчаную нітку цягнула яму баба Еўка праз нос і вуха, каб трохі недачуваў. Нічога не памагло. Жалезным здароўем абдарыў бог Івана, калі пусціў у белы свет. І вось з-за гэтага здароўя павінен ён быў ці скласці галаву, ці зрабіцца на ўвесь свой век калекам. І дваццаць дзесяцін бацькавай зямлі маглі выслізнуць з ягоных рук.

Службу Іван пачаў, як уюн. Усюды паспее, усюды пралезе, усім дагодзіць. Начальства яшчэ рот не закрые, а ён ужо загад выканаў. І вочы такія адданыя, пакорныя, як у Лаўрэнавага Мурзіка. Угору пайшоў Іван. Праўда, сваіх аднавяскоўцаў спачатку не цураўся. Пагаворыць, Чмялі разам паўспамінае. Ды неўзабаве пабіла хлопцаў, а Івана аднаго з усёй роты паслалі ў афіцэрскую школу. Пасля наступленняў пад Нараччу і пад Баранавічамі вялікія страты былі ў рускім войску. Свінец не выбіраў, дзе салдат, дзе афіцэр, усіх касіў, і таму афіцэраў засталося не густа. Відаць, і там Кіпцюрчык вылузваўся са скуры, бо месяцы праз тры вярнуўся назад з пагонамі падпаручніка на плячах. Памажнеў, папрыгажэў, чорныя вусікі адгадаваў. І, галоўнае, вочы змяніліся. З'явіўся ў іх нейкі сталёвы бляск.

Прызначылі Кіпцюрчыка Кузьмовым узводным. Ну, думаюць усе, свой жа хлопец, акопнік, разам гразь мясілі. Ён-то наша жыццё разумее, хоць якую перадышку дасць. Ды здарылася зусім нечаканае. Назаўтра ж пагнаў іх «свой хлопец» на раскіслы ад мокрага снегу пляц. У бліскучых, аж ззялі, ботах, горды, неприступны, як бог, Кіпцюрчык круціў белай рукой канечык чорнага вуса (казалі, спецыяльна з афіцэрскай школы прывёз нейкай мазі — мазаў рукі, каб белыя зрабіліся), навучаў:

— Уперад, малойчыкі! Ура! — І ў атаку. Дабег — і калі ў тулава, зламаўся штык — бі па мордзе прыкладам.

Яны няскладна крычалі: «Ура!» — і беглі па халодным месіве са снегу і вады.

— Не так, мацaverage вашу...— злаваўся Кіпцюрчык.— Кладзіся! Будзеце ў мяне зямлю зубамі грызці.

Яны ляжалі ў вадзе, аж пачыналі ледзянець жываты і калені, а Кіпцюрчык пыхкаў папяросай, стаяў, узяўшы рукі ў бокі, гаварыў:

— Слухай свайго камандзіра! Па-французску, хвалямі, першае аддзяленне наперадзе, другое і трэцяе яму ў патыліцу, у атаку — бягом!

І так — з раніцы да вечара.

З нямецкага боку раптам бліснуў пражэктар. Халодная белая паласа святла спачатку няўпэўнена хіснулася, потым, раскалоўшы цемру, слізганула над самым акопчыкам. Кузьма ўціснуў твар у снег, перастаў дыхаць. Побач, як скамянелі, Пчалаводаў з Агароднікам. Прамень пражэктара здаваўся бясконцай, моцнай і злавеснай рукой нейкага страшыдлы. Вось зараз яна схопіць іх траіх, адарве ад зямлі і пакажа нямецкім кулямётам.

Пасля паўночы прыпаўзла змена — Юшкоў з Лусковічам. Кузьма, злы, скалелы, папоўз у сваю траншэю. І ўвесь час думаў пра Кіпцюрчыка: «Трэба ж зрабіцца такім гадам. Гатоў у людзей з кішок вяроўкі віць...»

Назаўтра, адразу пасля малітвы, з'явіўся ў траншэі Кіпцюрчык, загадаў Мыльнікаву:

— Усім рыдлёўкі ў рукі — і марш да афіцэрскай зямлянкі ход сувязі капаць!

Ён ужо быў павярнуўся да выхада, як раптам у Кузьмы вырвалася:

— Дык мы ж, Іван, усю ноч у сакрэце ляжалі, не спалі...

Кіпцюрчык на хвіліну аслупянеў. Ягоныя шчокі наліліся сіняватай беллю, пальцы на правай руцэ затрапяталіся. Ён прыжмурыў вочы, падскочыў да Кузьмы:

— Гаспадзін падпаручнік! Ваша благароддзе! Зразумеў — хто я для цябе? Паўтары!

У Кузьмы быццам зялёны туман паплыў у вачах. Злосць, якую доўга хаваў, якую запіхваў на самае дно душы, імгненна выбухнула ў сэрцы. Так рэзка разгінаецца маладая сагнутая бярэзіна.

— Ты — Іван Кіпцюрчык з Чмялёў,— павольна, гледзячы проста ў вочы Кіпцюрчыку, сказаў Кузьма.— Твой бацька — кульгавы Цімох. Твая маці — Параска, што на кірмашы аб'елася зялёнай цыбуляй.

— Маўчаць! — зароў, як апечаны, Кіпцюрчык. Ён забегаў вакол Кузьмы, нібы прымерваючыся, з якога боку яго стукнуць.— На бруствер пастаўлю! Пад ружжо! Там ты не загаворыш — закукарэкаеш! Фельдфебель! Пад арышт яго!

Мыльнікаў як з-пад зямлі вырас, падскочыў, сарваў з Кузьмы дзягу.

З паўгадзіны Кузьма прасядзеў у закутку траншэі, дзе звычайна размяшчаліся тэлефаністы, потым яго пагналі ў афіцэрскую сталоўку мыць падлогу. Падлога была заляпаная гразёю, з тоўстых яловых дошак, якія густа шчацініліся стрэмкамі. Кіпцюрчык сядзеў тут жа, у сталовай, курыў.

Зайшоў нейкі незнаёмы Кузьме капітан, худы, лысы, з шэрымі мяшкамі пад вачыма. Паглядзеў, халодна ўсміхнуўся, сказаў Кіпцюрчыку:

— Выхоўваеце, падпаручнік? Трэба, трэба... А то ў акопах наш салдат робіцца дужа лянівы.Ануча і вядро з вадой — гэта не шпіцрутэны. Гэта болей дэмакратычна, але, ведаеце, добра ўплывае на грубіянаў і балбатуноў...

Ён сеў побач з Кіпцюрчыкам, закурыў, гаварыў далей, быццам і не было ў сталоўцы Кузьмы:

— Войска — гэта дысцыпліна перш за ўсё. Адзін мой знаёмы унтэр-афіцэр, ведаеце, што рабіў? Любіў чысціню ў казарме. Дык ён прымушаў сваіх малойчыкаў есці брудныя анучкі. І што вы думаеце? Елі.

Кіпцюрчык моўчкі слухаў, згодна ківаў галавою, а сам, не міргаючы, усё глядзеў, як, укленчыўшы, шаруе яловыя дошкі Кузьма.

Лысы капітан строс з папяросы попел сабе пад ногі, спытаўся ў Кіпцюрчыка:

— Вы чыталі «Афіцэрскую памятку» графа Талстога? Не? І добра зрабілі. Трэба ж так запэцкаць граззю ўсё рускае афіцэрства. Шкада, што гэты граф-пісака ўжо нябожчык. Я выклікаў бы яго на дуэль, я прымусіў бы яго адмовіцца ад сваіх брудных слоў. І вось плён такой пісаніны — нас не паважаюць, нас не баяцца, з нас смяюцца.

Ён нервова ўстаў, пацёр худой белай рукой лысіну.

— І сярод нас, афіцэраў, ужо ёсць, ужо завяліся разумнікі, якія крычаць пра лібералізм, пра любоў да бліжняга. Яны гатовы расцалаваць першага сустрэчнага салдата, хоць той глядзіць на іх, як зацкаваны воўк. Адкуль узяліся гэтыя белыя вароны?

Капітан раптам дробненька, ненатуральна засмяяўся, нахіліўся да Кіпцюрчыка:

— Здаецца, я пачынаю разумець... Гэта — паўкроўкі. Ведаеце, гадоў сто назад у багатых маёнтках дужа любілі браць для сваіх першынцаў мамак-карміцелек з вёскі. Далікатныя пані берaглі грудзі і карміл дзяцей грудным малаком прыгонных сялянак, сваіх рабынь. І што атрымалася? Кожнае пакаленне разам з гэтым малаком улівалася ў жылы дваранства рабская кроў. Сёння, праз дзесяцігоддзі, яна падае свой голас. Мамкі адпомсцілі! Толькі жорсткасцю, толькі цвёрда-

сцю можна вынішчыць у сабе гэтую атруту. Кажу вам гэта, як дваранін двараніну.

Кіпцюрчык, якому капітан паклаў на плячо руку, густа пачырванеў, разгубіўся на імгненне. Быццам баяўся, што вось-вось сваімі халоднымі пранізлівымі вачамі капітан убачыць, якая цячэ ў ім, Кіпцюрчыку, кроў.

— Фельдфебель! — закрычаў Кіпцюрчык, гледзячы на Кузьму.— Падлога брудная! Хай зноў перамые. А каб не спяшаўся, забяры ў яго анучу і дай зубную шчотку!

Пакутліва цягнуўся для Кузьмы гэты дзень. Аглушаны крыўдай, растаптаны знявагай, мыў і мыў ён падлогу. Прыходзілі афіцэры, здзекліва-абыякава глядзелі на яго. Так глядзяць у людным доме на ката ці на сабаку. Упершыню зразумеў Кузьма, што ёсць людзі, якім прыемна бачыць пакуты іншых людзей.

«Хіба ж я не чалавек? — думаў ён.— Чаму я павінен поўзаць каля іхніх ног? Чаму можна на мяне пляваць? Я ж чалавек...» Крыўда і злосць віравалі ў ім. Але што ён мог зрабіць? Гэта была злосць са сцятымі зубамі. Аж да самай ночы прабыў ён у сталоўцы, шараваў падлогу зубною шчоткай.

Увесь наступны дзень з самай раніцы ішоў снег. Знявечаная, абпаленая зямля сустракала яго з радасцю і палёгкай. Быццам быў ён белай гаючай марляй, якая забінтоўвала страшныя зямныя раны. Пагорак, на якім умацаваліся немцы, адразу пасвятлеў, папрыгажэў. Каўпакі кулямётных гнёздаў зрабіліся падобныя на белыя бухматыя сумёты. Але, як мурашкі, выбеглі са сваіх траншэяў немцы з чорнымі рыдлёвачкамі ў руках — шах! шах! — скінулі снег, прытапталі яго, прыгладзілі, вярнулі каўпакам шэры, змрочны колер, колер смерці.

Ціха было на перадавой. Чутно было, як падае на зямлю снег.

А праз ноч, на самым досвітку, пачалася атака. Перад гэтым усім далі хлеба і варанага мяса. Але Кузьма не стаў есці. Успомніў, як дзед Ігнат павучаў: «Перад боем, барані бог, не еш. Лягчэйшы і спрытнейшы будзеш. А то стукне куля ў поўны жывот, і ўсе кішкі ў цябе лопнуць...»

Кузьма схаваў хлеб з мясам у кішэню, падумаў: жыў буду — пасля бою перакушу.

Лёгкая руская артылерыя біла па нямецкіх траншэях. Там, дзе закапаліся ў зямлю немцы, стаялі грывастыя касмылі агню і дыму. Нешта там дзумкала, рыпела, быццам тупой пілой вадзілі па жалезе. У пякельнай артылерыйскай віхуры трашчалі бетон і чалавечыя косткі.

Твары ва ўсіх былі бледныя, напружаныя. Фельдфебель Мыльнікаў, чырвоны, узбуджаны, па самыя вушы ўздзеў на галаву жалезную

каску — ва ўзводзе толькі ў яго аднаго была каска,— стараючыся быць бадзёрым і смелым, закрычаў, перасільваючы гарматны грукат:

— Ну, малайцы, з богам! За братоў нашых сербаў!

Выскачылі з траншэі. Шчокамі, усім тварам адчуў Кузьма, што вецер, які ляцеў насустрач, цёплы, не зімні. Дзесьці ззаду, са смуродлівага зялёнага дыму, глухі сіпаты голас загадаў:

— Трацілавай гранатай! Беглы агонь!

Як маланка, бліснула вострае асляпляльнае полымя, над галовамі прашыў паветра цяжкі шыпучы метал і праз імгненне гвазданўў у зямлю там, дзе, не бачныя воку, сярод агню і крыві, мітусіліся немцы. Світальны снег, які раз-пораз асвятлялі выбухі, не блішчаў, не ўспыхваў зорачкамі ці іголкамі, а быў жоўта-белы, нібы твар нябожчыка.

Кузьма, адчуваючы, як шалёна калоціцца сэрца, разам з усімі бег уперад. Каб не накрыць сваю пяхоту, змоўкла руская артылерыя, і стала чутно, як тонка свішчуць, хвошчуць у зямлю і ў жалеза кулі. Салдаты падалі, нібы снапы.

«Вось зараз і мяне... Зараз і я брыкнуся»,— білася ў галаве неадчэпная думка. Ён пераскочыў цераз забітага — здаецца, гэта быў Лапшын,— цяжка хлюпаючы, пабег па ручаі, па вугальна чорнай ледзяной вадзе. Ён са здзіўленнем і страхам думаў, што ягонае цела ўжо амаль не падпарадкоўваецца яму — наспружыненае і гарачае, ляціць насустрач смерці.

Уперадзе наступаючых беглі каманды сапёраў і грэнадзёры, узброеныя ручнымі гранатамі. Яны ўзрывалі і рэзалі драцяныя агароджы, рабілі праходы. Дрот скручваўся пругкімі калючымі спіралямі, хапаў за ногі і за шынялі.

Нарэшце, апамятаўшыся, гахнула нямецкая артылерыя. Кожнае імгненне гэтага чакалі ўсе і здрыгануліся, пахаладзелі, калі з дымнага чорнага неба, нібы пярун, ляснуліся вобзем нямецкія цяжкія снарады — «чамаданы». Здалося, лопнула чэрава зямлі. Густа шуганулі ўгору пясок, каменне, шматкі дроту і жалеза. Наваколле пахіснулася, страціла раўнавагу. Неба накрыла тых, хто атакаваў, сваёю цяжкой свінцовай

далонню.

Толькі некалькі дзесяткаў чалавек па інерцыі заскочылі ў першую нямецкую траншэю. Астатнія засталіся на полі і ў ручаі, на схілах пагорка, на калючым дроце, пашкуматаныя і пасечаныя свінцом. Многія каналі ў нечалавечых пакутах і, як літасці, прасілі хутчэйшай смерці.

Кузьма скокнуў у траншэю, дно якой было замошчана дошкамі, стаіўся за яе паваротам, агледзеўся. Усюды валяліся рыжыя калматыя

нямецкія ранцы, гільзы ад патронаў, патрушчаныя бярвенні, напрэжаныя чыгуначныя рэйкі, нейкія кажухі, падушкі, пярыны. Чалавек пяць мёртвых немцаў у сваіх светла-сініх шынялях ляжалі, нібы спалі, сярод гэтай разрухі. На невялічкім століку, што нeяк ацалеў, убачыў Кузьма бохан белага хлеба, цукар і патэльню з вялікімі кавалкамі мяса, якія яшчэ былі цёплыя, дыміліся. Дзіўна было глядзець на ўсё гэта, на пару, што лёгкімі кольцамі вілася над патэльняй і была адзінай няўлоўнай прыкметай жыцця.

— Не бяры! Можа, атручанае,— спалохана крыкнуў Кузьме салдат, які хвілінай пасля яго скокнуў у траншэю. У салдата дрыжалі тонкія чорныя, як дзявочыя, бровы.

— Не выйсці нам адсюль... Усім хана будзе...— шаптаў, нібы ў ліхаманцы, салдат і прыціскаўся да сценкі траншэі, хрысціўся. Над галавой рэзалі на шматкі неба снарады.

— Адступаем! Адступаем! — разнеслася наўкол.

Кузьма, прыгінаючыся, пабег назад з траншэі. Здавалася, вось-вось рухне на зямлю неба. Кузьму заляпіла вочы гарачым пяском, кінула, як трэску, у нейкую яміну. Тут канаў рыжы барадаты салдат, стагнаў, схапіўшыся рукамі за жывот, з якога выпаўзалі на снег сінія кішкі.

— Ой, мама... Ой баліць...

Кузьма пабег ад салдата, балюча стукнуўшыся каленам аб кола ад фурманкі, упаў, усхапіўся і зноў пабег. Ён бег праз густы чорны дым і ўсё не мог забыцца, як ідзе пара ад чалавечых кішок. І тут яго, як бы з-пад зямлі, нехта паклікаў:

— Радзімовіч...

Аддалялася артылерыйская кананада, рэзкі марозны вецер разганяў дым, усё наўкола вярталася да жыцця, святлела, і Кузьма ўбачыў Івана Кіпцюрчыка. Падпаручнік быў без шапкі, з ускудлачанымі валасамі і белым тварам. Яго амаль па шыю засыпала зямлёю ў варонцы. Толькі тырчала галава. Ён, відаць, быў паранены, бо моршчыўся.

— Радзімовіч...— зноў ціха пазваў, быццам выдыхнуў, Кіпцюрчык.

Кузьма разгублена спыніўся, не ведаў, што рабіць. Яго клікаў паранены, клікаў свой, але ж гэта быў Кіпцюрчык, ад аднаго голасу якога калісьці пачынала трывожна ныць душа. Кузьма стаяў і маўчаў, глядзеў, як пакрываюцца снегам бровы падпаручніка.

З агню і дыму выходзілі між тым, зрабіўшы сваю страшную крывавую работу, салдаты. Пячатка бою, які толькі што адгрымеў, яшчэ ляжала на іхніх стомленых, закопчаных тварах. Сёння яны засталіся пакуль што жывыя, і радасць свяцілася ў іх вачах.

Падышоў Іван Юшкоў, былы металіст з Екацярынабургскай губерні, ссутулены, чорнавалосы, з апушчанымі ўніз, нібы памочанымі ў вадзе, вусамі. Глянуў на Кузьму, на Кіпцюрчыка, галава якога, быццам бручка, тырчала з зямлі, спачатку здзівіўся, потым спахмурнеў. Рукі ягоныя дробна дрыжалі. Падышлі яшчэ салдаты, ціхія, засяроджаныя: Ягор Пчалаводаў, Іван Бычыхін, Іван Беламесных, Кандрат Лусковіч, Аўдзей Жабрэеў. Здавалася, не па ўзаранай снарадамі зямлі толькі што беглі і поўзалі яны, а вярнуліся з нябёсаў. Усе маўчалі. Раптам Юшкоў адвярнуўся ад Кіпцюрчыка, ад ягонай ускудлачанай галавы, бліснуўшы белым худым целам, спусціў з клубоў нагавіцы, сеў па патрэбе. Потым гэтае ж самае зрабілі іншыя, зрабілі ўсе, апрача Пчалаводава і Кузьмы. Яны сядзелі кружком, а ў цэнтры гэтага страшнага круга пагарды і помсты памірала, матлялася над зямлёй галава Кіпцюрчыка. Кіпцюрчык раптам усхліпнуў і адразу ж заціх.

— Пайшлі, хлопцы,— падцягваючы нагавіцы, сказаў Іван Юшкоў.

Потым у цеснай траншэі, на якую з чорнага зімняга неба падаў мяккі іскрысты снег, Кузьму ўсю ноч снілася адзінокая галава, што тырчала з мёрзлай зямлі. Галава на вачах ледзянела, рабілася бліскучая, гладкая, звонкая, адрывалася ад зямлі і кацілася проста на Кузьму. У яго ўсё замірала ў грудзях, ён хацеў уцячы, схавацца дзе-небудзь, але ногі не слухалі, быццам прымярзалі да зямлі. І тады ён крычаў ад страху, прачынаўся, бачыў чорнае неба над сабой, барадатую галаву Ягора Пчалаводава.

— Ты чаго крычыш? — пытаўся Пчалаводаў. І голас Пчалаводава напамінаў бацькаў голас. Кузьму здавалася: усё гэта ён сніць — траншэю, выбухі, смерць, кроў, сінія чалавечыя кішкі на белым снезе. Варта толькі некалькі разоў запар рэзка расплюшчыць і заплюшчыць вочы, страсянуць галавой, і ўсё сплыве, і застанецца бацька ў кажусе, абсыпаны снегам Сівец, што борздзенька бяжыць па глухой лясной дарозе. А ён, Кузьма, будзе ляжаць на спіне, тварам уверх, і мяккае пахучае сена будзе казытаць шчокі.

— Маладзён ты яшчэ, Кузьма,— казаў між тым Пчалаводаў, глыбей насоўваючы на галаву папаху.— Гэта кроў у табе крычыць. І свая. І чужая, тая, што праліў...

— Нікога я не забіваў і нічыёй крыві не праліваў.— Кузьму ўжо не хацелася спаць, і ён быў рады, што Пчалаводаў пачынае з ім гаворку. Пчалаводаў закурваў, хаваў цыгарку ў рукаў, кашляў. Потым упэўнена гаварыў:

— Забіў і ты. Хоць аднаго, ды забіў. Ужо год ваюем. Можа, і не хацеў пацэліць, а забіў. Але бог нам, воінам, адпусціць грэх, чалавечую кроў з душы здыме... Запомні: не плоць на вайне пакутуе, а дух...

Гэты самы Пчалаводаў здзівіў усіх тым, што ў час атакі кінуў у германца, які хацеў прапароць яго кінжалам, ручную бомбу, не вырваўшы з яе папярэдне чаку.

Германца ён толькі аглушыў і потым казаў усім, усміхаючыся ў светлую бараду:

«А навошта жывога чалавека рваць на шматкі? Я і так яму добра ўляпіў — будзе помніць...»

За гэта яму давялося пасядзець трое сутак на гаўптвахце, бо ротнаму, штабс-капітану Кукавераву, не спадабалася такая, нечаканая ў барадатага з пудовымі кулакамі асілка, гуманнасць.

Кузьма неяк вельмі хутка пасябраваў з Пчалаводавым. Калі выпадала вольная часіна, яны зручней масціліся дзе-небудзь у зацішку і пачыналі гаворку. Больш гаварыў Пчалаводаў. І ўвесь час рукі яго былі нечым занятыя: то ён лапіў шынель альбо штаны, то сушыў анучы.

— Баскі ты хлопец, Кузьма,— гаварыў Пчалаводаў,— па-нашаму, па-ўральску, значыць, добры. У дваццаць гадкоў толькі сям'ю заводзіць, дзеткамі абсыпацца, а ты ў акопах і днюеш і начуеш. А я, здаецца ўжо, і нарадзіўся салдатам. З дзевяноста дзевятага года прызыву...

Ён змаўкаў, задуменна глядзеў некуды ўдалячынь, відаць было — успамінаў сябе маладога.

— З Тагіла я. З Ніжняга Тагіла. Ёсць яшчэ Верхні. У нас там заводаў, як грыбоў у лесе. Гудкі гудуць, вечарам агонь на паўнеба — у мартэне плаўку даюць. Маё сямейства на Выі жыве — ёсць такі ў Тагіле пасёлачак. Жонка Дар'я, дзеткі, тры раты. Ужо пра мяне, відаць, і забыліся. А прозвішча ў нас Пчалаводавы. Хто такое прыдумаў? Ніколі ж пчоламі ні дзед, ні прадзед не займаліся. Вось у мяне сусед. Дык яго прозвішча Жалязноў. Гэта ўжо наша, уральскае. У нас жа кругом жалеза. Нашым жалезам мы і германца б'ём. Толькі вось што я думаю: навошта жывога чалавека жалезам знішчаць? Чалавек жыць павінен.

— Дзядзька Ягор,— пытаўся Кузьма (ён Пчалаводава зваў дзядзькам),— як ты думаеш: калі вайна скончыцца?

— Як нас паб'юць, Кузьма. Як нікога ўжо не застанецца ў салдаты браць.

— Хто ж тады на зямлі жыць будзе?

— Цар Мікалай з Вільгельмам-кайзерам.

— А Жабрэеў кажа,— Кузьма азірнуўся па баках,— цара трэба скідваць...

— Можа, і так.— Пчалаводаў лапіў шынель, які парваў аб калючы дрот, і іголка так і мільгала ў яго тоўстых, жоўтых ад тытуню, пальцах.— Жабрэеў вучоны — яму відней...

— Як жа без цара можна жыць?

— А так, як я без свайго бацькі, царства яму нябеснае, жыву. Дваццаць гадоў, як бацьку на гары Благадаці каменем задушыла. А я жыву, і дзяцей на ногі паставіў.

Слухаць такія словы было нязвыкла, страшнавата.

Але Кузьму зноў і зноў хацелася чуць іх. Так было ў дзяцінстве, калі ён разам з Антонам забіраўся на абламаную верхавіну вольхі высока над ракой і скакаў адтуль галавой уніз у ваду. Кожны раз аж сэрца замірала, але зноў хацелася скокнуць, быццам нехта падпіхваў.

Пра132 рознае гаварылі ў акопах. Іван Юшкоў, зямляк Пчалаводава, часам пацягваўся да хрусту ў касцях, уздыхаў:

— Эх, як там мая Антаніна? Ляжыць недзе, бедная, у халодным ложку, мужа ўспамінае...

— Так яна па табе і засумавала,— падколваў хто-небудзь,— тылавікоў хапае. Яны, як бугаі адкормленыя. А што бабе трэба? Пагладзіць, пашкадуе які-небудзь, яна і рукі ўгору, як германец,— забірай у палон...

— Мая не такая,— цямнеў тварам Юшкоў.

— Усіх вайна разгарачыла. А што твая? І яе нехта ціскае...

— Ну ты, падла,— усхопліваўся, як звер, Юшкоў.— Я табе зараз зубы палічу.

Пра жанчын гаварылі з нейкай злосцю, груба, быццам помсцілі ім за сваю адзіноту. Шмат хлусілі пра свае перамогі над жанчынамі. У гэтай хлусні і ў гэтай злосці былі свае прычыны: усім не хапала цеплыні, звычайнай увагі, якая так патрэбна чалавеку, асабліва калі чалавек кожны дзень ходзіць ля смерці.

У канцы лютага на левы фланг палка падвялі некалькі рот ратнікаў апалчэння. Апалчэнцы былі сытыя, вясёлыя, чыста апранутыя. У тыле яны назапасілі гарэлкі. Гарэлка падагравала іхнюю ваяўнічасць і патрыятызм. Апалчэнцы з пагардай глядзелі на шэрых акопнікаў, брудных, вашывых, лічылі іх палахліўцамі. Тыя ў сваю чаргу адразу іх узненавідзелі і пачалі называць «крыжаносцамі».

— Хай «крыжаносцы» ваююць,— гаварыў Юшкоў, стаўшы да ветру.

З акопаў апалчэнцаў вецер даносіў дружны смех, гугнявую песню грамафона.

— Іч ты, развесяліліся,— нават ціхманы Кандрат Лусковіч не вытрымліваў, пляваўся.

— Нічога. Хутка і ім сумна стане.— Белавалосы Жабрэеў узнімаў каўнер шыняля, жмурыў сінія вочы.— Для іх каля нямецкіх акопаў на калючым дроце георгіеўскія крыжы павешаны.

— Скулу ім у бок, а не крыжы. Ім драўляных крыжоў падвязуць,— гарачыўся Юшкоў, але Пчалаводаў, строга глядзеў на яго, гаварыў:

— Пра смерць не ўспамінай, хлопец. Яна і так за плячамі стаіць...

Неяк над акопамі пакруціўся варожы аэраплан, скінуў бомбы. Выбухам забіла Івана Бычыхіна, што быў веставым у камандзіра роты. Штабс-капітан Кукавераў прызначыў веставым Кузьму. Не хацелася Кузьму адрывацца ад сваіх хлопцаў, з якімі ўжо пасябраваў за гэтыя месяцы, але Пчалаводаў сказаў:

— Ідзі, ідзі... Яно, вядома, сярод афіцар'я многа паскуд. Але ж усёткі зацішней, не так лоб пад кулю падстаўляць будзеш.

Афіцэрская зямлянка была выкапана ў схіле высокага пясчанага ўзгорка, пад трайным накатам з тоўстых сасновых бярвенняў. Туды не пранікала дзённае святло, і таму палілі стэарынавыя свечкі. Кузьма браў пукі свечак і ўтыкаў іх проста ў сцены.

У Кукаверава ўвесь час балелі зубы, і ён хадзіў, абвязаўшы тоўстую няголеную шчаку шаўковай насоўкай. Моршчыўся ён заўсёды — дрэннае ці добрае гаварылі яму. Часта да афіцэраў прыходзілі сёстры міласэрдзя з лятучага лазарэта. Яны ўразілі Кузьму: танклявыя, дужа прыгожыя, у строгіх чорных сукенках, у белых касынках з чырвонымі крыжамі. Яму нават здалося напачатку, што яны выпраменьваюць святло.

«Ведама, гарадскія,— успамінаючы свае Чмялі і чмялёўскіх дзяўчат,— думаў Кузьма,— кожны дзень па хунту мыла змыльваюць, а ў дзікалоне, пэўна, купаюцца».

Была сярод іх адна, якую ўсе звалі графіня. Высокая, чорнавалосая, вочы чорныя-чорныя, як вечаровае неба. «Графская дачка ці жонка,— разважаў сам з сабою Кузьма.— Бач ты, і яна ў акопы пайшла...»

Афіцэры і іхнія госці часта пілі. Кукавераў моршчыўся, казаў:

— На хворы зуб! — і спрытна куляў чарку.

Здзівіла Кузьму, што прыгожыя сёстры міласэрддзя п'юць, як і мужчыны.

Калі выпівалі, паручнік Стахееў, кучаравы, светла-русы, браў гітару з блакітным бантам. Гітара ў ягоных руках, здаецца, плакала, так сумна іграў ён.

— Вы песіміст, паручнік,— казала графіня,— у вашым узросце трэба іграць мажорнае. Такое, каб крылы за спінай выраставі.

— Ах, графіня,— сумна і прыгожа ўсміхаўся Стахееў,— у гэтых акопах згніюць самыя моцныя крылы. Падумаць толькі: мы страцілі ўжо васемнаццаць губерняў.

І спяваў:

Гэй ты, Русь мая,
Русь дзяржаўная,
Ты радзіма мая
Праваслаўная.

— Імперыя вялікая,— чырванеў ад выпітага Кукавераў.— Матухну Расію ні манголы не скарылі, ні Банапарт. Будзем спадзявацца на божую літасць...

— Трэба спадзявацца на гарматы і салдат, Аляксандр Міхайлавіч. Як не хочацца думаць, што надыдзе дзень, і ў «Рускім слове» ў спісах загінуўшых надрукуюць: «Паручнік Стахееў. Вечная яму памяць».

— Фі, паручнік,— гнеўна зводзіла бровы графіня.— Не трэба ж так раскісаць. А нашы салдаты — героі. Падыдзіце, калі ласка, сюды,— звярнулася яна неяк да Кузьмы, што прынёс Кукавераву пакет,— вып'ем за перамогу нашай зброі.

Кузьма, які хацеў ужо выйсці з зямлянкі, ад нечаканасці нават спатыкнуўся. Ніхто нідзе ніколі не называў яго на «вы». А графіня сама падышла да яго з маленькай залочанай чаркай у руцэ:

— Выпіце...

Яе вочы ў паўзмроку зямлянкі здаваліся шэрымі. Кузьма разгубіўся і не ведаў, што рабіць.

— Выпі, Радзімовіч,— літасціва дазволіў Кукавераў.

Усе афіцэры павярнуліся да Кузьмы. Паручнік Стахееў глядзеў на яго, на графіню, церабіў доўгімі вузкімі пальцамі бант на гітары, іранічна ўсміхаўся.

Гарэлка, як вар, апякла ўсё ўнутры. Графіня глядзела на Кузьму прыгожымі вачыма, і на яе белай тонкай шыі ўздрыгвала сіняя жылка. Кузьма выцер рукавом губы, папрасіў дазволу выйсці, і калі ўжо зачыніў цяжкія, абабітыя бляхай дзверы, пачуў за спінаю голас Стахеева:

— Ён так глядзеў на вас, графіня. І ведаеце, што ён думаў: чаму яна падае такую маленькую чарку?

Там, у зямлянцы, дружна зарагаталі. А ў Кузьмы пацямнела ўвачч у: захацелася поўнай жменяй зачэрпнуць шэрага мокрага пяску, убегчы ў зямлянку і шпурнуць гэты пясок у нахабны рот, што сказаў такія словы. Але ён быў салдат, просты салдат у брудным, прапаленым ля кастроў шынялі, ён быў чарвяк пад бліскучым ботам паруч-

ніка, і ён толькі глыбока ўздыхнуў і схаваў свой гнеў на самае дно душы.

«Яны ўсе пагарджаюць мной,— думаў ён, ідучы ў свой узвод, бо толькі Пчалаводаў мог зразумець яго.— Хто я для іх? Чорны мужык, які смярдзіць гноем, з якога можна смяяцца колькі ўлезе. А ці смяялася графіня?» Ён многае аддаў бы, каб даведацца пра гэта. Чамусьці Кузьму здавалася, што яна, такая "далікатная і прыгожая, не можа смяяцца з чужой бяды. Яму зноў, аж да болю ў грудзях, захацелася дадому: там зараз ідзе ціхі снег, кладзецца на палосы, на стрэхі хат, там маці паліць у печы, глядзіць на полымя, абіраючы бульбу, і ўспамінае яго. А бацька з Антонам пайшлі пад паветку, сякуць дровы або рамантуюць сані. І так мірна там, так бела ад снегу. Здаецца, скінуў бы шынель, цяжкія боты і босы пабег туды, і родная зямля саграваЛа б ногі.

Ва ўзводзе ён знайшоў толькі Пчалаводава і Жабрэева. Яны ўзрадаваліся яго прыходу.

— Юшкоў і Лусковіч у лазарэце,— сказаў Пчалаводаў,— Юшкоў, дурная галава, хацеў смеласць сваю паказаць: вылез на бруствер і пачаў там на гармоніку іграць. Ну германец, ведама, і пеканоў яго па казённым месцы. А ў Лусковіча нешта з жыватом. Аж пазелянеў хлопец... А ты чаго такі сярдзіты?

Кузьма хацеў змоўчаць, але не вытрымаў: расказаў пра ўсё, што здарылася ў афіцэрскай зямлянцы.

— І з-за гэтага ты скіс? — здзівіўся Пчалаводаў.— Дзякаваць богу, Кузьма, што па зубах хто-небудзь з залатапузых не заехаў. А слова — што? Словам мужыка не заб'еш. Не такія словы чулі.

— Не тое ты гаворыш, Іванавіч,— трасянуў кужэльнымі валасамі Жабрэеў,— чалавеку ў душу плюнулі, у самае, можна сказаць, святое. Мы пра душу толькі ў час малітвы ўспамінаем. А яна ж кожны дзень у кожным з нас жыве, баліць, хоча, каб яе паважалі. Наступі ботам на травінку якую-небудзь. Сагнецца, здаецца, растаптаў яе. А адыдзешся — зноў выпрасталася. Так і душа...

— Іч ты,— з павагай глянуў Пчалаводаў на Жабрэева,— складна гаворыш. Душа, як травінка. Іч ты...— Яму падабаліся людзі, якія ўмелі прыгожа і разумна гаварыць, гэта ў іх ад бога,— думалася яму.

Кузьму таксама спадабаліся словы Жабрэева.

— Пчалаводаў! — даляцеў раптам з суседняга бліндажа, дзе стаялі піраміды са зброяй, бас фельдфебеля Мыльнікава.— Бягом да мяне!

Пчалаводаў таропка ўзбіў на галаве папаху, падцягнуў тужэй папружку, пабег на голас. Неўзабаве адтуль пачулася:

— Чаму ў цябе, нягоднік, вада ў ствале вінтоўкі? Вадой будзеш страляць? Маўча-а-аць!..

Жабрэеў узяў Кузьму пад руку, павёў па траншэі, па дошках, заляпаных гразёю і мокрым снегам, пад накат з бярвенняў, дзе яны спалі на самаробных нарах.

Там спыніўся, паглядзеў на Кузьму сінімі і празрыстымі, як лёд, вачамі, спытаўся:

— Ты вясковы?

— З Ігуменскага павета Мінскай губерні.

— Значыць, не табе расказваць пра сялянскую жытуху...— Ён панізіў голас.— Я даўно да цябе прыглядаюся, Радзімовіч. Талковы ты хлопец. Слухай — падавайся ў нашу партыю.

— Якую партыю? — спалохаўшыся, азірнуўся па баках Кузьма. Ён чамусьці падумаў, што ўсё гэта Жабрэеў падстроіў наўмысна і недзе побач іх падслухоўвае фельдфебель Мыльнікаў.

— Сялянскую партыю. Сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Хочаш зямлі і волі свайму бацьку і сабе?

— Ну, хачу. Хто ж гэтага не хоча? — няўпэўнена сказаў Кузьма.

— Ды ты не палохайся,— усміхнуўся Жабрэеў.— Я ніводнай жывой душы пра гэта не скажу. Гэта — між намі. Разумееш?

Кузьма маўчаў, калупаў наском бота сучок, што вытыркаўся з дошкі.

— Падумай,— сказаў Жабрэеў, ляпнуўшы яго па плячы.— Хлопец ты талковы.

«Зямлі і волі бацьку і сабе,— думаў Кузьма, калі Жабрэеў пайшоў ад яго, грукаючы па мокрых дошках ботамі.— Вядома, хачу. Чалавекам стаць хачу...» Ён зноў успомніў здзеклівыя словы паручніка Стахеева, і маршчыны, глыбокія, рэзкія, ляглі над бровамі.

У самым канцы зімы, як гром з неба, прыйшла навіна — скінулі цара. Раставаў снег, неба было звонкае і высокае, сляпіла вочы агністае сонца. Каля траншэяў, у полі, звінелі ручайкі, яшчэ нябачныя пад снегам. Іх сярэбраны звон браў за душу.

Прыехалі салдаты з лазарэтаў з Мінска і сказалі, што галоўнакамандуючы Заходнім фронтам генерал Эверт ходзіць з чырвоным бантам. Потым прыйшоў загад № 1 Петраградскага Савета. Афіцэры захваляваліся. Некаторыя пачалі знікаць з перадавой, быццам раставалі разам з зімовым снегам. Паручнік Стахееў кінуў іграць на гітары, хадзіў пануры, з халодным бляскам у вачах. З фельдфебеля Мыльнікава садралі пагоны, надавалі яму кухталёў. Ад яшчэ большай бяды выратаваў яго камандзір палка палкоўнік Талубко — перавёў у гаспадарчы ўзвод.

— Слухай, брацец,— сказаў Кузьму штабс-капітан Кукавераў, і вочы яго мітусіліся, як мышаняты ў цёмным закутку.— Ідзі ў свой узвод. Абыдуся я без веставога. Свабода!

Ён спрабаваў засмяяцца, але гэта яму не ўдалося. Кузьма ў той жа дзень вярнуўся да сваіх і адразу ўбачыў шмат змен. Усе быццам памаладзелі, былі вясёлыя, шмат гаварылі. Юшкоў — на папасе вялікі чырвоны бант — сядзеў на нарах і нешта выразаў ножыкам-складанчыкам.

— Што гэта ты робіш? — пацікавіўся Кузьма. Юшкоў глянуў на яго вясёлымі вачыма:

— Пячатку для нашага ротнага салдацкага камітэта. Я ж, дарагі ты мой, знатнецкім гравёрам быў. Бывала, такую мадаму выражаш з дрэва ці з каменя каляровага. Тут табе і грудзі, і ножка, як жывая...

— А што за камітэт такі?

— Гэ! Ды ты што — з неба зваліўся? Камітэт — гэта наша з табой зараз начальства. І пячатку яму трэба, каб, значыцца, усё па форме было. Адным словам — свабода, грамадзянін Радзімовіч! А вось і наш начальнік...— Ён рукой, у якой трымаў ножык, паказаў на Пчалаводава, што ўвайшоў у бліндаж.

Плечы Пчалаводава былі абсыпаны мокрым снегам. Ён збіў яго папахай, змахнуў ваду з барады, паздароўкаўся з Кузьмой:

— Было такое дзела. Выбралі мяне, Кузьма, у ротны камітэт. Кажуць: ты ўжо салдацкай кашы нямала з'еў — кіруй народам. А як гэтым народам кіраваць? Дзякуй богу, Жабрэеў у нас за галоўнага. У яго галава варыць...

Пчалаводаў гаварыў усё гэта неяк сарамліва, нават вінавата, але было відно — тым, што яго абралі ў камітэт, вельмі задаволены.

— Што ж з вайной будзем рабіць, Ягор Іванавіч? — Юшкоў паднёс блізка да вачэй пячатку, уважліва разглядаў сваю работу.

— Ды каб на яе мор, Ваня,— прысеў на нары Пчалаводаў.— Яна ўсім, як костка ў горле. Я сёння, толькі сказалі б, дадому пешшу пайшоў бы. Але Жабрэеў кажа: дужа не па нутру германцу, што ў нас, у Расіі, свабода аб'явілася. Хоча зноў Мікалая нам вярнуць...

Юшкоў пахукаў на пячатку, моцна дзьмухнуў і пачаў церці яе аб рукаў гімнасцёркі. Потым узняў на Пчалаводава і Кузьму чырвоныя стомленыя вочы:

— А я думаю: не ўсім яна, як костка ў горле. Ёсць такія, што рады ёй. Чым болей людзей заб'юць, пакалечаць, тым болей ім грошай. Праўда, Кузьма? — Ён глянуў на Кузьму, быццам пракалоў чорнымі вачамі.

Кузьма разгубіўся:

— Дык жа Жабрэеў кажа...

— Што вы ўсе са сваім Жабрэевым, як з пісанай торбай, носіцеся? Жабрэеў... Жабрэеў...— Юшкоў ажно падскочыў з нараў.— Учора вы Мыльнікава баяліся, сёння Жабрэева. А хто ён такі? Што ў яго ўсярэдзіне, вы ведаеце? Ого, як ён ужо нос задраў — не падступішся...

Усе змоўклі, усім стала няёмка. Юшкоў таксама адчуў, што пагарачыўся, заляпаў рукамі па кішэнях, пачаў шукаць табаку. Са столі бліндажа, з тоўстых пазелянелых бярвенняў капала вада, светлыя бліскучыя кроплі біліся ў дно снараднай гільзы. Здавалася, у бліндажы прыцмоквае дзіця. І ўсе ўспомнілі, што на дварэ вясна, што чырвонае сонца зганяе з палёў снег. Кузьму на імгненне ўбачыліся далёкія Чмялі: цырубалкі тырчаць са стрэх, як вострыя блішчастыя коп'і, дзеці збіваюць іх снежкамі, бяруць у рот, смокчуць, аж язык пруцянее ад холаду.

У гэты час у бліндаж увайшоў Жабрэеў, вясёлы, упэўнены, з-пад шэрай папахі выбіваюцца белыя мяккія стружкі валасоў.

Убачыў Кузьму, узрадаваўся:

— Здароў, Радзімовіч. Да нас вярнуўся? Добра. Тут у нас павесялела. Заўтра едзем у Нясвіж выбіраць камітэт нашага баявога 29-га Сібірскага палка...

Гаварыў ён наўмысла моцна, бадзёра, у сініх вачах успыхвалі агеньчыкі.

— Слухай, Жабрэеў,— зноў сеў на нары Юшкоў,— тут мы цікавімся — калі ж можна будзе скончыць усю гэтую завaруху? Зямля з-пад снегу вылазіць. Трэба араць, сеяць.

— Ты наконт вайны? — На пераноссі ў Жабрэева, як праменьчыкі, збегліся тонкія маршчыны.— Вораг напірае, Іван. Вось скруцім яму рогі, тады і дадому можна падавацца.

— Дык і германцу ж трэба араць, хлеб сеяць. Што ён — жалеза будзе жэрці? — не здаваўся Юшкоў.

Жабрэеў ледзь прыкметна спахмурнеў, быццам воблачка набегла на твар:

— Да нас з Петраграда едзе ваенны міністр Гучкоў. Я думаю, ён нам усё добра расталкуе. Не можам жа мы, зразумей, Іван, фронт агаліць. Хлыне германец, як саранча. Усю Расію падамне, да тваёй Екацярынбургскай губерні дойдзе. Што тады рабіць будзеш?

— Не ведаю, куды ён дойдзе, а дзяліць мне з ім нечага. І мае, і яго дзеці плачуць,— рашуча сказаў Юшкоў.

Ён устаў з нараў, накінуў на плечы шынель, моўчкі пайшоў да выхада.

— І праўда, Жабрэеў,— стаміўся народ. Трэці год у акопах сядзім. Ні жонак, ні дзетак не бачым. Хіба можна так? — гэта ўжо казаў Пчалаводаў. Яму было і няёмка гаварыць супраць Жабрэева, такога разумнага, разважлівага, але і крывіць душой ён не мог.

— А як ты, Кузьма, думаеш? — павярнуўся Жабрэеў да Радзімовіча.

І Кузьма зразумеў: чакае ад яго старшыня ротнага камітэта падтрымкі. Але ён таксама сказаў тое, што думаў:

— Я — як і ўсе. А ваяваць ужо ніхто не хоча...

Над траншэямі ўладарыла вясна. Неба было высокае, бязмежнае. Адзінокія воблакі, як кавалкі бела-сіняга лёду, ззялі на небасхіле. У час заходу край неба лёгка чырванеў, потым рабіўся густа-вішнёвы, агністы, аж вачам было балюча глядзець. Снег на брустверах асядаў, шарэў, пакрываўся бліскучай ледзяной скарынкай, пад якой булькатала вада. У такія хвіліны салдаты з болем у сэрцы думалі аб родным доме, аб зямлі і дзецях. Такая прыгажосць нараджалася наўкола, а ім, салдатам, трэба было паміраць.

Кузьма глядзеў, як апускаецца ў снежна-белы прасцяг сонца, і думаў, што зараз у Чмялях пачынаюць паліць у печах, рыхтаваць вячэру. Вось і маці нахілілася каля печы, паклала на загнетак бярэмца дроў. Потым узяла сушэйшае паленца, кінула яго ў яшчэ слабае полымя. Весела шуганулі іскры, клубом паляцелі ў комін, з коміна ў халоднае вячаровае неба. І адна іскрынка ўзнялася высока-высока і зледзянела там, ператварылася ў зорку, каб ноччу свяціць над Кузьмовым акопам.

Назаўтра раніцай паехалі ў Нясвіж на палкавы мітынг. З роты ехала чалавек трыццаць. Запрэглі батарэйных коней-біцюгоў у сялянскія фурманкі, весела калаціліся па дарозе, што ззяла вялізнымі лужынамі, у якіх адбіваліся высокія белыя воблакі. Кузьма кіраваў фурманкай, і яму нават крыху боязна было ўязджаць у гэтыя бліскучыя лужыны, бо яны здаваліся бяздоннымі.

Ва ўсіх на папахах палымнелі чырвоныя банты. Іван Юшкоў узяў у дарогу свой старэнькі гармонік, іграў вясёлае, няскладнае.

— Юшкоў! — крыкнуў яму з пярэдняй фурманкі Жабрэеў.— Сыграй «Марсельезу».

— Што? — перапытаў Юшкоў.

— «Марсельезу». Гімн свабоднага народа.

— У нас на Урале такіх не іграюць,— хмура адказаў Юшкоў і зайграў «Барыню».

Праехалі вёску Караліны. З хат, двароў выходзілі людзі, пераважна жанчыны і старыя, глядзелі на салдат. На тварах у іх было чакан-

не. Здавалася, хочуць яны нешта сказаць, нешта спытаць, але саромеюцца.

Разам з Кузьмой у фурманцы сядзелі Пчалаводаў, Юшкоў, Лусковіч і паручнік Стахееў. Стахееў утуліў галаву ў каўнер шыняля, за ўсю дарогу не вымавіў ні слова, нібы гаварыць развучыўся. Толькі аднойчы, калі Кузьма, загледзеўшыся, накіраваў каня ў глыбокую залітую вадою калдобіну і іх добра такі падкінула, шчокі Стахеева пачырванелі, і ён крыкнуў:

— Правей трымай!

Наогул, паручніка за апошнія дні быццам падмянілі. Сінія вочы патухлі, ён пацяжэў, пастарэў. Кузьма, каб сам не чуў, ніколі не паверыў бы, што паручнік так хвацка ўмее іграць на гітары і так добра спявае.

Затое Юшкоў быў дужа вясёлы, можа, дзеля таго, падумалася Кузьму, каб пазлаваць паручніка. Юшкоў пераспяваў ужо ўсе вядомыя яму песні і штурхаў у спіну Пчалаводава:

— Ягор, якія ў вас у Тагіле частушкі пра фабрычных дзевак пяюць? Успомні.

— Адчапіся ты,— смяяўся Пчалаводаў.— Іч ты, пра дзевак яму захацелася...

Усе смяяліся, нават маўклівы Лусковіч. Толькі Стахееў сядзеў з каменным тварам і ледзь прыкметна крывіў губы.

Нарэшце паказаўся Нясвіж: вежы ратушы, фарнага касцёла, радзівілаўскага замка. Каля горада сінелі невялікія азёры. Усё гэта пад яркім веснавым сонцам выглядала па-святочнаму.

— Тут некалі марская школа была. На маракоў вучылі,— сказаў раптам Лусковіч. Усе здзіўлена паглядзелі на яго, толькі Стахееў не варухнуўся.

— Адкуль ты ведаеш? — іранічна павёў чорным вокам па маўчуну Лусковічу Юшкоў.— Адсюль да таго мора, як да майго Урала.

— Была марская школа,— пачырванеўшы, упарта паўтарыў Лусковіч.— Я ў адной старой кніжцы чытаў.

У Нясвіжы было поўна салдат. Цывільныя трапляліся зрэдку. Здавалася, шматтысячнае войска ўзяло штурмам горад, пабіла ці паразганяла жыхароў і зараз не ведае, што рабіць далей. Салдаты хадзілі купкамі, былі ўзброеныя, спрачаліся, махалі рукамі. Некаторыя на папахі і шынялі паначаплялі чырвоных бантаў. Георгіеўскія кавалеры і «ўдарнікі» трымаліся больш салідна і паважна. Сярод гэтага кіпучага людскога мурашніку яны, відаць, ведалі сабе цану. Дзе-нідзе стаялі невялікія яўрэйскія лавачкі, у якіх можна было купіць кавалак мыла, тытунь, селядцоў, нават пляшку гарэлкі. Тут жа працавалі

вулічныя фатографы, захінуўшыся амаль па пяты чорнымі прасцінамі, чаравалі над сваімі трыногамі. Якому-небудзь салдаціку заставалася толькі ўсунуць галаву ў круглую дзірку, прарэзаную ў вялікім лісце фанеры, пастаяць так мінут дзесяць — дваццаць, і ён мог быць упэўнены, што ўся вёска ахне, атрымаўшы ягоную фатаграфію,— такім малайцом зрабіўся ён. Шырокія волатаўскія плечы, пукатыя грудзі ў медалях, моцная рука ўсаджвае штык вінтоўкі проста ў пуза прусаку, што ляжыць каля салдацкіх ног. Хоць усё гэта было намалявана на фанеры, а сваёй заставалася толькі галава, усё роўна прыемна было ўявіць сябе такім — прыгожым, смелым, непераможным.

Штаб 2-й арміі размяшчаўся ў радзівілаўскім замку. Фурманкі прагрукацелі па мокрым, бліскучым бруку, доўга аб'язджалі замак, нарэшце спыніліся на невялікай плошчы, наўкол якой стаялі нізенькія драўляныя хаткі. Плошча была шэрая ад салдацкіх шынялёў. У цэнтры яе стаяла зробленая на скорую руку трыбуна. Над трыбунай, нацягнуты на двух шастах, матляўся лозунг — вялікія чорныя літары па белай прасціне: «29-ы Сібірскі полк абароніць дэмакратыю і свабоду!»

Як толькі спыніліся, Жабрэеў саскочыў з фурманкі і, працуючы локцямі, пачаў прабірацца праз натоўп да трыбуны, Пчалаводаў і Кузьма хацелі падацца за ім, але Юшкоў плюнуў, махнуў рукой:

— Што вы там не бачылі? Яму ж трэба да начальства быць бліжэй, а вам што? Ці брахаць будуць, ці праўду казаць — і адсюль пачуем.

Ён перакінуў рэмень ад гармоніка цераз плячо, прымерыўся вокам да ніжэйшых сукоў дрэва, што расло тут на плошчы, раптам лёгка падскочыў, падцягнуўся на руках і ўжо сядзеў на дрэве.

— Ну і лаўкач ты, Іван,— толькі і сказаў Пчалаводаў.

А Юшкоў гаварыў зверху:

— Наш Жабрэеў ужо на трыбуне. Каля камандзіра палка круціцца. Бач ты: і нейкая баба там. Нічога сабе мадама. І капітан Кукавераў, як кот, аблізваецца каля мадамы.

Кузьма выцягваў шыю, станавіўся на пальчыкі, але ўсё роўна папахі і шырокія спіны перашкаджалі бачыць, што робіцца на трыбуне. Ён толькі чуў густы і сіплы голас камандзіра палка палкоўніка Талубко:

— Мы ўсе грамадзяне вольнай Расіі, яе сыны і воіны. Вясна народаў прыйшла і ў нашы акопы. Яшчэ ўчора мы былі бяспраўныя слугі дэспатызму, а сёння мы гаворым усяму свету: руская армія ўзняла над сабой гордыя сцягі свабоды, руская армія не дазволіць нікому задушыць гэтую свабоду ў калысцы.

Салдацкі натоўп узбуджана-радасна зароў. Паляцелі ўгору папахі. Нехта стрэліў з рэвальвера. Незразумелая радасць і весялосць перадаліся і Кузьму. Хацелася крычаць нязвыклыя прыгожыя словы, якія ап'янялі, як віно, як пацалунак жанчыны. Але зверху Юшкоў запытаўся ў тых, што на трыбуне, быццам халоднай вады лінуў за каўнер.

— Калі дадому? Калі мір з германцам заключым?

— Я адкажу вам, грамадзянін салдат,— як званочак сярод глухіх удараў барабана, прарваўся раптам праз тлум мужчынскіх галасоў высокі жаночы голас, і Кузьма ўздрыгнуў: графіня! Гэта была яна. Кузьма амаль на плечы ўзлез здаравеннаму рыжавусаму акопніку, што стаяў перад ім, і ўбачыў графіню: у простым салдацкім шынялі, з чырвоным бантам у нічым не прыкрытых, ярка-чорных доўгіх валасах. Твар яе быў бледны, прыгожы, нібы яна ўжо была памёршая, але ўваскрэсла, ажыла, і з кожным словам усё ярчэй загараліся вочы, усё гусцей пунсавелі шчокі.

— Я адкажу вам,— гаварыла яна, гледзячы з трыбуны на Юшкова, што, як шпак, сядзеў на дрэве.— Я сястра міласэрдзя. Я бачыла, як паміраюць ад куль, гранат, бомбаў і снарадаў рускія салдаты. Гэта сапраўдныя героі. Не адступіўшы ні кроку назад, яны паміралі, як гапліты спартанскага цара Леаніда, як воіны Аляксандра Македонскага. За іх плячамі была святая Русь, і яны біліся за яе да канца. Хіба ж вы, іх браты, не адпомсціце за іхнюю пралітую кроў? Хіба вы зможаце спаць спакойна, калі вам прысніцца гэта кроў?

Натоўп загуў, закалыхаўся. Здавалася, крыкні цяпер гэтая прыгожая жанчына: «Ідзіце памрыце!» — і ўсе б пайшлі на смерць. Толькі Юшкоў быў на дзіва спакойны, і калі трохі прыціхла, ён — настырная душа — спытаўся ў сястры міласэрдзя:

— Няўжо вам, грамадзяначка, так хочацца нямецкай крыві?

— Ах ты сволач! — крыкнуў рыжавусы акопнік, падскочыў, ухапіў здаравеннымі рукамі Юшкова за нагу.— Зараз мы з табой расквітаемся...— Але Юшкоў лёгка ўдарыў яго ботам у твар. Рыжавусы адразу закрыў твар рукамі. На пальцах зачырванелася кроў. Тады яшчэ з дзесятак салдат, злых, рашучых, падбегла да дрэва. Здавалася, вось-вось вырвуць яго з карэннем, і ўжо не паздаровіцца Юшкову.

— Што вы робіце, хлопцы? — раскінуў перад імі рукі Пчалаводаў.

Ён быў падобны на курыцу-квактуху, што бароніць сваё занадта шустрае, неразумнае пылянятка.

А Юшкоў раптам выхапіў нешта з-за пазухі — граната! — падумаў Кузьма,— размахнуўся, страшна выкаціў чорныя вочы.

— Разыдзі-і-ісь! Мяса нараблю!

Салдаты пабялелі ад страху, спыніліся. Усе чакалі: вось-вось рэзка апусціцца ўскінутая аж за плячо рука і грымне выбух. І, як збавенне, зноў прагучаў жаночы голас.

— Грамадзяне салдаты! У свабоднай арміі не можа быць самасуду.

Усе гэтыя імгненні душа Кузьмова як бы разрывалася на дзве часткі: ён прагна, з нейкай нязвыклай, абвостранай асалодай лавіў кожнае слова прыгожай графіні і адначасова захапляўся Юшковым, ягонай смеласцю.

Юшкоў схаваў руку за пазуху, разгубленыя хмурныя салдаты глядзелі на яго з нянавісцю, але стаялі на месцы.

— Іван,— сказаў Пчалаводаў, гледзячы на Юшкова,— ты, як малое дзіця. Злазь адтуль. Пойдзем... Ну іх усіх к богу.

Юшкоў, не выцягваючы руку з-за пазухі, скокнуў на зямлю. Ноздры яго тонкага, трошкі гарбатага носа трапяталі. А з трыбуны ўжо загаварыў Жабрэеў. Гаварыў ён спакойна, роўна, быццам нічога не здарылася. Да Кузьмы мала даходзілі яго словы, ды Кузьма, па праўдзе кажучы, стараўся ў іх і не ўнікаць. Дужа многа слоў чуў ён за апошнія месяцы, слоў прыгожых, часам мудрагелістых, незразумелых, каб, як малы хлапчук, развесіць вушы, слухаючы яшчэ аднаго разумніка.

«Гаварыць лёгка. Ты б поле ўзараў, поту салёнага паглытаў»,— ужо не раз думаў ён, гледзячы, як упэўнена вылазіць на трыбуну чарговы прамоўца. Такія думкі былі ў ім, відаць, ад спрадвечнай сялянскай маўклівасці, спрадвечнай адзіноты, калі толькі зямля, конь ды плуг цэлы дзень перад вачамі, і няма з кім перакінуцца слоўцам. А калі і стрэнеш жывую душу, то, аказваецца, і гаварыць няма аб чым. Хіба пра сваю паласу, свайго каня, якога трэба падкаваць, пра ўчарашні дождж, што збіў з яблынь квецень. І ўсё будзённымі, шэрымі словамі. Але нават і такія словы, як плугі, сціраюцца ад частага ўжытку.

Яны выбіраліся з натоўпу, як раптам Пчалаводаў таўхануў Кузьму пад бок:

— Чуеш? Пра цябе гавораць.

Кузьма вельмі здзівіўся, прыслухаўся.

— Таму, што ён селянін, такі ж, як і вы, селянін у салдацкім шынялі,— гаварыў Жабрэеў.— Ён спіць у траншэі і сніць сваю зямлю, свой плуг, які пакрыўся ржою. І адна ў яго думка: хутчэй разбіць праклятага германца і вярнуцца да мірнай працы. Такіх, як Кузьма Радзімовіч, вельмі многа. І я заклікаю вас: уступайце, як і ён, у партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Толькі наша партыя разумее селяніна, абараняе яго інтарэсы.

Юшкоў насцярожана глянуў на Кузьму:

— Дык ты, аказваецца, эсэр. А маўчыш!

— Нікуды я не ўступаў,— пачырванеўшы, запярэчыў Кузьма,— гэты Жабрэеў наплёў, чаго не было.

У палкавы камітэт з Кузьмовых знаёмых выбралі Івана Беламесных, Жабрэева, штабс-капітана Кукаверава і графіню — сястру міласэрдзя — прозвішча яе аказалася Галасоўская.

«Смелая і рашучая,— думаў Кузьма пра Галасоўскую.— І прыгожая...»

Гэтая апошняя якасць сястры міласэрдзя найбольш уражвала Кузьму: сярод крыві і бруду, сярод смерці і знішчэння, сярод салёных акопных анекдотаў павінна было, хоць у марах, быць у чалавека нешта светлае, чыстае, патаемнае, сваё, як вірлівая крынічка ў лузе, якая хаваецца ў густой траве, якую ведаеш толькі ты адзін ды яшчэ неба і вецер. Без гэтага нельга, без гэтага чалавек можа незаўважна для сябе самога апусціцца ніжэй той рысы, якая аддзяляе яго ад бяздушнага аўтамата, ад жывёлы. Чым гэта называецца? Ідэалам? Богам у душы? Кузьма, вядома, не мог даваць такія вызначэнні, ён проста не ведаў іх і не чуў пра іх. Але на самым дне ягонай душы разгараўся кволы агеньчык, які запаліла гэта дзіўная, незразумелая, прыгожая жанчына, амазонка, што жыла сярод грубых, ачарсцвелых душою мужчын і ў той жа час заставалася светлай і чыстай. Ён не быў наіўны. Ён разумеў, што не пара ёй: багатай і прыгожай, з блакітнай графскай крывёю пад далікатнай белай скурай. Ён нікому нічога не мог сказаць, бо яго адразу б засмяялі, проста палічылі б дурнем. Але ніхто не мог адабраць у яго права ў рэдкія хвіліны сустрэч глядзець на яе здалёк, бачыць яе гордую галаву, тонкія маленькія рукі, чорныя валасы, якія вельмі добра ўпрыгожваў бы вянок са звычайных палявых кветак, што ўлетку растуць каля Чмялёў. Ніхто не мог забараніць яму ў думках плесці гэты вянок.

Пад вечар выехалі з Нясвіжа. Паручнік Стахееў, як ні шукалі яго, як ні чакалі, нібы праз зямлю праваліўся.

— Збег,— адразу растлумачыў усім Юшкоў.— Яму, сцерве, нашы парадкі, як нож у горла. Помню, ён мяне муштраваў: «Кладзіся! Устаць! Кладзіся! Устаць!» Звер, не лепшы за Кіпцюрчыка. Муштруе, у гразь кладзе, а сам смяецца: «Цярпі, пяхота. Мае дзяды на тваіх верхам ездзілі...» Шкада, што я да яго не паспеў дабрацца. Я б яму паездзіў.

Чырвонае сонца садзілася за вежамі замка, нібы крывёю абпырсквала іх. Пасля тлуму мітынгу, шуму і крыку незвычайная цішыня стаяла ўсюды. Падмарожвала. Блішчасты тоненькі лёд зацягнуў каляіны, крышыўся і звінеў пад коламі фурманкі, як шкло. На небе з густой халоднай сінечы выплывалі зоркі.

— Іван,— спытаўся Кузьма ў Юшкова,— а куды ты сваю гранату дзеў?

— Якую гранату? — спачатку не зразумеў Юшкоў, а потым затросся ад рогату.— Гэ, хлопцы, дык я і вас напалохаў. Гэта ж бінокль, нямецкі цэйс. Я яго, як у дазор хадзілі, зняў з іхняга афіцэра забітага...— Ён дастаў з-за пазухі бінокль, даў патрымаць Кузьме: — Харошая штука. Я, як дзяўчаты з лазарэта прыходзілі да апалчэнцаў, глядзеў. Ну ж і ціскалі «крыжаносцы» сястрычак.

— Дай і я пагляджу,— папрасіў Кузьма.

Ён перадаў лейцы Пчалаводаву, няўмела прыклаў бінокль да вачэй. На чыстым полі заскакалі рысачкі, крыжыкі.

— Ты вось гэту штукенцыю крутані,— параіў Юшкоў.

Праз колькі імгненняў лес, што кволай сіняватай палоскай віднеўся на небасхіле, раптам быццам вырас, быццам падбег да іхняй фурманкі. Нават птушынае гняздо чарнелася на тонкай высокай сухадрэвіне. Кузьма павольна вёў біноклем па лесе, па вялікай паляне, над якой віўся густы белы дым — пэўна, нехта запаліў вогнішча. Вось відзён на паляне стажок сена, ужо абскубаны знізу. На стажку сядзіць варона. Усё такое мірнае, зразумелае. Добра і неяк цёпла было думаць, што гэта ласі, напалоханыя вайной, месячнай ноччу выходзяць з ляснога гушчару, асцярожна выцягваючы ўперад гарбаносыя пысы, выдзіраюць са стажка пахучае сена. І лядок блішчыць пад месяцам і звініць пад іхнімі моцнымі капытамі. Праз лес вяла дарога. Чорнай стужкай яна выбягала на паляну, потым на поле. Кузьма слізгануў біноклем па дарозе, пачаў забіраць у балотца, з якога тырчалі гнілыя лядашчыя асіны і бярозы, але раптам вярнуўся назад, бо на дарозе ўбачыў аўтамабіль. Быў аўтамабіль чорны, доўгі, з адкрытым верхам. Ён лянiва і ў той жа час неяк весела падскокваў на выбоінах. Вечаровае сонца раз-пораз успыхвала ў ветравым шкле. Шафёрам быў салдат, ужо немалады, трохі згорблены, з вялікімі англійскімі крагамі на руках. А ззаду шафёра сядзелі — Кузьму спачатку здалося, што ён памыліўся — капітан Кукавераў і Галасоўская. Так, гэта былі яны. Добра было відаць, што ў капітана, як заўсёды, перавязана шчака — баляць зубы. Ён нахіляўся да пляча Галасоўскай, нешта гаварыў ёй, усміхаўся. І яна таксама адказвала яму ўсмешкай. Чорныя яе валасы струменіліся пад ветрам, часам закрывалі твар. І яна тады адмахвала іх рукою. У Кузьмы балюча і сумна заныла сэрца. Трэба ж было браць гэты пракляты бінокль! Нічога б не бачыў і нічога не ведаў.

— Куды гэта ты ўгледзеўся, як сляпы Мэндаль у капейку? — весела спытаўся ў яго Юшкоў.

— На лес гляджу,— хмурна перасмыкнуў вуснамі Кузьма і адразу аддаў Юшкову бінокль.— А бінокль твой, Іван, відаць, сапсаваны. Няправільна паказвае...

Юшкоў здзіўлена і недаверліва глянуў на яго, але нічога не сказаў.

Праз некалькі дзён з зямлі ўжо зусім сышоў снег. Зямля ляжала чорная, мокрая, недагледжаная. Паміж акопамі, на нейтральнай паласе, з-пад снегу паказаліся трупы людзей і коней. Адзін труп, чамусьці без бота на левай назе, ляжаў якраз перад акопамі трэцяй роты. Вялікі счарнелы палец босай нагі паказваў у неба. Часам на труп садзілася варона.

Кузьму здавалася нават, што ён бачыць яе вочы, маленькія і халодныя, як шкляныя шарыкі.

— І нас вароны кляваць будуць,— сумна і сярдзіта гаварыў Пчалаводаў і стараўся не глядзець у той бок.

Усё часцей сніліся Кузьму родная хата, маці з бацькам, дзед Ігнат, Дзіна і Антон. Здавалася, сто гадоў не быў ён ужо дома і ніколі больш не вернецца туды. «І нас вароны кляваць будуць»,— заселі ў галаве словы Пчалаводава, і ён прывык да іх, як прывыкаюць у цяжкім паходзе да мазалёў на нагах. Ён нават перастаў баяцца гэтых слоў, бо смерць хадзіла блізка, а страшней смерці нічога на свеце не бывае. Колькі перадумаў ён за доўгія ночы! У думках вяртаўся ў свае Чмялі, заходзіў у крайнюю хату, потым у наступную і гасцяваў гэтак ва ўсіх дварах, успамінаючы, дзе хто жыве, старых і малых, успамінаючы, як заве кожны гаспадар свайго каня ці карову. Такія вяртанні зрабіліся неабходнасцю, ён ужо не мог заснуць, каб у думках не наведацца дадому. Амаль штоночы ўспаміналася яму і тое, як, адыходзячы ў войска, засунуў у хлеўчуку за крокву хустку Франі Перуноўскай. Перад гэтым на вечарынцы ў Перуноўскіх танцаваў з Франяй, і яна, расчырванелая, зеленавокая, прыціскалася да яго моцнымі гарачымі грудзьмі, загадкава глядзела ў твар. Потым, ужо як выйшлі на вуліцу, усе пачалі кідацца снежкамі. Ён таксама зляпіў снежку, шыбнуў у Франю. Франя падбегла да яго, хацела павaліць у снег, хустка ў яе збілася на плечы, і тады Кузьма схапіў хустку. І не аддаў яе, прынёс дадому за пазухай. Цікава, ці знойдзе Антон, ці хто-небудзь хустку за кроквай? А як знойдзе, дык што падумае?

Кузьма любіў свайго малодшага брата, хоць і лічыў яго занадта ціхмяным, слабаком і маўчуном. «У маці ўдаўся Антон,— думалася Кузьму.— Хлопец добры, але яму лепш бы ў спадніцы нарадзіцца».

Між тым мінулася вясна, убіралася ў сілу лета, гарачае, навальнічнае. Над акопамі паплылі снежна-белыя аблокі. Пасля абеду яны цямнелі, цяжэлі, рабіліся вялікімі і сярдзітымі; іх пачыналі крэсліць

сліпучыя вогненныя маланкі. Дождж ліў як з лубу. Вада цякла за каўняры салдацкіх гімнасцёрак, пеністымі ручаямі ўрывалася ў акопы.

— Няйначай, сусветны патоп надыходзіць,— спалохана казаў Пчалаводаў і хрысціўся, гледзячы на разгневанае неба.

Неяк у пачатку ліпеня ўсяму палку загадалі пастроіцца. У акопах пакінулі толькі пасты аховы, а ўсю асноўную масу салдат сагналі ў шырокай балоцістай лугавіне. З сасновых жэрдак змайстравалі трыбуну, і на яе вылезлі камандзір палка Талубко, старшыня палкавога камітэта Жабрэеў і яшчэ некалькі незнаёмых людзей.

— Не ведаеш, Іванавіч, што будзе? — спытаўся Юшкоў у Пчалаводава.

Пчалаводаў, схуднелы, з дужа загарэлым тварам, наморшчыў лоб, заціснуў наздрыну вялікім пальцам, гучна смаркануўся:

— Не ведаю. Кажуць, у нейкія нацыянальныя часці нас будуць забіраць.

Што гэта за часці, ніхто не ведаў. І таму ўсе вельмі ўважліва пачалі слухаць, што гаворыць палкоўнік Талубко. А той, выціраючы спатнелую бліскучую лысіну насоўкай, растлумачыў, як мог, што з дазволу Часовага ўрада ў арміі фарміруюцца часці з воінаў іншых нацыянальнасцей і дзеля гэтага прыехалі ў полк прадстаўнікі Украінскай цэнтральнай рады і Польскага камітэта. Першым пачаў заклікаць усіх землякоў пад свой жоўта-блакітны сцяг украінец. Гаварыў пра ўсё: пачынаючы з хутарка над стаўком у стэпе, дзе так вольна дыхаецца, дзе спяваюць чарнавокія дзяўчаты і варацца галушкі, і канчаючы духам Казакаў Запарожскай Сечы, які, нягледзячы ні ка што, жыве ў кожным, хто меў шчасце нарадзіцца па-над дняпроўскімі кручамі.

— Спраўна чэша,— прыцмокнуў языком Юшкоў.

Прадстаўнік Польскага камітэта быў ужо ў сваёй форме: на галаве нейкая рагатая высокая шапка з казырком, на штанах — яркія чырвоныя лампасы. Быў ён худы, даўгалыгі, гаварыў, смешна перакручваючы рускія словы.

Потым разам з Талубко і Жабрэевым украінец і паляк павольна пайшлі ўздоўж салдацкага строю, заглядваючы ў твары, шукаючы добраахвотнікаў. Даволі многа салдат згадзілася запісацца ва ўкраінскія часці. Да паляка ж падышло чалавек дзесяць, і ён нервова кусаў тонкія губы. Усім на здзіўленне аб'явілі сябе ўкраінцамі браты Вастрацовы, Рыгор і Максім, Іван Гразноў, Іван Цыплёнкаў — усе родам недзе з-пад Варонежа. Выходзячы са строю, Рыгор Вастрацоў вінавата ўсміхнуўся, растлумачыў суседзям:

— Гавораць, што ўкраінцаў адправяць служыць на радзіму. Можа, бліжэй да дому трапім.

Калі параўняліся з Кузьмой, Жабрэеў раптам сказаў:

— А ты, Радзімовіч, куды хочаш запісацца?

— Я? — сумеўся Кузьма.— Не ведаю... А навошта гэта?

— Якой жа ты нацыі? — не сунімаўся Жабрэеў.

Кузьма пацiснуў плячыма, азірнуўся наўкола:

— Не ведаю. Як і ўсе...

Тады ажывіўся паляк. Тонкія губы раскрыліся ва ўсмешцы. Доўгім белым пальцам ён падзываў да сябе Кузьму.

— Радзімовіч? Наш чалавек. Ідзі, ідзі сюды...

Але Кузьма не кратаўся з месца. Гэта раззлавала палкоўніка Талубко. Гарачыня, дыхаць нечым, нейкія ідыёцкія нацыянальныя часці, а тут яшчэ гэты баран не ведае, хто ён.

— Хто ж ты, нарэшце? Ці не помніш, дзе нарадзіўся? — злосна прасіпеў Талубко і палез у кішэню за насоўкай, бо чырвоны твар аж ільсніўся ад поту.

— З Мінскай губерні, з Ігуменскага павета я,— пераступіў з нагі на нагу Кузьма.— Мужыкі мы...

Яму было няёмка, што ўсе глядзяць на яго, хоць праз зямлю праваліся.

— Наш чалавек,— зноў заўсміхаўся, пазваў яго пальцам паляк.— Ідзі сюды, да мяне... Ты — поляк.

Цяпер ужо Кузьма раззлаваўся. Чаго яны ўсе прычапіліся да яго? Што ім трэба?

— Я не паляк,— сказаў ён, сярдзіта глянуўшы на паляка.— Я праваслаўнай веры і па-польску гаварыць не ўмею.

— Ну што з яго возьмеш? — разгневана крутнуўся Талубко.— Пойдзем далей.

Ён сцякаў потам, з агідай адчуваў, як мокрая кашуля прыліпае да спіны, і яму хацелася хутчэй скончыць усе справы з гэтымі гора-ваякамі, што надумаліся ствараць свае арміі, і паехаць у Нясвіж у лазню. Там у Мойшы ёсць густое халоднае піва, і там сумуе прыгожанькая ўдава-капітанша.

Яны зноў пайшлі ўздоўж строю, а Кузьма глядзеў ім услед, і злосць усё яшчэ кіпела ў яго ўсярэдзіне.

— Дык, гаворыш,— ты мужыцкай нацыі? — весела таўхануў яго пад бок Юшкоў.— Ну і адчыбучыў, Кузьма. Малайчына.

— Мы з ім беларусы,— раптам сказаў маўклівы Лусковіч.

Ён стаяў у другой шарэнзе, ззаду Кузьмы, увесь нейкі сіні, з балячкамі на твары, з зялёнымі стомленымі вачыма, у якіх трымцеў сум.

Здавалася: падзьмі зараз вецер, і ён паваліцца. Усе здзіўлена глянулі на яго.

— Беларусы? — перапытаў Юшкоў.— Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю.— Лусковіч міргнуў рыжаватымі вейкамі і замоўк. І цяпер, усе гэта ўжо ведалі, цэлую гадзіну, а мо і болей, з яго і абцугамі слова не выцягнеш.

— Ну, то, беларусы, стойце разам з намі,— сказаў Пчалаводаў і паляпаў па плячы Кузьму,

А яшчэ праз некалькі тыдняў у размяшчэнні роты з'явіліся двое цывільных мужчын: адзін пажылы, высокі, са снежнай сівізной на галаве, другі — маладзейшы, з рабацiннем на твары, з трохі касаватымі вачыма.

— Хто гэта? — спытаўся Кузьма ў Юшкова.

Той пацiснуў плячыма:

— Не ведаю. Кажуць, што родзічы Лусковіча з Мінска прыехалі...

І сапраўды, мужчыны па-хатняму развязалі свае торбачкі, дасталі з іх сала, яйкі, хлеб, пачалі частаваць салдат. Але Кузьму здзівіла тое, што маўклівы Лусковіч, здавалася, нiколькі не павесялеў, сядзеў у куточку на нарах і бліскаў адтуль зялёнымі вачыма.

— Чаму бліжэй да родзічаў не садзішся? — падышоў да яго Кузьма.

Лусковіч глянуў на Кузьму, нічога не сказаў, толькі рыжаватыя вейкі ўздрыгнулі. А старэйшы мужчына хітравата глянуў на салдат, спытаўся:

— Як жыццё, работнічкі?

— Ваюем,— за ўсіх адказаў Пчалаводаў.

Ён яшчэ не зразумеў, што гэта за людзі і як з імі трэба трымацца.

— Многа сінякоў германцу насадзілі? — уставіў сваё слова касаваты.

— Ат, друг, не пытайся,— махнуў рукой Пчалаводаў.— Трэці год і цела, і душа ў сiняках...

Тады сівы ўзняўся са свайго месца, азірнуўся на дзверы, цвёрдым голасам сказаў:

— Вось што, хлопцы,— пагаварыць нам трэба. Мы з Мінскай арганізацыі РСДРП, ад таварышаў Мягкова, Кнорына і Міхайлава.

— Бальшавікі? — стрэльнуў па ім цыганістым паглядам Юшкоў.

— Бальшавікі.

— А ў нас тут бальшавікоў не дужа шануюць. У нас палкавое камітэцкае начальства больш у эсэрах ходзіць. Вось і Кузьма з эсэраў,— Юшкоў кіўнуў галавой у бок Кузьмы.

Кузьма ўвесь успыхнуў, зачырванеўся, са злосцю сказаў:

— Што ты ўсё за мяне гаворыш? Мне ж цяляты язык не адкусілі. Які я эсэр? Жабрэеў збрахаў, і ты брэшаш следам за ім...

Яму стала так крыўдна, што ён ледзьве стрымаўся, каб не выбегчы з бліндажа. Юшкоў разгублена заўсміхаўся, пачаў накручваць на палец свой доўгі абвіслы вус. Відаць, не чакаў, што Кузьма можа так пакрыўдзіцца.

Сівы мужчына ўважліва глянуў на Кузьму, быццам абмацаў ягоны твар строгімі халаднаватымі вачыма.

— І чаго ж вы, бальшавікі, дабіваецеся? — парушыў няёмкае маўчанне Пчалаводаў.

— Перш за ўсё міру. Годзе народу гніць у акопах. Часовы ўрад працягвае вайну, бо гэта выгадна і нашым капіталістам і Антанце. Мы за неадкладную публікацыю ўсіх тайных дагавораў і пагадненняў цара Мікалая. Зямля павінна належыць тым, хто на ёй працуе,— сялянам.

— А вось мы горназаводскія, уральскія,— зноў загаварыў Юшкоў.— І я, і Пчалаводаў, і Беламесных. І яшчэ многа хлопцаў ёсць. Як наконт нас бальшавікі мазгуюць?

Сівы заўсміхаўся, ягоны твар прасвятлеў:

— Быў я ў вашых краях. Праўда, не па сваёй волі. Быў у Алапаеўску, у Сатцы. Магутная зямля!

Ён на хвіліну змоўк, нібы ўспамінаў нешта дарагое, страчанае назаўсёды, а потым рашуча трасянуў сівой чупрынай:

— Рабочым — васьмігадзінны рабочы дзень. Поўны кантроль над фабрыкамі і заводамі. Рабочы клас пазінен стаць гаспадаром нашай прамысловасці.

— Значыць, з нас капіталістаў хочуць зрабіць, Ягор,— весела ляпнуў Юшкоў далонню па спіне Пчалаводава.— Эх і начаплю ж я белую манішку...

Усе засмяяліся. І тут быццам нехта таргануў

Кузьму за язык:

— А ці праўда, што Ленін немец? Кажуць, рыжы, картавы.

Сівы мужчына перастаў смяяцца, глянуў на Кузьму:

— Хто табе сказаў? Глупства ўсё гэта. Ленін — рускі. Залаты чалавек. Паболей бы Расіі такіх «немцаў».

Нарэшце і Лусковіч не вытрымаў, падаў голас са свайго кутка:

— Як там у Мінску народ жыве?

— Гібее народ. Прыціснулі так, што не прадыхнеш. У чатырнаццатым годзе фунт мукі быў дзесяць капеек, а цяпер два рублі і дзевяноста пяць капеек. Масла каштавала сорак капеек, цяпер за яго

тры дзевяноста дзяруць. А міністру працы Скобелеву хоць бы хны. Заклікае, каб усе рабочыя падпісваліся на пазыку свабоды.

— І чаго ж вы ўсё-ткі да нас прыехалі, калі не сакрэт? Мы ж вас маслам не пачастуем. Хіба толькі ружэйным.— Юшкоў зрабіў твар строгім, нават сярдзітым, ведаў — у яго гэта добра атрымліваецца.

— Сакрэту няма, хлопцы,— старэйшы пачаў развязваць яшчэ адзін мяшок, больш цяжкі.— Нам трэба, каб Заходні фронт ішоў за намі, за бальшавікамі. Будуць тут у нас свае людзі — і ў Мінску нам будзе лягчэй. Асабліва цяпер гэта трэба. У Петраградзе Керанскі расстраляў дэманстрацыю салдат і рабочых. Партыя і Ленін у падполлі. Але партыя жыве, і вам вось падарунак прыслала.— Ён дастаў з мяшка кіпу газет.— Наша «Звёздачка». У Мінску надрукавалі. Усё ў ёй сказана, што рабіць, як рабіць, за кім ісці. Юшкоў узяў газеты.

— Гэта мы пачытаем...— азірнуўся наўкола: — Хто самы вялікі грамацей? — І аддаў газеты Кузьме.

— Ты будзеш чытаць, вочы ў цябе маладзейшыя. Газеты пахлі свежай фарбай, шамацелі. Кузьма ўзяў іх, расшпіліўшы гузікі гімнасцёркі, засунуў за пазуху.

— Толькі асцярожней,— глянуў на яго сівы.— Начальству вашаму не абавязкова іх бачыць. Цяпер жа, сам ведаеш, строга з гэтым. Гучковы і керанскія пра свабоду слова, аб якой так крычалі, даўно забыліся.

— Цяпер на фронце ўведзена смяротная кара,— ціха сказаў са свайго кутка Лусковіч, але ўсе пачулі яго словы.

— Цьфу на цябе,— аж плюнуў Пчалаводаў.— Не палохай ты нас, Кандрат. Маўчыш, маўчыш, а потым, як скажаш...

Між тым сівы, падняўшыся з нараў, гаварыў:

— Кожную пятніцу наш сувязны будзе прыязджаць з Мінска. Ці, можа, во ён,— кіўнуў галавой на маладзейшага,— ці хто іншы. Але кожную пятніцу нехта будзе. Трэба, каб салдат прачнуўся, праўду ўбачыў...

Праменьчык сонца, тоненькі, чырванаваты, заляцеў раптам у бліндаж, затрапятаў на сцяне. Гэта было так нечакана, што ўсе аж уздрыгнулі, азірнуліся. У бліндаж увайшоў Жабрэеў, вясёлы, жыццярадасны, але бледны, пад вачамі сінія цені. Убачыў незнаёмых людзей, адразу сагнаў з твару ўсмешку, суха паздароўкаўся, спытаўся:

— Хто будзеце?

Сівы спакойна палез рукой ва ўнутраную кішэню пінжака, дастаў пашпарт.

— Міхаіл Андрэевіч Рылюк. Мінскі мешчанін. Машыніст электрастанцыі,— павольна прачытаў Жабрэеў, гледзячы і ў пашпарт і на сівога.

— Так точна. Рылюк,— сівы слаба ўсміхнуўся.— Прыехаў наведаць пляменніка, падняць, як кажуць, баявы дух.— Ён паказаў на Лусковіча, потым павярнуўся да маладзейшага.— А гэта мой яшчэ адзін пляменнік — Сцяпан Баско. Захацелася хлопцу пораху панюхаць, так прасіўся — давялося і яго ўзяць.

Жабрэеў не стаў правяраць дакументаў у Сцяпана, усё яшчэ падазрона спытаўся:

— Аб чым гаварылі з пляменнікам?

— Пра што ж мужчынам гаварыць? — ускінуў на плячо мяшок Рылюк.— Пра дзевак, вядома.

— І пра перамогу, грамадзянін Жабрэеў. Але не падумайце, што над дзеўкамі, над ворагам,— гэта ўжо Юшкоў падкалупнуў старшыню палкавога камітэта.

Жабрэеў ледзь прыкметна зморшчыўся, але адразу заўсміхаўся, даў зразумець, што задаволены жартам.

Ноччу, калі ўжо даўно пайшлі Рылюк з Баском і былі, пэўна, у Нясвіжы, чыталі газеты. Збіліся ў цесную купку каля Кузьмовых нараў, уважліва слухалі, маўчалі. Толькі «смаркачык» — снарадная гільза, поўная газы, і ў ёй кнот — слаба варушыў язычком сіняватага полымя, патрэскваў, дыміўся.

Калі Кузьма засынаў, накрыўшыся шынялём, успомнілася яму, як казаў бацька, праводзячы яго ў войска: «Дужа галаву з акопа не вытырквай. І, барані бог, сцеражыся паліцікаў. Чмуту ў вочы напусцяць, абвядуць вакол пальца, і загінуў чалавек...»

Ён правальваўся ў глыбокую цёплую яміну сну, і ўсё яшчэ гучалі ў вушах словы сівога: «Кожную пятніцу нехта будзе... Кожную пятніцу...»

І зусім нечакана прыгадалася частушка, якую чуў, даўным-даўно, яшчэ хлапчуком, ад бацькі:

— Гэй, цешча мая,
Галубятніца,
Наварыла галубоў —
Заўтра пятніца.

Як і тады, ужо зусім праз сон, падумалася: «Няўжо можна злавіць столькі многа галубоў, і чым іх лавіла гэтая самая цешча?»

V

Неяк пад вечар у размяшчэнні роты з'явіўся паручнік Стахееў. Быў ён у новенькай, з іголачкі, форме, прыгожы, узбуджаны і рашучы. Прабег па траншэі, ледзь не з кулакамі накінуўся на Беламесных:

— Як вітаешся з афіцэрам? У штрафную захацеў? Раскаміцэціліся, маць вашу так!

Нават з Жабрэевым ён не стаў гаварыць, злосна буркнуў на хаду:

— Ваяваць трэба, пан эсэр, а не дэмагогію разводзіць.

— Вярнуўся, звяруга,— пачухаў патыліцу Юшкоў.— Ой, хлопцы, пальецца кроў.

Толькі адзін Кузьма, здаецца, нічога не заўважаў. Усе апошнія дні быў ён нібы ў нейкім сне. Ён, здаралася, размаўляў з капітанам Еукаверавым, з Жабрзевым, глядзеў ім проста ў вочы, а сам думаў:

«А вы не ведаеце, хто я і што раблю. Я — паліцік. Бацька мой баіцца гэтага слова, як агню. А я паліцік. Я чытаю забароненыя вамі газеты, думаю, як зрабіць вам пабольш шкоды, а вы нават і не здагадваецеся аб гэтым. Дурні ж вы. А лічыце дурнем мяне, мужыка ў шынялі».

Ён нібы падрос, расправіў плечы, голас ягоны пазванчэў, а вочы пасвятлелі і павесялелі. Жыццё адразу зрабілася для яго шырэйшым. Яму ўжо не хапала вузкага бруднага акопа, дзе вечна хлюпала вада, у думках сягаў ён над усёй зямлёй, над сваімі Чмялямі, над далёкімі гарадамі, дзе фабрычных дымных комінаў, як соснаў у бары. І ўсюды: і ў Чмялях, і ў тых гарадах, былі ў яго сябры, верныя таварышы, якія. таксама хацелі лепшай долі для ўсіх і для сябе. Адны з іх пісалі гэту газету і друкавалі яе, другія, хаваючыся ад Юшкоў, везлі яе на фронт, у пярэднія траншэі, а ён, Кузьма, чытаў яе салдатам. Ён быў часткай, і прытым, не абы-якой часткай, усіх, усёй агульнай справы, што да часу набіралася сілы, мацнела, нібы зерне, заараНае ў зямлі.

Кузьмову ўзбуджанасць заўважыў Пчалаводаў, сказаў:

— Ты чаго такі вясёлы, быццам з дзеўкай якой пераспаў?

Кузьма шчасліва ўсміхнуўся яму:

— Весела, дзядзька Ягор. Не ведаю чаму, а весела.

«Маладая кроў гуляе,— падумалася Пчалаводаву.— Чаму ж не быць вясёлым. Неба ў крыві і ў агні, а ён у небе зоркі бачыць...»

Неяк ноччу здарылася з Кузьмой бяда. Роту паднялі па трывозе. Адусюль чулася страляніна. Тахкалі нямецкія кулямёты. Ракеты, падобныя на вялізных вогненных апалонікаў, павольна тухлі і загараліся ў небе.

— Немцы ўварваліся ў нашы акопы. Кінжаламі рэжуць! — спалохана крыкнуў нехта побач.

Разам з усімі Кузьма бег у густой сіняватай цемры, страляў некуды, спатыкаўся і раптам праваліўся, паляцеў у нейкую яміну і адразу страціў прытомнасць.

Ачуняў ужо ў лазарэце. Правая нага, як каменная, не паварушыць.

— Давядзецца некалькі дзянькоў адпачыць, малады чалавек,— сказаў урач, маленькі лысы дзядок у залатых акулярах.— Расцяжэнне звязак каленнага сустава і трэшчына касці.

У лазарэце было чыста, бела і ўтульна. Нібы апынуўся ён сярод белай зімы, у ціхім белым полі. Параненыя, няўклюдныя, перакручаныя з ног да галавы белай марляй, былі падобныя на снегавікоў, якіх ляпілі яны калісьці з Антонам у агародзе. Першы раз у жыцці цэлымі днямі не займаўся ён ніякай, нават дробязнай справай, ляжаў на мяккім ложку, глядзеў у акно, у столь. Гэта было так непрывычна для яго, так уражвала, што ён падумаў: «А напэўна, цяжка быць панам...»

Потым прычапілася да яго нейкая гарачка. Абліваўся цяжкім халодным потам, калаціўся, як асенні ліст, галаву быццам разламвалі, так яна балела.

«Тут мне і капцы»,— сумна падумаў ён і страціў прытомнасць, нібы ў пельку праваліўся, якіх нават у самыя лютыя маразы дужа многа было на Гразёўцы. Але жыццё не хацела развітвацца з ім. Ён зноў ачуняў, зноў дзённае святло, яркае, невыноснае, палілося яму ў вочы, і першае, што ўбачыў ён, быў прыгожы жаночы твар, што так нізка нахіліўся над ім, аж здавалася — уздымі ад падушкі галаву, і кранешся аб шчаку шчакою. Гэта была Галасоўская. Яна глядзела на яго са спачуваннем і цікаўнасцю. Убачыла, што ён ажыў, усміхнулася, пачала папраўляць у яго пад галавой падушку.

Кузьма ўвесь страпянуўся і падумаў (ён не ўмеў прыгожа гаварыць, ён умеў прыгожа думаць):

«Яна прыйшла, каб выратаваць мяне з кіпцюроў смерці...»

А яна лёгкімі бязважкімі пальцамі кратала яго забінтаваную нагу, ледзь прыкметна моршчылася («Гэта яна спачувае майму болю»,— падумалася яму), пыталася:

— Баліць?..

Кузьма адмоўна пакруціў галавою. Хай бы з яго зараз здзіралі скуру, кідалі голага ў мора кіпеню, хіба мог ён у прысутнасці такой жанчыны сказаць, што яму баліць?

Яна зняла з яго старыя бінты, паклала на хворае калена гарачы парафін, зноў пачала забінтоўваць. Вочы ў яе, аказваецца, былі не чорныя і нават не цёмныя, а карычневыя, жалудовыя, вільготныя.

Доўгія вейкі былі прыгожа падчэрнены. Губы, маленькія і цвёрдыя, былі чырванейшыя, чым у чмялёўскіх дзяўчат.

«Яна іх таксама падфарбавала»,— падумаў Кузьма. У ягонай вёсцы ў дзяўчат і ў маладзіц ніколі не было такой завядзёнкі — фарбаваць губы. А тут губы гарэлі, нібы абпырсканыя вішнёвым сокам. І яму падалося гэта дужа прыгожым.

— Як жа вы нагу пакалечылі? — спыталася Галасоўская.

— Ноччу ў перастрэлцы. Бег і, відаць, аб нешта стукнуў.

— Нічога. Яшчэ будзеце танцаваць,— сказала яна.

— А я не ўмею танцаваць,— прызнаўся раптам Кузьма, і сам здзівіўся, як лёгка ў яго гэта атрымалася.

Галасоўская нічога не сказала, толькі ціха ўсміхнулася, куточкі вуснаў уздрыгнулі.

— Няўжо вы добраахвотна пайшлі на фронт? — зусім асмялеў Кузьма.

— Добраахвотна, — зноў усміхнулася Галасоўская.— Ад таты з мамай уцякла. Яны паехалі ў госці да французскага пасланніка, а я сабрала рэчы, пакінула ім запіску і — сюды. Спачатку злаваліся, за дачку не прызнавалі, а потым такое пісьмо прыслалі! На пісьме маміны слёзы і татавы словы захаплення: «Ты — гераіня! Ты — наша Жанна д'Арк. У французскага пасланніка пра цябе гаварыў сам генерал Брусілаў!» Тата любіць, калі пра нашу сям'ю гавораць, вядома, добрае.

Кузьма слухаў яе словы, глядзеў у нізка схілены надзім твар, і новае пачуццё нейкай крэўнасці з гэтай дзяўчынай, нейкай роднасці авалодала ім. Потым, калі яна пайшла, ён не спаў амаль усю ноч, глядзеў У светлы праём акна, за якім палымнела зорамі ноч і глуха шумелі дрэвы, думаў:

«Яна не можа быць ні злой, ні помслівай. Сапраўдная жанчына павінна любіць усё: дзіця, кветку, птушку. Гэтая любоў закладзена ў ёй самой прыродай, і выказаць яе можна такімі словамі: «Я — маці ўсяго жывога...» Ён заснуў са шчасліва-трывожным усведамленнем значнасці сваіх думак, здзіўляючыся сам сабе, адчуваючы, што ў ім самім недзе ў сэрцы, душы, нараджаецца іншы чалавек, дапытлівы, смелы, цвярозы, зусім не падобны на яго, учарашняга і сённяшняга.

Раніцой нечакана затэмпературыў батарэйны ездавы Арлоў, што з адрэзанай вышэй калена правай нагой маўкліва і сумна ляжаў на ложку. Ён садраў з сябе ўсе бінты, шпурнуў за акно ўсе лякарствы і, скрываўлены, белатвары, страшны, упаў на падлогу, захрыпеў.

Галасоўская кінулася да яго, але Арлоў ударыў яе кулаком у грудзі, закрычаў:

— Паміраць хачу! Прэч ад мяне, сучка, афіцэрская падсцілка! Усіх вас страляць трэба. Не ў той бок я страляў, не ў той бок...

Ён учапіўся зубамі ў шэрую казённую коўдру, быццам хацеў яе разарваць, клубком пакаціўся па падлозе, зноў захрыпеў:

— Не ў той бок я страляў... Трэба было ў вас страляць, залатапузыя...

Галасоўская стаяла над ім, бледная, і часта дыхала. Кузьме нават на імгненне здалося, што яна ўлепіць зараз Арлову аплявуху. Але яна толькі сказала Арлову: «Баба!» — і моўчкі, нетаропка выйшла з палаты.

Так ён пачуў, упершыню пачуў, гэтыя крыўдныя, пякучыя, абразлівыя словы, сказаныя ў яе бок. І ён адразу ўспомніў бінокль Юшкова, аўтамабіль, што весела бег па лясной дарозе, капітана Кукаверава з перавязанай шчакой і яе, вясёлую, з распушчанымі чорнымі валасамі, з якімі гуляў вецер.

«Значыць, яна добрая з усімі,— горка і спустошана падумалася яму.— Афіцэрская падсцілка...»

Ён гатоў быў зараз забіць Арлова, разарваць на дробныя кавалкі, але гэтыя словы былі ўжо сказаны: «Афіцэрская падсцілка...»

Ён адвярнуўся тварам да сцяны, уткнуўся галавой у падушку.

А назаўтра зноў прыйшла Галасоўская, вясёлая, лёгкая, усмешлівая, спыталася:

— Як нага?

І быццам не было гэтага страшнага пакутлівага ўчора. За вокнамі бушаваў кіпучы, агніста-светлы лівень. Ад яго («Ад яе прыходу»,— падумаў Кузьма) у палаце пасвятлела. На тварах параненых, на яе твары, на твары Арлова, ціхім і вінаватым, нібы ўспыхвалі, трапяталі водбліскі ад яркага полымя. Недзе побач звонка капала, а потым пабегла цуркам у салдацкі кацялок вада. Было відаць праз акно, як трымціць, напінаецца пад ветрам — вось-вось адарвецца ад ствала! — цяжкое вільготнае бярозавае голле.

— А вы нейкі непадобны на іншых,— улучыўшы хвіліну, ціха сказала Галасоўская Кузьму.

У Кузьмы аж пераняло дыханне.

— Які ж я? — спытаўся ён.

— Які? Сур'ёзны, задумлівы, самастойны...

— Салдату не паложана быць задумлівым, самастойным. Салдат, як кажа паручнік Стахееў,— гэта куля, загнаная ў стрэльбу. Задача кулі — ляцець толькі ўперад.

— Паручнік Стахееў можа памыляцца,— усміхнулася Галасоўская.— А куля, калі яе няправільна зарадзілі, можа разарваць стрэльбу.

Праз некалькі дзён Кузьма на мыліцах ужо мог хадзіць па лазарэце і нават выходзіць з яго ў невялічкі бярозавы гаёк. Ён кожны дзень чакаў адпраўкі на перадавую, чакаў сустрэчы з Галасоўскай. Яна прыходзіла хвілін на дзесяць. Яе тонкія рукі і валасы пахлі ёдам. Кузьма даведаўся, што яе дзед, таксама граф, быў народнікам, судзіўся па працэсу 193-х, некалькі гадоў жыў у ссылцы ў Сібіры, дзе і памёр ад сухотаў. Яе ідэалам былі Вера Фігнер, Барыс Савінкаў, цяперашні камісар Часовага ўрада пры Вярхоўным Галоўнакамандуючым.

— А мой бацька з маці — самыя звычайныя...— сумна сказала яна аднойчы.— У бацькі ў галаве іпадром, рулетка, шампанскае, у маці — плёткі пра знаёмых, французскія ўборы. Цяжка быць дачкой такіх людзей...

Потым яна памаўчала і дадала:

— Дзіўна... Вось мы з вамі людзі, як цяпер модна гаварыць, розных класаў. Я — распешчанае яблычка са старадаўняга графскага дрэва, у якога ўжо, праўда, падгніваюць карэнні. Вы ад зямлі, ад прыроды. Але нешта ж нас аб'ядноўвае. Я ведаю што. Лёс Расіі, яе будучае. Што мы заслужым ад нашчадкаў: «асанну» ці «анафему» — няважна. Як у Смутны Час, калі Расіі пагражала гібель, увесь народ аб'яднаўся: і баяры, і смерды. І ўсе мы павінны набліжаць сёння свой Земскі Сабор — Устаноўчы Сход.

Яе чорныя вочы блішчалі, твар быў прыгожа прыўзняты, бляднеў, задуменна хмурыўся. Кузьме захацелася пацалаваць яе, ён ледзь стрымаўся.

А вечарам у лазарэт забег Іван Юшкоў, паклікаў Кузьму, азіраючыся па баках, даў яму газеты:

— Баско прынёс... Ну як ты тут мацуешся?

— Нічога. Праз дзень-два буду ў вас.

— А гэта што за мадама? — кіўнуў Юшкоў галавою ў бок Галасоўскай, якая прынесла параненым лякарства.— Пастой, пастой,— дык гэта ж з-за яе мяне ледзь на штыкі не ўзнялі ў Нясвіжы. Ну і язычок у яе. Рэжа, як брытвай. Але шкада, што ўсё пустое.

— Чаму пустое? — пакрыўдзіўся Кузьма.

— Дык жа яна, чуў я, нейкая графіня. А ці могуць графы штонебудзь дзельнае гаварыць? У іх ад вясёлай жызні, ад віна, ад мужыкоў і ад дзевак, хвароба-падагра ў касцях сядзіць. Заморская, кажуць, хвароба.

— Дарэмна ты на яе нагаворваеш, Іван.— Кузьме адразу ж не захацелася гаварыць з Юшковым.

— Цю-цю,— прысвіснуў Юшкоў,— ды ці не ўтрэскаўся ты ў гэту мадаму? Глядзі, Кузьма, а то не дай бог сам графам зробішся. І гэтую падагру схопіш. А мужыку-пралетару яна, як карове сядло.

Ён падміргнуў Кузьме вясёлым цыганістым вокам, зняўшы шапку, здзекліва-пачціва пакланіўся Галасоўскай і пабег назад у свой бліндаж.

Кузьме стала крыўдна за сябра: за пазалотай, за тытуламі (гары яны гарам!) не можа разгледзець чалавека, чалавечае сэрца. Падышла Галасоўская, сказала:

— А гэты салдацік, відаць, больш хворы, чым вы ўсе. Увесь перапоўнены жоўцю і злосцю.

— Ён на гармоніку добра іграе,— сказаў раптам Кузьма.

Ён сам не ведаў, чаму вырваліся ў яго гэтыя словы. Але яна зразумела — ён інстынктыўна бараніць свайго сябра — спахмурнела:

— Сальеры быў вялікім кампазітарам і музыкантам. Але гэта не перашкодзіла яму ўсыпаць атруты ў кубак больш удачлівага і больш таленавітага.

Кузьма не ведаў, хто такі Сальеры, але ён добра ведаў Юшкова і таму сказаў:

— Іван харошы чалавек. Можа, праўда, гаварыць складна не ўмее... Дык жа з завода, як і я — з вёскі. Ніхто нас не вучыў...

Ён сумна ўсміхнуўся, прыгладзіў далонню ўскудлачаныя валасы, і яму раптам захацелася сказаць нешта такое, што б здзівіла, уразіла яе, прымусіла глянуць на яго, як ка чалавека незвычайнага, моцнага, рашучага. Ён паказаў ёй скрутак газет:

— Вось мы чытаем у нашай роце. І іншым даём.

Галасоўская здзіўлена ўзяла газеты, прачытала загаловак:

— «Звезда»,— прачытала подпісы пад артыкуламі: — Алёша... Мартуні...— сказала: — Нейкія ж дужа дзіўныя прозвішчы ў аўтараў, як вулічныя мянушкі.

Потым глянула на Кузьму:

— Але ж гэта бальшавіцкія газеты...

— А мы і ёсць бальшавікі,— смела і радасна сустрэў яе погляд Кузьма.— І я, і Юшкоў, і Пчалаводаў, і Лусковіч з Беламесных.

Яна пабялела, трошкі замялася, чамусьці дакранулася пальцамі да сваіх вуснаў:

— Кожны мае права на барацьбу. Была б яна толькі разумная і карысная.

Кузьма не заўважаў яе разгубленасці, гаварыў далей, узбуджана, весела, і быў падобны на глушца на такавішчы, што, захапіўшыся ўласнай песняй, нічога не бачыць наўкола.

— Барацьба наша разумная і правільная. У нас ужо з Мінскам сувязь ёсць, з бальшавіцкім камітэтам. А там людзі талковыя сядзяць...

Галасоўская слухала яго, спакайнеючы, паліваючыся ружовасцю ў твары, і раптам сказала:

— А вы дрэнны канспіратар.

Кузьма не зразумеў гэтага слова, на імгненне разгубіўся, але толькі на імгненне, і зноў загаварыў:

— Помніце палкавы мітынг у Нясвіжы? Як камітэт выбіралі? Я вас тады на трыбуне ўбачыў, з чырвоным бантам на грудзях. Такая вы былі прыгожая, уся нейкая светлая, шчаслівая. Быццам толькі што на свет нарадзіліся. З Юшковым схапіліся спрачацца, а твар у вас вясёлы, мірны. Я і падумаў тады, што такім людзям, як вы, новы свет будаваць, дзе ўсё будзе добрае і ўсе будуць добрыя...

Яна слухала яго ўважліва, ёй, як жанчыне, было, вядома ж, прыемна чуць такія словы, словы непрыхаванага захаплення. І гаварыў такія словы не Жорж Суханаў, далікатны генеральскі сынок, не Іосіф Васкрасенскі, маладзенькі пышнабароды попік, які на бацькавай дачы пад Петраградам у кампаніі «залатой моладзі» выклікаў духаў продкаў: гаварыў іх просты салдат, учарашні мужык, з прамымі сялянскімі валасамі, з шэрымі разумнымі вачамі, з цёмным ад загару круглявым тварам, на якім рэзка, як чорныя дугі, вылучаліся бровы і левае брыво было, чамусьці значна шырэйшае і даўжэйшае за правае.

З лазарэта Кузьма вярнуўся ў сваю роту, і адразу ж бурная плынь падзей, нібы трэску, падхапіла яго і закруціла ў сваіх магутных вірах. Ужо праз дзень ці два яму не верылася, што быў калісьці лазарэт, цішыня, ад якой звінела ў вушах, прыгожы жаночы твар, што ў забыцці хваробы, нібы маладзік, узышоў над яго ложкам.

Іхні полк рыхтаваўся да наступлення. Толькі крывёй, новай крывёй, можна было змыць памяць аб трупах, што гнілі пад Соламі і Баранавічамі. Толькі крывёй можна было заліць полымя нездавальнення і гневу, што шугала ў арміях, у салдацкіх сэрцах. Салдаты, якія яшчэ зусім нядаўна вялі ціхае жыццё ў сваіх вёсках, былі прыдаткам сахі, былі паслухмянымі і маўклівымі, нібы зямля, не хацелі болей паміраць, бо ў жыцці, як блакітная прасветліна ў цёмных хмарах, з'явіўся сэнс, з'явілася надзея на заўтрашняе шчасце. У поспех наступлення ніхто не верыў: ні акопнікі, ні генералы ў Стаўцы ў Магілёве.

Паручнік Стахееў, напіўшыся, крычаў у афіцэрскім бліндажы:

— Што ж, калі не атрымаецца, загінем як героі. Няхай пераходзяць у наступленне немцы. Трэба, як кажуць маракі, адчыніць кінгстоны, і пруская вада затопіць гэты вар'яцкі карабель.

Але «карабель» не хацеў ісці на дно. Новыя лоцманы былі ўжо ў яго, новыя капітаны.

Кузьма адразу ж трапіў на ротны мітынг.

— Не пойдзем у бой. Хай ідуць афіцэры,— стомлена і злосна гаварыў Бугроў, нізкаросла белабрысы салдацік. Ён стаяў на скрынцы з-пад снарадаў, у расхрыстаным, заляпаным рудой гразёю шынялі і раз-пораз, не хаваючыся і не саромеючыся, тонкай бруднай рукой чухаў сабе то грудзі, то галаву. Салдаты стаялі і сядзелі наўкола, курылі, грызлі сухары, чысцілі вінтоўкі, сушылі анучы і падтрымлівалі Бугрова крыкамі:

— Правільна!

— Хай ваююць афіцэры!

— Хопіць ім віно жэрці!

— Дадому хочам!

Жабрэеў, разгублены і раззлаваны, таксама быў на мітынгу, усё парываўся нешта сказаць, але ніхто не слухаў яго, усе незадаволена, пагрозна гулі і нават шкуматнулі яго за крысо шыняля, калі ён хацеў пасля Бугрова ўзлезці на скрынку з-пад снарадаў.

— Здароў, беларус,— крыкнуў Кузьме Пчалаводаў.— Ідзі да нас!

Кузьма праціснуўся да Пчалаводава, паздароўкаўся з ім, з Юшковым, з Лусковічам, з усімі, хто быў побач. Зноў нешта зазвінела, заспявала ў ягонай душы. Ён быў сярод сваіх, быў такі ж, як і ўсе, нібы колас у жытнёвым полі, ён любіў гэтых няўклюдных, брудных, пракопчаных парахавым дымам людзей, ён хацеў зрабіць для іх нешта незвычайнае, добрае, і ён таксама закрычаў:

— Не пойдзем у бой!

Яму ўсміхаліся, пачалі ляпаць яго па плячах, па спіне. І тут Жабрэеў усё-ткі ўскочыў на скрынку з-пад снарадаў, кінуў у натоўп нервовыя ўзбуджаныя словы:

— Мы — дысцыплінаваная армія свабоднага народа! Не паддадзімся ж правакатарам!

— Прэч, гніда! — крыкнуў Юшкоў і стукнуў яго кулаком у твар.

Жабрэеў закрыўся рукамі, упаў у натоўп, нібы пераламаўшыся ў паясніцы.

— Пойдзем у першую роту! Яны таксама за нас! — закрычалі наўкола.

Пад вечар узбунтаваўся амаль увесь полк. Афіцэры на чале з палкоўнікам Талубко пахаваліся хто куды, як мышы. Казалі, што паручнік Стахееў застрэліўся.

— Жывём, брат Кузьма,— весела гаварыў Юшкоў. Ён нафабрыў свае доўгія вусы, аж да сінявы пагаліўся. Потым пайшоў у апусцелы

афіцэрскі бліндаж, знайшоў там чырвоны абрус, зрабіў з яго сцяг і напісаў на ім вялікімі літарамі:

«Мір і свабода».

Раніцой дзвюма калонамі рушылі ў бок станцыі Замір’е. Праўда, спачатку некаторыя гарачыя галовы заклікалі ўсіх ісці на Нясвіж і падправіць, як яны казалі, мазгі пацукам са штаба арміі, але большасць была за тое, каб прабіцца да станцыі, захапіць там які-небудзь эшалон і ехаць на ўсход, далей ад фронту.

Балоцістыя туманныя лугі толькі пачынала залаціць сваімі промнямі сонца. Вада хлюпала пад нагамі, апырсквала калені. Кузьма ішоў побач з Пчалаводавым і Лусковічам. Трохі наперадзе, горда ўзняўшы свой самаробны сцяг, крочыў Юшкоў. Як заўсёды, за плячо ў яго быў закінуты гармонік.

— Наш Іван як на свята выбраўся,— сказаў Пчалаводаў.

— Чым жа не свята, дзядзька Ягор? — весела глянуў на яго Кузьма.— Вайну скончылі. У акопы нас цяпер не загоніш.

— Эге-ге, брат, ці скончылі яшчэ? А як скончыцца яна, праклятая, пайду куды-небудзь у скіт. У нас на Тагіл-рацэ тайга непралазная, дрымучая. Цішыні мне хочацца. Каб толькі лес, ды рэчачка, ды неба. Сонца чырвонае ўстане, птушкі запяюць, звяры да мяне прыбягуць. Звер хоць дзікі, а ласку разумее. А ў тайзе крыніцы б'юць сцюдзёныя. Глынеш такой вады, і душой падабрэеш, целам моцны зробішся. Чаго тайгі баяцца? Ліхі чалавек за звера і за тайгу страшнейшы...

— Ці не рана ты ў манахі запісваешся, Ягор? — пачуўшы словы Пчалаводава, трохі збавіў крок Юшкоў.— А хто ж даўгі з паноў-афіцэраў ды з буржуяў спаганяць будзе?

— Ты спагоніш, Іван,— спакойна, з ціхай усмешкай адказаў Пчалаводаў.— Ты маладзейшы. І Кузьма паможа. А мне нічога ад іх не трэба, бог з імі. Мне б сваю тайгу яшчэ разок пабачыць...

Каля вёскі Пагулянка ў белаватым ранішнім тумане наткнуліся на Казакаў. Казакі былі спешаныя, ляжалі за «максімамі», перагарадзіўшы дарогу; чакалі. Вырашылі па балоце абысці вёску з усходу, але і там, на сухім беразе, чарнеліся маўклівыя ланцугі пяхоты. Трывожны халадок пабег па спінах. Ірвануліся былі, наставіўшы штыкі, уперад, але чэргі «максімаў» прымусілі ўсіх уткнуцца тварамі ў балотную твань.

— Цю-цю,— прысвіснуў Юшкоў,— здаецца, мы, як зайцы, у сіло трапілі. Вось табе і — гаварыла баба дзеду: я ў Амерыку паеду... Назад трэба ехаць, хлопцы...

У ранішнім мораку куляметы расплёсквалі яркае вузкае полымя. Да Кузьмы падпоўз Лусковіч, мокры, з зялёнай тванню на барадзе і шчацэ, сказаў, бялеючы:

— Слухай, братка, заб'юць мяне...

— Ды ты што? Дробным макам пачаў...

— Не смейся. Не выйсці мне ўжо жывым з гэтага балота.— Лусковіч прагна каўтнуў паветра, выцер рукавом шчаку.— Як хто шэпча на вуха... Слухай — будзеш у Мінску, забяжы да жонкі маёй. Яна на вуліцы Багадзельнай жыве, барак нумар сем. Праскоўя Сямёнаўна. Там пакажуць.— Ён слаба ўсміхнуўся.— Гэтыя ж мінскія агітатары ніякая мне не радня былі. Праскоўя мой адрас ім сказала...

— Кінь ты хаваць сам сябе,— аж замахнуўся на яго Кузьма.— Сам да жонкі сваёй з'ездзіш...

— Заб'юць мяне,— уткнуўся тварам у купіну, уздрыгнуў худой спінай Лусковіч.

— Пераначуем — болей пачуем,— зноў спрабаваў суцешыць яго Кузьма, але ў гэты час над балотам пачала суха лопацца шрапнель, нібы падзьмуў гарачы вогненны вецер.

— Гады! З гармат па сваіх лупяць,— махнуў чорным кулаком у бок берага Юшкоў.— Бі Іван Івана!

Ён смачна вылаяўся, сеў на купіну, паклаў побач гармонік, сцягнуў боты і пачаў пераабувацца.

— Чаго ты рассеўся, дурань?! — крыкнуў яму, вытыркнуўшы галаву з-за альховага пня, Пчалаводаў.— На той свет захацеў?

— На той свет рана, а пераабуцца трэба,— спакойна круціў у руках анучу Юшкоў.— Нешта ў бот трапіла. А ісці ж яшчэ, зямеля, далёка. Можа, да самай Сібіры.

Зноў полк ірвануўся да Пагулянкі, але і тут сустрэлі кулямётнымі чэргамі і шрапнеллю.

— Там, відаць, цэлы марцірны дывізіён стаіць,— хмурна сказаў Юшкоў.

На ўскраіну вёскі выскачыў на рыжым кані афіцэр, махнуў нечым белым, крыкнуў:

— Здавайцеся, а то ўсіх пастраляем!

Вецер узвіваў за яго спінаю башлык.

Выходзілі з балота мокрыя, брудныя, маўклівыя. У каго была зброя, кідаў яе ў дарожны пыл каля крайняй хаты. Некаторыя ішлі, узняўшы ўверх рукі.

Кузьма бачыў, як запіхвае за пазуху Юшкоў чырвоную матэрыю,— сцяг. Гармоніка на плячы няма, пэўна, згубіў у балоце.

Усіх пастроілі на вясковым выгане, дзе блішчалі невялічкія лужыны і густа ляжаў конскі і кароўскі кал.

«Напэўна, пастраляюць»,— млява падумаў Кузьма і глянуў на неба. Там плылі халодныя, ужо восеньскія хмары. Успыхвала на сонцы павуцінне, ляцела некуды далёка-далёка. Казакі і апалчэнцы — «крыжаносцы» хадзілі ўздоўж шарэнгі бяззбройных, усміхаліся.

— Зараз з вас бальшавіцкую кроў будуць выціскаць...

Прыкладна праз гадзіну, калі ў Кузьмы ўжо здранцвелі ногі, на выган прыехала купка конных — нейкае начальства,— а за ёю аўтамабіль. З аўтамабіля выйшаў высокі сівы генерал, прайшоўся ўздоўж шарэнгі, гледзячы кожнаму ў вочы халодным пранізлівым паглядам, плюнуў сабе пад ногі, ні слова не кажучы, завярнуўся, сеў у аўтамабіль і паехаў.

Сярод конных Кузьма пазнаў палкоўніка Талубко, штабс-капітана Кукаверава, паручніка Стахеева — не застрэліўся ўсё-такі! — і... Га給асоўскую. На ёй быў шэры дарожны касцюм, шапачка пад вуаллю, на руках — доўгія лайкавыя пальчаткі. Ён адчуў, як слаба ўздрыгнула сэрца.

Між тым паручнік Стахееў, як заўсёды, зграбны і прыгожы, звярнуўся да палкоўніка Талубко:

— Можна пачынаць, Генрых Іванавіч?

Палкоўнік толькі махнуў рукою — маўляў, пачынайце. Яму не хацелася дарэмна траціць слоў,— рассыпаць бісер перад свіннямі. Такая чорная няўдзячнасць! Ён, палкоўнік Талубко, лічыў сябе знаўцам салдацкай душы, бацькам салдат, пераемнікам суворaўскіх традыцый у арміі, а яны, неразумнае дзікае быдла, плюнулі яму проста ў твар. Палкоўнікавы вочы камянелі ад гневу.

— Вы прымалі прысягу Часоваму ўраду? — ціха спытаўся ў палонных Стахееў. Яму не трэба было павышаць голасу, бо мёртвая цішыня стаяла над выганам. Колькі імгненняў усе маўчалі, потым з шарэнгі нястройна пачулася:

— Прымалі...

— Згодна загаду № 25 ваеннага міністра Керанскага за здраду айчыне вас усіх трэба расстраляць. Усіх да аднаго! — прыгажун паручнік адчуў, як цёплая хваля гневу, высакароднага панскага гневу, пачынае прыемна затуманьваць мазгі і сэрца. Яны, гэтыя смярдзючыя хлопы, былі ў яго поўнай панскай уладзе. Ён мог іх караць, мог адным рухам пальца адбіраць у іх паганыя жыцці.

— Выдайце завадатараў, мярзотнікі! — У ягоным голасе ўжо зазвінеў метал.

Але ніхто не варухнуўся. Салдаты,— не проста стомленыя, мокрыя, галодныя людзі, у якіх недзе былі сем'і, жонкі, дзеці, якіх нехта недзе чакаў,— маўчалі і глядзелі на ружовашчокага прыгожага паручніка.

гэтым маўчанні пакуль што не было для паручніка ніякай пагрозы — хто ж бяззбройны палезе на штыкі? — але ў ім была сіла, маўклівая, суровая. І паручнік адчуў гэта. Ён нервова выхапіў з кабура пісталеце, страсянуў ім:

— Апошні раз пытаюся: хто завадатары?

І тут цішыню парушыў такі нязвычны для гэтага месца і гэтай сітуацыі голас, жаночы голас:

— Я памагу ім. Можа, іх проста ўвялі ў зман нядобрыя людзі...

Галасоўская дастала з кішэні невялічкі блакноцік, трохі пагартала яго:

— У нашым палку знайшліся грамадзяне воіны, якія замест таго, каб старанна, як належыць, несці службу, чыталі бальшавіцкія газеты. Гэтай атрутай яны карысталіся не толькі самі, але і перадавалі яе іншым...

Яна рэзка ўзняла галаву, твар быў бледны.

— Пчалаводаў... Беламесных... Юшкоў... Лусковіч...

Словы важка падалі ў цішыню, а Кузьме здавалася — кожнае прозвішча — гэта ўдар малатка, што забівае яму ў скроні гарачыя вострыя цвікі. «Гэта нейкі сон... Можа, я ў балоце схапіў гарачку...» — думалася яму. Але было неба, халоднае, брудна-шэрае, быў Стахееў з прыгожымі чорнымі бровамі, якія нервова варушыліся, трапяталі, быццам ластаўчына крылле, была Галасоўская з белым, як крэйда, тварам; з шарэнгі пакорна выходзілі салдаты — вунь выйшаў Беламесных; быў мокры зялёны выган, на які яму чамусьці так захацелася сесці.

— Лусковіч! — крыкнуў Стахееў.— Чаму не выходзіш, сукін сын?

— У балоце ён,— ціха і нясмела сказаў нехта.— Забіла...

«Лусковіча забіла...— абыякава, як сонны, падумаў Кузьма.— Чуў сваю смерць...»

І яму так выразна, так балюча ўявілася балота, мяккія пляскатыя купіны, на адной ляжыць Лусковіч — худы, сіні, з перакошаным тварам, у ноздры і ў рот уліваецца рудая балотная вада.

«Я іх выдаў,— раптам падумаў, быццам успомніў нешта страшнае, Кузьма.— Я... Я сказаў ёй...»

Рукі і ногі рабіліся лёгкімі, бязважкімі, быццам толькі што ён выйшаў з лазні, з густой пякучай пары, і спінай яшчэ адчувае гарачую пругкасць шорсткага бярозавага веніка. Чамусьці пацяплела над левым брывом, нібы прыліп лісцік ад веніка.

Ён выйшаў з шарэнгі, пайшоў па бліскучай слізкай траве.

— Ты куды? — Вочы ў штабс-капітана Кукаверава былі, як маленькія блакітныя гузічкі з жаночай кашулі.

— Я з імі.

Ён ішоў да сваіх сяброў і не глядзеў на яе, але шчакой, скроняю адчуваў яе пагляд.

Казакі выпіхнулі з шарэнгі Бугрова, Івана Лешчанку, яшчэ некалькі незнаёмых Кузьме салдат з іншых ротаў. Білі іх прыкладамі, цемлякамі шашак. Стахееў раптам падскочыў да Юшкова, ірвануў у яго з-за пазухі сцяг:

— Ах ты, мурло чырвонае! Усыпаць яму шампалоў!

Казакі заламалі Юшкову рукі за спіну, павалілі на зямлю, загарнулі яго ў сцяг.

— Біце! — прыжмурваючы вочы, крычаў Стахееў.— Паглядзім, што чырванейшае: сцяг ці бандыцкая кроў?..

Тонка засвісталі шомпалы. Юшкоў круціўся па зямлі, крактаў і пляваўся.

— Ваша благароддзе! — памкнуўся да паручніка Пчалаводаў: — Навошта ж чалавека так калечыць?

— Ты...— аж падскочыў Стахееў.— Стары сабака... Ты іх вучыў!

Ён вырваў у казака бізун, пачаў біць Пчалаводава па плячах, па галаве. Пчалаводаў адводзіў рукамі ўдары бізуна ад вачэй, сказаў:

— Мяне б'еш, а богу баліць...

— Твой бог Ленін.— Стахееў яшчэ больш раз'юшыўся, вось-вось пырсне з рота пена.

— Цьфу на цябе, погань,— не вытрымаў Пчалаводаў, перахапіў у паветры бізун, вырваў яго з рук разгубленага Стахеева і ўдарыў яго па твары.

Чырвоны рубец адразу ўспыхнуў на белай шчацэ.

— Баліць? — спытаўся ў паручніка Пчалаводаў і, размахнуўшыся, далёка шпурнуў бізун у балота.

Стахееў скрывіўся ад болю, схапіўся адной рукой за шчаку, другой узняў свой пісталецік, не цэлячыся, стрэліў.

Увесь гэты час Кузьма быў у нейкім здранцвенні.

Яго мала цікавіла тое, што адбываецца наўкола. Казакі, салдаты, Стахееў, Галасоўская — усё здавалася нерэальным, усё злівалася ў адно, у нешта туманнае, невыразнае, далёкае. Пасярод гэтага туману заставалася толькі адна думка, пранізлівая, як успышка маланкі: «Гэта я вінаваты...» У ёй ён знаходзіў нейкую палёгку, суцяшэнне, яна ахалоджвала душу, бо душа — як любіў казаць Пчалаводаў — была ў сіняках.

Зараз Пчалаводаў, раскінуўшы рукі, падкурчыўшы пад сябе левую нагу, ляжаў на траве, і вочы ў яго шклянелі, на твары заставалася здзіўленне, але і яно паступова сціралася, памірала. Ён быццам прыслухоўваўся да нечага далёкага; можа, чуў шум сваёй тайгі, да якой так і не дайшоў. Паручнік Стахееў, не зводзячы з яго вачэй, паволі адступаў назад, доўгімі белымі пальцамі, якія дрыжалі, зашпільваў кабур. Шарэнга арыштаваных зламалася. Яны грудзьмі напіралі на штыкі канвою, плявалі ў бок афіцэраў, крычалі:

— Звяры!

— Усіх страляйце!

Разгублены канвой, выставіўшы ўперад штыкі, адступаў. Палкоўнік Талубко, нервова выціраючы насоўкай лысіну, гаварыў Стахееву:

— Дурань жа ты, брацец... Дурань... Штабс-капітан,— павярнуўся ён да Кукаверава,— будзьце хоць вы мужчынам. Гэтых бальшавіцкіх падпявалаў запрыце ў халодную, у які-небудзь хлеў. Разбярэмся з імі. А астатніх, як можна хутчэй, ганіце ў Нясвіж, калі не хочаце сёння ж трапіць у рай.

Кузьму, Юшкова, Бугрова, Беламесных і яшчэ чалавек пяць загналі ў вялікае цёмнае гумно, з патрэсканым гліняным токам. Гумно было пустое, халоднае. Высока ўверсе на сохах ляпіліся старыя гнёзды ластавак. Каля дзвярэй была салома. Юшкоў лёг на яе, стагнаў, мацюкаўся, гаварыў, сіпла дыхаючы:

— Такога чалавека кокнулі! Эх, Пчалаводыч... Ну, добра ж, і вам давядзецца крывёй спаласнуцца.

Кузьма сеў каля сцяны, прысланіўся спінаю да цвёрдых чорных бярвенняў, глядзеў уверх, на страху. Праз дзірку ў страсе ліўся агніста-чырвоны прамень сонца, тонкі і востры, як іголка. Дзве смерці за дзень: Пчалаводаў і Лусковіч. І нікога нават не пахавалі па-людску, і невядома, хто іх пахавае, дзе будуць іхнія магілы. Успамінаўся твар Пчалаводава, яго словы, яго вялікія добрыя рукі. Не верылася, што ніколі гэтага ўжо не будзе. Будуць вёсны, зімы, дажджы, снягі, будзе грымець гром над зялёнай зямлёю, а Пчалаводава не будзе. Яшчэ адзін твар — Галасоўскай — выплыў раптам у памяці, але Кузьма адразу ж, з гідлівай помслівасцю, прагнаў яго. Так ірвуць на дробныя кавалачкі і потым спальваюць фотакарткі.

З другога кута гумна гаварыў Бугроў, узбуджана, захліпіста:

— Не бойцеся, хлопцы. Канчаецца іхняе царства.

Нехта цяжка, з прысвістам, кашляў. Кузьма ўстаў, трымаючыся рукамі за бярвенні, пайшоў уздоўж сцяны. На пальцы наліпала сухое павуцінне. У адным месцы, там, дзе ў бервяне была вялікая шчыліна, убачыў, як снуе павучок кросны. Штосьці раптам заныла ў грудзях.

Захацелася сціснуцца ў камяк, схавацца ад гэтага страшнага крывавага свету, зрабіцца павучком, маленькім, шэрым, непрыкметным.

VI

З-за высокай цаглянай сцяны была відаць верхавіна маладзенькай ліпы. Восеньскія халады ўжо абпалілі на ёй лісце: жаўтлявае, бурае, мёртвае, яно слаба трапяталася на тоненькіх карычневых галінках. Вось-вось сарвецца, трохі пакружыцца і ўпадзе пад бліскучыя боты турэмнага наглядчыка. Наглядчык, высокі, ледзь не сажань ростам, касцісты, з бледным, сонным тварам флегматыка, з ключамі ад камер і свістком на поясе, стаяў, прыхіліўшыся да сцяны, і грыз гарбузікі. Рабіў гэта ён вельмі сур'ёзна, з усведамленнем уласнай годнасці. Падкіне на далоні гарбузік, прыжмурыць вока, р-раз! — кінуў гарбузік у рот, спаймаў яго зубамі, потым — хрусь! хрусь! — раскусіў і выплёўвае, з прысвістам, белыя шалупкі. Шалупкі ляцелі далёка, падалі ў лужыну.

Зняволеныя працавалі на турэмным двары. Начальства вырашыла зрабіць сцяну вышэйшай і таўсцейшай, а для гэтага трэба было выкапаць траншэю для падмурка. Рыдлёўкі ледзь уваходзілі ў вільготную, спрасаваную сотнямі ног зямлю.

— Для сябе ж стараемся — клетку будуем,— нявесела сказаў Кузьма і крутнуў галавой, каб страсці з ілба і броваў пот, што заліваў вочы.

— Не бядуй, зямеля, цяплей зімой будзе,— засмяяўся Юшкоў.— Ды і нядоўга нам тут ужо кукаваць засталося. Возьмуць бальшавікі ўладу, выйдзем мы з турмы, а ў яе Сцяпанавіча пасадзім. Правільна я кажу, Сцяпанавіч? — хітравата глянуў ён на наглядчыка.

Той выплюнуў з рота новую порцыю шалупак, спакойна адказаў:

— Пажывём — пабачым. Ды, я думаю, я і тады спатрэблюся. Мікалаю служыў, служу Часоваму ўраду, магу і бальшавікам падсобіць такіх, як ты, доўгаязыкіх, пільнаваць.

— Іч ты,— збіў на патыліцу шапку Юшкоў.— Можа, табе яшчэ ордэн даць за тваю службу цэрберскую?

— Якую, якую службу? — выцягнуў шыю, не зразумеў наглядчык.

— Гэта табе доўга тлумачыць. А так ты чалавек нічога, Сцяпанавіч. Я тады табе камеру сушэйшую падшукаю, па старой дружбе.

— Давай капай,— пасуравеў наглядчык,— а то вунь начальнік турмы ідзе...

Юшкоў азірнуўся, убачыў начальніка і пачаў дзяўбці рыдлёўкай зямлю.

Вось ужо месяц, як Кузьма з Юшковым знаходзіліся ў мінскай турме. З таго гумна ў вёсцы Пагулянцы лёс раскідаў каго куды. Бугрова з Беламесных у штрафную роту на Румынскі фронт, аднаго салдата з пераламанай сківіцай — Стахееў пастараўся! — у турэмны шпіталь, яшчэ траіх — некуды ў Турцыю, у крэпасць Карс, а іх — спачатку на мінскую гаўптвахту. На гаўптвахце парадкі былі строгія: кармілі раз у суткі, ледзь слова пікнуў — у карцэр, дзе замест падлогі — халодная гразь. Гаўптвахта суседнічала з архірэйскім саборам, і што б ні рабіў, дзе б ні быў, уладны, строгі гул званоў стаяў над галавой. Часам яны дзінькалі сумна, ледзь чутна, загадкава і пяшчотна, часам стагналі і грымелі, як лес у навальніцу. Кузьма не знаходзіў тады сабе месца, ледзь не затыкаў вушы, а Юшкоў смяяўся, гразіў званам кулаком:

— Давайце, давайце, медналобыя. Хто каго перакрычыць!

Жывучым чалавекам быў Юшкоў. Іншы б на яго месцы не хутка стаў на ногі пасля казацкіх прыкладаў і бізуноў. А ён трохі павойкаў, пахадзіў з сінякамі на твары, і зноў — усмешка на ўвесь рот, бегае, як семнаццацігадовы, жартуе:

— У мяне скура на ўральскім агні загартаваная. Аб мяне обермайстар Селіванаў, як выпіўшы быў на вялікдзень, жалезную качаргу зламаў.

Кузьма ж, наадварот, сам адчуваў гэта, паспакайнеў, пасталеў. Смерць Пчалаводава і здрада Галасоўскай яшчэ балюча ўспаміналіся яму, але ўжо не было ва ўспамінах той вастрыні, той безвыходнасці, ад якой, здаецца б, рукі на сябе наклаў.

Дзён праз дзесяць з гаўптвахты іх перавялі ў турму на вуліцу Серпухаўскую. У турме яны чакалі суда, але судзіць іх чамусьці не спяшаліся. Не да іх, пэўна, было суддзям у час, калі ўся краіна напамінала вулкан, што вось-вось узарвецца. У турме было лягчэй, чым на гаўптвахце.

Нарэшце, калі ўжо добра сцямнела, наглядчык даў сігнал канчаць работу. Ачысцілі ад гразі рыдлёўкі, апаласнулі халоднай дажджавой вадой, што стаяла ў вялікай металічнай скрыні, рукі і твары. Кузьма ў апошні раз глянуў на ліпу, на неба, ярка-чырвонае, халоднае. У думках развітаўся з імі да заўтрашняга дня і пайшоў у сваю камеру. Хадзілі толькі строем, і ён ішоў, цяжка ўздымаючы стомленыя, ачыгунелыя ногі, хукаючы на анямелыя ад холаду рукі, і бачыў перад сабой круглую стрыжаную патыліцу Кабскага. Кабскі быў адзіны цывільны сярод іх. Усе астатнія чатырнаццаць чалавек — шэрыя акопнікі: пяцёра з 2-га Сібірскага стралковага палка, што стаяў у Мінску, і дзевяць казакаў з Нясвіжа, з 2-й Уральскай дывізіі. Усе

трапілі ў турму за адно і тое ж: абрыдла вайна. І толькі Кабскі, хадзілі чуткі, трапіў за нейкую спекуляцыю.

— Што ж ты такое нарабіў, Валодзя? — калі ўжо з'елі вячэрнюю баланду, кіпень з рэдкімі скрылькамі бручкі, спытаўся ў Кабскага Беланогаў, меднатвары рыжавусы казак-уралец. Яшчэ ў першы дзень Кабскі сказаў, што яго завуць Вальдэмарам, але гэта імя перайначылі на Валодзю, так больш зразумела.

— Грамадзяне, гэта ваенная тайна.— Кабскі заўсміхаўся. Яго чорныя вочкі весела заблішчалі. Быў ён прысадзісты, тоўсты, з кругленькім жыватком. Шчокі пульхныя, мяккія, валасы чорныя, кароткія, на скронях трохі ўжо сівыя. Цяжка сказаць, колькі было яму гадоў,— можна было даць і трыццаць, а можа, і ўсе пяцьдзесят. Гледзячы ад настрою, ён быў то малады, то стары.

— Ая-яй, Валодзя,— умяшаўся ў размову і Юшкоў,— нешта ты, брат, туман на сябе наводзіш. А мне ўжо неяк падумалася: ці не падаслалі цябе да нас: вынюхаць, значыцца, чым дыхаюць бунтаўшчыкі.

— Мяне? Падаслалі? — Кабскі саскочыў, як мячык, са сваіх нараў, узяўшы рукі ў бокі, стаў перад Юшковым. Вочы яго палымнелі гневам.— Вы дрэнна ведаеце Кабскага. Я сам — іхні вораг...— Кароценькім пальцам ён тыцнуў некуды ўверх, у столь, пад якой вакол цьмянай лямпы таўкліся начныя матылькі.— Ненавіджу дэспатаў... Ўласнымі рукамі гатоў руйнаваць любыя бастыліі!

Усе ў камеры ажывіліся. Ведалі: на Валодзю найшло красамоўства, і зараз толькі паспявай слухаць. Кузьма таксама зручней уладкаваўся на мулкіх карах. Яго заўсёды цікавілі вось такія людзі: нечым непадобныя на іншых, не заўсёды зразумелыя. Яны, як ужо высвятлялася потым, маглі быць смешныя, наіўнаватыя, нават, па сялянскіх мерках, трохі дурнаватыя, але яны былі чэсныя ў сваёй наіўнасці, сваёй прысутнасцю яны асвятлялі шэрае, як турэмныя сцены, жыццё.

— Ну добра,— казаў між тым Кабскі, стоячы ў праходзе паміж нараў,— як на святой споведзі, скажу вам — хацеў я зарабіць лёгкую капейку. Вайна, кроў, слёзы, а Вальдэмар Кабскі, чалавек без бога ў душы, карцёжнік і п'яніца, але пакуль што не запойны, захацеў пагрэць каля гэтага вялікага кастра рукі. Заўважце, дарагія грамадзяне, толькі захацеў. А ўжо тысячы людзей да яго грэлі: і вялікія князі, і ваенныя міністры, і дэпутаты Думы. Што я раблю? Прыходжу да мінскага гарадскога галавы Кашчанкі і кажу яму: так і так, як патрыёт, хачу ўнесці сваю лепту ў перамогу. Хачу арганізаваць добраахвотны народны фонд дапамогі расійскім афіцэрам-героям. Для прыліку выклаў спачатку сваіх грошай, колькі было, а потым даў аб'яву ў газеты — і закруцілася машына. Нясуць мне хто

грошы, хто капшук вышываны. Нясуць, заўважце, больш дамы, і прытым ва ўзросце. Ну, я кажу, вядома, дзякуй, забіраю іхняе дабро, і тут ужо спрыт рук... Адным словам, нядоўга я ўсім гэтым дамачкам дзякуй казаў. Сюды яны не здагадваюцца перадачу прынесці...

Ён змоўк, весела глянуў на ўсіх. Цень ад яго, шырокі і кароткі, калыхаўся на бруднай шэрай сцяне.

— Людзі кроў пралівалі, а ты, значыцца, Валодзя, з гэтых жа людзей і цягнуў,— строга бліснуў пукатымі жоўтымі вачыма Беланогаў.

— Заўважце, з салдата ніткі не ўзяў. Усё з афіцэраў, так як яны прыгнятальнікі і аракчэевы.

— Ды ты, Валодзя, ідэйны злодзей,— зарагатаў Юшкоў.

— Які я злодзей? — пакрыўдзіўся Кабскі.— Я яшчэ не паспеў украсці. А наконт ідэй скажу адно: я супроць усякай улады, супроць гвалту над сабой. Я за рабінзонаў, незалежных ад грамадства.

— Бач ты яго,— здзівіўся Юшкоў і падышоў да Кабскага бліжэй.— У турме, вядома, улада нікому не падабаецца, а выйдзеш на волю — трэба ж будзе недзе галаву прыхіліць, у некага дапамогі папрасіць. Улады, брат, розныя могуць быць.

Ён трохі памаўчаў і зноў паўтарыў:

— Улады, як і людзі, розныя могуць быць.

Але Кабскі загарачыўся:

— Розныя, розныя... Усе людзі падобныя, асабліва іх шкілеты.

Гэта была адна з многіх фраз, прыдуманых ім, на ўсялякія выпадкі жыцця.

— Хітра кажаш,— таргануў сябе рукой за доўгі вус Юшкоў.— У мяне вось сябра дарагога, земляка забілі. Паручнік Стахееў, шкура афіцэрская, застрэліў.

Дык я, па-твойму, з гэтым Стахеевым, з гэтым зверам падобны?

Ён стаяў насупраць Кабскага, даўгалыгі, касцісты, чорны, і глядзеў яму проста ў вочы, і цяжка, напэўна, было вытрымаць гэты пагляд, бо Кабскі раптам замітусіўся, заўсміхаўся, ляпнуў сябе кароткімі ручкамі па сцёгнах і, крэкчучы, палез на нары. Там ён доўга варочаўся, уздыхаў, прыцмокваў языком.

Юшкоў падышоў да Кузьмы, нахіліўся над нарамі:

— Спіш?

— Ды не,— узняўся з нараў, сеў Кузьма.— Слухаў, як ты Кабскага агітуеш.

— Ат,— махнуў рукой Юшкоў,— гэты Кабскі хітрэй за нас за ўсіх...

У турме ўсе зняволеныя былі разбіты на дзесяткі на чале са старшыной. У дзесятку Юшкова былі Кузьма, Беланогаў і яшчэ чатыры казакі-ўральцы і чатыры салдаты з 2-га Сібірскага палка. Часам стар-

шаму ці каму-небудзь з дзесятка турэмнае начальства нават дазваляла схадзіць у горад па прадукты. Вось і сёння, трохі пагаварыўшы з Кузьмой, Юшкоў сказаў:

— Заўтра пойдзеш у горад. Ну не радуйся, не радуйся вельмі... Не адзін жа пойдзеш, а з наглядчыкам Рашатняком з трэцяга блока. Прыглядайся, як там на волі. Пакуль што нічога большага ад цябе не трэба...

Доўга ў гэту ноч чакаў Кузьма світання. А яно, як назло, усё не прыходзіла. У камеры было цёмна, як у дамавіне. Нехта цяжка ўздыхаў у сне, нехта ўсхліпваў. Высока, пад самай столлю, было прарэзана вузенькае закрачанае акенца, але як ні напружваў Кузьма зрок, нічога не ўбачыў — значыць, і на вуліцы была глухая восеньская ноч, без зорак, без ліхтароў. Недзе там горбіліся пад ледзяным ветрам вартавыя, ціха ападала на халодную зямлю лісце. Хіба мог ён падумаць калі-небудзь, што будзе арыштаваны, што будзе ляжаць, падкурчыўшы ногі, на мулкіх дошках? Каб хто сказаў раней, у вочы плюнуў бы такому чалавеку. А зараз вось ляжыць у камеры, не спіць, прыслухоўваецца да цемры, і дзіўны спакой на душы і на сэрцы, быццам нічога не здарылася, быццам так і трэба. А напэўна, так і трэба. Бо, калі б было інакш, не ляжалі б зараз побач з ім такія харошыя, слаўныя людзі, як Юшкоў, як Беланогаў. Значыць, так трэба...

Назаўтра, на ранішняй праверцы, да Кузьмы падышоў Рашатняк, глянуўшы паўз твар вялікімі алавянымі вачыма, сказаў:

— Ты ў горад ідзеш? Збірайся.

Юшкоў на развітанне моцна пацісनуў Кузьму плячо, падміргнуў.

Ужо калі выйшлі з турмы, Рашатняк пакруціў у руцэ свісток, напомніў:

— Ты паступаеш пад маю поўную адказнасць. Калі збяжыш, сукін сын, усяму твайму дзесятку гніць на нарах да страшнага суда.

У горадзе ззяла сцюдзёная краплістая раса. Была яна на шыбах дамоў, на дахах, на вадасцёкавых трубах. Асляпляльна сінела неба. Горад быў, як толькі што народжанае дзіця, чысты, крыклівы і пакуль што яшчэ незразумелы.

З Серпухаўскай вуліцы выйшлі на Захар'еўскую. Кузьма прагна глядзеў на людзей. Даўно ён не бачыў гэтулькі народу! Пераважалі вайскоўцы і жанчыны. На тылавікоў ён толькі на імгненне кідаў пагляд. Падумаеш — героі! Гэта тут у вас такія важнецкія вусы і бліскучыя боты, і вы ходзіце, як індыкі, горда выкругліўшы грудзі. А трапілі б на фронт, у акопы, у гразь і кроў! Жанчыны яго цікавілі куды больш. Большасць з іх былі прыгожыя, вясёлыя, гаваркія. У доўгіх

спадніцах, у капялюшыках. Некаторыя ішлі, трымаючы абедзве рукі ў нейкіх невялікіх футравых мяшках. «Гэта яны так грошы ці ключы ад сваіх кватэр ад зладзеяў хаваюць»,— падумаў Кузьма, бо ніяк інакш не мог сам сабе растлумачыць прызначэнне футравых мяшкоў.

На Захар'еўскай селі на конку.

— Не зявай,— строга сказаў Рашатняк, калі зайшлі ў вагон.

Спераду вагона пад доўгім драўляным брылём, нібы пад паветкай, сядзеў рамізнік з пугай у руках, якога ўсе называлі кандуктарам. Кандуктар, маршчыністы, згорблены дзядок у акулярах, шлёгаў пугай коней. На конскіх спінах ззяла раса. Ззяла яна і на рэйках, па якіх скрыгацеў, калаціўся дрогкі вагон. Кузьма прасунуў галаву ў акно, што было прарэзана якраз насупраць спіны кандуктара, спытаўся:

— Дакуль едзем, бацька?

— Да завода Фрумкіна,— не павярнуўшыся, адказаў дзядок і нязлосна шлёгнуў пугай крайняга з тройкі каня.

— Но, пляснівы!

Ніколі яшчэ не быў Кузьма ў такім вялікім горадзе. Высокія камяніцы з бліскучымі зіхатлівымі вокнамі, у якіх адбіваліся людзі, коні, аўтамабілі; мноства чыста апранутага, важнага з выгляду народу; яркія шыльды на магазінах, золата афіцэрскіх пагонаў, шэра-зялёныя, адпаліраваныя тысячамі ног, каменні бруку; пакручастыя і, здавалася, бясконцыя рэйкі пасярэдзіне вуліцы; гукі, пахі — усё гэта кружыла галаву, ён адчуў сябе такім маленькім, нязграбным, бездапаможным, аж пахаладзела ўсярэдзіне.

«Нехта ж тут жыве,— супакойваў ён сам сябе.— Ёсць жа і з вёскі людзі, сюды перабраліся — жывуць. Нават з нашых Чмялёў Рыгор Шамаль...»

Але гэта слаба дапамагала — ён адчуваў сябе мурашкай, якой трэба перапаўзці бязмежнае жытнёвае поле, дзе калоссі захінаюць сонца.

— Гэй! ты што — заснуў? — тыцнуў яго кулаком пад рабрыну Рашатняк.— Выгружайся...

Кузьма ўздрыгнуў, борздзенька выскачыў з вагона, памкнуўся ісці далей па вуліцы, але Рашатняк схапіў яго за рукаў:

— Ты куды? Памагай вагон піхаць... От цёмны народ!

Разам з астатнімі пасажырамі, якія выйшлі з вагона, Кузьма, упёршыся плечуком, піхаў вагон, дапамагаў коням узвезці яго на пагорак. Конскія капыты звонка цокалі па каменнях. Адзін Рашатняк стаяў збоку, церабіў сваімі тоўстымі кароткімі пальцамі свісток. На адным пальцы — раптам заўважыў Кузьма — як струп, чырванеў вялізны пярсцёнак. З нечаканай хмельнай злосцю падумалася: «Бач ты яго, пацук турэмны. Стаіць, камандуе. Я табе пакамандую...» І,

калі нарэшце паехалі далей, калі Рашатняк зноў быў раскрыў рот, каб нешта сказаць, Кузьма сярдзіта звузіў вочы, прасіпеў:

— Стой ціха, а то ўцяку.

Гэта нечаканая пагроза так падзейнічала на Рашатняка, што ён застаўся стаяць з разяўленым ротам.

На Саборнай плошчы выйшлі з вагона. Рашатняк паспакайнеў, палагаднеў. Насцярожана глянуў на Кузьму, сказаў:

— Мне трэба зайсці ў прысутвенныя месцы. Са мной пойдзеш ці каля пад'езда пачакаеш?

— Пачакаю,— Кузьма, адвярнуўшыся, глядзеў, як над архіерэйскім саборам, над тонкімі пазалочанымі крыжамі чорнай хмарай лётаюць вароны.

Калі падышлі да трохпавярховага прыгожага будынка прысутвенных месцаў, Рашатняк яшчэ раз нагадаў, і вочы ў яго былі спалоханыя:

— Ты ж глядзі — чакай мяне тут. А то насоліш сваім сябрам. На тым свеце знойдуць — вочы заплююць...

Ён ляпнуў за сабой высокімі дзвярыма, а Кузьму падумалася:

«Бач ты, і гэты кабан на сумленне напірае. Цікава атрымоўваецца: апошні звяруга, гарлахват, а ледзь вынюхае, што яму можа быць кепска, адразу крычыць пра людское сумленне...»

На плошчы было даволі пуста. Вецер гнаў жоўтае лісце, звінеў у голым голлі кустоў, што раслі абапал бруку. Кусты былі абсыпаны дробнымі чырвонымі ягадамі, і вераб'і шумна валтузіліся ў іх. Прайшлі дзве манашкі ва ўсім чорным. Адна, маладая, светлабровая, хуценька зірнула на Кузьму. Насупраць, каля губернатарскага дома, спрачаліся барадатыя дворнікі з бляхамі на грудзях.

Нарэшце выйшаў Рашатняк.

Быў ён нечым незадаволены, сярдзіта соп носам, круціў галавою.

— Ну і клапы, ну і крывасмокі,— бубніў ён сам сабе, потым махнуў рукой: — Пойдзем на Верхні рынак.

На рынку ў вялікай краме ім нагрузілі ў жоўты брызентавы мяшок прыгожых бліскучых бутэлек з доўгімі рыльцамі.

— Гэта для начальніка турмы. У яго страўнік хворы,— не дужа хаваючыся, схлусіў Рашатняк.

На некалькі мінут ён адлучыўся ў бакоўку з маладым чорнавалосым мужчынам, што стаяў за прылаўкам, і выйшаў адтуль з паружавелымі шчокамі. Яны пайшлі па рынку: Кузьма наперадзе, з мяшком за плячыма, Рашатняк ззаду. Рашатняк проста на вачах п'янеў, гаварыў, ікаючы:

— Клапы і крывасмокі... Сёння прадуктаў не будзе... Спазніўся Рашатняк... А ты, Радзімовіч, таксама чалавек... Але ў турме згніеш... Ты супроць улады...

Ён нечакана спыніўся, быццам нешта ўспомніў, рашуча павярнуўся назад:

— Пойдзем яшчэ ў краму... Там у мяне адно дзела гарыць...

У краме ён зноў схадзіў у бакоўку, пабыў там ужо больш, а выйшаўшы, ляпнуў Кузьму па плячы:

— Згніеш у турме, але і табе гуляць трэба... На тры гадзіны можаш адлучыцца... Але прыйдзі толькі сюды... Я знаю — ты прыйдзеш. Вы, паліцікі,— чэсныя...

Ён забраў у Кузьмы мяшок і зноў пайшоў у бакоўку.

У Кузьмы было аж тры гадзіны свабоды, што падараваў яму п'яны наглядчык. Тры гадзіны — нямала часу. Але ён не вельмі ўзрадаваўся. Куды можна пайсці ў незнаёмым горадзе, без капейчыны ў кішэні, азіраючыся кожную хвіліну, каб не затрымаў патруль? Багаты горад са сваім бляскам, гулам, са сваімі шыкоўнымі магазінамі і прыгожымі жанчынамі створаны, пэўна, для таго, каб толькі дражніць беднага і галоднага. Для бедняка ягоная прыгажосць — што абгрызеная костка для беспрытульнага сабакі.

Кузьма паволі ішоў, куды вочы глядзяць, і ў думках крыўдаваў на Юшкова: «Сам, нябось, ходзіць на Петраградскую 6, у Мінскі Савет. Там у яго ўжо сябры завяліся. А мне нават не прапанаваў туды схадзіць. Значыць, баіцца».

Ён нават спыніўся ад такой думкі. Так, Юшкоў баіцца давяраць яму. А чаму б і не? Гэта

Суровым усё-такі быў свет, што акружаў яго. Суровыя людзі, суровыя падзеі. Так хацелася яму не згубіцца ў гэтым свеце, не быць травой, якую падмінаюць жалезныя колы часу.

Разгублены, ішоў ён па горадзе і раптам успомніў: «Вуліца Багадзельня!» Лусковіч там, у балоце, так прасіў яго, каб ён зайшоў на Багадзельную, у барак. Адразу ж успомніўся і нумар барака: сем. У сустрэчнай бабулі ён спытаўся, як трапіць на Багадзельную, Бабуля махнула сухенькай рукой:

— Ідзі, галубок, прама па Прэабражэнскай. А там і Багадзельная будзе.

Барак Кузьма знайшоў хутка. Быў ён доўгі, драўляны, неахайна абмазаны патрэсканай рудой глінай. На карабатай гонтавай страсе зелянеў мох, расла высокая вострая трава. Чорны певень хадзіў па страсе і раз-пораз кукарэкаў. У бараку было шмат дзвярэй, усе адчыненыя, абшарпаныя, пабітыя, парэзаныя ножыкамі і падрапа-

ныя цвікамі. І Кузьма разгубіўся: не ведаў, у якія заходзіць. Усё-ткі рашыўся, зайшоў у самыя крайнія. У паўцемры зачапіўся за нейкае вядро, яно пакацілася па падлозе, загрымела.

— Хто тут? — з-за стракатай засаленай шырмы, што разгароджвала пакой на дзве няроўныя палавіны, выглянула ўскудлачаная мужчынская галава з чырвонымі вачамі, якія слязіліся.

— Скажыце, дзе тут жыве Лусковіч Праскоўя? — кашлянуўшы ў кулак, спытаўся Кузьма.

— А-а... А я думаў, гэта мне Васька Крывец доўг прынёс. У трэцім пад'ездзе жыве Праскоўя.— Галава лена пазяхнула і зноў схавалася.

Трэція дзверы таксама былі адчынены. Кузьма асцярожна зайшоў у іх, баяўся, каб і тут за што-небудзь не зачапіцца. Вузенькі калідорчык упіраўся ў акно, на якім стаялі вядро з вадою і вялікая медная конаўка. На абодва бакі калідора былі яшчэ дзверы: адны маленькія, фанерныя, жоўтыя, другія большыя, абклееныя газетамі. Кузьма трохі падумаў і пастукаў у маленькія дзверы. Увайшоў, прыгнуўшы галаву, у пакой, паздароўкаўся. Але ніхто яму не адказаў. Пранізліва звінела, білася ў шыбы муха. У куце віселі абразы: святы Юры доўгім чырвоным кап'ём біў змея проста ў разяўленую пашчу. Каля сцяны стаялі самаробныя шафа з посудам, стол, венскае гнутае крэсла. Люстэрка ў лёгкіх трэшчынках ззяла над сталом, і прамень сонца пераломваўся ў ім, драбіўся, вясёлкавым полымем падаў на падлогу.

Толькі зараз Кузьма адчуў, што на яго нехта глядзіць. Ён павярнуў галаву і па правую руку ад сябе ўбачыў металічны ложак, на якім, накрыўшыся па шыю нейкімі рызманамі, ляжала жанчына. Ёй было гадоў дваццаць. Твар вельмі прыгожы, тонкі, белы, але толькі адна яго палова. Другая — уся чырвоная, як абпаленая нечым. Адным сваім вокам, вялікім, бліскучым і напружаным, жанчына глядзела на яго ва ўпор, і яму стала не па сабе ад такога пагляду.

— Ці не вы будзеце Праскоўя Лусковіч? — парушыў маўчанне Кузьма.

Жанчына колькі хвілін, не міргаючы, глядзела на яго, потым сказала:

— Паша хутка будзе. Узяла дзіця на рукі і пайшла ў гарадскую думу. Там салдаткам пайкі даюць...

Голас у яе быў глухаваты, нізкі.

— То я выйду на вуліцу, пачакаю.— Кузьма павярнуўся, адчыніў дзверы і, забыўшыся, што яны нізкія, балюча стукнуўся галавой аб вушак.

На вуліцы ён сеў на лаўку, зняў шапку, заплюшчыў вочы. Але сонца, прамяністае, цёплае, чырванавата-жоўтае, бачылася і з заплюш-

чанымі вачыма. Ён падумаў пра жанчыну: «Такая маладая, прыгожая, ды на табе — не пашанцавала ў жыцці...»

— Паша жыве насупраць мяне. Ейныя дзверы газетамі абклеены.— Жанчына, накінуўшы на плечы старэнькае зялёнае паліто, ужо стаяла побач з Кузьмой. Толькі не глядзела ў твар, а ўсё адварочвалася. «Калецтва сваё хавае»,— здагадаўся Кузьма.

Яму зрабілася так няёмка, так прыкра ад таго, што ён нейкім чынам прымушае яе пакутаваць, што яна баіцца глянуць на яго.

— Мы з ёй разам працуем,— гаварыла між тым жанчына,— на тытунёвай фабрыцы Цукермана. Як надыхаемся гэтай табакі, дык, здаецца, век на яе не глянуў бы. Вы курыце? — Яна выгаворвалася за ўсю сваю адзіноту, спяшалася сказаць яшчэ і яшчэ што-небудзь, але голас быў няўпэўнены, слабы, быццам баялася, што кожнае імгненне яе могуць перарваць.

— Я не куру.— Кузьма стараўся доўга не глядзець на жанчыну, каб не бянтэжыць яе. Ён глядзеў на страху барака, дзе бліскуча-чорны певень залез на самы вільчык, і вецер раздзімаў прыгожы пеўнеў хвост.— Малы быў, дык смаліў трохі. А зараз думаю — і так дыму на зямлі хапае, навошта яго яшчэ заганяць сабе ў нутро?

— Правільна робіце, дальбог жа, правільна,— яна адважылася, глянула на яго, і ў адзіным яе воку, як восеньскі туман, трымцеў сум.

Неўзабаве прыйшла Праскоўя з рыжанькім хлопчыкам на руках. Хлопчык, убачыўшы чужога чалавека ў вайсковым адзенні, спалохана ўткнуўся ў матчына плячо.

— От Лусковіч малы — усіх баіцца.— Праскоўя засмяялася, ускудлаціла сыну валасы.— І жукоў баіцца,! чарвякоў, і дзядзяў чужых.

Была яна нізкая ростам, паўнаватая, з круглявым загарэлым тварам, на якім так і ззялі вясёлыя сінія вочы, з русымі густымі валасамі, заплеценымі ў дзве тугія касы. І Кузьму раптам зрабілася страшна: як гэта ён скажа ёй пра смерць мужа? Гэты страх быў ужо тады, як ён ішоў па вуліцы, шукаў барак. Праўда, тады было ўсё-ткі лягчэй: ён не бачыў Лусковічавага сына, а зараз яны былі побач, і абое — хоць хлопчык, узяўшы трэску, корпаўся ў пяску. — чакалі ягоных слоў.

— Мужык прывітанне пераслаў,— глуха сказаў Кузьма,— і табе, Праскоўя, і сыну...

Ён адразу звярнуўся да яе на «ты», бо гаварыў так усім людзям, якія яму падабаліся. А яна яму нечым з першага ж позірку спадабалася: можа, весялосцю сваёй, можа, шчырасцю.

— Як ён там? — Праскоўя нецярпліва дакранулася да шчакі рукою, і гэты жэст шмат што сказаў Кузьму. «Любіць Кандрата,— падумалася яму.— А Какдратава душа ўжо на небе...»

— Нічога. Ваюе. Шкадаваў, што гасцінца няма дзе ўзяць.— Ён гаварыў гэта наўмысна бадзёра, падміргваючы хлопчыку, што, высунуўшы чырвоны язычок, стаяў побач, слухаў. І яна паверыла. Заўсміхалася, узяла сына за руку:

— Чаго ж мы стаім? Пойдзем, што-небудзь перакусім. Анюта, хадзі з намі...

Але Анюта, хоць ёй, відно было, вельмі і вельмі хочацца пайсці, адмовілася.

У Лусковічаў было чыста і ўтульна. Мэбля, як і ў Анюты, таксама была ўся самаробная. На вокнах віселі старэнькія, але акуратныя, паркалёвыя фіранкі, стаялі вазоны. Каля нядаўна пабеленай грубкі ляжала бярэмца дроў. Кузьма сеў на тапчан, выцягнуў стомленыя ногі.

— Сем рублёў у месяц плацім за гэты катушок.—

Праскоўя даставала з гаспадарчай сумкі нейкія пакуначкі, клала іх на стол.— Сёння гарох давалі. І воблу. Па чатыры рыбіны.

Яна распранула паліто, засталася ў цёмна-сіняй вязанай кофце. Потым нарэзала на талерку хлеба, паклала дзве цыбуліны, кавалачак сала. Падсунула сабе крэсла, глянула на Кузьму:

— А як жа цябе зваць, добры чалавек?

— Кузьмой завуць,— адказаў ён, а сам падумаў: «Ведала б ты, які я добры чалавек, з якой весткай да цябе прыйшоў...» Даўно не быў ён вось у такой абстаноўцы, хатняй, мірнай, дзе галоўныя клопаты пра хлеб, пра дзяцей, дзе пахне нечым цёплым, ужо амаль забытым, дзе ціха рыпяць маснічыны, на вокнах пыляцца фікусы, а на сцяне вісяць пажоўклыя сямейныя фотакарткі. Дзень назад ён не паверыў бы, што недзе яшчэ ёсць такое.

Ён не стаў есці, толькі адламаў кавалачак воблíны, смактаў яго, адчуваючы халаднаватую салонасць у роце.

— Ці скора ўжо ваяваць кончыце? — спыталася Праскоўя, акуратна прыбіраючы ўсе свае няхітрыя ласункі, бо есці таксама не пачала.

— А мы хоць сёння штыкі ў другі бок можам павярнуць,— не стаў асабліва хавацца Кузьма.

— Ну і малайцы.— Яна ўсміхнулася, твар яе паружавеў. Змахнула са стала ручніком крошкі, села, падперла шчаку рукою: — Ой, што ў горадзе робіцца! Народ такі смелы стаў. У нас на фабрыцы ўжо васьмігадзінны рабочы дзень устанавілі. Гаспадар упіраўся, але куды дзенешся? Кантору б на кавалачкі разнеслі. Я і сама ў прымiральнай камеры састаю.

— У якой? — не зразумеў Кузьма.— Там, дзе гэтых самых,— ён шчоўкнуў пальцам па лбе,— трымаюць?

— Скажаш.— Праскоўя засмяялася. Падбег сынок, засмяяўся разам з маці.— Гэта такая камера, дзе рабочых з буржуямі мірацць. Не дадасць гаспадар рабочым у палучку, захоча паболей грошай сабе ў кішэню пакласці, а мы ўжо тут... Ну-тка, давай разбяромся, як ты народ паважаеш.

— І шмат прымірылі?

— Ат, нядужа.— Яна махнула рукой, і з яе вачэй знікла весялосць.— Я так думаю: мірыцца нам з імі не выпадае.

— Правільна думаеш.— Кузьма лёгенька ўшчыкнуў хлопчыка, які, асмялеўшы, узяў з ягоных рук шапку і пачаў прымерваць на сваю галаву.

Праскоўя паглядзела на яго ўважліва, памаўчала,

потым уздыхнула:

— Як жа там мой Кандратка?

Ён, як мог, стараючыся не глядзець ёй у твар, схлусіў, што ўсё добра, што муж яе жывы-здаровы, пра сям'ю ўспамінае, з таварышамі дружыць, нават у ротны камітэт яго выбралі.

— Мой Кандрат ціхі,— слаба ўсміхнулася Праскоўя, і Кузьма зразумеў: не паверыла.

Тады, каб не даць ёй сказаць яшчэ нешта, каб парушыць маўчанне, ён сам спытаўся:

— А гэта Анюта, суседка... што з ёй?

— Анюта няшчасная... Такая дзеўка была! Як агонь. Мы з ёй ка фабрыцы Цукермана ўжо шосты год разам робім. Дык яна, хоць там ад табакі дыхнуць няма чым, і спяе, і такое скажа, што ад смеху ўсе ўпокат кладуцца. І мужчынам, майстру якому ці грузчыку, здачы дасць. Ведама, прыгожая. А быў у нас Васіль Калячонак. Відны хлопец. Кучаравы, высокі, засмяецца — ямачкі на шчоках, як у дзяўчыны. Былы матрос, а ў нас грузчыкам рабіў, табаку на цялежках са складу вазіў. Ну і, як яно ўжо там завязалася, палюбілі яны адно аднаго: Анюта і Васіль. Ходзяць, як галубы, мілуюцца. І пажаніліся. А па гэтаму Калячонку — ён, аказваецца, добры кот быў — яшчэ адна наша работніца сохла, Траскоўская. Высокая, худая, на шчоках нейкія чорныя плямы з валасамі. І ён, Васіль, нешта ёй абяцаў...

Праскоўя на імгненне змоўкла, прыжмурыла вочы, быццам нейкі агонь, яркі і гарачы, асляпіў яе. Хлопчык паклаў ёй галаву на калені, слухаў.

— Пажаніліся яны, значыць, і жывуць, Васіль з Анютай. Я ж таксама на вяселлі была. У нашым бараку і гулялі. А Траскоўская, гэта мы ўжо потым даведаліся, тапіцца хацела, але адгаварылі яе, супакоілі, і яна сказала: «Я ёй гэтага не прашчу», Анюце, значыць...

Жывуць яны месяц, два, паўгода, наша Анюта нешта ўжо і смяяцца перастала, а потым — раз! — у Піцер з'ехалі. А куды, што — ніхто і не ведае. І нікому ні адраса не пакінулі, ні слоўца не сказалі. Я аж пакрыўдзілася: во, думаю, сяброўка якая, як праз зямлю праваліласяся: чым гэта мы ўжо яе так угнявілі? А гэта яны ад Траскоўскай хаваліся. А Траскоўская гордая, зацятая. Жывуць у Піцеры, і Анюта гаворыць Васілю: «Нехта за намі сочыць». Ён засмяяўся: «Гэта ў цябе ад перамены пагоды. Прывыкай да балтыйскіх туманаў». А яна як адчувала. І неяк у нядзелю, Васіля дома не было, стукаюцца ў дзверы. Анюта да дзвярэй: «Хто там?» — «Санітары. Чысціню правяраем». Адчыніла яна дзверы, а на парозе жанчына, галава нечым чорным завязана. І адразу гэта жанчына, слоўца не сказаўшы, выняла аднекуль бутэлечку, ды — плясь! — з той бутэлечкі Анюце ў твар. А ў бутэлечцы кіслата была...

Праскоўя ўстала з-за стала, узяла конаўку з вадой і пачала паліваць фікусы.

У цішыні, што ўсталявалася ў пакоі, было чутно, як слаба булькае вада.

— І што далей? — Кузьма .ўстаў, надзеў шапку.

— А далей? Траскоўскую, кажуць, некуды ў астрог саслалі. Анюта вярнулася сюды. Васіль жа кінуў яе, сорамна яму стала жыць з калекай. Узяў там у Піцеры нейкага купца дачку. Кажуць, губатая, тоўстая. Але ж у багатага і свінка гаспадзінка.

Яшчэ трохі пагаварылі, і Кузьма пачаў збірацца. Ён не прызнаўся, што сядзіць зараз у турме, сказаў — прыехаў з фронту. Навошта лішнія хваляванні жанчыне? Яшчэ шкадаваць пачне.

— Дык перадай жа Кандрату хоць якую пасылачку. Я зараз збяру. Ён рыбу любіць,— замітусілася Праскоўя, але Кузьма спыніў яе:

— Нічога не трэба. У вас саміх не густа. А на фронт усё роўна нічога не дазволяць везці, усё, да ніткі, адбіраюць.

Праскоўя выйшла на вуліцу — трохі правесці яго. Сонца ўжо схавалася за хмары. Неба было свінцовае, трывожнае, здавалася, яно ціснe на горад сваім цяжарам.

Каля барака дзеці збіраліся гуляць у жмуркі, сталі ў кружочак, і белавалосая босая дзяўчынка, глытаючы словы, гаварыла лічылку:

Кацілася торба
з высокага горба.
А ў той торбе —
хлеб,
соль,
вада,

пшаніца.
З кім хочаш —
з тым дзяліся.

Потым раптам двое хлопчыкаў нешта не падзялілі, пачалі біцца, пакаціліся клубком па зямлі, толькі пыл закурэў. Адзін з іх прайграў бойку, пачаў румзаць, усё падцягваў штаны з абарванай шлейкай, выціраў рукавом слёзы і казаў:

— Ён мяне пад сілу ўзяў...

Да Кузьмы з Праскоўяй падбег той, што перамог, хлопчык гадоў дванаццаці, яшчэ задыханы, цёмнавалосы, даўно не стрыжаны, з вострым носікам, спытаўся:

— Цётка Праскоўя, куды вы пойдзеце?

— А навошта табе ведаць? — нахмурылася Праскоўя.— Б'ешся, швэндаешся, як пустапас. Ногі, хоць рэпу сей.

Хлопчык глянуў на свае босыя ногі, пачухаў іх адна аб адну і адышоўся, пакрыўджаны.

— Перадавай Кандрату прывітанне і ад мяне, і ад сына. Скажы: у нас усё добра. Яго чакаем.— Праскоўя моцна пацiснула Кузьме руку, і ён адчуў халадок ад меднага пярсцёнка, што быў у яе на пальцы. Яна раптам прыкусіла губу, заплюшчыла вочы, павярнулася і хуценька пайшла ў барак. Ён убачыў, як дробна ўздрыгвалі яе плечы. І яшчэ ён убачыў няясны слабы цень у акне: пэўна, Анюта глядзела на вуліцу. Яму самому зрабілася чамусьці так сумна, так адзінока, быццам ён нешта страціў назаўсёды.

— Дзядзька салдат, я з табой пайду, давяду цябе да конкі,— сказаў хлопчык, гледзячы Кузьме ў вочы.

— Як цябе завуць? — спытаўся Кузьма.

— Васька Шворан.

— Гэта што — прозвішча тваё такое?

— Усе так завуць.— Хлопчык бадзёра шмыгнуў носам і поруч з Кузьмой пайшоў па пыльнай вуліцы.

Ён ішоў і гаварыў, гаварыў, нават не цікавячыся, ці слухае яго Кузьма.

— Я таксама хутка на фронт пайду. Збягу. Тут жыць нецікава. Майго бацьку яшчэ да вайны, калі стачка была, паліцмейстар канём задавіў, а маці памерла. Агонь з рота пайшоў, і згарэла, захлынулася.

— Чаго ж у яе агонь пайшоў? — глянуў на Ваську Кузьма.

— Гарэлку дужа піла.— Васька сказаў гэта спакойна, так спакойна, што ў Кузьмы пахаладзела ўнутры.

«Нацярпеўся хлопец,— падумалася яму,— адзінокі, гаротны, вось і бяжыць за любым сустрэчным чалавекам, як сабачанё».

— Ты вось што,— паклаў Кузьма руку на плячук Ваську,— бяжы дамоў, а я ўжо сам дайду. І глядзі — не дурэй. Вярнуся з войска — табе салдацкую шапку прывязу.

Сеўшы ў вагон конкі, ён глядзеў, як стаіць Васька на бруку,— рукі ў кішэнях, малы, худы, з перавязаным сіняй анучай вялікім пальцам левай нагі. Было ў хлапчуку нешта ад гарадскога вераб'я, беспрытульнага, заўсёды галоднага, але з такой яраснай жыццёвай сілай, якая дазваляе спяваць, радавацца і спадзявацца на лепшае ў самыя лютыя маразы і завеі.

Зноў пачаліся доўгія турэмныя дні і ночы. Сырая восеньская халепа змянілася марозным пякучым ветрам, і зямля адразу скамянела, зазвінела, пакрылася бліскучай лускою лёду.

Вецер ужо прыносіў з халодных нябёсаў першыя сняжынкі.

Яны няўпэўнена кружыліся над турэмным дваром, быццам баяліся на яго ўпасці.

Раніцай Кабскі адмовіўся ісці на работу. Лёг на нары, закрыў галаву рукамі, застыў у здранцвенні.

— Гэй ты, чаго разлёгся? Уставай! — штурхануў яго наглядчык.

— Не ўстану. Не буду працаваць на вас, фараоны.— Голас у Кабскага дрыжаў.

— Захварэў? — здзівіўся наглядчык. Вязні, як ён лічыў, не маглі, не мелі права хварэць. Ён ужо адчуваў, як весела будзе, калі сам начальнік турмы прыйдзе «лячыць» гэтага дзівака.

— Не буду працаваць,— кароткімі пабялелымі пальцамі Кабскі ўчапіўся ў шэрую коўдру — адрывай, не адарвеш.

Прыйшоў начальнік турмы, злосна глянуў на яго, загадаў:

— У карцэр.

Але Кабскі раптам узвіўся над нарамі, тыцнуў кулаком у зубы наглядчыку, наліўся цяжкай чырванню, зароў, як звер:

— Не буду! Сіл няма! Хоць забіце!..

Яго пацягнулі па праходзе. Ён чапляўся за нары, біў наглядчыкаў нагамі, кусаўся. У ім, тоўстым і няўклюдным, прачнулася дзікая нечалавечая сіла. І тады сцяной перагарадзілі праход усе вязні.

— Не дазволім. Ён хворы,— сказаў начальніку турмы Юшкоў.

Начальнік, з перакошаным ад гневу тварам, хацеў спіхнуць яго з дарогі, але раптам быццам нешта ўбачыў упершыню, быццам аб нечым здагадаўся — вяла махнуў наглядчыкам рукой:

— Адпусціце. Хай доктар з лазарэта яго праверыць.

Згорбіўшыся, ён выйшаў з камеры, і нават у калідоры здавалася яму, што апякаюць ягоную спіну суровыя гарачыя вочы. І ён з трывогай падумаў, што ў яго чацвёра дзяцей, хворая жонка і што ў

горадзе і па ўсёй краіне неспакойна: вось-вось пачнецца новая заваруха. Яму самому, як калісьці ў маленстве, захацелася захварэць, ляжаць у цёплым ложку і піць кіпень з сушанымі малінамі.

А ў камеры ўсе па-дзіцячы радаваліся сваёй перамозе. Беланогаў раздзьмухваў светлыя з іржаўчынаю вусы, гаварыў:

— Мы, хлопцы, сіла. Самі вы яшчэ не ведаеце, якая мы сіла.

Толькі Вальдэмар Кабскі ціха ляжаў на сваіх нарах. Усё яго цела ныла, балела, у вачах скакалі яркія бліскучыя іскры. Яму чамусьці хацелася плакаць.

Ноччу Юшкоў ціхенька падышоў да Кузьмы, сказаў:

— Нутром чую — нешта хутка пачнецца. Усё гатова, толькі б зброю нам у рукі. На Мінскі Савет уся надзея.

Кузьма адшукаў у цемры яго руку, паціснуў. Моцная рука была ў Юшкова.

У другой палове кастрычніка Кузьму зноў удалося вырвацца ў горад, ужо разам з Юшковым. Неба над горадам здавалася цяжкой свінцовай коўдрай, з якой сыпаўся халодны дождж. Яшчэ па дарозе яны дамовіліся з наглядчыкам, і ён адпусціў іх на дзве гадзіны.

— Толькі з вас тры пачкі папярос,— не забыўся напомніць наглядчык.

Яны адразу ж пайшлі на вуліцу Петраградскую, у Мінскі Савет. Будынак Савета стаяў якраз насупраць Каломенскай плошчы. Проста на плошчы расклалі касцёр і грэліся каля яго чорныя вусатыя коннікі ў калматых бараннях папахах, з доўгімі крывымі шаблямі, якія ажно валачыліся па зямлі.

— З Каўказскай дывізіі,— глянуў на іх Юшкоў.— Народ гарачы, але дужа ўжо афіцэрам сваім верыць.

Па каменнай лесвіцы, да бляску адшліфаванай падэшвамі, яны ўзняліся на другі паверх і пайшлі па вузкім цемнаватым калідоры. У калідоры і ў пакоях, якія штораз адчыняліся, было шмат народу; вайскоўцы, цывільныя, мужчыны і жанчыны. Усе гаваркія, узбуджаныя.

Зайшлі ў невялікі пакойчык, на ўсю сцяну якога вісела вялізная карта Расійскай імперыі. У пакойчыку нікога не было, як туман, стаяў у ім густы тытунёвы дым. На стале мясціліся старэнькі тэлефон, пішучая машынка «Ундэрвуд», вакол якой былі раскладзены стосы чыстай паперы. Адразу ж, следам за імі, у пакой увайшоў высокі сівагаловы чалавек у сінім клятчастым паліто. Нешта дужа знаёмае было ў ягоным твары.

«Дзе я мог бачыць яго?»— напружваў памяць Кузьма.

Сівагаловы, як добры знаёмы, падышоў да Юшкова, паздароўкаўся з ім за руку:

— Добры дзень, Іван Еўдакімавіч.— Потым павярнуўся да Кузьмы, і вакол стомленых запалых вачэй пырснулі ва ўсе бакі вясёлыя тоненькія зморшчыш.— Не пазнаеш мяне?

«Рылюк! — успомніў Кузьма.— Той, што прыходзіў да нас у роту, прыносіў газеты, гаварыў пра Леніна...»

Кузьма падаў сівагаловаму руку:

— Я вас помню. І вашы газеты.

Рылюк засмяяўся, сказаў:

— Сядайце, хлопцы. У нагах праўды няма.

Потым, калі селі, глянуў на Кузьму сінімі, нібы веснавы лёд, вачамі:

— Як прывыкаеш да турмы?

— Хіба да яе прывыкнеш? — Кузьма аж пачухаў патыліцу.— Сядзіш, як сабака на ланцугу. Здаецца б, завыў...

Ён гаварыў гэта, а сам думаў: «Значыць, Юшкоў ужо не адзін раз сюды прыходзіў. А мне ні слоўца не сказаў. Сябра, называецца». Зрабілася крыўдна, як бывала яшчэ ў дзяцінстве, калі збіраешся некуды ісці з мужчынамі, думаеш, што ты дужы і дарослы, а табе ў апошні момант кажуць: «Будзь дома. Ты яшчэ малы».

— Хутка і вы спатрэбіцеся, хлопцы,— гаварыў між тым Рылюк, закурваючы кароценькую папяроску і кашляючы,— гуртуйце людзей, збірайце сілу. А я вам сёння ведаеце, што пачытаць прынёс? Пісьмо Леніна «Бальшавікі павінны ўзяць уладу».

— Во гэта дзела,— узрадаваўся Юшкоў.— Давай яго сюды, Андрэевіч. Нашаму турэмнаму народу гэта лепшы падарунак будзе.

Яшчэ трохі пасядзелі, пагаварылі і ўзяліся за шапкі. Рылюк таксама ўзняўся.

— Павінен сустрэцца з рабочымі-дружыннікамі Чыгуначнага раёна,— растлумачыў ён.

Выйшлі на вуліцу, і ў твары ўдарыла халодным дажджом і ветрам. Горад быў у сінявата-шэрай імгле. Толькі вогнішчы ярка гарэлі на Каломенскай плошчы, быццам вогненныя птушкі спусціліся з нябёсаў на зямлю, каб перачакаць непагадзь. Рылюк узняў каўнер паліто, паціснуў на развітанне Юшкову і Кузьму рукі, усміхнуўся ім і моўчкі пайшоў, прыгнуўшы галаву, знік у тумане.

І вось пачаўся гэты дзень. Яны не ведалі, што ён будзе незвычайны. Ён пачаўся, як і ўсе дні: шэрае хмарнае неба, дробны надакучлівы дождж, як праз сіта. Дзень абяцаў застацца звычайным днём, яшчэ адным пажоўклым лісцікам, што неўпрыкметку ападзе з дрэва вечнасці. Але недзе пасля абеду рэзка і пераможна зазвінела жалеза — гэта білі ў турэмныя краты, у турэмныя дзверы. Білі

кулакамі, нагамі, табурэткамі. Потым пачуўся нейкі гул, ён нарастаў, мацнеў, затапляў усе камеры.

— Рэвалюцыя! У Петраградзе рэвалюцыя! Ура, таварышы! — паляцеў па калідоры малады звонкі голас. Ён, як нож, успароў змярцвелы паўзмрок брудных камер, каменных нораў-карцэраў. Ужо нехта, спяшаючыся, не трапляючы ў замочную дзірку, адчыняў цяжкія жалезныя дзверы. Выбеглі ў калідор. Адусюль чулася тупаценне ног, быццам малацілі сотні цапоў.

— Хто ж у нас цяпер за начальства будзе? — адчуваючы, што кружыцца галава, з радасным хрыпам у голасе спытаўся ў Юшкова Кузьма.

— Бальшавіцкая партыя і прапаршчык Рамнёў.— Юшкоў быў бледны, часта дыхаў. У левай руцэ ён трымаў звязку ключоў, правай запіхваў у камеру наглядчыка.

— Ідзі, ідзі, Сцяпанавіч. Адпачнеш на нарах, аб жыцці падумаеш.

Наглядчык пакорна ўвайшоў у камеру. Рукі ў яго калаціліся.

Строіліся на турэмным двары. Кожны дзесятак стаяў на чале са сваім старшыной. Усе былі вясёлыя, узбуджаныя, шмат гаварылі, махалі рукамі. Толькі Кабскі не стаў у строй, трымаўся збоку.

— Ідзі сюды, Валодзя! — крыкнуў яму Беланогаў.— Пойдзем у бальшавіцкае войска запісвацца.

— Які з мяне салдат? — сумна адказаў Кабскі.— Я злодзей. Мне і пры бальшавіках захочацца ўкрасці.

Кузьму стала шкода Кабскага. Усе чакалі гэтай часіны, усе былі радыя, а гэты стаіць, як авечка, што адбілася ад чарады.

— Праўда, ідзі да нас, Валодзя,— сказаў Кузьма.

— Не пайду,— рашуча закруціў галавою Кабскі.— Не пайду... У мяне свае прынцыпы... — На свежым паветры ён пачаў ажываць, ружавець, паверыў, нарэшце, што знаходзіцца на свабодзе, і да яго зноў вярнулася красамоўства...— Злодзею няма месца ў райскіх кушчах. А вы ж будзеце будаваць рай. Ды хіба я злодзей? Зладзеі ходзяць у смокінгах, ездзяць на аўтамабілях. Усе мы, філосафы, пііты, прастытуты і прастытуткі, харчуемся лішкамі, што застаюцца пасля драпежнікаў.

Ён яшчэ нешта гаварыў, весялеў, стукаў сябе ў грудзі, але Кузьма ўжо не слухаў яго — калона рушыла на вуліцу, ногі амаль дзвюх тысяч чалавек дружна ўдарылі ў цвёрдую зямлю, аж пошчак пайшоў наўкола.

Каля турмы выдавалі зброю. Чарга па вінтоўкі была, як па хлеб. З грузавікоў згружалі кулямёты, на якіх тлуста блішчала змазка. Побач з

Кузьмой худы рыжабароды салдат узяў вінтоўку, круціў яе ў руках, разглядаў:

— Ах ты мая сястрыца-трохлінеечка...

Потым пацалаваў яе. Кузьма прыціскаў да сябе вінтоўку, глядзеў на людзей, што акружалі яго, на неба, на дрэвы, мокрыя і голыя, на турэмныя сцены, і быццам нешта спявала ў яго ўнутры. «Я свабодны... Я свабодны...»

Потым, калі строем пайшлі на вуліцу Петраградскую, калі Юшкоў, ужо ўзводны, весела крычаў: «Цвярдзей нагу, хлопцы!»— калі стаялі, затаіўшы дыханне, каля самаробнай трыбуны і слухалі загад № 1 выканкома Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, калі крычалі «ўра!», яму ўвесь час думалася: «Я свабодны і малады». Свабода і маладосць былі тымі крыламі, што ўзнімалі ягонае шчаслівае сэрца над зямлёй.

VII

У пачатку лістапада Дзіна з Янінай Міхейчык пайшлі ў лес надраць моху. Прахор надумаўся перасыпаць паветку, і трэба было падцяпліць мохам сцены. Дзяўчаты апранулі кажушкі, у руках неслі пасцілкі. Лес быў пусты, ціхі, халодны. Толькі ўсхліпвалі асіны над галавою, і ад гэтага рабілася не па сабе. Дзіна тулілася да Яніны — сяброўка больш смялейшая,— раз-пораз азіралася. Казалі, у лесе завяліся бандыты, яны рабуюць людзей, здзекуюцца з іх, асабліва з жанчын і дзяўчат. Яніна ж ішла ўпэўнена, пад нагамі ў яе так і трашчала мёрзлае ламачча.

— Чаго ж твой бацька не пайшоў, калі ты гэтак баішся? — спыталася Яніна і пачала есці яблык, што ўзяла з сабой у лес.

— Ён у Бацюты цэлы дзень сядзіць. Дзякрэты там чытаюць.

— А Антон чаму не пайшоў? — Яніна сказала гэта быццам спакойна, але голас трошачкі ўздрыгнуў.

— Антон хворы. Як пасварыўся з вашым Іванам і з хлопцамі, дык увесь ажно зжаўцеў. А пазаўчора дужа кашляць пачаў,— Дзіна сумна ўздыхнула і вышэй узняла каўнер кажушка.

— Чаму ж ён Івана тады аднаго кінуў у маёнтку? Спалохаўся? — чорныя Янініны вочы ўспыхнулі, шчокі паружавелі.

Але Дзіна нічога не адказала, моўчкі глядзела сабе пад ногі: колькі ўжо разоў пра гэта гаварылі!

Яны мінулі Чорнае ляда, на якім і дагэтуль ляжаў спілаваны Антонам і Іванам дубок. Мёртвае лісце шамацела пад нагамі. Вецер зганяў яго ў гурбы. За лядам лес пайшоў рэдкі, сасновы. Рос ён на высокім пясчаным узгорку.

— Мішка Сырамалот у маёнтку нейкі клуб арганізаваў,— пачала гаворку пра іншае Яніна.— Кажуць, на галаву нейкія валасы рудыя, доўгія, як жаночыя, начэпіць, ходзіць і з кніжачкі чытае, усё пра каралёў і каралеўнаў. А хлопцы на гармоніках і балалайках іграюць. І Васіль Гаранок туды ходзіць...— Яна хітравата глянула на сяброўку.

— Ну і што? — На пераноссі ў Дзіны затрапяталі маршчынкі. Ужо даўно не было сонца, і вяснушкі ў яе пасвятлелі, былі ледзь прыкметныя.

— Дык ён жа за табой бегае. Усе ведаюць.

— Няхай сабе бегае. Сабака за катом таксама бегае.— Дзіна трошкі памаўчала і сказала раўнадушна і нязлосна: — У гэтага Гаранка зубы рэдкія.

Апошнія дні — Дзіна адчувала гэта — нешта зрабілася з ёю, быццам сэрца скамянела. Памёр дзед Ігнат, і разам з ім памерла нешта ў ёй. Не знаходзіць месца, ходзіць, як пабіты, Антон, і ў яе сціскаецца, халаднее нутро. А зараз вось Антон зусім захварэў. А гэта весялушка — Дзіна глянула на Яніну — шчабеча, смяецца, нібы не ведае, што па ёй сохне брат.

— Мама абяцала навучыць мяне ткаць абрусы ў шаснаццаць нітоў,— гаварыла між тым Яніна.— Але Бацюта кажа, што цяпер Савецкая ўласць, і ўсю адзежу будуць з горада прывозіць, крамную.

— А гарадскія што будуць насіць? — Дзіна адвяла ад твару галіну арэшніку.

Яны спускаліся ўжо ў нізіну, у якой за рэдзенькім нізкарослым хвойнікам пачыналася імшанае балота. З-пад ног пырскала зеленавата-жоўтая вада. Яны паднялі ўверх крыссе кажушкоў, каб не запэцкаць, асцярожна пачалі перабірацца на сушэйшае месца. Яніна не сціхала ні на хвіліну.

— Ты ведаеш, як трэба хлопца прываражваць, каб за табой хадзіў? — спыталася яна ў Дзіны і, не дачакаўшыся адказу, зрабіла круглымі вочы, сцішыла голас: — Трэба, калі памрэ які чалавек, прыйсці ў тую хату і працягнуць нітку з іголкай праз адзенне нябожчыка, ды так, каб ніхто не бачыў. А потым гэтай жа іголкай і ніткай хлопцу, кавалеру свайму, нашыць вузел на адзенні. І будзе ён за табой хадзіць заўсёды, як за іголкай нітка.

Тое, пра што расказала Яніна, уразіла Дзіну. Яны пайшлі моўчкі, кожная са сваімі думкамі. Так, моўчкі, натрапілі на мохавыя купіны, разаслалі пасцілкі, пачалі скубці мох. Мох быў доўгі, зеленавата-белы, ужо халодны. Хутка пачалі мерзнуць і балець пальцы. Дзіна хукала на іх, прыкладвала да грудзей і грэла.

— Ой, мяне, мусіць, мурашка ўкусіла.— Яніна аж падскочыла з купіны.

Дзіна весела глянула на яе, яны засмяяліся. І гэты смех адразу знішчыў тую халоднасць, што была спачатку між імі. Наскублі моху, туга завязалі пасцілкі, але браць іх за спіну не спяшаліся.

— Давай цяпельца распалім,— прапанавала Яніна.

— А чым ты яго распаліш?

— Вось чым.— Яніна дастала з кішэні кажушка карабок запалак, патрасла яго над галавой.— У Івана нашага ўзяла. Хай не прывыкае курыць.

Выбралі сухі высокі грудок для цяпельца, пайшлі шукаць ламачча. Дзіна паволі ішла па лесе, падбірала з зямлі галінкі, шышкі, трухлявыя карчы. Вось у зацішным густым месцы, на ўзгорку, стаіць елачка, маладзенькая, зграбная. Толькі ніжнія галінкі ўжо зусім жоўтыя. Дзіна пацягнула за галінку, і раптам елачка лёгка нахілілася і ўпала набок. Гэта было так нечакана, што Дзіна ўся аж скаланулася, і на колькі імгненняў ёй пераняло дыханне. Недзе побач, у густым ельніку, весела гаварыла Яніна, ламала сучча, якое звонка, ядрана трашчала; круціўся над пагоркам адзінокі жоўты лісцік, быццам выглядаў месца, куды ўпасці; няярка свяціла сонца, ужо бледнае, халоднае; а тут ляжала ка зямлі елачка, і пад ёй, пад яе карэннем, пад тоўстым пластом ляснога дзірвану-падзолу, была яміна, нібы пограб. У яміне хаваўся чалавек. Ён ляжаў на спіне, як нябожчык, ляжаў на нейкіх кажухах і світках, на яловых лапках. Дзіна амаль не бачыла яго твару, так цёмна было ў яміне, але вочы чалавека дзіўна і загадкава свяціліся, як два бліскучыя каменьчыкі на дне ракі. Дзіна, уся змярцвелая ад страху, пачала паволі адступаць назад. І тут чалавек, слаба і хрыпла, паклікаў яе:

— Дзіна... Пастой...

Ён ведаў яе! Гэта яшчэ больш распаліла яе страх.

— Не бойся...— шаптаў чалавек і стараўся прыўзняцца, але вельмі мала сілы было ў яго. З яміны патыхала смярдзючым застаялым потам.

— Я Баўтрук... Ляснік з маёнтка,— спяшаючыся, гаварыў чалавек, баючыся, што яна пойдзе і ён зноў застанецца адзін у сваёй цёмнай яміне-магіле...— Грудзі смаліць... Вады... Не выдасі?

Баўтрук, відаць, быў зусім хворы. Словы яго, слабыя і блытаныя, былі, як шум восеньскага лесу, як шорхат зямлі, што асыпалася з карэння елачкі. Дзіна ўсё адступала і адступала ад гэтага месца, а ён зноў жалобна прастагнаў: «Не выдасі?..» — і пацягнуў на сябе карэнне елачкі, накрыўся ёю, нібы коўдрай, нібы векам труны.

Зноў, як у казцы, расла елачка, толькі чамусьці ў бязветраны дзень галінкі яе дрыжалі, і з іх падала, асыпалася жоўтаяігліца. Дзіна ледзь не пабегла да Яніны, якая ўжо чыркала запалкамі, і ў вушах у яе ўсё гучала, як стогн:

«Не выдасі?»

— Чаго ты так пабялела? — здзівілася Яніна, гледзячы на сяброўку.

— Нешта дрэнна мне.— Дзіна сядзела каля цяпельца, але яно не грэла яе. Халодны страх быў у сэрцы.

Потым, калі ўжо ўзвалілі за спіну ношкі і пайшлі дадому, Дзіна ішла моўчкі, краем вуха лавіла вясёлы шчэбет Яніны, і ёй усё бачыўся гушчар, елачка, а пад елачкай, у цёмнай яміне, чалавек-крот, яго жалобныя вочы.

Дома былі бацька і Антон. Антон ляжаў на печы і глуха кашляў.

— Дзе мама? — спыталася Дзіна.

— Пайшла на сяло,— адказаў Прахор.— Можа, дзе з хунт солі пашанцуе пазычыць...

Ён сядзеў за сталом і ўважліва разглядаў нейкія паперы, моршчыў лоб, ледзь не варушыў ад напружання вушамі, але чытаць не ўмеў, і таму літары на жоўтай паперы былі для яго мёртвым насеннем.

— Антон, вазьмі пачытай,— не вытрымаў нарэшце Прахор і палез на печ да сына.

Дзіна пачала мыць посуд, і думкі яе былі нейкія блытаныя.

Між тым на печы Антон чытаў:

— «Уся зямля — дзяржаўная, удзельная, кабінецкая, манастырская, царкоўная, пасесійная, маяратная, прыватнаўласніцкая, грамадская і сялянская і гэтак далей адчуждаецца безвазмезна, ператвараецца ва ўсенароднае дастаяніе і пераходзіць у карыстанне ўсіх працоўных на ёй».

— А што такое маяратная зямля? — спытаўся Прахор.

— Не ведаю. Тут не напісана,— кашлянуў у кулак Антон.

Дзіна мыла посуд і думала: што ж ёй рабіць? Як сказаць пра Баўтрука? Ён жа, Баўтрук, людзям дыхнуць не даваў, за кожнае паленца дроў усе слязьмі плацілі. І Антона ён злавіў з дубком. Пайсці да Бацюты, яму сказаць? Ён тут ад Саветаў начальнік. Але нешта трымала яе.

Успаміналіся вочы, жалобныя, хворыя, як у беспрытульнага сабакі, успамінаўся голас Баўтрука, ціхі, ужо зусім нястрашны.

«У зямлю закапаўся, ад людзей хаваецца,— думала яна.— Што ж рабіць?»

Прыйшла Аўдоля, злосная, стомленая, без солі. Села на ўслон, зняла з галавы хустку. Мокрыя ад поту, сіваватыя валасы збіліся ў лямец.

— Гром бы разбіў такое жыццё,— сказала яна, хацела заплакаць, але ўбачыла на печы Прахора і лінула на яго сваю злосць, як халодную ваду з конаўкі: — Чаго ты там, як дзед стогадовы, разлёгся? Усё кніжачкі чытаеш, дзякрэты. Так табе зямлю і дадуць, у кошыку прынясуць — бяры. От, гасподзь мой высокі, у людзей мужчыны як мужчыны, а гэты...

— Сціхні! — крыкнуў раптам Прахор.

Дзіна здзіўлена глянула на бацьку — калі ён такі смелы зрабіўся?

А Прахор ужо злазіў з печы, і за ім падалі, грымелі смалякі, што сушыліся там.

Ён падышоў да жонкі, рашуча пачухаў лысіну, сказаў ужо цішэй:

— Сціхні. Чаго верашчыш, як курыца? Дарэмна дзякрэт не напішуць. Чую: дарэмна не напішуць...

Ён узняў угору палец і колькі часу трымаў яго так.

— Знайшоўся прарок,— хмыкнула Аўдоля, але злосць у яе ўжо прайшла, і яна, уздыхнуўшы, разам з Дзінай пачала збіраць вячэру.

«Што ж рабіць? — думала Дзіна.— І чаго я падышла да той елачкі? Ці мала іх у лесе. Нічога б не ведала, ні пра што б не думала».

Яна запальвала ў печы, глядзела, як агеньчык бяжыць па сухім палене. Вось быццам паслізнуўся, сарваўся з палена, але ж які ўпарты — зноў учапіўся за кавалачак бяросты, пераскочыў адтуль на сучок, далей, далей, і вось ужо гудзе полымя, страляюць вуголлі. Глядзіш — і твару, і вачам балюча, і ўсё-ткі не хочацца адводзіць вачэй, бо ёсць нешта ў агні такое, што прыцягвае чалавечую душу, чаго не выкажаш словамі.— А яму ж там холадна ў той зямлянцы,— падумала яна раптам пра Баўтрука.— Зіма хутка, мароз зямлю скуе... І зноў яна жахнулася: божа ж мой, што рабіць? Ён быў нядобры, злы, быў вораг усяго сяла, але ж ён чалавек, хворы і адзінокі, ён, напэўна, у сваёй схованцы ўсё жыццё сваё перадумаў: і быць не можа, каб сэрца яго не памякчэла, бо не дарма ж людзі кажуць: гора вучыць.

Калі добра сцямнела і запалілі свяцец, Дзіна падышла да печы і асцярожна кранула брата за нагу:

— Антон, давай на сяло сходзім. Казалі, у Перуноўскіх вечарынка будзе. Мішка гарбаты з Запольцаў іграць прыйдзе.

Антон сеў на печы, працёр кулаком вочы, моўчкі пачаў абувацца.

Яны пайшлі ўздоўж платоў па хісткіх слізкіх кладках, што ляжалі ў гразі. Старыя ліпы, нябачныя ў цемры, глуха шумелі над вёскай. Ліпы шумелі яшчэ тады, калі Дзіны і Антона не было на свеце, калі іхнія дзяды былі такімі маладымі, як яны. Каля Перуноўскіх стаялі хлопцы і дзяўчаты, рыпаў гармонік, нехта лена стукаў у бубен. Гразь чвякала пад нагамі.

— Людвік не пускае. От шляхцюк — заеўся,— пачулі яны вясёлы голас Мішкі Сырамалота.— Гайда да майго Лаўрэна.

Лаўрэн Лапыцька пусціў усіх у хату, сам залез на печ і глядзеў адтуль, як стары цецярук. Вочы яго слязіліся ад тытунёвага дыму, у русых вусах былі хлебныя крошкі.

Дзіна падалася да дзяўчат, а Антон стаў каля парога — адсюль усё відаць, а сам нікому вочы не мазоліш. Гарбаты Мішка з Запольцаў сядзеў у куце пад абразамі і іграў «сербіянку». Твар яго быў нерухомы, нібы высечаны з шэрага палявога каменя. У круг яшчэ ніхто не выходзіў, толькі Мішка Сырамалот узяў вялікую медную конаўку з вадой і пырскаў з яе ваду на падлогу.

Нарэшце завіхурыўся танец. Хлопцы клалі дзеўкам на плечы рукі, колькі імгненняў, як сонныя, тапталіся на адным месцы, патраплялі ў лад музыцы, і потым, нібы хто гарачай галавешкай раптоўна апякаў ім пяткі, падскоквалі і пачыналі кружыцца, з прытупам, з прысвістам, з форсам, ды так, што аж уваччу дваілася. Вецер ішоў па хаце ад доўгіх дзявочых спадніц. У кожнай дзеўкі ў рукаве была вышываная насоўка. Дзеўкі абмахваліся імі, выціралі пот з твару. Потым, пасля вечарынкі, на цёмнай вуліцы хлопцы будуць прыставаць да дзяўчат: «Падары мне хустачку...»

Антон, як і большасць яго аднагодкаў, стаяў у парозе, глядзеў на расчырванелыя, потныя твары тых, што танцавалі, на лямпу-дзесяцілінейку, што ўздрыгвала пад столлю. Рыпелі, калаціліся маснічыны. Малодшы Сцепанюгаў хлопец з усяе сілы лупіў па туга нацягнутаму бубну дубовай качалкай. Багі з абразоў здзіўлена глядзелі на гэтыя імклівыя і шумныя скокі.

Антон умеў танцаваць — Дзіна навучыла, але ў круг выходзіць яшчэ саромеўся. Ды і, па праўдзе сказаць, ён лічыў гэта несур'ёзным заняткам. Гэта для такіх, як Мішка Сырамалот,— яны і нагамі падрыгаць, і языком памалоць ахвотнікі. Але вунь і Міхейчыкаў Іван у круг выйшаў з Франяй Перуноўскай. Шустры Капыток, нічога не скажаш.

Іван параўняўся з Антонам, глянуў на яго, нічога не сказаў, быццам не ўбачыў. Антону стала горача. Усё дзьмецца, усё злуе. А што ж было тады рабіць яму, Антону? На таго звяругу сотніка кінуцца, галаву сваю скласці? Усе вы разумнікі, усе героі — і Капыток, і Мішка Сырамалот, і сам Бацюта.

Танец скончыўся. Дзяўчаты стомлена сядалі на ўслоны, на табурэткі, пачалі махаць каля ружовых твараў насоўкамі. Хлопцы пацiснуліся да сцен, закурылі. Толькі адзін Мішка Сырамалот застаўся

ў крузе, кінуў шапку на печ Лаўрэну, трасянуў чубам і закруціўся на адной пятцы, заспяваў:

— А ты, руды,
Хадзі сюды.
А ты, чорны,
Пастой там...

— Ну і Мішка, ну і чорт печаны,— зацмокалі некаторыя. Толькі Антону не спадабалася прыпеўка. Падалося яму, што Мішка спявае, а сам хітра паглядае на яго. «Гэта я руды»,— здагадаўся Антон.

Ён падаўся ад парога бліжэй да печы, на якой сядзеў Лаўрэн Лапыцька. Лаўрэн заўважыў яго, ажывіўся, крыкнуў, перамагаючы шум:

— Чаму не танцуеш, Антон? Ушчаміў бы якую...

На яго худых грудзях праз расшпіленую кашулю, як тук, блішчаў пот.

— Не хочацца, дзядзька,— сказаў Антон.

— І то праўда,— адразу згадзіўся Лаўрэн.— Мой нябожчык бацька казаў: шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.

Ён памаўчаў, паскроб грудзі карычневай, сухой, як трэска, рукой, спытаўся:

— Будзеце дзеду Ігнату сарачыны спраўляць?

— А як жа. Цялушку зарэжам.

Зноў зайграў гармонік. Пачалі танцаваць «Лысага». Раптам расчыніліся дзверы, нейкі хлапчук крыкнуў:

— Васіль Гаранок грамафон цягне. Усе павярнулі галовы да дзвярэй. Васіль, высокі, кучаравы, у суконнай паддзёўцы, ледзь праціснуўся ў хату. На выцягнутых руках нёс перад сабой грамафон з вялікай трубою.

«Задавака,— падумаў Антон пра Васіля.— Цягне свой грамафон, як дурань дзверы».

Васіль весела гігікаў, прайшоў праз усю хату да лавы, паставіў грамафон побач з Мішкам-гарманістам. Сеў, закурыў, перакінуўшы нагу цераз нагу. Боты ў яго былі хромавыя, халявы закасаныя, відаць жоўтыя вушкі. Дзеўкі прыціхлы глядзелі на яго, шапталіся. І тут, як певень, выскачыў на сярэдзіну хаты Іван Міхейчык, тупнуў нагою:

— Усё роўна мой лапаць лепшы, чым твой бот. Васіль глянуў на яго нагу, спакойна сказаў:

— Нічога лапаць. Анучкі белыя, кужэльныя. Іван пацямнеў у твары:

— Смяешся, гад? Колькі ў твайго бацькі дзесяцін зямлі? Семдзесят?

— Не лічыў,— павярнуўся Васіль да грамафона.— Зямля бацькава, не мая.

— Савецкая ўласць адрэжа. Усю, што ў людзей нахапалі. Вясною ж і адрэжам.

— А я што — проціў? Я і сам за Савецкую ўласць.

Мужык-пралетар.— Васіль хацеў завесці грамафон, але

Іван схапіў яго загрудкі, і яны пакаціліся па падлозе.

Прарэзліва завішчэлі дзеўкі. Грамафон зваліўся на лаву.

— А ну, анціхрысты, вымятайцеся з маёй хаты! — крыкнуў з печы Лаўрэн і схапіў качалку, якой качаюць бялізну.

Расштурхоўваючы ўсіх локцямі, як уюн, праслізнуў праз натоўп Мішка Сырамалот, страшна выкаціў вочы:

— Устаць! Смірна-а!

Гэтая яго нечаканая каманда так уразіла і здзівіла ўсіх, што нават Іван з Васілём апусцілі рукі.

«У Сцяпана Гаршкова камандаваць навучыўся», падумаў Антон пра Мішку.

З хаты ўсе павалілі на вуліцу. Дзеўкі былі незадаволены, што вечарынка так хутка скончылася, хлопцы абмяркоўвалі бойку. Большасць была на баку Івана Міхейчыка.

— Храмачы абуў,— злосна гаварыў пра маладога Гаранка Мікіта Сцепанюга.— Грамафон свой прыпёр. Прывалок бы яшчэ арфу мерыканскую, што ў бацькі ў гумне стаіць.

Антон ішоў па вуліцы, шукаў вачамі Дзіну і думаў, што дарэмна накінуўся Іван на Гаранка. Ад зайздрасці ўсё гэта. Абуў чалавек добрыя боты, дык што — здзіраць іх у яго з ног? І чаму гэты Іван усюды свой нос утыкае?

Падышлі Дзіна з Янінай. Антон адчуў, як няўлоўная млявасць падкочваецца да сэрца, і, каб нечым сябе супакоіць, пачаў кашляць.

— Быў бы ты дома. Чаго я цябе на гэту вечарынку пацягнула? — занепакоілася Дзіна.

Яніна ішла моўчкі, заклаўшы рукі ў кішэні кажушка. Яе твар загадкава бялеўся ў цемры, вусны былі сціснуты. Была яна ўся такая зграбная, лёгкая, прыгожая, а яе маўклівасць так стасавалася да начной цішыні, да шолаху ліпаў, да мігцення зорак на небе. І Антон пашкадаваў, што разам з імі ідзе Дзіна, што яны дойдуць вунь да той пахіленай Нупрэевай бярозы і развітаюцца.

— Ну то да заўтра,— сказала Яніна, прыгнуўшы галаву, увайшла ў нізенькія варотцы свайго двара, і ўжо з парога хаты яшчэ раз данёсся яе голас:

— А наш Іван добра б'ецца. Малы, малы, а гэтага Гаранка ў абаранак скруціў...

Дзверы за ёй зачыніліся, і ноч зрабілася адразу цямнейшай і глушэйшай. Калі трохі адышліся ад Міхейчыкавай хаты, Дзіна спыталася:

— Антон, як ты думаеш — дзе цяпер Баўтрук?

— Не ведаю. А чаму ты пытаешся? — здзівіўся Антон.

— Ён біў цябе тады ў лесе?

— Івана біў. Мяне толькі памагаў звязваць.

Антон асцярожна ступаў па цёмнай вуліцы, і зноў бачылася яму Яніна, яе чорныя вочы, яе ўсмешка.

«Яна зараз кладзецца спаць»,— са шчымлівай цеплынёй падумаў ён.

З цемры паклікалі:

— Антон, пастой.

Падышоў Мішка Сырамалот, у руцэ заціснута цыгарка, іскры з яе падаюць на зямлю. Каля плота, на лавачцы, бялеўся дзявочы кажушок.

— Прыйдзі заўтра ў маёнтак,— сказаў Мішка, а сам усё глядзеў у бок лавачкі.

— Чаго?

— Работу табе знойдзем.

Мішка, цяжка перавальваючыся, пайшоў да лавачкі.

Назаўтра Антон паснедаў, пачаў памагаць бацьку складваць паветку. Бярвенні былі лежаныя, сухія, і таму ён насіў іх адзін. Бацька толькі раўняў вуглы, рассцілаў мох. Часам бацька браў старэнькі ровень, у якім пад зеленаватым шклом бегала кропля паветра, прыкладваў яго да сцяны, жмурыў вока:

— Ну-тка, што наш брахун пакажа...

Антону было смешна, што бацька ровень заве брахуном. Ад работы Антон разагрэўся, адчуў, як у руках і ў скронях моцна запульсавала кроў. Толькі адно не давала яму спакою: дзеля чаго Мішка ўчора сказаў прыйсці ў маёнтак? Ён за апошні час звыкся з тым, што з ім мала хто гаворыць, што яго нават цураюцца. Крыўдна, вядома, было, але ён супакойваў сам сябе: не ўсе ж павінны быць такімі ўдальцамі і гарлахватамі, як Мішка і Іван Міхейчык. Некаму трэба быць у цяньку, рабіць чорную работу і не вытыркацца наперад. Ёсць коні, што вечна цягнуць свой цяжкі плуг, і ёсць стаеннікі, што толькі ведаюць — гарцаваць і красавацца.

Кончылі класці сцены, і Антон не вытрымаў — не стаў памагаць бацьку ўсцягваць страху.

— Вечарам зробім,— сказаў ён.— Хай сцены трохі асядуць,— а сам хуценька шмыгнуў у хату, спаласнуў з твару пот, апрануў навейшую світку і рушыў у маёнтак. Яшчэ здалёк заўважыў: над маёнткам у халодным бела-шэрым небе трапечацца чырвоны сцяг.

У флігелі ён сустрэў Матруну Сазанавец — цяпер усе яе звалі — Матруна Гаршкова. Яна глянула на Антона не вельмі ласкава, але запрасіла сесці, а сама, не разгінаючыся, нажом скрабла вялізныя чорныя чыгуны.

— А дзе ж народ? — нясмела спытаўся Антон.

— З раніцы, як усхапіліся, паехалі ў лес дровы нарыхтоўваць. Бабруйскі рэўком дужа прасіў. Мой таксама там...— Яна здзьмухнула з ілба спатнелую светлую пасму валасоў, глянула на Антона: — А ты чаго прыйшоў?

— Нешта Мішка Сырамалот учора сказаў. Вось я і прыйшоў.

— Мішка сказаў? — адразу падабрэла Матруна.— Тады чакай — на абед павінны ўсе заявіцца.

Антон выйшаў з флігеля, паволі пайшоў па двары. Пакуль ён гаварыў з Матрунай, у прыродзе адбыўся цуд: над дваром пачалі кружыцца першыя сняжынкі. Спачатку яны былі нясмелыя, бязважкія. Прамень сонца, што прарваўся праз белую воўну хмар, асвятляў іх, і яны ляцелі з неба, як сярэбраныя іскры, як бліскучыя, зіхатлівыя зорачкі. Снег спарнеў, гусцеў, мяккай, але трывалай сцяной адгарадзіў ад Антона наваколле. Ціха-ціха было наўкола, толькі чуўся шорхат, слабы і няўлоўны, быццам тысячы белых матылькоў адначасна ўзмахнулі крыльцамі. Антон хадзіў па двары, рукамі і ротам лавіў сняжынкі, і пад нагамі ў яго замест чорнай непрыгожай зямлі рассцілалася мяккая пухкая бель. З флігеля выскачыла Матруна з чыгунамі ў руках, паглядзела на неба, на белыя дрэвы, на стрэхі, на белую Антонаву шапку, засмяялася. І Антон адчуў, што ў яго сэрца ўваходзіць радасць, нейкі празрысты, ціхі спакой.

Нарэшце з-пад лесу паказаліся фурманкі. Снег заляпіў коням грывы, здавалася, нехта накінуў ім на шыі белыя торбы, і коні беглі ціха, асцярожна. Снег яшчэ не асеў, не зацвярдзеў, ад колаў фурманак заставаліся чорныя палосы.

— Здароў, Антон,— мякка саскокнуўшы з фурманкі, сказаў Мішка Сырамалот.— Пойдзем спачатку пасёрбаем гарачанькага...

Разам з Мішкам прыехалі Сцяпан Гаршкоў, Мікіта Сцепанюга, Рыгор Заяц, Іван Міхейчык. Увайшлі ў флігель, знялі адубелыя ад холаду кажухі, рукаўкі, селі за стол.

— Бяры лыжку, чаго стаіш? — сказаў Антону Сцяпан Гаршкоў. Антон прымасціўся на краёк лаўкі, няўпэўнена торкнуў лылску ў вя-

лізную гліняную міску, з якой, як дым, вілася густая пахучая пара. Але ніхто не заўважыў ягонай разгубленасці. Усе дружна варушылі скі-віцамі, і Матруне праз колькі часу давялося даліваць у міску капусту.

— Добрыя бараны ў графа Незабітоўскага,— ірваў мяса белымі шырокімі зубамі Мішка.— Заўтра трэба яшчэ аднаго зарэзаць.

«А ты ахвочы да чужога мяса»,— падумаў Антон. Ён адагрэўся, шморгаў носам, быў злосны на сябе і на ўсіх.

— Дзе гэта наш Бацюта дзеўся? — выціраючы вузкай далонню спатнелы лоб, спытаўся Рыгор Заяц.

— У Бабруйску Бацюта. Паехаў паглядзець, што там робіцца, каб пераняць вопыт. Мазгавіты ён мужык.— Мішка расшпіліў каўнер кашулі, глядзеў на ўсіх вясёлымі вачамі.— Яму ў турме ногі жалезнымі ланцугамі да сцяны прыкоўвалі. А ён усё сцярпеў, выжыў. Мазгавіты мужык. І я каля яго намагніціўся.

— Андрэй чалавек правільны,— падтрымаў Мішку і негаваркі Гаршкоў.

Калі выйшлі на вуліцу, Мішка павёў Антона ў маёнтак. У невялікім пакоі проста на падлозе ляжаў кавалак матэрыі з сажань даўжынёю, такі чырвоны, аж вачам было балюча.

— Нам Іван Капыток сказаў, што ты добра малюеш,— паглядзеў Мішка на Антона.— А літары ты ўмееш маляваць?

— Умею.— Антон яшчэ не здагадваўся, што за работа яго чакае.

Мішка павесялеў.

— Тады добра. Свой сцяг мы задумалі зрабіць. Кожная дзяржава, казаў Бацюта, мае свой сцяг, дык няхай ён і ў вёскі нашай будзе.

— Тут,— Мішка паказаў пальцам,— напішы «Смерць капіталу», а тут,— ён на імгненне зморшчыў лоб,— напішы «Чмялёўскі атрад сялянскай Чырвонай гвардыі». Гэта мы ўсе талакою прыдумалі.

Антон пачухаў патыліцу — нялёгка давядзецца,— але нічога не сказаў, дастаў з кішэні ножык, з веніка, што валяўся ў куце, пачаў выразаць палачку для малявання. А Мішка чамусьці зноў спытаўся:

— Дык ты ўмееш маляваць? — І, не дачакаўшыся адказу, хвалюючыся, папрасіў: — Слухай, Антон, намалюй таварыша Леніна. Каб як жывы быў. Справішся, га?

У яго вачах была такая надзея, такое чаканне, ён аж падаўся ўвесь наперад. Але Антон буркнуў:

— Гэта я не змагу.

Мішка адразу абмяк, пацямнеў з твару:

— А Капыток хваліў цябе. Што ж ты ўмееш? Правадыроў народных не можаш намаляваць? — Але, трохі падумаўшы, махнуў рукой: — Давай малюй літары.

Гэтай работы Антону хапіла на два дні. Увесь час за яго спінай хто-небудзь стаяў, глядзеў, часам з флігеля прыбягала Матруна. Антону падабалася, што ён такі патрэбны, што ён можа зрабіць такую справу, якая не пад сілу іншым.

Гаршкоў, глянуўшы, як прыгожа ён напісаў літары, сказаў:

— Малайчына, Антон,— і моцна пацiснуў яму руку.

Нават Іван Міхейчык усміхнуўся яму, але, праўда, усмешка была халаднаватая, слабенькая.

Потым Мішка сказаў:

— Калі ты такі вучоны, дык, можа, кніжкі паглядзіш? Іх тут, як варон увосень. Але ж трэба тыя выбраць, што розум і сілу мужыку даюць, а кніжкі пра розныя графскія фінціклюшкі хай павукі чытаюць.

Разам з Гаршковым Антон падняўся на другі паверх маёнтка. Ён яшчэ ні разу тут не быў.

«Дык вось як жылі графы»,— думаў ён, асцярожна ступаючы па мяккіх, нейкіх дужа бліскучых дыванах, гледзячы на высокія, з чырвонага дрэва, дзверы, на вокны, то круглыя, то вузкія, зашклёныя сінім, жоўтым і зялёным шклом.

Яны мінулі доўгі светлы калідор, увайшлі ў бібліятэку. І тут Антон убачыў карціну. У прыгожай пазалочанай раме вісела яна на сцяне. Чужое незразумелае жыццё глядзела на Антона з карціны: на багатым, мяккім ложку ляжыць маладая, вельмі прыгожая жанчына, ружовая пасля сну, зусім голая. Вочы ў жанчыны ляніва-гарэзныя, цёплыя і ўладныя. Адхінаючы шырму, цікуе за жанчынай чарнаскуры хлопчык, вірлавокі і таўстагубы, у вострай шапцы, у шырокіх пярэстых штанах. «Пэўна, яе парабак»,— падумаў Антон. Ён адчуваў, што не можа адарваць пагляду ад жаночага цела, і гэта бянтэжыла яго. Грудзі і плечы жанчыны, здавалася, выпраменьвалі таямнічае святло, ад якога лёгка кружылася галава. І ўся яна была, як прамень святла, дрыготкі, няўлоўны.

Гаршкоў хмыкаў, спадылба глядзеў на карціну.

У бібліятэцы кнігі былі пакрыты тоўстым пластом пылу. Праз пыл цьмяна прасвечвала золата пераплётаў. «Гэтулькі кніг,— здзівіўся сам сабе Антон.— Іх можна чытаць усё жыццё, і жыцця не хопіць...»

Кнігі ляжалі ў вялізных дубовых шафах, стаялі на доўгіх, ажно прагнутых пад іх цяжарам, паліцах, валяліся на падлозе. Гэта была сапраўдная турма кніг, таму што ўжо працяглы час імі ніхто не цікавіўся, ніхто іх не чытаў.

Антон узяў з паліцы кнігу, цяжкую, у дарагім скураным пераплёце, прачытаў на вокладцы: «Члены Аўгусцейшага дома Раманавых». З пажоўклых старонак кнігі ўважліва і строга глядзелі на яго вусатыя

генералы, пыхлівыя жанчыны, укормленыя дзеці, усе ў золаце, у ордэнах і лентах, усе, у пераважнай большасці, халаднавокія і рыжаватыя. Антон закрыў кнігу, але, здавалася яму, вочы гэтых людзей, як вострыя цвікі, колюць яго і праз скураны пераплёт. Ён асцярожна хадзіў па бібліятэцы, браў з паліцаў і шафаў кнігі і гартаў іх, стараючыся не наступіць нагой на тыя, што валяліся на падлозе, бо кнігі ўяўляліся яму нібы жывымі істотамі. Нарэшце ён знайшоў кнігу, на вокладцы якой быў намаляваны чалавек, закаваны ў ланцугі. Чалавек, страшна напружваючы рукі, ірваў гэтыя ланцугі. Антон прачытаў некалькі радкоў, перагарнуў некалькі старонак, і кніга захапіла яго. У ёй расказвалася пра раба па імені Спартак, які ўзняў паўстанне супроць Рыма.

Назаўтра, адразу пасля абеду, Антон чытаў гэту кнігу ў флігелі. Глуха шумеў марозны вецер, маленькія вокны залепліваў белы сыпучы снег, а ўсе быццам перанесліся на тысячагоддзі назад у шумны цырк Капуі, на арэне якога паміралі гладыятары. Вось засталося двое фракійцаў супроць пяці самнітаў. Вось ужо фракіец адзін, ён паранены, цяжка дыхае, але, як і раней, бясстрашна адбівае ўдары варожых мячоў і дроцікаў...

Матруна запаліла ў печы, і водбліскі полымя заскакалі па тварах усіх, хто сядзеў за сталом. Мішка Сырамалот паклаў галаву на рукі, сціснутыя ў кулакі. Гаршкоў церабіў сваю чупрыну, часта міргаў вачыма. У Івана Капытка твар зрабіўся нібы каменны, толькі ўздрыгвала сіняя жылка на шыі.

Вось ужо ўспыхнула паўстанне, і гладыятары на чале са Спартаком узняліся на вяршыню Везувія. Унізе, у начной туманнай імгле,— тысячы кастроў. Гэта — рымскія легіёны, закаваныя ў латы, упэўненыя ў сваёй перамозе. А ў гэты час гладыятары плятуць лесвіцы з дзікіх вінаградных лозаў. Дзесяткі лесвіц! І вось сам Спартак з мячом у руцэ асцярожна пачынае спускацца з крутога абрыву. Адзін недакладны рух — і пасыплюцца, загрымяць у начной цішыні каменні...

— Ух ты! — выдыхнуў Мішка Сырамалот і махнуў рукой, быццам трымаў у ёй меч. І як засвяціліся ва ўсіх вочы, як загарэліся радасцю твары, калі гладыятарам удалося вырвацца з пасткі!

Разыходзіліся па хатах, калі пачынала цямнець. Каравуліць у маёнтку засталіся Сцяпан Гаршкоў — ён тут жыў з Матрунай,— Мішка Сырамалот і Рыгор Заяц. Антон бачыў, як ка дзвары маёнтка да Мішкі з Гаршковым падышоў Васіль Гаранок, папрасіў:

— Запішыце ў свой атрад.

Гаршкоў з Мішкам пераглянуліся, памаўчалі. Тады Гаранок стукнуў сябе кулаком у грудзі:

— За вас буду. Грамафон свой заўтра ж прынясу.

Мішка, у душы якога яшчэ звінелі гладыятарскія мячы, глянуў на Васіля, на ягоныя ногі, абутыя ў лапці, нахмурыўся:

— Навошта лапці абуў? Боты ж ёсць. Абувай боты. Хутка ўсе ў ботах хадзіць будзем...— Потым, трохі памаўчаўшы, сказаў: — Заўтра прыходзь. Усім атрадам паталкуем.

Антон ішоў дадому. Біліся ў вочы нябачныя сняжынкі, два колеры былі наўкола: белы — зямлі, чорны — неба.

А на наступны дзень прыціснуў марозік. Бацька ўвайшоў у хату з бярэмам дроў, сказаў:

— Дзень сёння звонкі.

З рота і з ноздраў у бацькі вырывалася пара. Работы ў Антона не было, і ён пайшоў да гумка — лавіць аўсянак. Пад пахай ён нёс драўляныя начовачкі, вяроўку. Насыпаў на прытаптаны снег трохі жыта, узяў паленца, прывязаў яго да вяроўкі, паленца паставіў рубам пад самы край начовак, а сам схаваўся за рогам гумна. Заставалася сядзець і чакаць, і калі аўсянкі пачнуць дзяўбці пад начоўкамі зерне, рэзка тузануць на сябе вяроўчыну.

Птушкі былі галодныя, і таму спакуслівае зерне прыцягнула іх увагу вельмі хутка. Штук пяць аўсянак — бокам-бокам падскакалі да начовак, на імгненне насцярожыліся. Нешта іх палохала.

Пер'е ў іх было бурае, толькі цемя жоўтае. Надхвосце і бакі былі ржава-карычневыя. Здавалася, вецер прынёс аднекуль з лесу мёрзлае восеньскае лісце. Яны скакалі каля начовак, і з іх кволых тоненькіх дзюбак вырывалася: зінь-зінь-зі-і-і-нь... Быццам вецер свістаў у саламянай страсе. Вось адна аўсянка, смялейшая, не вытрымала, юркнула пад начоўкі. За ёй рынуліся туды астатнія. Антон трохі пачакаў і рвануў на сябе вяроўчыну.— Гу-у-ух! — начоўкі цяжка ўдарыліся ў снег, накрылі птушак. Толькі пярына ўзвілася ў паветра.

Антон даставаў з-пад начовак аўсянак, засоўваў іх за пазуху, у кішэні. Адну ўзяў у рукі, хукаў на яе, саграваў дыханнем. Маленькае дрыготкае сэрца аж разрывалася ў ягоных руках.

Каля хаты яго сустрэла Дзіна, бледная, нейкая непрывычная. Глянула на птушак, і вусны ў яе скрывіліся, як ад плачу:

— Выпусці ты іх, Антон. Навошта мучыш?

Ён паслухаў яе. Аўсянкі спалохана сiганулі ў неба, толькі іхняе цяпло яшчэ доўга заставалася на руках, быццам ён мыў рукі гарачай вадой.

«І сапраўды, навошта я іх лавіў? — падумаў Антон.— Ні прадаць жа іх і ні з'есці. Лавіў, відаць, дзеля таго, каб выпусціць. Каб парадавацца разам з імі...»

Ён пайшоў да маёнтка. Снег рыпеў пад нагамі, і добра думалася пад гэта рыпенне. Ён думаў, што хлопцы пачынаюць прызнаваць яго за свайго, пачынаюць паважаць, раіцца з ім, і ад гэтага крок яго рабіўся шырэйшы.

А ў гэты час Дзіна агародамі шыбавала да лесу. У невялікім клунку несла яна гладышык з вадою, паўбохана хлеба і кавалачак сала. Сэрца яе калацілася, ногі нямелі і правальваліся ў глыбокі снег. Узнімалася завіруха. Сцяна белага снежнага пылу ішла па полі. Вецер гуў у сухіх мёртвых сцяблінах, што тырчалі з-пад снегу, выдзьмуваў з іх і рассыпаў наўкола насенне, таксама мёртвае.

«Ён жа такі, як усе, чалавек»,— думала Дзіна. Як сляпы свайго кіёчка, трымалася яна толькі адной гэтай думкі, не давала іншым хоць на імгненне авалодаць сабой. Яна прыйшла на балота, сунімаючы дыханне, ціха падкралася да елачкі, нахіліла яе набок і кінула ў чорную смярдзючую яміну свой клунак. Сама ж нават не глянула туды, хуценька павярнулася і амаль пабегла назад. Ёй здавалася, што ў яе зараз спыніцца сэрца. Вецер шумеў у галлі, выкрасаў з вачэй халодныя слёзы. Калі яна ўжо выходзіла з балота, елачка над схованкай ледзь прыкметна прыўзнялася, і Баўтрук паглядзеў ёй услед.

У Чмялях ужо некалькі дзён па-сапраўднаму гаспадарыла зіма. Людзі, хто як мог, зжалі свае палосы, выкапалі бульбу, нарыхтавалі каровам сена, пазатыкалі дзіркі ў хатах, каб не дзьмуў сівер. Адзіная турбота засталася яшчэ ў людзей — нарыхтоўка дроў. Але патрохі і з ёю справіліся: хто на сваім, хто на чужым коніку з'ездзілі ў лес, і па ўсёй вёсцы пад паветкамі зазвінелі пілы і загрукацелі сякеры. Бяры бярэма дроў, нясі ў хату, кладзі ў печ ці на комінак, і загудзе, заспявае полымя. І гэта гарачая песня заглушыць маркотны спеў халоднага ветру за сцяной. Сядзі ў хаце і чакай канца зімы. Так яно і было б, каб не чырвоны сцяг, што ўжо другі месяц палымнеў над маёнткам. Гледзячы на гэты сцяг, не мог чалавек заснуць бесклапотным мядзведзевым сном. У чалавека дужэлі рукі, смялела душа.

...А снег усё падаў і падаў на зямлю. Аднойчы Дзіна пайшла ў лес і ўбачыла, што Баўтрукова схованка пустая. Елачка была звалена набок, глыбокія сляды-яміны вялі ў лес. Непадалёку валяўся кажух, які на дробныя кавалачкі расшкуматалі ваўкі. Баўтрука ж не было. Холад выгнаў яго з нары.

VIII

Бацюта прыехаў з Бабруйска, і адразу ў хаце Людвіка Перукоўскага сабраліся ўсе чмялёўскія камітэтчыкі. Людвік, які збіраўся пілаваць дровы, кінуў раj боту і пачаў завіхацца каля стала. Разам з жонкай Агатай, маўклівай, худой, з карычневай радзімай плямай пад вокам, прынёс са стопкі капусты, кіслых агуркоў, нарэзаў хлеба, сала, потым падышоў да ложка, нагнуўся і дастаў адтуль вялікі, аплецены лазой бутаць.

— Не трэба гэтага, Людвік,— быў запярэчыў Бацюта, але астатнія не падтрымалі яго, моўчкі глядзелі, як налівае гасцінны гаспадар светла-рудую самагонку ў «панскія кілішкі» — чарачкі ка высокіх ножках.

Бацюта сядзеў на покуце, выцягнуўшы пад сталом стомленыя ногі, аглядаў хату. Спраўная хата была ў Людвіка. З тоўстых, адно да аднаго, сасновых бярвенняў, пакрытая дранкай, з сенцамі і клеццю. У сенцах замест драўлянай падлогі быў глінабітны ток. Насупраць вялікай пабеленай печы Людвік навёў палаткі. Праз усю хату пад столлю цягнуўся патрэсканы, адпаліраваны да мядзянага бляску шост, на якім вісела, сушылася дзіцячае адзенне. Разам з Людвікам жылі два яго сыны, Росця і Жэня, з сем'ямі, і таму ў хаце было не павярнуцца ад дзяцей. Перуноўскія толькі што паабедалі. Бацюта бачыў, як малодшая Людвікава нявестка Хадосця прыбірала стол, што стаяў каля печы. Яна была нечым незадаволеная, сярдзіта шпурляла брудны посуд на прыпечак.

— Чаму ж яна толькі адну палавіну стала прыбрала? — пацікавіўся ў Людвіка Бацюта.

— Гэ,— весела паказаў цесна пасаджаныя зубы Людвік.— Мае нявесткі наравістыя. Кожная толькі сваю палавіну стала прыбірае. Хоць ты рассякай стол на дзве палавіны.

Калі выпілі па чарцы, Рыгор Крыванос, высокі кучаравы, з перакошанай ад старога ранення ніжняй сківіцай, за што яго ў вёсцы злыя языкі дражнілі «крываляпы», спытаўся:

— Як там у горадзе, Андрэй? Што чуваць пра новую ўласць?

— Новая ўласць стаіць крэпка, хлопцы,— Бацюта абапёрся на стол локцямі, па звычцы пачаў грызці свой жоўты вус.— Праўда, там, у Бабруйску, ёй цяжэй было дарогу прабіць, чым у нас. Бой быў. На радыёстанцыі на Бярэзінскім фарштаце афіцэрыкі былі заселі. Давялося гранатамі іх адтуль выкурваць. І ў Савеце гарлахваты сядзелі — бундаўцы ды эсэры. І іх турнулі. Цяпер там бальшавікі сілу ўзялі. Таварышы Бральніцкі і Серабракоў у іх за галоўных. Быў я на адкрыцці клуба, «Рабочы і салдат» называецца. Гэта падобна на тое,

што ў маёнтку Незабітоўскага наш Мішка Сырамалот замышляе. Але там гэта і весялей, і баявей.

Усе глянулі на Мішку Сырамалота, які трошкі пачырванеў, але адразу ж нахмурыўся, і сам перайшоў у наступ:

— То ж гарадскія, Андрэй. Іх, як маткі раджалі, дык у мёдзе качалі. Ты скажы лепш, што з зямлёй рабіць будзем.

— Во, скажы гэта самае. Увесь народ хвалюецца,— Пятрок Заяц аж хіснуўся наперад, наставіў белыя, адмарожаныя ў каляды вушы.

— Пра зямлю Другі Усерасійскі з'езд Саветаў сказаў. Мы ж ужо чыталі яго дэкрэт. Зямля ў радавых сялян і радавых Казакаў не канфіскуецца. Сам Ленін пад гэтым свой подпіс паставіў. А вось што яшчэ Ленін гаворыць.— Ён дастаў з кішэні акуратна складзеную газету, пачаў чытаць: «Валасныя зямельныя камітэты павінны неадкладна браць усе памешчыцкія землі ў сваё распараджэнне, пад самы строгі ўлік, захоўваючы поўны парадак, ахоўваючы строга былую памешчыцкую маёмасць, якая зараз стала агульнанародным набыткам і якую пагэтаму сам народ павінен ахоўваць».

Бацюта зноў акуратна склаў газету, сказаў:

— Быў я ў Бабруйску ў рэўкоме, і вось што бабруйскія таварышы прасілі вам і ўсяму сялянству перадаць: арміі і насельніцтву патрэбен хлеб. Народная рэвалюцыя павінна даць хлеба краіне. Падвозьце хлеб у гарады, дзе ваенна-рэвалюцыйныя камітэты набудуць яго ў вас.

Ён раптам сустрэўся з цікаўным позіркам белагаловага хлапчаняці, які з палаткаў сачыў за тым, што адбывалася ў хаце.

— Чый гэта? — спытаўся Бацюта ў Людвіка.

— Госцяў. Меншы.— Людвік стукнуў далонню па худым вострым калене: — Паўлік, чаго ты там, чортаў хлопец, нікаеш? Галаву шчэ не разбіў?

Хлапчук схаваў галаву за посцілку, якой былі завешаны палаткі. Там, на палатках, ціхенька засмяялася адразу некалькі дзяцей.

— Я думаю, хлопцы,— гаварыў Бацюта, а дзіцячы смех усё стаяў у яго ў вушах,— трэба нам стварыць свой валасны рэўком. Падлічым усю маёмасць у маёнтку, перамераем зямлю і вясной яе падзелім. Нам трэба заўтра ж склікаць сход у валасным праўленні, народу паведаміць, каб з Запольцаў і з хутароў прыйшлі.

Усе згадзіліся з яго прапановай, толькі Рыгор Крыванос сказаў:

— Адну ўладу разбілі, другую сабе на шыю саджаем. А ці нельга, каб неяк без улады, каб па душы ды па сумленні?

Бацюта глянуў яму ў вочы:

— Нельга, Рыгор. Праз дзесяць, дваццаць гадоў, можа, і можна будзе, а цяпер нельга. Думаеш, Незабітоўскі і другія панкі так сабе

аддадуць сваё багацце? Біцца будуць, да смерці біцца. А значыць, трэба сіла, трэба ўлада.

Яўхім Сцепанюга, які ўвесь час маўчаў, раптам, пачырванеўшы ад хвалявання, таксама пачаў гаварыць:

— Уласць, вядома, трэба. Гэта я разумею. У кожным дзеле павінен быць гаспадар. А вось скажы ты мне, Андрэй, вот увесь час думаю,— ён змоўк, яшчэ болей пачырванеў,— я думаю, а што, калі ўсё гэта... ну, як сон? Вось прачнёмся мы заўтра, а ні Савецкай улады, ні дзякрэтаў яе няма. І нават Леніна няма. Быццам усё гэта прыснілася. Што рабіць будзем? Мне ж мой Мікіта чытаў з кніжкі, што яшчэ даўней, як і нашых дзядоў на свеце не было, Сцяпан Разін і Пугачоў за народ ваявалі. І ўсё-такі павезлі іх паны-дваране ў жалезных клетках.

Усе сціхлі, чакалі, што адкажа Бацюта. Ён нахмурыўся, узяў у рукі лыжку, круціў яе. Было чутно, як недзе на вуліцы рыкае галодная карова, як сняжынкі б юцца ў акно. Нават дзеці на палатках прыціхлі. Бацюта ўзняў галаву, але не глядзеў на Сцепанюгу, сказаў:

— Баішся за ўладу... Можа, гэта і добра, што баішся. Значыць, перажываеш, думаеш. А я адно скажу: не сон гэта. Тысячы людзей крывёю і жыццём сваім на катаргах і на барыкадах плацілі за гэта. І мы не аддадзім назад тое, што заваявалі. Народ не аддасць.

Калі выйшлі на вуліцу, ужо цямнелася. Бацюта падняў угору твар. З чорнага неба ляцелі сняжынкі, садзіліся на лоб, на шчокі. Ён на хвіліну ўявіў, якая страшная вышыня над ім, і ўсюды снег, снег...

Ззаду пачуліся крокі. Яго даганяў Мішка Сырамалот. Параўняўся, аддыхаўся, сказаў, гледзячы ў твар:

— Дык ты, праўда, Андрэй, думаеш, што мы дарэмна там, у маёнтку, песні і вершы развучваем?

Снег раставаў у яго на шчоках, і Мішка быў падобны на мокрае разгубленае шчаня. Бацюта засмяяўся, весела таўхнуў яго пад бок:

— Ды ты што, Міша? Ні ў якім разе не кідайце гэтага занятку. Мне казалі, што ты там самы лепшы акцёр. Зайду як-небудзь пагляджу.

Мішка чамусьці зняў шапку, твар ягоны пасвятлеў.

— Ну то я пайду дадому,— шчасліва выдыхнуў ён.— Да заўтра, Андрэй.

Бацюта адзінока ішоў па вуліцы. Снег мякка свяціўся ў цемры. У снега быў нейкі незвычайны колер, колер маладзіка, што ўзыходзіць над вясенняй зямлёю.

«Харошыя людзі,— думаў Бацюта,— як яны хочуць жыць лепей, разумней, святлей. Як хінуцца яны да праўды».

Ён раптам спыніўся. Да шчымлівай сліны ў роце яму захацелася чамусьці закурыць, хоць ён кінуў курыць яшчэ ў сібірскай ссылцы. Маўчала вёска. Жоўтыя скрылькі акон былі рассыпаны ў глухой цемры. Там, за вокнамі, жылі людзі, якія паверылі яму.

«Я тут пакуль усяго толькі адзін бальшавік,— трывожна падумалася яму,— як будзе жыць і працаваць Бацюта, так людзі будуць думаць пра партыю, пра Леніна».

Ён наддаў кроку. Тэкля даўно ўжо зачакалася яго дома. Бацюта спяшаўся да яе, і зноў яму ўспаміналіся словы Рыгора Крываноса, словы Яўхіма Сцепанюгі. І пад чорным начным небам ён падумаў: «Будзе бой, і будзе кроў, але мы пераможам. Чаму ўсе прывыклі думаць, што сіла павінна быць толькі жорсткай? Сіла можа быць і добрай. Вось чалавечыя душы — абедзве з граніту. Але адзін граніт чорны, а другі белы як снег...»

Назаўтра ў валаснай управе, над дзвярыма якой яшчэ віднеўся след ад арла, пачаўся сход. Народу найшло з усіх вёсак. Сядзелі на лавах, на табурэтах, на падаконніках, сядзелі проста на падлозе. Даўно ўжо не збіраліся вось так, грамадою, і таму ўсе былі вясёлыя, узбуджаныя, шмат гаварылі. Здавалася, ад тытунёвага дыму не вытрымаюць сцены.

— Меней бы вы, мужыкі, смакталі гэту атруту! — крыкнула круглашчокая салдатка Агапка Шамаль і, зняўшы з галавы стракатую паркалёвую хустку, махнула цяжкой русявай касой.

— А я думаў, Агапка, што толькі бабы атрута,— грукнуў аб падлогу сваёй мыліцай Сямён-артылерыст.

— Бач ты, які гарачы,— павяла плячом Агапка,— ці не бабы гэта табе адну нагу адкруцілі?

— Пачынайце,— тоненькім галаском заверашчала Аўдоцця Крыванос, па вулічнай мянушцы — Сойка.— Пачынайце, а то карова шчэ не доена.

— А можа, пойдзем Сойцы карову паможам даіць,— падміргнуў суседзям Васіль Гаранок.

— Сойцы карову паможам даіць,— перадражніла яго Аўдоцця.— Каб цябе на тым свеце даіла.

— Грамадзяне, цішэй! Пачынаем сход,— наўмысна нізкім голасам крыкнуў Мішка Сырамалот і паважна адкашляўся. Быў ён у прыгожай светлай паддзёўцы, зграбны, тонкі; чуб, каб не рассыпаўся, змазаны маслам.

— Ну і хвацкі гэты арэхаўскі хлапец! — сказала старая падслепаватая Зайчыха.

— Дык і ты ж, бабка, шчэ нічога,— рагатнуў Сямён-артылерыст.

— Мяне ўжо, дзеткі, моль з'ела,— строга сказала Зайчыха і сцяла тонкія губы.

— Ціха, грамадзяне мужыкі і бабы! — зноў крыкнуў Мішка. Стол, за якім ён сядзеў, быў пакрыты чырвоным абрусам. Мішка ўстаў з-за стала, дачакаўся цішыні, пачаў гаварыць, зморшчыўшы лоб:

— Нам трэба выбраць уладу, сваю Савецкую ўладу, свой рэўком. Так, як усе мы хочам новай жызні і не жадаем зноў вярнуцца ў рабства да паноў-буржуяў, мы павінны са сваіх людзей вызначыць сабе кіраўнікоў, каб яны гарой стаялі за народнае дзела. Такія людзі ў нас ёсць, і я прашу вас іх называць, а са свайго боку называю каваля Андрэя Бацюту, бальшавіка, якога ўсе вы добра ведаеце, які за народ насіў жалезныя кайданы ў Сібіры.

— Бацюту! — дружна закрычала адразу некалькі галасоў.

— Сцепанюгу Яўхіма!

— Сцепанюга маўчун. Рыгора Крываноса пішы!

— Пятра Зайца!

— Запішы, Міхал, сябе,— трасянуў мыліцай Сямён-артылерыст.

Мішка ад ягоных слоў дужа пачырванеў і абедзвюма рукамі пачаў прыгладжваць за вушы валасы.

— Я лічу: трэба ў новую ўладу запісаць Кандрата Гаранка,— узняўся з падлогі, на якой сядзеў, Цімох Белазор, рыжавусы дзябёлы мужычок у лапленым жоўтым кажушку, вясковы бондар. Усе звалі яго Цімох Канчанбал, таму што некалі ён служыў у войску, быў афіцэрскім дзеншчыком і ў Чмялі прывёз ад свайго вечна п'янага афіцэра прымаўку: «І ні слова больш мне не гавары. І кончан был».

— Гаранок — добры гаспадар, працавіты,— трохі памаўчаўшы, дадаў Цімох і зноў сеў на падлогу. Некалькі хвілін ва ўправе стаяла цішыня.

— Колькі ты ў яго гарэлкі выжлукціў?! — крыкнула Агапка Шамаль, і ад яе крыку Белазор аж прыгнуў галаву. Агапка пачала завязваць хустку і глядзела на Мішку Сырамалота, што вёў сход, гарачымі ад гневу вачамі: — У гэтага Гаранка зяць быў гарадавы ў Бабруйску, людзей шабляй сек. І сам ён крывасмок. Не трэба мне такой улады, калі ў ёй Гаранок будзе.

Праз натоўп яна пачала праціскацца да парога.

— Пачакай, Агапка,— узняўся са свайго месца Бацюта і звярнуўся да сходу: — Таварышы сяляне! Выбар нашага сялянскага рэўкома — сур'ёзная справа. Мы даверым яму наша будучае, наш лёс і само жыццё.

Ён строга звёў бровы:

— Хто можа сказаць добрае пра Гаранка, хто за яго перад народам можа ручацца?

— У Гаранка і зараз партрэт цара з царыцай схаваны. У куфэрку на самым дне ляжыць. Хто не верыць, можа паглядзець.— Сямён-артылерыст загрымеў сваёй драўлянай нагой, а гэта значыла, што ён вельмі раззлаваны.

— Не з нашага ён агарода! — крыкнуў Людвік Перуноўскі.

Паспрачаўшыся, у рэўком выбралі Андрэя Бацюту, Яўхіма Сцепанюгу, Рыгора Крываноса, Пятра Зайца, Паўла Макарова, Мішку Сырамалота і хутараніна Пятра Чыжэвіча. Зямлю рашылі дзяліць вясной, да сяўбы.

— Зямля не прападзе. Зямля пад нагамі. Была б яна толькі наша,— сказаў Рыгор Крыванос.

Мішку Сырамалоту дасталася самая адказная работа — перапісаць усю маёмасць графа Незабітоўскага. Мішка аблазіў увесь маёнтак, абышоў лесапільню, свірны, склады, лясныя дзялянкі, флігелі для парабкоў, абмацаў сваімі рукамі кожны цвік і праз два дні

паклаў перад Бацютам густа спісаны сшытак:

— Тут усё як на духу.

Яны падрахавалі лічбы, і Бацюта прысвіснуў:

— Гэты граф быў, як курыца, што нясе залатыя яечкі. Такое багацце! І ўсё цякло, як каню пад хвост — у Парыж і Рым, у бардэлі і на пляжы.

Высветлілася, што на млыне і ў свірнах ляжыць каля сямісот пудоў жыта.

— Што будзем з ім рабіць? — сабраў Бацюта рэўкомаўцаў.

— Я думаю, Андрэй,— сказаў Яўхім Сцепанюга,— беднякам нашым трэба даць трохі жыта. Тым, хто слабейшы, салдаткам і ўдовам. Хай народ бачыць, што мы нешта можам ужо сёння зрабіць. Не кожны Пятра дачакаецца, а сыру кожны хоча.

У нядзелю на млыне пачалі даваць жыта — на кожны двор па два пуды. Мішка падлічыў, што ўсіх такіх двароў будзе ў Чмялях сорак тры, у Запольцах васемнаццаць, і пяць на хутарах. Людзі ішлі з мяхамі, з торбамі, з пасцілкамі. Хлопчык Росці Перуноўскага на вяровачцы прыцягнуў начоўкі.

— Хіба маці мех не знайшла? — сярдзіта спытаўся ў яго Пятрок Заяц.

— Нас мех калова палвала,— калупнуў пальчыкам у носе хлопчык,— дзядзецка, насып у нацоўкі.

— У нацоўкі,— перадражніў яго Заяц,— вераб'і здзяўбуць, пакуль будзеш цягнуць.— Але жыта ўсё ж насыпаў.

Мішка Сырамалот з Петраком Зайцам важылі жыта вялікім, трохі прыхопленым іржой бязменам. Бацюта стаяў побач з пакамечаным сшыткам у руках, з алоўкам за вухам. Людзі атрымоўвалі жыта, распісваліся ў сшытку.

— Не сшытак, а сапраўдныя могілкі,— нявесела пажартаваў Бацюта, бо ў сшытку замест подпісаў стаялі толькі адны крыжы.

Мішка Сырамалот успацеў, скінуў шапку, весела гігікнуў. Яму падабалася быць шчодрым, падабалася бачыць радасныя людскія вочы. Ён адганяў вераб'ёў, што адважваліся скакаць каля самых мяшкоў з жытам.

— Акыш адсюль, буржуі!

Але раптам ён разгублена крануў Бацюту за плячо:

— Глядзі, хто ідзе.

Да млына падыходзіў Кандрат Гаранок. На плячах зашмальцаваная старая світка, на галаве белая салдацкая шапка-бесказырка.

«Дзе ён яе толькі выкапаў? — падумаў Мішка.— У войску ж ні ён, ні Васіль не служылі».

У руках Гаранок трымаў зялёны лаплены мех. Падышоў, прыўзняў над галавою шапку.

— Добры дзень, людцы.

— Здароў, Кандрат,— сказаў Бацюта, і твар яго напружыўся.

Колькі хвілін усе маўчалі.

— Чуў, збожжа вобчаству даюць,— паспрабаваў вымучыць на жоўтых запалых шчоках усмешку Гаранок.— Дай, думаю, збегаю. Баба хворая ляжыць. Па сусеках мышы ўсё падчысцілі.

— Мы не ўсім збожжа даём, Кандрат.— Бацюта скруціў сшытак трубачкай, заткнуў яго за халяву бота. -

— А мой жа Васіль у вашым атрадзе.— Лёгкая ўсмешка асвятліла Гаранкоў твар. Вочы былі разумныя, учэпістыя. Быццам ён ведаў нейкую тайну.

Бацюта гнеўна глянуў на Мішку, ступіў бліжэй да Гаранка, стаў грудзі ў грудзі:

— Ідзі дадому. Калі з голаду будзеш паміраць, сам прынясу.

Гаранок згорбіўся, зашчаміў пад паху мяшок, чамусьці яшчэ раз сказаў:

— Чуў: збожжа вобчаству даюць...

І пайшоў з двара, заграбаючы цяжкімі нагамі пухкі снег.

Бацюта адразу накінуўся на Мішку:

— Хто яго Васіля ў атрад прымаў?

— Мы,— прыкусіў губу Мішка,— прасіўся дужа.

— «Мы» быў Мікалай Другі. Ты прымаў?

— Ну я.

— І стрэльбу даў?

— Стрэльбу не далі. Няма ў нас іх лішніх. Ён — болей па гаспадарцы. Матруне Гаршковай памагае.— Мішка наском бруднага зморшчанага бота калупаў мяшок.

Да вечара супраць кожнага прозвішча ў Бацютавым сшытку стаяў крыжык ці подпіс.

— Толькі мой Лаўрэн не прыйшоў,— уздыхнуў Мішка.

— А дзе ён? — У Бацюты ад сэрца ўжо адкацілася злосць, голас быў мяккі, нават, адчувалася, прабачлівы. * -

Мішка заўважыў гэта, павесялеў, сказаў, збіваючы шапкай пыл са світкі:

— Дома мой Лапыцька.

— Лаўрэн не хоча палучаць,— умяшаўся ў размову Пятрок Заяц.

Бацюта глянуў на Мішку:

— А ну, насыпай у мяшок жыта. Пойдзем да гэтага Льва Талстога.

Яны ішлі па вуліцы, і пад нагамі рыпеў снег, як дрэнна падагнаныя маснічыны. Наперадзе прабеглі каровы, відаць, вырваліся на волю з цёмнага хлява. «Аладкі» дыміліся на снезе. Хлопчык у доўгай, па пяты, світцы бег за каровамі, спалохана крычаў;

— Рагуля! Маліна!

Але каровы, як шалёныя, імчаліся ў поле.

Лаўрэн, абуты ў тоўстыя, падшытыя гумай валёнкі, сядзеў на лаве, вастрыў нажом нейкія палачкі. Убачыў Бацюту, хуценька ўстаў, ручнікам шаснуў па лаве:

— Сядай, Андрэй. Даўно не заходзіў...— І ўсё-такі ў голасе быў халадок.

Бацюта сеў, глянуў на сцены, на абразы, спытаўся:

— Пост ужо прайшоў?

— А хто яго ведае. Мая Тэкля-нябожчыца ўсё гэта ў галаве трымала. А табе навошта? — Лаўрэн неяк па-птушынаму схіліў набок галаву.

Бацюта не адказаў, устаў з лавы, прайшоўся па хаце. Было чутно, як у падпеччы сонна варушацца куры. Галіна ліпы шкрэблася аб акно.

— Крыўдзіш ты Савецкую ўладу, Лаўрэн,— рэзка павярнуўся Бацюта. Вялізны цень ад яго захістаўся на сцяне.

Лаўрэн аж уздрыгнуў:

— Што ты кажаш, Андрэй? Як я магу яе крыўдзіць?

— Чаму зерня не бярэш? Белымі булкамі аб'еўся? — Бацюта спыніўся каля Лапыцькі, глядзеў яму проста ў вочы: хоць ты праз лаву праваліся ад такога пагляду.

— Булак не ем, але і не галодны,— толькі і знайшоў што адказаць Лаўрэн. Голас у яго быў разгублены і ціхі.

— Гаранок вунь на мінулым тыдні шатровачкі на бліны нарабіў у Бабруйску. А сёння да нас прыбег, крычыць, што з голаду пухне,— гэта ўжо Мішка паставіў мяшок з жытам каля Лаўрэнавых ног.— А можа, баішся, дзядзька, што зноў буржуі вернуцца? Што за кожнае зярнятка па кроплі крыві выціснуць?

Не, Лаўрэн нікога і нічога не баяўся. Жыццё вынішчыла ў сэрцы не толькі радасць і весялосць, але і страх. Хіба можа баяцца навальніцы дрэва, якое ўжо разбіта маланкай? Страшэнная млявасць была ва ўсім целе. Як жа растлумачыць гэтым людзям, што не баіцца ён, а проста не хоча хлеба, нічога не хоча? Ён узняўся з лавы, слабымі рукамі ўзяў мяшок з зернем:

— Дзякуй за зерне. І табе, Андрэй, і табе, Мішка.

Калі яны выйшлі з хаты, ён зноў сеў на лаву, бяссільна звесіў рукі. З усіх куткоў наплывала цемра. Лучына дагарала, і сіні дым тонкім струменьчыкам віўся над комінам. І ён падумаў, што тады, раней, Грышка зноў бы запаліў лучыну, а Тэкля б села бліжэй да святла і пачала прасці.

«Чаму я такі няшчасны? — думаў ён.— Жыта далі. Бог з ім, з жытам. Добрыя яны людзі, хоць і ўзялі чужое, каб даць яго мне».

Ціха было ў хаце, як у труне. Пад печчу раптам слаба квохнула курыца. Гэта абудзіла яго ад думак. Ён зачэрпнуў з мяшка зерня, падышоў да печы, цяжка прыгнуўся і млявай рукой сыпануў жыта ў падпечча. Потым укленчыў і пачаў кідаць і кідаць туды зерне жменямі.

Неяк увечары Бацюта прыйшоў у маёнтак, сказаў Мішку Сырамалоту:

— Ну-тка паказвай, якія вы тут арцісты. Уся вёска гаворыць, а я яшчэ і не бачыў. І не сорамна вам?

У вялікай зале на першым паверсе маёнтка Бацюту паставілі крэсла з тонкімі точанымі ножкамі, з высокай чырвонай спінкай, на якой была выразана смешная звярыная мордачка. Бацюта сеў у крэсла, а каля супрацьлеглай сцяны ў такія крэслы селі хлопцы і дзяўчаты, хто з балалайкай, хто з дудачкай, хто з бубнам. Мішка махнуў рукой, а сам хуценька схаваўся за стракатай заслонай, якая адгароджвала кут пакоя. Грымнула музыка. Гэта быў, як падумаў Бацюта, нейкі вайсковы марш. І вось з-за шырмы выйшаў маленькі

тоўсты генерал. На яго плячах ззялі залатыя пагоны, на грудзях і нават на жываце віселі крыжы. Генерал тупаў нагамі і сярдзіта махаў крывой шабляй. Насустрач генералу ледзь пляліся стомленыя худыя людзі, у парваным адзенні, праз якое свяцілася цела.

— На фронт! — крыкнуў генерал і паказаў шабляй наперад. І вось ужо людзі зрабіліся салдатамі: на іх галовах салдацкія папахі, у руках вінтоўкі са штыкамі.

— У атаку! — закрычаў генерал.— За цара-бацюхну, за веру праваслаўную!

Салдаты пабеглі наперад, пачалі падаць, курчыцца ад болю, а генерал, схаваўшыся за іхнімі спінамі, ужо цалаваў ручкі нейкай дужа прыгожай жанчыне.

«Ці не Матруна гэта Гаршкова? — здзіўлена падумаў Бацюта.— Бач ты, якая прыгажуня...»

На Матруне было доўгае, аж цягнулася па падлозе, чорнае і бліскучае плацце. Плечы і рукі вышэй локця аголеныя, і тонкая гладкая скура выдавала снежна-белай. У валасах ярка зіхацелі сярэбраныя стужкі.

З вуліцы прыйшоў Сцяпан Гаршкоў з трохлінейкай за плячыма. Ціха стаў каля Бацюты, не адрываючыся, глядзеў на жонку. Ад Гаршкова пахла свежым снегам, халодным ветрам, дымам.

— Усё ў парадку? — дакрануўшыся да ягонай рукі, шэптам спытаўся Бацюта.

— Усё ў парадку. Толькі завіруха ўзнялася.— Сцяпанавы вочы блішчалі ў паўзмроку.

Між тым салдаты павярнулі раптам назад, на генерала. Адзін з іх выцягнуў з-за пазухі і навязаў на штык чырвоны сцяг. Генерал спрабаваў крычаць на іх, махаць сваёй шабляй, але яму ўсадзілі штык у тоўсты жывот. І тут здарылася нечаканае. Ад рэзкага руху ў генерала, відаць, вырваўся гузік, і з-пад яго мундзіра, з-пад крыжоў і залатых шнуроў вывалілася падушка. Генерал адразу зрабіўся худы і тонкі, як арэхавы кіёк. Грымнуў дружны рогат. Салдаты схапіліся за жываты, ледзь не паміралі ад смеху. І толькі генерал — гэта быў Мішка Сырамалот — пачырванеў ад сораму і крыўды, закрычаў:

— Як ты колеш? Наваліўся, як бык, і цягне, цягне ўбок. Так толькі гной віламі з хлява выдзіраюць.

Ён ледзь не плакаў. Бацюта падышоў да яго, усміхаючыся, паляпаў па плячы:

— Вышэй галаву, пан генерал. Вельмі здорава ў вас усё атрымоўваецца. Падумаеш, падушка ўпала! Вунь у Мікалая Раманава карона з галавы ўпала.

Але Мішку цяжка было супакоіць. Ён уздыхаў, прыцмокваў, кусаў губы, адным словам, меў выгляд самага няшчаснага на зямлі чалавека.

— Слухай, а хто гэта вам так прыгожа і так складна ўсё сачыніў пра генерала гэтага? — спытаўся Бацюта.

Мішкавы шчокі зрабіліся пунсовыя ад задавальнення.

— Самі прыдумалі... І Антон Радзімовічаў памог.

— Антон Радзімовічаў? Дык ён ходзіць да вас?

— Ён і сёння тут. Антон! — паклікаў Мішка.

Падышоў Антон, спатнелы, задыханы, у форме салдата.

— Гэта ж ён мяне калоў,— буркнуў Мішка.

— Здароў, Антон.— Бацюта з цікавасцю глядзеў на гэтага ціхмянага, разумнага, трошкі незразумелага хлопца. «Усё-такі прыйшоў сюды і ён,— радасна падумалася Бацюту.— А іначай і быць не можа. Усе, хто чэсны, хто хоча жыццё зразумець, абавязкова будуць з намі...»

— Мы яшчэ пра Спартака надумалі спектакль паставіць,— гаварыў Мішка.— Дужа нам спадабаўся Спартак. Глядзі сюды, Андрэй.— Ён адчыніў нізенькія дзверы. За дзвярыма проста на падлозе ляжалі бліскучыя латы, шчыты, шлемы, зробленыя з цвёрдага кардону, уздоўж сцен стаялі доўгія вострыя пікі.

— Гэта гладзіятарская зброя,— растлумачыў Мішка.— Пікі Сцяпан Гаршкоў з арэшніку робіць.

— Давайце, хлопцы,— падахвоціў яго Бацюта.— Спартак такі ж самы рэвалюцыянер быў, што і мы. Мала што жыў за тысячы гадоў да нас.

Выйшлі на вуліцу. Зверху, з чорнага цяжкога неба, адразу накінуўся вецер, ударыў у твары калючым шротам снегу, ледзь не збіў з ног.

— Ого, дае,— крактануў Бацюта, моцна трымаючы рукамі шапку, каб не ўзвілася ў паветра. Наперадзе, крокаў за трыццаць ад маёнтка, цьмяна свяцілася акно флігеля. Там, у вузкай паласе святла, круціўся сярэбраны слуп снегу. Вецер дзіка свістаў у голлі дрэў, грымеў бляхай на даху маёнтка. Прыгнуўшы галовы, стараючыся не дыхаць, пабеглі да дзвярэй флігеля. Цемра, што была запоўнена імклівым пранізлівым снегам, здаецца, хапала за рукі. У дзвярах збіліся ў кучу, ледзь праціснуліся. Антон, які бег апошні, на хвіліну затрымаўся:

— Тут на дзвярах нейкая паперына...

— Давай яе сюды.— Мішка зграб паперыну ў кішэню.

У флігелі быў толькі Іван Міхейчык: з перавязаным горлам стаяў каля стала, рэзаў хлеб і сала. Сяк-так збілі снег з шапак, світак і кажухоў.

Мішка выняў з кішэні нейкую паперыну, разгарнуў яе, сказаў:

— Глядзіце, што тут, хлопцы...

На невялікім, мокрым ад снегу кавалку тоўстай жоўтай паперы было напісана вялікімі крывымі літарамі: «Сучкі, выбірайцеся адсюль, пакуль жывыя! Усіх парэжам». Унізе пад словамі быў намаляваны нож з доўгім тонкім лязом.

— Дай мне.— Бацюта доўга разглядаў паперыну, круціў яе ў руках, потым спытаўся ў Івана Міхейчыка: — Ты нічога тут не чуў і не бачыў?

— Нічога,— адказаў Іван і пабляднеў.

— Палохаюць, гады.— Рыгор Заяц сеў на лаву, сцягнуў бот, пачаў высыпаць з яго снег, што адразу раставаў. Пад лавай заблішчала маленькая лужына вады.

— Ну што ж, хлопцы,— цяжка апусціўся за стол Бацюта.— Давайце перакусім і будзем лічыць, што нас папярэдзілі...

Ён узяў з талеркі скрылёк жоўта-сіняга сала, павольна жаваў яго моцнымі шырокімі зубамі. За вокнамі раўла завіруха. Агеньчык лямпы няўпэўнена хістаўся на кноце, здавалася, вось-вось лямпа патухне. Елі ўсе без ахвоты. Прыслухоўваліся да ўсхліпаў ветру, да шоргату снегу, яшчэ да нечага, што нябачна і трывожна стаяла за сцяной, студзёным полагам снегу біла ў шыбы.

Сцяпан Громаў з Мішкам узялі вінтоўкі, выйшлі на вуліцу. У флігелі засталіся Матруна, Бацюта, Васіль Сцепанюга, Рыгор Заяц, Іван Міхейчык, Лявон Цмыг, Васіль Гаранок і Антон. Астатнія хлопцы і дзяўчаты яшчэ з маёнтка пайшлі дадому.

Антон адчуваў, як цяжкай соннай млявасцю разліваецца па ўсім целе трывога. Вось нешта загрымела, стукнула на вуліцы. Вось быццам ля самага акна прашалясцелі нечыя крокі. Ён уяўляў сабе флігель: маленькая слабая кропля святла сярод чорнай раз'юшанай ночы. Над страхою згінаюцца дрэвы, белым снегам замуроўвае вокны, не відно ні зорак, ні сняжынак, ні слядоў. Аж мароз ішоў па скуры.

— Чаму не ясце, хлопцы? — хітравата ўсміхнуўшыся, спытаўся Бацюта.— Той, хто напісаў гэтае пісьмо, болей, чым хто, баіцца, як звер, баіцца. А мы — гаспадары гэтага дома і гэтай зямлі, нам няма чаго баяцца.

Час ішоў. Было ўжо недзе каля поўначы, калі Бацюта пачаў збірацца.

— Пайду я, хлопцы, а то Ганна мая вунь што можа падумаць. Хто са мной?

Але выходзіць у такую цемру і халадэчу ніхто не захацеў.

— Пераначуй з намі, Андрэй,— папрасіла раптам Матруна.

Хлопцы нічога не казалі, ды па іх тварах, па іх вачах было відно, што яны таксама хочуць гэтага ж. Бацюта памаўчаў, згадзіўся. Клаліся спаць хто на ложку, хто на лаве, хто проста на падлозе, на кажухах. Ніхто не распранаўся.

Антон, падклаўшы кулак пад шчаку, ляжаў на лаве. Скуголіў за сцяной вецер, аж, здавалася, уздрыгвае і калоціцца ўвесь флігель.

— Патушы лямпу, Матруна, а то яны могуць у акно па святле пекануць,— ціха сказаў Іван Міхейчык. Усе здагадаліся, хто гэта такія «яны», хоць ніхто іх яшчэ ні разу не бачыў, не мог нават уявіць іх твараў. Адно было ясна: гэтыя «яны» такія ж няўмольныя і помслівыя, як ноч, як завіруха. Цемра была іхнім домам.

Прачнуўся Антон сярод ночы. Напружыў зрок, убачыў: з вуліцы ў флігель увайшоў Бацюта, шапка і твар замецены снегам. Бацюта нахіліўся над ім, шапнуў:

— Спі. Гэта я на вёску збегаў, да Ганны сваёй, каб не хвалявалася, ведала, што са мной.

Сцюдзёны кавалачак снегу ўпаў з ягонай шапкі, апёк Антону шчаку.

Адгрымела ноч, а раніцай незвычайная цішыня стаяла над зямлёй. Завіруха выбілася з сіл, пухкім сярэбраным снегам ляжала на двары, на дахах будынкаў.

— Дзверы замяло. Не адчыніць,— весела сказаў Рыгор Заяц. З цяжкасцю выбраліся на вуліцу, узялі рыдлёўкі, венікі, пачалі прабіваць у цаліку сцяжынку ад флігеля да маёнтка. Антон працаваў разам з усімі. Наперадзе шырокай рыдлёўкай махаў Бацюта. Быў ён чырванашчокі ад работы і марозу. Пунсовае сонца выплывала з-за белага лесу. Куды дзеліся начныя страхі, трывога, што сціскала сэрца.

Дома, каля хаты, Антона сустрэла Дзіна, што ішла з вёдрамі па ваду, сказала:

— Дзе ты быў? Мама ўсю ноч не спала.

— У маёнтку быў. Нас там завіруха захапіла, там начавалі,— сказаў Антон і хацеў узяць у сястры вёдры, але яна сказала:

— Я сама прынясу. Ідзі ў хату — мама чакае. Маці, ледзь толькі пераступіў ён парог, абшчапіла яго шыю рукамі, заплакала:

— А мой жа ты сынок... Я ж думала, што ўжо і костачкі твае снегам завеяла.

— Ну што ты, мама...— Ён гладзіў яе валасы, рэдкія, сівыя, адчуваў цеплыню яе плячэй, адчуваў, як пад старэнькай сіняй кофтачкай б'ецца яе сэрца, і яму самому хацелася плакаць. Як мог ён забыцца пра яе? Усю ноч яна не спала, углядалася ў цемру за акном, слухала галашэнне завірухі.

— Не плач, мама,— казаў Антон.— Я ж прыйшоў. Я ў маёнтку разам з хлопцамі начаваў.

Ад яе пахла такім родным, знаёмым, што аж кружылася галава. І з болем і холадам у сэрцы ён падумаў, што яна хварэе, што яна некалі памрэ, і гэта ноч ляжа ёй новай маршчынкай на твар, новым рубцом на сэрца.

Пасля снядання Антон разам з бацькам пайшоў у гумно. Прахор надумаўся яшчэ раз абабіць пустыя жытнія кулі — хоць жменя зярнят курам будзе. Салома ў кулях была доўгая, чыстая.

— Вясною хляўчук перакрыем,— казаў бацька, браў халодныя жоўтыя кулі, моцна біў імі аб ток. Узвіваўся ўгору пыл, бацька жмурыў вочы, але зерня

амаль што не было.

— Значыць, добра мы з табой, Антон, цапамі памалацілі.— Прахор паклаў куль у сцірту, пахваліўся сыну:

— Два пуды жыта Савецкая ўласць нам выдзеліла. А вясной, Бацюта кажа, яшчэ і зямліцы трохі прырэжуць.

Раптам ён панізіў голас:

— А ты добра робіш, што з імі дружбу завёў. Раней, бачыў я, ты гэтых з маёнтка не дужа шанаваў, а зараз за розум узяўся. Маладзец. Ніколі ў хвасце не ідзі. Апошні толькі чужыя сляды нюхае.

Антону была непрыемная гэта бацькава гаворка. Успомнілася, як бацька дабіваўся, ці казаў што-небудзь дзед Ігнат перад смерцю пра грошы. «Усюды выгаду шукае. На ўсім хоча нажыцца: на радасці і на горы,— падумаў ён пра бацьку,— а калі мяне не было дома, маці плакала ўсю ноч, на вуліцу ў завіруху выходзіла, а ён, Дзіна казала, спаў як пяньку прадаўшы...»

## IX

Неяк у флігель да Матруны Гаршковай зайшла Яніна Міхейчык. Была яна ў прыгожым белым кажушку, падперазаным чорным бліскучым паяском з кутасамі. На галаве цёплая мяккая хустка, на нагах зграбныя маленькія валёнкі з рудой воўны. Яніна зняла з галавы хустку, асцярожна села на лаву. Валасы яе былі гладка прычасаныя, у іх тырчаў вялікі сіні грабеньчык, які бацька на старыя анучы выменяў у Бабруйску ў Мойшы-каравачніка.

Усе з маёнтка паехалі на нарыхтоўку дроў. У флігелі засталіся толькі Матруна ды Лявон Цмыг, але ў яго разбалеўся раптам жывот, і ён пайшоў дадому ў Запольцы. Матруна сама накалола дроў, сама нанасіла іх, запаліла ў печы, пачала рыхтаваць абед. Яна вельмі ўзрадавалася прыходу Яніны — хоць ёсць з кім слоўцам перакінуцца.

— Дужа ж у вас тут інцярэсна,— казала Яніна, аглядаючыся па баках.— Гэта ты, Матруна, заўсёды адна рыхтуеш яду на ўсіх?

— Мне дзяжурнага даюць у помач. Мой Сцяпан з Мішкам Сырамалотам каго назначаць, той і памагае.— Матруна абірала бульбу ў вялізны закураны чыгун.

— Дай я табе памагу.— Яніна борздзенька скінула кажушок, прысела на ўслончык, узяла ў рукі шырокі нож з жоўтымі драўлянымі тронкамі.

— А сёння дзяжурны мой нешта захварэў. Ведаеш Лявона Цмыга з Запольцаў? Дык яму жывот з раніцы скруціла, пабег дадому,— нож так і мільгаў у Матруніных руках, доўгае брудна-шэрае шалупінне, звіваючыся, падала ў кошык.

Няяркі хмарны зімовы дзень цадзіўся праз нізка асаджаныя вокны. У печы страляла вуголле. На сцяне, што была насупраць печы, трапяталі, уздрыгвалі жоўтыя водбліскі. Было чутно, як шашаль точыць старыя бярвенні.

— У вас, відаць, тут шмат моладзі бывае,— уздыхнула Яніна.

— Прыходзяць. І нашы, і запольскія, і з хутароў. Асабліва ўвечары, калі мы свой спіктакль вучым. А ты чаго не ходзіш?

Яніна апусціла вочы:

— Іван наш ходзіць. А я... Мне нешта сорамна.

— Чаго ж тут саромецца? — усміхнулася Матруна.— Усе ў нас тут свае бываюць. Песні вучым, спяваем. Танцаваць Бацюта, праўда, забараніў. У вёсцы, кажа, вечарынкі рабіце.

Яны трохі памаўчалі, потым Яніна, чырванеючы, спыталася:

— Скажы, Матруна, а Антон Радзімовіч ходзіць да вас?

«Вунь яно што,— здагадалася Матруна,— во чаго гэта чорненькая авечка прыбралася, як засцянковая шляхцянка».

І адразу ёй успомнілася, як сама яна прыходзіла ў маёнтак, калі тут стаялі казакі. Скажа маці, што ёй трэба да сяброўкі збегаць, а сама хутчэй сюды, каб хоць краем вока глянуць на Сцяпана. Так і засталася тут.

— Ходзіць Антон,— сказала яна.— Хлопец ён талковы, разумны. Кніжкі ўсім нашым чытае, спіктакль разам з Мішкам сачыніў.

— Спіктакль сачыніў? — здзівілася Яніна, але вочы яе адразу спахмурнелі: — Тут да вас і дзяўчат многа ходзіць?

Матруна ўзнялася з услончыка, узяла вілкі, паставіла чыгун бокам да полымя, выцерла ручніком рукі, глянула на Яніну:

— Далібог, каб не ведала я цябе, Яніна, падумала б, што табе цялятына язык адкусілі. Ты ж дзеўка-агонь. Я ж добра цябе ведаю. Кахаеш Антона?

Яніна кіўнула галавой. Шчокі яе пабялелі.

— Дык чаго ж ты хаваешся ад яго? — Матруна паклала ёй руку на плячо.— Эх, дурніцы мы бабы. Колькі таго шчасця адведзена на вяку, а ўсё баімся да яго падступіцца, усё прымерваемся ды прыглядваемся, а як прыйдзе да нас, шчасце гэта самае, дык і жыць ужо няма калі.

— Не, Матруна, я не баюся Антона.— Яніна глядзела ў печ, дзе гуло ярка-чырвонае полымя.— Я і гавару з ім, і смяюся з яго, і пры людзях магу ўкалоць словам, але ж з ім не так трэба. Ён мяккі нейкі, далікатны. Ён тады ўвесь неяк сціснецца, змоўкне і так глядзіць, аж шкода яго. Я, відаць, і кахаю яго за тое, што ён ціхун.

— Ну, гэтаму я ўжо не магу навучыць,— адказала

Матруна.— Гэта ўжо само чалавеку даецца, з сэрцам. Коленая птушка па-свойму пяе. Адно я скажу: бабуля мая і маці замуж за зямлю выходзілі, не за чалавека. Каб толькі на стале было што з'есці, дзецям ды сабе. Куды тут ужо любоў! А я па сэрцы за Сцяпана свайго выйшла. І ты, Яніна, старайся, каб так было.

Слухаючы Матруну, Яніна ўсхліпнула, уткнулася ёй тварам у плячо.

Матруна засмяялася.

— Не плач. Плакаць яшчэ рана. Вазьмі во ручнік, вытры са шчакі сажу. Ці на лепш спаласні твар халодненькай вадою.

Яна зачэрпнула вялікі кубак вады, над цэбрам пачала паліваць Яніне на рукі. Яніна змывала з твару сажу, змывала слёзы і адчувала, як спакайнела ў яе на душы.

— Я пайду ўжо,— сказала Яніна і апранула свой кажушок. Матруна правяла яе на вуліцу, трохі пастаяла каля варот. Потым вярнулася ў флігель, адцадзіла бульбу, пачала таўчы яе — рабіць камы. Дужа хлопцы прасілі, каб на вячэру згатавала. Яна падсмажыла цыбулю з салам, заправіла камы і паставіла чыгун у печ, каб яны добра ўпрэлі. Увесь час яна думала пра сваю размову з Янінай.

У дзверы пастукалі, увайшоў Лявон Цмыг. Твар у яго быў змучаны, зялёны.

— Пабыў бы ты дома, Лявон,— уважліва паглядзела на яго Матруна.— Не дай бог, хвароба не пройдзе.

— Ат,— махнуў рукой Лявон і сеў на лаву.— Ад чаго ў мужыка жывот баліць? Пан пшано ў жывот, а мужык бервяно на жывот.

Ён закурыў, сядзеў, моршчыўся ад болю, сказаў Матруне:

— Можа, ад цёплага дыму лягчэй стане. А так дык я табакі і не нюхаю.

Потым закашляўся, пайшоў на вуліцу.

«Трэба будзе яму, як хлопцы з лесу прыедуць, каліны сушанай даць папіць»,— падумала Матруна.

Яна адчувала, што стамілася за дзень. Во каб гэту Міхейчыкаву Яніну ўгаварыць — разам бы спарней працаваць было.

У гэты час на вуліцы нешта моцна ляснула. Матруна ўздрыгнула і падумала, што калісьці, як яна яшчэ дзяўчынкай пасвіла кароў, так шлёгаў бізуном пастух Антон Вавіцкі. Яна падышла да акна. Бялеў снег на двары. Чародка варон кружылася над дрэвамі. Лявон Цмыг апусціўся чамусьці на адно калена проста ў снег, цэліўся некуды з вінтоўкі. Вось руля вінтоўкі і Лявонава плячо рэзка ўздрыгнулі, калюча бліснула полымя. Лявон усхапіўся і цяжка пабег да флігеля. На ягонай галаве не было шапкі. Вінтоўка, якую ён трымаў за почапку, валачылася па снезе.

— Хавайся, Матруна! Бандыты! — крыкнуў Лявон, падбегшы да акна, і раптам паваліўся. На другім баку двара ўжо крута заварочваліся сані. З іх саскоквалі людзі.

Матруна не адчула страху. Толькі сум, невядомы раней, востры і дужа халодны сум, на імгненне працяў сэрца. Так шкода стала чагосьці, што аж слёзы закіпелі на вачах. Яна спачатку хуценька залезла на печ, схавалася за комінам. «Калі будуць страляць, кулі адскочуць ад коміна»,— падумалася ёй. Але праз хвіліну яна была ўжо каля дзвярэй. Зачыніла дзверы на зашчэпку, азірнулася. На падлозе каля печы ляжала сякера, якой яна зусім нядаўна секла дровы. Матруна ўзяла ў рукі сякеру. Цяжкія хуткія крокі грымелі ўжо зусім побач. За сцяной застагнаў Лявон Цмыг.

— Ага,— дружна засмяяліся там,— прыпякло і табе, тхор бальшавіцкі!

Пачуліся ўдары па мяккаму, па жывому. Матруна прыхілілася шчакой да вушака, сціскаючы сякеру, і раптам нешта страпянулася ў яе пад сэрцам. Так, калі выцягваеш з рэчкі таптуху, трапечацца, б'ецца яшчэ нябачная ў вадзе рыба. Яна прыслухалася да сябе самой і ўсё зразумела. І яна зрабілася моцнай і смелай. «А Сцяпан яшчэ не ведае, што ў нас будзе дзіця»,— падумала яна. Гэта была яе апошняя думка, бо ў тое ж імгненне ад страшнага ўдару лопнула жалезная зашчэпка, дзверы, пранізліва рыпнуўшы, адчыніліся. На парозе стаяў

Баўтрук, худы, валасаты, з белым, як у мерцвяка, тварам. Ён, выскаліўшы зубы, крыкнуў:

— Падла! — Вырваў у Матруны з рук сякеру, наматаў на левую руку жаночыя валасы. Яна да касцей раздзірала яму шчокі. Баўтрук за валасы падцягнуў яе да стала, прыціснуў яе галаву да жоўтых дошак, што пахлі хлебам, цяжка ўдарыў сякерай. Потым ён, нібы апёкшыся, махаў рукой, усё стараўся скінуць з рукі страшны крывавы груз. Але мокрыя ад крыві валасы блыталіся ў пальцах, прыліпалі да іх.

А побач за сцяной, у тым пакойчыку флігеля, дзе жыў Гаршкоў з Матрунай, хрыпеў, выкочваючы вочы, Лявон Цмыг. Яго падвесілі пад бэльку галавой уніз, уваткнулі паміж пальцамі босых ног лучыну, запалілі.

— Дзе золата? Золата куды схавалі? — прыжмурваючы вочы, ціха пытаўся ў яго маленькі, як хлапчук, але шыракаплечы запольскі млынар Аўдзей Кардымон. Ад страшнага крыку ў Лявона, здавалася, разарвецца рот.

Праз якой паўгадзіны сані ўжо імчалі ў бок лесу па снежным цаліку. Храплі коні. З-пад палазоў блакітнымі іскрамі вылятаў снег. Весела скакала полымя па сухіх бярвеннях флігеля. Маёнтак не гарэў, бо першы яго паверх быў каменны, а другі драўляны, не паспелі абліць газай.

Антон даведаўся пра пажар і налёт бандытаў толькі назаўтра. Адразу ж прыйшоў у маёнтак і на месцы флігеля ўбачыў чорныя вуглі. На іх страшна было глядзець. Ішоў лёгкі снег, быццам нехта раскочваў па зямлі белыя палатняныя сувоі, каб схаваць папялішча. На двары маёнтка таўклося многа народу. Нават сем'ямі прыходзілі людзі, каб паглядзець. Людвік Перукоўскі прыйшоў з унукам і нявесткай. Малы пакруціўся каля папялішча, потым раптам спытаўся:

— Дзед, а дзед, калі ты памрэш, дзе мы цябе закапаем?

Хадосця цяжкой рукой уляпіла яму па мяккім месцы.

— Хіба так можна казаць, ірад ты няшчасны?

Але Людвік усміхнуўся.

— Усіх людзей на могілках закопваюць, Васілька. Ведаеш вялікі дубовы крыж, што на самым рагу могілак стаіць каля дарогі на Запольцы? Там мяне і закапаеце. Пад тым крыжам мой бацька ляжыць.

Ён гаварыў гэта спакойна, дзелавіта. Убачыў Антона, спахмурнеў.

— Іч, Антон, якія справы. Людзей паляць. Як сказана ў пісанні: «І пойдзе брат на брата».

Антон нічога яму не адказаў. Не хацелася гаварыць. Пахла паленым чалавечым мясам. Антон глядзеў на чорныя наздраватыя галавешкі, на бліскучую алюмініевую лыжку, што скурчылася ад агню, і думаў: «Калі я прыйшоў сюды, першая мяне сустрэла Матруна. І вось яе ўжо няма. І Лявона Цмыга няма.

І хто ведае, што будзе наперадзе. Можа, і маёнтак згарыць і тая прыгожая голая жанчына на карціне. Няўжо нельга без гэтага? Без агню? Без крыві?»

Ён паглядзеў на неба. Яно было маўклівае, раўнадушнае. У такога неба заўсёды хопіць снегоў і дажджоў на ўсе зямныя пажары.

Каля маёнтка Мішка Сырамалот строіў свой атрад. Сцяпан Гаршкоў стаяў побач, і ў яго былі нейкія мёртвыя вочы, быццам іх засыпала халодным попелам з таго папялішча. Бацюта, згорбіўшыся, засунуўшы рукі ў кішэні ватоўкі, прайшоўся ўздоўж строю. Потым падышоў да Мішкі, спытаўся:

— Чаму Матруну адну пакінулі?

— Яна была не адна. З Лявонам Цмыгам. А ў Лявона была вінтоўка. І не думалі мы, Андрэй, што гэтыя гады днём палезуць.

— Не думалі... Біцца і ўдзень і ўночы будзем.— Бацюта гаварыў гэта і глядзеў на Гаршкова, у якога па шчоках перакочваліся каменныя жаўлакі.

Пасля абеду ў будынку былой валасной управы засядаў рэўком. Падняўся з-за стала Яўхім Сцепанюга, сказаў, сціснуўшы ў руцэ рудую аблезлую шапку:

— Дзвюх нашых душ ужо няма, хлопцы. Няўжо будзем чакаць, пакуль прыйдуць, як ваўкі з лесу, і ўсіх нас перадушаць? Трэба, Андрэй,— ён павярнуўся да Бацюты,— зброі ў горадзе папрасіць. Мала ў нас зброі. І яшчэ я так думаю: трэба сабраць сілу і прачасаць лес. Акрамя, як у лесе, няма ім дзе хавацца.

— У вёсках могуць хавацца. У радні,— асцярожна пакратаў сваю параненую сківіцу Рыгор Крыванос.

— Значыць, трэба трымаць на мушцы і лес, і вёску,— дадаў Бацюта.

Мінуў амаль тыдзень, як згарэў флігель, а ўсе хадзілі разгубленыя, прыгнечаныя, нават гаварылі неяк сцішана, не на поўны голас. А каб зноў пачаць рэпетыцыі, не было і гаворкі. Не да іх зараз, калі на месцы флігеля чорная абсмаленая лапіна, калі няма Матруны.

Антон пачаў адчуваць, што ён лішні. Раней кожны вечар спяшаўся ў маёнтак, чытаў хлопцам кніжкі, рабіў шчыты і латы, бо хацелі ж развучваць п'есу пра Спартака. Мішка, які меўся быць Спартаком, памагаў яму, нават словы, якія павінен быў гаварыць Спартак,

разам прыдумвалі. А цяпер Мішка, сустрэўшы яго, адвёў убок вочы, сказаў:

— Пачакаць, брат, трэба...— І былі ў яго ў голасе няўпэўненасць і туга.

Але Антон не мог ужо без маёнтка, без хлопцаў. Ён баяўся адзіноты, горкі смак якой паспеў-такі зведаць. Пасля выпадку з дубком хлопцы пачалі цурацца яго. Быццам ён быў нейкі хворы ці злодзей. Іван Міхейчык і сёння глядзіць на яго, як на ворага. Ну ды гэта Іван. Лёўка Шэрман з кузні кажа пра такіх людзей, што заўсёды перабіраюць меру ў добрым і дрэнным: калі ўжо есці сала, дык каб аж па барадзе цякло. У Івана аж па барадзе цячэ злосць на яго, Антона. Але астатнія хлопцы даўно прызналі яго за свайго, і вось цяпер усё гэта зноў можна страціць.

Антон пайшоў да Сцяпана Гаршкова, папрасіў:

— Дай мне якую-небудзь работу.

— Работу? — Сцяпан глянуў на яго чорнымі сумнымі вачамі.— Пойдзеш лес пілаваць?

Кожны дзень, ледзь пачынала на ўсходзе чырванець неба, яны ехалі на карах у лес. Там валілі сосны, церабілі іх і везлі ў маёнтак. Антон абсівераў, прапах дымам і смалой, апаліў ля кастроў бровы. За дзень цела налівалася цяжкой санлівай стомай. Балелі рукі і плечы. Толькі ён не заўважаў гэтага. Ён быў разам з усімі, рабіў тое, што рабілі ўсе.

У лес бралі з сабой вінтоўкі. Нават калі пілавалі сасну, вінтоўкі віселі за плячыма. Але ніхто не спрабаваў напасці. Па ўсёй воласці было пакуль што спакойна.

Заставалася яшчэ нарыхтаваць з дзесятак кубоў. Памацнелі маразы. Ад ветру нямелі шчокі. Аднойчы Антон адбягаўся ад сасны, якая чамусьці пачала падаць не ў той бок, куды чакалі, і вывіхнуў нагу. Ледзь не плачучы, ён сеў на пень і глядзеў, як хлопцы працуюць без яго. Хлопцы спілавалі тры тоўстыя сасны, сцягнулі ў вялізны лоўж абсечанае голле, запалілі яго. Чырвонае полымя шуганула пад неба. Снег сіпеў, чарнеў, ператвараўся ў лёгкую пару. Хлопцы раздурэліся каля вогнішча. Кідаліся снежкамі, бараліся. Мікіта Сцепанюга нават спрабаваў скакаць цераз полымя, але Мішка строга сказаў яму:

— Штаны спаліш. А што ты будзеш за работнік без штаноў?

Антон бачыў, што Мішка і сам не супраць скокнуць, толькі пасада ягоная не дазваляе зрабіць гэта.

Між тым хлопцы паскідалі кажухі, рукаўкі, галёкалі, аж пошчак ішоў па лесе. Коні палахліва і здзіўлена глядзелі на сваіх гаспадароў. У іх сумных цёмных вачах адбівалася языкатае полымя.

— Збіраемся, хлопцы. Хопіць дурэць.— Сцяпан Гаршкоў заткнуў за пояс сякеру.

— Давайце закурым на дарогу,— прапанаваў Васіль Гаранок. Ён накінуў на плечы кажух, пачаў шукаць у кішэнях табаку.

— Аддай кажух,— раптам, пабялеўшы, сказаў Рыгор Заяц.— Ты не свой узяў. Твой жа не лаплены.

— І ў тваім газета ёсць. З тваёй газеткі скруцім,— засмяяўся Васіль. Ён чамусьці дужа доўга не вымаў з кішэні руку. Усе ўбачылі, як ад хвалявання ў Рыгора аж запалі шчокі і пацямнелі воспіны. Ён калаціўся, як у ліхаманцы.

— Газеты шкадуеш, ці што? Ды ў мяне іх цэлы пук, я табе аддам.— Васіль дастаў нарэшце нешта з кішэні. Але гэта была не газета.

— Паглядзі, Сцяпан, што тут,— разгублена сказаў Гаранок і чамусьці пачаў адсоўвацца ад Рыгора бліжэй да вогнішча.

Паперу ўзяў, усё яшчэ ўсміхаючыся, Мішка Сырамалот, павольна прачытаў:

«Сучкі, выбірайцеся адсюль, пакуль не позна. Усіх парэжам».

Колькі імгненняў стаяла цішыня. Антон нават падумаў, што Мішка жартуе. Але Мішка закусіў губу, глянуў на ўсіх пацямнелымі вачыма:

— І нож унізе намаляваны. Точна такі, як тады.

Тут Рыгор Заяц скокнуў, як звер, у бок лесу. Гаршкоў падставіў яму нагу, і ён урэзаўся носам у снег. Яму вязалі вяроўкай рукі, а ён сядзеў на снезе, часта дыхаў, і вочы яго жмурыліся, а з разбітага носа тоненькім ручайком цякла кроў.

— Эх ты, падла,— падышоў да яго Мішка.— А я з табой спаў побач, як ты хварэў, мёду табе прыносіў. Помніш, у гаршчочку гліняным прыносіў?

Заяц маўчаў і панура глядзеў на вогнішча. Хлопцы апраналі кажухі, агледаліся па баках. Сцяпан Гаршкоў нават не зірнуў на Зайца, пайшоў да свайго каня.

— Мікіта Сцепанюга і Іван Міхейчык,— паправіў за плячом вінтоўку Мішка,— гэтага гада печанага сёння ж у Ігумен даставіце.

Назад ехалі моўчкі. У Антона вельмі балела нага. Ён сядзеў на халодным мулкім бервяне, сціскаў у руках лейцы. Нейкі востры сучок не даваў яму жыцця, упіваўся ў цела. Нарэшце Антон не вытрымаў, спыніў каня і сякерай ссек, прыгладзіў гэты праклята сучок.

«Ты глядзі, як яно бывае,— жахаўся ў думках Антон.— Ціхі хлопец, добры, свой хлопец, а затаіўся, як чорная вужака. Гэта ж ён і тую паперыну на дзверы флігеля наляпіў. І на Матруну сябрукоў сваіх навёў, калі нікога побач не было».

Рыгора Зайца на фурманцы павезлі ў Ігумен. Васіль Гаранок усё не мог супакоіцца, гаварыў:

— І як я кажух яго ўзяў? Мой жа бялейшы...

Хлопцы маўчалі. Дужа нечакана ўсё адбылося. Яны чакалі ворага з лесу, а ён жыў сярод іх, ездзіў з імі ў лес, з вінтоўкай у руках ахоўваў маёнтак. І аказаўся сваім жа чмялёўскім хлопцам, не з багацеяў-багатыроў, а з чорных сялян-рольнікаў.

У той дзень Антон, накульгваючы, ішоў дадому і думаў:

«Нешта ж пагнала Зайца да тых бандытаў. А Бацюта гаворыць, што ўсе бednякі за бальшавікоў, што ўсе яны адна сям'я. А вось і ў сям'і завёўся такі, што не раскусіш яго адразу. Чым яго купілі? Хлебам? Салам? Але ж і ў маёнтку хлеб і сала ёсць. І ложак цёплы ёсць, не тое што ў лесе. Не. Відаць, не ўсё так проста. Ёсць, відаць, парасяткі беленькія, чорненькія, а ёсць і рабенькія, паласаценькія».

Ён асцярожна ступаў на сваю хворую нагу, стараўся не думаць болей пра ўсё гэта, але думкі зноў і зноў вярталі яго ў лес, да соснаў, што глуха падалі на мёрзлую зямлю, да вогнішча, каля якога з белым мёртвым тварам проста на снезе сядзеў Рыгор Заяц.

Усё мацней ціснулі маразы. Заліўны луг ля Гразёўкі замерз, пакрыўся тоўстым зеленаватым лёдам. Маладзейшыя чмялёўскія хлопцы наладзілі там калаўрот. Убілі ў лёд моцны дубовы кругляк, надзелі на яго старое кола з фурманкі, да кола прымацавалі доўгую яловую жэрдку. Дротам, што ўкралі ў кузні, прывязалі да гэтай жэрдкі вялікія драўляныя санкі, якія Яўхім Сцепанюга выкінуў са свайго гумна. Цяпер толькі заставалася круціць кола, і санкі лёгка лёталі па крузе, аж вецер свістаў у вушах.

Пад вечар Антон выйшаў са свайго двара, кульгаючы, даплёўся да луга. На лёд не пайшоў, стаяў на засыпанай снегам купіне, глядзеў, як катаюцца хлопцы на калаўроце. Адтуль даносіліся смех, крыкі. Палазы санак рэзалі мяккі лугавы лёд, аж віск ішоў, быццам нечым жалезным скраблі па шкле. Проста на лёдзе непадалёку ад калаўрота хлопцы расклалі цяпельца. У вечаровай імгле лёд каля яго быў срабрыста-белы, люстраны. Яно адбівалася ў лёдзе: здавалася, гараць два цяпельцы — адно цягнецца сваімі чырвонымі касмылямі ўверх, другое — уніз.

«От, дзівакі,— думаў Антон,— лёд жа трэсне...» Яму падабалася стаяць збоку, глядзець на шумную валтузню, лічыць сябе ўжо дарослым, падсмейвацца над дзіцячай радасцю гэтых малалеткаў і ў той жа час зайздросціць ім. Ён уяўляў, як сам бы сеў на санкі. Учапіўся б рукамі ў мёрзлыя, зацярушаныя сенам дошкі, упёрся б нагамі ў палазы.— Трымайся! — закрычалі б хлопцы і з усяе сілы

грудзьмі налеглі на бярозавыя колікі, якімі раскручваецца кола. Потым бы соладка і трывожна сціснулася сэрца, сцяна бліскучага лёду і марознага ветру ўстала б перад вачамі. І ўсё! І ты ўжо не на зямлі. Ты недзе паміж зямлёю і небам, цела тваё лёгкае і пругкае. І толькі аднекуль збоку, нібы з іншага свету, даносяцца галасы сяброў.

Антон цяжка ўздыхнуў, рукою асцярожна пакратаў калена, што ўсё яшчэ балела, і раптам уздрыгнуў, убачыў: да калаўрота падышла Яніна Міхейчык, а з ёю Тацяна Лапыцька і Франя Перуноўская. Дзяўчаты весела смяяліся, жартавалі з хлопцамі. Потым пачалі частаваць хлопцаў гарбузікамі, а самі прасілі:

— Пакатайце нас...

Хлопцы ахвотна згадзіліся, пасміхаючыся, узяліся за колікі. «Ну зараз толькі трымайцеся, дзяўчаткі,— падумаў Антон.— Проста так вас хлопцы з санак не выпусцяць...» Дзяўчаты, відаць, і самі гэта разумелі, але садзіліся смела.

Антон, не адрываючыся, усё глядзеў і глядзеў на Яніну. Якая яна прыгожая! У белым кароткім кажушку, у белай хустцы. Быццам белы матылёк апусціўся на зеленавата-сіні лёд.

Яніна заўважыла яго, і нават здалёк ён убачыў, як успыхнулі яе шчокі.

— Паехалі! — закрычалі хлопцы. Санкі павольна крануліся з месца, павольна праплылі круг, другі, пачалі ўсё набіраць і набіраць хуткасць, і вось ужо не відно твараў дзяўчат, толькі з шумам і свістам носяцца па лёдзе санкі, нават не ўсочыш за імі вачамі. А хлопцы ўсё мацней налягаюць на колікі, што прасаджаны ў спіцы кола, і тыя ажно трашчаць.

— Ой, хлопчыкі, хопіць,— з марозным ветрам данёсся да Антона голас Франі Перуноўскай.

Хлопцы быццам не пачулі. Яшчэ хутчэй закруцілася рыпучае кола. Санкі ўжо, здавалася, узняліся над лёдам у паветра.

— Хопіць, жарабкі! — крыкнула і Тацяна Лапыцька.

Толькі Яніна маўчала.

— Не ўсе папрасіліся. Хай і Яніна папросіцца, тады перастанем,— засмяяліся хлопцы.

«Яна не папросіцца»,— падумаў Антон. Ад гэтай думкі яму зрабілася цёпла і весела.

— Скакайма, дзеўкі! — крыкнула Яніна, і не паспеў ніхто апамятацца, як яна, раскінуўшы рукі, каб моцна не стукнуцца аб лёд, скокнула з санак. Яе панесла па лёдзе проста да той купіны, дзе стаяў Антон. Яна быццам плыла, шырока раскінуўшы рукі. Усё бліжэй і бліжэй была яна да Антона, і ён бачыў яе здзіўленыя спалоханыя

вочы, бачыў трапяткую маршчынку, што перасекла ёй пераноссе і злучыла бровы ў адно чорнае прыгожае брыво. Ён сагнуўся і падхапіў яе рукамі, каб яна не ўдарылася галавой аб купіну.

— Ну і смелая ты,— толькі і сказаў Антон.

Яніна часта дыхала, усміхалася яму. Ён адчуваў, як пад яго рукой б'ецца яе сэрца. І на нейкае імгненне, нібы лёд ад гарачага цяпельца, растала яго сарамлівасць. Ён глянуў ёй у вочы і ціха сказаў:

— Прыйдзі сёння пасля вячэры да нашага гумна. Адразу ж яму стала сорамна, ён пачырванеў, але словы былі ўжо сказаны.

«Прыйдзе ці не прыйдзе?» — думаў Антон, ціха выходзячы ў гародчык.

— Куды ты?! — крыкнула наўздагон маці.

— Я зараз прыйду, мама.

З гародчыка ён выйшаў на сваю палосу, у канцы якой чарнелася старое прыземістае гумно. Зямля была цвёрдая, гулкая. Снегу тут, у полі, было мала. Яго здзьмувала ветрам. Мякка і свежа бялеў ён ў лагчынах, на лузе. Халодна-сіні, праменны месячык высока стаяў над снежнай зямлёй, пасярод чыстага неба. Столькі было ў ім адзіноты, няўтульнасці, што Антон запаволіў крок.

Месячык быў падобны на адзінокага сабаку, якога кінулі гаспадары, які сядзіць адзін на ланцугу і не ведае, што яму рабіць.

Каля гумна было зацішна, пахла старой мякінай, зернем. Вецер ціхенька гуў у сухім дзядоўніку, што густа рос на лапіку травяністай улетку зямлі, якая была якраз перад варотамі і якую ніколі не ўздзіралі плугам. Антон прысланіўся плячамі да сцяны. Пахла паленым дрэвам. Мінулай вясной нехта хацеў падпаліць гумно, але, на шчасце, у тую ноч усчаўся дождж, і полымя толькі лізнула верхнія бярвенні. Гэтыя бярвенні былі зараз чорныя, патрэсканыя.

Антон глядзеў на поле, на маладыя сады, што ад хатаў збягалі да лугу. Ведалі чмялёўцы смак у яблыках — антонаўкі, папяроўкі, цыганы, шклянкоўкі раслі амаль у кожнага гаспадара. Але, вядома, не пра яблыкі думаў зараз Антон. З саду, што глуха шумеў непадалёку, павінна была выйсці Яніна.

«Прыйдзе ці не прыйдзе?» — які ўжо раз пытаўся ён у сябе і да болю ў вачах углядаўся ў пусты цёмны сад. Цені ад голых галінаў ляжалі на снезе пад дрэвамі, здавалася, гэта мноства вужоў сплялося ў клубкі.

Яна прыйшла — ціхая, бледная, з бліскучымі вачамі. Стала ў некалькі кроках ад Антона, глядзела на яго, чакаючы.

— Там вецер дзьме. Ідзі ў зацішак,— шапнуў ён, і ягоны голас уздрыгнуў. І калі яна ступіла бліжэй, яму пераняло дыханне, зрабілася

горача сэрцу: ён абняў яе, прытуліў да сябе, няўмела пацалаваў у халодную шчаку. Шчака была мяккая, гладкая, нібы шаўковая.

— Антонка,— шапнула Яніна і схавала галаву ў яго на грудзях. І гэтае адзінае слова сказала яму многае. Ён цалаваў яе ў вусны, у вочы і сваімі вуснамі адчуваў начны халадок на яе вейках.

— Калючы,— хавала яна ад яго свой твар, потым паглядзела знізу ўверх, сказала: — У цябе, Антонка, валасы жоўтыя, як спелае жыта...

Ён маўчаў. У шчасці людзям звычайна непатрэбна шмат слоў.

Яны стаялі каля гумна, што аджывала свой век, а над імі, у страшнай недасяжнай вышыні, плылі зоркі. Там, у небе, усё было такое мудрае, такое незразумелае. Зоркі маглі быць чыстымі душамі праведнікаў, якіх бог забраў у сваё царства; маглі быць залатымі свечкамі, якія запальваюць анёлы, каб асвятляць людзям начныя шляхі. Чым бы ні былі зоркі, яны глядзелі на іх з-пад саламянай страхі з надзеяй.

Аціхаў вецер, і да раніцы змаўкалі сады. Снег рабіўся яшчэ бялейшы, серабрыўся, зіхацеў тысячамі бліскучых марозных іголак. У глыбіні садоў варушыліся нейкія мяккія празрыстыя цені. Вось зусім непадалёку, каля камля маладзенькай яблыні, нібы з-пад зямлі, вырас невысокі слупок.

— Зайцы,— шапнуў Антон.— Прыйшлі на вячэру...

Колькі хвілін ён стаяў моўчкі, потым, правальваючыся ў снег, скочыў, замахаў рукамі:

— Ату! Ату!

Зайцоў нібы здзьмула ветрам. А ён усё крычаў, усё махаў рукамі і адчуваў маладую сілу ва ўсім целе.

Яны яшчэ доўга цалаваліся каля хаты Міхейчыкаў, потым Яніна пайшла дадому, а Антон, як п'яны, пацягнуўся ў канец вёскі, у поле. У яго звінела ў душы, ён цёр снегам лоб і шчокі, еў халодны калючы снег, потым сеў на аледзянелы Балуй, паглядзеў на неба і засмяяўся свайму шчасцю.

X

Новае жыццё пачалося ў Антона. Знешне ўсё, вядома, заставалася па-ранейшаму — ён рабіў на бацькавай гаспадарцы: сек дровы, насіў сена карове і замешваў ёй пойла, некалькі разоў ездзіў у млын, разам з бацькам рамантаваў пад паветкай сані, часаў воўну. Амаль кожны вечар ён хадзіў у маёнтак, там сустракаўся з хлопцамі, памагаў ім вазіць бярвенні для флігеля. Тыя ж самыя людзі і хаты акружалі яго, падаў з неба і рыпеў пад нагамі такі ж, як кожную зіму, снег. Але адбылося тое, што павінна было некалі адбыцца: ён пакахаў. Быццам

упала нябачная фіранка, якая засланяла яму вочы, і аказалася, што столькі фарбаў не заўважаў ён раней, столькі радасцей было ў жыцці, аб якіх ён і не здагадваўся.

Яны сустракаліся з Янінай каля гумна. На вечарынкі не хадзілі, бо чужыя вочы маглі толькі перашкодзіць ім. У цяплейшыя ночы прастойвалі амаль да раніцы.

Яніна была шчаслівая, ласкавая, пакорлівая.

Некалькі разоў запар сніў Антон, быццам бы ён плавае на воблаку. Воблака белае, мяккае, як воўна. Сонца прасвечвае яго ўглыб, напаўняе цяплом. Антон ляжаў на воблаку, нібы на кажусе; і яно ўгіналася пад ім, дыхала, трапятала; і ён па самыя плечы правальваўся ў малочна-белы, густы туман. Але страху не было. Ён лёгка плыў над зямлёй і бачыў унізе вёскі, рэкі, зялёныя палі.

Аднойчы Яніна прыйшла да гумна нечым дужа ўсхваляваная, доўга маўчала. Потым глянула на Антона:

— Ведаеш, што я скажу табе, Антонка... Ці праўда гэта ці не, а толькі Іван наш казаў, што ваша Дзіна да Баўтрука ў лес хадзіла.

— Куды хадзіла? — не зразумеў Антон.

— У лес да Баўтрука. Есці насіла. Гэта Рыгор Заяц сказаў на допыце ў Ігумне.

Антон некалькі імгненняў глядзеў на Яніну, ніяк не мог уцяміць, пра што яна гаворыць. «Можа, яна жартуе?» — падумалася яму. Ды не — глядзіць сур'ёзна, і ў вачах разгубленасць і трывога.

— А хто нашай Дзіне Баўтрук? — быццам сам у сябе спытаўся ён: — Кум? Сват? Чаго яна пойдзе да яго ў лес?

— Не ведаю.— Яніна прыкусіла губу.— Так Рыгор Заяц у Ігумне сказаў...

— Прышчамілі яму хвост — вось ён і ляпнуў абы-што.— Антон адчуў, як начны мароз шчыпае яго праз кажух.

— А флігель Баўтрук спаліў. Гэта ўжо точна,— ціха сказала Яніна і прыціснулася спінаю да сцяны, бо ёй успомніліся Матрунiны вочы, і як гаварыла з ёй Матруна, і як палівала з кубка ваду на рукі.

Яны замоўклі. Марозная ноч плыла над зямлёй, чаплялася ледзянымі нізкімі зоркамі за лес, за сады, за хаты. Было чутно ў цішыні, як трашчыць ад марозу дрэва. Сумна вылі ў вёсцы сабакі.

— Пойдзем дадому,— пацягнула Яніна Антона за рукаў.

Дома Антон залез на цёплыя палаткі, але доўга не мог заснуць. «Ці праўду сказала Яніна?» — думаў ён. Яму хацелася, каб гэта была няпраўда, каб усё гэта Заяц наплёў са страху, са злосці. «Заўтра прачнуся, а ўсё гэта выдумка»,— суцяшаў ён сам сябе і слухаў дыханне сястры, якая спала разам з маці на ложку.

Назаўтра, ледзь паснедаўшы, ён пайшоў у маёнтак. Хлопцы запрагалі коней, каб ехаць у лес. З конскіх ноздраў клубілася пара — здавалася, коні кураць.

— Здароў, Сцяпан,— падаў Антон руку Гаршкову, а сам увесь спружыніўся: Гаршкоў такі чалавек, калі што ёсць, выкладзе як на духу. Але Гаршкоў нічога яму не сказаў, толькі моцна пацiснуў руку.

«Дзякаваць богу,— пэўна, усё гэта хлусня»,— пацяплела ў Антона на сэрцы. Ён ужо смела падышоў да гурту хлопцаў.

— Можа, у лес паедзеш? — спытаўся ў яго Мішка Сырамалот, які падперазаўся пілою, а на плячы трымаў сякеру.

— Нага ў мяне яшчэ баліць,— сказаў Антон.— Я лепей, як прывязеце бярвенні, акарыць і абчасаць іх памагу...

— І то добра,— усміхнуўся Мішка і накіраваўся да сваіх саней. Хлопцы рушылі за ім. Твары ва ўсіх былі трохі сонныя, ружовыя і лагодныя.

«Збрахаў Заяц,— зусім павесялеў Антон, але раптам, як на калючы дрот, наткнуўся на позірк Івана Міхейчыка. І зноў трывогай кальнула ў сэрца.— Іван злы на мяне,— супакойваў ён сам сябе,.— таму і глядзіць спадылба...» І ўсё-ткі трывога не праходзіла.

Ён трохі яшчэ патаптаўся каля маёнтка, паглядзеў, як бягуць па белым полі сані, як блішчаць пад халодным сонцам пілы і сякеры, потым ціха паплёўся ў вёску. У сваю хату ён не зайшоў наўмысна — баяўся ўбачыць Дзініны вочы і аб усім здагадацца. «Усё будзе добра»,— білася ў галаве настойлівая думка, але ён ужо разумеў, што жыццё не заўсёды супадае з добрымі пажаданнямі людзей.

Каля хаты Лаўрэна Лапыцькі Антону падалося, што нехта яго кліча. Ён спыніўся, азірнуўся па баках. Вуліца была пустая. Толькі сухі сняжок узвіваўся каля платоў. Нарэшце Антон убачыў, што гэта Лаўрэн, стоячы ў хаце ля акна, махае рукой, кліча яго. Антон зайшоў у хату.

Лаўрэн адразу ж марцануў ад акна на печ, толькі босыя пяткі мільганулі, сказаў, ужо з печы:

— Спяшаешся куды-небудзь? Пабудзь трошкі ў мяне.

У яго голасе былі сум і просьба. Антон сеў на лаву каля печы, спінай адчуў, што печ халодная,— пэўна, не палілі ў ёй з тыдзень.

— Мішка мой усё ў лес кожны дзень ездзіць, а я адзін у хаце, як кот на чарэні,— сказаў Лаўрэн і пачаў кашляць. Адкашляўшыся, уздыхнуў: — Памру я скора, хлопец. Смерць падступае, душыць. І не ўбачыў, як жыццё праляцела.

— Кіньце вы, дзядзька, пра смерць ды пра смерць гаварыць,— узлаваўся Антон.— Адна ў вас музыка заўсёды.

— Эхе-хе, хлопец.— Лаўрэн худой жоўтай рукой памацаў у пячурцы, што была ў комінку, дастаў торбачку з табакай. Потым насыпаў табакі ў газеціну, і рукі яго дрыжалі: зачэкаў крэсівам аб крэмень. Успыхнула слабая маленькая іскра, і ён пачаў раздзьмухваць трут. Нарэшце закурыў, шумна выдыхнуў дым:

— Смерці я не баюся. Хачу хутчэй да дзетак, да Ганны. Як яны там без мяне?

— Жаніліся б вы, дзядзька,— сказаў Антон.— Узялі б Агапку Шамалёву. Капуста гарачая на стале стаяла б. І Агапка нічога кабеціна — не замерзлі б з ёю.

Лаўрэн засмяяўся. Смех у яго быў нейкі дзіўны — здавалася, квохча курыца:

— Ну і ўпаліў ты! Жаніся... Ды ў мяне во кажух не хапае сілы абняць.— Ён тыцнуў рукой з папяросай у кажух, на якім ляжаў.

— А вясной зямлю будуць дзяліць. Вам далі б дзесяціны дзве,— сказаў сваё Антон.

— Мне тры аршыны хопіць. Толькі каб у жоўценькім пясочку...

— Цьфу на вашы словы.— Антон устаў, аж лава рыпнула, а пад печчу шуганулі ва ўсе бакі куры. «Няўжо я буду такі, як пастарэю? — падумалася Антону, Ён падышоў да акна, глянуў на вуліцу і зноў успомніў сястру.— Чаго я сяджу з гэтым мерцвяком? — апякла яго злосць.— Жывых трэба ратаваць...»

Лаўрэн сумна глядзеў з печы, сівы, белы, як бяроза.

— Я пабягу, дзядзька.— Антон глыбей насунуў на галаву шапку.— Сустрэну Мішку Сырамалота, скажу яму, каб вас з сабой у лес браў. Там некалі будзе пра могілкі думаць.

Ён грукнуў дзвярыма, хуценька пайшоў па вуліцы. Нікога нідзе не было відно, і ён павярнуў дадому. Каля печы сядзелі маці з Дзінай, скублі курынае пер'е, кідалі яго ў рэшата. Шэры пух лётаў па хаце.

— Дзіна, хадзем у сенцы,— сказаў сястры Антон.

Маці здзіўлена паглядзела на яго. Твар у Дзіны пачаў бялець.

— Ты насіла Баўтруку есці ў лес? — як толькі пераступілі цераз парог, спытаўся Антон і прымусіў сябе глянуць сястры ў вочы.

— А братачка мой, я ж нічога не ведала. Ён жа паміраў там у яме.— Дзіна закрыла рукамі твар і паваліласа грудзьмі на куфар, што стаяў каля дзвярэй. Яе плечы закалаціліся, хустка збілася набок. Антону быццам сыпнуў хто халоднага снегу проста на сэрца.

— Ды ты не плач,— пачаў гладзіць ён сестрыны плечы.— Я нічога... Я так... даведацца...

Ён бачыў, як плача, як пакутуе сястра, і не мог ёй нічым памагчы, і гэта было страшней за ўсё. «Вядома ж, яна не вінавата,— адразу сам

сабе падумаў ён, каб ужо, хоць рэж яго, ніколі не адступіцца ад такой думкі.— У яе добрае сэрца. Не бандыту яна памагала, а чалавеку. А гэта зусім іншая рэч!»

Ён, як мог, супакойваў Дзіну, але тая была нібы ў гарачцы.

— Матруну Гаршкову з Цмыгам спалілі... За мяне спалілі... А я ж нічога не ведала, не думала, што ён зверам застанецца. Мяне самую спаліць жыўцом трэба.

З хаты выбегла спалоханая маці, несла ў руках кубак з малаком, плачучы прасіла:

— Папі, Дзіначка, пастаялкі. Ды плюнь на ўсё. Лягчэй будзе...— Матчына рука дрыжала, і малако разлівалася на падлогу.

Нарэшце Дзіна перастала плакаць, разам з маці зноў пачала скубці пер'е.

— Падушачку табе зробім да вяселля,— ласкава, неяк вінавата, гаварыла Аўдоля і глядзела на дачку. Антон выйшаў на вуліцу. Павольны снег кружыўся, здавалася, стаяў у паветры. Быццам яму не хапала сіл упасці на зямлю. Над камінамі хат лена калыхаліся хвасты сіняга дыму. Некуды ехаў на санях Кандрат Гаранок — плечы і галава абсыпаны снегам. Варона села на ліпу, скурчылася і нібы заснула там. Антон стаяў каля варот, убачыў — з другога канца вуліцы да яго ідуць Іван Міхейчык і Мішка Сырамалот. «Нешта ж рана яны з лесу вярнуліся»,— падумаў ён.

Яны параўняліся з Антонам, і Мішка спытаўся:

— Дзіна дома?

— Навошта яна вам? — Антон спахмурнеў, стаяў у варотах, загарадзіўшы ім дарогу ў хату.

— Мы да Дзіны прыйшлі, а не да цябе,— спрабаваў адціснуць яго плечуком Іван Міхайчык, але Антон таўхнуў яго рукой у грудзі.

— Не кіпяціся, Антон,— лагодна загаварыў Мішка.— Дзіна, кажуць, у лес хадзіла... Можа, яна шчэ што ведае пра банду.

— Нічога яна не ведае. Яна хворая. І вас я не пушчу.— Антон пачаў закрываць вароты на завалу. Злосць віравала ў ім, аж снег здаваўся чорным.

— Нічога не ведае, кажаш? — Іван захліпнуўся, паблянеў ад гневу, і над брывом запалымнеў след ад капыта.— Усе вы, Радзімовічы, такія... Яна з тым Баўтруком даўно пад плотам пажанілася, а не ведае...

Ён не скончыў, таму што Антон стукнуў яго кулаком проста ў твар. Яны схапіліся загрудкі і пакаціліся па снезе.

— Заб'ю... гад,— хрыпеў Антон і стараўся ўдарыць Івана нагой. Мішка расцягваў іх, але яны зноў і зноў малацілі адзін аднаго

кулакамі, і ў гэты час на двор выбегла Дзіна. Валасы распушчаныя, твар бледны.

— Хлопчыкі, не біцеся! Не трэба! — крыкнула яна і павярнулася да Мішкі.— Пойдзем хутчэй да Андрэя Бацюты. Усё, што толькі ведаю, скажу.

У Антона балела губа. Ён узяў прыгаршчамі снег і пачаў яго есці. Кружылася ў галаве. Іван заціскаў рукой нос, з якога цяклі па губах яркія струменьчыкі крыві.

— Эх вы,— сказаў Антон, седзячы на снезе, гледзячы знізу ўверх,— пра сусветную рэвалюцыю крычыце, усім свабоду хочаце даць, а чалавека не бачыце. Не прыйду болей да вас!

— Не прыходзь,— бліснуў чорнымі гарачымі вачамі Іван.— І без пеўня сонца ўзыдзе!

Мішка падышоў да Антона, падняў яго на ногі, сказаў:

— Падумай, што ты гаворыш... Спакойна падумай. За рэвалюцыю людзі галовы кладуць. Думаеш — жыць ім не хочацца? А кладуць. Значыцца, усім гарапашнікам трэба рэвалюцыя, для ўсіх яна добрая. А ты, Іван, як порах. Я з табой яшчэ пагавару.

Ён шапкай збіў са свайго кажуха снег, падміргнуў Дзіне:

— Пайшлі...— і ўжо, адышоўшыся колькі крокаў, зноў павярнуўся да Антона: — У маёнтак абавязкова прыходзь. Хлопцы і дзеўкі пра Спартака хочуць развучваць...

«Не пайду,— гледзячы ім услед, думаў Антон.— Пакуль там Іван, памру, а не пайду...» — Ён стомлена прыхіліўся да шулы, што ўся парасла рыжавата-зялёным мохам. Шула была ў шчылінах, уся абдзёртая, абабітая — гэта, калі везлі ў двор сена альбо дровы, заўсёды чапляліся за яе калясьмі.

«З'ехаць бы адсюль куды-небудзь далёка,— раптам падумалася яму,— можа, у які горад. Разам з Янінай. Там і жыццё цікавейшае, і людзі дабрэйшыя, таму што яны не ведаюць цябе, злосці супраць цябе не маюць...»

І яму стала крыўдна за свой лёс. Нарадзіўся ў гразі і ў саломе, і век так векаваць трэба. Адно ведай: рабі. Зямля высмоктвае ўсе сілы, а што з той работы? Мазалі ды мякіна. А нешта ж ёсць у душы жывое, што заве ўдалеч, кліча. Так і паляцеў бы, здаецца, над зямлёй — шукаць людзей прыгожых, вясёлых і разумных, каб заўсёды жыць з імі. Добра быць шляхетным. Усё, як паветра, дадзена ад нараджэння. Толькі нарадзіўся, а ён ужо адмірал расійскага флоту ці яшчэ якая-небудзь шышка. А тут трэба даказаць сабе і ўсім, што ты не конь, на якім аруць, не хлоп, што ты — чалавек. А жыццё кароткае...

Антон пайшоў пад паветку, пачаў секчы дровы. Бярозавыя плашкі былі крывыя, сукаватыя. Сякера адскоквала ад іх. Успомнілася, як Іван сказаў: і без пеўня сонца ўзыдзе. Значыць, ён, Антон,— певень. Ну што ж, певень дык певень. Але не на іх куросаднi сядзіць.

Вярнулася ад Бацюты Дзіна. Трохі павесялела, ажыла.

— Харошы ён чалавек,— сказала Антону пра Бацюту.— Распытаў мяне, пагаварыў. А жонка ягоная нават яблыкамі мяне пачаставала. На і табе.

— Не хачу.

— Не сварыся, Антон, з хлопцамі і з Бацютам,— папрасіла Дзіна.— Без іх не пражывеш.

Антон нічога не сказаў. Ён быў рады, што сястра павесялела, што ў яе ўсё наладжваецца. А сам ён таксама неяк пражыве. Не дурань і не зломак. І зноў ён паглыбіўся ў свае думкі. Ён ужо даўно заўважыў і адчуў — нікому, праўда, у гэтым не прызнаючыся,— што нечым непадобны на сваіх родзічаў, ні на аднавяскоўцаў. Здаецца, і вопратка такая самая, і харчы, і адна і тая ж работа змалку, а розныя яны. Ён, напрыклад, не любіць тых, хто п'е гарэлку і лаецца, не любіць многа гаварыць, хваліцца нечым. Затое можа так задумацца, што забываецца пра ўсё на свеце. Аднойчы конь, запрэжаны ў плуг, пацiху пашыбаваў ад яго з палосы ў луг, да вады, а ён яшчэ доўга ішоў па полі, думаючы, што арэ. І кніжкі ён любіць чытаць. Маладзейшы, начытаўшыся кніжак, ён раптам уявіў, што ягоныя бацькі не сяляне, што гэта ён калісьці згубіўся яшчэ зусім малы і яго знайшлі сяляне. А сапраўдны бацька яго ці марскі капітан з бліскучай падзорнай трубой, ці славуты генерал, у якога праз усю шчаку цягнецца чырвоны шрам ад варожай шаблі. Калі-небудзь гэты бацька з'явіцца, як гром з яснага неба, і забярэ яго ў далёкія гарады, у невядомыя краіны. Цяпер ён сам пасмейваецца з гэтага. Ён цвёрда ведае: яго корань у зямлі, ён такі ж, як усе, такі, як ёсць, іншым ніколі не будзе і не хоча быць. Толькі хочацца яму болей святла, болей прыгажосці і чэснасці ў жыцці. Ён за такіх людзей, як Андрэй Бацюта, за іх справу, але рабіць гэту справу трэба, на яго погляд, трохі мякчэй, больш цярпліва. Інакш пераблытаеш пустазелле з жытам.

Увечары Антон не пайшоў у маёнтак. Так карцела схадзіць, так цягнула, але ён перасіліў сябе. «Абыдуся без іх»,— засела ў галаве помслівая, неадчэпная думка, і ён знаходзіў у ёй суцяшэнне, нават асалоду. Самым блізкім чалавекам была для яго зараз Яніна. Вядома, і маці з Дзінай мог ён адкрыць душу, і ўсё ж самае набалелае, самае патаемнае давяраў ён толькі Яніне. І яна разумела гэта і старалася

памагаць яму чым магла — парадай, цёплым словам, проста ўсмешкай.

— А ці ведае Іван, што мы з табой ходзім? — спытаўся ён неяк у Яніны.

— Не ведае. Я нікому не кажу,— сказала яна і, глянуўшы Антону ў вочы, папрасіла: — Памірыўся б ты з ім. Вы ж такія дружбакі раней былі. Іван гарачы, але добры.

— Ды я з ім і не сварыўся,— замяўся Антон.— Ён сам сабе ў галаву ўбіў, што я яго тады кінуў у маёнтку, уцёк, і зараз бачыць мяне не хоча.— Антон раптам спалохаўся, сказаў: — Ён можа і нас з табой пасварыць.

— Ну гэта мы яшчэ пaглядзім,— горда ўскінула галаву Яніна.

Праз колькі дзён, беручы ваду ў калодзежы, Яніна пачула, як старая Зайчыха гаворыць жанчынам:

— Гэтая ж самая Дзіна Прахорава, кажуць, жыла з Баўтруком у лесе. Мароз, снег, а ім цёпла...

Яніна ледзь не выліла на галаву Зайчысе вядро ледзяной вады:

— Пасароміліся б!.. Што вы збіраеце плёткі?

— А ты не вучы мяне,— сціснула тонкія губы Зайчыха.— Людзі дарэмна не скажуць. Ты і сама ля гумна кожную ночку трэшся.

Яніна з чырвонымі шчокамі амаль пабегла ад калодзежа, а Зайчыха крычала ёй услед:

— Іч, якія гарачыя. Добрых людзей ім не хапае. З бандытамі знюхаліся.

Антон даведаўся пра гэта і так раззлаваўся, што хацеў пайсці ды пабіць у Зайчыхі вокны. Але верх узяла разважлівасць. «Не трэба падымаць шуму,— падумаў ён,— не трэба, каб Дзіна гэтыя бабскія плёткі чула».

Толькі Дзіна, вядома, чула, бо тыя, хто пускаў плёткі, выдумлялі іх для яе ж вушэй. Дзіна ўвесь дзень праплакала. Маці ўгаворвала яе, угаворвала, а потым сама пачала плакаць. Прахор не вытрымаў, сказаў:

— Што вы, як бабры, румзаеце? — і накінуўся на Аўдолю: — Трэба было тады, як яна да гэтага гада бегала, глядзець, сачыць. А цяпер позна. І зямлі могуць вясной не прырэзаць...

— Каб ты ўдавіўся той зямлёй,— яшчэ мацней заплакала Аўдоля.— Родную дачку з зямлёй раўняюць, а ён і не шманае.

— Дадуць вам зямлі, тата. Не бойцеся,— ціха сказала Дзіна.— Я з Андрэем Бацютам гаварыла.

— Ды я што...— апусціў вочы долу Прахор і бачком падаўся на двор.

Дзіна ж пайшла да Зайчыхі. У невялікай цёмнай хаце Зайцаў поўзала па падлозе шасцёра дзяцей — адно крыху больш за другое, усе мурзатыя і галодныя. Іхняя маці, Кацярына, памерла летась — надарвалася, калі капалі калодзеж. Бацька падаўся ў заробкі на чыгунку, грузіў там лес і дадому вяртаўся толькі ў нядзелю. Клопаты пра дзяцей ляглі на плечы яго цёшчы, Зайчыхі, да якой і прыйшла Дзіна. Зайчыха сядзела на ўслоне, нешта таўкла ў ступе і сачыла, каб дзеці не нарабілі якой шкоды. Убачыўшы Дзіну, разгубілася, трошкі пачырванела, але хутка справілася з сабой, запрасіла:

— Сядай, Дзіна.

— Я пастаю,— сказала Дзіна, і голас у яе быў глухі.— Навошта вы, цётка, на мяне нагаворваеце людзям?

— Я нагаворваю? — здзівілася Зайчыха.— Ды бог з табой, дзеўка. Каб мне язык адсох.

— Мне Яніна Міхейчыкава сказала. Яна чула, як вы каля калодзежа казалі...

— Яніна Міхейчыкава? — твар у старой пакрыўся белымі плямамі.— Ну, можа, што я і сказала. Дурная ж баба, цёмная. Але не са злосці, Дзіначка, а ўсё па сваёй цемнаце.— Старой рабілася ўсё болей няёмка, яна круцілася на ўслоне, як на гарачай патэльні.

— А каб пра вашу дачку, нябожчыцу Кацярыну, такое сказалі? — не адступалася Дзіна.— Добра вам было б?

Старая сядзела з разяўленым ротам, не знаходзіла слоў. Малыя перасталі дурэць, усе спаўзліся да ступы, слухалі, пра што гавораць дарослыя.

— Чаго бельмы павылуплівалі?! — крыкнула на іх Зайчыха.— Дзе мой трапкач? От я вас...

Малыя, як мышы, рынуліся пад ложак, і ў хаце стала на момант ціха.

— Вы ж стары чалавек, на той свет скора,— гаварыла, плачучы, Дзіна.— Як вы богу ў вочы глянеце?

— Дзіна,— раптам усхапілася з услону Зайчыха.— На во вазьмі таўкач, стукні мяне па галаве, каб мазгі мае дурныя павылазілі.— Яна совала ў рукі Дзіне таўкач, стары, сцёрты, патрэсканы, на канцы якога наліпла ячменнае зерне.

Дзіна нічога ёй не сказала, выйшла з хаты. Над Чмялямі кружыўся ціхі снег.

Нібы што надарвалася ў Дзіны ўсярэдзіне. Болю не было, было нейкае спусташэнне, абыякавасць. Быццам па кроплі выціснулі з сэрца кроў, і яно замярзала, ледзь-ледзь білася. Усё наўкола зрабілася нецікавае: людзі, іхнія размовы, іхні смех і слёзы. Хацелася адзіноты і

цемры. Яна заходзіла пад паветку альбо ў стопку, садзілася ці прыхіналася да сцяны і замірала. Праз колькі мінут гаючы холад пачынаў струменіцца па нагах, узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, затапляў сэрца і галаву. Толькі вочы былі гарачыя. І вочы шмат што бачылі — праз шчыліну ў страсе лапік неба, нібы кавалачак сіняга шкла; вераб'іную перыну, што прыклеілася да чорнага струхлелага бервяна і трапяталася на ветры; сучок, які, як круглае жоўтае вочка, цікаваў з бервяна; зеленавата-белыя хвосцікі моху. Прыходзіла маці, тармасіла яе за плячо.

— Уся халодная. Пойдзем у хату...

Матчыны вочы былі сумныя, вінаватыя.

— Схадзіла б ты, дачушка, да Перуноўскіх,— прасіла яна.— Там дзеўкі прадуць. І ты б спрала на якое-небудзь лайно.

Аднойчы пад вечар прыйшла з Запольцаў шаптуха, маршчыністая, бяззубая баба Еўка. Глянула на Дзіну строгімі вачамі, якія ад сівых веек здаваліся серабрыстымі, запаліла тонкую жоўтую свечку, пачала вадзіць ёю над Дзінай. Дзіна ляжала на ложку, глядзела, як уецца ў паўзмроку агеньчык, нібы светлая вясновая птушка заляцела ў акно. Потым баба Еўка села на ложак каля Дзіны, узяла яе руку бязважкай рукою, пачала шаптаць:

— Ідзіце, хваробы,  
На сухія воды,  
На агняныя рэкі,  
На зялезныя горы...

Голас у Еўкі быў глухі, кволы і, здавалася, такі ж маршчыністы, як яе твар. Хацелася пакратаць гэты голас рукою. Дзіна заплюшчыла вочы, і ёй уявіліся агняныя рэкі: пасярод стромкіх чорных берагоў цячэ, кіпіць барвовае полымя. Хвалі з лёгкім шумам набягаюць на берагі, і пачынае гарэць трава.

Антон стаяў каля парога, глядзеў на шаптуху, на сястру. Яму хацелася вырваць з рук у старой свечку, выгнаць старую з хаты.

«Нібы на хаўтурах»,— думаў ён.

Учора да яго прыходзіў Мішка Сырамалот, прасіў прыйсці ў маёнтак. Але Антон адмовіўся. Тады Мішка спахмурнеў, сказаў:

«Глядзі, братка, а то можаш заблудзіць, можаш не па той дарозе пайсці».

Антон стаяў каля парога і нібы зноў чуў гэтыя Мішкавы словы.

Пасля маразоў наступіла адліга. З сярэбраным звонам пабегла са стрэх вада. Снег пацямнеў, пакрыўся бліскучай крыштальнай луской, якая гучна лопалася пад нагамі. Зашумелі дрэвы: шум быў шырокі, вільготны, трывожны. У хлявах замыкалі каровы — пэўна, чакалі, што

надыходзіць вясна і хутка зноў можна будзе выбегчы на пrасторны зялёны луг.

Сонца выглядвала з-за нізкіх, чорна-рудых хмар, смяялася і быццам падміргвала халоднай зямлі.

У адзін з такіх дзён у Чмялях сабраўся сход.

— Можа, зямлю будзем дзяліць? — пыталіся адзін у аднаго чмялёўцы.— Бач ты, як вясной запахла...

Людзі выходзілі з цёмных халодных хат і з надзеяй глядзелі на неба.

Сямён-артылерыст, як заўсёды без шапкі, бадзёра чыкільгікаў па вуліцы. Убачыў Людвіка Перуноўскага, закрычаў яму цераз вуліцу:

— Здароў! Ну як зімуецца?

— На палатках пакуль што цёпла — снег не мяце,— сказаў Людвік і зажмурыўся ад яркага сонца.

— А чаго народ збіраюць? — спытаўся ён у Сямёна.

— Сычас Андрэй Бацюта скажа...

Калі ў будынак рэўкома набілася народу, як яблыку ўпасці, Бацюта ўстаў з-за стала, прыгладзіў рукой валасы, сказаў:

— Таварышы мужыкі. Мы перапісалі і ўзялі на ўлік усю маёмасць, што знаходзіцца ў маёнтку графа Незабітоўскага, у нашым народным маёнтку. Пры перапісцы выяўлена,— з рук Мішкі Сырамалота ён узяў паперку і пачаў чытаць,— плугоў жалезных — дваццаць два, барон жалезных — шаснаццаць, барон драўляных — дзесяць, рыдлёвак штыкавых — пяцьдзесят восем, рыдлёвак-шуфляў — трыццаць чатыры. Усю гэту маёмасць,— ён зноў узняў вочы на людзей,— рэўком вырашыў падзяліць паміж усімі гаспадаркамі, у першую чаргу, незаможнымі і салдацкімі дварамі.

— Правільна! — пачуліся галасы.— Дзялі, Андрэй!

— Як жа мы будзем дзяліць? — спытаўся Бацюта.

— Па-чэснаму, гэта значыць! — крыкнуў Людвік Перуноўскі.

— Каб усім было добра,— аглядаючыся па баках і прыхарошваючыся, сказала Агапка Шамаль.

— Будзем дзяліць, каб усім добра было,— кашлянуў у кулак Бацюта.— Але ж на кожную гаспадарку ўсё роўна не хопіць. Таму адзін плуг мы вырашылі даваць на чатыры двары, на чатырох суседзяў. Тое ж самае зробім з баронамі і рыдлёўкамі. Як, таварышы, усе згодны?

— Згодны. Чаго там? — загуў сход.

— Хай будзе ўсё па чэсці...

— Не разбіваць жа плугі на кавалкі...

— А што мне рабіць?! — крыкнула Агапка Шамаль.— У мяне ўсе суседзі мужыкі, а я адна сярод іх салдатка. Яны плуг сабе возьмуць, і не дапросішся ў іх. А мяне што — запрагаць у той плуг?

Людзі засмяяліся.

— Не бойся, Агапка, ты шустрая,— закурваючы, сказаў Цімох Белазор.— Ты сама іх запражэш ды ў прыдачу і зацугляеш.

— Ах ты, Канчабал вусаты,— памкнулася наперад Агапка,— вусы табе павыдзіраць мала за такія словы.

Зноў усе засмяяліся.

— Ціха, таварышы,— хаваючы ўсмешку, махнуў рукой Бацюта.— Я думаю, суседзі памогуць Агапцы Шамаль, салдатцы, узараць яе палосу. Гэта святое дзела — дапамагчы жанчыне. Правільна?

— Правільна,— узняўся з пярэдніх радоў Рыгор Крыванос.— Агапка мая суседка. Мужык яе, Арцём, харошы чалавек, рабацяшчы, служыць зараз у войску, і невядома, дзе ён. Я памагу Агапцы.

— Ты ж глядзі — толькі днём памагай! — весела крыкнуў нехта ззаду.

Агапка гнеўна азірнулася, але той, хто крыкнуў, адразу прыгнуў галаву, схаваўся.

— А я не згодны,— узняўся раптам са свайго месца Людвік Перуноўскі,— я не згодны браць плуг разам з Цімохам Белазорам. Лепш той плуг, як тут ужо казалі, на кавалкі разабраць. Цімох такі скнара, што свет белы такога не бачыў. У яго снегу ў лютым не выпрасіш.

— Іч ты, шляхцюк,— наліўся крывёй, пабурэў з твару Белазор.— Можа, цябе яшчэ ў адно месца пацалаваць? Не згодны ён! Трэба мне твая згода, як сабаку падковы.

Расштурхоўваючы натоўп, ён ужо лез да Людвіка біцца.

— А ну сядзь на месца! — прыўзняўшыся з-за стала, строга сказаў Яўхім Сцепанюга.

Белазор панура глянуў на яго, сеў. Але ягоны твар быў яшчэ чырвона-буры.

— Злосці поўныя косці, а сілы, як у камара! — крычаў між тым Людвік.— Хадзі, хадзі, я табе так

стукну, што дадому не дапаўзеш.

— Ціха! — ляпнуў па стале далонню Бацюта.— А то зараз выведу са сходу абодвух. Раскрычаліся, як дзеці! А Белазору рэўком наогул думае не даваць плуга. Мы даём толькі бядняцкім гаспадаркам.

— Ты лічыў маё багацце? — узвіўся Белазор.— Прыблуда ты! Адкуль ты ўзяўся? У мяне крывавыя мазалі на руках, а ён... Пляваў я на твой рэўком!

Адразу стала ціха. Бацюта паблянднеў, расшпіліў верхні гузік кашулі. Яўхім Сцепанюга, Рыгор Крыванос і Мішка Сырамалот ужо, узяўшы за рукі, выводзілі Белазора на вуліцу.

— Не дазволім пляваць на рэвалюцыю,— сказаў Бацюта.— Крывёю — і то не плюнеш. Замкніце яго, хлопцы, у халодную. Рэўком пагаворыць з ім пасля сходу...

У Бацюты на скронях рэзка выступілі сінія жылы. Ён памаўчаў, паспакайнеў, сказаў:

— Другое пытанне нашага сходу, таварышы: адносіны да Беларускай рады. Многія з вас, відаць, ведаюць, што ў Мінску стварылася рада.

— Чаго яна хоча, рада гэтая? — спытаўся Сямён-артылерыст.

— Яна хоча незалежнасці Беларусі, аддзялення ад Расійскай дзяржавы. Ужо аддзяліліся Фінляндыя, Украіна. Хочуць аддзяліць і нас. Але, падумайце, што гэта нам дасць, таварышы? Якое жыццё можа абяцаць сялянам і рабочым, якія толькі што скінулі векавы царскі прыгнёт, Беларуская рада? Дзякрэты аб бясплатным пераходзе панскай зямлі ў рукі сялян, аб кантролі над фабрыкамі і заводамі, выдадзеныя цэнтральным Саветам Народных Камісараў, акажуцца ў такой Беларусі несапраўднымі, страцяць сілу. За што тады ваяваў наш народ?

Узняўся са свайго месца Сямён-артылерыст:

— Вось што я хачу сказаць. Я, як вы ўсе ведаеце, у чацвёртым годзе з японцам ваяваў. Давялося мне ажно да самага Ціхага акіяну Расію праехаць. Едзеш дзень, едзеш два, тыдзень едзеш, а канца-краю не відно. І ўсюды вёскі і гарады, усюды народ жыве. Я разумею так: нельга нам без Расіі. Там жалезныя горы проста з зямлі растуць, заводаў розных, што ўсё робяць, не злічыць. А што ў нас? Аддзелімся мы, сядзем у сваім балоце і будзем з голаду паміраць. Прыйдзе германец ці яшчэ хто-небудзь і возьме нас голымі рукамі.

— Правільна гаворыш, Сямён,— падтрымаў яго Бацюта.— Такая Беларусь патрэбна толькі багацеям. Яны і хочуць адкалоць нас ад чырвонай Расіі, ад таварыша Леніна.

— Што доўга казаць?! — крыкнулі з залы.— Пішы наш дэкрэт, Андрэй.

Хвілін праз дзесяць Мішка Сырамалот узняўся з-за стала і пачаў чытаць пастанову сходу:

— Мінская губерня. Ігуменскі павет. Чмялёўская воласць.

У народных камісарах мы, беларусы, бачым адзіны сродак збаўлення ад зла і нашых пакут. Уся Чмялёўская воласць усімі сіламі падтрымлівае Петраградскі Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпута-

таў і ўвесь час будзе ісці за народнымі камісарамі, пакуль апошнія будуць адстойваць інтарэсы працоўнага люду.

Калі нашы дзеці і браты ў 1914 годзе былі ўцягнуты ў вайну, чаму кіраўнікі Беларускай рады не склікалі свой буржуазны сход у горадзе Мінску? Ды таму, што мы тады клалі свае галовы за іх і іхняга бацьку — крывавага Мікалая; калі ж ён паляцеў уверх нагамі і яны бачаць, што губляюць свае галовы ў рэвалюцыйным віры, то яны для сваёй абароны дзеляць нас на рады — Украіну яны аддзялілі, ім там нічога не страшна, цяпер ім застаецца толькі нас аддзяліць, але ім гэта не ўдасца, бо мы ўсе за аднаго і адзін за ўсіх. Нам не трэба іхнія каралеўствы, нам трэба агульнае адзінства, мір, свабода і зямля.

Няхай жыве Расійская Беларуская Савецкая Рэспубліка рабочых, сялян і салдатаў! — скончыў чытаць Мішка Сырамалот.

На сходзе былі амаль усе чмялёўцы. Былі тут і Прахор з Аўдоляй, і Антон круціўся каля ўвахода.

Толькі адна Дзіна засталася дома. Апошнім часам нікуды яе не цягнула, хацелася пабыць адной са сваімі думкамі. Яна скончыла паліць у печы, качаргой навыграбала ў жалезнае вядро вуголляў. Потым накінула на плечы кажушок, панесла вядро ў стопку. Ноччу мог быць мароз, і трэба было трымаць у стопцы вуголле, каб не памерзлі бульба з бручкай.

Дзіна зайшла ў стопку, паставіла вядро каля парога, сама прыхілілася да сцяны і застыла ў нейкім здранцвенні. Вугаллі ў густой цемры гарэлі, як залатыя. У іх яшчэ жыў агонь, які не хацеў паміраць, і таму час ад часу з вядра вырываліся тоненькія пасмачкі полымя. Але яно паступова заціхала. Вугаллі з яркіх, залатых рабіліся цёмна-вішнёвымі, брудна-жоўтымі. Дзіна не магла адарваць ад іх погляду. Потым ёй стала холадна, і яна сцепанула плячамі, трохі адышла ад сцяны. І тут у акенца, што было прарэзана ў сцяне стопкі, яна ўбачыла, як цераз плот у іхні сад пералазіць нейкі чалавек. Плот быў новы, са свежых сасновых колікаў, і таму чалавек рэзка вылучаўся сваім чорным адзеннем. Вось чалавек на імгненне як бы скамянеў, аглядваючыся па баках, потым увесь сцяўся, спружыніўся і, адпіхнуўшыся ад жэрдкі нагой, скокнуў з плота ў снег. Ногі яго праваліліся амаль па калені. Колькі хвілін ён стаяў, як нежывы, потым прыгнуўся і асцярожна пачаў красціся па снезе да стопкі.

Дзіна не вельмі спалохалася. Толькі цікавасць варухнулася ў сэрцы: «Што яму трэба?» Чалавек тым часам падкраўся да стопкі, стаў каля сцяны. Дзіне здавалася, што праз тоўстыя бярвенні яна чуе ягонае дыханне. Яна адчыніла дзверы, пачала пераносіць нагу цераз парог і ўбачыла Баўтрука. І застыла. Ён таксама аж пажаўцеў ад

нечаканасці. Быў ён худы, брудны, з доўгай нячэсанай барадой, у якой дзе-нідзе віднеліся жоўтыя хваёвыя іголкі. На ім быў чорны кажух, увесь пакамечаны, у многіх месцах прапалены. Ад Баўтрука, ад ягонага кажуха пахла лесам і дымам.

— Дзіна,— прашаптаў Баўтрук, і вочы яго засвяціліся, як зялёныя вугольчыкі.— Я да цябе ішоў... У вёсцы сход, і ніхто не ўбачыць... Дзякуй я табе прыйшоў сказаць... Як сястрыца, ты мне стала... Памру, а не забудуся...

Дзіне падалося, што кажучы гэтыя словы, ён усхліпнуў. Яна ўсё яшчэ стаяла з занесенай цераз парог нагой. Потым адступіла на крок назад у стопку. Баўтрук шапнуў:

— Дзіна... Дзінка...— і нячутна падыходзіў усё бліжэй, слізгаў уздоўж сцяны.

— З-за мяне ты пакутуеш... Ведаю, праходу табе не даюць, што ў бядзе чалавека не кінула... Зайчысе, вядзьмарцы старой, спалю хату... Язык паганы вырву...

Яна ўбачыла яго абпаленыя і таму рудыя бровы, запалыя вочы.

«Ён сябе называе чалавекам»,— цьмяна і спустошана падумалася ёй.

— Звер! — крыкнула яна, і ад крыку ў ёй прачнуўся страх. Яна ўзмахнула рукамі, нібы хацела паляцець з гэтага месца, і тут яе рука зачапілася за бязмен, што вісеў на цвіку на сцяне. Дзіна схапіла бязмен — ён апёк марозным холадам руку — і, як малатком, ударыла Баўтрука па галаве. Ён хіснуўся назад, потым наперад, шапка звалілася з галавы. Па лбе, па шчоках густа пабегла кроў, і ад яе адразу зачырванеліся вусы і барада. Баўтрук закрыў твар рукамі, уздрыгнуў усім целам, крывавым вокам глянуў на Дзіну праз пальцы. Потым падняў са снегу шапку і, сагнуўшыся, пайшоў да плота. За ім па снезе цягнулася стужачка крыві, быццам ён ішоў і рассыпаў на белы снег журавіны.

Дзіне раптам востра кальнула ў грудзях. Нібы хто распаленым жалезным прутом дакрануўся да жывога сэрца. Яна ўпала на чорную цвёрдую зямлю стопкі, што пахла бульбай і агуркамі, і ад вялікага напружання, ад страху страціла прытомнасць. Вядро з вугаллем перавярнулася, зноў ажыло полымя. Вузенькая яго пасмачка нясмела дакранулася да Дзінінай рукі, потым адскочыла, прытаілася, быццам выпрабоўвала, ці ўзнімаецца Дзіна з зямлі, але праз колькі імгненняў зноў працягнула перад сабой свой чырвоны язычок.

## XI

Раніцай другога лістапада Міхаіл Андрэевіч Рылюк даведаўся, што з фронту ў Мінск на дапамогу Мінскаму Савету прыйшоў браняпоезд. Рылюк кватараваў каля Аляксандраўскага вакзала ў невялікім драўляным доміку, які належаў дэпоўскаму слесару Андрэю Белахвосту. Белахвост паведаміў яму пра браняпоезд і яшчэ сказаў, што браняпоезд спыніўся на мосце Палескай чыгункі і ўсе ягоныя гарматы і кулямёты накіраваны на горад.

— Нарэшце,— узрадаваўся Рылюк,— нарэшце ў нас, Андрэй, таксама ёсць сіла...

Ён, спяшаючыся, апрануўся і пайшоў на Петраградскую вуліцу, у Мінскі Савет. Па дарозе яго ўвесь час не пакідала радасць.

— Нарэшце мы зможам заткнуць раты крыкунам з «Камітэта выратавання рэвалюцыі»,— думаў ён.— Жданаву з Калатухіным і ўсёй іхняй кампаніі надышоў канец. Хваліліся, што адным махам справяцца з бальшавікамі, крычалі, што бальшавікі сядзяць на накрыўцы каструлі, у якой ужо закіпела вада. Ажно самі сядзелі на гэтай накрыўцы...

У Мінскім Савеце ён сустрэўся з таварышамі з бальшавіцкай фракцыі, адразу ж спытаўся:

— Адкуль браняпоезд?

— З другой арміі. Камендант браняпоезда падпрапаршчык Пралыгін.

Усе былі радасныя, усе адчувалі, што з сённяшняга дня перавага ў сіле на баку бальшавікоў.

Рылюк адразу ж пайшоў у дэпо. Па дарозе, сустрэўшы двух маладых хлопцаў, мурзатых, закопчаных, відаць, памочнікаў машыніста, спытаўся:

— Дзе тут знайсці Голубева?

— Каля пакгаўза. Маршыруе са сваімі чырвонымі гвардзейцамі,— сказалі хлопцы.

На пляцы, на якім зусім не расла трава, але затое тлуста блішчала мазута і валяліся кавалкі наздраватага шлаку, рабочыя-дружыннікі займаліся страявой падрыхтоўкай. Апрануты яны былі хто ў што: у салдацкія шынялі, у марскія бушлаты, у кіцелі чыгуначнікаў, у шэрыя сялянскія світкі. Камандзір атрада Іосіф Голубеў, каржакаваты, плячысты, з цёмнымі заліхвацкімі вусамі, кончыкі якіх загіналіся ўгору, хадзіў уздоўж строю. Быў ён у чорнай бліскучай скуранцы, на баку, у вялікай драўлянай кабуры, вісеў маўзер. Яны паздароўкаліся, і Рылюк сказаў:

— Чуў пра браняпоезд, Пятровіч?

Голубеў кіўнуў галавой.

— Падмога падаспела ў самы раз. А наша задача зараз, Пятровіч, яшчэ болей узяць пад кантроль станцыю, усе цягнікі, што ідуць з фронту. Ні адна жывая душа не павінна праслізнуць у бок Петраграда да Керанскага. Дэмабілізаваных будзем прапускаць, але толькі без зброі.

— У нас мала народу. Усяго пяцьдзесят штыкоў,— спахмурнеў Голубеў.— Не хопіць сілы.

— Звяжамся з чыгуначным вузлом, з таварышам Чатырбокам. Яны дапамогуць. Першы рэвалюцыйны полк Мінскага Савета таксама павінен даць людзей.

— Ну тады дзела,— узрадаваўся Голубеў.— На замок возьмем станцыю...— Ён павярнуўся да свайго атрада, вясёлы, узбуджаны, крыкнуў:

— Перакур, хлопцы!

Дружыннікі адразу разбіліся на купкі. Востра запахла тытунёвым дымам.

— Скажы, добры чалавек,— падышоў да Рылюка пажылы чыгуначнік з трохлінейкай за плячыма, у салдацкім шынялі, у суконнай нямецкай шапцы з доўгім казырком,— ці доўга гэтая самая рэвалюцыя будзе працягвацца? Як думаеш: да калядаў справімся?

— А гэта ўжо ад нас саміх залежыць,— засмяяўся Рылюк.— Згуртуемся, ударым дружна, не дадзім буржуям апамятацца, сілу сабраць — тады і пераможам.

— Мне трэба, каб да калядаў усё скончылася,— строга сказаў пажылы чыгуначнік, варухнуўшы сівымі бровамі,— на каляды я свайго сына Ваську жаніць думаю. Васька! — паклікаў ён.

Падышоў хлопец гадоў дваццаці, высокі, кучаравы. У вялікіх, чырвоных ад ветру руках стрэльба, на нагах — самаробныя белыя буркі.

— Мой сын,— пахваліўся чыгуначнік.— Качагарам працуе, а хутка памочнікам машыніста будзе.

Хлопец глянуў на бацьку, на Рылюка, сарамяжна ўсміхнуўся і зноў адышоўся ўбок.

Неўзабаве з 1-га рэвалюцыйнага імя Мінскага Савета палка прыйшла да чыгуначнікаў падмога — ажно цэлая рота салдат. Рылюк вельмі ўзрадаваўся, што камандуе ротай ягоны стары знаёмы Іван Юшкоў.

— Ну і малайчына,— цісну Рылюк руку Юшкову.— Быць табе, Іван, генералам. Арол!

Юшкоў задаволена ўсміхаўся, прыгладжваў свае доўгія чорныя вусы. Ён таксама быў рады сустрэчы.

За апошнія тыдні ён пасушэў з твару, скура на шчоках пасмуглела, пацвярдзела, быццам увесь час абпякала яе сонца. У яго прарэзаўся звонкі камандзірскі голас, нечаканы нават для яго самога. Усё было добра ў Івана Юшкова, і толькі дзве рэчы вярэдзілі ягонае сэрца, асабліва ноччу, калі заставаўся ён сам-насам з цішынёй і цемрай. Першае: даўно ён не бачыў сваёй сям'і, жонкі, цяжка сумаваў па іх. Другое: усё часцей успамінаўся яму незабыўны звонкагалосы сябра — гармонік, які давялося кінуць у балоце каля вёскі Пагулянкі. Гэту страту перажываў ён так востра яшчэ і таму, што адчуваў — не пры яго сённяшнім чыне і пасадзе іграць на гармоніку. Свае ж таварышы, свае салдаты засмяюць. Але ні адна жывая душа не здагадвалася пра яго душэўныя пакуты, бо ён хутчэй бы памёр, чым сказаў каму хоць слоўца пра такое.

— Будзем, значыць, разам службу несці, Андрэевіч? — гаварыў ён, трасучы Рылюку руку.— Добра... добра... Са мной яшчэ адзін твой знаёмы ёсць. Ведаеш хто? Радзімовіч Кузьма.

— Зямляк! — узрадаваўся Рылюк.— А ну пакажы мне яго хутчэй.

— Ну і пахарашэў ты, хлопец,— гаварыў ён праз колькі хвілін, аглядаючы Кузьму з ног да галавы.— Плечы шырокія, вочы смелыя. Усе дзяўчаты твае будуць.

Кузьму было няёмка ад такіх слоў, ён моцна пацiснуў Рылюку руку, сказаў наўмысна нізкім голасам:

— Я ж не нявеста, Міхаіл Андрэевіч, каб мяне гэтак хваліць. Салдату не фігура патрэбна, а сіла.

— Э, не кажы,— памахаў пальцам Рылюк.— Сіла сілаю, а гусару вусы ніколі не перашкаджалі...

Ён заўважыў Кузьмову разгубленасць і пераменіў гаворку, спытаўся:

— Дзе ж, хлопцы, калі не сакрэт, стаіць ваш полк?

— У бараках на Каломенскай плошчы. Насупраць будынка Савета,— адказаў Юшкоў.

— Запрашаю вас, хлопцы, вечарам да сябе. Чай піць будзем. Фронт успомнім. Нябось, засумавалі па фронце? — хітра прыжмурыўся Рылюк.

— Фронт не жонка,— усміхнуўся Юшкоў.— Па ім разумны чалавек не засумуе...

Увечары Кузьма з Юшковым пайшлі да Рылюка. Неслі з сабой бохан чорнага хлеба, некалькі сухіх воблік, сінявата-белы цукар у палатняным мяшэчку, бо няёмка было ісці ў госці з пустымі рукамі. Ледзь адышліся ад Аляксандраўскага вакзала, як з усіх бакоў Навалілася густая цемра. Карасінавыя ліхтары, што былі панатыканы

на невысокіх драўляных слупках на скрыжаваннях вуліц, не гарэлі — нехта ўсе іх пабіў. Снегу тут было мала, а калі і ляжаў, то чорны, пасыпаны вугальным пылам, закураны паравозным дымам. Уздоўж вуліцы за штыкетнікамі, драўлянымі і металічнымі, стаялі невысокія, падобныя адна на адну хаткі. Рэдка ў якой з іх гарэла святло. Нарэшце ўсё-такі знайшлі тую хатку, у якой кватараваў Рылюк.

— Ну і цемра егіпецкая тут у вас, Андрэевіч,— сказаў Юшкоў, здымаючы з галавы папаху, жмурачы вочы.— Ледзь мы з Кузьмой ногі не паламалі. Трэба табе ў цэнтр горада перабірацца. Усё-такі ты ў бальшавікоў начальнік, а жывеш — бог ведае дзе.

Рылюк, вясёлы, па-хатняму апрануты, завіхаўся каля стала, на якім дыміўся медны бліскучы самавар, запрасіў сесці, закашляўся:

— Бальшавіцкі начальнік, кажаш. Вось, таму што начальнік, і жыву бліжэй да народа. А што цёмна на вуліцы — не бяда, Іван. Убяромся ў сілу — электрычныя ліхтары па ўсім Мінску запалім.

Ён, прыгнуўшыся, глянуў у нізкае маленькае акенца, за якім глуха чарнеў змрок:

— Позна ўжо, таму і цёмна. Французы і палякі такі час называюць часам паміж ваўком і сабакам.

Кузьма сеў на рыпучы драўляны ўслон, падкурчыў ногі, каб не так былі відны пабітыя брудныя боты, з цікаўнасцю аглядаў хатку. Была яна дужа бедная, але чыстая, акуратная. Сцены былі зусім голыя — паміж чорна-жоўтых патрэсканых бярвенняў віднеліся шнуркі шорсткага карычневага моху. У куце стаяла невялікая печ, зробленая на адну цагліну, з тоўстай жалезнай трубою, з кружкамі для чыгункоў, з пячуркай, у якой, скруціўшыся абаранкам, грэўся вялікі жоўты кот. Каля печы мясцілася драўляная шафа для посуду. Акрамя печы і шафы ў пакоі былі стол, два табурэты, нізкі ложак, пакрыты шэрай салдацкай коўдрай, паліца з кнігамі. Над сталом на сцяне вісеў партрэт прыгожай маладой жанчыны.

— Спартанскае ў мяне жыццё, хлопцы,— гаварыў Рылюк, калі селі за стол і пачалі піць чай з вялікіх металічных кубкаў.— У ссылках прывык. Але калі-небудзь такі раптам сум возьме, аж душу выверне — захочацца, ведаеце, хатняга цяпла, белай фіранкі, мяккай падушкі... Сум гэты я, вядома, адразу за шкірку і з душы — вон.

Ён усміхнуўся. Сівыя валасы яго серабрыліся, бялелі, як снег месячнай ноччу.

— А гэта хто? — спытаўся Кузьма і кіўнуў галавой на жанчыну на партрэце. Яна глядзела на ўсіх загадкава і трошкі сумна.

— Гэта мая жонка.— Рылюк чаранком лыжкі пачаў калоць цукар. — Ніна Іпалітаўна... Тут, у Мінску, на машынабудаўнічым заводзе

працавала. Ведаеце завод фірмы «Якабсон, Ліўшыц і кампанія»? На ім мая Ніна свідравальшчыцай была. Пазнаёміліся мы, пакахаліся, пажаніліся і... у вясельнае падарожжа паехалі, у сібірскую ссылку. А там зноў ссылка — Урал, зноў Сібір... дзяцей некалі было завесці. Ніна мая ў партыю ўступіла, нелегальную літаратуру распаўсюджвала, дынаміт у сваім куфэрчыку хавала. А ў ссылцы пайшла ад мяне. Быў такі Бржазоўскі, паляк. Вясёлы, прыгожы паляк. Таксама ссыльны. Ну яна і пайшла ад мяне да яго, пакахала, значыць, гэтага Бржазоўская.

Ён змоўк. Кузьма адчуў, што кубак апякае пальцы. «Навошта я толькі пытаўся? — падумалася яму.— Гора чалавечае разварушыў...»

Але Рылюк ужо гаварыў пра Андрэя Белахвоста, у якога кватараваў.

— У Андрэя сям'і сем душ. Сам ён да любой работы здатны. Капейчыну не кране, дзецям і жонцы прынясе. А ўсё роўна: з хлеба на квас заўсёды перабіваецца. Тут у нас цэлая слабада рабочых-чыгуначнікаў. Дык, ведаеце, як яны канцы з канцамі зводзяць? З вёскай сувязь не парываюць. З іхняй радні нехта абавязкова ў вёсцы на сваёй паласе сядзіць. І вось яны ці араць, ці сеяць, ці жаць — на дзянёк-другі ў вёску пад'едуць. Ну, а адтуль на чорны дзень бульбачкі сабе прывязуць. Так і жывуць. Напалову рабочыя, напалову сяляне.

— У нас такога няма,— шумна сёрбаў гарачы чай Юшкоў.— У нас, на Урале, ужо нашы прадзеды толькі на жалезе сядзелі, толькі з жалеза жылі.

— Ваш край я трохі ведаю,— сказаў Рылюк і зноў падліў гасцям кіпетню ў кубкі.— А ў нас у Мінску, ды і па ўсёй Беларусі, рабочы клас, калі чэсна сказаць, яшчэ слабаваты, яшчэ жыве ў ім сялянскі дух.

— Чым жа дрэнны сялянскі дух?— адставіў ад сябе кубак Кузьма.

Рылюк глянуў на яго, усміхнуўся, дакрануўся рукой да пляча:

— Ты не крыўдзіся. І Масква з вёскі пачыналася. Усе мы, у нейкім сваім калене, сяляне. Але разумееш, дужа сядзіць у душы ў селяніна ягоная паласа. І часам ён сваё жыццё і жыццё астатніх людзей мерыць на шырыню гэтай паласы. Ды толькі — новы час, новыя песні.

Ён устаў з-за стала, высокі, худы, касцісты, вочы ягоныя свяціліся:

— Рэвалюцыя абудзіла нашага селяніна. Што такое рэвалюцыя, хлопцы? Гіганцкі плуг, які ўзараў аблог народнага жыцця. Быльнёг, пустазелле, якія толькі і ведалі, што смакталі зямныя сокі, ён вырваў з карэннем. Затое чарназём упершыню за тысячагоддзі ўбачыў над сабой неба, увабраў у сябе сонечныя промні.

Кузьма і Юшкоў, не адрываючыся, глядзелі на Рылюка.

— Ну і складна ты можаш гаварыць, Андрэевіч,— шумна выдыхнуў Юшкоў.— Аж сляза сэрца прапякае. Відаць, усе вы, хто па ссылках ды па турмах мучыліся, мастакі па гэтай частцы.

— Дарэмна так думаеш,— адразу аслабеў, абмяк тварам Рылюк.— У турмах нас на цыцэронаў не вучылі. Наадварот, за кожнае лішняе слова — карцэр, па тры дні адна пустая баланда...

— Значыць, жылі ў вас унутры гэтыя словы. А зараз — на волю вырываюцца,— не здаваўся Юшкоў.

Рылюк нічога не адказаў, толькі сумнавата ўсміхнуўся.

Развіталіся позна. Рылюк выйшаў іх праводзіць на вуліцу, пацiснуў рукі, стаў, прыхіліўшыся плячом да штыкетніка. Яшчэ доўга бачыў Кузьма, як бялее ў цемры яго кашуля. «Разумны чалавек,— думаў Кузьма.— Чалавек нібы крэмень, а вочы сумныя...» І зноў успомнілася яму, як казаў Рылюк пра сялянскі дух, што жыве ў сэрцах многіх людзей, нават гарадскіх людзей. І ў ім, Кузьме, гэты дух жыве. Добра гэта ці дрэнна? Што дрэннага ў тым, што яму амаль кожную ноч сніцца зямля — вясенняя — разапрэлая, узараная; восеньская — шэрая ад дажджоў, жоўтая ад лісця, якое сцелецца пад нагамі? А хіба кепска любіць працу, да поту, да гарачых мазалёў? А які бог ці які чалавек забараняе шанаваць жывёлу: каня, карову, авечку? Я хачу новага жыцця, я б'юся за яго,— думаў ён, ідучы па цёмнай ціхай вуліцы,— але я буду біцца за яго яшчэ лепш, кроў сваю аддам за яго, калі яно пашкадуе, зберажэ, не выпаліць з душы тое дарагое, тое святое, чым помніцца дзяцінства: звон сакавіцкага ручая, жаўранка над раллёй, шапаткія каласы на ўзмежку поля.

Дзесяткі эшалонаў кожны дзень ішлі з фронту ў Мінск. З халодных гнілых акопаў, з-за калючага дроту, з-пад шрапнелі ехаў расійскі салдат. Уцякаў ад вайны, ад калецтва, ад смерці. Чакалі яго галодныя дзеці, змарнелая жонка, пусты свіран, чакалі як збавення, як апошняй надзеі, і таму, ледзь толькі спыняўся эшалон, выскокваў ён з цяплушкі і, злы, абсіверaны, страшны, бег да начальніка станцыі, тыкаў яму ў грудзі чорнай руляй вінтоўкі, крычаў, раздзіраючы рот:

— Пуць! Давай пуць!

У гэтым крыку былі адначасова і пагроза, і просьба. Фронт зрабіўся дзіравым рэшатам.

— У гэтых Іванаў зноў рэвалюцыя,— белазуба смяяліся немцы. Трон пад іхнім кайзерам стаяў, здавалася, непарушна і цвёрда, як востры шышак на жалезнай афіцэрскай касцы.

А Іваны ехалі ў бок Мінска. Ехалі цэлымі ротамі, палкамі, ехалі ў цяплушках, на адкрытых платформах, пад снегам, пад ледзяным ветрам. У цяплушках і на платформах спявалі песні, гулялі ў карты,

курылі, пілі гарэлку, грызлі сухары, спрачаліся і марылі хутчэй дабрацца дадому, узяць зямлю, якую даў ім Ленін. Але ў Мінску ўжо яны не беглі з вінтоўкай і матам да начальніка станцыі, як у першыя дні. Іх сустракалі чырвонагвардзейскія атрады. Акопны народ адразу цішэў і лагаднеў. «Толькі б не завярнулі назад на фронт,— з трывогай думаў кожны салдат.— Касцьмі ляжам, а праб'ёмся на ўсход...»

— Выйсці ўсім з цяплушак! — камандавалі чырвонагвардзейцы. Кузьма разам з таварышамі абыходзіў цяплушкі і платформы, заглядаў ва ўсе куткі. Проста на снезе на пероне вырастала куча зброі: трохлінейкі, рэвальверы, шаблі, кінжалы, гранаты. Часам з-пад нараў з кучы саломы выкочвалі новенькі, змазаны, зараджаны «максім».

— Навошта гэту арудзію дамоў цягнеш? Гэта ж табе не швейная машына,— строга пытаўся Юшкоў у якога-небудзь дрымучага барадача.

Барадач разгублена лыпаў вачамі, чухаў патыліцу, здымаў з галавы папаху, зацярушаную саломай, і нарэшце адказваў:

— Ды такое яно дзела, таварыш начальнік... У хадзяйстве яно ўсё спатрэбіцца...

Кузьма глядзеў на «максіма», на барадача і думаў, што не такі ён ужо бяскрыўдны, гэты мужычок-кулачок у салдацкім шынялі, як прыкідваецца.

Аднойчы, калі правяралі чарговы эшалон, Кузьме ціха таўхнуў пад бок худы чарнавокі салдацік, шапнуў:

— Бачыш вунь таго? Казначэй нашага армейскага камітэта. Цэлы мільён дамоў валачэ.

Кузьма не паверыў, але на ўсякі выпадак разам з Беланогавым падышоў да казначэя, загадаў:

— Выкладвай, дзядзька, цалковыя.

У казначэя былі жоўта-зялёныя, нейкія дымныя вочы. Ён пабляднеў, у яго дробна закалаціліся няголеныя шчокі.

— Таварышы,— заікаючыся, сказаў ён,— таварышы дарагія, не губіце... У мяне хату маланкай спаліла ў Курскай губерні... Карову ваўкі зарэзалі...

Казначэй раптам сеў на снег, пачаў здзіраць з ног вялікія растаптаныя боты. Ступакі брудных ног былі абкручаны тоўстымі пачкамі грошай. Грошы востра пахлі потам. Калі Кузьма з Беланогавым, згробшы грошы ў конскую торбу для аўса, ішлі да Юшкова, да іх падбег чарнавокі салдацік, папрасіў:

— Дайце трохі мне... Я ж вам сказаў...

Ён глядзеў на іх паглядам галоднага хворага сабакі.

— Адыдзі! — таўхнуў яго плечуком Кузьма. Гэтыя прагавітыя чорныя вочкі быццам калолі яго проста ў сэрца.

— Спазніўся, служывы,— весела рагатнуў Беланогаў.— Кацярынак і керанак нідзе не бяруць. Золатам трэба расплачвацца.

Грошай налічылі дзевяноста восем тысяч.

«Колькі людзей едзе з фронту,— ужо не раз думаў Кузьма.— І добрыя людзі едуць, і погань плыве. Здаецца, уся Расія зрушылася з месца. А хто іх заменіць? Што будзе, як германец папрэ? Чырвонагвардзейцамі ўсе дзіркі не заткнеш».

Гэтыя думкі гнялі, сціскалі сэрца. Хацелася самому кінуць усё і паехаць дамоў. Адсюль, ад Мінска, да Асіповічаў вёрст сто цягніком, там вёрст трыццаць па шляху, па лясной дарозе і — Чмялі. Як гэтыя, даехаў бы на голай платформе, нават не еў і не спаў бы. Толькі б тэлеграфныя слупы лічыў.

Але падыходзіў Юшкоў, круціў чорны вус, пачынаў жартаваць:

— Што задумаўся, зямеля? Можа, маладзіц сабе падшукаем?

І забывалася ўсё благое. Ён зноў ішоў разам з усімі да эшалонаў, што шчацініліся штыкамі, правяраў цяплушкі, закінуўшы за спіну трохлінейку, залазіў на платформы. З кожным днём узмацнялася злосць на тых, што ўцякалі з фронту. Бягуць, як зайцы. Адно ў галаве — да сваіх свінак і каровак ды да цёплай бабскай спадніцы дабрацца. А хто будзе абараняць Савецкую ўладу, што іх людзьмі зрабіла, зямлю ім дала? Во ён, той самы сялянскі дух, пра які гаварыў Рылюк. Залезці б толькі ў свой бярлог, адгарадзіцца ад усяго свету дубовым плотам пад неба і, хоць зямля трэсні,— ні чужой бяды не ўбачыш, ні гора людскога не пачуеш. І ні ручаёў не трэба, ні жаўранкаў. Адно — болей ухапіць зямлі, чым сусед. Значыць, не ва ўсіх ён аднолькавы, дух гэты сялянскі. Адных ён вучыць усё жывое любіць, другім вочы засцілае, як гнілы балотны туман.

Прыйшоў новы эшалон. Як боб, пасыпаліся з цяплушак салдаты.

— Ста-а-а-наві-сь! — напругшыся ўсім целам, крыкнуў Юшкоў.

Сяк-так пастроіліся. Чырвонагвардзейцы пачалі адбіраць у акопнікаў зброю. Тыя аддавалі яе ахвотна, быццам пякла яка ім рукі. Гаварылі:

— Бярыце гэтае жалеза, толькі дадому нас прапусціце.

Кузьма павольна ішоў уздоўж, забіраў трохлінейкі і шаблі. Былі яны халодныя, мёрзлыя.

Адзін салдат аддаў адразу чатыры трохлінейкі. Кузьма глянуў на яго, сказаў:

— У цябе, пэўна, усе грудзі ў Георгіях. Трэба ж: адзін з чатырох вінтовак страляў.

— Ды не,— сумна ўсміхнуўся акопнік.— Адна ў мяне трохлінеечка. Вось гэтая, з абсмаленым прыкладам. А тры астатнія — падабраў, як сяброў сваіх у зямлю закопваў. Вінтоўкі, брат, жывуць болей, чым салдаты.

Кузьма пайшоў далей, але гэтыя словы зноў і зноў успаміналіся яму. Каля адной цяплушкі ён пачуў сумны і стомлены жаночы голас. Жанчына гаварыла салдатам і чырвонагвардзейцам:

— Свайго жаніха, героя унтэр-афіцэра з фронту вязу. Выпалілі яму германцы вочы. Свету белага не бачыць мой Грышачка.

Словы былі як механічныя, як завучаныя. Відаць, у доўгай дарозе яна паўтарала іх не раз, прывыкла да іх, як прывыкаюць жабракі прасіць міласціню. Ён прайшоў бы, пэўна, міма гэтых слоў, таму што многа гора бачыў за апошні час і ўжо ведаў, што нельга суцешыць усіх гаротных і пашкадаваць усіх сэрца не хопіць. Але голас... Дужа знаёмы быў гэты жаночы голас. І Кузьма азірнуўся. Жанчына, яшчэ маладжавая, з чорнымі, неахайна прычасанымі валасамі, са схуднелым зеленавата-белым тварам, у пацёртай футры з рудой вавёркі, глядзела на яго. Гэта была Галасоўская. Каля яе, трымаючыся за яе руку, стаяў, таксама яшчэ малады, унтэр-афіцэр, светла-русы танклявы прыгажун з чорнай, шаўковай павязкай на вачах. Твар у яго быў завостраны, каменны, як ва ўсіх, хто не бачыць сонца. Галасоўская, не міргаючы, глядзела на Кузьму, а ён глядзеў на унтэр-афіцэра. Сэрца яго пачало калаціцца. «Пастой, пастой,— адчуваючы, як кроў прылівае да шчок, думаў ён.— Дык гэта ж Стахееў. Паручнік Стахееў, а ніякі не унтэр-афіцэр. Бач ты, як морду сваю паганую хавае...»

— Іван! — паклікаў Кузьма Юшкова, а сам падышоў да сляпога унтэр-афіцэра і сарваў у яго з вачэй павязку.

— Ды ты што, крывасмок, семя крапіўнае, з героя вайны здзекуешся, жылы выдзіраеш?! — закрычалі салдаты, што за хвіліну да гэтага жаласліва слухалі Галасоўскую і давалі ёй і Стахееву сухары і цукар. Адзін з іх цяжкой халоднай рукою ўляпіў Кузьме па вуху.

— Ён лепей, чым вы, бачыць, гэты герой,— сказаў Кузьма і пачаў церці вуха рукавом шыняля. Салдаты знямелі. Сляпы, якога яны толькі што шкадавалі, глядзеў на іх прыгожымі блакітнымі вачамі. У гэтых вачах былі адчай і гнеў.

Падышоў Юшкоў, глянуў на унтэр-афіцэра, усё адразу зразумеў. Сказаў праз зубы:

— Што — абмыўся крывёй нашага Пчалаводава, гад? Мала табе крыві было? А зараз сваёй заплоціш. За земляка майго дарагога заплоціш.

Стахееў слухаў, апусціўшы галаву, потым нечакана плечы ў яго здрыгануліся, на шчоках зайгралі жаўлакі. Ён крыкнуў, пырскаючы слінай, і вочы зрабіліся сталёвымі:

— Скаціна! Мяне палохаеш? Я — рускі афіцэр! Страляй рускага афіцэра!

Худой белай рукой ён з трэскам разадраў на грудзях брудную кашулю. Усе ўбачылі: на белых валасатых грудзях ззяе маленькі залаты крыжык.

— Расстраляем — не сумнявайся,— спакойна сказаў Юшкоў. З якой асалодай ён стукнуў бы зараз кулаком у гэты злы, ненавісны твар, але ён быў камандзірам, адзіным камандзірам сярод усяго гэтага натоўпу, і ён да болю прыкусіў ніжнюю губу, стомленым голасам загадаў: — Беланогаў і Радзімовіч, завядзіце пакуль што яго ў вакзал.

— А што са мной зробяць? — ціха спыталася Галасоўская ў Кузьмы, калі ён вярнуўся з вакзала.

Кузьма маўчаў. Яму не хацелася ні глядзець на гэтую жанчыну, ні размаўляць з ёю. Яму з абвостранай, нейкай хваравітай выразнасцю ўспамінаўся луг каля вёскі Пагулянкі, шарэнгі мокрых, заляпаных тванню салдат, звонкі жаночы голас, які называў прозвішчы, і згорбленыя спіны тых, што, падпарадкоўваючыся гэтаму голасу, выходзілі са строю.

— Што са мной зробяць, Кузьма? — зноў спыталася яна. І ён падумаў, што яна ўпершыню назвала яго па імені.

Ён маўчаў.

— А я тады не сказала твайго прозвішча,— ускінуўшы галаву, суха і горда выдыхнула Галасоўская. І ў ім быццам лопнула нейкая спружына.

— Вас, мадамачка, я сваімі рукамі ўтапіў бы ў балоце каля вёскі Пагулянкі. Помніце такую вёску? — амаль крыкнуў ён.

Яна памаўчала, потым іранічна і высакамерна, як гэта могуць рабіць толькі тыя, хто нарадзіўся з блакітнай крывёю, усміхнулася:

— Нямногаму ж навучылі цябе твае бальшавікі...— і змоўкла. Твар яе зрабіўся мармурова-белы.

Кузьма крутнуўся, пайшоў ад эшалона. Ён баяўся, што не зможа авалодаць сабою і зробіць нешта жорсткае, нядобрае, чаго ніколі не прымала яго душа. Толькі зараз ён заўважыў, што ідзе снег і ўсё пакрыта снегам, нават рэйкі. Каля вакзала яму нечакана напаткаўся Рылюк.

— Чаго ты такі, Кузьма? — уважліва паглядзеў на яго Рылюк. І Кузьма, спяшаючыся, хвалюючыся, расказаў яму ўсё: пра Пчалаводава, пра Юшкова, пра Галасоўскую і Стахеева.

Яны ішлі каля высокага чыгуначнага насыпу, і зверху халодны вецер нёс ляскатанне цяжкіх колаў, свісткі паравозаў, рэшткі дыму.

Дым чорнай сажай асядаў на снезе, на белых бухматых дрэвах.

— Барацьба,— сказаў адно толькі слова Рылюк, і на ягоных бровах ззялі сняжынкі. Колькі крокаў яны прайшлі моўчкі, потым Рылюк паклаў Кузьму на плячо сваю лёгкую далонь: — А ты ведаеш, пра што я думаў? У нашай мове, аказваецца, няма жаночага роду ў слова звер. Няма звярыцы. Тыгрыца ёсць, ільвіца, а звярыцы няма. Добра, праўда?

Кузьма здзіўлена паглядзеў на яго. Яны яшчэ пагаварылі пра сёетое, і Кузьма вярнуўся на вакзал.

Галасоўскай ужо не было, і ён нават не пацікавіўся, дзе яна.

— Кузьма,— звярнуўся да яго Юшкоў,— завядзеш пана паручніка ў гарадскую камендатуру. Здасі асабіста ў рукі каменданту таварышу Крывашэеў ці яго памочніку. Разам з Беланогавым пойдзеш.

Стахееў ішоў без шапкі, згорбіўшыся. Беланогаў загадаў яму ўзяць рукі за спіну, цыркнуў слінай праз зубы:

— Уздумаеш уцякаць — прыстрэлім, як сабаку.

Кузьма глядзеў на штык сваёй вінтоўкі, на вузкую

спіну Стахеева, на сняжынкі, што павольна раставалі на гэтай спіне. Часам боты ў Стахеева слізгаліся, ён траціў раўнавагу, ледзь не падаў, але рукі ўсё роўна трымаў, як было загадана.

«Баіцца... Жыць хоча»,— падумаў Кузьма, ды ў ягоным сэрцы не было спачування да гэтага чалавека. Гэты чалавек, каб зноў вярнулася яго сіла і воля, расстраляў бы і Кузьму, і Беланогава на месцы — і белыя пальчаткі з рук не зняў бы.

Стараліся ісці па цішэйшых вуліцах, каб асабліва не трапляцца на вочы народу. Навошта ведаць цікаўным, хто, каго і куды вядзе? Недзе на сярэдзіне дарогі Стахееў пачаў глуха, надрыўна кашляць, аж плечы калаціліся.

— Хай адкашляецца,— сказаў Беланогаву Кузьма, і яны спыніліся. Стахееў кашляў, прыгнуўшы галаву, цёр падбародкам аб плячук, крывіўся.

Выйшлі на Нямігу, і народу пабольшала.

— Ідзі хутчэй! — Кончыкам свайго штыка крануў Кузьма спіну Стахеева. Вясковыя цёткі, з новымі бліскучымі чыгунамі ў руках, разявіўшы раты, глядзелі на іх.

— Глядзіце, бабкі, каб у рот фурманка не ўехала,— усміхнуўся Беланогаў.

Насустрач з магазінчыка вывалілася на вуліцу кампанія польскіх уланаў, чалавек восем. Усе ў штанах з чырвонымі лампасамі, у рагатых канфедэратках. Уланам, бачна па ўсім, было весела.

— Гуляюць жарабкі,— буркнуў, гледзячы на іх, Беланогаў. Не любілі ў Мінску гэтых ваяк генерала Доўбар-Мусніцкага. Створаны ў час вайны па дазволу Часовага ўрада 1-ы Польскі корпус, з кожным днём рабіўся ўсё больш анархічным, нахабным, не прызнаваў ні дэкрэтаў Савецкай улады, ні самую гэтую ўладу.

Уланы параўняліся, перайшлі на другі бок вузкай вуліцы.

— Што гэта, Яцэк? — спытаўся ў свайго таварыша малады светлабровы улан, амаль хлапчук, у якога з-пад канфедэраткі тырчалі чорныя круглыя навушнікі.

— Хрыста вядуць на Галгофу,— адказаў той.

Палякі стрымана засмяяліся.

І тут Стахееў крута павярнуўся да іх, бухнуўся каленямі ў мокры снег:

— Панове воіны, не дайце загінуць хрысціянскай душы.

— Уставай! — шмаргануў яго рукой за каўнер Беланогаў. Але падбеглі уланы, абступілі Стахеева. Ад іх пахла гарэлкай і цыбуляй.

— Свабода павінна быць для ўсіх... Што гэта за свабода, калі чалавека, як быдла, вядуць пад канвоем? — перакручваючы рускія словы, гаварыў Кузьму светлабровы і трымаў рукой яго вінтоўку.

— Нельга рабіць такое!

— Ганьба! — крычалі палякі, перайшоўшы ўжо на сваю мову.

Стахееў раптам штурхнуў светлабровага з усяе сілы на Кузьму, а сам з вуліцы скочыў у невялічкі дворык, які быў якраз насупраць, і запёрся з сярэдзіны.

— Пусці! — крыкнуў Кузьма улану і стукнуў яго прыкладам у грудзі. Той асеў на снег.

Беланогаў, налёгшы плячом, хацеў выламаць нізенькія дзверы. Было чутно, як там, за дзвярамі, трашчыць, страляе чарапіца — пэўна, Стахееў узлазіць на страху.

«Не дай бог, уцячэ...» — жахнуўся Кузьма і, распіхнуўшы уланаў, палез цераз плот. На развітанне яны паспелі пачаставаць яго звонкай аплявухай, ад якой анямела шчака. На плоце Кузьма зачапіўся крысом шыняля за штыкеціну і паляцеў потырч носам. Адразу ўсхапіўся, агледзеўся. Крокі за тры ад яго, стоячы на ганку, калаціўся ад страху маршчыністы сівабароды яўрэй — гаспадар дома. Пэўна, выходзіў на

двор па патрэбе, ды так і застыў з рукой, якая дарэмна спрабавала зашпіліць гузікі ў плюшавых нагавіцах.

— Тут бег чалавек,— задыхаючыся, нават не гледзячы на старога, хрыпла сказаў Кузьма. Стары ўсё яшчэ трымцеў ад страху і пальцам паказваў сабе за спіну:

— Там... там...

Двор быў квадратны, глухі, як глыбокі калодзеж, і Стахееў сігануў проста цераз хляўчук. На чарапічнай страсе віднеліся праломы, віліся свежыя трэшчыны. Кузьма з Беланогавым не палезлі на страху. Калі ж яны аббеглі двор, то трапілі ў такія лабірынты вулачак, дворыкаў, гліняных сцен, што ў роспачы спыніліся. Беланогаў плюнуў сабе пад ногі: «Уцёк!» — і, каб на нечым адвесці душу, са злосцю ўсадзіў штык у нізенькія дзверцы з дошак, за якімі пачынаўся новы дворык. Дзверцы жалобна зарыпелі.

— Ну як, узрадавалі таварыша Крывашэін? — весела спытаўся Юшкоў, калі яны вярнуліся ў свой барак-казарму.

— Збег ён,— глуха сказаў Кузьма.

— Хто? — не зразумеў Юшкоў.

— Сучка Стахееў збег,— Кузьма раптам хліпнуў носам.— Рабі што хочаш...

Юшкоў паглядзеў на яго, як на ідыёта, потым пабялеў, стукнуў кулаком па калене:

— Каму даверыў?! Шчанюкі сляпыя! Што мне Пчалаводаў скажа за кроў яго неадпомшчаную?

Ён прабег з кута ў кут, спыніўся, звёў бровы ў чорную трапяткую спружыну:

— На губу! На трое сутак — абодвух!

Другі раз за апошнія месяцы сядзеў Кузьма на гаўптвахце.

Толькі зараз пасадзілі яго свае, лепшы сябра пасадзіў. Гэта было асабліва крыўдна.

«Ніколі не дарую яму»,— падумаў Кузьма, намацаў у цемры халодны чурбанок, сеў на яго, абшчапіў галаву рукамі. Хацелася плакаць. Праз колькі гадзін ён заснуў, звіўшыся абаранкам на мулкіх дошках каля Беланогава. Сон быў цяжкі, трывожны. Сярод ночы ён раптам усхапіўся, няўцямна паглядзеў у цемру. Пакутна і шчымліва ўсплылі ў памяці словы: «Што мне Пчалаводаў скажа за кроў яго неадпомшчаную?»

XII

Праз два дні знадворку заскрыгатаў у замку ключ. Прыгнуўшыся, каб не ўдарыцца галавой аб вушак, у клетушок, які быў «губой», увайшоў Юшкоў, ціхі, трошкі разгублены.

— Выходзьце, хлопцы,— сказаў Юшкоў.— Таго гада мы ўсё роўна зловім. Нікуды не ўцячэ.

— Нам яшчэ дзень трэба адбыць. Ты ж на тры дні пасадзіў,— буркнуў Кузьма, што ляжаў на нарах, і павярнуўся на другі бок, тварам да сцяны.

Юшкоў быццам не заўважыў ягонай злосці, працягваў гаварыць лагодным, спакойным голасам:

— Нядзеля сёння. Святы дзень. Папы моляцца, буржуі недабітыя гарэлку п'юць, а чаму пралетарскі салдат павінен на нарах з прусакамі шаптацца? Так што — выходзьце...

Злосць у Кузьмы паціху пачала астываць. «Усё-ткі сам прыйшоў,— падумаў ён пра Юшкова,— усё-ткі сумленне заела...» Яму зрабілася радасна, што Юшкоў хоць і гарачы чалавек, але затое верны сябар. І ўсё ж ён не збіраўся выходзіць адсюль першы, нават каб гэты катушок ахапіла раптам полымя. Выручыў яго Беланогаў. Шумна злез з нараў, строс з сябе саламяную пацяруху, пацягнуўся і весела сказаў:

— Ну што ж, калі начальства выпускае, можна і выйсці. А то тут трохі цесна — страявой падрыхтоўкай няма дзе заняцца.

Выйшлі на свежае паветра, і Кузьму асляпіла сонца. Такое яно было зыркае, прамяністае, вясёлае. На высокіх старых ліпах, што раслі ўздоўж вуліцы, каркалі вароны. Непадалёку бабулька несла драўляныя вёдры з вадою, і з вёдраў белымі павольнымі кольцамі выплывала пара. Снег ззяў, як ззяе луска плоткі, якую ў яркі летні дзень выцягваеш з цёплай вады. Кузьма заплюшчыў вочы і колькі крокаў ішоў, нібы сляпы.

— Ты ўжо не крыўдуй, зямеля,— ціха і вінавата гаварыў Юшкоў, калі Беланогаў пайшоў у казарму і яны засталіся адны. Хрумстка рыпеў пад нагамі снег. Калючы ветрык шчыпаў твары.

— Чаго крыўдаваць? Твая праўда. Ніколі не дарую сабе, што ён выслізнуў. А прабачэння ты не прасі. Хіба камандзіры просяць прабачэння ў падначаленых? — глянуў на яго Кузьма.

Юшкоў нахмурыўся:

— Па-твойму, камандзір заўсёды павінен салдата носам у гразь класці. Як Стахееў рабіў, як рабіла ўсё іхняе кодла, так? Для чаго ж тады рэвалюцыю мы рабілі? Каб самім салдата па мордзе біць?

— Не сярдуй, Іван,— узяў яго за локаць Кузьма.— Харошы ты чалавек. І камандзір добры. І я чэсна скажу: заўсёды ты мне, як брат. А калі-небудзь, як і бацька.

— Кінь ты ўсё гэта,— павесялеў Юшкоў і збіў на патыліцу сваю шапку.— Слухай. Сёння мы з табой пойдзем у горад. Рамнёў адпусціў да вечара. Куды, думаеш, нам ірвануць? У губернатарскі сад ці, можа, на Троецкую гару?

— Хто ж зімой у сад ходзіць? Зімой трэба некуды ў цёплае,— Кузьма ўзрадаваўся гэтай навіне і, падумаўшы, прапанаваў:

— Пойдзем да адной знаёмай...

Юшкоў разявіў ад здзіўлення рот і зморшчыў лоб, але не стаў распытваць, бадзёра стукнуў кулаком аб кулак:

— Ну то слухай свайго бацьку, ён дрэннаму не навучыць. Бягом на конку!

Калі ўжо ехалі на концы, Кузьма сказаў:

— Да Лусковічавай жонкі Праскоўі завітаем...

— Цю-ю,— прысвіснуў Юшкоў.— Да жонкі... А я думаў, чым-небудзь саладзейшым пахне.

Ён раптам пасур'ёзнеў, глянуў на Кузьму:

— Да чыёй, кажаш, жонкі? Кандрата Лусковіча? Дык яго ж ужо...

— Забіла,— дагаварыў Кузьма.— Але Праскоўя пра гэта не ведае. І не павінна ведаць.

Юшкоў прахукаў, а потым пракруціў вялікім пальцам у лёдзе на шкле дзірачку. Прыціснуўшыся да шкла загарэлым ілбом, глядзеў у гэту дзірачку і быў падобны на хлапчука, што падглядвае за нечым забароненым, дужа цікавым. Час ад часу ён гаварыў:

— З чырвоным сцягам прайшлі... Малец бяжыць па рэйках, пэўна, свіснуў што-небудзь у гандляркі... Улан з нашай дзяўчынай ідзе... Камендант гарнізона Крывашэін у сваім аўтамабілі паехаў...

Гаварыў гэта ўсё ён сур'ёзна, быццам ад гэтага залежала, даедуць ці не даедуць яны да Праскоўі Лусковіч. Кузьма з лёгкай усмешкай глядзеў на свайго сябра і баявога камандзіра і ўжо не першы раз думаў: які ўсё-такі Юшкоў непадобны на іншых, як жывуць у ім побач і суровы адчайны мужчына і наіўнае даверлівае дзіця.

Злезлі з конкі, купілі ў краме цукерак і пайшлі на Багадзельную. Кузьма адчуваў, як нарастае ў ім хваляванне.

— Ты ж глядзі, Іван, пра Кандрата ёй ні слова. Жывы, здаровы, прывітанне перадаваў. Вось і ўсё,— нагадаў ён Юшкову.

Праскоўя мыла падлогу. Яна так і застыла з мокрай анучай у руках, босая, расчырванелая. Малы сядзеў на ложку і з яловых шышак рабіў звяроў і птушак.

— Прымай гасцей, гаспадыня,— сказаў Кузьма, прыпыніўшыся на парозе.

Яна яшчэ больш пачырванела, хуценька кінула ім пад ногі анучу.

— Заходзьце... заходзьце...

— Юшкоў,— стукнуўшы абцасамі, пакланіўся і падаў Праскоўі руку Юшкоў.

Праскоўя, відаць было, рада прыходу гасцей, і радасць гэтая разлівалася чырванню па шчоках, маладзіла яе, рабіла рухавай і дужа прыгожай. Кузьма не мог адарваць ад яе вачэй. Ён з нейкай незвычайнай цеплынёй і вастрынёй адчуў, што ў ім загараецца, напаўняе сэрца радасць. Колькі ж ён не быў тут, у гэтым маленькім ціхім пакоі? Месяцы са два. Значыць, увесь гэты час, можа, незаўважна для сябе, падсвядома, ён чакаў вяртання сюды, чакаў сустрэчы. І яму было прыемна бачыць тыя самыя фікусы на акне, самаробныя зэдлікі і крэслы, белыя фіранкі, бярэмца сухіх дроў каля печы. Столькі за гэтыя месяцы адбылося змен на свеце, столькі пралілося слёз і крыві, столькі было гора і шчасця, а тут усё заставалася такім, як тады, быццам чакала яго.

— Які ж ты, брат, жоўценькі,— падышоў да Праскоўінага сына Юшкоў і ўзяў яго на рукі.— Цягай дзядзьку за вусы. Не хочаш? А як завуць цябе?

— Сяргейка,— адказаў малы.

— Бяры цукеркі, Сяргей.

Селі за стол. Праскоўя прынесла на закусь усё, што магла: агуркі, капусту, хлеб. Паставіла бутэльку з чырвонай наліўкай.

Кузьма глянуў на Юшкова.

— Можна,— сказаў Юшкоў.— За знаёмства і за ўсё добрае можна...

Выпілі. Кузьма адчуў, як па ўсім целе пакацілася мяккая цёплая млявасць.

— А дзе ж Анюта? — спытаўся ён.

— Няма яе,— спахмурнела Праскоўя.

— Можа ў Піцер паехала?

— Няма. Атруцілася. У нас на фабрыцы сушыльная печ ёсць, дзе табаку сушаць. Дык яна ў абед залезла туды, зачынілася... Калі знайшлі рабочыя, ужо мёртвая была.

Гэтая навіна аглушыла Кузьму. Не хацелася паверыць, што ўжо няма на свеце гэтай ціхмянай, сумнай, няшчаснай і прыгожай дзяўчыны. Ён успомніў, як яна гаварыла з ім, як усё старалася не глядзець у твар, а калі ён пайшоў з барака, доўга пазірала ўслед, пры-таіўшыся за фіранкай. Некалькі хвілін усе маўчалі, бо навіна абдала холадам, замарозіла вусны. Потым Кузьма пацікавіўся:

— А як у цябе справы? Праскоўя ўспыхнула:

— У мяне ўсё пакуль што добра. Я ўжо начальства. У рабочым кантролі на фабрыцы саетаю.

— Ого! — прыгладзіў вусы Юшкоў.— Дык мы з табой, Праскоўя, абое ў людзі выбіліся пры Савецкай уладзе. Кузьма вось толькі адстае.

— А хіба дрэнна быць чырвонагвардзейцам? — глянула Праскоўя на Юшкова і на Кузьму. Кузьма маўчаў. Яму думалася: чаму яна нічога не пытае пра свайго мужа? Даведацца пра ягоную смерць не магла. Значыць, проста забылася пра яго. Убачыла новых кавалераў, новых бугаёў — і забылася. Няўжо яна такая?

Ён нахмурыўся і сказаў:

— Кандрат табе прывет шле. І Сяргею. Праскоўя перамянілася з твару, дакранулася рукой да шчакі, ціха прамовіла:

— Дзякую...

І нават не пацікавілася — як у мужа справы, як са здароўем. «Праўду кажуць, кароткая бабская памяць,— толькі мужык за парог, а яна з другім на палок... І гэтая, пэўна, з такіх жа...»

Кузьма шумна ўздыхнуў і сказаў Юшкову:

— Давай, Іван, яшчэ па адной вып'ем. За светлую памяць Анюты...

У гэты час загрукалі ў калідоры — нехта абіваў снег з ног. Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў — не, хутчэй за ўсё ўскочыў — Васька Шворан. Быў ён расчырванелы, вясёлы. Шапка збіта на патыліцу. З-пад шапкі тырчаць мокрыя і таму бліскучыя валасы. Ён глянуў на Кузьму і адразу, задыхаючыся, спытаўся:

— Ты шапку абяцаў салдацкую з фронту прывезці. Прывёз?

— А ў нас здароўкаюцца, браце мой,— строга глянуў на яго Юшкоў і нават пагрозліва выскаліў зубы, як гэта ён умеў рабіць, жартуючы.

Васька, глянуўшы на такога сярдзітага дзядзьку, зрабіў крок назад, да дзвярэй.

Кузьму зрабілася вельмі няёмка — як гэта ён, сапраўды, забыўся. Словы на вецер пусціў, паабяцаў і забыўся. А хлопец чакаў. Хто ж яму болей прывязе? Можа, нават ноччу снілася гэтая шапка.

Ён узняўся з крэсла, падышоў да Ваські, паклаў яму руку на плячо.

— Прабач. Забегаўся я па службе, закруціўся. Шапку я табе ў наступную нядзелю прывязу, абавязкова. Добра?

У цёмных Васькавых вачах трапятала такое расчараванне, такая крыўда, здавалася, вось-вось слёзы пырснуць. Але ён пракаўтнуў у горле камяк крыўды, згодна кіўнуў галавой:

— Добра. Хай у тую нядзелю. Дык я пабягу на вуліцу.

І, яшчэ раз спалохана глянуўшы на Юшкова, Васька выскачыў з хаты.

— Праштрафіўся я,— разгублена ўсміхнуўся Кузьма.

Яшчэ трохі пасядзелі за сталом, але размова не клеілася. Кузьма адчуваў, што ва ўсім вінаваты ён сам. Не ідуць у яго з горла словы, як успомніць тое балота, у якім сканаў Кандрат Лусковіч, як паглядзіць на яго жонку. Юшкоў, пэўна, таксама знайшоў бы, што сказаць, але ў яго свая прычына — прыйшоў першы раз, не ведае, што ў Прасcоўі з Кузьмой, і таму маўчыць, чакае.

— Засумавалі мае госцейка — уздыхнула Праскоўя.— Не ўмею я весяліць.— Яна раптам паглядзела на іх, сказала: — Ведаеце што. Пойдзем у электратэатр на Захар'еўскую. Там пра вайну паказваюць.

— Гэта дзела,— узрадаваўся Юшкоў.— Піць нам болей не паложана, а прагуляцца — з вялікай прыемнасцю...

Ён глянуў на Праскоўінага сына:

— Сяргея таксама возьмем?

— З ім Васька пасядзіць. Той самы, каго вы так напалохалі...

Утраіх яны выйшлі на вуліцу. Праскоўя, у доўгім сінім паліто з вялікімі бліскучымі гузікамі, у чорных боціках, з прыгожай футравай шапачкай на галаве, стала пасярод, узяла Юшкова і Кузьму пад рукі. Шчокі яе чырванелі — ці то ад марозу, ці ад хвалявання.

Кузьма спінаю адчуваў жаночыя позіркі з акон барака. «Ну цяпер трымайся — усе костачкі перамыюць,— халадзеючы, падумаў ён.— Нам яшчэ нічога. Нам, як той казаў — зрабіў сваё, ды ў кусты. А яна? Салдатка. Жанчына з дзіцем на руках. І на табе — адразу двух мужыкоў падчапіла пад рукі, пад вокнамі ва ўсіх пайшла».

Ён адчуваў яе цёплы мяккі локаць. Было няёмка: няўжо так хутка забылася яна пра Кандрата? Але было і прыемна. Было прыемна ісці побач з ёй, прыгожай, смелай, яшчэ такой маладой. «Хай глядзяць,— падумалася яму,— не векаваць жа ёй у чатырох сценах, не труціцца, як Анюце. Яна, можа, больш, чым хто, мае права на чалавечае, на жаночае шчасце».

— Эдэм,— прачытаў Юшкоў вялікія літары над уваходам у электратэатр: — А што гэта такое?

— Не ведаю,— сказала Праскоўя.— Так электратэатр называецца...

Кузьма яшчэ ні разу тут не быў. Усё яго здзіўляла: і мноства народу, вясёлага, добра апранутага — прычым вельмі многа было дзяўчат і жанчын; і крэслы, што доўгімі шарэнгамі стаялі адно каля аднаго; і яркае святло, якое лілося аднекуль зверху. На сцяне вісела вялікая белая матэрыя, падобная на звычайную прасціну.

— Нашы месцы тут,— сказала Праскоўя, і яны селі непадалёку ад уваходу.

Кузьма сеў злева ад Праскоўі. Неўзабаве патухла святло, недзе зайграла, забрынкала музыка, і белая матэрыя асвяцілася. І па ёй забегалі жывыя людзі. Кузьма ўжо чуў, што ёсць такая штука, у якой на сцяне паказваюць жывых людзей і розныя машыны, але ўпершыню сам убачыў такое. Ён сядзеў, моцна ўчапіўшыся рукамі ў ручкі крэсла, і не дыхаў. «Трэба ж дадумацца да такога»,— здзіўляўся ён.

Людзі пабегалі, пабегалі, памахалі рукамі, потым адзін аднаго стукнуў парожняй бутэлькай па галаве. Усе наўкола засмяяліся. Толькі Кузьма не паспеў засмяяцца. Потым паказвалі розных урадаў. Адзін быў такі вялікі, што ехаў у аўтамабілі, а ягоная галава тырчала, прабіўшы кабіну. Другі глытаў нажы і цвікі. І галавешку з агнём праглынуў. Трэці ж так зморшчыў твар, так увабраў шчокі і нос, што замест твару ў яго атрымаўся блін.

— Ну і даюць хлопцы,— задаволена крэкнуў Юшкоў.

Кузьма сядзеў і баяўся — барані бог, Праскоўя заўважыць, што ён упершыню ў электратэатры. І ён стараўся асабліва не здзіўляцца і не смяяцца. Цёплае Праскоўіна плячо было каля яго пляча, і калі яна смяялася, іх плечы на імгненне сутыкаліся. Кузьма адчуваў, як замірае яго сэрца, нібы правальваецца ў цёплую бездань.

Між тым на экране з'явіліся словы: «Ваенная хроніка. Газавая нямецкая атака на Марне». Кузьма ўбачыў вузкую паласу траншэй, над траншэямі калючы дрот, крывое, расшчэпленае снарадамі дрэва. У траншэях — людзі. Уціснуліся тварамі і жыватамі ў зямлю, як краты. А над чорным полем усё бліжэй і бліжэй да траншэй плыве, калышацца вялікае белае воблака. «Пэўна, дым»,— падумаў Кузьма. Вось воблака цяжка перавалілася праз пярэдні край траншэй, затапіла траншэі. І людзі, там, у траншэях, раптам замітусіліся, заскакалі, нібы іх пачало прыпякаць агнём. Некаторыя нацягвалі на галовы шынялі, нейкія прасціны, мяшкі. Вось адзін салдат раптам упаў на зямлю, рукі і ногі ў яго пачалі калаціцца, звівацца, выломвацца з суставаў, быццам хацелі аддзяліцца ад цела. Вось упала пяць... дзесяць... трыццаць чалавек... Салдат касіў нейкі страшны раптоўны мор, нейкая імгненная чума« Кузьма ўбачыў перакошаны болем і страхам твар маладога мёртвага салдата.

На губах — пена.

— І мой жа Кандратка мёртвы,— раптам усхліпнула, уткнулася яму галавой у плячо Праскоўя.— І ніхто не пагаласіў над ім. Я ж яшчэ тады здагадалася...

Плечы яе дробна трымцелі, цёплыя слёзы падалі на Кузьмову руку.

— Ты што? — халадзеючы, шапнуў ёй Кузьма.

— Я яшчэ тады здагадалася,— ціха, няўцешна плакала яна яму ў шынель.

Яны сядзелі ў цеснай цёмнай зале, сярод незнаёмых чужых людзей, і перад імі на пакамечанай белай прасціне зашываліся тварам у брудны пясок, паміралі чужыя людзі, напэўна, французскія салдаты. Нехта ззаду сіпла кашляў, нехта курыў, нехта пляваў сабе пад ногі шалупінне ад гарбузікаў.

«Дык яна ўсё ведала,— заходзілася ад болю, спачування і пяшчоты Кузьмова сэрца.— Яна яшчэ тады, як я першы раз прыйшоў, здагадалася, што Кандрата ўжо няма. А я думаў, што яна з тых, з прадажных...»

Яму раптам стала горача. Ён расшпіліў шынель. Сэрца білася рыўкамі. Ён знайшоў у цемры Праскоўіну руку, маленькую, цвёрдую, і гладзіў, гладзіў яе. І гэтая рука заціхала, супакойвалася пад яго рукою.

Калі выйшлі з залы на вуліцу, Юшкоў сказаў:

— Ну і касіў людзей гэты газ. Аж мароз па скуры.

«Ці не заўважыў нічога, ці хітрue, прыкідваецца,— падумаў Кузьма. Яму ўсё яшчэ было горача.— Я так дрэнна, так нядобра думаў пра яе»,— зноў і зноў успыхвала ў галаве неадчэпная, згрызотная думка.

Яны прайшліся па Захар'еўскай, звярнулі ў завулак. Праскоўя была сцішаная, бледная.

— Ну вось што,— сказаў Юшкоў і пакратаў рукой свой доўгі вус,— я пабягу ў казарму — там каравульная каманда павінна чысціць зброю, а ты, Кузьма, правядзі Праскоўю дадому. І каб праз гадзіну, як штык, быў у казарме...

Ён строга глянуў на Кузьму, потым павярнуўся да Праскоўі:

— Дзякуй табе за хлеб-соль. На, вось яшчэ ў кішэні засталіся — сынку свайму цукерак перадай.

Па ціхім аснежаным завулку пайшлі яны. Наперадзе Праскоўя, крыху ззаду — Кузьма. Снег мякка слаўся пад нагамі. Сонца хавалася на захадзе — за шэрымі стрэхамі дамоў, за дрэвамі. Неба было дзіўнага колеру — чырванавата-зялёнае, пасярэбранае. Марозік слабеў, і прыемна было падстаўляць твар сустрэчнаму ветрыку. Ён казытаў шчокі, лоб, вусны.

— Пад Нясвіжам забіла Кандрата,— сказаў Кузьма, і яны зноў пайшлі моўчкі. Яму было прыемна бачыць, як яна ідзе, як мякка ставіць нагу, як белым снежным пылам засыпаюцца яе боцікі.

«Яна, можа, больш, чым хто іншы, мае права на шчасце»,— зноў успомніў ён сваю думку.

Падышлі да барака. Праскоўя глянула на Кузьму, ціха сказала:

— Прыходзь да мяне, Кузьма... Не забывай...

І хуценька, амаль подбегам, пайшла да дзвярэй. Яму быццам нечым апякло грудзі. Ён бачыў, як яна бярэцца рукою за клямку, як, тупаючы па ганку боцікамі, аббівае з іх снег, і яму хацелася, каб яна вярнулася, каб яны зноў хадзілі па горадзе, слухалі рыпенне снегу, глядзелі на зялёнае вечаровае неба.

— Я заўтра прыйду, Праскоўя,— гукнуў ёй услед.

Назаўтра з раніцы іхняя рота зноў была на вакзале. Кузьма ўважліва ўглядаўся ў твары ўсіх, хто ехаў з фронту. Думалася: апёкся на Стахееве, дык хоць зараз бы не прапусціць якую-небудзь птушку. Можа, Мыльнікаў ці Кукавераў надумаліся, калі толькі раней гэтага не зрабілі, даць лататы да сталіц — Петраграда і Масквы. Але нікога са знаёмых не было.

Пад вечар Кузьма падышоў да Юшкова, адводзячы ўбок вочы, папрасіў:

— Іван, мне трэба да Праскоўі збегаць... Адпусці...

Юшкоў хмыкнуў, падазрона глянуў на яго:

— Што — там дзверы мёдам памазаны? Ведаеш — я несур'ёзных спраў не люблю.

Кузьма з надзеяй глядзеў яму ў вочы.

— Добра — ідзі,— памякчэў Юшкоў.— Толькі, каб усё было добра. Помні, што ваяваць мы яшчэ не скончылі. І помні пра гэты самы... Як яго?.. пра таямнічы лабірынт жаночай душы.

— Што? — У Кузьмы ад здзіўлення пакруглелі вочы.

— Ат,— махнуў рукой Юшкоў.— Беланогаў нядаўна кніжку прыносіў, чытаў, дык у ёй і было пра гэты самы... і не выгаварыш яго. Ну ды ты чуў, пра што я табе казаў...

У казарме ў каптэнармуса Юркаўца Кузьма папрасіў спісаную шапку:

— Выберы толькі невялікую. На хлопца...

Паклаў у кішэнь добры кавалак цукру, загорнутую ў газеціну лусту жоўтага сала і рушыў на Багадзельню.

Чым бліжэй падыходзіў ён да барака, тым больш хваляваўся.

«Што я ёй скажу? — думаў ён.— Як сустрэне яна мяне?.. Падумае: прыбег, як памаўзлівы кот на сала...»

Гэтага ён баяўся больш за ўсё. Толькі б не прыйшло ёй у галаву, што ён, шкадуючы яе, хоча пакарыстацца яе слабасцю і адзінотай. Зноў і зноў успаміналася Кузьму, як сядзелі яны ў электратэатры, як сутыкаліся іхнія плечы, як пад яго рукой заціхала яе рука. Усё гэта да драбніц урэзалася яму ў памяць, зрабілася неад'емнай часткай яго

самога. І ён баяўся, што гэтага болей можа не быць, што там, у цемры залы, запоўненай чужымі людзьмі, застаўся іхні ўзаемны, такі кароткі давер, які знік, як толькі яны выйшлі на вуліцу. «Але ж яна сказала «прыходзь»,— успамінаў ён,— значыць, яна таксама думала і думае пра мяне...»

Запаволіўшы хаду, ён падышоў да барака, і барак, няўклюдны, згорблены, стары, патрэсканы барак, што быў падобны на стогадовага маршчыністага дзеда, здаўся яму светлым і прыгожым. Тут жыла яна. Гэты барак праводзіў раніцой яе на працу, увечары сустракаў, слухаў яе начное дыханне, бачыў яе слёзы, зрэдку асвятляўся яе смехам.

Ужо з-за таго, што тут жыла яна, можна было любіць гэты барак.

Кузьмова сэрца білася ўсё мацней. Ён не мог даць яму рады, не мог яго нічым супакоіць. Ён думаў: «Што гэта я? Быццам хлапчук... Была ж Франя Перуноўская, была Галасоўская... Быццам упершыню...»

Але сэрца не так лёгка падмануць. Сёння яно білася, ён адчуваў гэта, не так, як раней, як, напрыклад, з Франяй. Значыць, сэрца здагадвалася, што тое, што можа адбыцца зараз з ім, адбудзецца ўпершыню.

Каля барака Кузьма спыніўся, агледзеўся. З радасцю ўбачыў Ваську Шворана. Васька, сагнуўшыся, цяжка нёс з хлеўчука бярэма засыпаных снегам дроў.

— Васька! — паклікаў Кузьма.— Я табе шапку салдацкую прынёс.

Васька кінуў на зямлю дровы, падбег, радасна схапіў шапку, прымераў яе і зажмурыўся ад задавальнення.

— Ух ты! Якраз. Дзякуй табе!

Ён сцягнуў з галавы шапку, круціў яе ў руках, сказаў, спахмурнеўшы:

— А зорачкі на ёй няма. Зараз, я на Захар'еўскай бачыў, ужо чырвоныя зорачкі салдаты носяць...

Кузьма ўсміхнуўся:

— Не ўсё, брат, адразу... У мяне самога яшчэ такой зорачкі няма. Але, як можна будзе, табе прынясу.

Ён ступіў на чысты, не крануты нічыёй нагой снег ганка, і сэрца зноў закалацілася горача і звонка. Ён ціха пастукаў у дзверы.

Праскоўя была ў белай, ярка-белай, ён нават зажмурыў вочы, кофтачцы, у доўгай чорнай спадніцы. Валасы гладка прычасаны, аж нацягнутыя, як струны, на скронях; шчокі ружовыя быццам з марозу.

Кузьма павітаўся, пагладзіў галаву Сяргейку, што падбег да яго, сказаў:

— Вось я прыйшоў...

Ён хацеў сказаць нешта іншае, нешта лепшае, але гэтыя словы самі зляцелі з вуснаў.

— Сядай, Кузьма,— сказала Праскоўя і падсунула яму крэсла. Сама стаяла каля стала, паклаўшы на сталешніцу рукі. Прамень сонца, вечаровы і таму слабы і нярэзкі, падаў на яе твар, і твар здаваўся залатым.

— Добры ў цябе сябар,— сказала яна пра Юшкова.— Вясёлы, але і сур'ёзны.

— Я з ім з самага фронту,— прыгладзіў рукой валасы Кузьма.— Каб ты ведала, як ён на гармоніку ўмее іграць...

І зноў ён адчуў, што сказаў не тое. І яна таксама адчула. Яны гаварылі, шмат пра што гаварылі, але абое ведалі: вось-вось скончацца ўсе словы, як канчаецца густы, але кароткі летні дождж, і наступіць цішыня, і ў гэтай цішыні ўжо не дапамогуць ніякія словы.

Ён слухаў яе мяккі, цёплы голас, глядзеў на яе, і яму думалася, што ён даўно-даўно кахаў яе, кахаў яшчэ тады, калі быў малы, пасвіў ноччу коней і глядзеў на чорнае, залатое ад зорак неба. Ці тады, калі восенню стаяў, прыпаўшы спінай да сасны, а ў верхавінах мокрых дрэў гуў зялёны лясны вецер.

Праскоўя раптам падышла да акна, пастукала ў шыбіну, паклікала:

— Васька!

Васька Шворан падбег аднекуль з вуліцы, прыліп носам да шкла, і ўвесь яго твар зрабіўся падобны на чырвоны круглы блін.

— Васька, галубок, пагуляй з Сяргейкам на вуліцы,— папрасіла Праскоўя.— Я табе грошай дам. Схадзіце ў краму да Ашаровіча цукерак купіце...

Праз колькі часу Васька за руку павёў цёпла застанага малога на вуліцу, і адтуль, з вуліцы, пачуўся іхні смех. Кузьма з Праскоўяй засталіся адны. Патух прамень сонца, і ў пакоі зрабілася цёмна.

— Сонца зайшло...— чамусьці сказала Праскоўя і зачыніла дзверы на зашчапку. Потым, бялеючы тварам, пайшла за фіранку. Кузьма сядзеў на крэсле і баяўся, што яна пачуе, як у ягоных грудзях б'ецца, аж гудзе сэрца.

— Ідзі сюды,— ціха шапнула яна.

Ён, цяжка ступаючы, пайшоў на яе голас, і шырма лёгка кранула шчаку. Ён успомніў, што так у восеньскім лесе дакранаецца да твару павуціна. Рукамі ён злавіў Праскоўю, іх вусны сустрэліся.

— Пачакай... Я кофтачку здыму...— шапнула яна, не адрываючыся ад ягоных вуснаў.

Ціхі і супакоены, ён ляжаў потым на яе ложку, а яна плакала ў яго на плячы. Ён гладзіў яе валасы і здзіўлена і шчасліва ўглядаўся ў цемру. Толькі што ягоная душа гасцявала на далёкіх блакітных зорках, і светлыя ранішнія лясы пырскалі на яе гаючай расою, і цёплы легкакрылы вецер абвяваў яе.

— Якая я брыдкая,— няўцешна плакала Праскоўя.— Якая я нядобрая... «Пра мужа свайго, пра Кандрату забітага, забылася...

— Жонка мая...— шчасліва сказаў Кузьма і зноў паўтарыў, прыслухоўваючыся да гэтых слоў: — Жонка мая...

Ужо калі зусім сцямнела, яны выйшлі з барака. Халодны вецер ударыў у твары. Папярок неба цякла залатая зорная рака. У цемры глуха шумелі дрэвы.

Шчаслівыя, яны сышлі з ганка, на якім рыпеў бледна-сіні снег, і тут убачылі маленькую кволую фігурку, што прытулілася да сцяны барака.

— Сяргейка! — паклікала Праскоўя.

Фігурка аддзялілася ад сцяны і павольна пайшла ім насустрач.

— А мой ты сынок...— заплакала Праскоўя.— А дзе Васька?

— Ён сказаў, каб я яго чакаў, а сам пайшоў Ігната біць,— уткнуўся ёй у ногі сын.

— Якога Ігната? — узяла Праскоўя яго на рукі.

— Ката Ігната, што мяса паеў,— сказаў хлопчык і раптам заплакаў.— А я думаў, што вы пра мяне ўжо забыліся... Мне холадна было...

— Сыночак мой,— плачучы, пацалавала яго Праскоўя.— Хіба магу я пра цябе забыцца?

— Ідзі сюды, Сяргей,— сказаў Кузьма і, узяўшы малога на рукі, высока падкінуў яго.

— Не плач, казак, атаманам будзем...

І малы ціха засмяяўся.

XIII

— Іван, я буду жаніцца з Праскоўяй Лусковіч,— сказаў Кузьма Юшкову. Яны толькі што прыйшлі з каравула. Юшкоў галіўся, а Кузьма трымаў перад ім патрэсканае, пацямнелае люстэрка. Юшкоў быў у белай нацельнай кашулі. Пальцамі левай рукі ён нацягваў скуру на шчацэ, правая рука спрытна завіхалася з брытвай.

— Ну і выдумаў,— хмыкнуў Юшкоў.— І надоўга? — Ён прыплюшчыў адно вока, скрывіў твар. Скура на падбародку і шчоках рабілася бліскучая, цёмна-сіняя«

— Я сур'ёзна табе гавару,— адклаў убок люстэрка Кузьма.— Жыццё маё вырашаецца, а ты зубы вышкаляеш. Таварыш, называецца...

Юшкоў працягваў галіцца. Потым выцер сухім ручніком твар, апрануў гімнасцёрку, зашпіліў яе на ўсе гузікі. І толькі тады сказаў:

— Жаніся. Я табе не бацька. Але ж у яе ёсць малы. Ты падумаў пра гэта?

— Падумаў. Малы сынам мне будзе...— Кузьма гаварыў гэта цвёрдым, упэўненым голасам, але трошкі паспешліва, нібы баяўся, што яго ці спыняць, ці не павераць яму.

— Узяць жонку — гэта не новую кашулю апрануць. Гэта...— Юшкоў на імгненне задумаўся, шукаў патрэбныя словы.— Бачыш — во гузік да шыняля прышыты. Сам прышываў. Суравыя ніткі вашчыў, у некалькі столак іх браў. Навечна гузік прышыты, пакуль шынель не сатлее. Толькі з мясам можаш яго вырваць. Так, брат, і жонка...

Кузьма глядзеў на гузік, глядзеў на Юшкова, маўчаў.

— Адно я баюся, Кузьма,— сумна ўсміхнуўся Юшкоў,— жонкі добрыя, без жонак нельга, але яны разлучаюць нас, мужыкоў. І мы з табой, брат, можам разлучыцца.

— Ну, гэта ты кінь,— засмяяўся Кузьма.— У нас такога не будзе...

Ён стаў поплеч з Юшковым, нават паляпаў яго па спіне, але адчуў, як у незразумелай журбе заныла сэрца.

— У нас такога не будзе, Іван,— зноў паўтарыў ён, каб хутчэй справіцца з гэтай журбою.

З дазволу начальства некалькі дзён ён пражыў у бараку, разам з Праскоўяй і Сяргейкам, потым зноў вярнуўся ў казарму. У бараку яны сабралі невялікую вячэру. Прыйшлі Юшкоў, Рылюк, Беланогаў, прыйшло некалькі Праскоўіных сяброўак з фабрыкі. Выпілі трохі разбаўленага спірту, потым пілі каву «Гімалайскае жыта». Кузьма ап'янеў, сядзеў побач з Праскоўяй, разгублены, ціхі, шчаслівы.

— За пралетарска-салдацкую сям'ю! — узняў сваю шклянку Рылюк і чокнуўся з Праскоўяй і Кузьмой.

Праскоўя зачырванелася, усміхнулася, сказала яму:

— Дзякуй вам...

— Эх, каб мне зараз гармонік у рукі,— шумна ўздыхнуў Юшкоў і падсеў бліжэй да дзяўчат-работніц.

Дзяўчаты засмяяліся:

— А мы можам іграць і без гармоніка...

Адна з іх дастала грабянец, папяросную паперу — «На фабрыцы яе многа!» — весела надзьмула шчокі — зайграла.

Юшкоў выскачыў на сярэдзіну пакоя, тупнуў нагой, заспяваў:

— Сербіяначка Наташа,
Не хадзі са мной гуляць...

Дні праз два Кузьма з Юшковым сустрэлі каля барака Ваську Шворна. Васька спалохана глянуў на Юшкова і падаўся бліжэй да Кузьмы.

— Не бойся яго,— засмяяўся Кузьма.

— А я і не баюся,— сказаў Васька.— Чаго мне баяцца? Мяне ўжо дзядзька-мастак на карціну малюе...

— На якую карціну? — не зразумеў Юшкоў.

— Вы што — не бачылі карцін? Ну, гэта на палатне людзей, як жывых, малююць,— горда сказаў Васька.— Хочаце — звяджу вас у майстэрню.

Па вузенькім, вымашчаным круглымі шэрымі каметамі завулку яны пайшлі ў майстэрню мастака. Завулак спускаўся ўніз да Свіслачы. Быў ён забудаваны нізкімі таўстасценнымі домікамі з чырвонай цэглы. На вуглах дамоў цэгла выкрышылася, выветрылася. У дварах гулялі дзеці і сабакі. Вокны домікаў, вузкія, прыплюснутыя, як стомленыя старэчыя вочы, былі завешаны бруднымі рыжымі фіранкамі.

— Мастака завуць Іван Іванавіч Лебедзь,— крочачы наперадзе, гаварыў Васька.— Ён, каб мяне знайсці, увесь Мінск абышоў, у кожны двор заглядаў...

— Ты скажы,— здзіўлена паглядзеў на яго Юшкоў.— Не думаў я, Вася, што ты такі прыгожы...

— Тут не ў прыгажосці справа,— кісла і высакамерна, як дарослы, усміхнуўся Васька.— Тут патрэбен тып.

— А што такое тып? — нясмела пацікавіўся Кузьма.

— Тып? — Васька ўзмахнуў рукой.— Ну гэта такое... такая фігура... Ды я яшчэ і сам толкам не ведаю,— шчыра прызнаўся ён.

Нарэшце яны прыйшлі да майстэрні. Яна займала палову прысадзістага цаглянага доміка, каля якога раслі высокія тоўстыя таполі. Падняліся на драўляны рыпучы ганак, трапілі ў цёмны вузкі калідор. У калідоры пахла дымам, падгарэлай цыбуляй, селядцамі. За жоўтымі фанернымі дзвярыма прарэзліва крычала дзіця. Сівая згорбленая старая мыла ў ночвах бялізну, нешта спалохана зашаптала сама сабе пад нос.

Васька, нават не глянуўшы на яе, павярнуў налева, піхнуў рукой нізкія, заляпаныя фарбай дзверы. Кузьма з Юшковым спыніліся на парозе. Усе сцены майстэрні былі завешаны карцінамі, вялікімі, малымі, зусім маленькімі. Святло з шырокага, нізка пасаджанага акна падала на партрэт маладой жанчыны, які стаяў пасярод майстэрні на нейкіх трыножках. Каля партрэта на маленькай, таксама заляпанай фарбай, канапе сядзеў чалавек, стомлены, худы, буйнагаловы.

Падпёршы шчаку рукой, ён уважліва глядзеў на задумлівы жаночы твар. Не азіраючыся, чалавек сказаў глухаватым голасам:

— Гэта ты, Васіль? Распранайся. Давядзецца нам з табой сёння папрацаваць...

— Я не адзін, Іван Іванавіч,— ціха і, як падалося Кузьму, трошкі спалохана прамовіў Васька.— Са мной прыйшлі...

Тады чалавек цяжка ўзняўся з канапы, спытаўся:

— З вобыскам прыйшлі, таварышы?

Было яму гадоў трыццаць. Высокі бледны лоб зрэзалі маршчыны. Светлыя валасы, што злёгку кучаравіліся, спераду ўжо дужа парадзелі, і ён хаваў лысіну — зачэсваў валасы набок. Быў ён апрануты ў часучовую талстоўку, на шыі матлялася бруднавата-белае кашнэ. Ягоныя рукі і адзенне былі ў фарбе.

— Мы не з вобыскам... Мы проста зайшлі паглядзець, таварыш Лебедзеў,— сказаў Кузьма, гледзячы пад ногі, каб на што не наступіць, бо на падлозе валяліся скруткі паперы, палатна; стаялі шкляныя слоікі з разведзенай фарбай, з якіх тырчэлі доўгія і кароткія пэндзлі.

— Маё прозвішча Лебедзь. Я не Лебедзеў,— усміхнуўся мастак. Ён паказаў рукой на канапу: — Прашу садзіцца...

У яго рухах не было ні паспешлівасці, ні разгубленасці, і гэта спадабалася Кузьму. «Самастойны чалавек»,— падумаў Кузьма і пачаў разглядаць карціны.

На адной карціне ён убачыў тую ж самую вуліцу, па якой яны толькі што ішлі сюды: брудна-чырвоныя цагляныя домікі; круглыя, бліскучыя, як мокрыя, камяні пад нагамі; уперадзе, за паваротам, вузкая цьмяная сінеча Свіслачы. Здавалася, зараз зарыпіць снег, што дзе-нідзе лёгкімі белымі плямамі ляжаў на каменнях. Затое з суседняй карціны глядзела на Кузьму прыгожая маладая жанчына з распушчанымі рыжымі, быццам крывавымі, валасамі, голая па пояс. У яе былі доўгія белыя грудзі з карычневымі кружочкамі саскоў. У правай руцэ яна трымала меч, тонкі, бліскучы; у левай — келіх з чырвоным віном.

«Рэвалюцыя»,— прачытаў Кузьма ў ніжнім куточку карціны.

Падышоў да жанчыны з мячом і Юшкоў, уважліва паглядзеў на яе, прыжмурыў вочы, спытаўся ў Лебедзя:

— Няўжо не знайшлося для гэтай мадамачкі хоць якой-небудзь сукенкі?

— Разумееце, гэта — сімвал,— захваляваўся, пачырванеў Лебедзь.— Жанчына — гэта чысціня, вернасць, пяшчота. Іменна такой мне, як мастаку, бачыцца рэвалюцыя. Скінутае адзенне — гэта тое, што яна назаўсёды адвергла, што спаліла ў сваіх ачышчальных

кастрах: прыгнёт, хлусня, рабства. Карціну я пісаў для такіх, як вы, для байцоў рэвалюцыі, і паверце — мне балюча і крыўдна, што яна вам не спадабалася.

— Чаго ж, мне яна спадабалася,— паспешліва сказаў Кузьма, каб хоць трохі супакоіць мастака, і сустрэўся з яго ўдзячнымі сінімі вачыма.

Потым Лебедзь пасадзіў Ваську Шворна на нізкае крэсла, строга сказаў яму:

— Сядзі і не варушыся...

Сам узяў пэндзлі, цюбікі з фарбай, бляшаначку з вадой, пачаў перамешваць фарбы, падбіраць патрэбны колер і ўвесь гэты час не зводзіў з Ваські позірку, і вочы ў яго зрабіліся вострыя і пранізлівыя. Васька сядзеў нерухома, як каменны, і толькі хітраватая ўсмешка трапяталася ў куточках вуснаў.

— Думаю напісаць карціну «Мінскія Гаўрошы»,— гаварыў Лебедзь, гледзячы на Ваську, і раз-пораз кароткім, моцным і ўсё-ткі нейкім няўлоўным рухам дакранаўся пэндзлем да белага палатна. Быццам палатну было балюча ад ягоных дотыкаў, і ён ведаў гэта, і хацеў зменшыць боль.

— Вы ведаеце, напэўна, хто такі Гаўрош? У Францыі ў мінулым стагоддзі жыў выдатны пісьменнік Віктор Гюго. І ён напісаў пра Гаўроша...— Вочы ў Лебедзя засвяціліся, было відаць, што гаворыць ён пра дарагое і патаемнае.— Гаўрош — дзіця вуліцы, дзіця барыкады. Нават болей: ён — дух Францыі і яе рэвалюцыі. Уявіце: на фоне барыкады, якая захлынаецца ад агню і дыму, на абпырсканым крывёй шэрым парыжскім бруку стаіць хлапчук, горды, і смелы, і прыгожы, як кожны сапраўдны гал. Ён стаіць адзін. Таварышы ўжо мёртвыя. Падмогі ўжо не будзе. І на яго, перагароджваючы ўсю вуліцу, павольна і няўмольна накочваецца вал варожых штыкоў. Вузкія грудзі хлапчука і халодная сталь, што ап'янела ад крыві...

Лебедзь раптам заплюшчыў вочы, рукой, якая сціскала пэндзаль, дакрануўся да лба і колькі хвілін сядзеў моўчкі. Кузьма з Юшковым падышлі бліжэй, паўзверх ягонага пляча глянулі на карціну.

— Падобны..— ціха сказаў Кузьма.

— Ну і Васька! Жывы Гаўрош,— кашлянуў Юшкоў, і Кузьма зразумеў, што Юшкову няёмка перад мастаком, і ён нечым хоча загладзіць сваю віну.

— Ды і жанчына гэтая... Быццам толькі з барыкады,— пасля кароткага маўчання прамовіў Юшкоў і, як заўсёды, таргануў сябе за вус.

— Праўда? — з надзеяй, з радасным узрушэннем глянуў на яго Лебедзь і, рэзка ўзняўшыся з месца, адразу спахмурнеў: — Не... не...

Вы добры чалавек... Вы проста хочаце мяне супакоіць... Але я сам бачу, што мне не хапіла майстэрства... Мёртвая прыгожая плоць... А я хацеў стварыць новую Марсельезу, Марыяну Дэлакруа.

Ён падышоў да сваёй карціны, паглядзеў на яе так, быццам бачыў упершыню.

— Гарачую кроў я замяніў салодкім віном...

Ён павярнуўся да Кузьмы з Юшковым:

— Дзякуй вам, таварышы... Прыйшлі ў маю нару і адразу ўбачылі, дзе праўда, а дзе фальш. А я сяджу тут, як крот...

— Што вы на сябе нагаворваеце? — Кузьма аж папаху зняў з галавы.— Вы ў сваёй справе як бог. А мы... Ды я першы раз на свае вочы жывога мастака бачу... Хіба можам мы вас ганіць?

— Можаце,— моцна сціснуў яго за локаць Лебедзь,— можаце...

Рэзка пахла фарбай. З усіх бакоў глядзелі на іх карціны. Былі яны, як жывыя, як людзі, кожная са сваёй радасцю і бядой. Спінай, патыліцай адчуваў Кузьма погляды тых, што былі намаляваны на палатне. У гэты час у дзверы майстэрні пастукалі.

— Заходзьце! — не азіраючыся, крыкнуў Лебедзь. Ён зноў сядзеў з пэндзлем у руцэ.

У майстэрню, прыціскаючы да грудзей рукі, заваленыя пакункамі і бутэлькамі, увайшоў, а больш дакладней, уваліўся невысокі круглатвары чалавек з доўгімі агняна-рыжымі валасамі, што віліся аж на каўняры жоўтага пацёртага паліто. Дзверы ён адчыніў плечуком. Ён агледзеў майстэрню вясёлымі вачамі, сказаў хрыпучым голасам:

— Сышліся разам мячы і музы. Вітаю ўсіх!

Падбег да Кузьмы, да Юшкова, тыцнуў маленькую, белую, усю ў вяснушках, руку:

— Грамабоеў. Паэт.

Рука ў яго была мяккая, як дзіцячая. Жоўтыя бровы блішчалі над ярка-сінімі, трохі касаватымі вачамі. На Ваську Грамабоеў глянуў, як на знаёмага, пэўна, сустракаў яго тут не ўпершыню.

— Дык вып'ем! Віно — свабода мозга. Каму, як не змагарам за свабоду, піць яго.

Грамабоеў зваліў усе свае пакункі проста на канапу, на якой сядзеў Лебедзь, пачаў адкаркоўваць бутэлькі.

Юшкоў з Кузьмой піць адмовіліся.

— Выпілі б, але знаходзімся на службе,— суха кашлянуў у кулак Юшкоў.

Гэта ніколькі не засмуціла Грамабоева. Ён наліў поўную шклянку Лебедзю, потым выпіў сам, аблізаў губы, але закусваць не стаў. Была ў

ім нейкая нервовасць, узбуджанасць: ягоныя рукі і вочы ні хвіліны не стаялі на месцы.

«Быццам яго хто іголкамі коле»,— падумаў Кузьма.

— Хочаш, пачытаю табе верш,— звярнуўся Грамабоеў да Лебедзя і, не чакаючы згоды, лапнуў рукой па сваіх ускудлачаных валасах, што ў паўзмроку гарэлі чырвоным агнём, пачаў, расцягваючы словы:

— Мы — ураган. І мы — акіян.
Д'ябал і анёл сёння з намі.
Як смала, жаўцее наша кроў.
Чалавечымі мазгамі
Пойдзем змазваць плошчы гарадоў.

Ён змоўк, часта дыхаючы, глянуў на Лебедзя.

— Страшнавата,— куточкамі вуснаў усміхнуўся Лебедзь.— Не ведаў, што ты такі крыважэрны гун. Ты што — пачаў пісаць па-беларуску?

— Не,— зноў узяў бутэльку Грамабоеў.— Гэта ў мяне само па сабе прарэзалася. Пэўна, з пахмелля. І хацеў бы, ды так не скокну, як Купала, Гарун ці Бядуля. Я, братачка, касмапаліт. Над усім светам, як адзінокі каршун, лётаю.

— Але і ў каршуна недзе гняздо ёсць,— сказаў Лебедзь, адкусваючы ад вялікага жоўтага яблыка. Потым падаў закусь Кузьму з Юшковым: — Не можаце выпіць, хлопцы, дык з'ешце хоць што.

Кузьма і Васька ўзялі па яблыку. Юшкоў адмовіўся.

— У кожнага гняздо ёсць,— гаварыў Лебедзь.— А гняздо, сапраўднае гняздо, можа быць толькі на роднай зямлі. Забываемся мы пра гэта. Крычым, шумім, бурбалкі пускаем. А нам трэба да народа ісці, раны ягоныя ўбачыць, голас пачуць. Вычытаў я ў Віктора Гюго такія словы: «Калі амфара адмаўляецца ісці да крыніцы, яна заслугоўвае, каб яе абсмяяў гладыш»; Не ведаю, хто мы,— амфары ці гладышы, але народ — гэта крыніца, чыстая, вечная. І нам часцей трэба піць з гэтай крыніцы.

— Ты, Ваня, рамантык, як і твой Гюго,— засмяяўся Грамабоеў і шчоўкнуў пальцамі па бутэльцы.— Прыгожа гаворыш. Але пакуль што мы будзем піць вось з гэтай крыніцы. Народ жа не хоча піць.

Ён павярнуўся да Юшкова і ўсміхнуўся. Але твар у Юшкова быў пануры, а ў чорных вачах пачынала віравацъ злосць.

— Прыгожа гаворыш,— зрабіўшы некалькі глыткоў, Грамабоеў шпурнуў пустую бутэльку ў кут майстэрні.— Ды бяда наша, Ваня, у тым, што мы з пялёнак лезем у Цыцэроны. Не дай паесці — дай пагаварыць. Праз усё мы прайшлі: масонства, дэкадэнцтва, талстоў-

ства... Мы нагаварылі цэлыя акіяны слоў. А між тым Расія, як «Цітанік» на айсберг ляцела ў рэвалюцыю...

— Вам што ж — рэвалюцыя не падабаецца? — спадылба зірнуў на яго Юшкоў і засоп носам.

— Што вы, таварыш,— усміхнуўся Грамабоеў, але трошкі іранічна, і Юшкоў гэта заўважыў.— Асабіста я за рэвалюцыю. Кожны мастак па сутнасці сваёй — рэвалюцыянер, вораг тыраніі.

— Рэвалюцыянер,— пацямнеўшы тварам, перадражніў яго Юшкоў.— Вы тут віно п'яце, пра нейкія мазгі вершыкі выдумляеце, а народ кроў пралівае. Пойдзем адсюль, Кузьма.

— Што вы? Пабудзьце! — усхапіўся з канапы Лебедзь.— Я прашу вас!

Твар у яго пабляднеў. Грамабоеў жа нервова кусаў губы. Калі ўсе трошкі супакоіліся, калі Юшкоў сеў на канапу, Грамабоеў сказаў, глянуўшы на Кузьму:

— Калі б я быў мастаком, такім, як Ваня, я напісаў бы ваш партрэт. Ведаеце, што ёсць у вашым твары? Упэўненасць. А гэта сёння самае галоўнае.

Кузьму зрабілася няёмка. Ён злёгку пачырванеў, суха сказаў:

— Больш упэўненых і больш прыгожых колькі хочаце ёсць.

— Ха! Больш прыгожых.— Грамабоеў узняў угору палец, быццам хацеў нешта ўсім паказаць.— А вы ведаеце, што гісторыю стваралі і ствараюць непрыгожыя? Так, непрыгожыя. Тоўстыя, тлустыя купцы і бюргеры. Рамеснікі з чорнымі рукамі. Маленькі, каратканогі Напалеон, Дантон з тварам мясніка. Прыгожыя ж, як нарцысы, любаваліся сабою, чырыкалі, як птушачкі, спявалі серэнады. На што іх хапала, дык гэта піць віно з дамскіх туфелькаў. П'ю за таварыства непрыгожых! — раптам крыкнуў ён і пачаў цягнуць віно проста з рыльца бутэлькі.

— Ну ты і даеш,— усміхнуўся Лебедзь.— Як заўсёды, перагнуў. Зблытаў усё ў адзін клубок.

— Я хачу наконт рамеснікаў з чорнымі рукамі сказаць,— умяшаўся ў размову Кузьма і адчуў, што сэрца пачало біцца часцей.— Якім жа быць рукам рабочага чалавека, што і зямлю аруць, і вугаль пад зямлёй капаюць? Чорныя рукі, а белы хлеб пякуць. Значыць — прыгожыя, хоць і непрыгожыя.

Ён зразумеў, што сказаў не так, як хацеў, што ў канцы зусім збіўся, але смела глядзеў на ўсіх, у думках супакойваў сам сябе: «Трэба і з грамацеямі гаварыць. І мы можам навучыць іх чаму-небудзь...»

— Прыгожыя, хоць і непрыгожыя,— паўтарыў ягоныя словы Грамабоеў.— Сумбурна, але выдатна. Вы развілі маю думку. А зараз я хацеў бы трошкі пагаварыць і падумаць пра смерць.

— Во, во,— з'едліва хмыкнуў Юшкоў.— Хто пра што, а Гаўрыла пра дамавіну.

Грамабоеў зрабіў выгляд, што не пачуў гэтых слоў. Устаў, прайшоўся па майстэрні, спыніўся каля карціны, на якой была рыжавалосая жанчына з мячом:

— Рэвалюцыя, жанчына, свабода... Усё гэта добра, усё гэта цудоўна... Гэта тое, што рухае жыццё ўперад. Заспявалі іерыхонскія трубы рэвалюцыі, і рухнулі сцены дэспатызму. Але, як гаворыцца ў талмудзе, нам загадана працаваць, а завяршыць працу нашу нам не дадзена. Ёсць нешта вышэй нас, вышэй нашай дабрыні, гуманізму, розуму. Чалавек — уладар зямлі. Так вучылі і вучаць нас. І мы паверылі гэтаму. Але прыходзіць час, і ад гэтага ўладара застаецца толькі жменька попелу.

Грамабоеў расшпіліў каўнер кашулі, каўтнуў паветра :

— Мурашкі рассяліліся па ўсім свеце, але хіба яны заваявалі яго? Так і людзі. Пад гэтым небам мы — каліфы на часіну. Бог — вялікі эксперыментатар. Ён стварае людзей, як пясочныя домікі на беразе акіяна. Нахлыне чарговая халодная хваля — і ўсё знішчана, усё змыта. І я думаю, пытаюся сам у сябе: а што ж па той бок смерці? Што?

Ён спыніўся, ва ўпор глянуў на Кузьму, быццам чакаў ад яго адказу. Кузьма сустрэўся з яго сінімі халоднымі вачамі, што свяціліся на снежна-белым твары, і ўздрыгнуў. Грамабоеву, відно было, падабалася тое, як яго слухаюць. Ён зноў загаварыў, страсянуўшы доўгімі, колеру полымя, валасамі:

— Павінен быць нейкі напамінак сярод мітусні... Штуршок... Як метэарыт з неба... Прачнуцца сярод ночы, сцішыцца і раптам успомніць, што ты смяротны... І што з кожнай кропляй вады, якая капае недзе са страхі, адыходзяць у нябыт хвіліны твайго жыцця. Але, заўважце, адносіны да смерці ў розных народаў вельмі розныя. Калі мы, хрысціяне, баімся яе, то кітайцы доруць маладым на вяселлях прыгожыя труны з сандалавага дрэва. І ўсё гэта з жартамі, з усмешкай. Ці яшчэ: індзейцы Фларыды, калі памірае маці, трымаюць над ёй яе дзіця, каб яно магло прыняць у сябе матчыну душу...

Грамабоеў змоўк, пэўна, стаміўся. Твар яго стаў абыякавы і непрыгожы. Усе маўчалі.

— У нас у вёсцы быў дзед Хвядос,— сказаў Кузьма,— дык ён, калі яму стукнула семдзесят гадоў, рашыў, што хутка павінен памерці.

Сам зрабіў сабе добрую труну, а каб яна не псавалася, усцягнуў яе на хату, на гару. Ды так да яе прывык, што пасцеліць сена і спіць у ёй. А жыў пасля гэтага яшчэ дваццаць гадоў.

— Вот табе і наш чалавек, а не кітаец які-небудзь,— засмяяўся Лебедзь.— А наогул чалавеку не трэба баяцца смерці. Галоўнае — чэсна пражыць сваё, зрабіць усё добрае, што можаш зрабіць. І можна да хаты збірацца, як у народзе кажуць. Ведаеш, Сцяпан, як пра гэта Віктор Гюго гаварыў? — павярнуўся ён да Грамабоева.— Віктор Гюго сказаў: «Хай у вашы ветразі не дзьме вецер з магілаў». Па-мойму, добра сказаў.

— Зноў ты са сваім Гюго,— як ад зубнога болю, зморшчыўся Грамабоеў. Вочы ягоныя раптам патухлі, ён згорбіўся, па-птушынаму ўцягнуў галаву ў плечы, хуценька з усімі развітаўся і шмыгнуў за дзверы.

Такая рэзкая перамена ў паводзінах Грамабоева здзівіла ўсіх, акрамя Лебедзя.

— З ім гэта бывае,— сказаў Лебедзь.— Нагаворыцца, накрычыцца, а потым людзей не хоча бачыць, уцякае.

— Псіх,— як заўсёды катэгарычна, адрэзаў Юшкоў.— Толькі жыць народ па-чалавечы пачынае, а ён анцімонію пра смерць развёў. Цьфу!

— А вы ведаце, якое ў яго прозвішча? — спытаўся Лебедзь.

— Як — якое? Грамабоеў, ён жа сам гаварыў.

— Яго прозвішча Бедункевіч. А Грамабоева ён прыдумаў. Для шуму і грому.

Калі яны ўжо выходзілі, Лебедзь папрасіў:

— У любую вольную хвіліну забягайце да мяне.

Буду вельмі рады.

— Мы яшчэ зойдзем,— паабяцаў Кузьма.

— Нейкія яны ўсе з вывіхамі, гэтыя інтэлігенты,— ужо на вуліцы сказаў Юшкоў.— Ад гарэлкі шалеюць.

Але Кузьма ўпершыню не згадзіўся з ім. Ён глядзеў сабе пад ногі, асцярожна, каб не паслізнуцца, ступаў на круглыя бліскучыя камяні і думаў, што гэту сустрэчу ён не забудзе. Нешта ўскалыхнула яна ў ім, нешта разбудзіла. Ёсць жа, аказваецца, людзі, якія ўмеюць так прыгожа і так разумна гаварыць, быццам душу табе словамі выварочваюць. Верыш ім, у нечым не пагаджаешся, спрачаешся з імі, але адно ясна: іх не забудзеш.

Калі яны ішлі ўверх па завулку, ім насустрач трапілася дзяўчына. Была яна ў какетліва сшытай на фасон кавалерыйскай буркі белай футры. Яна абыякава павяла па іх вялікімі чорнымі вачамі і пайшла далей, толькі снег рыпеў пад нагамі. Кузьма ступіў колькі крокаў і

раптам азірнуўся. Нешта дужа знаёмае было ў гэтых вачах, у гэтым тонкім смуглявым твары. Дзяўчына прайшла па завулку, потым адчыніла дзверы майстэрні.

— Дзе я сустракаў яе? — пакутліва ўспамінаў Кузьма.

Ён не ведаў чаму, але адчуваў: яму абавязкова трэба гэта ўспомніць. І ён успомніў: тая жанчына з мячом на карціне ў майстэрні і гэтая дзяўчына — вельмі падобныя. Толькі ў той рыжыя валасы. Але валасы можна намаляваць любыя, нават сінія, калі захочаш. Значыць, у гэтай дзяўчыне Лебедзь убачыў сваю Рэвалюцыю. І яму, быццам унутры пачаў разблытвацца нейкі клубочак, успомнілася яшчэ больш далёкае. Гэтую дзяўчыну ён бачыў калісьці ў маёнтку Незабітоўскага. Толькі тады было лета, і яна была ў белай сукенцы. «Гэта дачка графскага аканома, таго жоўтавалосага,— ужо зусім ясна ўспомнілася яму.— Яна вучылася ў гімназіі, а на канікулы прыязджала да бацькі. Каталася на чоўне па рацэ, гуляла з парасончыкам каля маёнтка і моршчыла нос, калі блізка ад яе праходзілі парабкі-смалакуры. Гімназістачка зрабілася Рэвалюцыяй...» Чым больш Кузьма пераконваўся ў гэтым, тым глыбей расло ў душы здзіўленне, расчараванне, нават крыўда. Няўжо Лебедзь наўмысна ўклаў меч у руку прыгожанькай, але — Кузьма не сумняваўся ў гэтым — пустой паненкі? Значыць, проста не ўбачыў яе пустаты. Значыць, падобны на Грамабоева: абое ўмеюць толькі гаварыць. Рэвалюцыя, якая нарадзілася ў крыві, і паненка, што можа страціць прытомнасць ад паху гною і дзёгцю. Толькі сляпы чалавек можа сумясціць іх. Але ж Лебедзь такі разумны, такі чэсны. «Нешта тут не так, нешта не так!» — думаў Кузьма, крочачы ўслед за Юшковым, падстаўляючы твар халодным сняжынкам і пякучаму ветру.

Назаўтра на вакзале яны сустрэліся з Рылюком. Міхаіл Андрэевіч глуха кашляў, вельмі ўзрадаваўся, узяўшы іх пад рукі, павёў па засыпаных снегам шпалах.

— Гаспадарнікам мяне зрабілі, хлопцы,— усміхнуўся ён.— Вось ніколі не думаў, што буду рамантаваць вуліцы і дарогі, спрачацца з домаўласнікамі, прымушаць іх чысціць сметнікі і пад'езды. Але што зробіш — трэба. Зараз устанаўліваем дадаткова на цэнтральных вуліцах палільныя ліхтары. А гарадская дума ўперлася — і ўсё. Не дазваляе ставіць. Бачыце, мы ўмешваемся ў яе справы. Там усе гласныя — недабітыя буржуі. Ну, але мы іх асабліва не слухаем — нядоўга ім кіраваць засталося.

— А як наогул жыццё, Андрэевіч? — спытаўся Юшкоў.— Мы ж з Кузьмой, акрамя казармы і вакзала, мала дзе бываем...

— Жыццё? Абстаноўка цяжкая. У прафсаюзах заселі бундаўцы і паалейцыяністы. Іхняя газетка «Дэр Бекер» заклікае ўсіх яўрэяў не падпарадкоўвацца Савецкай уладзе. Ну, гэты бекер па-іхняму будзільнік значыць. Няма хлеба, паліва. У Мінску тысячы беспрацоўных. Карнілаў з Быхава ўцёк. Многа крыві можа праліцца. Гэты каршун на поўдзень паляцеў, да казацкіх атаманаў. Ну, а як вы, хлопцы, жывяце? Як ты, Кузьма, з жонкай і сынком?

— Прывітанне яны вам перадавалі, Міхаіл Андрэевіч. У госці запрашалі.— Кузьму было прыемна, што Рылюк успомніў пра яго сям'ю.

— Абавязкова прыйду. Толькі трохі пазней. Ліхтары пастаўлю на вуліцах, асвятлю сабе дарогу і прыйду.— Рылюк засмяяўся, пацёр рукі, на якіх не было пальчатак. Потым, спахмурнеўшы, спытаўся:

— А як з прадуктамі? Ёсць што есці?

Кузьма развёў рукамі:

— Як усе, так і мы. Праскоўя на фабрыцы працуе, трохі зарабляе, ды я свой салдацкі паёк прыношу. Перабіваемся. Як кажуць: кішка кішцы марш іграе.

— Невясёлы гэты марш, хлопцы.— Рылюк звузіў вочы.— Усюды голад. На рынку за пачак сахарыны аддаюць веласіпед. Усё зараз залежыць ад вёскі. Пойдзе вёска за Савецкай уладай, паверыць ёй — будзе хлеб. Хто ў цябе ў вёсцы, Кузьма?

— У мяне? — Кузьма не чакаў такога пытання і разгубіўся.— Маці, бацька, дзед, сястра з братам. Усе ў мяне там.

— Як думаеш: дадуць яны хлеб гораду, хаця б табе, тваёй сям'і?

Рылюк глядзеў на Кузьму, і ў ягоным поглядзе і голасе не было ўсмешкі. І ўпершыню заўважыў Кузьма, што ў Рылюка вельмі схуднелы, бела-жоўты твар, нібы вылеплены з воску. «Ён жа болей, чым мы, галадае»,— падумаў Кузьма.

Разгублена ішоў Кузьма па шпалах, часам спатыкаўся аб іх. На гэтае, здавалася б, такое простае пытанне ён не мог адказаць адразу. «І праўда, ці дасць мой бацька хлеб гораду? Ці дасць Івану Юшкову, які абараняе яго, Рылюку, што гніў за яго на катарзе? Бацька працуе ўсё жыццё, як вол пад'ярэмны, днюе і начуе ў баразне. І ў самога хлеба гэтага ледзь да каляд хапае. А тут трэба падзяліцца няшчаснай скарынкай з людзьмі, з чужымі людзьмі, якіх ён і ў вочы не бачыў...»

Кузьма вінавата глянуў на Рылюка, ціха сказаў:

— Мне б ён даў...

І змоўк.

— Вось бачыце, хлопцы, што нас з вамі яшчэ чакае? — таксама ціха і павольна прамовіў Рылюк.— Нам яшчэ адну рэвалюцыю трэба зрабіць. У душах людскіх. І гэта рэвалюцыя нялёгкай будзе.

Словы Рылюка развярэдзілі душу. Ідучы позна ўвечары да Праскоўі ў барак, са шчымлівым хваляваннем успамінаў Кузьма свае Чмялі. Зноў выплылі яны з прадоння памяці. Як ні грымела вайна, якімі пажарамі ні абпальвала сэрца, а яны заставаліся на зямлі і ў памяці вечныя, нязменныя, нібы зоркі ў небе. Толькі цяпер да ўспамінаў прымешвалася трывога. З абвостраным пачуццём падумаў ён, што там, у Чмялях, ідзе цяпер вялікая сяўба. Так, сяўба, хоць палеткі замураваў снег. Там сёння сеюцца зярняты новага жыцця. Так хацелася яму, каб дзед, і бацька, і Антон, і ўсе землякі не засталіся ў баку ад гэтай сяўбы.

«Хоць бы краем вока глянуць на іх»,— падумаў Кузьма і надбавіў кроку. Не ведаў ён, крочучы пад чорным халодным небам, што вельмі хутка лёс падаруе яму радасць — прывядзе ў родныя Чмялі. Адкуль яму было ведаць? Віравала на зямлі рэвалюцыя, мяняліся шляхі народаў, і ягоны шлях сярод гэтых вялікіх шляхоў быў павуцінкай, што трапяталася пад агністым ветрам.

XIV

Раніцой у роту прыбег усхваляваны, задыханы Голубеў:

— Бяда, хлопцы...

— Што такое? — спытаўся Юшкоў.

— З Оршы нейкі гад падаслаў пяць цыстэрнаў са спіртам. Прасталі яны спакойна ўсю ноч, а сёння іх знайшлі. Ну і... Адным словам, усе салдаты на вакзале п'яныя. Ды і нашы дружыннікі ад іх не адстаюць.

Амаль бягом узнятая па трывозе рота рушыла ў бок Аляксандраўскага вакзала. Ужо здалёк Кузьма заўважаў тое, што нагадала яму кірмаш у Чмялях на Пятра. Абняўшыся, ішлі па рэйках п'яныя людзі, спатыкаліся, падалі, спявалі песні. Некалькі чалавек, як мёртвыя, ляжалі, уткнуўшыся галовамі ў снег. Пажылы васпаваты салдат сядзеў проста на рэйцы. Яго вінтоўка валялася побач. Твар у салдата быў жоўта-зялёны, галава хілілася на грудзі.

«Не, тут не так, як у нас на Пятра,— падышоўшы бліжэй, падумаў Кузьма.— Тут страшней. Гэтыя п'яныя ўсе з вінтоўкамі».

Верхам на цыстэрнах сядзелі салдаты. Знізу ім падавалі вёдры, кацялкі, бутэлькі, конаўкі, нават шапкі. І ўсё гэта вярталася назад, да краёў напоўненае бледна-сінім спіртам. Адзін з салдатаў, ледзь трымаючыся на нагах, паіў спіртам каня, са злоснай стараннасцю ўпіхваў конскую галаву ў вядро. Конь не хацеў піць, рэзка матнуў галавой, і вядро пакацілася па рэйках.

— Ах ты, воўчае мяса! — Салдат брыдка вылаяўся і з усяго маху прыкладам вінтоўкі хвастануў па гарбаносай конскай пысе. З ноздраў свіснула кроў, конь пярэднімі нагамі паваліўся на шпалы.

Непадалёку прыгожая чырванашчокая мяшчаначка, п'яная і вясёлая, сядзела на каленях у барадача, як кошка клубком нітак, забаўлялася ягонымі доўгімі вусамі. Барадач прагна цалаваў яе.

Юшкоў даў каманду роце ачапіць цыстэрны, а сам рушыў у самае пекла.

— А ну разыдзіся! — урэзаўся шырокім плячом у п'яны натоўп Юшкоў.— Разыдзіся, кажу вам...

Ён падбег да цыстэрны, потым, падцягнуўшыся, ускочыў на вузенькую металічную лесвічку, што была збоку цыстэрны, схапіў аднаго з салдатаў за нагу:

— Злазь, дурань!

Але салдат шмаргануў нагой, і ў руках у Юшкова застаўся толькі вялізны стаптаны бот.

Наўкол цыстэрны спачатку засмяяліся, але потым вельмі хутка зразумелі, што гэты даўгалыгі і даўгавусы, які трымае ў руках бот, хоча адабраць у іх спірт. Натоўп зароў:

— Хто ты такі?

— Змывайся адсюль, маць тваю...

— Шакалад у тыле жрэш...

— Змажце яму, хлопцы!

Юшкоў, размахнуўшыся, шпурнуў бот далёка ад сябе, выцягнуў з доўгага скуранога кабура рэвальвер, крыкнуў:

— Хто хоча спірту? Лезьце сюды — напаю...

На імгненне ўсё заціхла, але потым п'яныя салдаты, выскаліўшы зубы і лаючыся, заляскалі замкамі вінтовак.

Юшкоў пабялеў, стрэліў уверх над галавою, крыкнуў:

— Прапаную здацца, інакш вам канцы!

Рота акружыла салдат, наставіўшы на іх штыкі. Салдаты неахвотна кідалі на рэйкі зброю, проста ў снег пачалі выліваць спірт. Той, што сядзеў на цыстэрне без аднаго бота, скокнуў уніз і прапаў у натоўпе. Голубеў раптам прыкусіў губу, схапіў за каўнер зусім маладога хлопца з чырвоным бантам на замасленай чорнай спяцоўцы. Хлопец разгублена міргаў п'янымі вачамі.

— Чаго ты тут, Юзік? — спытаўся Голубеў і, не дачакаўшыся адказу, так піхнуў ад сябе хлопца, што той потырч носам паляцеў у снег: — Смаркач п'яны! Каб сёння ж і духу твайго не было ў дружыне.

Хлопец сядзеў на снезе, рукавом размазваў па твары кроў, п'яна плакаў.

— Усіх п'яных — у камендатуру! — яшчэ раз стрэліўшы, загадаў Юшкоў.

— Гэта можна,— засмяяўся Беланогаў і штыком паказытаў чорнабародаму акопніку спіну.— Ідзі, ідзі, пяхота. Там табе ўжо салёненькіх гуркоў нарыхтавалі.

— Што будзем рабіць з цыстэрнамі? — спытаўся Голубеў у Юшкова.

Юшкоў пачухаў патыліцу:

— Усю гэту атруту трэба было б знішчыць... Але ж гэта народнае дабро.

— Правільна кажаш. Трэба схаваць,— падтрымаў яго Кузьма.

У гэты час, гукнуўшы клаксонам, на вакзале спыніўся аўтамабіль. З яго вываліўся таўсцячок у ярка-жоўтым паліто і ў акулярах, па шпалах пабег да цыстэрнаў. Адсопваючыся, сказаў Юшкову:

— Хто тут старшы? Вы? Я ад гарадской думы, ад грамадзяніна Ванштэйна. У нас бальніцы, аптэкі! Мы забіраем гэты спірт.

У яго на шчоках блішчэў пот. Тоўстыя грудзі хадзілі ходырам. Юшкоў уважліва глянуў на яго, спахмурнеў:

— А можа, гэта вы са сваім грамадзянінам Бакштэйнам нам і падсунулі сюды спірт? Каб падняць дух арміі, га?

Таўсцяк крывіў губы, усё яшчэ не мог аддыхацца.

— Пасля з вамі пагаворым. А цяпер вось што, хлопцы,— тарганул сябе за вус Юшкоў.— Пасля перамогі сусветнай рэвалюцыі можна будзе і выпіць. А зараз трэба гнаць цыстэрны ў тупік. І паставіць ахову.

Цыстэрны падчапілі да паравоза, адцягнулі ў тупік. Юшкоў выдзеліў дзесяць чалавек, цяплей адзетых, ахоўваць цыстэрны, а ўсіх ахвотнікаў выпіць разагналі.

— Ты падумай, Кузьма,— ужо, калі ўсё было скончана, гаварыў Юшкоў,— як губіць людзей гэтае чортава зелле. Выпіў чалавек — і як дурны робіцца. Ні пра сям'ю не падумае, ні пра бацькоў. Ён і рэвалюцыю прадасць за гарэлку. Чуеш? Рэвалюцыю!

Вочы ў Юшкова былі гнеўныя.

— А ты смелы, Іван,— сказаў Кузьма.— Цябе ж там на цыстэрне маглі забіць.

Юшкоў засмяяўся, паляпаў сябе па баку:

— А навошта я такую марціру нашу?

— Ты б і марціру сваю не паспеў дастаць.— Кузьма адчуваў, што Юшкоў за жартам хавае нешта сур'ёзнае.

— Ну вось што,— прыпыніў крок Юшкоў.— Нікому другому не сказаў бы, а табе скажу. І я часам баюся. Хочацца мне яшчэ хоць краем вока Урал свой убачыць, жонку сваю. Але як сустрэну контру,

гада якога, як вецер мяне нясе: не магу спакойна дыхаць. У зямлю мне яго хочацца ўвагнаць. Ты думаеш — крыві хачу? Не! Малы быў — крыві баяўся. Палец чым-небудзь чырыкну — і адразу да маткі з плачам... Не крыві, а справядлівасці хачу. Пчалаводава мёртвага помню і Лусковіча Кандрата. Ты добра зрабіў, што Кандратаву бабу ўзяў, прыгрэў. А толькі мы павінны разлічыцца за смерць сяброў нашых... Помніць кроў іхнюю пралітую. Ведаеш, Кузьма, хоць плюнь мне ў вочы, а дагэтуль не магу дараваць табе, што Стахееў выслізнуў у цябе з рук...— Шчокі ў Юшкова пачырванелі. Ён глядзеў удалячынь, куды беглі тонкія бліскучыя рэйкі.

Кузьма ішоў моўчкі. Што ён мог сказаць? Дорага ён заплаціў бы, каб зноў сустрэць Стахеева.

Яны сышлі з чыгуначнага насыпу, пашыбавалі па бруднай, зрэзанай коламі фурманак дарозе. Над галовамі звінелі туга напятыя тэлеграфныя правады, нібы ў шэрым зімовым небе курлыкалі журавы.

Убіралася ў сілу зіма, прыціскалі маразы, і горад пачаў пакрывацца тоўстым пластом снегу. Не хапала рабочых рук, каб расчышчаць вуліцы. На домаўласнікаў накладвалі штрафы, але гэта слаба памагала. Тады супроць снегу кінулі атрады беспрацоўных. Знясіленыя, галодныя, дрэнна апранутыя, яны ледзьве трымалі ў руках ламы і рыдлёўкі. Пастановай Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту за працу ім павінны былі плаціць домаўласнікі. Гораду не хапала цяпла, не хапала дроў, торфу, каменнага вугалю, газы. Разабралі на паліва дамы, якія былі разбураны ў час налёту нямецкіх цыпелінаў у шаснаццатым годзе. Пачалі паліць платы, пілаваць на вуліцах дрэвы. Першая зіма Савецкай улады абяцала быць цяжкой. Чырвоная марозная зара палымнела над горадам. Абывацель зашыўся ў цёплую нару, чакаў. Афіцэры, купцы, чыноўнікі прыслухоўваліся, як мароз хапаецца за вуглы дамоў, радасна церлі рукі. На Захар'еўскай і Нямізе, каля Сабornай плошчы і Златай Гуркі ў кватэрах, заваленых диванамі і пярынамі, шапталіся:

— Градзе Хам... Прапаршчыкі кіруюць арміямі... Камісары на спірытычных сеансах выклікаюць сатану... Але нядоўга, нядоўга засталося ім ездзіць на нас... Лёс Садома і Гаморы чакае іхнія праклятыя чырвоныя гарады...

Вельмі папулярнай зрабілася кніжка «Сонник — объяснение сновидений». У цёплых кватэрах варажылі, гулялі ў карты, абжыраліся, пілі віно, гаварылі:

— Пасля нас хоць патоп!

І чакалі.

А горад змагаўся з холадам, голадам. На Пярэспе, Ляхаўцы, Камароўцы, у Татарскай слабадзе ўставалі разам з сонцам, ішлі на фабрыкі і заводы, рэзалі і свідравалі жалеза, рабілі снарады і плугі, шпалеры і папяросы, грабянцы і рыдлёўкі. Горад хукаў на рукі і працаваў.

Каля крамаў з газай стаялі доўгія чэргі. Па шмат гадзін таўкліся людзі на марозе, каб прынесці дадому ў бляшанцы ці ў вядры некалькі літраў масляністай рудой вадкасці, якая магла выратаваць ад холаду.

Праскоўя таксама паслала Кузьму па газу. Ён апрануў кажушок, абуў валёнкі. Разам з ім пайшоў Васька Шворан.

— Ты б сваю салдацкую форму надзеў,— гаварыў па дарозе Васька.— Салдатам жа без чаргі даюць.

— Якая табе сарока сказала? — здзівіўся Кузьма.— Вайсковым часцям адпускаюць спецыяльныя крамы. Гэта праўда. А калі адзін прыйшоў, будзь ты хоць з трыма Георгіямі на грудзях, адстаіш у чарзе, як і ўсе.

Яны сталі ў чаргу, якая закручвалася за рог аднапавярховага цаглянага дома. На чырвонай цэгле блішчаў іней. Пад нагамі ў людзей рыпеў снег, і гэты гук быў такі халодны, такі безнадзейны, што брала за сэрца. Перад Кузьмой стаяў дзядок у тонкім асеннім паліто, у лёгкім капялюшыку. Стаяў і калаціўся ад холаду. На белых вусах і на шкельцах акуляраў ззялі сняжынкі.

Васька трохі пакруціўся каля чаргі, змёрз і пабег дадому. А Кузьма цярпліва чакаў.

«Ну і халадэча,— думаў Кузьма.— У вёсцы азіміна можа загінуць... А тады — голад, і ўсё, і не ўстане Савецкая ўлада».

Апошнім часам ён пачаў заўважаць, што думае не толькі пра сваю сям'ю, пра сябе, але пра вёску і горад, пра ўсю краіну. Быццам ён адказны за тое, каб усё было добра, каб мацнела бальшавіцкая сіла. Гэтае новае пачуццё радавала яго. «Не ўсё ж мужыку на сваю саху глядзець, трэба і на сонца глянуць»,— думаў ён.

Чарга павольна рухалася наперад. Яна здавалася чорнай зледзянелай вужакай, якая выпаўзла з цёплага падзямелля і здранцвела на белых сумётах.

— У вас не знойдзецца закурыць? — спытаўся дзядок у Кузьмы.

Вочы строгія, насцярожаныя, і ў глыбіні іх, аж у зрэнках, віднеўся сум. Пэўна, дзядок з былых.

— Не куру,— адказаў Кузьма і, каб больш пераканаць дзядка, ляпнуў рукой па пустых кішэнях.

— Цяпер усе не кураць,— з халоднай усмешкай варухнуў сухімі вуснамі дзядок.— Я не здзіўлюся, калі заўтра ўсе перастануць есці...

У яго ў роце, нібы кавалачак лёду ў чорнай бяздоннай пельцы, блішчаў залаты зуб. Кузьма прамаўчаў.

Між тым чарга наперадзе зашумела, захвалявалася. Слабыя жаночыя галасы, якія супраць нечага пратэставалі, упэўнена і ўладна перакрыў звонкі голас:

— Грамадзяначкі, супакойцеся,— залазіў у вушы Кузьмы гэты вясёлы малады голас.— Адна хвілiначка, толькі адна хвілiначка, і я не буду вас турбаваць...

Кузьма з дзядком, каб лепш убачыць, што робiцца наперадзе, выйшлі з чаргі. Аказваецца, гэта гаварыў, супакойваў жанчын нізенькі тоўсценькі салдат. Кузьма бачыў толькі яго гладкую спіну і вушы, чырвоныя ад марозу.

— Грамадзяначкі,— спрытна стаўшы першым у чарзе, гаварыў салдат,— я на фронце за вас усіх тры літры сваёй крыві праліў. Точна. Урачы падлічылі. Няўжо я не заслужыў, каб, не стоячы на марозе, узяць трохі няшчаснай газы?

Ён спрабаваў жартаваць. Жанчынам было не да жартаў, але яны, пабурчэўшы для прыліку, змірыліся — вайскоўца ж служба чакае.

— Во як камісарыў з народам гавораць,— аж крэкнуў дзядок і ўтуліў галаву ў плечы.

Зноў усталявалася цішыня, звонкая, каменная. Салдат, наліўшы газы ў вядро, весела пасвістваў, збіраўся ўжо адыходзіць. І тут Кузьма паклаў яму руку на плячо:

— Таварыш салдат, можна цябе?

Салдат рэзка азірнуўся, аж нешта трэснула ў яго шыі. Гэта быў Вальдэмар Кабскі. Тыя ж самыя мяккія пульхныя шчокі, чорныя кароткія валасы, ужо сівыя на скронях. Толькі жыватов трохі паменшаў.

«Значыць, і яму не дужа соладка жывецца»,— падумаў Кузьма і спытаўся:

— Дык колькі, Валодзя, ты крыві на фронце праліў?

— Кузьма,— не міргнуўшы вокам, весела азваўся Кабскі.— Каб ты спух, Кузьма...— Ён пацягнуў Кузьму за рукаў: — Пойдзем адсюль...

Калі яны адышліся ад чаргі, Кабскі спытаўся:

— А ты гладкі стаў, спраўны... Нябось, начальнікам у бальшавікоў...

Кузьма ўважліва паглядзеў на яго і сказаў, стараючыся быць спакойным:

— Газаю гандляваць сабраўся? Не можаш без хітрыкаў?

— Ты што? — Кабскі пакруціў пальцам каля скроні.

— Я табе сур'ёзна гавару, Валодзя. Кінь свае штучкі. Ты мог гарадскому галаве чмут у вочы пускаць, а рабочы народ ашукваць я табе не дазволю.

— Хто ты такі? Нарком? Камендант горада? — Кабскі спыніўся і паставіў вядро з газай на снег.— Ці не з табой мы блох кармілі ў адной камеры? Ой, не задзірай нос, Вальдэмар Кабскі гэтага не любіць. Ты жывеш, і я хачу жыць.

Ён сагнуўся, каб зноў узяць посуд, але Кузьма стукнуў нагой па вядры. На снезе зачарнелася вялізная тлустая пляма. Колькі імгненняў Кабскі глядзеў на яе разгубленымі вачыма, потым кінуўся на Кузьму:

— Лапаць! Ды я ў цябе селязёнку выдзеру.

Кузьма з усяе сілы сціснуў яму кісці рук, а затым адштурхнуў яго ад сябе. Кабскі ўдарыўся спінай аб цагляную сцяну, асеў на снег.

— Ну што — супакоіўся? — сказаў Кузьма, узяў з зямлі жменю снегу, прыклаў яе да шчакі. Шчака гарэла. Кабскі ўсё яшчэ сядзеў на снезе, засоўваў руку за халяву бота. «Нож шукае»,— падумаў Кузьма.

— Вайсковую форму ты таксама ў некага ўкраў? — спытаўся ён.— Ты, як воўк, табе абы кавалак мяса. З-за яго ты можаш забіць старога, жанчыну, дзіця. Але ваўкам усё меней застаецца разгону. І не шукай за халявай. Нічога ў цябе там няма. А я зараз, для тваёй жа карысці, здам цябе патрулю. Паднімайся і пойдзем.

Кабскі ўстаў, абтрос снег з адзення, засмяяўся:

— Пажартавалі — і хопіць. Мне дадому трэба. Мо зазірнеш?

Яны пайшлі па вуліцы. Спераду Кабскі з парожнім вядром у руцэ, ззаду Кузьма. Зверху, з шэрага сталёвага неба, наплываў на горад змрок. Вецер шумеў у дрэвах, гуў у вадасцёкавых трубах.

Першаму сустрэчнаму патрулю Кузьма сказаў:

— Таварышы, забярыце ў камендатуру гэтага чалавека, праверце. Ён не салдат, а носіць вайсковую форму.

Кабскі пабялеў, ірвануўся быў у прахадны двор, але яго затрымалі.

— Дык ты, праўда, мяне прадаеш?! — закрычаў
Кабскі.— Юда ты! Фараон! Папомніш Вальдэмара Кабскага!

Кузьма нічога не адказаў, моўчкі пайшоў сваёй дарогай. Ужо адышоўшыся, пачуў: зазвінела, пакацілася па каменнях парожняе вядро.

А назаўтра да іх у казарму прыйшоў таварыш з ваеннага камісарыята Заходняй вобласці і фронту. Быў ён высокі, худы, касцісты, з вачамі, як зялёны, вільготны агрэст. Хадзіў уздоўж строю, накульгваючы на левую нагу. Калі ўсё сціхла, разагнаў пад папружкай складкі на чорнай гімнасцёрцы, сказаў:

— Таварышы рэвалюцыйныя салдаты! Рэвалюцыя не ведае ні адпачынку, ні святаў. Рэвалюцыя заўсёды ў дарозе. Але і нашы ворагі не спяць. Я зараз зачытаю вам пісьмо, якое было перахоплена намі ў аднаго з ворагаў. Вось гэтае пісьмо.

Ён дастаў з нагруднай кішэні акуляры, пачаў чытаць:

— «Сакрэтна і тэрмінова. Бранскаму павятоваму вайсковаму начальніку.

Ініцыятыўная група «Парадак» рашыла арганізаваць атрады з усіх родаў зброі ў гарадах Валк, Пскоў, Рэчыца, Полацк, Нарва, Луга, Смаленск, Бранск, Мінск, Канатоп, Кіеў, Гомель, Крамянчуг, Бярдзічаў, Жмерынка, Слабодка, Бендэры, Адэса, Каре і Тыфліс.

Мэта: першае — прымусіць нашу армію наступаць да пераможнага канца; другое — затрымліваць дэзерціраў; трэцяе — раззбройваць армію пры дэмабілізацыі; чацвёртае — выратаваць краіну ад анархіі. Для стварэння гэтых атрадаў у распараджэнне павятовага вайсковага начальніка пералічаных гарадоў будуць прыбываць пераапранутыя ў салдацкую форму паны афіцэры, добраахвотнікі-цывільныя, некаторыя салдаты з ліку выбраных самімі афіцэрамі, якіх вы павінны накіраваць у адзін з запасных палкоў, што размешчаны ў вашым горадзе. Наладзьце сувязь з камандзірам гэтага запаснога палка, уручыўшы яму гэта пісьмо і вызваліўшы спачатку (да лістапада гэтага года) полк ад непажаданых салдат і афіцэраў, бо з гэтага дня да вас пачнуць прыбываць выбраныя людзі. Усе яны будуць мець меткі з чырвоных нітак на ражках каўняра і ў верхнім куце борта шыняля. Не чакайце ніякіх указанняў ад вашага непасрэднага начальства.

Усе, хто прыбудзе, павінны размясціцца ў казармах і харчавацца з агульнага катла. Обер-афіцэры будуць радавымі байцамі, а старшыя будуць начальнікамі. У атрадзе самая строгая дысцыпліна, да пакарання смерцю. Пачатак адкрытага выступлення 14 лістапада, з 9 гадзін вечара.

Агітуйце тайна і асцярожна. Адмовіцца ад выканання ўсяго гэтага вы не можаце, таму што хвалі прыхільнікаў гэтай ідэі прыйшлі ў рух і прымусяць вас трымаць адказ. Ініцыятыўная група «Парадак» ужо вядзе агітацыю па Расіі, арганізоўвае людзей, якія пачнуць прыбываць да вас з лістапада.

Жадаем поспеху на карысць Радзімы!»

Таварыш з ваеннага камісарыята дачытаў пісьмо, акуратна склаў яго і засунуў у кішэню. Потым сказаў:

— Сёння ўжо дваццаць дзевятага лістапада, а ніякіх выступленняў не было. Значыць, нашы таварышы перашкодзілі ворагу. Але ён можа ўдарыць у спіну рэвалюцыі заўтра, сёння, кожную хвіліну. Будзьце ж

пільнымі. Заўсёды трымайце ворага на мушцы. Калі мы прагледзім, нам не даруюць дзеці і ўнукі нашы...

У казарме яшчэ доўга абмяркоўвалі пісьмо.

— Бач ты, дысцыплінка якая ў іх: чуць пікнуў — смерць,— пачухаў патыліцу Беланогаў.

— Гэта яны могуць,—сцягваў з ног боты Юшкоў.

— Варфаламееўскую ноч нам рыхтуюць,— задуменна сказаў пісар Андрэй Кавалёнак, самы начытаны ў роце. Ніхто не спытаўся ў яго, што гэта за варфаламееўская ноч, але ўсе адчувалі — гэта нешта страшнае. Кузьма маўчаў, а потым уздыхнуў:

— І Стахееў, лярва, у гэтым «Парадку». Без яго не абыдзецца.

— Факт,— кіўнуў галавой Юшкоў.— Куды ж яму дзецца? — І строга глянуў на Кузьму.

Усе наступныя дні, куды б Кузьма ні пайшоў, уважліва і насцярожана прыглядаўся ён да людзей, асабліва вайскоўцаў.— «Усё гэта свае людзі, нашы,— думаў ён,— але ж ходзіць сярод іх і вораг. Хто ён? Які ў яго твар? Якія вочы?»

Ён затойваў дыханне, напружваў зрок, чакаў, што вось-вось сам-насам сустрэнецца з тым, у каго каўнер перашыты чырвонымі ніткамі, быццам апырсканы крывёю.

## XV

Антон вяртаўся дамоў са сходу. Сход яшчэ не скончыўся, а ён пайшоў. Абрыдла слухаць разумнікаў. Яшчэ Андрэй Бацюта, дык той можа нешта сказаць, свет і людзей пабачыў. А куды лезуць Сцепанюга, Перуноўскі і Мішка Сырамалот? Што яны бачылі, што ведаюць? Ім у зямлі калупацца ды быкам хвасты круціць.

«А можа, гэта ў мяне ад зайздрасці? — патроху астываючы, думаў ён.— Так, якваспаватая дзеўка зайздросціць белатварым ды чырванашчокім. І праўда — я не дурны, нават разумнейшы за шмат каго, а не клеіцца ў мяне жыццё, ідзе з пня на калоду. Не хапае мне нечага. Чужы і для бацькі, і для хлопцаў».

Ён глядзеў на вуліцу, дзе снег быў перамешаны з гразёю, на мокрыя саламяныя стрэхі, на ліпы, з якіх была злуплена, збіта кара, бо кожны раз за іх чапляліся калясьмі, і з вострым холадам у сэрцы думаў, што назаўсёды застанецца прыкуты да гэтай неўрадлівай, нішчымнай зямлі, да гэтага жыцця, шэрага і аднастайнага. Сядзець яму тут, на сваёй паласе, да самай смерці, як дубоваму зубу ў граблях. Толькі ў кніжках ды ў песнях усё не такое. Але кніжкі, пэўна, пішуць тыя, хто ні разу не ішоў вось па такой вуліцы. Сумна было і крыўдна, хоць зашморгніся.

Каб не замачыць ног, ён ішоў, шчыльна прыціскаючыся да плота, хапаючыся рукой за халодныя слізкія штыкецціны. Але ногі ўсё роўна зрываліся з мокрых кладак у лужыны. Каля свайго падворку ён раптам адчуў гаркаваты пах дыму. Спыніўся, пацягнуў носам. Нешта паблізу гарэла. Яшчэ не бачачы полымя, ён ужо пачуў ягоны шум і трэск.

Расчыніўшы варотцы ўдарам нагі, Антон убег у двор. Гарэла стопка. Чырвоныя касмылі агню нізка слаліся над зямлёй. Снег ажно трашчаў.

— Дзіна! — крыкнуў Антон.

Ён ведаў: усе пайшлі на сход, толькі сястра заставалася дома. Дзе ж яна? Антон убег у хату — сястры не было. Тады, быццам яму нехта шапнуў на вуха, ён ірвануўся да стопкі. Дзіна ляжала каля дзежкі з агуркамі. На ёй ужо тлеў кажушок. Антон, кашляючы ад дыму, пацягнуў сястру далей ад стопкі. Дзіна была, як нежывая. Ён яшчэ больш спалохаўся, сцягнуў з яе кажушок, развязаў хустку, пачаў браць жменямі снег і сыпаць ёй на твар. Потым сціскаў снег у руцэ, і ледзяная вада лілася сястры на шчокі.

— Дзіна...— паўтараў ён адно толькі слова.

Хутка вярнуліся са сходу Аўдоля з Прахорам. Аўдоля ўкленчыла каля дачкі, загаласіла.

Дзіну паклалі на ложак, маці змазвала ёй алеем апечаныя мясціны.

Прахор хадзіў злы, гаварыў сам сабе:

— Уся бульбачка ў агні ляснула... Як будзем зімаваць?

Назаўтра Аўдоля схадзіла ў Запольцы і прывяла бабу Еўку. Яна па самыя вочы была закутана ў чорную цёплую хустку. Вочы блішчалі ў паўзмроку хаты.

«Як сава»,— падумаў Антон.

Еўка паглядзела на Дзіну, памацала ёй лоб рукой, сціснула тонкія губы:

— Дзеўка, дзеўка, бяда за табою ходзіць... Бяда вялікая... Хадзяйка,— павярнулася яна да Аўдолі,— плуг у цябе ёсць?

— Ёсць плуг,— замест Аўдолі панура адказаў Прахор.— А што табе?

— Бяры плуг, бяду заворваць пойдзем...

Прахор выцягнуў з-пад паветкі плужок. Еўка перакінула цераз сухое плячо цяг, сказала Аўдолі:

— Упрагайся, баба...

Яны пацягнулі па снезе плуг наўкол усяго двара.

— Тры баразёначкі трэба зрабіць і малітвы святыя пачытаць. І тады не пройдзе злы дух у хату,— прашамкала бяззубым ротам Еўка.

Плуг цяжка ўразаўся ў мокры прытаптаны снег. Пакручастая баразна аббягала плот, потым ішла каля паветкі, заварочвала за хату. Еўка, а за ёй і Аўдоля ўвесь час шапталі малітвы, хрысціліся. Антон стаяў каля плота і глядзеў на маці. Ніколі яшчэ не бачыў яе такою: твар завостраны, валасы распусціліся, на твары застыла каменная пакора: паднясі агонь да вачэй — не ўздрыгне. Маці ішла, усім целам нахіліўшыся наперад, напружыўшы спіну і ногі. Ён бачыў, як рэзка выступілі ў яе на скронях і на шыі сінія жылы. Пот залівау маці вочы. Яна часта спатыкалася, цяжка дыхала, але, здавалася, гатова была прайсці з гэтым плугам праз усю зямлю.

— Цьфу,— не вытрымаў Прахор.— Дзівіцеся, людцы: дзве кабылы. Адна старая, другая трошкі маладзейшая. Каму трэба палосу ўзараць?

Ён махнуў рукой, унурыўшы галаву, пайшоў туды, дзе на месцы стопкі дыміліся чорныя галавешкі.

А Еўка з Аўдоляй пачыналі другі круг. Плуг ішоў усё цяжэй, усё павольней. Аўдоля развязала хустку, кінула яе на снег. З усіх бакоў сыходзіліся людзі, глядзелі, маўчалі. Антону было шкада маці, было крыўдна і сорамна за яе. Можа, упершыню ён убачыў, якая яна ўжо старая, змучаная і непрыгожая ў гэтай сваёй змучанасці.

«Людзям што? — думаў ён, адчуваючы шчакой холад яловай жэрдкі,— пастаяць людзі, паглядзяць, пасмяюцца і пойдуць дамоў. Вунь нават Людвік Перуноўскі прыбег».

Яму раптам стала горача. Захацелася крыкнуць, разагнаць людзей. Ён зайшоў на двор, сеў на сасновую калоду, якую разам з бацькам учора прывёз з лесу. На плоце вісела гладышка, і ў ёй тоненька спяваў вецер. «Хто гэта зімой гладышкі на плот вешае?» — неяк лена падумалася яму. Гарачыня прайшла, саступіўшы месца злосці. Успомнілася, як прыходзілі да Дзіны Іван Міхейчык з Мішкам Сырамалотам, каб праведаць што-небудзь пра Баўтрука, як плакала Дзіна. «Гэта яны яе ў агонь піхнулі,— падумаў ён.— Рахманыя, як авечкі, а кусаюць балюча. Ніколі болей не пайду ў маёнтак».

Яго раптам скаланула ад холаду. Ён устаў, выйшаў з двара. Захацелася сустрэць Яніну, расказаць ёй пра ўсё. Але не. Яшчэ не хапала, каб Яніна ўбачыла, як ягоная маці цягне плуг. Трохі падумаўшы, Антон пайшоў да Лаўрэна Лапыцькі.

Лаўрэн не грэўся, як звычайна, на печы. Разам з нейкім сівым і лысым дзядзькам ён сядзеў за сталом, на якім стаялі міска квашанай капусты і бутэлька з гарэлкай, напалову выпітая.

Антон нерашуча патаптаўся ў парозе.

— Заходзь. Чаго стаіш? — падбег да яго Лаўрэн і за руку пацягнуў да стала.

— Гэта ж во ў мяне чалавек папрасіўся пераначаваць,— гаварыў ён, налiваючы Антону гарэлкі.— Карову купіў. Аж са Слуцка вядзе...

Лысы дзядзька, ужо трохі п'янаваты, весела падміргнуў Антону і раптам заспяваў тонкім піскпявым голасам:

Із-за Слуцка,
Із-за Клецка,
Едзе служба
Маладзецка-а-а...

— Бачыш, які ў мяне вясёлы госць,— пахваліўся Лаўрэн Антону. Але сам быў сумны, толькі памачыў губы ў гарэлку, сядзеў, пера-кочваў у бяззубым роце хлебную скарынку.

— Я сам пра сябе скажу, чалавеча,— засмяяўся лысы дзядзька і павярнуўся да Антона: — Выпі спачатку ёта каліва...

Гарэлка, здаецца, абпаліла горла. Антон папярхнуўся.

— Укусі капусты,— падсунуў яму талерку дзядзька.— Агонь з душы здыме... Дык сам я Дзяніс Каўшырка. Дзяцей у мяне восем душ. Хата ё і гаспадарка ё. А жонка ўвосень памерла. Наступіла нагой на ржавы цвік. Застаўся я адзін, як месяц у небе. А тут і карова ў балота праваліпася і прапала. Ну і надумаў я новую карову купіць — дзецям жа трэба нешта есці. Швагер мой каля Слуцка жыве, ён мне нараіў ету кароўку. I вось са Слуцка, на Друць, да Бялынічаў іду. Чулі пра такія?

— Чулі,— махнуў галавой Лаўрэн.— Там усе людзі з белымі валасамі.

— Ну і ўпаліў,— ад смеху вочы ў Каўшыркі звузіліся ў малюсенькія шчылінкі.— Ды ты глянь на мяне — я цяпер лысы, а раней багаты волас меў. Рыжы ў мяне волас, ангельскі. Так што розныя людзі там жывуць.

Антон еў нясмачную, пераквашаную капусту, глядзеў на Каўшырку.

Дзіўны чалавек і гаворыць неяк дзіўна, не так, як у Чмялях. Гаворыць «ета», «ё».

— Дзядзька,— спытаўся Антон,— вось вы па зямлі прайшлі. Як народ жыве?

— Народ, чалавеча, жыве. Куды яму дзецца, народу? Улада новая, так я разумею, правільная. За мужыка стаіць. Ды толькі кожны ўладу ету па-свойму разумее, на свой капыл. Адзін ад яе паболей ухапіць хоча, другі крычыць, што сябра ёй самы лепшы. А ўчора за здароўе цара-бацюшкі маліўся.

— А не баяўся ты з кароваю ісці? — пацікавіўся Лаўрэн.— Рознага ж люду бадзяецца цяпер па дарогах.

— Хіба я дурны? — пацёр чырвоную лысіну Каўшырка.— Я днём іду, а ноччу ў добрых людзей пераначую. Вот у цябе папрасіўся. А страх ё. Страх у чалавеку з малых гадоў сядзіць. Я сам, праўду вам скажу, страху нядаўна набраўся. І не ад бандзюкоў якіх-небудзь, а можна сказаць, па глупству. Зяць мой Ахрэм памёр — бервяном у лесе забіла. Ну, пахавалі яго, хаўтуры зрабілі, дачка пайшла з дзецьмі ў маю хату начаваць, а я — у яе хату. Ляжу на печы, сплю. І раптам чую — цюк-цюк... Быццам хто па хаце ходзіць. Вочы расплюшчыў — цемра кругом. Думаю — здалося. Толькі зноў быў задрамаў, чую зноў — цюк, цюк, цюк... Ходзіць. Па хаце ходзіць, і нібы на капытках якіх. Здранцвеў я, не дыхаю. А яно ўжо да печы ідзе. І вот ужо нібы на ўслончык узлазіць, што каля печы стаіць. Валасы ў мяне дыбам узняліся. Ляжу і хрышчуся. А яно зноў ад печы адышлося. Так усю ноч і пракалаціўся, як ліст асінавы.

Каўшырка ўздыхнуў, наліў яшчэ гарэлкі.

— А што далей было? — спытаўся зацікаўлены Антон і азірнуўся на акно, каля якога сядзеў.

— Анічога,— лоўка кульнуў Каўшырка сваю чарку і крэкнуў.— Бачыш: жывы я. Нават кароўку сабе купіў. Ета, ведаеце, што было? Парасё было. Брат мой, Рыгор, прынёс яго маёй Мархве, дачцэ. У мяшку прынёс і паклаў каля печы. А парасё ета дурное паляжала, паляжала, адагрэлася і пайшло па хаце гуляць...

Каўшырка паглядзеў на Лаўрэна з Антонам, засмяяўся і заспяваў:

— Гарэліца-пітуліца,
А хто ж к табе прытуліцца,
Як я памру?

— Вясёлы ты чалавек,— з сумам сказаў Лаўрэн.— А я вось так не магу...

Ён устаў з-за стала, прайшоўся па хаце, сеў на лаву, ашчаперыў галаву рукамі. Заціх, быццам скамянеў. Было чутно, як свішча за акном вецер.

— І мяне жыццё ў полымя кідала і ў гразі качала,— пасур'ёзнеў Каўшырка.— Але жыць жа трэба. Жыць трэба, чалавеча. Пакуль кроў у табе ё. Ты, бачу я, на пні засох. А жыццё такіх сухіх людзей абыходзіць. Цябе б на кут — замест абразоў...

Антон убачыў, як уздрыгнуў Лаўрэн. Здалося, зараз ён пакрыўдзіцца, раскрычыцца, нават з хаты выганіць госця. Але прайшла хвіліна, другая, а Лаўрэн маўчаў.

«Ну і целяпень ты, дзядзька,— падумаў Антон,— слоўца за сябе не можаш закінуць...»

— А ты жанаты, хлопец? — спытаўся ў Антона Каўшырка.

— Не,— адказаў Антон.— Думаю жаніцца...— І пачырванеў.

— Ета добрае дзела.— Каўшырка масціўся на лаве на начлег. Паклаў пад галаву сваю палатняную торбачку, развязаў на нагах аборкі.— Жонка і качаргой можа пад гарачую руку пачаставаць, і па душы разануць, як піла, але нам, мужчынам, яна заўсёды падтрымка. Мая Тэкля добрая была...

Ён перахрысціўся на абразы, лёг, нацягнуў на галаву світку і амаль адразу захроп.

— Я пайду, дзядзька. Спакойнай вам ночы,— сказаў Антон Лаўрэну.

— А чаго ж ты прыходзіў?

— Ды так,— адказаў Антон.

Ён прыйшоў дадому, з парога пачуў, як стогне Дзіна. Асцярожна падышоў да сястры, пагладзіў яе па валасах, спытаўся:

— Дужа баліць, Дзіяка?

Дзіна глянула на яго ўдзячнымі вачамі, цераз сілу ўсміхнулася. На хату і на вёску апускалася начная цішыня. Толькі адзін гук заставаўся ў ёй да самай раніцы. Было чутно, як шашаль точыць старое дрэва.

Раніцой Антон прачнуўся ад бацькавага голасу.

— Ты чуеш, Аўдоля,— гаварыў Прахор.— У Лаўрэна Лапыцькі карову сёння ноччу ўкралі...

— У яго ж нямашака каровы.— Аўдоля сядзела на ўслончыку і абірала ў чыгунок бульбу на снеданне.

— Дык не яго карову. Папрасіўся ў яго пераначаваць нейкі не наскі чалавек. Вёў карову, кажуць, з-за Слуцка...

Антон хуценька апрануўся і выбег на вуліцу. Ноччу была завіруха. Каля варотцаў і каля прызбы намяло вялізныя гурбы мяккага сіняватага снегу. Уверсе гурбы канчаліся пакручастымі брылямі, на якіх курэў снежны пыл.

Лаўрэн Лапыцька, як уюн, круціўся на сваім двары, раз-пораз падбягаў да хлеўчука, усё абмацваў прабой. І цёр рукавом чырвонага кажуха вочы, усхліпваў:

— Напільнікам перарэзалі... Ах, нелюдзі! Што ж я чалавеку чужому скажу, як у вочы гляну?

Каўшырка ў адной кашулі стаяў каля плота. Твар у яго быў разгублены, белы. Здавалася, ён яшчэ не зусім зразумеў, якая бяда яго напаткала. Убачыўшы Антона, паклікаў:

— Ідзі сюды, хлопец!

Антон спалохаўся: а што, калі Каўшырка падумае, што ўчора ён наўмысна так позна сядзеў у Лаўрэна? Загаворваў зубы, а ў гэты час з хлява выводзілі карову.

Але Каўшырка, сумна ўсміхнуўшыся, сказаў яму:

— Бачыш, хлопец, як дзела ета павярнулася? Сядзелі мы тут, байкі баілі, а ліхі чалавек не спаў...

— Можа, усё добра будзе, дзядзька... Можа, знойдзецца ваша карова,— паспачуваў Антон, хоць сам не верыў гэтаму.

— Э, братка,— махнуў рукой Каўшырка.— Ваўкі яе ўжо дояць, маю карову...— Ён быў падобны на пакрыўджанае дзіця.

Тым часам на двор сыходзіліся людзі. Чутка, што ў Лаўрэнавага госця ўкралі карову, хутка разнеслася па Чмялях, і амаль кожны чмялёвец на хвіліну заходзіў сюды, каб на свае вочы ўбачыць, што так яно і ёсць. Людзі хадзілі каля хлява, краталі рукамі зламаны замок, прыцмоквалі, гаварылі:

— Спяцы рабілі... Не нашы... Пэўна, прыблуды нейкія з лесу...

І ўсе шкадавалі, што ноччу была завіруха і замяло сляды.

Прычыкіляў Сямён-артылерыст. Адразу, нібы старому знаёмаму, сказаў Каўшырку:

— Чаго ты без адзежыны стаіш на двары? Хочаш богу душу аддаць? Дык бог гэты ў нас у Чмялях дужа халодны...

Каўшырка глянуў на яго, увесь сцепануўся і пайшоў у хату.

А Сямён пахадзіў каля хлява, паўглядаўся ў прытаптаны нагамі снег, уздыхнуў:

— Што цяпер знойдзеш? Спрытна зрабіў нейкі гад, мурашак яму ў штаны...

Зноў узнімалася завіруха. Вецер загуў у старой ліпе, у частаколлі. На стрэхах хат закруціліся воблачкі снежнага пылу. Была ў голасе ветру нейкая жальба, нейкая скарга. Хутка ўвесь Лаўрэнаў двор патануў у шчыльнай белай смузе. Людзі разышліся па сваіх хатах. Толькі адзін Лаўрэн стаяў каля расчыненага хлява і нешта шаптаў сам сабе пабялелымі вуснамі. Яму, хоць забі, не хацелася ісці ў хату, у якой быў Каўшырка. Так стаяў ён у халодным здранцвенні, пакуль нечая рука не лягла яму на плячо. Лаўрэн уздрыгнуў, азірнуўся і ўбачыў свайго кватаранта Мішку Сырамалота. Нават бровы ў Мішкі былі белыя ад снегу.

— Бяда, Мішка,— скрывіўся, ледзь не плачучы, Лаўрэн.— Што рабіць? Хай бы яны мяне самога, як тхара, задушылі, а чалавекаву карову не чапалі...

Мішка, нахмурыўшыся, зморшчыўшы лоб, памаўчаў.

— Што ж рабіць? — не сунімаўся Лаўрэн.— Грэх на маю душу лёг... У чалавека васьмёра дзяцей. І жонка памерла. А выходзіць, я ў іх малако адабраў...

— Чаму ж ты, дзядзька? — ціха сказаў Мішка, увесь час аб нечым напружана думаючы.

— А хто? Я. Не мог, стары пень, за сваім хлявом прыгледзець. Ведаў жа, што розны народ бывае. У пятнаццатым годзе тут Цімох Гладкевіч хлявы і клеці чысціў, пакуль не затаўклі яго стражнікі каля Дулебка Пры старой уласці кралі, пры новай — крадуць. Во свет!

Лаўрэн згорбіўся, зморшчыўся, здавалася, вось-вось заплача. Абодва колькі хвілін пастаялі моўчкі, і раптам Мішка, нібы нешта ўспомніўшы, крута павярнуўся і хуценька пайшоў з двара.

— Куды ж ты? — паклікаў Лаўрэн, але Мішка нават не азірнуўся. Ён, спяшаючыся, ішоў па вуліцы, і ягоныя сляды замятала снегам.

Лаўрэн адчуў сябе яшчэ больш адзінока. Так непрытульна было на душы. Ён зайшоў у хляўчук, патаптаўся там трохі, абы не ісці ў хату. З паўахапачка сена валялася каля сцяны — карова не паспела даесці. Праз расчыненыя вароты на сена намяло снегу, і яно ляжала, як нечыя доўгія сівыя валасы.

«Можа, прадаць хату, а грошы аддаць чалавеку? — раптам падумаў Лаўрэн.— Толькі дзе цяпер купца знойдзеш?» І яго апякла злосць на свой лёс, на сваю адзінокую, амаль жабрачую старасць. Навошта чалавеку было нараджацца, калі ўсё ягонае жыццё — як ваўчынае галашэнне ў піліпаўку?

«Хіба ж я не хацеў шчасця? — адчуваючы, як пачынае калаціцца сэрца, як да ног падкочваецца млоснасць, думаў Лаўрэн.— Хіба Ганну і дзетак сваіх не любіў? Ці, можа, працаваць не хацеў, зломкам быў? Дык не ж. Да цямна, яшчэ малады, на паласе сваёй пні карчаваў. Рукамі і зубамі іх з зямлі выдзіраў. Адзін. Помачы не было. Баяўся, што кілу магу нажыць. І хату сам зрубіў, і калодзеж выкапаў. За што ж мне гора такое?»

Ён аж задыхнуўся ад крыўды, ад бездапаможнасці. Халоднае зімовае неба плыло над ім. Там, у небе, сярод ветру і снегу, плылі душы людзей, што, нібы мякіна, былі адвеяны з зямлі смерцю. Там былі родныя яму душы. Яны глядзелі на яго з ледзяной вышыні, але не маглі паклікаць, бо голасу не мелі. І яны пасылалі яму прывітанне з гэтым снегам, што, падаючы зверху, ціха і мякка цёрся аб ягоныя шчокі.

— Дзядзька Лаўрэн,— выйшаўшы з хаты, паклікаў яго Антон.— Чаго вы там стаіце? Хадзіце сюды.

Павольна і цяжка пайшоў Лаўрэн у сваю хату. Каўшырка сядзеў на лаве, пераабуваў лапці. Убачыўшы прыгнечаны твар гаспадара, слаба ўсміхнуўся:

— Ну чаго ты ўжо так узяў у галаву ёта дзела? Абы мы былі, а каровы будуць. Грошай патроху збяру, гады праз два зноў куплю. У сястры маёй карова ё. Кубак малака дзецям маім дасць. Усё ж сестрына карова.

Лаўрэн маўчаў, стаяў ля парога, як няпрошаны госць. Каўшырка ж, здаецца, зусім забыўся пра сваю бяду. Дастаў з торбачкі хлеб, сала, пачаў іх рэзаць на стол і гаварыў:

— Каб жа ведаў, чалавеча, дзе спатыкнешся... У майго суседа Мікіты Доўгага карову ў полі маланкай забіла. Кароў дваццаць хадзіла, а Ілля, прарок еты самы, толькі ў яе пацэліў. А кароўка дробненькая была, невялічкая.

«Ну і душа ў чалавека,— думаў пра Каўшырку Антон.— З крэменя. Іншы б ужо слёз поўную дзежку наплакаў. А гэты сала рэжа, нават пасміхаецца...»

Антон не пайшоў дадому. Нешта затрымала яго ў гэтай хаце. Відаць, чужое гора, якому хацелася паспачуваць, на якое хацелася паглядзець, хоць і халаднела ад яго ўсярэдзіне. Як прыкмеціў Антон, гэта было больш Лаўрэнава гора: быццам Лаўрэнаву карову ўкралі.

Антон ужо даўно заўважыў, што ў нечым яны падобныя, ён і Лаўрэн Лапыцька. Не заўсёды яму падабалася гэтае падабенства, нават не хацеў ён яго, але што зробіш? «Чым мы падобныя? — седзячы на старым Лаўрэнавым сянніку, пакутліва думаў ён.— Пэўна, адзінотай сваёй. Жывём, як сіроты, сярод людзей...»

Нарэшце Лаўрэн трохі ачомаўся, падышоў да Каўшыркі, вінаватым голасам сказаў:

— Што ж будзем рабіць, Дзяніс?

— А што рабіць? — узняўся з лавы Каўшырка, і аказалася, што ён на галаву вышэйшы за Лаўрэна.— Ты будзеш маліцца, а я буду песні спяваць.

Яны зноў змоўклі. Кожны думаў пра сваё. Мякка біўся ў мутныя шыбы снег. І тут дзверы расчыніліся, і ў хату ўвайшоў Мішка Сырамалот. Зняў з галавы белую ад снегу шапку, стукнуў ёю аб калена, весела сказаў, звяртаючыся да Каўшыркі:

— Ідзі забірай сваю рагулю.

На нейкае імгненне ўсе анямелі.

— Няўжо знайшлі? — першы апамятаўся Лаўрэн і выбег на двор.

За ім выйшлі Каўшырка з Антонам. Каўшырка, хоць вочы ў яго радасна свяціліся, ішоў надта спакойна. Быццам яго нічога не ціка-

віла. На двары стаяла і галодна мыкала чырвона-бурая карова. Адзін рог у яе быў абламаны, на другі накінута вяроўка. Мішка адвязаў вяроўку ад плота, горда глянуў на Каўшырку. Той трохі патаптаўся, збіў шапку на патыліцу, сказаў:

— Мая ж чорная была, а ета чырвоная.

— Бяры. Малако ўсё роўна белае будзе,— уклаў яму ў руку вяроўку Мішка.— Гэтую карову наш чмялёўскі рэўком табе дае. Сам таварыш Бацюта сказаў, каб далі. Ён хацеў сюды падысці, ды жонка ў яго захварэла.

Каўшырка разгублена глядзеў то на Мішку, то на карову. Ён думаў, што над ім жартуюць, і соп носам. Мішка раптам схапіў карову за рог, рэзка павярнуў яе галаву да Каўшыркі:

— От, чалавек... Бяры, табе кажуць. Савецкая ўлада табе дае.

У Каўшыркі закалаціліся рукі. Ён узяў вяроўку, наматаў яе на шырокую чырвоную далонь.

— Братачка,— сказаў ён Мішку, і голас ягоны ўздрыгнуў.— Век цябе буду помніць. Дзеці мае за цябе будуць маліцца...

Каўшырка па-дзіцячы ўсхліпнуў, выцер рукавом вочы. Тады апамятаўся і Лаўрэн Лапыцька. Зняў шапку, пакланіўся Мішку ў пояс:

— Ну і ўдружыў, Сырамалот. З шыбеніцы, можна сказаць, зняў. А Бацюту Андрэю я таксама аддзякую... Сёння ж аддзякую.

Твар у Лаўрэна пасвятлеў, памаладзеў. Лаўрэн падышоў да каровы, пачаў яе гладзіць. Карова глядзела на яго сумнымі вільготнымі вачамі.

І толькі Антону ўсё гэта не спадабалася. Вельмі ж ужо зрабілі Мішку нейкім героем. Дзякуюць, ледзь рукі не цалуюць. А ён і нос задраў. Антон адышоўся ўбок і лапцем калупнуў снег на прызбе.

Каўшырка адразу ж пачаў збірацца ў дарогу. Хуценька напакаваў сваю торбу, нават адмовіўся ад снедання. Быў ён узрушана-шчаслівы, насвістваў сабе пад нос.

Прыкладна праз паўгадзіны ён рушыў з вёскі. Усім моцна паціснуў рукі, Лаўрэну хацеў заплаціць за начлег, але той адмахнуўся ад грошай, як ад агню.

Неба тым часам пасвятлела. Вецер ссунуў хмары на захад, і блакітная паласа неба заззяла над зямлёй. З хатаў павыходзілі людзі. Каўшырка ішоў па вуліцы, ведучы за сабой карову. Карова нізка апускала галаву, нюхала снег. Каўшырка, прыўзнімаючы шапку, кланяўся, развітваўся з усімі, усміхаўся. Людзі гаварылі яму:

— Ну што, знайшоў сваё малако?

— Як карову зваць будзеш?

Каўшырка слухаў-слухаў іх, а потым весела шпурнуў на снег шапку:

— Дзе я яе прыдбаў? У Чмялях? Значыць, і назаву яе — Пчала.

Ён узрадаваўся, што прыдумаў карове такую добрую мянушку. Таргануў вяроўку, прысвіснуў:

— Пайшлі, Пчолка.

Разам з каровай ён выйшаў з вёскі, узабраўся на парослы хвойнікам узгорак, памахаў адтуль шапкай, спусціўся ў лагчыну і знік у белым снежным полі.

Усім стала трохі сумна, што болей ніколі не сустрэнуць яны Каўшырку. Быццам і не было яго.

— Запомніць нашы Чмялі,— усміхнуўся Мішка Сырамалот.— Не ў кожным сяле карову даюць...

І тут Антон не вытрымаў. Непрыязнасць да Мішкі, якую да гэтага стараўся нічым не выказаць, успыхнула ў ім з новай сілай.

— Кожны можа чужую карозу даць,— буркнуў ён.

— Як гэта — чужую? — здзівіўся Мішка.

— З графскай фермы.

— Ну, брат,— аж спыніўся Мішка,— ты што — з неба зваліўся? Рэвалюцыя ж. Усё, што было графскае, стала наша.

— Усё роўна чужая. Сваю б ты не аддаў.

— Несазнацельны ты чалавек, Радзімовіч,— Мішка пасур'ёзнеў і ўпершыню назваў Антона па прозвішчу.— З сялянскай працоўнай сям'і, а ў галаве ў цябе шляхецкая мякіна. Яшчэ пра Спартака збіраўся сачыняць... Які ты Спартак: цябе б і блізка не падпусцілі да спартакаўскага войска...

— Будзь ты Спартаком,— злосна выдыхнуў Антон.— Праўда, носам не выйшаў, але нічога — з тваім языком усяго даб'ешся.

Ён крута павярнуўся і амаль пабег ад Мішкі і Лаўрэна. Злосць туманіла яму вочы. Хопіць! У яго ёсць свая галава, і ён не дасць вадзіць сябе на павадку. Вадзіце графскіх кароў, а яго, Антона, не чапайце. А Лаўрэн размяк. Купілі за карову. Вось табе і маўчун.

Спяшаючыся, ішоў Антон па вуліцы і здалёк убачыў: каля іхняй хаты сядзіць на лавачцы нейкі чалавек. Утуліў галаву ў плечы, рукі сашчэплены на каленях. Хто б гэта мог быць? Бацька ніколі б так не рассеўся сярод белага дня. Калі надарыцца вольная хвіліна, бацька лепей шмыгне куды-небудзь у гумно ці пад паветку, далей ад жончыных вачэй.

«А можа, Кузьма вярнуўся з войска?» — аж захлынуўся ад радаснай здагадкі Антон.

Але гэта быў не Кузьма. Атрасаючы з чорных штаноў снег, хукаючы на рукі, з лавачкі падняўся Аркадзь Гайкевіч. Быў ён акуратна паголены, чысты, вясёлы, але вочы чырвоныя — пэўна, недаспаў. Ён пацiснуў Антону руку сваёй халоднай рукою. Антон узрадаваўся нечаканаму госцю. Гэты хоць не будзе павучаць на кожным кроку.

— Як жывеш, Антон? — спытаўся Гайкевіч.

Голас у яго быў ціхі, стомлены.

Антон глянуў на яго новыя белыя буркі ў чорных бліскучых галёшах, сумнавата ўсміхнуўся:

— Не так, як у горадзе. У нас тут свая публіка: коні ды свінні.

— А я толькі што з вашага павета, з Ігумена прыехаў,— не прыняў яго жарту Гайкевіч.— І адразу да цябе. Збірайся, братка, у Менск.

— У Мінск? — здзівіўся Антон.— Чаго? У мяне там родзічаў няма.

— У цябе там будзе аж за тысячу родзічаў. 15 снежня Усебеларускі кангрэс збіраецца. Лёс краю свайго будзем вырашаць.

— А мне чаго туды ехаць?

— Ты, братка, будзеш дэлегатам ад Чмялёўскага валаснога земства. Уся Беларусь збіраецца. Ад кожнай губерні, кожнага павета людзі павінны прыехаць. І ад бежанцаў нашых, па белым свеце раскіданых. Ад пяцідзесяці сем'яў адзін дэлегат. І ад ваякоў-беларусаў. Пяць тысяч ваякоў пасылаюць аднаго свайго чалавека. Будуць таксама дэпутаты Устаноўчага сходу ад Беларусі. На Вялікі Народны збор, Антоне, паедзеш.

Гайкевіч гаварыў гэта ўрачыстым голасам, вочы ў яго ззялі.

— Мяне ж ніхто туды не выбіраў. Як я паеду? — разгубіўся Антон.

— У нас не выбіраюць. Цябе, як дэлегата, запрашае Беларуская рада. І ўсіх так. Я ў павеце наконт цябе дамовіўся. Толькі,— Гайкевіч сцішыў голас,— нікому пра гэта ні слова. Не трэба, каб лішнія вушы чулі. Асабліва новым сённяшнім начальнікам не прагаварыся. Хто ў вас тут у начальстве цяпер ходзіць?

— Каваль Бацюта. З нашых — Яўхім Сцепанюга, Мішка Сырамалот і яшчэ чалавек пяць...

— Ну во. Гэтым не трэба ведаць. Яны нас не дужа шануюць...

Ён сказаў слова «нас» так, быццам быў, самае меншае, стрыечным братам Антону.

— Бацьку ж з маці я павінен сказаць, куды паеду,— нахмурыўся Антон. Ён ужо цвёрда вырашыў: як бы там ні было — паедзе ў Мінск. Ніхто не можа яму забараніць. Хоць раз на белы свет трэба глянуць, людзей убачыць. У душы ён быў вельмі ўзрадаваны: з Чмялёў запрасілі яго, толькі яго.

— Бацькам можаш сказаць,— дазволіў Аркадзь.— Я ведаю: яны ў цябе неязыкатыя. Бо табе мандат і пропуск на з'езд,— дастаў ён з унутранай кішэні паліто доўгую жаўтаватую паперыну,— а во трохі грошай: на білет. Грошай яшчэ вазьмі з сабой і з'есці чаго, бо ў Менску з харчаваннем слаба. І заўтра выбірайся ў дарогу. Як прые-дзеш, адразу пытайся, дзе гарадскі тэатр. З'езд будзе ў тэатры. Ну, братка, не падводзь мяне. А я пабягу. Мяне фурманка на Ігумен чакае.

Ён паціснуў Антону руку, павярнуўся і пайшоў. Ад яго галёшаў на снезе заставаўся прыгожы след — дробненькія кружочкі і зорачкі. Антон сеў на лавачку, паглядам правёў Гайкевіча да паваротні. Над галавой, ушчыміўшыся ў плот, голым голлем шумела сліва. Непадалёку выбегла з хаты Франя Перуноўская без хусткі, з голымі па локаць рукамі. У дзіравым вядры несла жар з печы, сыпанула яго ў снег. Чырвоныя распаленыя вугольчыкі аж запішчалі ў халодным снезе, а над тым месцам, куды яны ўпалі, узнялося воблачка белай пары. Франя ўсміхнулася Антону і зноў пабегла ў хату. «Заўтра я еду ў горад»,— падумаў Антон, і яму зрабілася трывожна і весела.

Бацька трохі пабурчаў, а потым махнуў рукой:

— Едзь! Калі дзе ўбачыш сякеру добрую — купі. Наша ўжо зусім пашчэрбілася...

Маці заплакала:

— Што ты надумаў, сынок? Заб'юць яшчэ дзе-небудзь у дарозе, пад поезд кінуць...

Потым чым маглі пачалі пакаваць Антону торбу. У белую лапінку загарнулі соль.

— Шчаслівы ты, Антон,— усё яшчэ моршчылася ад болю, уздыхала Дзіна.— Горад убачыш, можа, дзе Кузьму нашага сустрэнеш...

Прахор патаптаўся ў хаце і пайшоў на вуліцу.

— Глядзі ж, ні з кім не вадзіся,— павучала маці.— Загаворыць такі чалавек зубы, чмуту ў вочы напусціць, а потым хеўру сваю навядзе на цябе...

Антону было прыемна, што за яго так баяцца, клапоцяцца аб ім. Быццам ён зрабіўся малым хлапчуком і ўпершыню збіраецца пераступіць родны парог, выйсці за аселіцу. А ён жа ўжо быў аднойчы ў горадзе, у Бабруйску. Восем ці дзесяць гадоў тады яму было. Помніцца, зайшлі яны ў краму да нейкага чорнабародага дзядзькі, якога бацька зваў Шлемам. Дзядзька смяяўся; паказваў ім язык, а потым наўмысна рассыпаў на падлогу сабе пад ногі цукеркі — прыгожы, рознакаляровы гарошак. І яны, Антон з Кузьмой, кінуліся збіраць гэтыя

цукеркі, поўзаць па бруднай падлозе, а бацька раптам раззлаваўся і пачаў крычаць на Шлему.

У клопатах і ў зборах прайшоў вечар. Спаць ляглі рана. Антон ляжаў на ложку, слухаў, як точыць сцены шашаль, як варочаецца, не засне маці, і ў думках развітваўся з хатай. Заўтра ён ужо не будзе спаць на гэтым ложку. Заўтра яго чакае дарога, чужыя людзі. Як яны сустрэнуць яго?

У акно заглянуў месяц, кінуў на падлогу халодныя срэбныя промні. У хаце пасвятлела. Са змроку выступіла печ, заблішчаў у куце абраз.

«Быў бы жывы дзед,— падумаў раптам Антон,— дзед бы не спаў, а сядзеў каля мяне на ложку і расказваў, як сам калісьці ездзіў у горад, ажно ў Беласток...»

Назаўтра, паснедаўшы, Антон пайшоў да Яніны. Каля хаты Міхейчыкаў у нерашучасці спыніўся — заходзіць ці не? Усё-такі не зайшоў, каб не сустрэцца там з Іванам, пачакаў, пакуль з хаты выбегла малодшая Янініна сястрычка Галя набраць пад паветкай дроў.

— Пакліч Яніну,— папрасіў яе Антон.

Неўзабаве з хаты выйшла Яніна, радасна ўсміхнулася.

— Я сёння еду,— сказаў Антон.

Яна пабляднела:

— Куды, Антонка?

Ён пачаў расказваць, нічога ад яе не ўтойваючы, і бачыў, што з кожным яго словам вочы яе ўсё больш сумнеюць, халаднеюць. Быццам хмарка наплыла ёй на твар.

— Антон,— сказала яна,— ідзі дадому, збірайся. А пасля абеду, як будзеш ад'язджаць, забяжы ў лес за Сцепанюгавым гумном. Там палянка ёсць, ведаеш? Толькі глядзі — забяжы.

Ён не спытаўся, навошта абавязкова трэба забегчы на гэту палянку. Ён цяпер гатоў быў зрабіць усё, аб чым яна ні папрасіла б.

Калі Антон вяртаўся дадому, на вуліцы яму сустрэліся Бацюта з Яўхімам Сцепанюгам. Антон падаўся бліжэй да плота, зрабіў выгляд, быццам не заўважыў іх, але Бацюта паклікаў яго:

— Радзімовіч, пачакай...

Яны падышлі да Антона, абодва плячыстыя, моцныя, нечым незадаволеныя, паздароўкаліся.

— Ты, здаецца, у Мінск едзеш? — спытаўся Бацюта.

«Хто яму сказаў? Напэўна, бацька»,— падумаў Антон, але прамаўчаў, стаяў, перамінаючыся з нагі на нагу.

— На Беларускі з'езд едзеш,— гаварыў, не дачакаўшыся адказу, Бацюта.— Але ж мы цябе не пасылаем. Ты ж чуў, якую рэзалюцыю

мы прынялі на сходзе. У нас улада адна — савецкая. Іншых мы не прызнаём...

— Не едзь, Антон,— раптам папрасіў Яўхім Сцепанюга. Пануры і ваўкаваты, ён сказаў гэтыя словы на дзіва лагодным голасам.

— Не паеду,— схлусіў Антон, каб толькі яны хутчэй адышліся, каб не бачыць іхнія строгія і адначасова разгубленыя вочы.

— Значыць, дамовіліся,— пацiснуў яму руку вышэй локця Бацюта і ўсміхнуўся.

«Усё роўна паеду. Толькі вы мяне і ўбачыце,— ідучы на свой двор, думаў Антон.— Я сам сабе гаспадар.

І хачу жыць так, як хочацца мне, а не так, як трэба вам...»

Яго нават не засмуціла тое, што ён схлусіў, паабяцаўшы не ехаць. «Дзеля добрай справы можна і схлусіць»,— як за свечку ў цемры, трымаўся ён за такую, як здавалася яму, простую і правільную думку.

Бацька быў у хаце, яшчэ нават не збіраўся запрагаць Чумака. Глянуў на Антона, палез у кішэню закурыць.

— Пакурыш у дарозе,— раздражнёна сказаў Антон.— Ужо час ехаць... Твае начальнічкі мяне не адгаварылі.

Бацька пачырванеў, як дзіця, якое злавілі за непрыгожым заняткам. Уздыхнуў, узяў пугу, што вісела на цвіку ў качарэжніку, выйшаў на вуліцу.

Яны выехалі за вёску, павярнулі на лясную дарогу. На шчоках у Антона ўсё яшчэ гарэлі цёплыя матчыны слёзы. Вёска віднелася купкамі старых ліпаў, калодзежнымі жураўлямі. У лузе насупраць лесу стаялі гумны. Вось і гумно Яўхіма Сцепанюгі, нізкае, з пляскатай, скасабочанай страхой.

— Спыніся,— папрасіў Антон бацьку, саскочыў з саняў і, правальваючыся ў снезе, амаль пабег у лес. Пад нагамі трашчала мёрзлае голле. Бацька здзіўлена глядзеў услед.

Пасярод паляны гарэла невялічкае цяпельца. Чырвоны водбліск ад яго трапятаў на снезе. Антон убачыў Яніну. Яна ішла яму насустрач з другога боку паляны. Яны сышліся каля цяпельца. Твар у Яніны быў белы, як снег.

— На калені стань... Як у царкве...— прашаптала яна.

Антон, нічога не разумеючы, апусціўся на калені ў халодны шорсткі снег. Над галавой, стоена і журботна, шумеў лес. Яніна і сама стала на калені, з вузельчыка, што быў у яе ў руках, дастала вялікія нажніцы, якімі стрыгуць авечак. Халоднымі нажніцамі яна састрыгла ў Антона з галавы пасму валасоў, потым у сябе, кінула валасы ў агонь. Пачуўся слабы трэск.

— Перахрысціся,— сказала Яніна.— Хай згарыць усё, што можа нас разлучыць, хай возьмецца полымем бяда, якая ходзіць кругом нас.

Ціхія і расчуленыя, глядзелі яны на цяпельца, а яно ўжо дагарала, памірала на халодным снезе. Антон стаў на ногі, сказаў, хоць думаў сказаць зусім не гэта:

— Добрая паляна...

— Тут я вясной краскі рву, вянкі ўю...

Яніна глядзела на Антона і запіхвала яму ў кішэню кажуха нейкі пакунак.

— Гэта табе перакусіць будзе...

Ён заспяшаўся на дарогу, а яна засталася каля цяпельца, што ўжо патухала. Сіні дым віўся каля ног.

Зноў па калдобістай лясной дарозе пабеглі сані. Маўчаў Антон, маўчаў бацька. Яны, вядома, хацелі пагаварыць, але ніхто не адважваўся пачынаць размову першы. Часам палазы глуха стукаліся аб карэнні дрэў, якія перараазалі дарогу, і тады Чумак уздрыгваў. Лес гусцеў, глушэў, усё вузейшаю рабілася бледна-сіняя палоска неба над дарогай. Праехаўшы вярсты тры, Прахор, ні слова не кажучы, крута завярнуў каня. Антон ледзь неываліўся з саняў.

— Ты што? — спытаўся ён у бацькі.

Прахор злосна сцебануў каня лейцамі, пакіраваў

назад, у вёску.

— Спыніся! — крыкнуў Антон.

— Нікуды ты не паедзеш. Іч, грамацей! Сядзі дома на печы і не высторквайся. Той з'езд табе трэба, як сабаку пятая нага.

Тады Антон выскачыў з саняў, упаў тварам у снег. Але ні холаду, ні болю не адчуў. Хуценька ўзняўся, перакінуў цераз плячо торбачку і пашыбаваў па дарозе. Снег раставаў на барадзе і шчоках. Ён прайшоў прыкладна з паўвярсты, калі бацька на кані дагнаў яго, сказаў:

— Садзіся, Антон... Не смяшы людзей. Паедзем дадому.

Антон моўчкі ішоў сваёй дарогай. І Прахор раззлаваўся, крыкнуў сыну:

— Ідзі, хай па табе коні ходзяць. Захочаш жэрці — вернешся...

Не азіраючыся, Антон чуў, як усё слабеў за спінай віск палазоў. Вось зусім стала ціха. Толькі з усіх бакоў панура шумеў лес. Да Асіповічаў заставалася яшчэ вёрст дваццаць. Антон падумаў пра гэта, і адразу адзінока і трывожна сцялося сэрца.— «Гадзіны чатыры трэба будзе ісці,— у думках падлічыў ён.— Поезд на Мінск адпраўляецца ў адзінаццаць гадзін вечара. Значыць, паспею...» Ён надбавіў ходу.

Між тым кароткі зімовы дзень ужо канчаўся. За густыміляснымі шатамі, не бачнае воку, падала ў аснежанае поле чырвонае сонца. Неба палымнела, пералівалася ўсімі фарбамі і адценнямі, але з кожнай хвілінай гэтыя фарбы і адценні рабіліся цямнейшымі. Быццам халодны шэры попел пакрываў гарачае вуголле. Высыпалі першыя нясмелыя зоркі. Неба чарнела, набліжалася да зямлі. У верхавінах дрэў ажыў вецер. Дрэвы зашумелі, закалыхаліся, трэск пачуўся з глухой лясной цемры. Антон не быў палахліўцам, але адчуў, як ледзянее, напружваецца ўсё ўсярэдзіне. Ён стараўся не азірацца назад, не глядзець па баках. Ішоў і думаў пра маці з Дзінай, пра Яніну. Ды ўсё роўна адчуванне, што ягоную спіну свідруюць нечыя злыя халодныя вочы, не пакідала яго. Ён вальней уздыхнуў, калі выйшаў на прасторную лясную паляну. Калісьці некалькі дзесяцін лесу вынішчыў пажар, і цяпер тут тырчалі чорныя абсмаленыя пні. У гэты час на кеба выплыў месячык. Дрэвы засвяціліся. Антон ішоў і бачыў свой цень. На асляпляльна-белым снезе цень быў такі чорны, такі выразны, быццам яго нехта намаляваў вуглем. Дарога зноў убілася ў лес. Тут пачыналася балота. Усцяж дарогі раслі крывыя бярозы, тонкія лядаштыя асіны. Антон ямчэй узяў у руку шнурок, якім была звязана торба, і раптам пахаладзеў. Яму здалося, што ў прагалах між дрэвамі мільгаюць нейкія лёгкія светлыя цені. Цені гэтыя рухаліся.

«Глупства,— супакоіў ён сам сябе.— Гэта блішчыць пад месяцам снег, і ў вачах ад яго цямнее, чорцікі бегаюць...» Але страх ужо не выходзіў з сэрца.

Антон глянуў на неба, ка зоркі. Яны былі такія далёкія, недасяжныя. Роўна і холадна гарэла іхняе святло. І ён адчуў сябе зусім нікчэмным і малым сярод усёй гэтай няўтульнай звонкай цішыні.

Ззаду пачулася выццё. Пруткі бясшумны звер скочыў цераз дарогу і быццам растаў у снежным ззянні. «Ваўкі»,— жахнуўся Антон. З двух бакоў дарогі, крокаў за трыццаць ад яе, паміж чорных дрэў, распластваючыся над снегам, несліся доўгія імклівыя цені. Яны ўжо як бы ахоплівалі Антона пятлёю. І ўсё больш смялелі, усё больш набліжаліся да дарогі. Ён ужо чуў, як шорстка рыпіць снег пад іхнімі моцнымі лапамі. «Толькі костачкі ад мяне застануцца»,— з жахам падумаў Антон і выцер рукавом пот, які заліваў вочы.

Вялізны худы воўк крокаў за дзесяць наперадзе ў яго скочыў на дарогу, ляснуў зубамі, прыціснуў тулава да зямлі. Антон схапіў з-пад ног нейкую ламачыну, размахнуўся і пусціў ёю ў ваўка. Той віскнуў, як сабака, чорным клубком пакаціўся па снезе. Потым, падцяўшы зад, саскочыў з дарогі. Як па камандзе завылі ўсе астатнія ваўкі. Поўсць на іх серабрылася, вочы ззялі галодна і нецярпліва. Антон,

адчуваючы, што сэрца вось-вось вырвецца з грудзей, падбег да тоўстай крывой бярозы, падскочыў, учапіўся за ніжні сук і, коўзаючыся ботамі па слізкай зледзянелай кары, палез уверх. Здавалася, яшчэ хвіліна — і ў яго ад напружання лопнуць жылы. Той жа самы воўк у момант вока рвануўся да бярозы, шчоўкнуў зубамі каля самага Антонавага сцягна. Антон неяк цераз плячо, наводліў, ударыў яго торбай па тупой, як бы абсечанай пысе. Воўк перавярнуўся ў паветры, бухнуўся ў снег. А зграя ўжо шкуматала, разрывала на кавалачкі торбу з хлебам і салам.

Да самай раніцы сядзеў Антон на бярозе. Адзіным жаданнем у яго было не заснуць, не зваліцца ў зубы ваўкам. Ён увесь спруцянеў, скамянеў, пачаў кашляць. Кашаль быў сухі, стылы. Быццам нехта вострым халодным цвіком раздзіраў лёгкія.

Калі пачало світаць і над балотам разліўся белы туман, ваўкі пайшлі ад бярозы. У іхніх вачах была злосць і расчараванне. Антон яшчэ з паўгадзіны счакаў, потым асцярожна злез з дрэва. Ногі і рукі яго не слухаліся, ад кашлю балелі грудзі. Цягнік на Мінск, вядома ж, яго не чакаў, ужо даўно пайшоў. І ўсё ж Антон, не раздумваючы, вырашыў ісці толькі ў Асіповічы. Вярнуцца дамоў значыла скарыцца бацьку. А што падумае Яніна? Не, ісці трэба толькі наперад.

Ён даплёўся да Асіповічаў, калі ўжо зусім развіднела. Уздоўж чыгункі ляжалі штабелі шпалаў і бярвенняў. Са свістам пранеслася па рэйках дрызіна. Ён сеў на засыпаную снегам лавачку каля ўваходу ў будынак вакзала. Запыленыя мукой, а можа, мелам, прайшлі грузчыкі. На снезе, там, дзе было рассыпана сена, валтузіліся вераб'і. Антон падумаў, што, пэўна, ноччу да цягніка з далёкіх лясных вёсак прыязджалі сяляне і тут, прывязаныя да плота, стаялі іхнія коні. Раптам яму зрабілася так сумна, так адзінока, так няўтульна. Куды і да каго ён едзе? Хто чакае яго там? А дома засталіся маці з Дзінай, Яніна, бацька. Пэўна, ужо снедаюць, сядзяць за сталом, успамінаюць яго.

Праз гадзіны паўтары прыйшоў таварны поезд напрамкам ка Мінск. Прыгінаючыся, хаваючыся ад старонніх вачэй, Антон падкраўся да платформы з дрывамі і ўзлез на яе. Халоднае жалеза апякло рукі. Дровы пахлі сырасцю, лесам, нават, яму падалося, грыбамі. Ён заціснуўся ў вузенькі праходчык паміж дрывамі, сеў на тоўстую слізкую бярозавую плашку, падкурчыў ногі, заціх. Каля самага яго твару матляўся пад ветрам кавалачак бяросты. Бяроста тоненька спявала.

Машыніст даў свісток, паравоз чмыхнуў, выпусціў воблака гарачай пары (яна даляцела аж да платформы), цяплушкі і платформы ўздрыгнулі, неахвотна, лена зазвінелі. Прыстылыя да рэйкаў, натужна зарыпелі колы. Поезд крануўся. Сумная зімовая зямля пабегла

насустрач Антону. Ён бачыў белыя лугі, белыя палі, на якіх толькі дзе-нідзе чарнеліся прабітыя людзьмі сцяжынкі. Высозныя дубы стаялі ў срэбных снежных шапках. Сярод усёй гэтай роўнай, нават нейкай мёртвай белі ярка, свежа і молада зелянелі яловыя лясы. У небе, як бы падсіненым, бледным, кружыліся вялікія чароды варон. Варонам было холадна, і яны ледзь-ледзь махалі крыллямі. Антон глядзеў на ўсё гэта сумнымі халоднымі вачыма, горбіўся пад ледзяным ветрам, які час ад часу раптоўна налятаў збоку, і яго не пакідала незразумелае жаданне. Ён думаў: выскачыць бы зараз з цягніка ў незнаёмым месцы, на поўным ходзе і згубіцца сярод гэтых лясоў і снягоў. І дзе-небудзь, у нейкай не вядомай нікому лясной вёсачцы знайсціся малым і спачатку пачаць жыццё. Каб усё было па-іншаму, не так, як сёння, не так, як учора. Яму думалася, што там, у той вёсачцы, якая раскінулася на самым дне дрымучых непраходных лясоў, жывуць добрыя вясёлыя людзі, абавязкова русавалосыя і сінявокія. Там увечары ў заледзянелым акне ціхай драўлянай хаты гарыць блакітная, чыстая, як сляза, зорка. Там у студнях, што абраслі тоўстым белым лёдам, блішчыць, звініць самая чыстая, самая гаючая на зямлі вада.

Ён уздыхнуў, пачаў ямчэй уладкоўвацца на халоднай бярозавай плашцы і ў кішэні свайго кажушка каторы раз намацаў падараваны Янінай пакунак, які ён хаваў на потым. Ох, як захацелася есці! Ён асцярожна дастаў з кішэні пакунак. У белую палатняную лапінку былі загорнуты хлеб і сала. І яму зноў успомнілася паляна ў лесе, цяпельца, бледны твар Яніны, яе вочы, напоўненыя сумам і трывогай. Ён адшчыкнуў кавалачак халоднага мёрзлага хлеба, пачаў есці. Ніколі яшчэ ён не еў такі смачны хлеб...

XVI

З'езд ужо даўно пачаўся. На будынку гарадскога тэатра мокры снег падаў на бела-чырвона-белыя сцягі. Сцягі былі падобны на мокрых лінялых птушак. Кашляючы, Антон падышоў да ўваходу ў тэатр. Пакуль прыехаў, хадзіў па горадзе, пытаўся, як трапіць на Беларускі з'езд, прастуда яшчэ мацней сціснула грудзі. Кружылася ў галаве. Лоб і скроні, здавалася, расколваліся напалам.

— Я з Чмялёў... На з'езд...— няўпэўнена сказаў Антон бледнатвараму, чарнавусаму юнаку ў цывільным і васпаватаму крутаплечаму матросу, што дзяжурылі каля ўваходу. І зноў закашляўся.

— Вашы дакументы? — працягнуў да Антона чарнавусы тонкую белую руку. Рука была ўся ў сініх жылах, з доўгімі пальцамі, з вялікімі, гладкімі і бліскучымі пазногцямі.

— Няма ў мяне нічога,— разгубіўся Антон.— Мандат быў у торбачцы з салам... А торбачку ваўкі з'елі...

Васпаваты матрос падазрона глянуў на яго. Ва ўражлівых вачах быццам прамільгнула нейкая здагадка.

— Хто цябе ведае, хто ты? У цябе на лбе не напісана,— сказаў ён.— А можа, цябе з Савета Народных Камісараў падаслалі, каб шпіёніць у нас на з'ездзе, вынюхваць усё...

Чарнавусы юнак зморшчыўся.

— Кінь ты, Юркавец, свае фокусы. А вы,— звярнуўся ён да Антона,— прайдзіце на Саборную плошчу ў былы шляхецкі дом. Там разбяруцца...

Антон, згорбіўшыся, кашляючы, павольна пайшоў ад тэатра шукаць шляхецкі дом. Яму хацелася толькі аднаго: хутчэй зайсці ў якое-небудзь цёплае месца, сесці, выцягнуць ногі і заплюшчыць вочы. І тады, здаецца б, сціх гэты надакучлівы, камарыны звон у вушах.

Непадалёку ад тэатра Антон на імгненне спыніўся. Пасярод круглай, абкладзенай каменем ямы ён убачыў зробленага з каменя кучаравага хлопчыка, які хапаў за прыгожае белае крыло вялікую птушку. «Пэўна, гусак»,— падумаў пра птушку Антон. Хлопчык быў зусім голы, кругленькі, зграбны, як жывы. Снег падаў на кучаравыя каменныя валасы. Антон пастаяў, падзівіўся. Яму нават падумалася, што голаму хлопчыку ўсё роўна холадна, хоць ён і каменны.

На Саборнай плошчы было дужа многа цэркваў і людзей. Антон, распытаўшы сустрэчных, знайшоў нарэшце шляхецкі дом.

«Гэта былы губернатарскі дом»,— сказалі яму.

Ён пайшоў па доўгім зацемненым калідоры. Наўкола было многа дзвярэй, і ён не ведаў, у якія ткнуцца. Пад нагамі час ад часу прарэзліва рыпелі маснічыны. Кожны раз ён уздрыгваў і стараўся ісці, асцярожна ставячы ногі, на пальчыках. Раптам дзверы насупраць яго рэзка расчыніліся. Лысы тоўсты дзядзька высунуў з пакоя галаву, спытаўся тонкім жаночым голасам:

— Вам каго?

— Мне тых, хто арганізоўвае Беларускі з'езд.

— Не па маёй частцы.— Таўстун грукнуў дзвярыма і зачыніўся ў пакоі.

Кашаль, здаецца, разрываў Антону грудзі. У вачах плылі сінія і зялёныя кругі. Быццам няспынна круцілася вялізнае кола з бліскучымі спіцамі. Прыйшоўшы ў канец калідора, Антон тварам у твар сутыкнуўся з маленькім барадатым чалавечкам. У чалавечка на носе падскочылі акуляры, аправа ў якіх была зроблена з жоўтага меднага

дроту. Чалавечак уважліва, але трошкі спалохана выслухаў Антона, тыцнуў кароткай ручкай на другі паверх:

— Там... У дваццатым пакоі шукайце...

Антон узняўся на другі паверх, зайшоў у дваццаты пакой. У пакоі крэслаў не было — стаялі адны сталы. Сталы былі завалены паперамі, старымі газетамі, нейкімі скрынкамі з кардону. Тытунёвы дым вісеў, як туман. У пакоі было некалькі мужчын, двое ці трое — з афіцэрскімі пагонамі на плячах. Мужчыны спрачаліся і не адразу заўважылі новага чалавека. Узбуджаныя галасы спляталіся ў клубок, нібы пчолы ў рой...

— Ваш Канчар там, у Петраградзе, праспаў...

— Незалежнасць нічога не дасць... Трэба галасаваць за лучнасць з Расіяй...

— Кажуць, з Петраграда едзе дэлегацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі...

— Якія яшчэ рабочыя? Наш край сялянскі...

Антон стаяў каля парога як аглушаны. Для яго ўся гэтая гутарка была як на чужой мове. Ён хацеў бы падацца назад, але нарэшце яго заўважылі, колькі хвілін моўчкі разглядалі. Антон збянтэжыўся. Яму падумалася, што вось так, прымерваючыся і прыцэньваючыся, аглядваюць коней на кірмашы ў Запольцах.

— Вам каго, малады чалавек? — шапялявячы, спытаўся ў яго пажылы афіцэр з доўгім, шэрым і маршчыністым тварам.

У афіцэра былі бліскучыя, як люстраныя, боты. Антон, збіваючыся, расказаў, хто ён, адкуль і што яму трэба. Толькі пра ваўкоў не сказаў, падумаў: не паверапь.

— Дык з'езд жа яшчэ ўчора пачаўся,— схіліў набок галаву, быццам пасля купання выліваў ваду з вуха, маршчыністы афіцэр.— Народны з'езд... А вы спазняецеся... А-я-яй...

Антон перамінаўся з нагі на нагу, адчуваў, як нарастае звон у галаве. Чамусьці падумаў: «Добра, што я боты абуў, а то зусім сорам быў бы, хоць у апраметную правальвайся...»

Мужчына ў цывільным напісаў на кавалачку паперы цыдульку, падаў Антону:

— Аддасце нашым людзям каля ўваходу ў тэатр, і вас прапусцяць...

Антон, з палёгкай уздыхнуўшы, выйшаў з пакоя. У галаве раптам закружылася, нейкі гарачы востры малаточак стукнуў у скронь. Баючыся ўпасці, ён абапёрся рукамі аб сцяну. Стаяў, хапаў паветра, аддыхваўся. За дзвярыма гучна гаварылі:

— Вось ён — наш народ... Ні ступіць, ні слова сказаць не можа... Падумаць толькі, забыўся, калі з'езд пачынаецца... А выпіць ужо з раніцы не забыўся... Заўважылі, якія мутныя вочы ў гэтага малайца?..

На імгненне стала ціха, а потым глухі з'едлівы голас выдыхнуў:

— М-да-а... Экземплярчык...

«Гэта пра мяне»,— падумаў Антон. Але не было ні крыўды, ні злосці — адна стома. Ён паціху плёўся да тэатра, аддаў чарнавусаму і матросу цыдульку. Яго прапусцілі ў тэатр. Толькі ён увайшоў у вестыбюль, як з глядзельнай залы з шумам, з кашлем, з размовамі паплыў народ. Пэўна, аб'явілі перапынак. Антон прыціснуўся спінай да халоднай сцяны. Каля яго, таўхаючы ўсіх локцямі, плячамі, нават наступаючы на ногі, ішлі да дзвярэй дэлегаты з'езда. У Антона аж замільгацела ўваччу. Розны быў тут народ. Шмат спраўных, чыстых з твару, добра апранутых. Гэткія ішлі і гаварылі ўпэўнена. Былі афіцэры, з залатымі пагонамі, з рашуча закручанымі вусамі. Цяжка ступаючы, прыклаўшы насоўку да бліскучага спатнелага лба, прайшоў генерал. Быў ён чырвоны ад гарачыні і лысы, як курынае яйка. Шэрымі чародкамі плылі паўз Антона вяскоўцы. Яны гаварылі мала, больш разглядалі людзей ды столь і сцены, размаляваныя яркімі фарбамі. Некаторыя з іх трымалі ў руках палатняныя торбачкі.

Антон стаяў каля сцяны і кашляў. На яго азіраліся. Але ён не мог авалодаць з сабою. З холаду трапіўшы ў цёплую будыніну, ён зусім раскіс. Абыякавасць расцякалася па ўсім целе. Блішчалі перад вачамі залатыя пагоны, медныя гузікі, ружовыя лысіны.

Быццам начныя светлякі танцавалі нейкі незразумелы танец.

«Дзе б мне сесці? — падумаў Антон.— Хоць на падлогу... Абы сесці».

Ён аж уздрыгнуў, калі на плячо яму лягла нечая рука. Падумалася чамусьці, што гэта прыйшоў той матрос-вартавы, выганяць на вуліцу. Але гэта быў Аркадзь Гайкевіч. Схуднелы, з запалымі шчокамі, з прыгожым бляскам у сініх вачах. На ім была белая кашуля з чорнай манішкай, шэры суконны касцюм, насатыя карычневыя чаравікі.

— А я думаў, ты ўжо не прыедзеш. Дзе ты быў? — пачаў распытваць Аркадзь.

Антон вельмі ўзрадаваўся, што ў гэтай калатнечы, у гэтым людскім віры сустрэўся яму знаёмы чалавек, зямляк. Ён глядзеў на Гайкевіча, як на свайго збаўцу. І ўсё чыста расказаў яму: як ноччу ішоў адзін па лесе, як напалі на яго ваўкі, як ён калаціўся на зледзянелай бярозе.

— Ну і прыгоды,— пакруціў галавою Аркадзь, і Антон здагадаўся, што Гайкевіч не верыць яму. Слухае, робіць выгляд, што спачувае, але не верыць.

— Я не маню,— загарачыўся Антон.— У мяне нават торбачку з хлебам ваўкі з'елі...

— Дык ты што — галодны? — пацікавіўся Аркадзь, але голас у яго быў роўны, абыякавы. Антон хацеў усё растлумачыць, ды ў гэты час са званком у руках выйшаў у вестыбюль высачэзны белавалосы матрос.

— Грамадзяне дэлегаты, прашу ўсіх на свае месцы! — крыкнуў матрос і зазваніў.

— А ў мяне ж месца няма,— разгубіўся Антон.

— Ідзі за мной,— узяў яго за рукаў Гайкевіч.

Яны ўвайшлі ў залу, што гула і гаманіла на розныя лады. Антон яшчэ ні разу не бачыў гэтулькі людзей у адным месцы. Яму здавалася, быццам усе гэтыя людзі глядзяць на яго, быццам гэтыя людзі насміхаюцца над ягонай няўклюднасцю, сарамяжнасцю, над ягонымі труднымі вялікімі ботамі і простай паркалёвай кашуляй. Світку і шапку ён зняў, трымаў іх у руках. Цiснучыся да сцяны, яны з Аркадзем прайшлі ў самы далёкі кут асветленай яркімі агнямі залы. Аркадзь пасадзіў яго на крэсла, загадаў:

— Сядзі тут і нікуды не сыходзь... А я на хвіліну адлучуся. Мне трэба старшыні з'езда пару слоў сказаць.

Антон з асцярогаю сеў у крэсла, баючыся паварушыцца, баючыся азірнуцца. Страшэнная стома навалілася на плечы. Галава была ў агні.

«А гэты Аркадзь не апошняя тут птушка,— падумаў ён пра Гайкевіча, успомніўшы, як віталіся з Гайкевічам многія дэлегаты.— Толькі чаго ён са мной так важдаецца? Хто я яму?»

Суседняе крэсла было пустое. Пэўна, нехта спазніўся сесці.

А можа, Аркадзь тут сядзе?

Нарэшце Антон трохі асмялеў, узняў вочы, глянуў на залу. Проста перад ім сядзеў маленькі хударлявы афіцэр. Антон не разбіраўся ў вайсковых чынах, але бачна па ўсім, афіцэр быў не дужа вялікі начальнік, бо трымаўся ціхенька, як мыш. У яго была чырвоная, абветраная шыя, паараная глыбокімі маршчынамі. Рэдкія валасы ўжо секліся, і з-пад іх блішчала ^загарэлая лысіна з кропкамі вяснушак. Па левую руку ад афіцэра ўладкоўваліся два мужычкі, аднолькава вастраносыя, у пакамечаных суконных пінжаках. Адзін з іх крадком лузаў гарбузікі, сплёўваючы шалупінне ў кулак.

Недзе ў вестыбюлі зноў зазвінеў званок, і да Антона падбег задыханы Гайкевіч, плюхнуўся на вольнае крэсла. Трымаўся ён упэўнена, перакінуў нагу цераз нагу, дастаў з кішэні грабянец, прычасаў свае густыя прыгожыя валасы.

— Ну, як табе ў нас? — пацікавіўся ён у Антона.— Ты нешта чырвоны ўвесь...

— Няйначай, прастудзіўся,— сумна сказаў Антон.

Гайкевіч, далікатна адтапырыўшы мезенец, выбраў з грабянца дзве ці тры валасінкі, уздыхнуў:

— Лысею, братка. Як кажуць, згубіў свае валасы на падушках прыгожых жанчын...— Ён стрымана засмяяўся.

Антон абвёў позіркам вялікую залу, убачыў на сценах і над сталом прэзідыума шмат сцягоў.

— Што гэта за сцягі? — спытаўся ён у Гайкевіча.

Той здзіўлена глянуў на яго:

— Ты што — не ведаеш? Гэта ж нашы сцягі, беларускія. Бачыш: белая палоса, чырвоная і зноў белая. Наш нацыянальны колер.

— А чаму чырвоны сцяг усяго адзін?

— Чырвоных і ў Мінску шмат і ў Чмялях. Хіба ты на іх не нагледзеўся? — буркнуў Гайкевіч.

Гэтая размова, як адразу здагадаўся Антон, яму не спадабалася.

Між тым сваё месца заняў прэзідыум. У зале пакрысе ўсталёўвалася цішыня. Белавалосы матрос, той, што бегаў са званком, паглядзеў у залу, нешта пашукаў вачамі і, падаслаўшы бушлат, сеў проста на падлогу.

— Бачыў матросіка? — усміхнуўся Аркадзь.— Гэта ж, дзе я сяджу, ягонае месца. Але, ты не бойся, я з ім дамовіўся...

Ён трошкі памаўчаў, але словы, відно было, распіралі яго.

— Ведаеш, хто ў прэзідыуме? — нахіліўся ён да Антона.

Антон, канечне ж, не ведаў. І Гайкевіч пачаў тлумачыць:

— То, пасярэдзіне, сакратар з'езда Калядка. Каля яго Язэп Лёсік, Рак-Міхайлоўскі. Далей — генерал ад інфантэрыі Кандратовіч, генерал-лейтэнант Аляксееўскі... Камандаваў усёй артылерыяй у Фінляндыі... Вунь той, з краю, з барадою, Карскі, прафесар... А гэта Канчар з Гольманам з Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў.

Гайкевіч называў прозвішчы і гаварыў так, быццам усе гэтыя людзі былі яго добрыя знаёмыя. І Антон верыў, што так яно і ёсць.

Пачалі выступаць дэлегаты. На сцэну выйшаў хударлявы, сярэдняга росту чалавек, сказаў тонкім голасам:

— Кланяюся Вялікаму Народнаму збору, што пасее на нашай зямельцы крылатае семя волі.

І нізка пакланіўся ўсяму з'езду.

— Паэт Алесь Гарун. Вітае з'езд ад Беларускай сацыялістычнай грамады,— прыўзняўся з крэсла Гайкевіч і пачаў ляскаць у ладкі. Антон не ведаў, што рабіць, утуліў у плечы галаву, учапіўся спатнелымі рукамі ў калені. Калені дробна калаціліся. Ён адчуваў, як нешта цяжкое, гарачае падпаўзае да сэрца, сціскае яго. Твары людзей расплываліся ў невыразныя белыя плямы. На сцэне нешта гаварыў паэт, узмахваў рукой, стукаў сябе кулаком у грудзі. Паэт, пэўна, гаварыў моцна, бо рот яго раскрываўся шырока і рэзка, але Антон амаль нічога не чуў. У вушах быццам пішчалі камары. Тоненька, залівіста, назойліва. Хто пусціў сюды камароў? Вось зноў загулі, загаласілі. Вось адзін наблізіўся да самага твару, хоча сесці на скроню. Антон цяжка махнуў рукой, абараняючыся, і раптоўна абмяк, як жытні сноп, споўз з крэсла на падлогу.

— Э, братка, ды ты зусім расклеіўся,— пачуў Антон над сабою голас Гайкевіча.— Не ганьбі мяне... Чуеш? Не ганьбі... Уставай...

Ён казаў гэта хутчэй не Антону, а суседзям, каб чулі і каб ведалі, што ён, Аркадзь Гайкевіч, тут ні пры чым, што яму непрыемна сядзець побач з такім чалавекам, які, не зважаючы на высокія паэтычныя эпітэты на сцэне, чмякнуўся на падлогу.

— Уставай,— тармасіў ён Антона за плячо.— Не ганьбі мяне... Падумаюць, што п'яны...

Падбег белавалосы матрос. У адной руцэ ён трымаў званок, другой асцярожна, але моцна, узяў Антона пад паху і ці то павёў, ці то панёс яго да выхаду. Яны накіраваліся да дзвярэй, на іх глядзеў увесь з'езд. А ў руках у матроса, у такт крокам, дробна пазвоньваў званок, нібы з нечага смяяўся.

Ачомаўся Антон у нейкім вузенькім, дужа цёмным пакойчыку. На сцяне вісела вялікае люстра, цьмянае, шэрае, як вада асеннім вечарам. Павуцінкі-трэшчынкі беглі па люстры. Антон прыўзняўся — ён ляжаў на стале,— убачыў перад сабой матроса, усё ўспомніў і скалануўся ад сораму. Ён хацеў саскочыць са стала, але ногі не слухалі, былі гнуткія і мяккія, нібы свежае лыка.

— Ляжы,— сказаў матрос і спытаўся: — Ты хто?

Голас у яго быў глухі, чуць надтрэснуты. Тонкі нос з шырокімі чуйнымі ноздрамі злёгку горбіўся. Матрос дастаў са сваіх шырокіх чорных штаноў невялікую металічную бутэлечку, адвінціў накрыўку, проста з бутэлечкі ўліў Антону ў рот пякучай гарэлкі і зноў спытаўся:

— Ты хто?

З вачэй Антона пакаціліся слёзы. Ён захлынуўся, закашляўся, згорбіўся. Матрос кулаком стукнуў яго па спіне.

— Я Радзімовіч Антон. Дэлегат ад Чмялёўскай воласці,— адкашляўшыся, вымавіў нарэшце Антон.

— А я Сцяпан Дыдо. З Балтыйскага флоту. З крэйсера «Пасейдон». Таксама дэлегат...

Матрос паклаў у кішэню сваю бутэлечку, замест яе дастаў кавалак сінявата-белага цукру, сказаў:

— На з'еш трохі. Палягчэе...

— Не хачу,— зморшчыўся Антон.— Я, калі хварэю, на яду глядзець не магу...

— Есці трэба,— сказаў Дыдо,— а то канцы аддасі. Захварэў ты, брат. А я са званком бегаю. Паглядзелі на мяне, што я ростам з мачту, і далі гэту цацку ў рукі.— Ён асцярожна пазваніў.— Ды мне гэта і добра. Ведаеш, не па нутры мне ўся гэтая гаварыльня. Не магу я сядзець там, у зале. Балабоняць пра незалежнасць, калі ў мяне трое дзяцей і жонка дома галодныя сядзяць. Незалежнасцю я іх не накармлю. Ім хлеб давай.

Ён раптам успомніў:

— Мне ж на перакур званіць трэба.

Антон застаўся адзін у пакойчыку. Зноў лёг на стол, заплюшчыў вочы. Яго пачынала трэсці. Кожную костачку сціскаў холад. Быццам ён голы ляжаў на снезе.

Столькі было ўбачана за гэты дзень! У Чмялях гэтулькі людзей ён не ўбачыў бы і за паўгода.

Недзе за сцяной пачуўся глухі шум. Антон здагадаўся: аб'явілі перапынак. Там, за сцяной, былі людзі. Яны гаварылі, спрачаліся, пераконвалі адзін аднаго, мо хлусілі. А ён ляжаў тут, як сноп, што на глыбокай каляіне зваліўся з воза. Змяркалася. Цемра затапляла пакойчык. Цемра дакранагася да ягоных шчок і вачэй.

«Дзіўнае робіцца на свеце,— спустошана думаў ён.— Каб не прыехаў сюды, не ўбачыў на свае вочы, не паверыў бы, што ёсць такі горад, такія людзі, вось гэты пакой. Не прыехаў бы, і без мяне абышлося. І людзі б шумелі, і званок званіў бы. А вось зараз я тут, а ў Чмялях людзі дровы пілуюць, сена каровам даюць, у печах паляць. Без мяне абыходзяцца. Значыць, усё можа быць без мяне. І каб я наогул на свет не нарадзіўся, без мяне б людзі абышліся...»

Гэтая нечаканая думка спалохала. Упершыню ён адчуў, што калі-небудзь яго не стане. Як дзеда Ігната.

У гэты час дзверы адчыніліся. У пакойчык увайшоў Сцяпан Дыдо, а за ім яшчэ некалькі чалавек, мяркуючы па вопратцы, сяляне.

— Чаго ты без святла сядзіш? Як краб пад вадой...— Дыдо ўзяў аднекуль свечку, запаліў яе, паставіў на падаконнік. Адразу ў пакойчыку павесялела.

Сяляне — іх было трое — два пажылыя, трэці малады,— кінуўшы пад сябе світкі, селі проста на падлозе, развязалі торбачкі. Дастаўшы з торбачак свае небагатыя прысмакі, перахрысціліся і пачалі вячэраць.

— Можа, перакусіш з намі, чалавеча? — павярнуўся да Антона селянін з цёмным загарэлым тварам, са светлымі бровамі, якія выдавалі чужымі, прыклеенымі.

— Ён не есць. Прастудзіўся,— адказаў за Антона матрос.

— Ад прастуды, чалавеча, самыя лепшыя лекі — мёд... Асабліва ліпавы... У нас на Случчыне добры мядок...

Селянін, прыжмурыўшы вочы, цмокнуў языком.

— Хе... У вас на Случчыне,— ажывіўся матрос.— У майго бацькі ля Клічава борці ў лесе. Колле панатыкана кругом вострае, цвікі з дрэва тырчаць, а ўсё роўна мядзведзь лазіць... Мёду хоча.

— Я табе мёду трохі дам,— раптам сказаў светлабровы селянін, павярнуўшыся да Антона.— Толькі ён у мяне там, дзе начуем,— у казарме.

— Дык ён жа таксама там начаваць будзе,— усміхнуўся Дыдо.

Ледзь дайшоў Антон са сваімі новымі таварышамі да казармы. Не распранаючыся, паваліўся на мулкія нары, пачаў кашляць. Цьмяна гарэла пад бруднай жоўтай столлю газоўка. Цень ад яе, вялікі і чорны, гойдаўся на сцяне. Нібы праз сон, прыходзіла адчуванне, што ўсё гэта адбываецца не з ім. Нехта іншы ляжыць і заходзіцца ад кашлю, а ён, Антон, глядзіць на яго збоку.

Слуцкі селянін прынёс вялікі металічны кубак, у якім плёхаўся пасалоджаны вар.

— Паспытай нашага мядку,— сказаў ён і стаяў, чакаў, пакуль Антон вып'е.

Недзе побач гаварыў Дыдо:

— Не туды цягнуць нас адвакаты, афіцэрыкі і ўся іхняя каманда... Я з флоту не для таго ехаў, каб у Беларусі іхняе царства аб'яўляць.

— Матрос, не тое вы гаворыце,— перапыніў яго раптам малады танклявы голас.— Ніякае царства аб'яўляць мы не хочам. Мы не манархісты. Мы хочам даць нашаму народу свабоду і зямлю.

— Хто ты такі? — разгублена і адначасова раззлавана спытаўся Дыдо.

— Настаўнік. Андрэй Новік. Бацькі мае сяляне-мякіннікі. Такія, як і ўсе.

— З мякіннікаў, а гальштук начапіў,— не даў яму дагаварыць матрос.— Ведаю, што будзеш спяваць! Усе беларусы — браты, усе роўныя. А якая ты раўня? Ты вунь які гладкі, белы. Можа, і быў калі сялянскім хлопцам, ды даўно мазгі твае панскім салам заплылі.

— Дарма ты так,— ціха сказаў той, што назваўся Андрэем Новікам. Антон з цяжкасцю прыўзняўся, глянуў на яго. Невысокі, хударлявы, з хваравітай ружовасцю на шчоках. Валасы цёмныя, гладка прычасаныя, апрануты акуратна, але не надта багата — зялёны пінжак, белая манішка, вузенькі гальштук.

— Дарма ты так,— з сумам у голасе зноў паўтарыў Новік.— Не для сябе мы, а для мужыка нашага стараемся, што ўвесь свой век у цемры гібее. Дарогу яму хочам паказаць.

— Павадыр знайшоўся,— ускіпеў Дыдо.— Я і сам пакуль што не сляпы. Бальшавікоў нам трэба слухаць, а не вас. Бальшавікі за шчасце ўсяго свету б'юцца.

Новік яшчэ больш пачырванеў, сеў на нары. Падпёр шчокі тонкімі рукамі, сказаў пасля паўзы:

— Можа, яно і так. Але ж цяжка любіць усё чалавецтва. Нават сонца асвятляе адразу толькі палову зямлі. Зразумейце вы мяне. Цяжка быць сынам недзяржаўнага народа. Чалавек заўсёды шукае свае карэнні ў гісторыі, у справах продкаў, і не супраць таго, каб частка іхняй славы, іхняга святла ўпала і на яго. Назаві сябе палякам, і ўжо тваімі робяцца і Капернік, і Міцкевіч. Аб'явіся рускім — і тваёй будзе Кулікоўская бітва, твае — і Пётр Вялікі, і Ламаносаў. Некаму першаму трэба мець мужнасць, каб сказаць усяму свету: я нічога не маю. Я — беларус. Я не хачу чужой славы, а буду ствараць сваю.

— Вунь куды ты паехаў! — аж прысвіснуў Дыдо.— Славы захацеў? Дык бяры яе ўсю. Мне яна не трэба. І вам, хлопцы, яна не па кішэні. Былі б хлеб з бульбай,— павярнуўся ён да слуцкіх сялян.

Новік нічога не адказаў, нібы ён згаджаўся з матросам.

— Харчы мы свае даелі... Торбачкі парожнія... Паедзем заўтра, людцы, дадому,— азваўся нехта са слуцкіх сялян. Пэўна, той, падумалася Антону, што пачаставаў яго мёдам.

— Я не паеду,— адказаў маладзейшы.— Пагляджу, чым скончыцца... Перадайце бацьку, што ў мяне ўсё ў парадку. Цвікоў я яму знайду.

Новік пасядзеў на нарах, памаўчаў, потым, ціха ступаючы, пайшоў да выхаду.

«І мне ж трэба сякеру купіць. Наша зусім вышчарбілася»,— успомніў Антон.

Ад гэтай думкі ён чамусьці супакоіўся і неўзабаве заснуў.

Прахапіўся ад таго, што нехта асцярожна кратаў яго за плячо. Ён здрыгануўся, расплюшчыў вочы. Лямпа пад столлю ўжо не гарэла. Праз акно, што было насупраць, цадзілася скупое сіняватае святло. Значыць, яшчэ толькі пачынала світаць. Дыдо, яшчэ больш вялізны ў пазмроку, у сваім чорным бушлаце, стаяў над ім.

— Вазьмі званок.

— Нашто ён мне? — нічога не мог зразумець Антон.

— Званок вазьмі, кажу... Еду я адсюль. Можа, да Клічава на дзянёк заскочу, сваіх пабачу, і з дому — зноў на мора. Не хачу я тут болей быць. А званок вазьмі — усё ж мне на з'ездзе далі... Казённая рэч...

Ён сілком уціснуў Антону ў руку званок, пастаяў, памаўчаў.

— Ну, то я, брат, пабягу,— сказаў напаследак Дыдо.— Можа, калі-небудзь і сустрэнемся...

Ён нахіліў галаву, хацеў яшчэ нешта сказаць, але перадумаў, махнуў рукой.

У казарме стаяла цішыня. Нехта праз сон тоненька свістаў носам. Антон глянуў у цемру, адчуў, што ўсярэдзіне і ў горле зноў прачынаецца кашаль. З сумам, з трывогай уяўляліся Антону пустая гарадская вуліца, снег, зоркі над зямлёю і пад гэтымі халоднымі зоркамі адзінокі высокі чалавек, што крочыць насустрач свайму новаму дню.

Ён зноў пайшоў на з'езд. Слуцкія сяляне недзе згубіліся ці паехалі, як Дыдо, дадому, ці, можа, ужо былі ў гарадскім тэатры. Над вуліцай бялелася нізкае хмарнае неба. З яго, як з разарванай падушкі, халодным іскрыстым пухам, сыпаўся снег.

У тэатры Антон знайшоў сваё месца, яно было не занята. Амаль адразу ўбачыў Аркадзя Гайкевіча. Той, узяўшы пад руку тоўстага белатварага мужчыну, павольна ішоў па зале, аб нечым зацікаўлена з ім гаварыў.

Потым Аркадзь сеў побач з Антонам, зноў акуратна прычасаў свае валасы, сказаў:

— Ну і напалохаў ты мяне ўчора. Дзе ты начаваў?

Антон не спяшаўся адказваць. Нешта пачынала не падабацца яму ў Гайкевічу. Ён трымаў у кішэні пінжака званок, гладзіў яго пальцамі і думаў, што Гайкевіч свой хлопец, добры, разумны, але ўчора кінуў яго, хворага і беспрытульнага, аднаго.

Аркадзь, не дачакаўшыся адказу, зноў загаварыў:

— А чаму б табе сёння не выступіць? Выйшаў бы на сцэну, расказаў пра сябе, сваю вёску, падказаў бы з'езду, як нам трэба нашу Беларусь будаваць. Ты ж дэлегат, а маўчыш...

— А што мне гаварыць? — панура ўсміхнуўся Антон — я слухаю, што мне гавораць... За мяне іншыя скажуць...

— Э-э, так не трэба. Мы ж цябе запрасілі... Павінен і ты нам аддзячыць,— не адступаў Гайкевіч.

Антон маўчаў. Ён вырашыў, што лепей за ўсё маўчаць, не ўвязвацца ні ў якія спрэчкі. «Разумны не той, хто языком добра чэша, а хто слухаць умее»,— думаў ён.

Між тым на з'ездзе нешта не ладзілася. Пачалося ўсё з самай раніцы, калі з пярэдніх радоў узняўся раптам высокі светла-русы дэлегат і, назваўшыся прадстаўніком латышскай сацыял-дэмакратыі, прапанаваў замест бела-чырвона-белых сцягоў вывесіць у зале чырвоныя.

— Годзе маліцца на гэту старую нацыянальную анучу! — тыцнуў ён рукой у бок сцяга, што вісеў на сцяне якраз каля стала прэзідыума. З'езд на хвіліну анямеў. Пярэднія афіцэры цапалі сябе рукою па поясе, па тым месцы, дзе ў добры стары час вісела шабля. А генерал Кандратовіч, які сядзеў у прэзідыуме, загрымеўшы крэслам, выскачыў з-за стала, падбег да сцяга і пацалаваў яго. Усё гэта ён зрабіў з імпэтам, рэзка і тэатральна. З'езд грымнуў бурай воплескаў. Большасць дэлегатаў паўскоквалі з месцаў, вітаючы генерала. Аркадзь з усяе сілы біў у ладкі і, захліпаючыся, гаварыў:

— Ну і малайчына генерал! Падцёр нос латышу.

З гэтай хвіліны спрэчкі на з'ездзе ўспыхнулі з новай сілай, быццам нехта ў касцёр, што ўжо затухаў, падкінуў свежага ламачча. Адзін за другім выходзілі на сцэну дэлегаты, гаварылі, крычалі, жэстыкулявалі, пагражалі кулакамі. Здавалася, людзі ап'янелі ад шуму, гарачыні, чужых і сваіх слоў, і ім край як трэба было выліць на некага злосць і раздражнёнасць. Стаялі рубам два пытанні: за Саветы ці супраць, за саюз з Расіяй ці за аддзяленне. Дэлегаты з Віцебска Васіленка і Салуноў заявілі, што Віцебская губерня бачыць новую Беларусь толькі ў моцным непарушным саюзе з усёй Расіяй. Іхнія словы сустрэлі свістам. Потым з залы выбеглі некалькі цывільных і салдат і проста на сцэне пачалі біць віцяблян кулакамі.

— Так ім! — усхапіўся са свайго месца Гайкевіч.— Дзе іхнія Суздальскія, Разанскія і Цвярскія княствы? Масква праглынула... А Беларусь будзе!

З'езд гуў, як вулей. У Антона раскалвалася галава, раздзіраў грудзі кашаль. Людскія твары, агні, сцягі мітусіліся ў вачах, спляталіся ў нейкі пакутлівы стракаты вал, які вось-вось гатоў абрынуцца ўсім сваім цяжарам, уціснуць у крэсла, расплюскаць. Антон хапаў гарачае, як у лазні, паветра, выціраў салёны пот, што каціўся па шчоках. Яму ўжо чамусьці не першы раз успомніліся начны лес, чорныя цені ад

дрэў, быццам высечаныя на іскрыстым, бледна-сінім снезе, няўмольны ланцуг ваўкоў. Усё бліжэй ваўкі... На іх блішчыць шэрсць... У іх халодныя жалезныя зубы... Іхняе дыханне, як вецер перад бурай...

Ён напружваў усе сілы, адганяў страшны прывід, адганяў хваробу. Ён прымушаў сябе глядзець на сцэну, слухаць усё, што гавораць.

— Слова мае дэлегат Вазіла,— аб'явілі з прэзідыума.

Мажны чалавек у сінім суконным пінжаку і ў белай кашулі выйшаў на сцэну.

— Вы хочаце наш родны беларускі край адарваць ад вялікага цела Расіі,— сказаў чалавек і нахіліў галаву, глянуў спадылба.— Вы хочаце зрабіцца, як называеце, незалежнай дзяржавай, дзяржавай без хлеба, паветра і вады. Я звяртаюся да вас, беларускія беларучкі. Хто вы, што з польскім акцэнтам гаворыце на беларускай мове? Пра якое будучае шчасце незалежнай Беларусі вы крычыце? Вы — не ад народа. Вы не ведаеце беларускую вёску...

— Прэч! — закрычалі, затупалі нагамі ў зале.— Ганіце яго са сцэны!

Нехта кінуў вялікі стары галёш.

Вазіла яшчэ больш набычыў галаву, пачырванеў, махнуў рукой і раптам, прагна хапіўшы паветра, як падсечаны, паваліўся каля стала прэзідыума,— страціў прытомнасць.

З кожнай гадзінай напружанне ў зале ўзрастала. Дэлегаты ахрыплі ад крыку і, здаецца, зварыліся ў духаце і гарачыні. Праседзелі вечар, поўнач. Пачало брацца на новы дзень. Сёй-той, плюнуўшы, махнуўшы рукою, выходзіў з залы і стараўся не глядзець у вочы іншым дэлегатам. Большасць тых, што пакідалі з'езд, былі сяляне са сваімі нязменнымі палатнянымі торбачкамі.

«Зараз я звалюся з крэсла і памру,— думаў Антон.— Вось зараз, праз некалькі хвілін, звалюся,^мяне схопяць за ногі і пацягнуць па бруднай затаптанай падлозе да дзвярэй... І галава будзе стукацца аб дошкі, як гарбуз...»

Ён уявіў усё гэта і не спалохаўся. Толькі б хутчэй скончыўся гэты тлумны, цяжкі, незразумелы, вар'яцкі дзень.

Пачалі галасаваць. Рабілася нешта неверагоднае: з'езд прызнаваў Савецкую ўладу толькі ў цэнтральнай Расіі. Потым пачалі спрачацца наконт самастойнасці Беларусі. Галасавалі некалькі разоў.

Гайкевіч радасна кусаў губы:

— Мінчукі, віленцы, смаленцы і гародзенцы за нас...— Ён убачыў, што Антон сядзіць, як нежывы, страсянуў яго за плячо, раздражнёна крыкнуў: — А ты чаго спіш? Галасуй за самастойнасць!

«Што ён, падла, на мяне вызверыўся?» — падумаў Антон. Але не хапіла сілы ні на злосць, ні проста на якое-небудзь слова, і ён падняў угору цяжкую руку. І зноў як бы праваліўся пад лёд.

Глухія галасы ледзь чутна даляталі аднекуль зверху. «Вось зараз... зараз...» — думаў ён, і галава хілілася набок, і зала плыла перад вачамі. Вачам было балюча. Ён заплюшчыў іх. І раптам зашумела, загула зала. Уварваліся ў яе нейкія новыя звонкія галасы. Быццам вецер раптоўна расчыніў усе вокны і дзверы.

— Уставай! — крыкнуў над зухам Гайкевіч.

Антон з намаганнем расплюшчыў вочы, нібы яны былі склееныя. На сцэне і ў праходах між крэсламі стаялі ўзброеныя салдаты. Твары ў іх былі чырвоныя з марозу, узбуджаныя.

— Імем Савецкай улады з'езд распускаецца. Прашу ўсіх пакінуць залу,— цвёрдым моцным голасам сказаў камандзір гэтых салдатаў і ўзняў уверх руку з рэвальверам. Дэлегаты колькі імгненняў глядзелі на гэтую руку. Толькі крэслы рыпелі ў цішыні. Потым людзі хлынулі да дзвярэй, але не ўсе. Частка загарадзілася крэсламі, зэдлікамі. Збіўшыся ў кучу пасярод залы, гэтыя дэлегаты тупалі нагамі, свісталі, крычалі:

— Не пойдзем!

— Узурпатары!

— Кацапы!

Антон ішоў да дзвярэй і бачыў, як Гайкевіч, учапіўшыся за крэсла, адбіваўся нагамі ад салдатаў. На вуліцы шумеў вецер. Халодныя зоркі ззялі над горадам. Побач нехта спалохана гаварыў:

— На Скобелеўскай і Падгорнай салдаты стаяць і панцырнікі...

Антон прагна дыхаў свежым марозным паветрам. Хацелася адысціся трохі ўбок, легчы проста ў снег і забыцца пра ўсё. Зноў у грудзях ажыў, як стрэліў, кашаль. І тут Антона моцна і нецярпліва схапілі за рукаў:

— Антон, ты?!

Радасць, недавер, здзіўленне былі ў гэтым нечаканым, дужа знаёмым голасе. Антон узняў галаву і ўбачыў Кузьму: з вінтоўкай, у салдацкім шынялі, з чырвоным бантам на папасе. Антон хацеў заплакаць, але слёз не было. Ён хіснуўся да Кузьмы, дакрануўся гарачым ілбом да ягонага пляча, сказаў ціха і разгублена:

— Братка... У грудзях дужа баліць...

XVII

Хвароба адступала пакутліва і павольна. Дзень і ноч зліліся ў адну суцэльную чорную стужку. Кожны куточак Антонавага знясіленага

цела быў напоўнены гарачынёй. Здавалася, усярэдзіне, у самым сэрцы, гарэў пякучы агонь. Так, пэўна, адчувае сябе рыбіна, якую выцягнулі з ледзянога віру, з халоднага мяккага глею і адразу кінулі на распаленую да чырвані патэльню.

На чацвёрты ці на пяты дзень хвароба ўсё-такі адступіла. Антон абвёў мутным позіркам бальнічную палату, у якой ляжаў. Упершыню захацелася есці. Ён ужо ведаў, што знаходзіцца ў мінскай яўрэйскай бальніцы. У горадзе дзве бальніцы: губеранская і яўрэйская. У губеранскай не толькі палаты, але і калідоры былі завалены хворымі, і таму ноччу, недзе пад раніцу, два вайскоўцы, адзін маладзенькі, русявы, а другі цёмны з твару, вусаты, прывялі яго сюды. Так расказала Антону моцная фігурай, чорненькая і насаценькая Соня, якая прыбірала ў палатах і кожны дзень яшчэ з адной жанчынай, высокай і маўклівай, ставіла яму на спіну банькі. Спіна гарэла, быццам з яе здзіралі скуру, але прыемна было адчуваць дотык халодных чуйных пальцаў. Яны краналіся спіны, нібы кроплі дажджу. Соня хуценька рабіла сваю справу і расказвала:

— Учора — хто мог падумаць? — стукаюць да нашага суседа Фімы Ройзмана. А на вуліцы ўжо ноч. Фіма ўжо сваю начную шапачку надзеў, спаць лёг. І раптам — стукаюць. Падняўся ціхенька Фіма, падышоў да дзвярэй і думае: адчыняць ці не? Што там за народ? Можа, бандыты. А можа, і таварышы з гарадскога Савета. Фіма, добрая душа, падумаў, што гэта таварышы з Савета, адчыніў. А яны ўсе ў чорных масках, з рэвальверамі. «Дзе грошы? — крычаць.— У цябе многа грошай». А дзе ўзяць тыя грошы? Фіма бедны яўрэй. З беднасці сваёй ён нават грэх зрабіў: у суботу вазіў на калясцы, што сам змайстраваў, вугаль.

Соня змоўкла, выцерла тонкія рукі кавалачкам шурпатай паперы, уздыхнула:

— За што нас не любяць?

Антон павольна павярнуўся на спіну, адчуў, як заныла, зашчымела апечаная скура. З яго галавы не выходзіла, як сустрэўся з братам. Кузьма быў так узрадаваны, што ажно разгубіўся. І ўсё дзівіўся, усё не мог паверыць. А як даведаўся, што дзед Ігнат памёр, прыкусіў губу і ўсхліпнуў. Добры Кузьма брат, добры чалавек. Казаў, што з самага кастрычніка ў бальшавіцкім войску служыць. Толькі потым ужо, як ішлі ад тэатра па нейкай вуліцы, нахмурыўся і спытаўся:

— А ты чаго тут? Чаго з гэтымі цюцькамі звязаўся?

І сябра яго вусаты так глянуў, як нажом паласнуў.

Антон утаропіўся паглядам у столь, задумаўся. Столь была высокая, з шырокіх сасновых дошак, шчыльна падагнаных адна да адной.

Яе, пэўна, нядаўна перасцілалі, бо дошкі былі жоўтыя, свежыя.

— Ці не прыходзіў хто да мяне? — спытаўся Антон у Соні.

— Як прывялі тады ноччу, болей ніхто і не быў,— адказала Соня, зграбаючы ў вядро смецце з падлогі.— А што? Можа, паненку якую чакаеш?

— Нікога я не чакаю,— буркнуў Антон.

Значыць, Кузьма не прыходзіў. А служыць недзе побач у горадзе. Можа, ад службы нельга адарвацца? Усё-такі вайсковы чалавек. Ды не, прыбег бы, знайшоў бы час.

Антон сцішыўся, увесь неяк здранцвеў, колькі хвілін ляжаў не дыхаючы, нібы слухаў нешта ў самім сабе. Усё выразней, усё ўладней нараджалася ў галаве думка, ад якой ён спачатку адмахваўся. Кузьма не прыйдзе да яго. Ні сёння, ні заўтра. Ніколі. Антон жа быў удзельнікам з'езда, а Кузьма са сваімі таварышамі, з тым сярдзітым вусачом, разганяў гэты з'езд. Значыць, яны ворагі, хоць і родныя браты. Кузьма, можа б, яшчэ і прыйшоў як-небудзь крадком, але баіцца свайго начальства. Даведаецца начальства, што такі ў яго брат, не паздаровіцца Кузьме.

Адразу зрабілася сумна і адзінока. «Навошта я сюды ехаў? — падумаў Антон.— Дурань, не паслухаў бацьку... Быў бы зараз дома, з Янінай сустрэўся б каля гумна...» Такія жаданыя, такія блізкія клопаты і справы былі адгароджаны ад яго гэтымі шэрымі бальнічнымі сценамі.

Калі ўвайшла ў палату Соня, ён спытаўся:

— Мне трэба будзе плаціць доктару?

Соня звяла на пераноссі чорныя тонкія броўкі:

— Ты што — Каплан, які мае сваю цагельню? Ці Кантаровіч, у якога ёсць шпалерная фабрыка? Ты хворы і бедны. І тыя салдаты загадалі не браць з цябе ніякіх грошай.

«А ў мяне тых грошай, як у вожыка пер'я»,— нявесела падумаў Антон, але ўсё ж яму трохі палепшала на душы. Хутчэй бы толькі ўстаць на ногі.

— Вось у цябе што ў кішэні было,— трохі памаўчаўшы, сказала Соня і паказала яму званок.— Навошта ён табе? Мы падумалі спачатку — можа, ты ў цацкі яшчэ гуляеш...

Яе чорныя вочы смяяліся. Антон узяў званок, пра які зусім ужо забыўся. Незразумелая радасць варухнулася ў душы. Ён узрадаваўся званку, як жывому чалавеку, як сябру, што сустрэўся пасля доўгіх дзён разлукі. Званок быў цёплы, і ад ледзь прыкметнага руху ціхенька нараджалася ў ім сярэбраная песня. Перад Антонам зноў ажылі малюнкі з'езда: спатнелыя чырвоныя твары людзей, шум, крыкі,

даўгалыгі Сцяпан Дыдо, што хадзіў са званком па вестыбюлі. Дзе цяпер Сцяпан? Ці дабраўся да свайго Клічава? Ён паклаў званок на падушку, зноў сцішыўся, стаў разглядаць сваю палату, бо да гэтага, калі ляжаў у гарачцы, яму было ўсё роўна — дзе ён і з кім ён. Палата была маленькая, вузенькая, крокаў шэсць, не болей, у шырыню. Пэўна, зусім нядаўна тут размяшчалася якая-небудзь бальнічная кладоўка, у якой захоўваліся вёдры, венікі і іншыя гаспадарчыя прылады. Усе сцены былі глухія, без акон. Непадалёку ад Антонавага ложка, як працягнуць руку, стаяў яшчэ адзін. На ім, тварам уверх, закінуўшы рукі пад галаву, ляжаў малады мужчына, вельмі прыгожы, светла-русы, чарнабровы. Правая нага ў яго была ў лубках. Мужчына адчуў на сабе Антонаў позірк, павольна павярнуў галаву. Вочы яго глядзелі з-пад цёмных веек халодна і насцярожана. Але, відаць, у Антона быў такі бяскрыўдны, такі даверлівы твар, што мужчына трохі памякчэў, глухаватым голасам назваў сваё прозвішча:

— Сташэўскі.

— Радзімовіч,— сказаў Антон.

Сусед чамусьці ўздрыгнуў, быццам лінулі яму за каўнер халоднай вады. Уважліва паглядзеў на Антона, як бы нешта ўспамінаючы, нешта параўноўваючы. На хвіліну няёмкая цішыня павісла ў палаце.

— Дзе гэта вы нагу пакалечылі? — асцярожна, каб чым-небудзь не пакрыўдзіць суседа, пацікавіўся Антон.

— Ды так...— спахмурнеў Сташэўскі.— Паспяшыў, з цягніка саскочыў...

Яны зноў змоўклі. Відно было, што Сташэўскаму нешта не дае спакою. Ён усё прыглядаўся да Антона, абмацваў яго халоднымі вачамі. Потым спытаўся:

— А што робіцца на волі? — Так і сказаў «на волі», нібы сам знаходзіўся ў турме.

— У вёсцы мужыкі панскую зямлю і маёмасць дзеляць. А ў горадзе... Не ведаю. Кругом чырвоныя сцягі вісяць. Салдаты ходзяць. А я з вёскі, на беларускі з'езд прыехаў...

— З'езд такі быў? — здзівіўся сусед і павярнуўся тварам да сцяны.

«Не хоча гаварыць,— падумаў Антон.— Ну і няхай... Цяжка чалавеку, перажывае...»

Ён таксама замоўк, пачаў думаць пра Кузьму. Няўжо не прыйдзе? Няўжо не захоча наведаць хворага брата, якога ўжо год, як не бачыў? Строгая ж у іх там дысцыпліна. Ды, напэўна, не ў дысцыпліне загваздка. Сам Кузьма не хоча прыйсці. Ён жа з чырвоным бантам цяпер ходзіць, як святы, зрабіўся. А ён, Антон, супроць ягоных Саветаў руку ўзнімаў...

— Ці ёсць у вас тут у Мінску родзічы? — спытаўся Сташэўскі і, абапёршыся на локаць, як не пракалоў Антона сваім позіркам.

Антон разгубіўся ад нечаканага пытання, адказаў спачатку:

— Няма...— але потым паправіўся: — Брат ёсць, Кузьма... Ён тут служыць...

Сташэўскі зноў павярнуўся тварам да сцяны. Спіна ў яго была нерухомая, але было чутно, як ён часта дыхае.

Назаўтра ў палату прыйшоў Гайкевіч. «Як ён знайшоў мяне?» — здзівіўся Антон. Чакаў Кузьму, а прыйшоў Аркадзь. Вось і зразумей жыццё, вось і здагадайся, хто сябра табе, а хто вораг.

Гайкевіч агледзеўся, глянуў на Сташэўскага, сказаў Антону:

— Ну і трапіў жа ты, братка, у сінагогу...

Ён адразу ж пазнаёміўся са Сташэўскім, адчуў у ім блізкую душу. Стаяў паміж ложкамі, гаварыў:

— Цяжкія часы наступаюць, Антоне. Але не ўсё страчана. Наш консул у Кіеве Аляксюк просіць грашовай пазыкі ў Пятлюры. На румынскім фронце «беларусізуюцца» вайсковыя часці на чале з генералам Пажарскім. Як спяваецца ў нашым гімне: «не пагаснуць зоркі ў небе». Толькі б усе былі заадно. Але ж наша вёска ўсё болей верыць бальшавікам. Скажу табе: незразумелы наш народ. Для яго ж дабра стараешся, а ён нос убок верне. Сціпласць, а лепей сказаць — забітасць, у кас у крыві. У той час, як іншыя народы будуюць дамы, высозныя, пад неба, мы ледзь-ледзь агоралі сабе хатку. «Беларуская хатка». Як дробненька гучыць!

Гайкевіч павярнуўся да Сташэўскага:

— Вы, калі я не памыляюся, паляк? Тады вы нас павінны зразумець.

Сташэўскаму як бы крышачку зрабілася няёмка. Ён зморшчыўся:

— Мой дзед быў палякам. А я ўжо, з божай дапамогай, рускі. А вы дзіўны чалавек. Тысячы інародцаў, розных іудзеяў, мусульман, лічылі б за найвялікшы гонар стаць велікаросамі, хоць іхнія фізіяноміі не з таго цеста злеплены. А вы праваслаўны, такі, як усе, але вам, нібы дзіцяці, трэба даводзіць, што вы рускі, бо вы затлумілі сабе і іншым галаву нейкай Беларуссю. Прабачце, кажу вам шчыра, як інтэлігентнаму чалавеку.

Гайкевіч, відаць было, не чакаў такіх слоў. Ён збянтэжыўся, пачырванеў, а потым сярдзіта скрывіў губы. І больш не паварочваўся да Сташэўскага.

— Ты, здаецца, брата сустрэў? — спытаўся ён у Антона.

— Сустрэў... Кузьму,— Антон усё яшчэ знаходзіўся пад уражаннем слоў Сташэўскага. Бач ты, маўчаў, маўчаў, а тут такую аплявуху

ўляпіў гэтаму Гайкевічу. У глыбіні душы Антону было прыемна, што Гайкевіча так асадзілі.

— А ты не думаеш, што цябе могуць забраць адсюль? — рэзка сказаў Аркадзь.

— Куды?

— На казённы хлеб і ваду. Ты быў на з'ездзе? Быў. Галасаваў супраць мінскіх камісараў? Галасаваў. Яны з табой за гэта цацкацца не будуць. Брат жа твой цябе і арыштуе.

— Кузьма не такі,— не паверыў Антон.

— Не такі, кажаш? Усе яны такія. Ленін сам з дваран, а пайшоў супраць дваранства. Дык што, думаеш, брат твой цябе пашкадуе, калі ты ідзеш супраць камісараў?

— Не палохай мяне,— не вытрымаў Антон.— Я не палахлівы. Трэба будзе — адкажу за тое, што нарабіў.

Гайкевіч адразу паспакайнеў. Прыгладзіў абедзвюма рукамі валасы, сказаў:

— Я цябе не палохаю. А толькі трэба нам адсюль куды-небудзь сыходзіць... Каб на відавоку не быць.

— Я ў вёску паеду,— панура глянуў на яго Антон.

— Думаеш, там цябе чакаюць? Пасылала цябе воласць на з'езд? Не пасылала. Ты сам паехаў. Дык, думаеш, з блінамі цябе там сустрэнуць?

Антон нічога не адказаў. І, сапраўды, не так проста ўсё выходзіла. Ён раптам адчуў, што знаходзіцца ў нейкім зачараваным страшным коле. Як тхор, што трапіў у пастку. Што ж рабіць? Быў бы побач старэйшы брат, ён бы навучыў, падказаў. Але ж Кузьмы няма, і ён не прыходзіць. Што ж рабіць?

— Падумай,— сказаў Гайкевіч.— А я заўтра прыйду...

Нават не глянуўшы на Сташэўскага, ён выйшаў з палаты. Антон жа ўткнуўся тварам у падушку. Сум і слабасць агарнулі душу. Недзе далёка-далёка ад гэтага непрыветлівага каменнага горада была яго вёска. Адно паветра, здаецца, вылечыла б яго там.

Соня прынесла вячэру: кавалачак чэрствага хлеба і талерку гарачага рэдзенькага супу. Моўчкі павячэралі. Сташэўскі адвярнуўся да сцяны, сцішыўся. «Дзіўны чалавек,— думаў пра яго Антон,— усё нечага баіцца. Толькі тупне хто нагой у калідоры, падыдзе да дзвярэй палаты, як ён нацягвае коўдру на галаву, хаваецца. Ужо тады, як пачуе па голасе, што гэта Соня, вытыркне галаву з-пад коўдры. Дужа ж нехта яго напалохаў. Ды што тут дзіўнага? Час такі — чалавек чалавека баіцца... Я і сам — хто б паверыў? — брата свайго пачынаю баяцца».

Перад сном Сташэўскі сказаў:

— Думаю выпісвацца з гэтай чортавай бальніцы. Косць трохі зраслася — буду кульгаць як-небудзь. Заўтра ж скажу, каб знялі лубкі.

Ён раптам саскочыў з ложка, прайшоўся па палаце, наступаючы на хворую нагу. Твар у яго скрывіўся ад болю, на скронях выступіў пот.

— Рана вам яшчэ,— паглядзеў на Сташэўскага Антон.— З такой нагой не трэба жартаваць. Калекам можаце застацца.

— Нельга мне тут быць,— з нечаканым сумам у голасе прызнаўся Сташэўскі.

Назаўтра ў палату з шумам увайшоў Кузьмоў сябра, той самы вусач. Глянуў на Антона чорнымі цыганістымі вачамі, моцна паціснуў руку:

— Здароў, Радзімовіч. Ну і падобныя вы з братам, як два ружэйныя патроны. А я Юшкоў. Кузьма мяне дужа прасіў сюды забегчы. Сам ён пакуль што не можа прыйсці. Падстрэлілі яго трохі...

— Падстрэлілі? — перапытаў Антон.

— Паранілі, факт. Адзін буржуйчык з пісталета трахнуў. Але не страшна. Кузьма — мужык здаровы. Устане на ногі... А хто гэта з табой яшчэ ляжыць?

Юшкоў вачамі паказаў на Сташэўскага, што затаіўся, нацягнуўшы на галаву коўдру.

— Гэта? Сташэўскі. Паляк.

— Чаму ж ён галаву, як страус, хавае?

Юшкоў зрабіў выгляд, што хоча падысці да ложка Сташэўскага.

І тут нібы нехта падтаўхнуў Антона:

— Не падыходзьце, не чапайце яго,— сказаў ён.— Сташэўскі паранены ў галаву.

Юшкоў нахмурыўся, таргануў сябе за вус. Потым дастаў з кішэні шыняля невялікі пакунак:

— Брат табе прыслаў. Усё-такі ў нас, у войску, з харчам лепш, чым у бальніцы. І яшчэ Кузьма прасіў: як трохі падлечышся, абавязкова забяжы ў казарму на Каломенскай плошчы. Там яго знойдзеш. Ну, а мне зараз трэба ісці: служба.

Юшкоў кашлянуў, пайшоў да парога, там спыніўся, сказаў:

— Мая табе адна парада: не звязвайся з буржуямі. Брат у цябе — чырвоны баец, бацька — мужык. Ідзі з імі ў адной баразёнцы.

Ён выйшаў, а ў палаце яшчэ доўга стаяла цішыня. Антон сеў на ложак, абхапіў галаву рукамі. Дык, значыць, Кузьма паранены. А ён думаў, што брат не хоча яго бачыць.

Нарэшце з-пад коўдры асцярожна высунуў галаву Сташэўскі. Твар у яго быў спалоханы. Ён аблізнуў языком сасмяглыя губы, глянуў на Антона. Антон не варушыўся. Сташэўскі ціха ўздыхнуў, параіў:

— Не ідзі нікуды... Брат будзе здаровы — сам прыйдзе. Заманьваюць цябе ў пастку...

Антон паглядзеў на яго, злосна спытаўся:

— Якую пастку? Што гэта вы ўсяго баіцеся?

На скроні ў Сташэўскага нервова затрапяталася сіняя жылка. Так хацеў ён, відно было, сказаць нешта рэзкае, злое, але стрымаўся. Твар у яго скамянеў, вочы патухлі. Антон нават пашкадаваў яго ў думках.

Перад абедам прыйшоў Аркадзь Гайкевіч. Быў ён узбуджаны, у руках трымаў вайсковы рэчмяшок.

— Пойдзем хутчэй адсюль,— пачаў падганяць ён Антона.

Антон расказаў, як прыходзіў Юшкоў, як прасіў наведаць параненага Кузьму.

— Лухта! — перабіў яго Гайкевіч.— Твайго Кузьму я толькі што бачыў на Губернатарскай вуліцы. Нейкага інтэлігенціка вёў пад канвоем. Абкруціць хочуць яны цябе вакол пальца. Ведаў бы ты, што ў горадзе робіцца. Разагналі з'езд, а цяпер Беларускую цэнтральную франтавую раду забаранілі. Паловяць нас усіх, як вераб'ёў, і пагоняць куды-небудзь на германскі фронт. За камісараў паміраць прымусяць. Збірайся — я адну справу надумаў. Ёсць тут яшчэ некалькі нашых людзей. Прымкнём пакуль што да палякаў. Яны з усіх бакоў у Бабруйскую крэпасць збіраюцца. Лепш палякі, чым камісары.

Ён гаварыў усё гэта так шчыра, так пераканана, што Антон паверыў яму.

Яны пачалі збірацца. Антон хацеў пайсці і сказаць Соні, але Гайкевіч спыніў яго:

— Навошта? Не ўводзь нікому ў вушы...

Ён сцягнуў з Антанавага ложка прасціну, запхнуў яе ў рэчмяшок.

— Што ты робіш? — здзівіўся Антон.

— Спатрэбіцца ў дарозе. Можа, мазоль які перавязаць ці рану. А жыдкі ад гэтага не пабяднеюць,— крыва ўсміхнуўся Гайкевіч.

Яны ўжо былі гатовы адыходзіць, як раптам Сташэўскі ўскочыў з ложка, папрасіўся:

— Вазьміце і мяне з сабой...

Ён сядзеў на ложку, ліхаманкава зрываў з нагі лубкі.

— Нельга мне тут заставацца,— гаварыў ён і ўмольна глядзеў на Гайкевіча.

Аркадзь скрывіўся, нібы ў яго нечакана забалелі зубы.

Антон быў уражаны, калі ўбачыў, што Сташэўскі апранае салдацкі шынель. Значыць, ён просты салдат. А па руках, па твары, па гаворцы ніколі б не падумаў.

Тулячыся да сцяны, яны ціха прайшлі цёмны калідор. Тут смярдзела нечым кіслым і гнілым.

— Здаецца, не ўбачылі,— радасна выдыхнуў Сташэўскі.

Яны ішлі па марозным рыпучым снезе. Сташэўскі кульгаў.

— Няўжо вы думаеце, што мы будзем несці вас на руках? — іранічна спытаўся Гайкевіч.

Упершыню пасля ўчарашняй размовы ён загаварыў са Сташэўскім.

— Несці мяне вы не будзеце. Я не кітайскі мандарын.— Сташэўскі стараўся не адставаць ад іх, моршчыўся. А Гайкевіч наўмысна ішоў усё хутчэй.

З Захар'еўскай вуліцы яны павярнулі ў бок Свіслачы, выйшлі да Златай Гуркі, старадаўніх каталіцкіх могілак. Помнікі стаялі зацярушаныя снегам. Пад няяркім зімовым сонцам у снезе ўспыхвалі іскры. Антон ішоў за Гайкевічам і Сташэўскім, разгублена глядзеў наўкола. Такіх прыгожых і багатых могілак ён яшчэ ні разу не бачыў. Куды да іх чмялёўскім могілкам з драўлянымі струхлелымі крыжамі, з выцвілымі, белымі ад дажджу і снегу ручнікамі. Тут усюды горда зіхцелі граніт, мармур і бронза. Нават пасля смерці паны заставаліся панамі. Іхнія твары, высечаныя з каменя і жалеза, пагардліва глядзелі на Антона, быццам хацелі спытацца: хто дазволіў яму, мужыку, парушаць панскі вечны спакой, хадзіць каля іхніх магілаў? Больш за ўсё было тут помнікаў, якія нагадвалі абрэзаны з двух бакоў ствол чорнага дрэва, на якім былі ссечаны сукі. Ніколі не дасць парасткаў чорнае мёртвае дрэва...

Моўчкі ішлі яны па могілках і ўбачылі наперадзе групу вайскоўцаў.

— Польскія легіянеры,— шапнуў Гайкевіч.

Палякі стаялі каля помніка, з якога глядзела на іх маладая мармуровая, вельмі прыгожая жанчына. Жанчына, сумна і пяшчотна ўсміхаючыся, трымала ў руках паходню, якая была перавернута полымем уніз. Бліжэй за ўсіх да помніка, схіліўшы кучаравую чорнавалосую галаву, стаяў паручнік з перавязанай рукой. Антон, Гайкевіч і Сташэўскі ціха спыніліся непадалёку ад палякаў. Раптам паручнік рэзка павярнуў у іхні бок галаву, крыкнуў:

— Як стаіце перад магілай маці маёй? Шапкі далоў!

Яны ўздрыгнулі, паспешліва сцягнулі з галоў шапкі. Паручнік стаў на калені, па-польску пачаў гаварыць малітву. Словы сумна падалі ў халодны снег. Мармуровая жанчына слухала іх і бяссільна сціскала ў

белай руцэ паходню. Кончыўшы малітву, паручнік узняўся з каленяў, надзеў на галаву канфедэратку, хутка пакрочыў з могілак.

Гэта быў гаспадарчы ўзвод, рэшткі польскага палка, які па загаду Крыленкі і Мяснікова выводзіўся з Мінска ў напрамку Дукоры і Бабруйска. Палякі ехалі на фурманках і верхам на конях. Антон налічыў восем фурманак.

— Нас бяруць, як праваднікоў, як тутэйшых жыхароў,— пагаварыўшы з паручнікам, сказаў Гайкевіч.

Відно было, што паручнік не вельмі цырымоніўся пры размове, бо брыво ў Аркадзя нервова трапяталася. З людзей, пра якіх ён гаварыў у бальніцы, на месцы аказаўся толькі адзін: шыракатвары, злёгку рабацiністы хлопец з дзіўным прозвішчам Страх. Гэты Страх адразу сказаў, што галодны, як воўк, выцягнуў з кішэні свайго жоўтага доўгага кажуха кольца вясковай кілбасы, пачаў есці. Кілбаса суха трашчала пад яго моцнымі зубамі.

Яны, Антон, Гайкевіч і Сташэўскі, селі ў фурманку, на якой ехаў пажылы рыжавусы паляк родам аднекуль з-пад Сандаміра. Страх сеў разам з паручнікам. Паручнік колькі часу слухаў, як ён трушчыць кілбасу, потым гідліва зморшчыўся.

— Я не хачу ехаць разам са свіннёй. А ну, злазь!

Страх пакорна злез, пайшоў за фурманкай.

Неўзабаве выехалі з Мінска і згубіліся сярод снежных маўклівых палёў. Пад коламі фурманак, парушаючы цішыню, тонка віскатаў снег. Белае зімовае неба нізка вісела над дарогай. У пакрытых шэранем рэдкіх хмызняках свістаў вецер. Час ад часу, далёка на небасхіле, віднеліся невялікія вёсачкі — купкі чорных хат, кінутых на халодную бель снегу. Гэтыя вёсачкі, гэтыя далёкія хаты выкрасалі ў душы тугу, ад якой хацелася плакаць. Так няўтульна было ім на вялікай трывожнай зямлі.

Антон сядзеў, перакінуўшы ногі цераз білы фурманкі. Ногі зацякалі, і ён час ад часу варушыў імі, быццам таптаўся па паветры. Пахла сенам, якое ляжала на дне фурманкі, пахла снегам і конскім потам. «Ну вось я і еду,— думаў Антон, сцяўшыся ў цёплы камяк, слухаючы нудлівую гаворку снегу і колаў.— Куды еду? Навошта? Адзін бог ведае...»

Але адступаць было позна, ды і не згадзіўся б ён зараз адступіць. Па крайняй меры, ён ехаў у кірунку свайго дому.

Дарога закалыхвала. Разам з санлівасцю прыходзіла шкадаванне да сябе самога, незразумелая крыўда на тых, хто быў зараз у цяпле, за тоўстымі сценамі хат. Ён заплюшчыў вочы, і адразу з цемры, з вогненных палосак, з сініх і зялёных кругоў, з нейкіх, ніколі не

бачных, трапяткіх бліскучых кветак выплыў Янінін твар. Вочы ў Яніны былі сумныя і строгія.

— Цішыня...— сказаў Сташэўскі, што сядзеў побач, і Антон уздрыгнуў — так нечакана прагучалі словы.— Цішыня, аж унутры звініць... Страшная цішыня. А зусім нядаўна столькі было грому. Помню, пад Гумбіненам у першай арміі генерала Рэненкампфа мы наступалі. Германец б'е ва ўпор. Паветра так і сіпіць ад жалеза. А мы ідзём. Наперадзе капітан Марчанка, з папяросай у зубах, у белых пальчатках. А побач з ім... Хто б вы думалі? Палкавы бацюшка, айцец Варлам. У салдацкіх ботах, чорную расу падаткнуў...

Сташэўскі глянуў на неба, на белыя ледзяныя хмары. Там, высока над зямлёй, узвіхурваўся снег. Першыя сняжынкі нясмела ўпалі Антону на шчаку.

— І Марчанка, і айцец Варлам ужо даўно на небе,— уздыхнуў Сташэўскі.

Вёрст за дзесяць ад Мінска, у вялікай валаснной вёсцы, паручнік загадаў замяніць фурманкі саньмі. Легіянеры рассыпаліся па дварах і выканалі загад вельмі хутка. Прыкладна праз паўгадзіны атрад зноў рушыў на поўдзень, пакідаючы на вясковай вуліцы фурманкі з паламанымі аглоблямі, галашэнне жанчын.

— Закон ваеннага часу,— сказаў Гайкевіч. Але ніхто не падтрымаў гаворку, усе маўчалі.

Снег трохі папырхаў, палётаў над полем, і зноў усё супакоілася. Змяркалася. Неба з сіняга рабілася чорным, вугольным. Заззяў над снежнай раўнінай зеленаваты месячык. І снег у полі адразу ўспыхнуў, засерабрыўся.

Па ім пабеглі трапяткія блакітныя хвалі.

— Вашага брата Кузьмой завуць? — спытаўся Сташэўскі.

Антон глянуў на яго, нічога не сказаў, толькі кіўнуў галавой. Яму не хацелася б цяпер чуць пра брата. Але Сташэўскі, утуліўшы галаву ў плечы, глядзеў на месячык, высока закочваючы вочы, гаварыў:

— Кузьма старэйшы брат... А вы, Антон, малодшы...—Ён рэзка павярнуўся да Антона: — Хочаце, раскажу біблейскую легенду?

І не дачакаўшыся згоды, пачаў расказваць сухім, трохі хрыплаватым голасам:

— У першых людзей, Адама і Евы, нарадзілася двое сыноў. Старэйшага звалі Каін, малодшага — Авель. Выраслі браты, і Каін стаў земляробам, а Авель пастухом. Жылі яны, працавалі, сябравалі, але аднойчы пасварыліся, і Каін, старэйшы, забіў Авеля. Ён адсек брату галаву і ўзяў яе ў рукі. Цёплая кроў цякла па пальцах. І тады, каб ніхто не дазнаўся пра яго злачынства, Каін размахнуўся і з усяе сілы

шпурнуў ад сябе братаву галаву. Але мёртвая галава ўпала не ў мора, не ў пустыню і не ў лес. Яна ўзнялася высока над зямлёй і ператварылася ў месячык. Тысячы гадоў, толькі схаваецца сонца, глядзіць на Каіна з неба мёртвая галава Авеля...

Усе маўчалі. Сярод гэтых мёртвых палёў, сярод халоднай снежнай пустыні сэрца замірала, сэрца, здаецца, пакрывалася лёдам. Усе глянулі на месяц. Ён плыў высока над зямлёй, беспрытульны і адзінокі.

«Значыць, я — Авель,— думаў Антон.— А Кузьма — Каін. Навошта Сташэўскі расказаў гэта? Што яму трэба? Не, не проста так пачаў ён гаворку. Нешта хацеў?»

Антон глядзеў на месяц. І, праўда, калі ўважліва прыгледзецца, месяц падобны на чалавечую галаву. Вось чарнеюць нейкія плямы, як быццам заплюшчаныя вочы, вось вузкая, доўгая, трошкі звілістая палоска — рот. Лоб і шчокі ў галавы бледныя, папяловыя. Гэта смерць дакранулася да іх сваёй рукой.

Антону зрабілася холадна. Усім целам, як толькі мог, уціснуўся ён у сухое калючае сена. Ён рашыў болей не глядзець на месяц, але прайшло колькі хвілін, не вытрымаў, зноў узняў галаву. Месяц вісеў проста над фурманкай. Як бы хутка ні беглі коні, ад яго нельга было ўцячы. Ён быў белым халодным вокам бязмежнага неба, і гэта вока пранізвала навылёт, усё бачыла, аб усім здагадвалася.

На начлег спыніліся непадалёку ад Рудзенска. Паручнік не дазволіў заходзіць у хаты — гэта было небяспечна, у любы час маглі наляцець чырвонагвардзейцы, узброеныя мясцовыя жыхары. Ды ці мала хто, сціскаючы вінтоўку, хадзіў зараз па зямлі. Атабарыліся ў вялікім старым гумне на ўскраіне вёскі. Пасярэдзіне гумна быў шырокі гулкі ток. Абапал току, у застаронках, ляжала сена і саламяныя кулі. Паставілі знадворку варту, а самі, хто дзе, пазашываліся ў сена і салому. Антон разам з Аркадзем лёг у невялічкай ёўні, якая была зрублена тут жа ў гумне. У ёў ні было цёмна і глуха, як у магіле. Летам і ўвосень тут сушылі снапы, і яшчэ захаваўся пах цёплага распаранага зерня.

— Лепш палякі, чым камісары,— шаптаў недзе побач у цемры Гайкевіч.— Сіл набярэмся, акрыяем і плюнем тады на гэтых пшэкаў. А пакуль нам трэба за іх трымацца. Радзе з гэтымі доўбарчыкамі не выпадае сварыцца.

Антон краем вуха слухаў яго, а сам, нават тут, бачыў месячык, яркі і недасяжны. Заплюшчыўшы вочы, ляжаў ён на саломе, і месяц плыў над ім. Неўзабаве Антон заснуў сном цяжка стомленага, разбітага чалавека, і ўсю ноч сніўся яму адзін і той жа сон. Быццам

ідзе ён па снежным полі. Ногі па калека правальваюцца ў шорсткі сыпучы снег. Ні душы навокал. Над галавой, замест кеба, месяц, адзін месяц, як суцэльная белая столь. Месяц увесь з лёду ці з нейкага празрыстага белага каменя. Хочацца памацаць яго. Месяц нізка-нізка — над галавой. Антон працягвае ўверх руку, але месяц чуць-чуць падскоквае, і ніяк яго не дастаць. Так паўтараецца некалькі разоў. Антон злуе, ідзе далей па снежным цаліку. Ён ідзе і ўважліва глядзіць на месяц. Месяц падобны на яго. Быццам гэта вялізнае люстэрка, у якім адбіваецца ягоны, Антонаў, твар. Антон, абліваючыся халодным потам, мацае сваю галаву, але яна на месцы. Раптам месяц з белага робіцца чырвоны, рэзка ўздрыгвае і падае на Антона. Антон ляжыць, уціснуты ў снег нечуваным цяжарам, і шчакой дакранаецца да месяца і не можа зразумець — ці гэта лёд, ці празрысты слізкі камень.

Ён спуджана прахапіўся. Сэрца аж калацілася ў грудзях. Побач у цемры спаў, свістаў носам Гайкевіч. Непадалёку, за тонкай сцяной ёўні, нехта праз сон гаварыў па-польску. Да самай раніцы ўжо не змог заснуць.

Зацярушаныя саломай, яны выйшлі з гумна. Халоднае малочнае святло цадзілася з-за нізкіх снегавых хмар. Легіянеры ахапкамі насілі ў свае сані сена. Зялёная варухлівая дарога вяла з гумна да саняў. Непадалёку ад расчыненых варот, проста ў снезе, стаяў на каленях змучаны худы селянін, пэўна, гаспадар гумна. У пасінелых грубых руках ён трымаў шапку. Цьмяна блішчала лысіна. Вецер варушыў за вухам тонкі хвосцік злямчаных русых валасоў.

— Паночкі салдаты,— ціха гаварыў селянін,— пашкадуйце. У мяне сямёра дзяцей. Чым кароўку карміць?

Салдаты не заўважалі яго, весела размаўляючы, борздзенька бегалі ў гумно і назад. Для легіянераў гэты нямыты мужык быў проста зямлёю, снегам, якія можна таптаць.

— Чым кароўку карміць? — як шапаценне ветру, стаяў у вушах сумны слёзны голас.

Антон унурыў галаву, пайшоў да сваіх саняў. Сандамірац ужо таксама паспеў нацягаць свежага сена, сядзеў, як на падушцы. У яго на вус зачапілася сцяблінка і блішчала, калі ён паварочваў галаву. Непадалёку Страх, раздзімаючы рабаціністыя шчокі, цягнуў добры пласт сена. Усярэдзіне ў Антона нешта ўздрыгнула. Ён схапіў Страха за круглы плячук:

— Нясі назад!

Страх здзіўлена глянуў на яго, у цёмных вачах успыхнула іскрынка і патухла. Страх павольна павярнуўся і пайшоў назад да гумна.

Паехалі далей па белым ветраным полі. Белай сцяной ішоў снежны пыл. Коні з чорных і гнядых рабіліся сярэбрана-сівымі.

Замецены снегам, ціхі і сонны, сустрэў іх Рудзенск. Хаты стаялі з зачыненымі аканіцамі. Варона цяжка села на плот і быццам здранцвела. Яна здавалася адзінай жывой істотай на ўсім свеце. На чыгунцы рэйкі былі белыя ад снегу, раз'езджаныя. Самотнай купкай стаялі чырвоныя вагоны. На кожным надпіс: «Сорак чалавек і восем коней».

У Рудзенску палякі не затрымаліся, паехалі далей. Яны, відно было, глынулі нечага моцнага, бо весела насіліся на сваіх конях, далёка абганяючы абоз. У маленькай вёсачцы, што прытулілася да лесу, размясцілася вялікая старадаўняя царква. Яна таксама была мёртвая. Ні адзін чалавечы след не парушаў роўную бель снегу, што густа ляжаў наўкол яе.

— Атэістамі ўсе парабіліся,— крыва ўсміхнуўся Гайкевіч і перахрысціўся на царкву.

— Народ, які складаецца з адных атэістаў, не мог бы праіснаваць. Гэта словы Флабера,— сказаў Сташэўскі і глянуў на Гайкевіча. Але той адвярнуўся.

«Значыць, я Авель. А мой брат Каін»,— зноў пачаў пакутліва думаць Антон.

Як каза да свайго колíка, ён быў прывязаны да гэтай думкі. Яна апякала сэрца. «Кузьма не прыйшоў у бальніцу. Не захацеў. А можа б, я памёр там. Захлынуўся ад кашлю і памёр». Антон глядзеў на пякуча-белы снег, і снег увідавочкі чарнеў, расплываўся ў вачах.

«Адна нас маці нарадзіла,— думаў ён.— Адзін хлеб мы елі. Буркі ягоныя я даношваў. Разам аўсянак лавілі. А ён не прыйшоў, хоць побач быў. Які-небудзь чмялёвец, ніякая не радня, і той бы забег на хвілінку, глянуў бы, як што».

Яму стала шкода сябе. Гэтае пачуццё прыходзіла ўжо неаднойчы, але зараз яно цалкам захапіла душу, аглушыла. Яму здалося, што ніколі не скончыцца гэтая марозная снегавая дарога, гэтае неба, гэты месяц над галавой. Ён будзе ехаць бясконца і калі-небудзь памрэ ці засне і зваліцца ў халодны сумёт. А ўсе паедуць далей, нават не азірнуцца, і толькі конь заржэ, самотна і трывожна, нібы заплача.

Недзе каля Мар'інай Горкі заехалі ў вялікі багаты маёнтак. Будынкі стаялі пустыя, нібы нейкі мор пабраў людзей. Вецер гуў у выбітых шыбах. Пачуўшы людскія галасы, іржанне коней, з халупкі, якая аказалася лазняй, выпаўз на белы свет сівы зморшчаны дзядок. У яго была доўгая неахайная барада, злыя пацуковыя вочы. Ён гаварыў і расчэсваў бараду крывымі белымі пальцамі. Антона ўразілі

гэтыя пальцы. Ніколі ён яшчэ не бачыў такіх вялізных, такіх доўгіх пазногцяў. Успомнілася, як казала калісьці маці: памрэ чалавек, пакладуць яго ў труну, а пазногці і там растуць. Стары гаварыў, хоць у яго ніхто і не пытаўся:

— Маёнтак адстаўнога палкоўніка яго правасхадзіцельства Сякерскага Льва Францавіча. Палкоўнік яшчэ ўвосень у Маскву паехалі. А як усчалася гэтая віхура, недзе згубіліся. Ну а мужык, смерд, вядома, не прапусціць, каб ляжала дзе што без гаспадарскага вока. Як караеды, на ўсё накінуліся. Бяруць, цягнуць, руйнуюць...

Паручнік гідліва глянуў на старога, спытаўся:

— Хто сам будзеш?

— Садоўнік яго правасхадзіцельства,— паспрабаваў, як вайсковец, выцягнуцца ў струну стары, але ў яго гэта не атрымалася.

— Дзе ж твой сад, садоўнік?

— Сад трохі пасеклі ка дровы, трохі яшчэ стаіць. А сам я,— стары ўмільна ўсміхнуўся,— ад смерці хаваюся, ад супастатаў. Пяты дзень пад палком у лазні сяджу. Добра яшчэ, што сушаных яблыкаў набраў...

З-за пазухі бруднай пакамечанай кашулі ён дастаў жменьку чорных згарэлых яблыкаў. Паручнік холадна глянуў на яго, адвярнуўся.

— Ваша правасхадзіцельства,— забег яму наперад садоўнік.— Хрыстом богам малю: пакарайце супастатаў. Так зрабіце, каб іхнія сабакі-дзяды ў трунах перавярнуліся. У Івана Канцавога ўся хеўра засядае. І сёння там. Жыта палкоўніцкае дзеляць...

— Жыта дзеляць? — узняў густое брыво паручнік.— Можаш паказаць дзе?

— Магу... магу...— радасна, як сабачка, паклыпаў уперад стары.— За мной ідзіце... Пакажу... Усіх пакажу!!!

Ягоныя вочкі ажылі, загарэліся.

Паручнік махнуў рукой. Фурманкі, адна за адной, крануліся з месца. А ўперадзе па зрэзанай палазамі бруднай дарозе бег стары.

— Усіх пакажу...— шчасліва шаптаў ён.

На ўскраіне вёскі стаяў пахілены, збуцвелы ад часу крыж. Ручнічок матляўся на яго цёмна-зялёнай старэчай шыі. Стары перахрысціўся на крыж, падбег да самай крайняй хаты:

— Тут!

Легіянеры саскочылі з фурманак, ланцугом пайшлі да хаты. Але стары ўсё роўна аказаўся наперадзе. Як уюн, праслізнуў між палякамі, падбег да нізкага цёмнага акна, костачкамі пальцаў стукнуў у шкло. Колькі часу было ціха. Потым у сенцах нешта загрымела, дзверы расчыніліся, і з хаты выйшаў каржакаваты светлабароды

селянін у сіняй, расшпіленай на грудзях кашулі. Ён здзіўлена глянуў на салдат.

— Госці да вас,— зняўшы шапку, з'едліва пакланіўся яму садоўнік.

Мужык зірнуў на яго, як на гніду, спакойна чакаў, што скажуць незнаёмцы.

— Ты Іван Канцавы? — спытаўся паручнік.

— Ён... Ён самы,— заспяшаўся, сагнуўся ў абаранак стары і падбег да чалавека, глянуў на яго знізу ўверх.

— Што, Іванка, з'еў?

— Я Канцавы,— адказаў селянін, і яго шэрыя вочы гледзелі на ўсіх без трывогі і страху.

З хаты выйшла яшчэ некалькі чалавек, усе без світак, шумлівыя, вясёлыя. Сталі ка ганку, некаторыя пачалі закурваць. Канцавы таксама дастаў з кішэні капшук з тытунём. Апошнім выйшаў на вуліцу высокі танклявы юнак з густымі цёмна-каштанавымі валасамі, якія завіваліся на патыліцы і скронях. Ён глянуў на сялян, на легіянераў і радасна заўсміхаўся.

— Таварышы,— сказаў ён,— гэта салдаты-інтэрнацыяналісты...

Юнак лёгка збег з ганка, падышоў да паручніка, загаварыў з ім па-польску. З кожным словам усмешка на яго твары ўсё блякла.

— Ты хто? — прыжмурыўшы вочы, спытаўся ў яго паручнік.

— Вацлаў Радомскі.

— Паляк?

— Паляк.

У паручніка заружавеліся шчокі. З нагруднай кішэні мундзіра ён дастаў тонкую цыгарэту, зноў спытаўся:

— Бальшавік?

— З ППС-лявіцы...

— Ты не паляк,— зламаў паручнік цыгарэту і кінуў яе^пад ногі.— Ты шалудзівы пёс! Палякі — тут! — тыцнуў ён пальцам у бок сваіх легіянераў. Тыя, скамянеўшы, глядзелі на яго адданымі вачамі.

— Я паляк... І не трэба крычаць,— ціха і ўсхвалявана прамовіў юнак.

— Усім хлопам па пятнаццаць шомпалаў,— загадаў легіянерам паручнік.— А гэтага — звязаць...

Толькі цяпер сяляне зразумелі, што адбываецца.

Яны захваляваліся, зашумелі:

— Гэта незаконна!

— Мы — вясковы сялянскі камітэт...

— Мы будзем скардзіцца цэнтральнай Савецкай уладзе!

— Я тут улада,— сказаў, раздзімаючы ноздры, паручнік.

Легіянеры вынеслі з хаты ўслоны. Сялянам здзіралі з плячэй кашулі, валілі тварам уніз на ўслоны. Адзін легіянер садзіўся чалавеку на шыю, другі навальваўся на ногі, трэці хвастаў шомпалам. Спіны ў мужыкоў былі белыя, незагарэлыя. Як і вядзецца, усё лета ў самую спёку, на касавіцы і на жніве хадзіў чалавек у кашулі. З-пад шомпалаў пырснула кроў.

Калі паклалі на ўслон Івана Канцавога, ён не крычаў, не войкаў, толькі жмурыўся, быццам снег сляпіў яму вочы.

— Дай мне.— Садоўнік выхапіў з рук у легіянера чырвоны шомпал. Потым прыкусіў жоўтымі зубамі губу, ударыў з усяго пляча: — Да косткі рассяку! Пабачу — ці чорная костка...

Канцавы заплюшчыў вочы, сцяў зубы і маўчаў. Пэўна, гнеў абудзіў у старым садоўніку маладую сілу, і шомпал аж свістаў у яго руках.

— Не чакай, не закрычу,— расплюшчыў мутнае ад болю вока Канцавы.— Сабака ты сівы... Ападак чарвівы з яблыні струхлелай...

Антон стаяў збоку, слухаў, як тонка і востра свішчуць шомпалы, і па ўсім целе ў яго расцякаўся холад. Гэта быў нейкі вар'яцкі сон. Цяжка было паверыць гэтаму. Але была — ён бачыў яе — кроў. Яе прагна ўбіраў у сябе снег і сам чырванеў. З кожным чалавекам, якога валілі на ўслон, снег рабіўся ўсё болей чырванейшы.

Раптам паручнік падбег да старога, адштурхнуў яго ад услона, глянуў наўкола бліскучымі шалёнымі вачамі.

— На! — працягнуў ён Страху шомпал.— Бі!

Страх уздрыгнуў, узяў шомпал, неяк бокам ступіў да ўслона, размахнуўся і шлёгнуў па чырвонай спіне.

— Бі! — крыкнуў паручнік Гайкевічу.

Аркадзь крыва ўсміхнуўся і таксама пачаў лупцаваць селяніна. Потым біў Сташэўскі. Гэты хвастаў старанна, умела, аж палякі заглядзеліся.

Скончыў, выцер з твару пот, падышоў да Антона, сказаў:

— Трохі разагрэўся...

І вочы ў яго блішчалі.

Між тым да хаты Івана Канцавога збеглася ўся вёска. Жанчыны, трымаючы дзяцей на руках, галасілі. Мужчыны спадылба глядзелі на ўсё, што адбываецца, хмурыліся.

— Бяры! — падаў паручнік шомпал Антону.

Нясцерпна зіхцеў снег. Па гэтым снезе трэба было ступіць чатыры крокі. Да ўслона. Да знявечанай голай чалавечай спіны. Са снегу тырчала нейкая чорная галінка. Чамусьці падумалася, што вясной яна была зялёная, шумела ў небе.

У чалавека плечы былі нібы ў просе, у дробных бледных вяснушках. Ён ляжаў і ўздрыгваў усім целам. Шомпал апякаў далонь. Рука была цяжкая і адначасна млявая, так, як быццам яе пераляжаў. Хацелася сагнуцца і ў чыстым снезе апаласнуць, адмыць ад крыві шомпал. Ён ступіў апошні крок. На вузкім услоне трымцела перад ім белая чалавечая спіна, чакаючы пакуты. Зусім нядаўна, у кастрычніку, ён сам стаяў, прывязаны да бярозы. Ён узмахнуў рукой, ударыў. Спіна ўздрыгнула. Чалавек цяжка, перарывіста задыхаў. Антон заплюшчыў вочы, кінуў шомпал і пабег ад услона.

З сенцаў у Івана Канцавога легіянеры выкацілі бочку, поўную жыта.

— Не падзялілі,— пацёр сухія рукі садоўнік.— Не паспелі...

Жыта высыпалі проста на снег. Яно расцякалася па снезе, як жывое. Паручнік загадаў падвесці Радомскага. Спытаўся, паказаўшы на жыта:

— Ты рабаваў?

— Я браў тое, што належыць народу. І аддаваў народу...

Вяроўкі ўпіваліся Радомскаму ў цела, і ён моршчыўся.

— І ты пасля гэтага паляк? Для паляка святыя законы прыватнай уласнасці.

— Я паляк. Я з Польшчы Касцюшкі і Канарскага. Я з той Польшчы, якая заўсёды змагалася супраць рабства і якую вы ўтапталі ў гразь.

— Маўчы, пёс! — Паручнік сціснуў кулак, але не ўдарыў звязанага, загадаў: — У бочку яго!

Радомскага запхнулі ў бочку, вялікімі цвікамі прыбілі зверху накрыўку. Потым легіянеры пакацілі бочку па дарозе, так, як дзеці, робячы снегавікоў, качаюць снежныя круглякі. Проста за вёскай было глінішча — вялікія глыбокія ямы з крутымі схіламі. Тут летам капалі гліну. Легіянеры разагналі бочку і пусцілі яе па схіле. Падскокваючы, яна памчалася ўніз. Яна кацілася доўга-доўга, і ўвесь час следам за ёю віхурылася снегавое воблачка.

Паручнік аддаў каманду збірацца. Калі ўжо селі ў фурманкі, да паручніка падбег садоўнік, папрасіў ціха, кланяючыся:

— Вазьміце мяне з сабой...

Шчокі ў яго дробна дрыжалі. Паручнік засмяяўся:

— Ты мне болей не патрэбен. Ідзі ў лазню, пад свой палок, ці да іх...— Ён паказаў рукой на жанчын, што маўкліва стаялі каля скрываўленых услонаў.

Садоўнік пасінеў, каўтнуў паветра і асеў на снег.

Зноў пабеглі насустрач халодныя палеткі, узгоркі, з якіх вецер змёў снег, бела-зялёныя лясы. Снег скавытаў пад палазамі, быццам яму было балюча. Неба, ледзяное, крухмальнае, ціснулася да зямлі, нібы хацела пагрэцца ля цёплых вясковых комінаў.

Антон сядзеў у фурманцы, згорбіўшыся, прыціснуўшы падбародак да грудзей. Не хацелася ні на кога глядзець. Не хацелася глядзець на свае рукі. Ён ненавідзеў гэтых людзей. Ён з агідай думаў, што дыхае тым жа паветрам, што і яны. І ён ужо быў звязаны з імі, звязаны крывёю. Кроў, хоць яе не было на руках, ланцугамі скавала ягоныя рукі. «Я біў чалавека,— думаў ён.— Безабароннага чалавека, якога ўпершыню ўбачыў, які не зрабіў і не мог зрабіць мне нічога благога. А я лічу сябе чалавекам. Ды я ўтрая горшы, чым нават гэты паручнік. Паручнік б'е таму, што ў яго такая служба, такі абавязак, што ён тут чужаніца. А я?..»

Ён глядзеў на спіны сваіх спадарожнікаў і са страхам думаў, што нічым не адрозніваецца ад гэтых людзей. Яны білі, але і ён жа біў. Хто паверыць, што ён не хацеў біць? Тыя жанчыны паверац, што стаялі з дзецьмі ка руках і галасілі? Тыя жанчыны, каб іхняя воля, утапталі б яго нагамі ў снег, выдзерлі б яму вочы. І ўсё было б справядліва і правільна.

Так, з такімі думкамі і перажываннямі, даехаў ён да Асіповічаў. Ён зусім змёрз, ледзь варушыўся. Але гэта ніколькі не палохала — на душы была дрымотная абыякавасць. Легіянеры пабеглі ў будынак вакзала па кіпецень, пабег і фурман-сандаміравац, і тады Сташэўскі лёгка саскочыў на прытаптаны снег, сказаў:

— Ну, тут мне з вамі ўжо не па дарозе.

— Куды ж ты пойдзеш? — здзівіўся Гайкевіч.

За гэтыя чатыры дні дарогі ўсе асвойталіся і звярталіся адзін да аднаго на «ты».

— Свет вялікі,— шматзначна ўсміхнуўся Сташэўскі і абтрос з шыняля сена і снег.

Ён неяк адразу пасвяжэў, падцягнуўся, у вачах загарэлася ўпэўненасць і сіла. Антон успомніў, як ён біў селяніна,— біў ад поўнай душы, шчыра і прывычна, быццам у карты гуляў.

Сташэўскі глянуў на Антона вясёлымі вачамі, спытаўся:

— Брата Кузьму ўбачыш?

— Не ведаю... Можа, і ўбачу,— адказаў Антон і ў думках здзівіўся: навошта гэта Сташэўскаму?

— Убачыш — перадай прывітанне. Перадай, што прагну яго пабачыць.

Сташэўскі наставіў каўнер шыняля, збіраючыся ісці. Відно было, што ён задаволены сабой.

— Ад каго прывітанне? Ад цябе, Сташзўскага?

— Не ад Сташэўскага, а ад Стахеева,— Сташэўскі ўсміхнуўся, павярнуўся да Гайкевіча і Страха: — Панове, прашу прабачыць мне мой невялічкі маскарад. Я Стахееў. Сташэўскі — гэта проста фікцыя, маска, якую носяць, каб на пэўны час схаваць свой сапраўдны твар.

Ён пакланіўся ўсім і пайшоў з выглядам пераможцы, крыху накульгваючы. Антон здзіўлена глядзеў яму ўслед. Вар'ят нейкі, ды ўсё. Быў Сташэўскі — стаў Стахееў. Усю дарогу гаварыў пра Каіна і Авеля, пра Кузьму ўспамінаў... Які ж яго «сапраўдны твар»?

Як толькі выехалі за Асіповічы, падзьмуў сустрэчны вецер, узнялася завіруха. Коні ледзь ішлі. Сані правальваліся ў глыбокія сумёты, якімі была перамецена дарога. Без Сташэўскага ў санях стала прасторней, але затое і ветру было болей прастору. Антон стаў захутвацца і намацаў у кішэні званок. Дастаў яго, пакруціў у руках.

— А дзе ж ваш чацвёрты? — павярнуўшыся, спытаў паляк. Убачыў званок, выхапіў яго ў Антона з рукі, засмяяўся: — Добрая штучка!

Потым саскочыў з саняў, прывязаў званок да дугі, цмокнуў языком:

— Як на вяселлі паедзем.

Сані рвануліся насустрач ветру. Дзынкнуў званок. Потым асмялеў, зазваніў гучна і пералівіста. Так і паехалі. Спераду, з бакоў і зверху — завіруха, калючы снег, пранізлівы вецер. А пад дугой — званок. Пад польскай дугой званок, які званіў нядаўна на скірмунтаўскім з'ездзе. Слухаючы яго галашэнне, ехаў Антон далей ад бацькавай хаты, у снегавую замець, у белы вір завірухі, у невядомасць.

XVIII

У Кузьмы было прастрэлена левае плячо. Дзён дзесяць ён ляжаў у вайсковым шпіталі, потым, калі палягчэла, выпісаўся дадому, у барак. Праскоўя аж учарнела. Не адыходзіла ад яго ні на хвіліну, мяняла бінты, папраўляла падушку, коўдру, прыносіла ў ложак піць і есці. Яна схуднела за гэтыя дні, шчокі запалі, нос завастрыўся, толькі вочы па-ранейшаму былі прыгожыя, гарэлі адданасцю і любасцю. Сяргейка таксама амаль увесь час быў дома, рэдка калі выходзіў на вуліцу. Гуляў на падлозе каля Кузьмовага ложка, з бярозавых паленцаў, з трэсак і кавалкаў цэглы будаваў крэпасць. Нагуляўшыся, ціха садзіўся каля Кузьмы, пытаўся:

— Татка, а цябе папраўдзе паранілі? Горш было, калі Праскоўя ішла на фабрыку. Сяргейка засынаў, і Кузьма сам-насам заставаўся

са сваёй хваробай і сваёй адзінотай. У параненай руцэ яшчэ не патух боль. Часам, асабліва, калі на вуліцы пачыналася адліга, боль ажываў, вострымі зубамі ўядаўся ў цела. Доктар казаў, што куля зачапіла косць.

Паранілі яго праз два дні пасля таго вечара, калі ён сустрэў Антона. З аддзяленнем Беланогага. Беланогаў быў ужо камандзірам аддзялення — ён пайшоў апісваць земсаюзаўскі прадуктовы і аптэкарскі склады на Ляхаўцы. Пастановай Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту Усерасійскі Земскі саюз спыняў сваю дзейнасць на Заходнім фронце, і ўся яго маёмасць пераходзіла ў рукі Савецкай улады. Хадзілі чуткі, што Земсаюз тэрмінова пачаў перапраўляць усё сваё дабро на поўдзень Расіі, туды, дзе набіраў сілу белы рух, дзе пад свае сцягі збіраў Казакаў атаман Каледзін. На складзе іх сустрэлі два рабочыя-грузчыкі і малады чарнявы мужчына па прозвішчу Дамажыраў, які назваў сябе служачым Земсаюза. Ён чамусьці нерваваўся, расшпільваў і зноў зашпільваў гузікі шыняля. Белавусы зморшчаны дзядок з Мінскага губеранскага прадуктовага камітэта дастаў з-за пазухі паліто пакамечаны сшытак, з-за вуха аловак і пачаў хадзіць па складзе, адзначаць усё, што там захоўвалася. Уздоўж сцен стаялі горы скрынак і бочак з крупамі і мукой, з соллю і тытунём. Салдаты бралі ўсё гэта ў рукі, падносілі да дзядка, каб ён запісваў у свой гросбух.

Гадзіны праз дзве дабраліся да самага канца склада, найбольш бруднага і зацемненага.

— Там нічога няма,— махнуў рукой Дамажыраў.— Дугі і сані ляжаць...

Сапраўды, мноства саней былі складзены ў штабелі, якія даставалі да самай страхі. Салдаты не захацелі лазіць па гэтых штабялях — яшчэ разваляцца. Але Кузьма заўважыў, як раптоўна змяніўся з твару Дамажыраў. Чаго гэта ён так нервуецца? Кузьма асцярожна прасунуўся між двух штабялёў і адразу ж, каля сцяны, убачыў нейкія доўгія скрынкі, накрытыя брызентам. Ён пацягнуў за рог брызент і на імгненне пахаладзеў. У скрынках ляжалі вінтоўкі — новенькія, тлуста змазаныя. У паўзмроку ярка сінела жалеза.' Кузьма спалохаўся, пачаў вылазіць назад. І сустрэўся з вачамі Дамажырава. Той усё зразумеў, адскочыў убок, выхапіў з кішэні шыняля рэвальвер і стрэліў у Кузьму. А сам пабег уздоўж сцяны. Ён бег і наўмысна хапаўся рукамі за штабелі. Сані з грукатам падалі, загароджвалі дарогу салдатам, што беглі ўслед. Яго закалолі штыкамі на парозе склада. А Кузьма схапіўся за плячо, потым узняў руку: пальцы былі ў крыві.

І вось ужо трэці тыдзень, як ён ляжыць у ложку. Ён ужо вывучыў усе шчылінкі і сучкі на столі. Спачатку Праскоўя і ён вельмі баяліся, што дактары могуць адрэзаць руку, але ўсё абышлося — рана пакрысе зажывала.

«Не пашанцавала мне,— думаў Кузьма,— так не пашанцавала». Антон у горадзе, таксама хворы. Хоць бы слоўцам з ім перакінуцца... Ён папрасіў Івана Юшкова, каб той схадзіў у бальніцу, праведаў Антона. Збіралася пайсці, занесці што-небудзь з прадуктаў Праскоўя, але Юшкоў, схадзіўшы ў бальніцу другі раз, сказаў, што Антона там ужо няма.

— Дзе ж ён? — спытаўся Кузьма і адчуў, як затахкала сэрца. У горадзе тыфус, людзі паміраюць за адну ноч.

— Не бойся,— супакоіў яго Юшкоў.— Жывы твой брат. Уцёк некуды з бальніцы. А вось да цябе не зазірнуў, хоць я і прасіў яго.

Юшкоў спахмурнеў, звузіў чорныя вочы.

— Не крыўдуй на мяне, Кузьма, але я думаю так: не ў цябе ён удаўся, душа ў яго драбнаватая. З буржуямі, нябось, на з'ездзе цалаваўся, а да брата роднага і на парог не ступіў...

«Што ж з Антонам?» — думаў Кузьма.

Яму не хацелася верыць, што брат наўмысна не прыйшоў да яго. Нешта здарылася. Нешта затрымала Антона. Але што?

Кузьма глядзеў у столь, уздыхаў, і плячо пачынала балець мацней.

Неяк пад вечар у барак зайшоў Рылюк. Прынёс Сяргейку чорны касцяны свісток з гарошынкай усярэдзіне, Кузьму — кулёк яблыкаў. Праскоўя якраз была на рабоце, і Кузьма, моршчачыся, паспрабаваў узняцца, каб падаць госцю табурэтку.

— Ляжы, ляжы,— усміхнуўся Рылюк.

Ён сеў каля ложка, зняў шапку, на якой блішчалі сняжынкі, спытаўся:

— Калі пад ружжо станеш?

— Я хоць сёння гатоў,— таксама паспрабаваў усміхнуцца Кузьма.— Ды плячо маё нешта забаставала.

— На гэтым плячы ты яшчэ будзеш бярвенні цягаць,— сказаў Рылюк.

І тады Кузьма расказаў яму пра Антона. Пра ўсё

расказаў: і як гулялі, і біліся, і кароў пасвілі ў лузе. І пра тое, як нечакана сустрэў ён Антона на Беларускім з'ездзе. І як Антон не зайшоў да яго з бальніцы.

— Як вы думаеце, Міхаіл Андрэевіч,— хвалюючыся, спытаўся Кузьма,— можа такое быць, каб сыны аднаго бацькі, сыны мужыка-гарапашніка, ворагамі зрабіліся?

Ён глядзеў на Рылюка так, нібы ад яго адказу залежала далейшае Кузьмова жыццё.

— Ну навошта ж адразу — ворагі? — уважліва выслухаўшы, узняўся, пачаў хадзіць па пакоі Рылюк.— Можа, з Антонам нешта здарылася, можа, ён не знайшоў цябе і ў вёску падаўся. Горад жа для яго навіна — ён у ім, як іголка ў стозе сена. Ды ты і сам успомні, як упершыню ў горад прыехаў. Здаецца, усе наўкола шалёныя. Крычаць, бягуць, а куды бягуць — папытайся ў іх?

Ён змоўк, пагладзіў па галаве Сяргейку, што сядзеў на ложку са свістком у руцэ. Потым зноў загаварыў:

— А можа, і сапраўды, збіўся хлопец з дарогі. Нядобрыя людзі не ў той бок павялі. Дык што — адразу на ім крыж ставіць? Я не вялікі філосаф, Кузьма. Не было, чэсна сказаць, мне калі вучыцца. Але сёе-тое чытаў, людзей разумных слухаў, зараз ночы над кнігамі сяджу — час даганяю. І вось што я думаю. Чалавек, у душы сваёй, складаецца як бы з дзвюх палавін. У адной — мітусня жыцейская, клопаты, зайздрасць, нават жорсткасць. А ў другой — мудрасць, роздум і розум, чалавечнасць. Я так мяркую: нам, бальшавікам, трэба бачыць і цаніць у чалавеку перш за ўсё гэту другую палавіну, палавіну, якой ён да сонца павернуты.

Ён сам, здавалася, здзівіўся свайму адкрыццю, колькі хвілін стаяў моўчкі. На вуліцы ішоў снег. Праз невялікае акенца лілося ў барак сіняватае халоднае святло. Прарэзліва свіснуў у свісток Сяргейка. Рылюк схамянуўся, прагнаў з твару задуменнасць.

— На Беларускім з'ездзе, кажаш, брат твой быў? — ціха сказаў ён, павярнуўшыся да Кузьмы.— Там ён мог усяго наслухацца, там для Саветаў чорнай фарбы не шкадавалі. А ў хлопца душа маладая, нявопытная — мог паверыць. Прыгожымі размовамі пра радзіму, пра матчыну зямлю ў каго хочаш слязу з сэрца можна выбіць. Нацыяналісты, вядома, таксама любяць Беларусь. Але як? І якую Беларусь? Яны любяць Беларусь фальваркаў і хутароў, цэркваў і касцёлаў. Беларусь учарашнюю. І я, як беларус, не магу згадзіцца, не магу дапусціць, каб мой народ у іхніх руках зрабіўся народам-марыянеткай, каб яны на ягонай спіне ехалі ў рай... Нацыянальнае трэба сёння спалучыць, зліць з сацыяльным, з рэвалюцыйным. Беларускі народ заслужыў лепшай долі, і ён сёння змагаецца за яе. Крыўдна, калі твой брат акажацца палітычным дальтонікам, не зможа разгледзець, пад які сцяг стаць — белы ці чырвоны. Але я думаю, Кузьма, што ўсё будзе добра.

Ён дастаў з-за пазухі газету, разгарнуў яе:

— Вось што гаворыць наш Саўнарком у сувязі з роспускам нацыяналістычнага з'езда. «...Гэта барацьба не супраць працоўнага народа

Беларусі, які адзін мае права рашаць пытанне аб нацыянальным самавызначэнні, і толькі сам народ можа правільна вырашыць яго ў інтарэсах працоўнага сялянства і рабочых. Гэта барацьба супраць рускай і беларускай буржуазіі, якія спрабуюць падмануць і заняволіць працоўныя масы ўсялякімі абыходнымі і прамымі шляхамі і спосабамі. Мы ўпэўнены, што беларускі народ з намі, таму што яго інтарэсы — гэта і нашы інтарэсы, яго ворагі — нашы ворагі».

— І яшчэ:

«...Народ сам разбярэцца, дзе яго ворагі, дзе яго сябры, і не дазволіць падмануць сябе.

...Няхай жыве свабодны беларускі працоўны сялянскі і рабочы народ!»

Кузьма ўважліва слухаў яго і думаў: які ўсё ж цяжкі і складаны час перажываюць людзі, якой павінна быць пільнай душа ў кожнага чалавека, каб не заблудзіць, каб не памыліцца.

Праз некалькі дзён прыйшоў у барак Юшкоў і яшчэ з парога сказаў:

— Танцуй, Кузьма. Адпускаем цябе на пабыўку дамоў. Аж на цэлых дзесяць дзён. Ты кроў за рэвалюцыю праліў, і рэвалюцыя пра цябе не забылася. Збірайся, і заўтра ж можаш ехаць.

— Праўда? — не паверыў Кузьма.

Яму чамусьці здалося, што Юшкоў жартуе.

— Калі я табе хлусіў? — пакрыўдзіўся Юшкоў.— Кажу, збірайся — значыць, збірайся. А можа, лепш у

караул пойдзем?

Адразу пачаліся зборы. Кузьма вельмі хацеў з'ездзіць у вёску з сям'ёй. Але Праскоўя адмовілася, сказала, што дужа многа работы на фабрыцы, і яе як члена камісіі рабочага кантролю не адпусцяць.

«Адпусцілі б,— падумаў Кузьма.— Папрасілася б, і адпусцілі б. Цяпер у начальстве нашы людзі ходзяць. Яны б зразумелі. Проста баішся ты, Праскоўя, паказвацца на вочы свякрусе і свёкру. Скажуць яшчэ, што затлуміла маладому хлопцу галаву, з дзіцем на шыі ў яго павісла. Але ўсё роўна ж трэба некалі да ладу ўсё даводзіць, з'ездзіць да сваёй новай радні. Ну што ж,— вырашыў ён,— хай гэты раз яшчэ не едзе, хай трохі асмялее, а Сяргейку я абавязкова з сабою вазьму».

Праскоўя з нос збілася — рыхтавала падарункі свёкру і свякрусе. Абабегала ўсе крамы, схадзіла на рынак. Вярнулася стомленая, задыханая, з пакункамі і клункамі. Села на крэсла, сказала:

— Народу там, як на пажары. І ўсе нешта прадаюць. Хто сала, хто боты. Нават казу бабка прадавала. Ёсць адзежа, ёсць грамафоны і гармонікі...

— Гармонікі? — раптам перапытаў Кузьма.— Слухай, Праскоўя, давай купім гармонік.

— Ды навошта ён нам? — здзівілася Праскоўя.— Які з цябе музыка? А Сяргейка яшчэ малы.

— Давай купім,— загарэўся Кузьма.— Юшкову Івану падарунак зробім. Чула б ты, як ён іграе. Сэрца, здаецца, з грудзей вымае ў чалавека. Свой гармонік ён у балоце кінуў, як арыштоўвалі нас. Сябра ён мне вялікі, з бяды не раз выручаў, і хачу я аддзячыць яму чым-небудзь...

Праскоўя паглядзела на Кузьму, хацела нешта сказаць, але ён зноў загаварыў:

— Ты не думай, што я яму, як камандзіру, хачу гэта зрабіць. Проста, як сябру, як чалавеку. Такім людзям усё б аддаў. А ён тут адзін, сям'я далёка, на Урале. Ну і сумуе Іван, хоць ніхто не бачыць суму ягонага. А грошы ў нас яшчэ будуць.

— Ды хіба мне грошай шкада? — усміхнулася Праскоўя.

Яка падышла, абняла Кузьму.

— Залатое ў цябе сэрца...

Перад калядамі Кузьма разам з Сяргейкам рушылі з дому. На вакзал іх праводзілі Праскоўя, Юшкоў і Васька Шворан. Перад тым як выйсці з барака, Кузьма вынес з-за шырмы гармонік, урачыста аддаў у рукі Юшкову:

— На, Іван Еўдакімавіч... Іграй.

— Што гэта? — Юшкоў аж зрабіў некалькі крокаў назад.

— Гармонік,— весела ўсміхнулася Праскоўя.— Брат мой на ім іграў. А цяпер ужо не тыя гады, не іграе. Бярыце, Іван Еўдакімавіч. Гэта вам ад нас з Кузьмой і Сяргейкам падарунак.

Юшкоў глядзеў то на яе, то на Кузьму, разгублена моршчыў лоб. Відаць было, што гармонік вельмі яму падабаецца, што яму не церпіцца на ім сыграць, як дзіцяці пагуляць з новай цацкай. Але ён усё марудзіў, пальцы керухомелі ка чорных і белых гузіках ладоў.

— Не магу я ўзяць,— нарэшце сказаў ён.— Ніякага брата ў цябе, Праскоўя, няма. У капейчыну вялікую вам усё гэта ўляцела...

— Кажу, што братаў гармонік, а вы не верыце,— зачырванелася Праскоўя.— Брат у мяне кандуктарам на чыгунцы. Аж у Маскву ездзіць. Бярыце...

Юшкоў нахмурыў бровы, страсянуў чорным чубам, зайграў «Трансвааль».

На вакзале Праскоўя пацалавала Сяргейку, Кузьму, сказала, гледзячы ўдалячынь, дзе ў суцэльную бліскучую лінію зліваліся рэйкі:

— Дай вам бог усяго добрага. Хутчэй вяртайцеся.

І Кузьма зразумеў: яна так хвалявалася, так хацела, каб сын яе спадабаўся свякрусе і свёкру. Палюбяць яго — палюбяць некалі і нявестку.

Юшкоў моцна паціснуў Кузьму руку:

— Лячыся, Радзімовіч. У вёсцы, яно вядома, без работы не сядзяць. Ды і сам ты такі, што не ўседзіш. Але выбірай што-небудзь лягчэйшае — бярвенне і каменні не цягай...

Васька Шворак стаяў трохі збоку, слухаў, што гавораць дарослыя. Цёмныя пукі цвёрдых, даўно не стрыжаных валасоў вылазілі ў яго з-пад шапкі.

— Я як вярнуся, завяду цябе да нашага ротнага цырульніка Федарэнкі,— паабяцаў яму Кузьма.

Васька калупаў наском чаравіка снег, сказаў:

— Табе, дзядзька, мастак Іван Іванавіч Лебедзь прывітанне перадаваў.

— І яму перадай ад мяне. Добра? Намаляваў ён ужо цябе?

— Тулава намаляваў, а галава нешта не атрымліваецца,— сур'ёзным голасам сказаў Васька і зноў глянуў на Кузьму. І ў цёмных, не дзіцячых вачах было чаканне. Кузьма, адчуўшы гарачыню ў сэрцы, здагадаўся: Васька, як і кожны хлапчук на яго месцы, цярпліва чакаў, што яму паабяцаюць прывезці нейкі падарунак. Ён, хоць даўно ўжо не было на свеце ні ягоных бацькоў, ні сясцёр і братоў, усё-такі верыў, што нехта і для яго прывязе што-небудзь.

— Што ж прывезці табе? — уздрыгнуў Кузьмоў голас.

Васька раптам зачырванеў, сказаў ціха:

— Прывязі мне, дзядзька, морквы. Мы кніжку чыталі, дык там зайцы моркву ядуць. Салодкая яна.

Чмыхнуў белай гарачай парай цягнік, нясмела заляскаталі колы. Прыпаўшы да акна, Кузьма з Сяргейкам глядзелі на перон, дзе ўсё аддаляліся, усё драбнелі фігуры людзей. Выціраючы слёзы, махала рукой Праскоўя. Юшкоў бадзёра ўсміхаўся, іграў на гармоніку нешта вясёлае. Ляпіў снежку, глядзеў услед цягніку Васька Шворан, дванаццацігадовы чалавек, які бачыў вайну, дзве рэвалюцыі, які ўмеў курыць і зарабляць сабе на хлеб, але яшчэ ні разу ў жыцці не паеў уволю морквы.

У вагоне, брудным і дрогкім, было многа народу. Ехалі вясковыя дзядзькі і цёткі з мяхамі і клункамі, ехалі салдаты, згаладалыя ціхія інтэлігенты ў пакамечаных капелюшах, сям'я цыганоў са шматлікімі крыклівымі дзецьмі. Гарбаносы карычнятвары цыган з вялікай бліскучай завушніцай у левым вуху рэзаў доўгім нажом сала і еў гэта сала проста з нажа.

— Татка, а ён не адрэжа сабе язык?— спалохана зашаптаў Сяргейка.

Нарэшце хлопчык заснуў, уткнуўшыся тварам у плячо Кузьмы. А Кузьма сядзеў каля акна, не адрываючыся глядзеў на вечаровыя лясы і палі, што пралягалі абапал чыгункі. Чырвонае марознае сонца ўжо схавалася за небасхілам. Там, дзе яно села, трапяталася шырокае залаціста-жоўтае полымя. У вагоне пацямнела. Прыйшоў праваднік, у ліхтары, што вісеў пад карычневай столлю вагона, запаліў свечку.

«Заўтра, недзе перад абедам, я буду дома,— думаў Кузьма.— Убачу ўсіх сваіх, вёску ўбачу. Год не быў дома, а здаецца, ужо сто гадоў праляцела. Хутчэй бы даехаць, хутчэй бы ўбачыць усё сваімі вачыма...»

Ён сядзеў на ніжняй лаўцы. Сяргейкава галава ляжала ў яго на каленях і мякка білася аб калені, калі вагон гайдала ў бакі. Цягнік поўз, як чарапаха, часам спыняўся. Здавалася, што ён баіцца начной цемры.

«Хутка я буду дома,— засынаючы, зноў думаў Кузьма.— Нават калі перавернецца зараз зямля, я ўсё роўна буду дома. Нішто мяне ўжо не спыніць...»

У Асіповічы прыехалі гадзіны ў тры ночы. Пасядзелі, падрамалі ў халодным вакзале, а раніцой рушылі па лясной дарозе на Чмялі. Кузьма спадзяваўся, што надарацца якія-небудзь спадарожныя сані ў той бок і можна будзе пад'ехаць. Але ў такі холад, у такі няпэўны час людзі сядзелі дома, і трэба было ісці пешшу. Вярсты дзве Сяргейка бадзёра крочыў па дарозе, ды ўсё-такі стаміўся, падбіў ногі, і Кузьма пасадзіў яго сабе на плечы.

Дарога ўсё больш святлела, выплывала з туманнага мроку. Дрэвы наўкола яе стаялі яшчэ сонныя, ціхія, але вось-вось павінен быў прыляцець свежы ранішні ветрык і абудзіць іх.

— Татка, ты тут заўсёды жыў? — спытаўся Сяргейка.

— Заўсёды. Аж пакуль у салдаты не забралі.

— Значыць, ты не ў горадзе нарадзіўся?

— У вёсцы нарадзіўся я, Сяргей. У Чмялях.

— А як жа ты тады мамку нашу знайшоў?

Разы са тры адпачывалі. Садзіліся на пянькі, на якіх мяккімі белымі падушкамі зіхцеў снег. Сяргейка ўпершыню быў у лесе, і кожнае дрэва, кожная галінка, кожны гук адразу ж запальвалі агеньчыкі ў яго сініх цікаўных вачах. Калі ўжо ўсплыло над лесам сонца, непадалёку ад дарогі яны пачулі частыя глухія ўдары.

— Што гэта? — увесь устрапянуўся Сяргейка.

— Зараз пабачыш,— усміхнуўся Кузьма.

Яны збочылі з дарогі, прайшлі па снезе крокаў дзесяць і выйшлі на невялікую паляну. Пасярод паляны дажывала век высокая гарбатая сухастоіна. Сяргейка ўзняў галаву і там, дзе пачыналіся ніжнія галіны, убачыў вялікую стракатую птушку. Спіна і галава ў яе былі чорныя, патыліцу перасякала вузкая чырвоная паласа. Моцным вёрткім хвастом птушка ўпіралася ў ствол дрэва, а дзюбай барабаніла па кары. Стукне некалькі разоў запар, потым адверне ўбок галаву, як бы прыслухоўваецца, і зноў пачынае біць дзюбай, нібы малаточкам. Птушка так захапілася, што нават не заўважала людзей.

— Хто гэта? — ціха, каб не спудзіць птушку, спытаўся хлопчык.

— Дзяцел. Лясны доктар...— таксама ціха адказаў Кузьма.

Калі зноў ішлі па дарозе, ён гаварыў:

— У нас тут, Сяргей, прыволле. Усякі звер ёсць. Ваўкі, дзікі, куніцы... Ласі бегаюць, як каровы. Ды што я кажу — ты ж яшчэ і карову жывую не бачыў.

Ранішні лес падараваў ім яшчэ адзін цуд — крыху ў баку ад дарогі, у зацішнай ямцы паміж карэнняў дзвюх старых вольхаў, яны ўбачылі зайца. Яны ледзь не наступілі на яго. Заяц ляжаў і спаў, соладка, мірна, як дзіця. Быў ён увесь снежна-белы, толькі кончыкі вушэй чорныя, нібы чым запэцканыя. Пукатыя яго вочы былі адкрытыя. Кузьма з Сяргейкам стаялі знямелыя і не дыхалі. Некалькі шчаслівых імгненняў працягвалася гэта. Потым зайца нібы хтосьці падкінуў угору. Ён перавярнуўся ў паветры, жалобна ўскрыкнуў — таксама, як дзіця,— і знік. Толькі ўзвілося воблачка снежнага пылу ды захісталася, захадзіла ў бакі галінка вольхі. І ўсё. Быццам не было зайца.

Яны пайшлі далей, усхваляваныя, шчаслівыя. Прырода падзялілася з імі, дарослым і малым, невялічкай сваёй таямніцай. Кузьма ішоў і адчуваў, як радасна звініць душа, быццам не зайца ён убачыў, быццам прамільгнуў перад ім чысты бессмяротны дух гэтага лесу, гэтай светлай раніцы.

Ужо сонца пачало схіляцца на вечар, як лес нарэшце расступіўся, і паказалася вёска. Запахла дымам. Данёсся адчайны і звонкі сабачы брэх. Кузьма аслабела сеў на снег, зняў з мокрай галавы папаху. Апошнія вярсты дзеє ён зноў нёс Сяргейку на плячах і вельмі стаміўся.

Ён не пайшоў адразу ў вёску, а звярнуў на могілкі. Яны былі засыпаны тоўстым пластом сінявата-белага снегу. Ручнікі на крыжах не варушыліся, скамянелі ад маразоў. Ніводнага чалавечага следу не было нідзе, толькі птушыныя сляды. Кузьма глядзеў на кволыя ланцужкі гэтых слядоў, і яму чамусьці здавалася, што гэта душы мёртвых людзей прымаюць тут, сярод снежнай пустэчы, воблік птушак, каб лётаць і хадзіць адна да другой у адведкі — з магілы да

магілы. Нарэшце ён знайшоў месца, дзе ляжаў дзед. На попельна-шэрым палявым валуне было высечана: «ЗПРБ Радимович Игнатий Петров 1840-1917».

Літары былі няроўныя, крывыя, быццам іх высякала п'яная рука.

Хвалюючыся, сціскаючы ў сваёй руцэ Сяргейкаву руку, ступіў Кузьма на заснежаную вуліцу сваёй вёскі. Яна не змянілася. Усё было такое ж: хаты, стрэхі, старыя ліпы, сляды кароў і коней. Ён змяніўся болей, куды болей, чым яна, і ад гэтага ў сэрцы быў лёгкі сум, нейкая віна, нейкая трывога.

Але вось і змены. На нізкай, трошкі скрыўленай хаце, проста на вільчыку трапечацца самаробны чырвоны сцяг. Дрэўка сцяга выразана з арэхавага кійка. Такімі ж кійкамі аплецены гародчык каля хаты.

— Чыя гэта хата? — пачаў успамінаць Кузьма.— Здаецца, Сямён-артылерыст тут жыве...

Ён зайшоў на свой двор, стаў, супакойваючы сэрца. Хата была незамкнёная, значыць, нехта дома. Пад паветкай ляжала куча пасечаных бярозавых дроў, у калодзе тырчала сякера. Ён абвёў позіркам двор і ўбачыў, што няма стопкі. На яе месца снег замятаў чорную лапіну, валяліся свежыя бярвенні.

«Пажар быў у нас»,— падумаў ён, уздрыгнуў і пайшоў у хату.

У хаце быў бацька, сядзеў на нізкім зэдліку каля акна, шыў хамут.

Бацька так і застыў: у правай руцэ — шыла, у зубах — дратва. Бацька ўсхапіўся, яны пацалаваліся, і стары ўсхліпнуў.

— Ну і герой ты, Кузьма,— казаў ён, выціраючы шырокай карычневай далонню вочы.— Так падрос, так паздаравеў. Увесь вылітьı дзед Ігнат-нябожчык.

У чырвоным войску служыш?

— У чырвоным,— адказаў Кузьма.— А дзе мама? Дзе Дзіна з Антонам?

— Маці з Дзінай пайшлі да Перуноўскіх. А Антон недзе ж у Мінску. На з'езд як паехаў, дык усё і няма.

— Дык ён яшчэ ў Мінску? — Кузьма спыніўся пасярод хаты. Значыць, Антона няма дома. Уцёк з бальніцы, не зайшоў да яго, Кузьмы, і недзе прапаў. Дзе ж ён? Ці не здарылася з ім што-небудзь?

Прахор тым часам шпурнуў пад ложак хамут, пачаў бразгаць каля стала чаркамі і толькі зараз убачыў Сяргейку, які сядзеў на ўслоне каля печы.

— А чый гэта хлопчык? — спытаўся ён у Кузьмы.

— Мой сын,— адказаў Кузьма і, разблытаўшы зледзянелыя завязкі, зняў у Сяргейкі з галавы шапку.

Прахор недаверліва глянуў на Кузьму, потым паглядзеў на Сяргейку, разгублена ўсміхнуўся:

— Дык нешта ж дужа вялікі. І на цябе не падобны. Не нашай, радзімовічаўскай, масці.

— Ён на майго суседа падобны,— пажартаваў Кузьма.

Тым часам — відно, нехта паспеў сказаць — у хату ўляцелі маці з Дзінай са слязамі, з радасным плачам. Маці абшчапіла Кузьмову шыю рукамі, цалавала яго, прыгаворвала:

— А мой ты сынок... А мой ты саколік... Вярнуўся... Дзіна таксама плакала. Гэтыя чыстыя добрыя слёзы самых родных на свеце людзей так расчулілі, так ускаланулі Кузьму, што ён прыкусіў губу, каб самому не заплакаць.

— Схуднеў, сынок,— казала маці, гледзячы яму ў твар светлымі стомленымі вачамі, у якіх успыхвалі слёзы. Здавалася, яна зараз гатова, як калісь малога, узяць Кузьму на рукі, насіць па хаце, спяваць яму пяшчотна, сумныя, забытыя — не, ніколі іх не забудзеш! — празрыстыя, як раса, песні.

Селі за стол. Кузьма ўжо сказаў, што ён ажаніўся з жанчынай-удавою, што яны жывуць у дружбе і згодзе і што вось гэты хлопчык — ягоны сын, Сяргейка. Дзіна адразу ўзяла Сяргейку на рукі, пачала шаптаць яму нешта на вуха. Сяргейка спачатку дзічыўся, глядзеў наўкола спалоханымі вачамі, але вельмі хутка ажыў, павесялеў, засмяяўся.

— Можна было б, сынок, і дзяўчыну ўзяць,— уздыхнула маці.

— Мама, мая дзяўчына — Праскоўя. Ніхто нас не зводзіў, самі сышліся і жыць будзем не горш, чым людзі,— сказаў Кузьма.

Ён ужо выпіў, лёгкі хмель ударыў у галаву, расцякаўся па целе. Засталася ззаду доўгая цяжкая дарога. Ён быў у роднай хаце, сядзеў за такім знаёмым, драўляным, таксама родным сталом і любіў усіх людзей, што сядзелі побач з ім, гаварылі з ім і глядзелі на яго. Ён зноў успомніў зайца, убачанага ў ранішнім лесе, і падумаў, што гэта добрая прыкмета, што ўсё будзе добра і сёння, і заўтра, і заўсёды.

— А Антон недзе, як валачобнік, сярод чужых людзей ходзіць,— усхліпнула маці.

— Трэба было не ехаць,— раздражнёна сказаў бацька.— Гаварыў я яму, прасіў: не едзь. Не паслухаў. Дзеці цяпер разумнейшыя за бацькоў.

Кузьма здагадаўся, што, сказаўшы гэтыя словы, бацька меў на ўвазе і яго, Кузьму. Адразу стала відаць, што Прахору не спадабаўся сынаў выбар.

Падумаць толькі: узяў удаву з дзіцем! Бацька шмат піў, усё болей цямнеў з твару, сказаў:

— Добрая ў Людвіка Перуноўскага дзеўка... Франя... І зробіць усё, і ў хаце прыбярэ... Іду па вуліцы, а яна мне: «Дзядзька, дзе ваш Кузьма служыць?» І сам Людвік гаварыў неяк: «Файны хлопец твой Кузьма...»

— Позна ўжо гаварыць пра гэта,— нахмурыўся Кузьма.— Нічога ўжо не перайначыш...

Але бацька не спыняўся, глянуў на яго з зацятасцю, нават злосцю:

— Не думаў я, што чужая птушка сядзе на мае вароты...

— Годзе пра гэта...— устаў з-за стала Кузьма.— Не будзем сварыцца, тата... Скажыце лепей, што ў вёсцы новага...

Дзіна ўзрадавалася — можа, мужчыны забудуцца пра спрэчку,— хуценька загаварыла:

— У нас тут, Кузьма, свой рэўком, свая Савецкая ўлада... Андрэй Бацюта за галоўнага. Ты яго не ведаеш. Ён з Бабруйска прыехаў, як цябе ўжо служыць забралі. З ім у рэўкоме Яўхім Сцепанюга, Рыгор Крыванос. І ведаеш, хто яшчэ? Мішка Сырамалот.

— Мішка? — здзівіўся Кузьма.— У яго ж вецер у галаве гуляў...

— Сырамалот гэты — сур'ёзны чалавек,— панавата ікнуў бацька — і тут усё-такі не прамінуў укалоць Кузьму.

У сенцах раптам затупалі, загаманілі. Дзверы шырока расчыніліся, і ў хату разам з белай марознай парай уваліласяшумная вясёлая гурба людзей. Але што гэта былі за людзі! Твары ва ўсіх запэцканыя сажай, толькі зубы блішчаць; на плячах кажухі, вывернутыя воўнай уверх. Людзі трасуць доўгімі казлінымі барадамі з пакулля і жоўтага моху, хвастамі, зробленымі з пяньковых вяровак. У руках у людзей бубны, металічныя міскі з лыжкамі. Звон, гром, аж вушам балюча! Кузьма спачатку разгубіўся, але ўспомніў: каляды! Ён і сам калісьці калядаваў, хадзіў па хатах, начапіўшы на шапку доўгія казліныя рогі, якія дзед Ігнат прынёс з Запольцаў. Ён успомніў гэта, і адразу ў хаце быццам запахла снегам, марозлівым ветрам, што крамяніў тады яму шчокі.

Каляднікі ўдарылі ў бубны і міскі, закружыліся па хаце, заспявалі:

— Чалом, чалом,
Князе-гаспадару.
Ваша гаспадыня
Сядзіць, як княгіня.
Вашыя дзеткі —
Вясновыя кветкі...

Прахор, «князь», п'яна заўсміхаўся, выставіў уперад рукі, свецячы лысінай, пачаў кружыцца па хаце разам з усімі.

— Здзяцінеў чалавек,— весела сказала Аўдоля, але ні кропелькі злосці не было ў яе голасе. Яе шчокі паружавелі, вочы заіскрыліся; такой маладою была яна зараз, такой шчаслівае. Кузьма глядзеў на маці і на бацьку і нібы ўпершыню здагадаўся, зразумеў, што яны таксама калісьці былі маладымі, такімі, як зараз ён, хадзілі на вечарынкі, танцавалі «сербіянку» і «лысага», кахалі, жартавалі, уздыхалі, гледзячы на блакітныя летнія зоркі. А калядная песня, шырокая і хмельная, білася пад столлю:

— Чалом, чалом,
Князе-гаспадару,
З добрае ласкі
Дайце каўбаскі,
Хлеба і сала,
Каб жыта красавала.

Ад гэтай песні дабрэла душа, і чалавек, сапраўды, на нейкае імгненне быццам рабіўся князем, багатым і шчодрым. Маці паклала каляднікам у мех бохан хлеба, вянок цыбулі. Бацька пацягнуў іх да стала, пачаў наліваць у чаркі гарэлку. Толькі цяпер, добра прыгледзеўшыся, Кузьма пачаў пазнаваць хлопцаў і дзяўчат, хоць твары ў іх былі чорныя, як у неграў. Вось гэта старэйшы Сцепанюгаў сын Мікіта, гэта Паўлік Крыванос, такі ж кучаравы і вузкатвары, як бацька, гэта, здаецца, Цімох Макароў. А гэта... У яго на імгненне перацяла дыханне, сэрца забілася часта і гулка. Гэта была Франя Перуноўская. Пад носам намаляваны вуглем доўгія вусы, барода з сівой кудзелі збілася набок, і з-пад яе відаць пяшчотная белая скура. На цёмнарусых шыракаватых бровах у Франі ззялі кропелькі вады — гэта сняжынкі расталі ў цёплай хаце.

— Калядуеш, Франя? — спытаўся Кузьма і ўспомніў хустку, якую сарваў у яе з галавы і схаваў пад крокву ў хляве.

Яна зірнула на Кузьму, потым на Сяргейку, што выторкваў галаву з-за коміна печы, потым зноў на Кузьму. Здагадалася пра ўсё. Нічога не сказала. Толькі ў глыбіні вачэй нешта ўздрыгнула, быццам у спакойную роўнядзь ракі шпурнулі камень. Горача і тлумна было ў хаце. А між імі, між ім і ёй, адчуваў Кузьма, быў холад, як зімовае начное поле. Што ён мог сказаць? Што пакахаў другую, што ўжо займеў сям'ю?

Каляднікі шумелі, рагаталі, зноў спрабавалі спяваць. І тады Франя наліла дзве чаркі гарэлкі, адну падала Кузьму:

— Вып'ем, Кузьма... За каханне і за разлуку нашу...

Перад сном маці з Дзінай нагрэлі вады, мачылі ў ёй вялікую белую хустку, што дасталі з куфэрка, прыкладалі яе да параненага Кузь-

мовага плечука. У Кузьмы кружылася ў галаве ад гэтых пяшчотных і ў той жа час балючых дотыкаў, ад удзячнасці і расчуленасці, ад выпітай гарэлкі і ад ціхіх Франіных слоў, якія яшчэ гучалі ў вушах. Маці, як убачыла рану, заплакала:

— Хто ж гэта цябе так знявечыў? Каб у яго на руках трава парасла...

— Той чалавек ужо не жыве, мама,— сказаў Кузьма.

Дзіна глядзела на яго з захапленнем. Прахор, ужо зусім п'яны, падышоў да сына, глянуў ка шырокі чырвоны шрам, задаволенаікнуў і накінуўся на жонку:

— Чаго выеш, дурная? Радзімовічы ніколі ад куляў не ўцякалі...

Назаўтра, паснедаўшы, Кузьма пайшоў да валаснай управы, дзе цяпер знаходзіўся чмялёўскі рэўком. Снег звонка рыпеў пад нагамі. Свяціла сонца, і ліпы ўздоўж вуліцы былі сярэбраныя. Яму прыемна было ісці вось так: у салдацкім шынялі і салдацкіх ботах, з чырвонай стужкай на папасе. Усе сустрэчныя здароўкаліся з ім, і ён здароўкаўся з усімі. Краем вуха ён пачуў, як у яго за спінай сівая глухаватая бабулька казала другой бабульцы, пэўна, яшчэ болей глухой:

— Гэта ж Прахора Ігнатавага сын. У бальшавікоў начальнік вялікі...

Ён усміхнуўся. Для гэтых бабулек кожны, хто абуты не ў лапці, начальнік.

На дзвярах рэўкома вісеў замок. Чырвоны сцяг, зацярушаны шэранем, павольна варушыўся ў светлым зімовым кебе. Здавалася, што сцягу холадна. Кузьма разгублена азірнуўся наўкола.

«У рэвалюцыі няма святаў»,— успомніліся яму словы, якія пачуў ці ад Юшкова, ці ад Рылюка. А тут, відаць па ўсім, было свята. «Няўжо калядуюць?» — падумаў Кузьма. Ён ужо хацеў ісці назад, як раптам з-за рога рэўкома выйшаў невялічкі ростам, чырванашчокі і светлавокі дзед. На ім быў доўгі, амаль па пяты, кажух, з-пад рудой пакамечанай шапкі выглядвала цёплая жаночая хустка, якой была абвязана галава. Дзед трымаў у руках шуфель,— пэўна, абграбаў снег вакол будынка.

— У раўкому ідзеш? — спытаўся дзед тоненькім, злёгку трэснутым голасам.

Кузьма кіўнуў галавой.

— Зачынена рэўкома,— бадзёра, як бы нават весела сказаў дзед.

Як ні прыгадваў Кузьма, хто гэты дзед, не мог успомніць. «Не наш нейкі»,— падумалася яму. Дзед, быццам адгадаўшы яго думкі, смаркануўся ў снег, усміхнуўся, і аказалася, што ў яго няма пярэдніх зубоў:

— Бегунком тут мяне ўсе людзі клічуць. Бежанец я. Ад германца, ад кайзера рагатага з-пад самай Гродні ратуюся. Жонку згубіў, ботаў дзве пары стаптаў і вось аж сюды прыбег. Пры рэўкоме вартаўніком састаю. А закурыць у цябе тытуньку салдацкага не знойдзецца? Салодкі ў вас, у салдатаў, тытунёк. Я, як адступаў, шмат яго спаліў — усё салдаты частавалі.

— Я не куру,— сказаў Кузьма.

— Ты, відно, са сталавераў,— адразу спахмурнеў дзед.— З гэтых самых барадатых. Яны і не кураць, і не п'юць, і на кабет плююцца.

— Я чмялёўскі,— усміхнуўся Кузьма.— А дзе ж ваша начальства?

— Уся рэўкома ў маёнтак пайшла. Там нешта рабіць думаюць. А ты можаш да Бацюты Андрэя забегчы, яго самога пабачыць. Ён на краі вёскі жыве, каля бярозы дуплаватай.

Дзед па-вайсковаму ўскінуў шуфель на плячо, уздыхнуў, пэўна, шкадуючы, што размова так хутка скончылася. Калі Кузьма ўжо ладнавата адышоўся ад рэўкома, дзед крыкнуў яму наўздагон:

— Каля бярозы дуплаватай Бацюта жыве. А як будзе ў яго якое сумненне наконт цябе, скажы, што ты чалавек праверані, наш. Скажы, што з табой дзед Бегунок гаварыў. Гэта я, значыць...

Кузьма ішоў па вуліцы і ўсміхаўся сам сабе, успамінаючы дзіўнага гаваркога дзеда. Каля крайняй хаты спыніўся. Вось і бяроза з вялікім дуплом, што чарнее на ўзроўні чалавечага росту. Калісьці ён хаваў тут сопкія яблыкі, якія разам з Антонам нарваў ноччу ў садзе ў Кандрата Гаранка. У крайняй хаце, як ён прыпамінае, жыве Тэкля Гарбунова, салдатка. Значыць, гэты Бацюта альбо кватаруе ў яе, альбо жыве ў прымах. Кузьма асцярожна адчыніў лёгкія рыпучыя веснічкі, зайшоў на двор. Пад паветкай, спінай да вуліцы, моцны плячысты мужчына сек дровы. Быў ён у адной гімнасцёрцы. Валасы мужчыны, кароткія, цёмна-каштанавыя, зліпліся на галаве густою шапкай. «Бацюта»,— здагадаўся Кузьма. Бацюта браў бярозавы чурбан, ставіў яго на «папа», прымерваўся і, шырока размахнуўшыся, з дзвюх рук біў цяжкай сякерай. Чурбан адразу развальваўся. Дрэва ўсярэдзіне, там, дзе рассякала яго жалеза, было асляпляльна белае, чыстае. «Прыгожа сячэ»,— падумаў Кузьма, і яму самому, хоць яшчэ балела плячо, захацелася скінуць шынель, узяць у рукі сякеру.

Бацюта пачуў ягоныя крокі, азірнуўся. На жоўтых вусах ззялі кропелькі поту.

— Добры дзень,— павітаўся Кузьма.— Я да вас.. Я чырвонагвардзеец з Мінска. Радзімовіч Кузьма. Прыехаў дадому на лячэнне...

Ён змоўк, не ведаў, што яшчэ сказаць. Бацюта моцна пацiснуў яму руку, падставіў бярозавы чурбан:

— Сядай, таварыш Радзімовіч.

Сам сеў насупраць Кузьмы, змахваючы з ляза сякеры кавалачкі дрэва.

— Вельмі добра, што не забыўся пра нашы Чмялі,— усміхнуўся ён, а потым спытаўся: — Антон Радзімовіч твой брат?

— Брат,— адказаў Кузьма.

— Вельмі ён нас падвёў,— нахмурыўся, пачаў грызці вус Бацюта.— Абяцаў, што не паедзе на Беларускі з'езд — ніхто ж яго туды не пасылаў,— а паехаў. Можна сказаць, зняважыў увесь наш рэўком.

Бацюту стала холадна. Ён узняўся, апрануў ватоўку, што вісела на крэглях. Дастаў з кішэні металічны грабянец і пачаў прычэсваць валасы. Рабіў ён усё спакойна, не спяшаючыся. Здавалася, усё тое, што ён робіць, прыносіць яму асалоду.

— Зялёны яшчэ мой брат, малады,— сказаў Кузьма, таксама ўзняўшыся з чурбанчыка.— Галаву яму нехта затлуміў. Але ён не можа быць нашым ворагам. Я яго добра ведаю.

— Іншы раз не вораг болей зла наробіць,— пачаў складваць пасечаныя дровы Бацюта і раптам спытаўся: — А колькі ж табе гадоў?

— Мне? Дваццаць адзін. Ужо дваццаць другі пайшоў.

Бацюта глянуў на Кузьму, усміхнуўся нейкім сваім патаемным думкам. Кузьма ўспыхнуў, сказаў, суха кашляючы:

— Я ўжо сямейны. Жонку маю і дзіця...

Яму падалося, што Бацюта пасміхаецца з ягонага маладога ўзросту.

— Ды ты нічога не думай,— здагадаўся Бацюта.— Каму ж за новае жыццё біцца, як не маладым? Я, як дваццаць два мне стукнула, першы раз у ссылку пайшоў. І сям'і не меў. І цяпер дзіцяці не маю...

Ён уздыхнуў, і Кузьму зрабілася няёмка.

— Заві мяне проста Андрэем,— сказаў Бацюта.— Мяне ўсе тут так завуць. Імя маё па бацьку цяжка выгаворваць. Арыстафанавіч я. Трэба ж было такое імя некаму прыдумаць. Ясна хто: поп прыдумаў.— Бацюта засмяяўся, паклаў Кузьму на плячо руку: — Надоўга ты да нас?

— На дзесяць сутак.

— Ладнавата. Возьмешся нашых хлопцаў ваеннай справе вучыць?

Кузьма разгубіўся:

— Які з мяне вучыцель? Сам увесь час ніжнім чынам быў.

— Затое порах нюхаў.— Бацюта глядзеў на яго ўжо сур'ёзна і строга.— Ты для нашых Чмялёў як Кутузаў. Тут ёсць у нас казак адзін. Гаршкоў Сцяпан, але жонку яго забілі, дык прыхварэў ён. Возьмешся?

Як ні адгаворваўся Кузьма, як ні прасіўся, але вымушаны быў згадзіцца. Цяжка было адмовіць такому чалавеку. Узрадаваны Бацюта адразу павёў яго ў маёнтак. Па дарозе размахваў рукамі, узбуджана гаварыў:

— Проста так паны нашы не аддадуць уладу, рай свой зямны. Будзе яшчэ завaруха. У нас у лесе банды закрыліся. Дваіх нашых гады паклалі. І легіянеры польскія рабуюць у вёсках. Доўбар, генерал іхні, пра нейтралітэт крычыць, а сам рукі грэе на бядзе народнай. А як у вас, у Мінску?

— У нас, як і ў вас,— паслізнуўся, схапіўся за Бацютаў рукаў Кузьма.— Страляюць контрыш. І мне ў плячо пеканулі...

Ён заўважыў, як спачувальна ўспыхнулі Бацютавы вочы, як асцярожна дакрануўся Бацюта да ягонай рукі, нібы пагладзіў яе. І гэта ўзрадавала яго. Ён адчуў, што Бацюта думае пра яго, як пра роўнага сабе, як пра таварыша.

— Полк наш, імя Мінскага Савета, на Гомель і на Бахмач пайшоў,— гаварыў далей Кузьма.— Супраць Украінскай рады біцца хлопцы будуць, супраць Пятлюры і яго гайдамакаў. А нашу роту пакуль што ў Мінску пакінулі.

— Справы і тут хопіць,— памаўчаўшы, сказаў Бацюта.

Над маёнткам палымнеў чырвоны сцяг. Апошні раз тут Кузьма быў гады чатыры назад. Разам з бацькам і аднавяскоўцамі скародзіў бульбу. Помніцца, загледзеўся тады, загаварыўся, і цяжкая жалезная барана, якую далі ў маёнтку, стукнула па назе, па вялікім пальцы. У вачах у Кузьмы пацямнела, ён сеў на зямлю і, абшчапіўшы нагу рукамі, заплакаў ад болю. Збегліся мужчыны. Бацька перапалохаўся, збялеў і пачаў прасіць у Гайкевіча, у аканома:

«Паночак, прывязі з маёнтка хлопцу вады доктарскай, зялёнай, пякучай. Палец змажам, а то шмат зямлі набілася ў кроў...»

«Ёду прывезці? — здзівіўся Гайкевіч. А потым зарагатаў: — Ён што ў цябе — паненка? Ці яго вучыць? Хай за куст захінецца і сваім ёдам рану прапалошча. Мужыцкі ёд таксама пякучы...»

Усё гэта ўспомнілася неяк міжвольна, неяк лёгка і спакойна, быццам адбывалася зусім з іншым чалавекам. Ён, і праўда, захінуўся тады за куст. І зноў пайшоў за бараною, кульгаючы, адчуваючы, як смыліць рана.

На двары маёнтка, каля новага флігеля, што сліпуча жаўцеў свежымі сасновымі бярвеннямі, працавалі людзі. У чатыры пілы пілавалі яны тоўстыя гарбатыя кругляк і. Маладзейшыя хлопцы заўзята грукалі сякерамі, аж трэскі ляцелі ва ўсе бакі.

— Калядуем,— усміхнуўся Бацюта.— Дровы нарыхтоўваем, сабе і ў Бабруйск. Мяне ж хлопцы ка гадзінку адпусцілі былі, каб для сваёй Тэклі дроў накалоў...

Тонка звінелі пілы. Белае пахучае пілавінне асядала, як іней, на ногі і на рукі.

— Андрэй! — весела гукнуў нехта да Бацюты. — Нас бацюшка Буракоўскі не пракляў яшчэ, што ў божае свята робім?

— Ён на куццю добра павячэраў і зараз расол п'е,— пасмяяўся Бацюта. Пасля дадаў: — Хлопцы, хто стаміўся, пакурыце. А я папілую. Хто са мной?

— Я,— падышоў да яго Кузьма.

— Ты ж паранены. Пастой, пакуры,— ужо ўскладаў Бацюта на крэплі доўгую бярэзіну.

— Нічога. У мяне правая рука здаровая...

Кузьма расшпіліў шынель, потым, падумаўшы, зусім скінуў яго, узяўся за драўляную, гладка адпаліраваную ручку пілы. Яна была цёплая, грэла далонь.

— Ну, трымайся, салдат,— хмыкнуў Бацюта і пацягнуў пілу на сябе.

Піла была вострая, добра разведзеная, мякка ўваходзіла ў дрэва. Пілавінне вылятала з-пад яе бліскучых доўгіх зубоў спачатку як бы неахвотна. Але вось піла захадзіла ваўсю, заспявала, затрымцела, і пілавінне пасыпалася на снег лёгкім пухам. Там, дзе метал сутыкаўся з дрэвам, хуценька пабегла ўніз тонкая чорная палоска-шчыліна. Наткнуўшыся на сук, яна не адступала і не абыходзіла яго, яна злёгку замаруджвала свой бег, і тады Кузьма адчуваў, як у руцэ, нібы жывая, напінаецца, нервова ўздрыгвае піла. Ён тады яшчэ мацней сціскаў ручку, аж яна апякала далонь. Усё цела напружвалася, цвярдзела, новыя сілы нараджаліся ў ім.

— Добра,— шырока выдыхнуў Бацюта.

І Кузьма зразумеў яго. Добра было вось так, усёй душой і целам, цалкам аддацца працы, добра было натольваць голад мускулаў.

— Ух! — здаволіўся нарэшце Бацюта, кінуў пілу, поўнымі прыгаршчамі схапіў з зямлі снегу, пачаў церці спатнелы чырвоны твар. Ад поту ў яго дымілася спіна. Кузьма аслабела сеў на прэглі, выпрастаў ногі. Горача білася па ўсім целе кроў.

— Ды ці не Кузьма гэта Радзімовіч? — здзіўлена ўскрыкнуў раптам нехта з хлопцаў, што сядзелі на бярвеннях трохі воддаль і курылі.

Не паспеў Кузьма апамятацца, як да яго падбеглі, акружылі, пачалі тармасіць.

— Сырамалот! Міхал! — строга крыкнуў Бацюта.— Чалавек паранены, а вы вунь што ўздумалі...

Хлопцы адразу ж адпусцілі Кузьму. Мішка Сырамалот падаў Кузьме папаху, сказаў:

— А я думаю, што гэта за салдат сядзіць... Чмялёўскага быццам бы пакрою, а від ужо не наш, гарадскі. А ж гэта ты!

Хлопцы пачалі пытацца:

— Ці многа германцаў забіў?

— А кормяць добра?

— Ці праўда, Кузьма, што да салдатаў, як яны ў лазні памыюцца, дзевак водзяць?

Кузьма абводзіў позіркам знаёмыя і ўжо трохі забытыя твары, адказваў на пытанні, на моцныя поціскі, адчуваў, як перапаўняе душу радасць. Як падраслі, пасталелі хлопцы! Вунь Мікіта Сцепанюга на цэлую галаву над усімі ўзвышаецца. А Мішка Сырамалот дык стаў драбнейшы, схуднеў, але такія ж гарачыя ў яго вочы, і вусы адгадаваў, толькі не цёмныя, не русыя, як валасы на галаве, а нейкія чырванаватыя.

Хлопцы насядалі на Кузьму:

— Праўда, што нямецкі штык не такі, як рускі? У немцаў — цясак...

— А з дзірыжабля на вас бомбы кідалі?

— Цішэй вы, пеўнікі! — спыніў іх Бацюта.— Пра дзевак яшчэ пагаворыце. Кузьма — чалавек сур'ёзны. Ваеннай справе вучыць вас будзе, рукапашнаму бою.

— Няўжо?! — узрадаваліся хлопцы.— Калі пачнём?

Падышлі і дарослыя мужчыны. Здароўкаліся з Кузьмой, таксама пачалі распытваць, але больш пра новую ўладу, пра бальшавікоў, пра гарадскія цэны і тавары.

— Нас таксама будзеш вучыць ваяваць,— сказаў Яўхім Сцепанюга.

Усе, асабліва маладзейшыя, зноў загаманілі, заспрачаліся, калі трэба займацца атраду — раніцай ці ўвечары, ці хопіць на ўсіх зброі, ці можна будзе страляць.

— Табе баба лепш за вінтоўку па вуху стрэліць,— скасавурыўся ратам на Яўхіма Сцепанюгу Людвік Перуноўскі. Той злосна засіпеў, пагрозліва развёў рукі:

— Ты ведаеш? Ты бачыў? Патрон ты халасты!

І раптам нехта крыкнуў:

— Глядзіце, хто сюды ідзе!

Усе сціхлі, азірнуліся і ўбачылі Лаўрэна Лапыцьку. Ён павольна ішоў да флігеля, трымаючы ў адной руцэ сякеру, у другой — кошык. Ён быў у новых лапцях, у чыстых белых анучах. Падышоў бліжэй, павітаўся з грамадой, павярнуўся да Бацюты:

— Якая ёсць, Андрэй, тутака работа?

Усе ўбачылі, як адразу пасвятлеў з твару Бацюта, абцягнуў на сабе ватоўку, паціснуў Лапыцьку руку і сказаў:

— Работа, Лаўрэн, няцяжкая. Дровы пілуем...

— То і я сякерай сваёй пастукаю...

Лаўрэн паставіў на зямлю кошык, пачаў прыцэльвацца вокам да чурбанчыкаў — які б узяць калоць. Знайшоў, спрытна махнуў сякерай.

«Ну і цуд,— дзівіліся кожны сам сабе чмялёўцы,— Лаўрэн прачнуўся...»

А ён, не зважаючы ні на кога, махаў з-за вуха, толькі трэскі ляцелі.

— Ты што, дзядзька, за кароўку адрабляеш? — спытаўся нарэшце Мішка Сырамалот.

Лаўрэн разагнуўся, глянуў на свайго кватаранта, нібы ўпершыню яго ўбачыў. І адказаў спакойна:

— За дабро, Міша, людзям плачу...

— А кошык навошта прынёс? — не здаваўся Мішка.

— Можа, трэсак трохі вазьму... У печы будзе чым падпаліць.

— Возьмеш, Лаўрэн, возьмеш,— загаманілі разам і Андрэй Бацюта, і Яўхім Сцепанюга.— Мы табе і дроў дадзім.

Бацюта весела падміргнуў Кузьму, зноў узяўся за пілу. Кузьма адчуваў, што Бацюта нечым дужа задаволены, і радасць ягоная перадаецца не толькі людзям, што працуюць наўкола, але і піле. Піла хадзіла хутка, роўна, лёгка.

Рабілі аж да змяркання. Напілавалі і насеклі гару дроў.

— Заўтра, хлопцы, складзём,— стомлена махнуў рукой Бацюта.— Сёння ўсё-такі каляды...

Ён часта і глыбока дыхаў, па звычцы, белымі шырокімі зубамі грыз вусы. Пакурылі, седзячы на халодных бярвеннях. Пачынаў шчыпаць лёгкі марозік. Над белай зямлёй вісела маўклівае чорнае неба. Раптам у небе, у недасяжнай і неабдымнай вышыні, успыхнула і пакацілася бледным залатым шарыкам зорка. Яркі вогненны шнур перасек амаль палову неба і знік, патух, быццам абарваны нечай дужай рукой. Цемра яшчэ больш пагусцела.

— Памёр нехта,— ціха сказаў Лаўрэн Лапыцька.

— Чаму памёр? — разводзячы ў бакі рукі, пацягнуўся Людвік Перуноўскі.— Проста ў божым садзе нехта залаты яблык збіў.

Усе засмяяліся.

— Ці не ты гэта богаву яблыню трос? — пакпіў Яўхім Сцепанюга, бо быў сёння злосны на Людвіка.

Той не паспеў адказаць, таму што Мішка Сырамалот раптам падскочыў з бервяна:

— Ну і нарабіліся мы сёння, хлопцы,— казаў Мішка, і твар ягоны бялеў, здавалася, свяціўся ў цемры.

— Ні на Незабітоўскага, ні на Гайкевіча ніколі я так не рабіў. А зараз яшчэ б рабіў. Весела рабіць у грамадзе. Хочацца рабіць. Так, Андрэй, і пры камуніі будзе?

— Так,— адказаў Бацюта.— Усё так. Але за чалавека машына рабіць будзе.

— Значыць, добрае дзела — камунія...

Мішка хвілінку памаўчаў, потым шпурнуў шапку сабе пад ногі.

— Мужыкі, Андрэй, давайце нашый Чмялі Чырвонай Камунай назавём. Будзе вёска Чырвоная Камуна. Арку зробім, на ёй шыльду залатую павесім. Хай усе бачаць!

Колькі хвілін стаяла цішыня. Было чутно, як у студні ля флігеля б'ецца аб лёд цяжкое драўлянае вядро.

— Ну і Мішка! — загаманілі адразу ўсе.— Трэба ж прыдумаць!

Мужыкі і хлопцы дружна пачалі закурваць, прыцмокваць языкамі, ляпаць адзін аднаго па плячах.

І ўсе згадзіліся: разумны чорт, гэты Мішка, усё ён прыдумае!

— А як ты, Андрэй, мяркуеш? — павярнуліся галовы да Бацюты.

Бацюта ўстаў, глянуў туды, дзе бледна і квола свяціліся вокны вёскі. І ўсе паглядзелі туды.

— Нядрэнна прыдумаў Мішка,— сказаў Бацюта.— Прыгожа прыдумаў. Вучоная ў яго галава. Але падумайце, мужчыны, а няўжо благая назва — Чмялі? Сярод лугоў зялёных мы жывём, сярод травы шаўковай. У хатах сваіх сядзім, як чмялі ў купінах. І спяваем, і працуем, і баронімся разам, як чмялі. Адзін у нас рой, працоўны, сялянскі. І камуну пабудуем разам. Жыць у ёй будзем. А Чмялі хай застануцца, дзецям нашым хай застануцца.

Ён змоўк, зняў шапку, падставіў ветру валасы. Потым павярнуўся да ўсіх, спытаўся ціха:

— Дык ці згодны вы са мной, хлопцы?

## XIX

Назаўтра пад вечар, парабіўшы кожны на сваёй гаспадарцы ўсе справы, сабраліся чмялёўскія дружыннікі ў маёнтку. Прыйшлі Яўхім Сцепанюга, Людвік Перуноўскі з двума сынамі — Жэнем і Косцем,

Павел Макароў, Рыгор Крыванос; Пятро Чыжэвіч з Запольцаў прывёў чатырох чалавек. Ну, вядома ж, не абышлося без Мішкі Сырамалота з яго «арцістамі» — Мікітам Сцепанюгам, Іванам Міхейчыкам і яшчэ трыма хлопцамі, пэўна, парабкамі з маёнтка, якіх Кузьма не ведаў. Васемнаццаць чалавек стаяла на пляцы перад флігелем, курчачыся ад марозу. Прычыкільгікаў і Сямён-артылерыст, гэты раз у нейкай старой зашмальцаванай шапцы. У строй ён не стаў, хадзіў побач з Кузьмой, пасмейваўся:

— Раўняйся, лапцюжнае войска. Лапці абулі, каб лягчэй уцякаць было?

Сапраўды, усе, як глянуў Кузьма, былі ў лапцях. Панакручвалі ануч, і ногі былі тоўстыя, як у сланоў. Кожны пашкадаваў абуць боты — мала дзе давядзецца хадзіць ці бегаць: па снезе, па балоце...

Кузьма хваляваўся. Ён прынёс з сабой тонкую шэрую кніжачку — рускі статут палявой службы 1912 года. Але ж кніжачка не ўмее гаварыць, трэба гаварыць самому.

Кузьма адкашляўся, спытаўся:

— Хто служыў у войску?

Аказалася, служылі пяцёра! Чыжэвіч, Крыванос, Макароў і два дзядзькі з Запольцаў. Чыжэвіч пахваліўся :

— Я з генералам Брусілавым усю Галіцыю прайшоў.

Астатнія былі або зялёныя моладзь, або белабілетнікі.

«Не густа»,— падумаў Кузьма. Са зброі было пяць рускіх вінтовак, дзве аўстрыйскія, тры драгунскія карабіны і тры бярданкі. Патронаў было таксама мала.

— Раўняйсь! — крыкнуў Кузьма.— Смірна-а!

Каманду мала хто выканаў, бо не ведалі, як гэта робіцца. Стаялі, пераміналіся з нагі на нагу.

— Эх вы! — засмяяўся Сямён-артылерыст.— Глядзіце, што стары салдат вам пакажа.

Ён раптам страшна выкаціў вочы, выцягнуўся ў струну, зрабіў рукі па швах і рэзка, як драўляную, павярнуў направа галаву.

— Вачамі начальства еш,— гаварыў ён.— У полымя скокні па яго загаду, а раўняешся — чацвёртую грудзь справа павінен бачыць. Альбо чэсць аддаць трэба...

Сямён-артылерыст хацеў паказаць, як трэба аддаваць чэсць, але адбылося неспадзяванае: драўляная яго нага раптам праслізнулася, і ён, як куль, гоцнуўся ў снег. Усе схапіліся за жываты ад рогату. Сямён уставаў са снегу, сярдзіта лаяўся:

— Ірады! Мурашак вам у штаны. Я ж на адной назе паказваў. Мне б вашыя дзве нагі!

— А зараз чэсць у войску не аддаюць,— усё яшчэ смяяўся Мішка Сырамалот.— Праўда ж, Кузьма?

— Праўда,— сказаў Кузьма.— У нас цяпер нават афіцэраў няма. Усе роўныя.

— Вось бачыш! — накінуліся на Сямёна-артылерыста маладзейшыя хлопцы.— Даўно чэсць гэта быку пад хвост паляцела, а ты нас вучыш. Стараразэжымнік ты!

— Хто? — пачырванеў, засоп Сямён і замахнуўся мыліцай.— Усё ваша войска адзін магу разагнаць!

Але патроху ўсе сціхлі. Кузьма паказваў, як трэба поўзаць папластунску, як рабіць перабежкі пад агнём, як разгортвацца ў ланцуг у час атакі. Мужчыны паслухмяна клаліся ў снег, поўзалі, пакідаючы пасля сябе шырокія барозны. Што б ні казаў Кузьма, яны рабілі. Можа, не так, мо не дужа спрытна, але рабілі, стараліся. Гэта вельмі падабалася яму і трошкі бянтэжыла. «Як надарыцца сапраўдны бой, са стралянінай і крывёю,— думаў ён,— яны, ледзь што ў іх не выйдзе, будуць мяне ўпікаць і праклінаць: гэта ж я іх вучыў ваяваць». І ён сам стараўся: усё, што ўмеў і мог, паказваў ім, не шкадуючы сябе.

Калі сцямнелася, пачысцілі, насуха выцерлі зброю, пайшлі дадому. Мужчыны і хлопцы развітваліся з Кузьмой, і кожны запрашаў да сябе ў хату. Але Кузьма адмаўляўся. Яго чакаюць: ён жа гэтулькі часу не бачыў сваіх. Ён хутка крочыў дадому і думаў, як там гуляе з Дзінай Сяргейка, што робяць маці з бацькам. Над галавой гулі высокія, серабрыстыя ад шэрані ліпы. Вуліца была як бы пад павеццю гэтых ліп, і прыемна было думаць, што не страшны ніякі вецер, ніякі люты віхор — ліпы роднай вёскі абароняць.

Раптам з паўзмроку, ад плота аддзялілася танклявая дзявочая постаць, перагарадзіла яму дарогу. Кузьма ўздрыгнуў. Адразу падумалася з нейкай трывогай, з нейкім сумам і шкадаваннем: няўжо Франя Перуноўская? Ён падышоў бліжэй, убачыў: не, гэта не Франя, гэта Яніна Міхейчык. Толькі што выбегла з хаты — відаць, чакала, гледзячы ў акно. На плячах шэрая вялікая, пэўна бацькава, світка; валёнкі абуты на голыя ногі, без хусткі.

— Добры вечар, Кузьма,— ціха сказала Яніна, і голас у яе ўздрыгваў.

— Добры вечар,— адказаў ён.

Колькі хвілін яны стаялі моўчкі, і ён падумаў, што ёй холадна стаяць вось так, нават падумаў — ці не абняць, ці не сагрэць, жартуючы?

Але Яніна апярэдзіла яго.

— А дзе ваш Антон? — спыталася яна.

— Недзе ў Мінску. Паехаў і яшчэ не вярнуўся. І ніхто не ведае, дзе ён...

— Ніхто не ведае?..— Яніна рэзка страсянула распушчанымі валасамі.— І ты не ведаеш. А яшчэ брат называецца!

Яна раптам заплакала, кусаючы кулачок, пабегла назад у хату. Ён чуў, як грукунулі, зарыпелі веснічкі, як на дварэ прагучалі лёгкія крокі.

— Яніна! — паклікаў ён.

Але глухая цемра стаяла наўкола. Цемра была шчыльная, цяжкая; здавалася, выцягні наперад руку — і наткнешся на яе, як на сцяну з чорнага каменнага вугалю. Кузьма здзівіўся: чаму так раптоўна сцямнела? Усяго ж некалькі хвілін назад ён бачыў Янінін твар, бледны, спакутаваны твар, на якім жылі боль і чаканне. І вось наўкола — толькі цемра. Можна было падумаць, што гэтая дзяўчына разам з бядой і крыўдай панесла ў сваю хату рэшткі святла. «Яна кахае Антона,— падумаў Кузьма.— Гэта яе першае каханне, і яна, як можа, абараняе яго».

Кузьма раптам спыніўся пасярод вуліцы, глянуў на неба. Не было ні зорак, ні ліп, ні сняжынак. Адна цемра. І ўсё ж там, у цемры, адчуваўся нейкі рух, нешта шумела, уздыхала, цякло. І яму здалося, што гэта ён чуе, як цячэ час,— шырокай, сляпой, чорнай ракой. Усё падуладна яму, ён малых робіць дарослымі, дарослых старымі, старых забірае з сабой. Вось і зараз ён цячэ над вёскай і адтуль, зверху, прыглядаецца да кожнага жывога; халоднымі няўмольнымі вачамі глядзіць і на яго, Кузьму. Кузьма ўздрыгнуў і хутчэй пакіраваў да сваёй хаты.

Усе каляды трымалася шчодрае на мароз і сонца надвор'е. Снег высокімі віхурыстымі гурбамі лёг каля платоў, каля хат, замёў студні і дрывотні. Прыволле было малым! Ад раніцы да вечара вазіліся яны на санках. Санкі ўсцягвалі аж на страху якой-небудзь хаты і адтуль па гурбах, глытаючы пякучы марозны вецер, імкліва імчалі ў агароды, засыпаныя снегам так, што тырчалі толькі верхавіны яблынек і сліў. Але вось у малых з'явілася новая забаўка: арэлі. Пад паветкай Кузьма нацягнуў дзве моцныя пяньковыя вяроўчыны, прывязаў да іх вялікія драўляныя начоўкі, якія маці ўжо даўно забракавала, і яны валяліся на гары. Малыя садзіліся ў начоўкі, гушкаліся, і іхні смех і вясёлыя крыкі далёка разносіліся па двары.

Вось і сёння з самай раніцы прыбеглі да Сяргейкі два Людвікавы ўнукі, два Перуноўскія, і сын Агапкі Шамаль, белавалосы, заікасты Віця.

— Вы хоць паснедаць паспелі? — спытаў Кузьма.

— Паснедалі, дзядзечка, паснедалі,— выціраючы рукавом світкі нос, адказаў Віця.— І яшчэ з сабой узялі.— Ён выцягнуў з-за пазухі вялікі кавалак праснака.

— Ну, не прастудзіцеся,— вывеў іх на вуліцу Кузьма. Сам ён наглядаў, як карова з цялушкай п'юць з цэбра пойла, а малыя ўжо гушкаліся на арэлях. Чутно было, як рыпіць вяроўка, як залівіста смяецца Агапчын Віця.

Праз пяць дзён трэба было вяртацца ў Мінск. А ён яшчэ не нагаварыўся з маці, з Дзінай. Ён ужо ведаў, што Дзіна ледзь не згарэла ў стопцы. Па-новаму глядзеў ён на сястру: са шкадаваннем, павагай і захапленнем. Сястра перанесла за гэты час такое, што не кожны б вытрымаў. І зноў яна вясёлая — смяецца, працуе, гуляе з Сяргейкам. Зноў верх узяло жыццё. А вось бацьку цяжка зразумець. Маўчыць, ходзіць надзьмуты. І ў вёсцы, чуў ад людзей, не дужа яго шануюць. Усё ён нечага чакае. Зямлю, калі дадуць, узяць не адмовіцца, гатоў хоць сёння, а што-небудзь зрабіць для людзей, для грамады — не разгоніцца. Правільна пытаўся некалі Рылюк: а ці дасць твой бацька хлеба гораду? Дзецям сваім, пакрактаўшы, даў бы яшчэ, а гораду, чужым людзям...

Кузьма ўздыхнуў, загнаў у хлеў карову з цялушкай, выйшаў на вуліцу. Увечары зноў будуць заняткі дружыны. Хочацца яму гвардзейцаў сваіх праверыць у паходзе — з поўнай баявой выкладкай, вёрстаў так на дзесяць спачатку. Толькі б Бацюта згадзіўся. Так і рванулі б па лесе, па балоце, па снежным цаліку. Што гэта за салдат, які паходаў баіцца?

Ён трохі пахадзіў па вуліцы каля свайго двара. Падышоў да плота, пакратаў колікі. Хістаюцца. Ясна — нейкія падшыванцы летам лазілі ў слівы, што растуць уздоўж плота. Узяўшы з клеці сякеру і цвікі, насечаныя з тоўстага дроту, Кузьма пачаў прыбіваць колікі. Так захапіўся работай, што і не заўважыў, як ззаду падышоў Людвік Перуноўскі.

— Здароў, зяцёк,— павітаўся Людвік.

— Здароў, дзядзька,— адказаў Кузьма і пажартаваў: — Толькі я ўжо замужам..,

Людвік усміхнуўся:

— Са святам цябе.

— З якім?

— Як — з якім? З новым васемнаццатым годам.

— А-а... І праўда. Дзякуй, што напомнілі. Два дні ўжо жывём.

— І які, думаеш, будзе год? Добры? — Людвік усё чамусьці хацеў глянуць Кузьме ў вочы. Але Кузьма, трымаючы ў зубах цвік, другі забіваў у колік і таму прыгнуўся.

— Дык добры будзе год? — не сунімаўся Людвік«

— Я не цыганка, каб адгадваць. Але думаю, што ўсё будзе добра. Ад нас гэта залежыць, дзядзька.

— І я так думаю,— адразу згадзіўся Людвік і, перамяніўшы голас, спытаўся: — Чаму ў госці да мяне не заходзіш? Госця гары гэтай самай дзежачку закруціў...

— Ды ўсё часу няма...— нарэшце разагнуўся, глянуў на яго Кузьма.

— Заходзь. Агата мая будзе радая,— Людвік тыцнуў яму сухую руку і борздзенька пашыбаваў па вуліцы. Кузьма зняў папаху, трохі пастаяў з непакрытай галавой, каб астыць. Чамусьці ўспомнілася, як Франя на каляды налівала ў чаркі гарэлку, як паглядзела на яго.

Ён хацеў ужо ісці ў хату, але яго паклікалі:

— Кузьма!

З завулка, хістаючыся, выходзіў Цімох Белазор. Яго рыжыя густыя вусы ваяўніча тырчалі ўгору, кажух быў расшпілены. Відаць было, што Белазор паспеў недзе добра прыкласціся да бутэлькі.

— Здароў, Кузьма...— палез ён цалавацца, але Кузьма выставіў наперад рукі, і цёплымі вільготнымі губамі Белазор тыцнуўся яму ў далонь. Гэта пакрыўдзіла Белазора.

— Што, хіба Канчанбал не чалавек? — схапіўшыся рукой за плот, каб не паваліцца, спытаўся ён.

— Чалавек,— адказаў Кузьма.— Толькі п'яны.

— А я ў Гаранка піў. Ты ведаеш, хто такі Гаранок? У яго грошай, як у Сымонавай Тэклі вяснушак,— не палічыць. Ён можа ўсе Чмялі купіць, калі захоча.

— Ну і каго ж ён купіў, Цімох? Цябе?

Кузьма сказаў гэта наўмысна спакойным роўным голасам, хоць яму не цярпелася збіць з Белазора п'яную Фанабэрыстасць. Белазор глянуў на яго няўцямна, але ўсё-такі зразумеў сэнс сказанага. Ён чамусьці пераклаў з кішэні ў кішэню пустую бутэльку, у рыльцы якой тырчала мокрая папяровая затычка, а затым паківаў брудным пальцам:

— Ой не бяры завысака, Радзімовіч... Невядома, дзе хто сядзе...

Кузьма маўчаў. Ён пачуў, як пад паветкай, дзе толькі што рыпелі вяроўкі, нехта слаба ўскрыкнуў, і наступіла цішыня.

— Не будзеш піць са мною? — адарваўся ад плота Белазор.

— Не буду.

— Ну і не трэба. Многа гонару...— Белазор пайшоў, хістаючыся, па вуліцы, заспяваў п'яным аслабелым голасам:

— Бачыш, братка, як гарую — З аднае карчмы ў другую...

А па двары да Кузьмы ўжо беглі дзеці. Як паваленае дажджом і ветрам калоссе, зблытваліся іхнія спалоханыя галасы:

— Дзядзечка...

— Там вяроўка...

— Сяргейка ўпаў...

Кузьма адчуў, як пахаладзелі ногі, ірвануўся пад паветку. Яшчэ матлялася абарваная вяроўчына. На зямлі, на стаптаным снезе, ляжалі начоўкі, дном уверх, і ён выразна ўбачыў доўгую глыбокую шчыліну ў цёмным дрэве. Сяргейкі нідзе не было.

— Дзе Сяргей? — спытаўся ў хлапчукоў Кузьма. Яны разгублена і спалохана глядзелі на яго. І тут

Єн здагадаўся: Сяргейка пад начоўкамі,— калі ўпаў, яны накрылі яго, як накрыўка. Кузьма адкінуў начоўкі. Сяргейка ляжаў на зямлі, скурчыўшыся, згарнуўшыся ў камячок, здаецца, не дыхаў. Кузьма схапіў яго на рукі, з-пад паветкі вынес на двор, адтуль — у агарод. Паклаў на зямлю, браў снег і цёр хлопчыку лоб і шчокі. Але вочы не адкрываліся. Толькі глыбокая рэзкая маршчына цямнелася чуць вышэй рыжаватых броўкаў. Кузьма спалохаўся, дрыжачымі рукамі расшпіліў Сяргейку світку, потым кашулю, паклаў снегу на вузкія цёплыя грудзі.

Увесь час яго не пакідала ліхаманкавая думка, што ён робіць не тое. «Што ж гэта такое? — захлынаўся ён ад роспачы,— Дзіця паміpae, і нічым нельга памагчы...» Ён успомніў, як у шпіталі вайсковы доктар вучыў іх рабіць штучнае дыханне. І ён пачаў узнімаць Сяргейку рукі, а потым рэзка іх апускаць. Рукі былі мяккія, бяссільныя.

Нарэшце малы расплюшчыў вочы, прашаптаў:

— Мамка, дзе ты? Галава баліць...

Кузьма ледзь не заплакаў ад радасці. Ён узяў хлопчыка на рукі, туліў да грудзей, насіў па агародзе. Ногі правальваліся глыбока ў снег.

— Мамка...— зноў заплюшчыўшы вочы, гаварыў Сяргейка.— Куды ты пайшла?

Выбегла на двор Дзіна, узяла хлопчыка, панесла ў хату. Кузьма пайшоў пад паветку, узяў начоўкі, каб закінуць іх на гару. І тут яго крануў за рукаў адзін з Людвікавых унукаў, прашаптаў:

— Дзядзечка, я ведаю... Я бачыў, як Агапчын Віця вяроўку развязваў...

Вочы ў хлопчыка былі насцярожаныя.

Кузьме не верылася ў такое. Ён падышоў да Віці:

— Ты навошта вяроўку кратаў?

Віця глянуў на яго, спалохаўся і заплакаў:

— Дзядзька Кузьма, я не хацеў... Мяне дзед падвучыў.

— Які дзед?

— Дзед Прахор... Кажа: «Зрабі, каб гэты руды добра шмякнуўся. А я табе поўную шапку арэхаў насыплю». Я і адвязаў вяроўку... зубамі...

Віця гаварыў павольна, заікаўся на кожным слове. А потым, убачыўшы, што Кузьма не збіраецца яго біць, вышмыгнуў з двара на вуліцу. За ім пайшлі і ўнукі Перуноўскага. Кузьма застаўся адзін. «Ну бацька,— ускіпеў ён,— не ведаў, што ты такі! На дзіця руку падняць. Што яно табе — дарогу перайшло? Ці ў вядро з вадою плюнула? Малое, неразумнае яшчэ дзіця, ды каб такое супраць яго зрабіць... Воўчае сэрца трэба мець!»

І ўсё-такі ён вырашыў не сварыцца з бацькам. Навошта? Заўтра ж разам з Сяргейкам яны пойдуць у маёнтак. Там чатыры ночы, што засталіся, пераначуюць. Бацюта з Мішкам Сырамалотам месца знойдуць.

Маці, як даведалася, заплакала:

— Што ты надумаў, сынок? Ці мы цябе выганяем? А божа ж мой: з бацькавай хаты па людзях пойдзе.

Кузьма схітрыў:

— Там, мама, з Бабруйска якраз доктар прыехаў,— нешта Бацюта яго запрасіў — дык ён і Сяргейку заадно паглядзіць, палечыць трохі. А мы да вас кожную раніцу па малако хадзіць будзем...

Нарэшце маці згадзілася:

— Ну, добра... Ідзіце... А мы з Дзінай да Еўкі ў Запольцы сходзім. Вады Сяргейку нашэпча.

Толькі бацька маўчаў, крышыў у запечку тытунь.

У той жа дзень Кузьма з Сяргейкам перабраліся ў маёнтак. Бацюта прывёў іх у новы флігель, сказаў Сцяпану Гаршкову:

— Двух казакоў табе прывёў. Сустракай.

Гаршкоў, бледны, з абвязанай ручніком шыяй, ляжаў на ложку. Узняўшыся, абапёршыся на локаць, скупа ўсміхнуўся:

— Распранайцеся. Калі змерзлі, можаце на печы паспаць.

Сяргейка спачатку хмыкнуў:

— Хачу да цёткі Дзіны. Там карова рагатая. Там мы з хлопцамі пойдзем снегіроў лавіць.

Але Гаршкоў вельмі хутка яго ўгаварыў.

— Бачыш, вунь шабля вісіць на сцяне,— сказаў Гаршкоў.— Мы з табой вастрыць яе будзем. Як навострым, сядзем на каня — у мяне і

конь ёсць — і паедзем. Ты будзеш кавалерыстам. За маёнткам, каля рэчкі, вербалоз расце. Будзем яго шабляй, як карнілаўца, секчы.

— Як карнілаўца? — перапытаў Сяргейка.— А хто гэта такі?

— Гэта цяжка расказаць,— уздыхнуў Гаршкоў.— Ёсць гад такі печаны...

Назаўтра, ледзь толькі развіднела, Кузьма ціха апрануўся, узяў торбачку з ежай, якую прынесла Дзіна. Сяргейка яшчэ спаў. Гаршкоў таксама ляжаў пад коўдрай, але расплюшчыў вочы, глянуў на Кузьму.

— Пойдзем з хлопцамі лесам пад Бярозу,— сказаў Кузьма.— Заўтра раніцай вернемся. Паглядзі, братка, малога, каб не плакаў.

— Ідзі спакойна,— шапнуў Гаршкоў; вочы ў яго былі сумныя.

У паход рушыла чатырнаццаць чалавек, Кузьма — пятнаццаты. Засталіся ў Чмялях Бацюта, хворы Гаршкоў, Мішка Сырамалот са сваімі хлопцамі. Мішка заўтра абяцаў паказаць усёй вёсцы «спектаклю», і трэба было падрыхтавацца, каб усё было да ладу.

Наперадзе атрада ішоў Пятро Чыжэвіч са сцягам. За ім, стараючыся патрапляць у нагу, дружна крочылі астатнія. Кузьма, як камандзір, трымаўся з боку калоны, камандаваў усхваляваным голасам:

— Аць-два — левай! Аць-два-а...

Уся вёска выйшла на вуліцу. Хлапчукі з вясёлай гаманой беглі ўслед за атрадам. Старыя смакталі жоўтыя ад часу піпкі, гаварылі:

— Добра ідуць, паганцы...

Калі параўняліся з хатай Перуноўскага, да Людвіка, што ішоў, горда трымаючы вінтоўку, кінулася жонка Агата:

— Людвічак, пачакай!

— Не паложана, Агата,— строга павёў вачыма Людвік.— Бачыш, я чалавек страявы.

— Дык вазьмі з сабой на дарогу,— Агата працягвала яму нейкі клунак.

— А што тут?

— Гладышык. З сыраквашай гладышык. Як жывот забаліць, пап'еш...

Атрад дружна, як па камандзе, зарагатаў. Зарагатаў і Пятро Чыжэвіч, і сцяг закалаціўся ў ягоных руках. Засмяяўся Кузьма. Толькі адзін Людвік злосна плюнуў сабе пад ногі, адвярнуўшы твар ад жонкі, патупаў далей па снежнай дарозе.

Агата стаяла разгубленая, прыціскаючы да грудзей гладышык, і гаварыла ўслед атраду:

— Дык ты ж, Людвік, любіш кісленькае...

Перад самым лесам Чыжэвіч, каб не чапляцца сцягам за галіны, згарнуў яго, абвязаў вяровачкай. Ішлі ўжо не ў нагу, весела гаманілі,

успаміналі Агату з яе гладышыкам. Кузьма загадаў ісці рассыпным строем. Яму перадаўся вясёлы настрой людзей. Ён падскочыў, схапіўся рукою за галіну елкі, тузануў яе. Серабрысты мяккі снег пасыпаўся на ўсіх. Яўхім Сцепанюга, якому снег заляпіў твар, стаяў, усміхаўся.

— Маладзенькі ты яшчэ, Кузьма...

Ішлі да самага абеду. Некаторыя ўжо стаміліся, пачалі прасіць:

— Давай перакурым...

Але Кузьма і слухаць не хацеў.

— Ранавата яшчэ. Яшчэ вярсты са дзве, хлопцы, пройдзем.

Хлопцы, унурыўшы галовы, ішлі далей. Кузьма разумеў, пра што яны зараз думаюць. Пэўна, клянуць сябе, што згадзіліся ісці. Сядзелі б дома, і ногі біць не трэба было б. А зараз ужо не павернеш назад, не захныкаеш — сорамна перад суседзямі.

— Прывал! — скамандаваў нарэшце Кузьма.

Усе радасна ўздыхнулі, выбралі невялікую ўтульную палянку, пачалі на ёй раскладваць вогнішча. Хуценька назбіралі сухога ламачча, утапталі пасярэдзіне палянкі снег, і праз колькі часу зашугала гарачае, светлае ў цемры лесу, полымя.

Кузьма, як і ў сапраўдным вайсковым атрадзе, выставіў дазор. У дазор, закурыўшы, пайшлі Людвікавы сыны. Зброю хто трымаў у руках, хто прысланіў да дрэва. Кузьма загадаў паставіць вінтоўкі ў козлы. Развязалі торбачкі, моўчкі пачалі есці.

— Раз мы адно войска, то і есці трэба агулам,— сказаў Сцепанюга.

Усе адразу згадзіліся. Проста на снег у адну кучу склалі, хто што меў: хлеб, сала, яйкі, кілбасу.

— А чаму ты, Людвік, свой гаршчочак не паставіў? — хітра спытаўся Чыжэвіч.

Зноў грымнуў рогат.

— От дурніца, баба,— смяяўся і сам Перуноўскі.— Трэба ж такое прыдумаць... Далібог, не ўжываю я сыракватшу. Толькі пастаялку салодкую п'ю... Нейкае зацьменне ў маёй Агаты сёння.

Шумеў над галовамі лес, і ўсе пакрысе змаўкалі, сцішваліся, слухалі журботную гамонку дрэў. Была ў лясным шуме нейкая жалоба і нейкая трывога, быццам хацеў лес аб нечым папярэдзіць людзей. З яловых лапак, на якія натыкаўся цёплы сіні дым вогнішча, ападаў снег. Лапкі тады ўздрыгвалі, выпростваліся: няйначай, ім здавалася, што скончылася зіма.

— Пад'ём! — скамандаваў Кузьма.

Зноў пайшлі па светлым зімовым лесе. Пасля адпачынку ісці было лягчэй і весялей. Маладыя хлопцы галёкалі, і рэха праз колькі часу прыносіла назад іхнія галасы.

— Трэба пастраляць, а то так і да Бярозы дойдзем,— прапанаваў Людвік Перуноўскі.

Усе падхапілі:

— Пастраляць... Пастраляць трэба-

— Давай, Прахоравіч,— сказаў нарэшце і Сцепанюга.— Сцямнеецца ж хутка...

Кузьма маўчаў, выбіраў месца, дзе можна было б павучыць людзей страляць. Нарэшце выйшлі на шырокую балоцістую лугавіну, якая зрэдку парасла старымі вольхамі.

— У што будзем страляць? — спытаўся Кузьма.

Усе азірнуліся наўкола. Ніхто нічога не прыдумаў.

— Давайце вунь на тую алешыну павесім маю шапку,— сказаў Людвік.— Усё роўна, як я вяртаўся з хрэсьбін ад Валадкевіча, яе свіння пажавала.

— Цёпленькі ж ты тады быў,— буркнуў ягоны сын Росця.

Павесілі на вольху шапку, адлічылі пяцьдзесят крокаў.

— Хто з вас страляў? — пацікавіўся Кузьма.

Усе сказалі, што гэта справа ім вядомая, нават маладыя хлопцы.

Толькі Яўхім Сцепанюга злёгку пачырванеў:

— Я, Прахоравіч, з рагаткі страляў...

Кузьма спачатку сам паказаў, як трэба страляць: моцна прыціскаць да пляча прыклад, прыцэльвацца. Потым стралялі ўсе — кожны па адным патроне.

— Вока заплюшчым. Не спяшайся... Рэзка не націскай,— казаў Кузьма, і калі гучаў стрэл, нават не дыхаў, быццам баяўся, што сваім дыханнем можа перашкодзіць. Адстраляўшыся, падбеглі да вольхі і налічылі ў шапцы дзесяць дзірак.

— Чатыры прамазалі,— уздыхнуў Кузьма.

Вядома, нельга было даведацца, хто прамазаў. Але кожны ў душы лічыў, што як хто, а як куля зрабіла дзірку ў Людвікавай шапцы. Толькі Сцепанюга шчыра сказаў:

— Напэўна я, хлопцы, трохі не туды стрэліў...

— А я проста ў цэнтру ўляпіў,— задаволена разглядаў Людвік сваю, падобную на рэшата, шапку,

— Адкуль ты ведаеш? — спыталіся ў яго.

— Як жа гэта я ў сваю шапку не траплю? Я яе, лічы, дванаццаць гадоў на галаве цягаю...

Зімовы дзень канчаўся. Сонца, чапляючыся за верхавіны дрэў, садзілася ў густую яркую чырвань. Быць, значыць, заўтра марозу. Заначавалі на глухім лясным хутары. Гаспадар нанасіў з пуні саломы, і ўсе ўпокат ляглі на падлозе. Шумеў за сцяною лес, датлявала ў

святцы лучына, і сон апусціўся на хату, быццам накрыў яе мяккай чорнай пасцілкай. Чатыры разы за ноч мяняў Кузьма вартавых, дый сам нарэшце не вытрымаў — заснуў.

Але пад самую раніцу, калі сон асабліва салодкі, яго асцярожна пакраталі за плячо. Ён спуджана ўсхапіўся, быццам і не спаў. Гаспадар хутара, выставіўшы ўперад руку з ліхтаром, схіліўся над ім. Побач стаяў Пятро Чыжэвіч.

— Што такое, хлопцы?

Кузьму падалося, што хутар узяла ў сіло якая-небудзь банда, што вось-вось загрымяць за акном стрэлы. Ён раздражнёна адпіхнуў ад сябе руку з ліхтаром:

— Ды не свяці ты ў вочы.

— Хадзем за мной, даражэнькі чалавек,— тонкім жаночым голасам сказаў хутаранін, нічуць не пакрыўдзіўшыся на Кузьму.

З цёплага памяшкання яны выйшлі на мароз, на калючы пранізлівы вецер. На цёмным небе ўжо няўлоўна разлівалася ранішняя бель. Але яна была малюсенькім кволым парасткам, якому яшчэ прабівацца ды прабівацца праз маўклівую тоўшчу зімовай ночы.

— Хадзем за мной,— сагнуўшыся, тупаў наперадзе хутаранін. Бляск ад ліхтара, круглы і жоўты, скакаў у яго пад нагамі. Хутаранін ішоў, выставіўшы ўперад руку з ліхтаром, і водбліск здаваўся мітуслівым рыжым пеўнем, якому ён сыпле зерне. Па хрумсткім звонкім снезе яны перайшлі двор і, сагнуўшыся, увайшлі ў клець.

— Вось...— адно толькі слова сказаў хутаранін і ўзняў над галавой ліхтар. Кроках у трох перад сабой на рассунутай паўкапе сена Кузьма ўбачыў чалавека, які ні то ляжаў, ні то сядзеў, скруціўшыся абаранкам, абшчапіўшы галаву рукамі. Чалавек ад святла, ад людской гаманы рэзка ўздрыгнуў, нібы яго ўдарылі, і плячамі, здаецца, уплішчыўся ў сцяну, закалаціўся, засланіў твар бруднымі скалелымі рукамі. Адно яго вока, вялікае, вёрткае, напружана сачыла праз пальцы — ледзь не вывальвалася на шчаку — за кожным рухам тых, што ўвайшлі ў клець. Нечалавечы, неадольны страх быў у гэтым воку.

— Не забівайце мяне! — дзіка заенчыў чалавек і

пачаў з галавою зашывацца ў сена, быццам там быў ягоны паратунак. Рабіў ён гэта хутка, сутаргава і ліхаманкава.

— Усю кроў гарэлкай атруціў... Гарачка ў яго,— сказаў Пятро Чыжэвіч.— Ды хіба ты не пазнаеш, Кузьма? Гэта ж Баўтрук, бандыцкая костка.

Цяпер Кузьма і сам пазнаў. Дык вось хто, як восеньскі ліст, калаціўся-трымцеў перад імі на сене, хацеў зрабіцца казюркай, травінкай,

пясчынкай, абы толькі яго не ўбачылі. Ён, відно было, зрабіўся б, каб мог, кратом і тачыўся б у зямлю, далей ад людскіх вачэй і галасоў.

— Не біце мяне бязменам! — зноў крыкнуў Баўтрук і пачаў сыпаць сабе на галаву сена.

— Ужо месяц, як у мяне тут сядзіць,— ціха тлумачыў Кузьме і Чыжэвічу хутаранін, палахліва пазіраючы ка Баўтрука.— Прыйшоў неяк ноччу. Галава ў крыві... І, ледзь вочы прадзярэ,— нясі яму гарэлкі. А не прынясеш — кулю ў кішкі ўсадзіць...

— А ты ведаеш, што ён вораг Саветам, што ён людзей паліў? — рэзка спыніў яго Кузьма.

Ён пачаў калаціцца і ад марозу, і ад хвалявання, і ад злосці, што раптам успыхнула ў грудзях. Хутаранін нічога не адказаў, згорбіўся, часта дыхаў.

— Ён і сам бандыцкі падгалосак,— злосна сказаў Чыжзвіч і стукнуў прыкладам вінтоўкі аб сцяну.

— Што вы, браточкі? — залямантаваў хутаранін.— Не быў я з імі... Хай язык адсохне, калі хлушу. Гэты ж во,— рукой з ліхтаром ён тыцнуў у бок Баўтрука,— пад стрэльбай мяне прымусіў хаваць яго. Дзетак маіх, казаў, пастраляе. Ды і як ён у мяне тут хаваўся? Сядзеў, як ліса пад бараною.

— Ой, не забівайце! Не біце бязменам! — раптам нема крыкнуў Баўтрук і, распіхнуўшы ўсіх, кулём выкаціўся на двор. За ім ірвануліся Кузьма з Чыжэвічам. іЧыжэвіч ужо прыціскаў да пляча прыклад вінтоўкі. А Баўтрук схапіў драбіны, што стаялі на двары каля клеці, прыставіў іх да ліпы і палез, хуценька пабег уверх, на дрэва. Усе аслупянелі ад нечаканасці і здзіўлення. У Чыжэвіча звалілася з галавы шапка. Баўтрук ужо быў на самай макаўцы старой ліпы. «Так каты ратуюцца ад сабак...» — падумалася Кузьме, і ў тое ж імгненне Баўтрук нешта крыкнуў, адрывіста, дзіка-спалохана, і, растапырыўшы рукі, ломячы голле, цяжка паляцеў уніз, на востры дубовы паркан.

— Гатоў,— сказаў Чыжэвіч, калі яны ўсе трое падышлі да Баўтрука, што нерухома, звіўшыся клубком, ляжаў каля паркана.

Усе маўчалі. Так нечакана канчалася гэта доўгая зімовая ноч.

— Закапаеш яго дзе-небудзь у лесе,— сказаў Кузьма хутараніну.

Ад хвалявання моцна тахкала сэрца.

— А божачка мой,— спалохана хрысціўся хутаранін.— Гэта ж трэба такое...

Ён зноў схадзіў у клець, знайшоў там рыдлёўку, завязваў вузлом вяроўчыну на санках. Потым, калі трохі астыў, ікаючы, расказваў Кузьму:

— Ведаў я яго трохі. Нашы бацькі на хутарах каля Бярозы суседзілі. Дык бацька ягоны, Піліп Баўтрук, калі сын угневае чым-небудзь, садзіў яго ў пустую бочку. Вялікая ў іх такая бочка была. Дзень, бывала, сядзіць у той бочцы, а то і два. Без вады і без скарыначкі. І не вылезеш — бочка высокая, гладкая. А гадоў тады яму было пяць ці шэсць...

— Не вадзіўся ты, значыць, з бандытамі? — спыніў яго Кузьма.— Ну, добра. Праверым дні праз два. Цяжка будзе, калі хлусіш.

— Чысты перад вамі, як на споведзі,— перахрысціўся хутаранін.

— Праверым. Вязі гэтага...— Кузьма згроб у жменю камяк снегу, прыклаў да лба.

На світанні пашыбавалі ў бок Чмялёў. З цяпла, разагрэтыя, на ранішнім вострым марозіку ўсе пагорбіліся, скурчыліся, глядзелі толькі сабе пад ногі.

— Бягом! — скамандаваў Кузьма.

Праз якой паўгадзіны стала ўжо горача, ды так, што хацелася скінуць з сябе верхнюю вопратку. Сонца ўзнімалася вышэй у небе, і яны ўсё бліжэй падыходзілі да свае вёскі. Заставалася вярсты паўтары — дзве. І раптам Яўхім Сцепанюга, што ішоў наперадзе, спыніўся, узняў уверх руку:

— Стойце, хлопцы... Чуеце?

Праз шум лесу, праз біццё разагрэтых сэрцаў усе пачулі рэдкія траскучыя гукі: быццам нехта браў на калена сухія арэхавыя кійкі і ламаў іх. Была ў гэтых гуках нейкая размеранасць, нейкая трывожная аднастайнасць.

— Васіль Баранок вавёрак з драбавіка б'е,— упэўнена сказаў Людвік.

Зноў пайшлі па лесе, пайшлі хутчэй. Дарога павінна была зрабіць апошні паварот перад Чмялямі. Вось-вось у прагалах між дрэў забялее поле.

— Дужа ж многа вавёрак,— як бы сам сабе, буркнуў Пятро Чыжэвіч.

І тут з густога, зацярушанага снегам хмызняку, што ішоў уздоўж дарогі, выскачыў чалавек ва ўсім белым і кінуўся да іх. Быццам прывід вырваўся з забытай людзьмі лясной магілы.

— Не страляйце! Я свой,— крычаў і махаў рукамі чалавек.

Усе апусцілі вінтоўкі, бо і сапраўды, у першую хвіліну хацелася страляць.

— Я свой! — задыхаючыся, крычаў чалавек.

Ён падбег і амаль паваліўся на рукі Сцепанюгу. У грудзях у яго аж гуло і клекатала ад стомы і ад хвалявання. Гэта быў Аркадзь

Пісаронак, парабак з маёнтка, які клаў новыя печы, а калі не выпадала такой работы, працаваў на кухні: сек дровы, падвозіў ваду, чысціў коміны і мыў катлы.

Ён быў у адных зрэбных портках. На нагах — буркі, на плячах запэцканая глінай кароткая сіняя паддзёўка.

— Легіён у вёсцы! Палякі,— глытаючы словы, сказаў Аркадзь.

У ягоных вачах, як сіні лёд, застыў страх.

Аказалася, недзе пасля снедання ў вёску ўварвалася конная польская часць.

— Чалавек сто будзе,— хуценька гаварыў Аркадзь.— На рагатых шапках белыя арлы, на рукавах нейкія нашыўкі. І ва ўсіх штаны з чырвонай палосай...

Палякі адразу пабеглі па дварах, пачалі страляць свіней і курэй, адбіраць у людзей цёплае адзенне. Аркадзь у гэты час спаў у флігелі — учора позна гуляў у карты. Калі пачуў стрэлы, з перапуду скокнуў у акно і сюды — у лес.

— Вось руку сабе шклом парэзаў,— разгублена ўсміхаючыся, паказаў Аркадзь кроў.— Мне яшчэ пашанцавала... Я ўцёк. А Бацюта з гэтым казаком, з Гаршковым, зачыніліся ў флігелі і страляюць праз вокны.

Зноў усе прыслухаліся. Ад вёскі далятала рэдкая страляніна: адзіночныя, няйначай, прыцэльныя стрэлы тых, што адбіваліся з засады.

— Палякі флігель падпаліць хочуць,— нервова пацепаючыся, растлумачыў Аркадзь.— Салому хочуць з тарпяка ўзяць, што ля канюшні. А Бацюта не падпускае да тарпяка.

Навіны, якія прынёс Пісаронак, аглушылі ўсіх. Кузьма бачыў наўкола сябе бледныя разгубленыя твары. Ён і сам разгубіўся, і не хаваў гэта ні ад кога. Там жа ў флігелі Сяргейка. Што, калі легіянеры прарвуцца да тарпяка? Можа, ужо хапаюць сухую жоўтую салому, абкладаюць ёю драўляныя сцены. Кузьма заплюшчыў вочы, нібы ў твар яму шуганулі чырвоныя траскучыя касмылі полымя. Ён страсянуў галавой, расплюшчыў вочы і ўбачыў вялікія, сінія ад марозу рукі Чыжэвіча, якія развязвалі вяровачку на сцягу. І гэта вярнула спакой і рашучасць.

— За мной, хлопцы,— сказаў ён.

Прыгінаючыся амаль да самай зямлі, спатыкаючыся, выбеглі з лесу ў густы нізенькі алешнік, які вёў да самых прыгуменняў. Па алешніку цёк ручаёк, што каля маёнтка ўпадаў у Гразёўку. Пайшлі па ручайку, бо на мёрзлым балоце дужа моцна трашчаў, ажно страляў пад нагамі крохкі лёд, і іх маглі пачуць яшчэ здалёку. Ручаёк таксама замерз. Лёд на ім быў белы і зеленавата-сіні, прыцярушаны мяккім

снегам. Кузьма раптам паслізнуўся, узмахнуў рукамі і грымнуўся на лёд. Паспеў усё-ткі ўпасці на рукі. Ён ляжаў, амаль дакранаючыся шчакой да лёду, і ўбачыў такое, што на хвіліну прымусіла забыцца пра ўсё. Проста пад ім, пад яго вачамі, пад сярэбранай скарынкай лёду стаяла рыбка, маленькая, таксама ўся сярэбраная. Да яе, здавалася, можна было дакрануцца губамі. Быццам нейкая дзіцячая цацка, лёгкая і вясёлая, заплыла сюды і скамянела аж да самай вясны. Будуць выць над алешнікам завірухі, будуць асцярожна падкрадвацца да сялянскіх хлявоў ваўкі, будзе месяц свяціць з халоднага начнога неба і адлюстроўвацца, успыхваць у сінім лёдзе, а рыбка будзе стаяць вось так ля гэтага кусціка асакі, чакаць цёплага сонца.

Кузьма падняўся, пайшоў услед за таварышамі, і на душы было ціха-ціха.

Яны залезлі на заснежаную страху гумна, прытаіліся. Ім быў відзён маёнтак і адна, новая, як яе называлі, вуліца вёскі. Астатняя частка вёскі была схавана за ляском, што акружаў маёнтак з поўдня. І з новай вуліцы, і адтуль, з-за ляска, даляталі людскія крыкі, іржанне коней. Кузьма адразу глянуў у бок флігеля. Легіянеры ляжалі, уткнуўшыся тварамі ў снег, за крокаў трыццаць ад будыніны. Яшчэ адна перабежка, адзін адчайны рывок — і яны будуць у флігелі. Вось афіцэр махнуў пісталецікам, і марудлівыя постаці паслухмяна ўзняліся ў атаку.

Між тым на той вуліцы, якую не маглі бачыць атраднікі, адбывалася вось што. Якраз пасярэдзіне вуліцы, па цвёрдым, убітым людзьмі і коньмі снезе, павольна рухалася дзіўная працэсія. Чмялёўцы, якіх легіянеры выгналі з хат, глядзелі на яе. Ніколі яшчэ не даводзілася бачыць такога. Па вуліцы ішлі чужыя воіны ў кароткіх яркіх плашчах, у бліскучых шлемах, з кароткімі шырокімі мячамі ў руках, з круглымі лёгкімі шчытамі. Некаторыя былі ўзброены доўгімі пікамі. Самы галоўны сярод іх ішоў, апусціўшы галаву, кусаў губы ад сораму і крыўды. Ён, здаецца, не адчуваў марозу. Уважлівей прыгледзеўшыся, чмялёцы спагадліва ўздыхалі, ціха казалі адзін аднаму:

— Гэта ж нашы хлопцы... Мішка Сырамалот першы ідзе...

— А вунь Іван Міхейчыкаў з Мікітам Сцепанюгам...

Мішка Сырамалот гатоў быў хоць праз зямлю праваліцца. Трэба ж было ў час рэпетыцыі трапіць у рукі палякам. Ніхто нічога не ведаў, ні аб чым не здагадваўся, і раптам...

Вахмістр, які арыштаваў іх, вельмі здзівіўся спачатку, а потым засмяяўся:

— Правесці галаштаннікаў па ўсёй вёсцы. Хай паглядзяць хлопы, з кім мы ваюем.

Легіянеры падганялі хлопцаў штыкамі, рагаталі,

— Весялей! Чаго насы апусцілі?

— Глядзі, Спартак, меч згубіш.

— Ды ён ужо мокры...

Крыху ззаду, за спінамі легіянераў, ішлі яшчэ два чалавекі. Кандрат Гаранок з пугай у руках гнаў па вёсцы свайго сына Васіля. Час ад часу ён шлёгаў яго пугаўём па плячах, гаварыў:

— Ідзі, пакланіся пану афіцэру... Прабачэння папрасі...

Васіль, ростам вышэйшы за бацьку на дзве галавы, моршчыўся ад удараў, але ішоў ціхмяна і пакорліва, як авечка. Буйныя слёзы цяклі ў яго па шчоках.

Як толькі легіянеры падняліся ў атаку, Кузьма паблядднеў, сказаў.

— Цэлься, хлопцы... Кожны свайго бяры на мушку. Націскаць так, як я вучыў...— І махнуў рукой: — Агонь!

Грымнуў залп. Трое ці чацвёра легіянераў спатыкнуліся і ўпалі. Астатнія замітусіліся на двары перад флігелем — не ведалі, куды дзецца.

— Зараджай! — павесялеў Кузьма.— Яшчэ раз пеканём.

Другім залпам звалілі афіцэра. Нечаканая страляніна з тылу так напалохала і збянтэжыла палякаў, што яны, забыўшыся пра ўсё, пачалі ўцякаць ад флігеля ў лясок: хто на кані, хто пешшу. Услед ім паляцелі кулі Бацюты і Гаршкова.

— Акружаюць! Чырвоныя акружаюць!

Гэта вестка праляцела па вёсцы ў адно імгненне, і легіянеры, толькі што такія самаўпэўненыя і адважныя, пачалі кідаць усё: курэй, кажухі, падушкі. Быццам віхор змёў іх з двароў і вуліцы. Не прыняўшы бою, яны спешна пачалі адступаць у бок Запольцаў.

З першымі стрэламі Мішка Сырамалот збіў з ног легіянера, скокнуў у бліжэйшы двор. Над галавой ціўкнула куля. Другая стукнула ў драўляны меч — толькі трэскі паляцелі. З аскабалкам мяча ў руках Мішка пабег па агародзе да рэўкома. Дзед Бегунок з бярданкай сядзеў на прызбе, трымцеў усім целам. Убачыўшы Мішку ў такім незвычайным адзенні, ён ажно вочы заплюшчыў. Мішка вырваў у яго з рук бярданку, выбег на вуліцу і, мацюкнуўшыся, стрэліў па конніку, які імчаўся за вёску. Дзіка заржаў конь і паляцеў цераз галаву.

Кузьма ў гэты час быў ужо ў флігелі. Тут рэзка пахла спаленым порахам. Уся печ была склявана кулямі. Кузьма наступіў на гільзу і ледзь не ўпаў.

— Сяргейка! — паклікаў ён.

Ён баяўся ўбачыць дзе-небудзь кроў, баяўся не пачуць адказу. Сэрца вырывалася з грудзей, і, каб не ўпасці, давялося сесці на ложак.

І тут з-пад ложка пачуўся хлапечы голас:

— Татка, а ўжо не страляюць?

Кузьма стаў на калені, пачаў выцягваць малога. Сяргейка моцна, абедзвюма рукамі, прыціскаў да сябе падушку.

— Кінь. Навошта ты яе ўзяў? — Кузьма ліхаманкава аглядваў Сяргейку, каб пераканацца, што ён жывы і здаровы.

— Дзядзька, у якога шыя завязана, мне сказаў узяць. Каб куля ў пер'і заблыталася.— Толькі цяпер Сяргейка заплакаў, уткнуўся галавой Кузьму ў грудзі.

Прыйшла Дзіна, узяла Сяргейку на рукі і панесла дадому.

Вёска ажыла. Па вуліцы бегаў Мішка Сырамалот, пытаўся ва ўсіх:

— Куды Гаранкі схаваліся? Сваімі рукамі задушу гадаў.

Ён паспеў пераапрануцца, толькі шлем забыўся зняць з галавы, так і бегаў у шлеме, і выглядаў у ім зухавата. Усе ўзбуджана абмяркоўвалі бой, які толькі што адгрымеў. Асабліва задаволены былі атраднікі.

Людвік Перуноўскі расказваў кожнаму сустрэчнаму:

— Заляглі мы, значыць, на гумне. Рыгора Крываноса гумно. Нам Кузьма камандуе: «Цэлься, хлопцы!» Ну, я гэтага афіцэрыка іхняга і ўзяў на мушку. Сам думаю: без яго вы, мае даражэнькія, будзеце, што авечкі без пастуха. Як урэзаў, дык ён і пяткі ўгору!

Усе слухалі Людвіка і ўсміхаліся, згаджаліся з ім. У людзей была радасць, і ніхто не хацеў спрачацца з Людвікам: хай будзе па-ягонаму, хай будзе ён самы спрытны стралок. Абы легіянераў з вёскі вытурылі.

Але прыкладна праз гадзіну прашапацеў над галовамі і гухнуў непадалёку ад маёнтка снарад. Жоўта-белы слуп агню і снегу ўзвіўся над зямлёй. Другі снарад зрэзаў, як пілой, старую ліпу каля флігеля. З боку Запольцаў зноў наступалі палякі. Загаласілі жанчыны.

Бацюта з Кузьмой пастроілі атрад і вырашылі пакінуць вёску. Супроць гарматаў цяжка было нешта зрабіць. Кузьма на хвілінку забег дадому, развітаўся з усімі, пацалаваў маці і Сяргейку.

— Што ж гэта робіцца? — павісла ў яго на плячы маці.— Сынок, я ж памру без цябе...

Ён асцярожна адвёў ад сябе яе слабыя рукі, развітальным паглядам, стараючыся запомніць усё, апошні раз акінуў хату.

Праз некалькі хвілін атрад подбегам накіраваўся да лесу. Ззаду, асвятляючы снег, шырока і траскуча гарэў маёнтак.

Яны блукалі па лесе два дні, і ў Асіповічах уліліся ў атрад чыгуначнікаў.

XIX

11 студзеня 1918 года генерал Доўбар-Мусніцкі ў тэлеграме на імя Вярхоўнага галоўнакамандуючага Крыленкі і галоўнакамандуючага Заходнім фронтам Мяснікова паведаміў, што з 12 гадзін 12 студзеня 1-ы польскі корпус знаходзіцца ў стане вайны з Савецкай Расіяй. Вярхоўны савет Польскіх узброеных сіл, на чале з паручнікам Рачкевічам перабраўся на гэты час з Мінска ў Кіеў і паспяшыў прызначыць ваяўнічага генерала канандуючым усімі польскімі войскамі. Па загаду Доўбар-Мусніцкага, які са сваім штабам знаходзіўся ў Бабруйскай крэпасці, усе польскія часці, раскватараваныя ў Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях, павінны былі неадкладна здымацца з месца і рухацца ў бок Бабруйска. Адразу ж на ўсіх чыгуначных станцыях — у Смаленску, Раслаўлі, Вязьме, Ельні, Оршы, Барысаве, Полацку загучала польская мова, замільгалі канфедэраткі.

Пад уладай легіянераў аказаўся трохкутнік Рагачоў — Жлобін — Бабруйск, так званая «рэспубліка Даўборыя». Але з кожным днём, нават з кожнай гадзінай ён змяншаўся. Доўбар-Мусніцкі быў адрэзаны ад Украіны, куды ён хацеў павесці сваіх легіянераў, каб злучыцца там з 2-м і 3-м польскімі карпусамі. І тады генерал замітусіўся, як воўк, акружаны з усіх бакоў. Не чакаў ён, што ў гэтай краіне, якую лічыў паралізаванай анархіяй і самаўпраўствам, сустрэне такі сакрушальны адпор. Ён думаў, нібы Аляксандр Македонскі, пранесціся па беларускіх і ўкраінскіх шляхах, каб толькі ад аднаго яго з'яўлення падалі ніцма ворагі, каб засцянковыя паненкі пасылалі яму і яго непераможным легіянерам сімвалічныя пацалункі, кідалі кветкі пад ногі коням.

А ўсё адбылося не так. Гула пранізлівая мяцеліца, грымелі бальшавіцкія батарэі, і яго воіны, асабліва ўраджэнцы «прэсаў», разбягаліся хто куды, як прусакі па шчылінах. І тады ён, пануры, злосны і разгублены, вырашыў пачаць перагаворы з бальшавікамі. Сустрэча адбылася на станцыі Цялуша, непадалёку ад Бабруйска. Доўбар-Мусніцкі прыехаў разам са сваім начальнікам штаба генералам Агапеевым. Вось, дарэчы, характэрны штрых. Генерал, які ўсюды крычаў аб сваёй любві да дэмакратыі, да Польшчы, не грэбаваў дружбай і цесным супрацоўніцтвам з манархістам і чарнасоценцам Агапеевым, якога прыслаў яму ў корпус сам Карнілаў. Перагаворы не ўдаліся. Доўбар-Мусніцкі хітрыў, адцягваў час. Усе гэтыя дні ён адну за другой пасылаў слёзныя тэлеграмы начальніку штаба германскіх

войск на Усходнім фронце генералу фон Гофману. Ён прасіў прапусціць дэлегацыю корпуса праз фронт у Брэст-Літоўск, а потым і ў Варшаву для сустрэчы з членамі Рэгенцкага савета. Нарэшце фон Гофман дазволіў палякам паслаць дэлегацыю. У суправаджэнні эскадрона уланаў у Брэст-Літоўск паехалі палкоўнік Масціцкі, падпаручнік Біслінг, капітан Марушэўскі, прапаршчык Жабакліцкі і валанцёр Ванькові́ч. Доўбар-Мусніцкі павесялеў, здавалася, памаладзеў. Але радасць яго была нядоўгая. Неўзабаве прыйшлі звесткі, што дэлегацыю можна не чакаць ні ў Брэст-Літоўску, ні ў Бабруйску. На лясных дарогах Ігуменскага павета яе акружылі сялянскія чырвонагвардзейскія атрады і раззброілі. Палкоўнік Масціцкі ў апошнюю хвіліну застрэліўся, каб не трапіць у рукі хлопаў. І ўсё ж генерал дамовіўся з немцамі. Яму было загадана ўзрываць усе чыгуначныя масты, рухацца насустрач германскім войскам. Галоўны ўдар накіраваць на станцыі Ясень і Асіповічы, каб адтуль зайсці ў тыл Мінску.

Той, хто на аэраплане пралятаў тады над Беларуссю, бачыў пад сабой заінелыя лясы і белыя, як запаветны сувой палатна з самага дна нявесцінага куфэрка, палі. Цяжка было заўважыць прыкметы жыцця на гэтай халоднай, раўніннай і балоцістай зямлі. Хіба толькі дым з комінаў сялянскіх хат, нетаропкі, лёгкі, як дыханне. Калі б у аэраплане ляцеў паэт, ён падумаў бы, што гэта дыхае сама зямля, ціхая, звонкая ад марозу. Не верылася, што вясною тут хвалююцца, бушуюць пад ветрам акіяны аксамітнай травы, што сюды, знайшоўшы дарогу па зорках, вяртаюцца з цёплых краін птушкі. Не верылася, што сярод гэтага маўчання могуць вырасці каласы. Холад і снег былі на зямлі.

Але, праляцеўшы на поўдзень і на паўднёвы ўсход ад Мінска, можна было заўважыць, што колер зямлі, якая плыла ўнізе, мяняецца. Разам з белым колерам тут адразу кідаліся ў вочы чорны і чырвоны. Чорны ад папялішчаў, ад дыму, чырвоны — ад пажараў і салдацкіх кастроў. На вялізнай плошчы, якая займала ўсю лукавіну паміж Дняпром і Бярозай, ужо цэлы месяц ішлі баі. Пагрозліва грукаталі гарматы, цяжка перавальваючыся з боку на бок, паўзлі па халодным снежным цаліку браневікі, ішлі ў атаку кавалерыйскія лавы, пехацінцы беглі, стралялі, падалі і паміралі сярод палёў і лясоў. Зверху кожны салдат здаваўся б, напэўна, мурашкай, смешнай маленькай лялькай. Але так здавалася б толькі зверху. На зямлі, дзе відаць кожная чалавечая рана, кожная вяснушка на стомленым салдацкім твары, дзе змяшаліся кроў і пот, любоў і нянавісць, усялякія параўнанні былі непатрэбныя, яны зневажалі душу і сэрца.

Польскія легіянеры, не зважаючы на смяротны свінец, які касіў іх, на штыкавыя атакі чырвонагвардзейскіх атрадаў, уздоўж Лібава-Роменскай чыгункі набліжаліся да станцыі Ясень.

— Там наша выратаванне,— казалі афіцэры салдатам,— возьмем Ясень і Асіповічы — і дарога на захад нам будзе адкрыта. А там мы нап'ёмся вады з Буга і Віслы, памолімся ў нашых касцёлах, пацалуем сваю родную польскую зямлю...

І зноў белы арол развінаў свае даволі ўжо слабыя, наскубаныя крылы над полем бою. І зноў легіянеры ішлі ў атаку.

«Што звязала мяне з гэтымі людзьмі? — думаў Антон, сціскаючы ў руках вінтоўку, паднімаючыся разам з усімі насустрач агню.— Мая вёска і мая хата засталіся за маімі плячамі. Куды ж я іду?»

Але спыніцца ці павярнуць назад было немагчыма, Трэска не можа паплыць супраць цячэння. Ён быў спіцай у коле, а кола круцілася зусім у іншы бок, чым хацелася Антону.

— Дойдзем да Мінска,— гаварыў у кароткія хвіліны зацішша Гайкевіч,— а там ужо будуць нашы. Камісараў і са свечкай у руках не знойдзеш. Генерал Доўбар-Мусніцкі — чалавек слова, і аддасць Мінск адзінаму законнаму гаспадару — нашай Радзе. Сёння мы павінны стаць на бок палякаў, калі хочам мець сілу і незалежнасць...

Іх даўно ўжо не лічылі праваднікамі альбо перакладчыкамі. Яны былі для ўсіх «сваімі людзьмі з прэсаў», і неўзабаве, пасля цяжкіх баёў, ім выдалі вінтоўкі і загадалі стаць у строй. З абозам яны дайшлі да Бабруйскай крэпасці, а адтуль павярнулі назад ужо як валанцёры пяхотнага палка. У іх быў новы камандзір — паручнік Скальскі. Гэты Скальскі, высокі хударлявы бландзін, насіў акуляры, гаварыў ціхім глухаватым голасам. Нельга сказаць, каб ён вылучаў іх як-небудзь са сваіх салдат,— ці прыдзіраўся, ці, наадварот, хваліў. Не. Ён глядзеў на іх, як і на ўсіх, але часам у ягоных маленькіх шэрых вачах Антон заўважаў нейкае здзіўленне, нават нейкі недавер. Так глядзяць на незнаёмых жывёлін, якіх бачаць упершыню.

Гайкевіч адразу неўзлюбіў Скальскага. Загады яго, вядома, выконваў, але за вочы мог і плюнуць, успомніўшы паручніка, і назваць варшаўскім пеўнем. Скальскі часам падыходзіў да іх, Гайкевіча, Антона і Страха, пытаўся:

— Як жывуць мае беларусы?

— Добра,— адказваў хто-небудзь з іх, бо што можна было сказаць інакшае? Добра было ўжо тое, што пакуль што яшчэ не забілі і не пакалечылі, два разы на дзень даюць гарачую страву.

Аднойчы Скальскі сказаў:

— Вы паглядзіце, як б'юцца нашы салдаты. Быццам ільвы. Сёння параніла Кузілоўскага, а ён гаворыць: не пайду ў шпіталь. У шпіталі я памру, А я хачу памерці толькі ў Польшчы. Прыгожыя словы: хачу памерці толькі ў Польшчы. Наша сіла — ведаеце ў чым? У павышаным нацыянальным самаўсведамленні кожнага паляка.

Антон са Страхам выслухалі паручніка, згодна паківалі галовамі. А Гайкевіч раптам пачырванеў, з выклікам глянуў на Скальскага:

— Можна сказаць, не крывячы душой, пан паручнік?

— Можна,— куточкамі вуснаў усміхнуўся Скальскі.

— Чаму вы пазбаўляеце гэтага самага нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў?

Паручнік нахмурыўся, пакратаў рукой няголеную шчаку. Відаць было, што пытанне яму не падабаецца. Але трэба было адказваць.

— Я таксама не буду крывіць душой,— павольна, як бы смакуючы словы, сказаў ён.— Беларусаў, на жаль, няма, панове. Так, няма. У залежнасці ад надвор'я ў Еўропе вы робіцеся то палякамі, то рускімі.

Гайкевіч уздрыгнуў, прыкусіў губу:

— Няма, кажаце? Вядома, можа не быць... Стагоддзі паміж молатам і кавадлам! Але вось ён — беларус. Я! Перад вамі.

Скальскі спакойна выслухаў яго, усміхнуўся:

— Сёння вы ясце польскі хлеб. І на вас польскія штаны.

Гайкевіч сеў, быццам апёкся. На ім і сапраўды былі штаны з лампасамі, бо свае спаліў, заснуўшы каля кастра. Скальскі колькі хвілін пераможна глядзеў на яго, потым аддаў чэсць, далікатна, па-шляхецку, ускінуўшы два пальцы да казырка, і пайшоў.

«Трэба ўцякаць адсюль,— ужо не раз думаў Антон.— Але як? Зловяць — заб'юць. Хоць бы паранілі мяне, хоць бы я захварэў»,— марыў ён.

Але кулі пакуль што абміналі яго. Аднойчы ён улучыў момант, калі засталіся адзін на адзін, сказаў Страху:

— Слухай, давай плюнем на ўсю гэту завaруху і ўцячэм. Мая вёска недалёка. Да мяне пойдзем...

— Навошта? — здзівіўся Страх.

Ён якраз еў хлеб з салам. Нажа не было, і ён грыз сала з вялікай ружовай лусты.

— А навошта нам гэта вайна?

— Мне тут падабаецца,— з'еўшы сала, пачаў аблізваць пальцы Страх.— Ты як хочаш, а я застануся. Куды я пайду? Бальшавікам дровы пілаваць? Я лепш сябе адчуваю з вінтоўкай, чым з пілой.

«Трэба маўчаць,— зразумеў Антон.— Нікому не гаварыць ні слова. Аднаму трэба ўцякаць...» Гайкевічу ён і не збіраўся расказваць пра

сваю задуму. Гайкевіч, відаць па ўсім, хоць на карачках, але дапаўзе да Мінска. Там яго чакаюць сябры, там ён сам зробіцца паручнікам або нават капітанам у Кандратовіча. А скажаш, даверышся — можа данесці Скальскаму.

Увайшлі ў лясную вёсачку кіламетраў за сем ад Ясеня. Жыхары паразбягаліся хто куды. Хаты стаялі пустыя, халодныя, з зачыненымі аканіцамі. Страх збіў замок з дзвярэй крайняй хаты. У сенцах, пад нагой у Антона, прарэзліва рыпнула маснічына. Ён убачыў жорны, белыя не ад мукі, а ад снегу, што насыпаўся праз дзіравую саламяную страху. Успомніліся жорны ў Міхейчыкаў, і як Яніна малола, і як чорная кудзерка валасоў выбівалася ў яе з-пад хусткі.

— Няўжо не знойдзем нічога паесці? — бурчаў між тым Страх, тыцкаючы носам у чыгуны і гладышы, якія стаялі на прыпечку. Нічога не знайшоў, злосна змёў усё ударам прыклада на падлогу. Чыгуны, жалобна дзінькаючы, пакаціліся па хаце, потым доўга-доўга, ужо спыніўшыся на адным месцы, усё хісталіся, усё перакочваліся з боку на бок — ніяк не маглі супакоіцца.

— Усе транты закапалі дзе-небудзь,— гаварыў Страх, гледзячы на пустыя павуціністыя сцены. На цвіку, што быў убіты каля акна, Антон убачыў раптам сухі, ужо счарнелы вянок, сплецены з васількоў. Кветкі даўно былі мёртвыя, нават не пахлі. Але ад іх самотна зашчымела сэрца. Ён сеў на лаву, глядзеў на вянок, думаў пра тую дзяўчыну, якая ўлетку рвала ў жыце васількі. Ён ні на хвіліну не сумняваўся, што вянок спляла і павесіла ў гэтай ціхай хаце дзяўчына.

Страх падышоў да печы, штыком пачаў выскрабаць на яе чыстай, нядаўна пабеленай паверхні сваё прозвішча. «Хоць гэтак хоча нашкодзіць людзям»,— падумалася Антону. Штык з рыпеннем, ад якога калола ў зубах, уразаўся ў цвёрдую, як камень, гліну. Антон глядзеў на Страха, на ягоную шырокую спіну і паверх гэтай спіны, у чорным мораку, што гусцеў над чарэннню печы, убачыў два бліскучыя зеленаватыя агеньчыкі. Аказваецца, у хаце, акрамя іх двух, была яшчэ адна жывая душа — кот. Пэўна, гаспадары, спяшаючыся, замкнулі яго ў хаце, і ён застаўся адзін, забыты ўсімі, галодны. Не варушачыся глядзеў Антон на ката, і ён глядзеў на яго. Іншым часам кот лёгка скокнуў бы з печы, замяўкаў бы, пачаў бы церціся каля ног у людзей. Але гэты кот маўчаў, нават не міргаў; толькі халодным зялёным полымем гарэлі яго вочы. І Антон здагадаўся, кот хоча, каб яго не заўважылі, кот разумее, што так будзе лепш, калі ён не будзе мяўкаць і калі яго не заўважаць. Адразу чамусьці зрабілася холадна. Не адрываючыся, глядзеў Антон у пакорлівыя, спалоханыя, разумна-

чалавечыя вочы і хацеў толькі аднаго: каб ката не ўбачыў Страх. Праткне штыком у тую ж хвіліну.

Яны выйшлі з хаты, і Антон з палёгкай уздыхнуў.

— Ну і дзікунства,— плюючыся, гаварыў Страх.— Нідзе ні кавалачка хлеба. Што яны — зямлю жэрлі?

Ён быў злы: з шырокага твару трохі апаў тлушч, шчокі абвіслі. Раптам у акенцы нізенькай струхлелай хаткі мільганула нечая постаць. Страх кінуўся ў хату і праз некалькі хвілін вывеў, а правільней, выцягнуў дзяўчыну гадоў шаснаццаці. Дзяўчына ўпіралася, закрывала твар рукамі. Страх весела рагатаў і прытульваў дзяўчыну да сябе. З хаты, услед за Страхам і дзяўчынай, выбегла старая, з сівымі распушчанымі валасамі, з карычневай маршчыністай скурай.

Старая загаласіла:

— Пусці дзеўку! Пусці! Яна ж гарбатая... Калека...

У дзяўчыны і сапраўды з-пад кароткай сіняй світкі трохі выпіраўся горб. Дзяўчына пабялела як смерць; не крычала і не плакала.

— Нічога дзеўка,— прыцмокнуў Страх і паклікаў легіянераў, што ішлі па вуліцы з нейкімі клункамі.

— Панове, ці не хочаце трохі павесяліцца?

Легіянеры заўсміхаліся, падышлі да яго.

— Яна ж калека,— седзячы на прызбе, галасіла старая.— Я ж магла з ёй у лесе схавацца... Куды ж вы яе, людцы?

Страх падміргнуў Антону:

— Пайшлі з намі ў лазню.

У Антона перааняло дыханне. Ён апусціўся побач са старой на прызбу, узяў жменьку снегу, прыклаў яе да лба. Ледзяныя струменьчыкі вады павольна пацяклі па твары. Антону на імгненне здалося, быццам ён памёр, і гэта халодныя мухі поўзаюць па ім. Побач душылася слязьмі старая.

— Заб'ю! — крыкнуў Антон і кінуўся на Страха.

Легіянеры локцямі і нагамі адпіхнулі яго, утапталі ў снег. Ён глытаў снег і бачыў, як ідуць да лазні легіянеры, Страх і дзяўчына. Вось увайшлі. Вось затрымцелі, закалаціліся за імі маленькія, коса пасаджаныя, чорныя ад дыму дзверы.

— Ты, як зайчык беленькі,— гаварыў назаўтра Страх.— Усяго баішся. Усіх шкадуеш. А між іншым, дзеўка гэта на нас не вельмі пакрыўдзілася...

— Адыдзі, погань! — чырванеючы тварам, крыкнуў Антон.

— Ого,— з'едліва ўсміхнуўся Страх.— Яшчэ адзін псіх сярод нас завёўся...

«Я заб'ю яго,— думаў Антон.— Я павінен забіць яго. Калі я не зраблю гэтага, я не чалавек...»

З кожным днём усё з большай сілай разгараліся баі. Само жыццё польскага корпуса было пастаўлена на карту. Доўбар-Мусніцкі сабраў свае парадзелае войска ў адзін кулак і біў у бок Асіповічаў. Вось-вось з лініі перамір'я павінны былі пачаць наступленне немцы.

На світанні перарэзалі Варшаўскі шлях. З дзесятак забітых чырвонагвардзейцаў ляжалі на яго ўзбочынах. Снег пачырванеў, набрыняў крывёю. Проста па полі Антон з Гайкевічам пайшлі да невысокіх замеценых снегам курганоў, ка якіх рос рэдзенькі хмызнячок. Антон наламаў крохкіх мёрзлых галінак, сеў на іх. Кружылася галава. Цела было цяжкое, непаслухмянае. Вецер узнімаў каля ног сярэбраны снежны пыл.

— Навошта толькі я паслухаў цябе? — злосна сказаў Антон, глянуўшы спадылба на Гайкевіча.

У Аркадзя была паранена рука. Ён моршчыўся, бляднеў. Антонавы словы былі той соллю, што ўпала на свежую рану. Гайкевіч падскочыў, забегаў вакол Антона, закрычаў:

— Што — і табе прыпякло? Разрумзаўся? А ты думаў на печы сядзець і каб табе туды, на печ, волю падалі?..

Антон плюнуў сабе пад ногі, утаропіўся ў снег. Каля яго левага бота, раз-пораз узмахваючы малюсенькімі бліскучымі крыльцамі, натужліва паўзла нейкая казявачка. Адкуль яна ўзялася сярод зімы? Яна шукала ратунку, але ўсюды быў снег і ледзяны вецер. Няцяжка было прадбачыць яе лёс. Вось-вось свісне вецер, падхопіць яе і панясе ў бязмежнае халоднае поле.

Гайкевіч між тым трохі супакоіўся, глядзеў на Антона і казаў:

— Цяжка, братка... Сам бачу... Чытаў я некалі кніжку пра розных жывёл. І там вось што вычытаў... Аказваецца, вясною, калі толькі пачынае раставаць снег, знаходзяць часам ці ў тарпяках саломы, ці недзе каля чалавечага жылля «караля пацукоў». Ведаеш, што гэта такое — «кароль пацукоў»? Сярод зімы раптоўна бывае адліга, а потым зноў мароз прыцісне. І вось пацукі заблытваюцца, змярзаюцца мокрымі хвастамі і ніяк ужо не могуць адзін ад аднаго адарвацца. Так і сядзяць, па дзесяць — пятнаццаць штук у адной вязцы. Злыя, галодныя, безабаронныя... І што цікава — іх кормяць іхнія больш шчаслівыя родзічы. Вось што такое — «кароль пацукоў». Так што цярпі...

Гайкевіч змоўк, пачаў ляпаць рукамі па кішэнях, шукаць тытунь. Проста па полі на падводзе, у якую была запрэжана худая буланая

кабыла, ехаў пануры, таксама худы дзядок. Відаць, палякі пагналі яго з вёскі ў свой абоз.

— Што гэта за курганы тут такія, дзед?! — крыкнуў яму Антон.

Стары павольна павярнуў у яго бок галаву, глянуў бясколернымі стомленымі вачамі:

— Гэта швецкія магілы, чалавеча... Тут іхні цар Карла ішоў. Мужыкі нашы пясок летась капалі, дык выкапалі косткі чалавечыя... Доўгія косткі, вялікія...

Ён шлёгнуў кабылу пугай, зробленай з вяроўкі, паехаў далей.

— І мы на сваёй зямлі, як шведы,— ціха сказаў Антон.

— Ды змоўкні ты, сучка! — нервова крыкнуў Гайкевіч.

Антон нават не паглядзеў на яго, узняўся і, правальваючыся па калені, пайшоў у вёску. Думалася пра тую казявачку, што паўзла па снезе. Вёска, як і ўсе папярэднія, была пустая. Антон сеў на замеценую снегам лавачку, прыхіліўся спінай да плота. Краем вока бачыў, як падыходзіць Гайкевіч,— твар чырвоны ад злосці. Пахла дымам. Недзе побач бушавала полымя. Іскры лёталі, як вогненныя пчолы, над саламянымі стрэхамі.

З вузенькай вулкі выбег паручнік Скальскі — твар узбуджаны, рашучы; у руках галавешка, на якой танцуюць тонкія чырвоныя павуцінкі агню.

— Холадна,— сказаў Скальскі і працягнуў Антону галавешку.— Запальвай хату! Будзем грэцца.

З галавешкі зрываліся гарачыя вугельчыкі, падалі ў снег.

— Запальвай! — крыкнуў Скальскі.

— Не буду я паліць,— адчуўшы, як усё затрапятала ўсярэдзіне, сказаў Антон і адвярнуўся ад паручніка. І нават не ўстаў з лавачкі.

— Пся крэў! Чаго тады пад нагамі блытаешся? — рукамі, што дрыжалі ад гневу, Скальскі выцягнуў рэвальвер, стрэліў — раз, другі.

Быццам нехта з усяго размаху ўсадзіў у жывот сталёвы вострыы сахор, якім вясной нагружаюць з хлявоў на падводы гной. Чырвоным полымем успыхнуў у вачах і ў сэрцы дзікі, нечалавечы боль і патух. Антон споўз з лавачкі на зямлю, лёг шчакой на снег. Побач, перабегшы вуліцу, паспешліва тыкаў галавешкай у саламяную страху Гайкевіч. Полымя адразу ўсхапілася, загуло.

Антон ляжаў на снезе і глядзеў на неба. Разам з крывёю выцякала з цела жыццё. Над вёскай, у дыме, у трапяткіх іскрах, плыў месячык.

«Гэта мая галава...— спустошана, абыякава падумаў Антон,— мне адсеклі галаву і закінулі яе на неба...» Гэта была апошняя яго думка, бо адразу ж ён праваліўся ў глыбокую густую цемру.

...Чмялёўцы разам з асіповіцкімі чыгуначнікамі з ходу ўварваліся ў вёску, нізка прыгінаючыся, пабеглі па вуліцы. Гарэлі хаты. Гарачыня апякала шчокі, вочы слязіліся ад дыму. Кузьма стрэліў, бегучы, перазарадзіў вінтоўку.

— Радзімовіч! — праз гудзенне полымя, праз частыя стрэлы пачуў ён раптам крык Мішкі Сырамалота.— Ідзі сюды, Радзімовіч!

Ён падышоў, закрываючы рукавом шыняля шчаку.

— Глядзі, хто ляжыць,— ціха сказаў Мішка і закашляўся ад дыму.

На снезе ляжаў Антон. Падкурчыўшы нагу, няёмка расхінуўшы рукі. Цёпла блішчала чырвоная лужына крыві. Кузьма адчуў, як уздрыгнула сэрца. Узяў на рукі брата, панёс па вуліцы. Кроў капала між пальцаў.

«Чаго ён тут?» — здзівіўся Кузьма і адразу пачаў крычаць:

— Санітары! Дзе санітары?!

Ён крычаў і крычаў, бо адчуваў, што заплача, калі змоўкне. «Толькі б ён выжыў,— білася думка,— толькі б ён выжыў...»

Падбег задыханы Бацюта, сказаў:

— Немцы парушылі перамір'е. Наступаюць на Мінск.

Потым глянуў на Кузьму, на Антона, і вочы ягоныя патухлі, спахмурнелі.

Кузьма ішоў туды, дзе гучалі галасы. А наўкол яго з грукатам абвальваліся стрэхі. Горача было зямлі і небу. За спінай, на другім канцы вёскі, зноў усчыналася страляніна, цяжка ўдарыла гармата. І яму на імгненне падалося, што гэта грыміць вясновы гром. Ён успомніў, што заўсёды, калі грымеў першы гром, яны з Антонам, без шапак, босыя, шчаслівыя, беглі за вёску на зялёны выган і куляліся цераз галаву.

© OCR: Камунікат.org, 2014
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2014
© PDF: Камунікат.org, 2014